# ВАСІЛЬ БУКАЎ

# Поўна збор твораў

## 1 том



kamunikat
Беларуская Інтэрнэт-Бібліятэка

# Аповесьці

## Афганец

Апошнія тры ці чатыры начы, ушчэнт пасварыўшыся з жонкай, Ступак начаваў у гаражы. Зрэшты, і дняваў таксама, бо цьвёрда вырашыў не вяртацца на свой пяты паверх сілікатнай хрушчоўкі. Калі так ужо сталася, што ён там нялюбы і ненавісны, што паявіўся лепшы, дык хай жонка падавіцца той кватэрай ды нацешыцца новым жаніхом; для законнага мужыка шляху туды няма. Усё ж ён чалавек з гонарам і прасіцца ня будзе. Тым болей, што ўсё ягонае жыцьцё, падобна, пайшло на скрут, чаго ўжо бедаваць па кватэры?

Ягоная нявыкрутка абрынулася на яго нечакана, напрыканцы зімы, як пачала яўна здыхаць ягоная фірма, што нядаўна яшчэ квітнела пад назвай “паштовая скрынка”. Заказы міністэрства абароны скончыліся, рабочым перасталі плаціць, і Ступак, плюнуўшы на новыя парадкі, звольніўся “па ўласным”. Думаў, трохі адпачне і прыгледзіць што-небудзь болей для сябе здатнае. Праўда, тады была немалая надзея на жонку Людмілу Пятроўну, якая рабіла бухгалтаркай у банку. Але, мусіць, так ужо заведзена ў жыцьці, што дзе тонка, там і рвецца, парвалася і з Людкай. Нечакана для сябе ён уведаў, што ў той паявіўся староньні ўхажор і не абы хто, а генеральны дырэктар таго ж банка. Вядома ж, не абышлося бяз лаянкі, жонка сьпярша апраўдвалася, клялася і бажылася, але як ён даў ёй добрага кухталя, са злосьцю прызналася, што так: ёсьць чалавек, мужык, ня тое, што ты – тля. Ня можаш пракарміць сябе, ня толькі жонку з дзіцём. Тады Ступак усё зразумеў і, правільна ацаніўшы становішча, узяў пінжак і з трэскам грукнуў дзьвярыма. Усё ж ён – ня тля, ён чалавек з характарам, да таго ж – афганец. А калі часам лішняе вып’е, дык цяпер хто ня п’е? Хворы, або каму не даюць. Хто ня мае за што.

Адно праўда, апошнім часам ён ня меў за што выпіць.

Гэты яго металічны, некалі звараны з жалезных лістоў гараж прытуліўся на ўскрайку гарадскога падворку ля радка маладых ліпак, поруч з шасьцю іншымі гэткімі ж часовымі збудоўкамі для аўтамабіляў. Гаражы тыя прастаялі тут гадоў мо па дзесяць, але нядаўна аказалася, што незаконна – прыйшла пастанова іх зьнесьці. Куды? – папыталіся іхнія ўласьнікі і, не атрымаўшы здатнага адказу, вырашылі: во вам, выкусіце! Нікуды зносіць ня будзем. Надзіва, ад іх пакуль што адсталі, перасталі наклейваць грозныя абвесткі на іржавых дзьвярах. Гаражнікі было падумалі, што перамаглі, як у пачатку лета ўсіх выклікалі ў падатковую інсьпекцыю, дзе выпісалі падатак і штраф. Штраф быў немалы, ды гаражнікі-пенсіянеры, дачакаўшыся пенсіяў, змусілі ўсё заплаціць. Ступак жа другі раз сказаў: “Выкусіце!” – у яго ўжо даўно не было грошай ня толькі на штраф, а на які куфаль піва, каб захмялець зранку.

Трошкі ўбаку ад гаражоў за ліпкамі мясьцілася дзіцячая пясочніца і альтанка з паламанай падлогаю, увогуле пустыя ўвесь дзень, бо дзеці ў навакольных дамах, здаецца, павырасталі ўжо, а новых не нараджалася. І толькі пад вечар ці на пачатку начы там паяўлялася якая-небудзь хэўра падлеткаў з недалёкага ПТВ ці суседняй школы, гэтыя і выпівалі, і курылі, а можа, і каголіся, часьцяком з дзяўчатамі, што нароўні з хлопцамі рагаталі і мацюкаліся, нікольні не зважаючы на рэдкіх дарослых ля гаражоў. Неяк, не стрываўшы іхняга гвалту, Ступак паспрабаваў іх уціхамірыць, паабяцаў паклікаць міліцыю. У альтанцы трошкі аціхлі, і з цемрадзі даляцеў малады басок: “Думаеш, жалеза, дык не гарыць?” У Ступака адняло язык: намёк быў дужа выразны, ён ужо ведаў, як гарыць жалеза. Сам пад Кандагарам ледзьве пасьпеў вынесьці ногі з БТРа, які заняўся такім жахлівым полымем, што расплавіўся асфальт на дарозе. Тады ён добра шуранўў са злосьці маладую хэўру, хоць і падумаў, што тое суседства можа для яго кепска скончыцца. Не згарэў у Афгане, дык не хапала згарэць на падворку.

Зрэшты, можа, тое была адна балбатня, можа, ніхто б яго і не падпаліў у гаражы, і ўсё абышлося б. Неяк сьцярпелася б і ў гаражы – небаксаў, што выручыў вясной за свой 412-ы “Масквіч” – з гэтага ж гаража. Тады здавалася, васьмісот баксаў хопіць надоўга, усё ж гэта былі немалыя грошы; гэтак жа лічылі і сябры-суседзі, што вечарком прысаджваліся ў ягоным ацусьцелым гаражы да засланай газеткай прамазучанай табурэткі. Суседзі ўвогуле былі неблагія людзі, яны і падбілі яго расстацца з надаедам-“Масквічом”, і ўсё падказвалі агораць іншамарку, якіх на той час стала паяўляцца ў двары. Канешне, ён быў не супроць перасесьці на “Опель” ці “Мерседэс” і ўжо прыглядваўся да іх на вуліцы, ды сталася так, што ягоныя баксы скончыліся раней, чым ён выбраў патрэбную мадэль.

Да таго, што засталося, трэба было добра дакласьці, але дакласьці не было адкуль, а да жонкі ён не хацеў патыкацца. Тады ён плюнуў на ўсе іншамаркі разам і на апошнія дзесяць баксаў купіў два паўлітры, нейкую закусь і справіў хаўтуры па сваім наіўным намеры. Урэшце, можна было пражыць і без машыны – меней клопату і вальней было павярнуцца ў гаражы.

Тое, аднак, толькі здавалася – бяз грошай пражыць было немагчыма, у тым ён неўзабаве ўпэўніўся.

Калі-нікалі надвячоркам ці ў сьвяты ля гаражоў зьбіраліся іх уладальнікі, расчынялі дзьверы і пачыналі поркацца ў рухавіках ці перабіралі майно у багажніках. А то перакурваючы на падворку, пачыналі нясьпешныя размовы пра прыкрыя няспраўнасьці сваіх “Запарожцаў” ці пра бензін. Пасьля даволі працяглага перыяду бензінавага дэфіцыту, той нарэшце паявіўся на запраўвачных, але цэны на яго так заскакалі ўгору, што аж замільгацела ўваччу. Праўда, Ступака тое ўжо мала цікавіла, бензін яму быў непатрэбны, той клопат яго не кранаў. Яго кранала іншае: калі скончыцца гэтае бязладдзе, беспрацоўе і безграшоўе, калі ён, здаровы малады мужык, прыдбае працу і стане зарабляць на жыцьцё? Маладжавы дацэнт Мінкевіч, што езьдзіў на

ніштаватай “сямёрцы”, глыбакадумна даводзіў, што прычына ўсяго – у энергетычным крызісе, што трэба шукаць альтэрнатыўныя крыніцы забесьпячэньня нафтай, але ўсё ўпіраецца ў рэакцыйнае кіраўніцтва, якое арыентуецца адзіна на ўсход. Сазон Іванавіч, сівы ветэран з другога канца гаражоў, на тое імпэтна пярэчыў, што ўсё – у развале вялікай магутнай дзяржавы пад назвай Савецкі Саюз. Ягоны сусед, таксама пенсіянер, якога яны клікалі трошкі зьняважліва Плешка – за ягоную лысіну на патыліцы, звычайна гаварыў мала, але заўжды, нібы забіваў цьвік: за каго галасавалі, таго і напаткалі. Лепшага не заслужылі. Камлюкаваты Плешка ведаў, за каго галасавалі суседзі, аб тым даўно ўжо папрызнаваліся адзін аднаму ў Ступака за табурэткай, ведаў тое і Ступак, бо сам галасаваў за таго ж. Цяпер на каго было наракаць? Сьпярша ён сумняваўся ва ўласным выбары, усё думаў: справы ў дзяржаве як-небудзь паправяцца, але ішоў час, а справы катастрафічна горшалі. Тыя, што кралі, сталі красьці болей, а галоўнае – на законнай падставе. за горадам, бы на дражджах, расьлі дачы-палацы, рабочых звальнялі, бо заводы “паштовыя скрынкі” спыняліся адзін за адным, а ў тых, што яшчэ працавалі, амаль перасталі плаціць – не было грошай. Затое грошай хапала для вялізнае зграі міліцыі, АМАПу, усіх гэтых сьпецслужбаў, якія кішма-кішэлі на вуліцах сталіцы. Даведзены з галадухі да адчаю, Ступак пайшоў па дапамогу да кіраўніка таварыства афганцаў, ды той толькі разьвёў рукамі – што я магу? Грошай у мяне няма. Але ж ён па тэлевізары ўсё гаворыць, што воінам-афганцам трэба памагаць. Во хай ён і паможа, калі так гаворыць, адказаў кіраўнік. Ступак прыкруціў да пінжака свой ордэн і пайшоў у рэзідэнцыю-палац, але там яго на парозе спыніла ахова. Як ён ні даказваў ёй, што і ардэнаносец, і паранены, прайсьці ўнутр не далі. Ён аблаяў іх, а заадно і іхняга уладара і паплёўся дадому. У свой апусьцелы гараж. Усё неяк стрываў бы, каб кожнага дня не хацелася есьці.

На сваім падворку сярод знаёмых і незнаёмых ён, аднак жа, маўчаў. За жыцьцё ён не прывык выказвацца, асабліва наконт улады, ведаў, лепей язык трымаць за

зубамі. Так некалі вучыў яго бацька, вучылі ў камсамоле, затым у войску і ў партыі, з якой ён лічы што выбыў у памятную восень дзевяноста першага. Партбілет, праўда, тады не спаліў – сунуў пад бялізну ў жончынай шафе, хай ляжыць. Мабыць, ляжыць і цяпер.

Аднойчы ён добра набраўся з хлопцамі на саракавінах інваліда, таксама афганца, што да пары згарэў ад гарэлкі, і ўначы ледзьве дабрыў да свайго жытла. Уранку прачнуўся, пачуваў сябе надта паскудна, балелі галава і сэрца, зусім не хацелася жыць. Неяк дачакаўшыся, пакуль разьвіднее, устаў, прыладзіў пад стольлю пятлю з капронавага буксіру, на сярэдзіну гаража пасунуў табурэтку. Толькі хацеў стаць на яе, як у дзьверы ціха пастукалі, і ён зразумеў: то быў хтосьці з сваіх. Адпіхнуўшы ўбок табурэтку, расчыніў дзьверы – насуптроць стаяў сусед, малады хлопец Аляксей, пытаўся струбцыну, заціснуць шарнір. Ступак мусіў падацца ў свае цёмныя закуткі, шукаць струбцыну. Стоячы пасярод гаражу, Аляксей пытаўся: “А што гэта – вяроўка ў вас?” – “Ды так, прывязваў нешта”, – схлусіў гаспадар замагільным голасам, бы вяртаючыся з таго сьвету. Пасьля, як хлопец пайшоў, ранейшая рашучасьць яго і зусім зьнікла, засталася толькі ўсеадольная прыкрасьць. З расплюшчанымі вачыма ён праваляўся паўдня на раскладусе, а затым пабрыў да піўнога ларка, дзе доўга чакаў першага знаёмага. Ледзьве дажыў той дзень да вечару.

Сам Ступак быў чалавек маўклівы, але слухаць размовы іншых любіў, асабліва, калі размова ішла пра палітыку, ад якой цяпер залежала ўсё. Ды яшчэ ад такой палітыкі, у якой палягала ня столькі розуму і развагі, колькі цынічнага гвалту. Гвалтавала ўлада, гвалтаваў крыміналітэт, які множыўся, шчырэў, ад якога простаму чалавеку не было прадыху. Днямі ў суседнім падворку з-пад самага вакна ўкралі, праўда, няновы ўжо БМВ, толькі што прыгнаны з Нямеччыны. Не зважаючы на надта ж шыкоўны “алярм”, які гаспадар дэманстраваў цэлы вечар, тым даючы зразумець, што ня варта красьці – загудзе-загалосіць. Аж не загаласіў, і ніхто не пачуў, як машыну выгналі з падворку, і яна

назаўжды зьнікла. Людзі казалі – міліцыя, хто ж яшчэ так умее? Можа, і міліцыя, думаў Ступак. У пэнсіянера з суседняга дому менавіта міліцыя знайшла скрадзены ўзімку “Жыгуль”, але нумары аказаліся перабітыя, кузаў перафарбаваны, і машыну гаспадару не аддалі: у міліцыі, ці бачыце, зьявіўся сумнеў. Пасьля таго, як машына паўгоду прастаяла ў міліцэйскім двары, той сумнеў зьнік, але мала што засталося і ад машыны – раскулачылі дашчэнту. Стаяўголы кузаў. Можа, і добра, што Ступак збыў да чортавай матары свой “Масквіч”, менш будзе клопату і менш небясьпекі.

З прычыны безграшоўя ён амаль не чытаў газетаў, хіба калі-нікалі выпадкова, але тады кожны раз нерваваўся і расстройваўся, ажно карцела лаяцца. Газеты хлусілі гэтак нахабна, як не хлусілі ніколі раней пры саветах. Апроч таго, у кожным нумары – указы, дакрэты, законы і безьліч паправак да ранейшых законаў і да папярэдніх паправак, бясконцыя выступы самога, ад якіх хацелася ванітаваць. Усё ўказваў, патрабаваў, гразіўся і падманваў, – як калісьці палітрукі ў войску, як у тым Афгане. Што значыць пачатковец-міліцыянт, які дарваўся да ўлады не накамандаваўшыся ў паліцэйскай службе і зараз імпэтна спаганяў свой камандзірскі сьверб. І, як ні дзіўна, тое шмат каму падабалася, пенсіянеры, былыя вайскоўцы-адстаўнікі, бы зачараваныя, чыталі ўсе ягоныя выступы ў газетах, усе ягоныя дакрэты, і наўрад ці што разумеючы ў іх пустазвонным шматслоўі, адабралі. “Можа, парадак навядзе” – было іх нязьменным аргументам. Хоць які ім патрэбны парадак у бяспраўнай краіне, было невядома. Наўрад ці яны тое разумелі самі.

Колькі разоў Ступак спрабаваў яго слухаць па тэлевізары, але не мог стрываць і пяці хвілінаў, сподам душы адчуваючы фальш яго пыхлівых словаў, і толькі дзівіўся, як таго не адчувалі іншыя. Хоць бы і ягоная жонка. Варта было Ступаку пасярод яго выступленьня ткнуць пальцам у які іншы сенсар, пераключаючы на іншы канал, як яна кідалася да тэлевізару і вяртала ўсё на ранейшае месца. І жонка, і яе малодшая сястра гатовыя былі з замілаваньнем глядзець і слухаць яго

хоць да ранку. А на Ступаковы папрокі звычайна адказвалі: як можна грэбаваць такім выступленьнем гэткага інтэлігентнага, віднага сексуальнага мужчыны? Яны проста млелі ад аднаго толькі выгляду яго заўжды старанна паголенага, напамажанага твару з загадкавым, амаль сакаліным, позіркам, тугімі пашчэнкамі і сківіцай капылом, што лезла наперад з экрану. У такія хвіліны Ступак гатовы быў узьненавідзець увесь жаночы род, ня толькі ўласную жонку. Яго ж ён ужо даўно ненавідзеў, нутром адчуваючы яго фальшывую сутнасьць, таннае акцёрства, разьлічанае на дурняў або нягоднікаў. А як ён езьдзіў па горадзе? Рух на вуліцах заміраў, даішнікі пераключалі сьветлафоры і з палкамі выскоквалі на перакрыжаваньні зганяць тых, што замарудзілі зьнікнуць з дарогі. Усё пруцянела на вуліцы, бы ў чаканьні канца сьвету, як здаля шалёна выскоквалі тры-чатыры чорныя аўтамабілі ўступам управа ці ўступам улева і сьледам за міліцэйскай “мігалкай” на вялікай хуткасьці імчалі далей. Скрозь на іхняй дарозе кідаліся да тратуараў машыны прыватнікаў, ці, як іх звыкла называлі “аўтааматараў”. Аднойчы Ступак замарудзіў у такі момант спыніцца са сваім “масквічом” бо не было як прыткнуцца да тратуару, дзе стаялі аўтобусы, як даішнік каршуном накінуўся на яго, аблаяў, адабраў дакументы, за якімі пасьля давялося пахадзіць у іхнюю кантору.

Агледзеўшыся і зразумеўшы нарэшце, каго абралі, мужыкі пачалі папракаць адзін аднаго за свой неразумны выбар. З такім жа правам мог папракнуць сябе і Ступак. Ён таксама галасаваў за яго. Але як было не галасаваць ці галасаваць за ягонага суперніка, як некаторыя казалі – нацыяналіста? Той можа, быў і неблагі хлопец, вучоны, але што б ён зрабіў з гэтым задушаным народам які ўмеў толькі піць, лайдачыць і красьці? Які напалову складаўся з камуністаў ды камсамольцаў, а другой паловай абслугоўваў КДБ? А яшчэ той абвясьціў, што ўзаконіць прыватную ўласнасьць ды ўвядзе абавязковай нацыянальную мову, на якую амаль усе забыліся – і ў горадзе, і ў вёсцы. Ступак пачаў ад яе адвыкаць яшчэ ў войску, хоць для

яго, вясковага хлопца, авалодаць як сьлед расейскай было нялёгка. Ён доўга ня мог правільна вымавіць шмат якія расейскія словы (тряпка, напрыклад, за што яго так і дражнілі ў роце – "трапка"). Толькі адвучыўся ад вясковага, збольшага загаварыў, як і ўсе ў горадзе, на расейскай, як гэты вучоны-нацыяналіст зьбіраецца ўсіх перавучыць назад, па-вясковаму. Не, на тое Ступак быў нязгодны. Хай ужо вясковыя бацькі дагаворваюць свой век, як умеюць, ён жа застанецца пры гарадской мове. Як начальства. Як усе навакол. Зноў жа мітынговыя пагрозы камуністам, наменклатуршчыкам ды кадэбістам. Якраз перад тым Ступака прынялі ў партыю, зьявіліся нейкія магчымасьці, і ён сьвядома прагаласаваў за міліцыянта, таксама камуніста. Праўда, тады слабенька паспадзяваўшыся, што, можа, таго яшчэ і не выберуць. Ды во выбралі – на сваю галаву.

Недзе на сярэдзіне лета, як яго асабліва дапякла нэндза, удумаў зьезьдзіць на вёску да бацькі. Якраз у той бок ехаў на сваім "Запарожцы" сусед Плешка, узяўся падвезьці. Выехалі раненька, па халадку, на вуліцах яшчэ было вольна ад аўтамабіляў, Плешкаў "Запарожац" нязвыкла стракатаў рухавіком, здавалася, вось-вось пойдзе ў разнос і разваліцца. Але не разваліўся, порстка каціў па шашы. За гарадской рысай на раздарожжы ўперліся ў шлагбаум ДАІ – праверка дакументаў, усё роўна, як калісьці ў Афгане. Але там ішла вайна, а тут... Пахмурыя з бессані хлопцы ў камуфляжы з аўтаматамі на грудзях прыдзірліва агледзелі Плешкавы правы, зазірнулі ў салон і ў багажнік наперадзе. Плешка нечакана для свайго ўзросту і, пэўна, насуперак характару пачаў лісьліва лепятаць штосьці, бы падлізвацца, нібы быў вінаваты. Ступак жа адчуваў толькі злосьць, калі гэтыя малакасосы прыдзірліва, з-пад ілба азіралі яго, запасьніка-афганца, узнагароджанага баявым ордэнам. Хто яны такія? Ці стрэльнулі яны хоць раз з тых аўтаматаў па жывым чалавеку, раздражнёна думаў ён.

Пасьля, ужо на дарозе, мабыць разьмякшы на КПП, Плешка пачаў скардзіцца, як цяжка жыць. На сваю працоўную пенсію трэба яшчэ ўтрымліваць і дачку з

унукамі, якая два гады нідзе не працуе. На старасьці год замест таго, каб забіваць у даміно ці сядзець з вудай над рэчкай, ён змушаны рамантаваць чужыя машыны, адбіваць пальцы на кузаўным рамоньце. Але ўсё нейкі рубель на прыварак для дачкі і ўнукаў. Зрэшты, у гэтым сэньсе Плешка ня быў выключэньнем, цяпер шмат маладых жыло на жабрацкія пенсіі бацькоў. Ступак, едучы ў вёску, таксама меў спадзеў чым-небудзь пажывіцца ад бацькі. Ён расслаблена сядзеў побач з засяроджаным на дарозе Плешкам і, як той змоўк, пачаўгаварыць сам. Карцела пагаварыць, расказаць пра сваё набалелае. Там ля гаражоў, гэтаму Плешку не было калі слухаць, тут жа нідзе ня дзенецца, будзе слухаць, – думаў Ступак.

– Кажу ім там, у ваенкамаце, што я ня сам туды напрасіўся, мяне паслалі выконваць інтэрнацыянальны доўг, а што мне за гэтае выкананьне?

– Лепш бы ты яго не выконваў, – ня надта ласкава зазначыў Плешка.

– Як гэта – не выконваў?

– А так. Болей карысьці было б.

– Каму карысьці? – чагось ня мог зразумець Ступак. – Каб ня мы, душманы захапілі б Афган.

– А чаго ім захопліваць? Ён і так іх.

– А амерыканцы? Яны б жыва селі на нашыя межы.

– І хай бы сядзелі. Нам што да таго?

– Ну, знаеш! – пачаў гарачыцца Ступак. Яму было не зразумела пярэчаньне суседа, з такім ён яшчэ не спатыкаўся.

– Во цяпер гэта Чачня,– спакойна працягваў Плешка. – У Афгане інтэрнацыяналісты, у Чачні – федэралы. А ўсё нашая моладзь гіне. Навошта яе гробіць? – разважаў Плешка, разьехаўшыся з трактарам, які валок за сабой віхлясты прычэп.

– У Чачню нашых не пасылаюць. А то б я, мусіць, зьехаў,– сказаў Ступак. – Ад жызьні такой.

– Ну і дурань! – проста адгукнуўся Плешка. – У Афгане не навучыўся?

Называецца, пагаварылі, – падумаў Ступак. Гэты пенсіянер Плешка меркаваў дужа па-свойску, маладзейшыя ўсё ж былі інакшай думкі – што значыць розныя пакаленьні. Хаця Плешку што – ён атрымлівае пенсію, а што і дзе атрымае Ступак?

Ён добра выпіў тады ў бацькі, які жыў бабылём у крайняй ад лесу хаціне. Ды і ўсяго ў вёсцы засталіся чатыры хаты, у якіх ліпелі адзінокія старыя. Каровы ў бацькі даўно не было, не было нават курыцы. Ды і навошта? У двары за плотам расло некалькі баразён бульбы, хлеб прывозілі ў суседнюю вёску, давалі па дзьве буханкі на тыдзень, старому хапала. І ён ня скардзіўся. Як прыехаў сын, схадзіў да суседа Петрака, прынёс бутэльку самагонкі, затым прыклыпаў і сам сьсівелы сагнуты Пятрок. Старыя, нямоглыя, аднак, няблага выпілі з маладым, не спыняючы сваёй ня дужа разумнай старэчай балбатні, калі кожны цягнуў сваё, ня слухаючы іншага. Бацька захацеў, мусіць, пахваліцца перад суседам і папытаўся ў сына, за што яму далі ордэн, такі ж самы, які і ён атрымаў у партызанку – “Чырвонай зоркі”. Ступак без асаблівага ажыўленьня пачаў распавядаць.

– Ды пад Кандагарам было. Ехалі на маршы з батальёнам Краўцова, толькі калона ўцягнулася ў “зялёнку”, ну духі і пачалі лупіць. Пярэдні БТР адразу палыхнуў, загарэўся, хлопцы, бы гарох, – у канавы. А я, ведаеце, сьпярша прамарудзіў, не пасьпеў выскачыць, у трэцім ехаў, а як ачомаўся, зразумеў: позна. Духі смаляць, а ў нас устаноўка “град” стаіць пакінутая, пасьля аказалася, першага нумара забіла, а другі зьбег. Ну, я за ўстаноўку, Аньціпенка таксама падскочыў, стаў памагаць, як урэзалі мы па “зялёнцы”, дык тыя духі – хто куды. Ураз выкурылі з зарасьнікаў, яны – у кішлак, канешне, а мы і туды перанесьлі агонь, ды з кулямётаў яшчэ, з зенітак – толькі ад дувалаў пыл хмарай да неба.

Пасьля тыдзень немагчыма было праз кішлак праскочыць, так сьмярдзела, хоць процігаз надзявай. Трупы людзей ды скаціны…

– Во, дык і мы ж, гэта самае, – у працяг сынавай размовы загаварыў зап’янелы бацька. – У партызанку. Ляжым у Гразкім балоце ў засадзе, ляжым і ляжым, нікога на дарозе няма, толькі камары гудуць. Аж глядзім: едуць нямецка-фашысцкія захопнікі на фурманках. На пярэдняй немец гармонік у руках трымае, грае ці што? Але, мусіць, ня граў, так ехаў. Ну тут мы і ўрэзалі. Я ці ведаеш, з ручным кулямётам быў, дык як лупану! Тыя – у канавы, а ў канаве таксама кулямёт нарыхтавалі ды – па нас! А мы – па іх! А тым часам ззаду яшчэ калона падышла іхняя, ну на падмогу. Нашыя і драпанулі. А я ж ня ведаў, што драпанулі, ды сяку па іх канаве са свайго “дзегцяра”, ну і выбіў. І тады нашыя вярнуліся па адным, камандзір Дзенісенка вярнуў. Ну і за тое мне праз паўгода – ордэн “Чырвонай зоркі”, як палагаецца.

– Во героі! У аднэй сям’і бацька і сын! – п’янавата дзівіўся Пятрок.

– А што ж, яе матары! Будзе вайна – зноў пойдзем. Проціў нямецка-фашысцкіх, чачэнскіх, мерыканскіх захопнікаў. НАТА гэтае прэ на ўсход…

Бацька зусім ап’янеў, сын паклаў яго на скамячаны без прасьцінаў ложак, сам выйшаў на падворак падыхаць сьвежым вясковым паветрам. Блытаная гэта справа, вайна, думаў ён, карысьці з яе – гулькін нос. За пралітую кроў – дурацкія льготы. Як у гэтых старых – бясплатны праезд у межах раёна. Куды ўжо ім ехаць, апроч як на могілкі.

З вёскі Ступак прывёз дзясятак пазычаных у суседкі яек, кавалак ёлкага леташняга сала і думаў, у каго раздабыць грошай на хлеб? Зноў давядзецца прасіць у Плешкі, хоць таму ён і так вінаваты тысячаў сто. Але, можа, дасьць і яшчэ. Сядзець увесь час у расчыненых дзьвярах гаражу было сьпякотна і нудна, асабліва ў паўдзён, калі над падворкам навісала пякучае сонца.

Ступак тады спрабаваў зачыняцца, але рабілася і яшчэ горш, і ён мусіў замыкаць гараж і куды-небудзь сыходзіць.

Неяк у нядзелю, дабрыўшы да прасьпекту ў цэнтры гораду, згледзеў там штось незвычайнае, небывалае ў выходны дзень відовішча.

Найперш здалёк яшчэ ўчуліся шум, гамана, рух мноства людзей, што суцэльнай плыньню рушылі кудысь у напрамку да цэнтральнай плошчы, несучы нейкія лозунгі. Вецер угары матляў бел-чырвона-белыя сьцягі – мноства сьцягоў, аж да канца калоны, якая хавалася за перагінам вуліцы. Пачатак гэтага шэсьця ўжо мінуў завулак, дзе паявіўся Ступак, і хто там усіх вёў, не было відаць. Поруч жа шэсьце з абодвух бакоў атачалі міліцыянты. Адны з іх стаялі ў няроўных шэрагах, іншыя (мабыць, начальства) бегалі-мітусіліся ў сваім міліцэйскім клопаце. Ступак сьпярша зьдзіўленапрыпыніўся, уражаны відовішчам, а затым нечаканая хваля ўзрушэньня падхапіла яго з тратуара і вынесла да людзей. Малады міліцыянт на краі тратуару спрабаваў заступіць дарогу, ды Ступак плячом рашуча адпіхнуў яго і выйшаў на асфальт – да ўсіх. Поруч на ўсю шырыню вуліцы ішлі і маладыя, і старыя, і сярэдняга веку мужчыны з жанкамі і дзяўчатамі; твары ва ўсіх былі прыемна-сьвяточныя, бяз звыклай паўсядзённай змрочнасьці ці нават нярэдкай па часе жорсткасьці. Уражвала вялікае мноства нацыянальных сьцягоў, якія над людскімі галовамі паласкаў сьвежаваты ранішні вятрыска. Трохі меней было плакатаў з рознымі надпісамі, зробленымі часам прафесійна, а болей – ня дужа ўмелымі рукамі. Ступак, паазіраўшыся, прачытаў тыя, што былі бліжэй: “Беларусь – у Эўропу!”, “Не – бальшавікам!”, “Міліцэйскае пудзіла – у Менскае мора!” Якраз над яго галавой хістка калыхаўся лозунг-плакат, што нёс малады хлопец у джынсовай камізэльцы з мноствам кішанькоў: “Мы хочам есьці!” То было якраз пад настрой Ступаку – ён таксама быў галаднаваты зранку, хацеў есьці і ня меў у кішэні ніводнага “зайца”. І ён пайшоў разам з усімі,– ня надта борзда ступаючы ў

бязладным натоўпе, стараючыся не наткнуцца на каго наперадзе, не ступіць на чыесьці запяткі. Грандыёзная суладнасьць людскога натоўпу надавала адчуваньне ладу і ўпэўненасьці, здавалася, гэткаю сілай яны дамогуцца чаго хочаш. А чаго дамагаліся, відно было з мноства плакатаў над галовамі. Хто мог адмовіць у законнасьці тых патрабаваньняў? Хто мог спыніць гэты шматтысячны паток гараджанаў?

Але неўзабаве паток чамусьці замарудзіў хаду, чым далей, тым болей людзі пачалі спыняцца. Некаторыя наперадзе сыходзіліся шчыльней, рух пачаў заміраць, і было невядома: чаму? Пачуліся выкрыкі нязгоды ці, можа, пратэсту, і тады Ступак здагадаўся ў чым справа. Стараючыся не штурхаць іншых, ён памкнуўся наперад, мінаючы найболей шчыльныя групы. У адным месцы прабег па тратуары пад носам у заклапочаных, спатнелых міліцыянтаў, якія таксама напружана ўзіраліся наперад. І тады яму стала відаць перашкода. Шэсьце ўперлася ў шчыльныя, бы спрасаваныя, тры шэрагі АМАПу, што ад сьцяны да сьцяны будынінаў выцягнуліся ўпоперак прасьпекту.

Ён і яшчэ праціснуўся наперад, каб лепей бачыць, што там робіцца. Аднак бачна было ўсё ж няшмат, чулася гамана, мабыць кіраўнікі гэтага шэсьця спрачаліся з таўстым міліцэйскім палкоўнікам, што незразумела хрыпеў у трубу мегафону. За ім замерла сьцяна амапаўцаў – блішчастыя шчыты ля ног, шлемы-скафандры на галавах, грудзі ва ўсіх расьпіралі бронекамізэлькі, у кожнага чорная палка ў правай руцэ. Але што былі гэтыя шчанюкі перад аб’яднанаю сілай тысячаў, акрыленых адзінаю мэтай свае праўды? Іх можна было сапхнуць за адну хвіліну. Нехта нават і крыкнуў з натоўпу штосьці накшталт “наперад”. І тады раптам людзі збоч вуліцы неяк незразумела хіснуліся, воддаль страхавіта закрычала кабета. Ступак азірнуўся – з завулка ад пошты, клінам расьсякаючы натоўп, урэзаўся атрад амапаўцаў у касках і са шчытамі. Гэтыя адразу ўзяліся працаваць даўжэзнымі чорнымі палкамі – малаціць усіх без разбору, хто трапляў ім пад рукі.

Натоўп калыхнуўся ў адзін бок, у другі, некоторыя кінуліся назад – пад сьцяну будынку пачтамту, але і там невядома адкуль узяліся амапаўцы – ці не з дзьвярэй пачтамта. Неўзабаве іх стала, здалося, ня меней, чым дэманстрантаў, яны расьсякалі натоўп на часткі і білі, калашмацілі, валілі на асфальт людзей – мужчынаў і жанок, хапалі, камячылі сьцягі і плакаты, якімі некаторыя спрабавалі ад іх бараніцца. Над вуліцай узьвіўся бязладны, зьдзічэлы крык і лямант; жаночы плач перамяшаўся з роспачнай мужчынскай лаянкай, і невядома было, хто лаяўся. Падобна, і тыя, і гэтыя.

Пасьля хвіліны зьбянтэжанасьці Ступак зразумеў, што трэба адсюль "ірваць кіпці". Ды, мабыць, зразумеў тое спазьнела. Першы ўдар гумовай палкай па сьпіне змусіў яго хіснуцца, ён спатыкнуўся аб кагось, хто ужо ляжаў на асфальце, але ўтрымаўся, ня ўпаў і пасьпеў азірнуцца на таго, хто яго выцяў. З-за выгнутага плаксіглазавага казырка ў яго ўтаропіўся счырванелы ад поту твар маладога амапаўца.

У той момант новы ўдар па плячы змусіў яго аж прысесьці ад болю. Ратуючыся, ён галавой наперад кінуўся праз парадзелы натоўп – прэч ад гэтых забойцаў. Але, мусіць, ён прамарудзіў, упусьціў момант, і на яго накінуліся трое ці болей у касках. Каб уратавацца, ён з усяе сілы штурхануў бліжэйшага са шчытом, які з металічным бразгатам паляцеў долу. Ступак што было сілы ірвануў па вуліцы далей – праз паблытаны ў бойцы амапаўскі шэраг на суседнюю вуліцу.

Сьпярша ён бег, чуючы, як там, ззаду, лемантуе, вые і лаецца нядаўна яшчэ такое мілагучнае шэсьце, і недзе за скверам равуць рухавікі міліцэйскіх "Камазаў", што, мабыць, падвозяць падмацаваньне АМАПу. Ці адвозяць схопленых і пабітых. Побач абмінуў яго малады даўгалыгі хлопец у белай скрываўленай кашулі, што, азіраючыся, узрушана прамаўляў: "Шакалы!.. Шакалы!..". "Шакалы!", – сказаў сабе ў думках і Ступак, кіруючы сьледам па тратуары. За імі, аднак, чамусьці ня гналіся, і ён пайшоў цішэй. Поруч беглі і яшчэ людзі,

што вырваліся з тае пасткі, хтось з рэдкіх сустрэчных спалохана пытаўся, стоячы пад абдзертай сьцяной: “Што там? Што?”. – “Ідзі, паглядзі!”, – са злосьцю кінуў Ступак пэнсіянеру з радамі каляровых планак на борце пацертага пінжака. Надта балела плячо, ён ледзьве варушыў рукой, думалася, ці не паламалі яны яму косьці? Трохі, аднак, спакайнеючы, завулкамі і пусткамі нарэшце дабрыў да свайго падворку.

На шчасьце, ля гаражоў не было нікога, мусіць, гаражнікі з раніцы разьехаліся па сваіх дачах-гародах. Ступак аднаруч ледзьве адамкнуў нутраны замок і, зашчапіўшыся, аблёг на сваю раскладуху. Самы час было расслаблена ўздыхнуць і застагнаць – так балела плячо. Але ён стрымаўся пры думцы, што яго могуць пачуць і толькі ў думках вылаяўся. Усё ж, мабыць, яго там згледзелі, можа, хто са знаёмых, і хоць ён уцёк, знайсьці было няцяжка. Ён ведаў, што ў іх усё на ўліку: усе адрасы і прыкметы, сьведкі, стукачы, сексоты. Хіба ад іх схаваешся?

Ціха варочаючыся ад болю на рыпучай раскладусе пры зачыненых дзьвярах, ён услухоўваўся ў кожны гук-шолах знадворку. Чуў, як прыехаў на старой “Волзе” і адчыняў свой гараж Сазон. Лепей Ступак ханы гук рухавіка “Запарожца” Плешкі, ды таго не было, можа, заначуе на агародзе. Што рабіць далей – было невядома, мабыць, у гаражы доўга ня ўседзіш, паныла думаў Ступак. Зьехаць на вёску ці што? Але каб зьехаць, патрэбны грошы, хаця б на білет. Зноў жа, калі будуць шукаць, дык знойдуць і ў вёсцы – гэтыя ўсё могуць. Наконт зыску яны майстры, якіх ня ведае сьвет. Ступак прыгадаў, як некалі ў войску на дзьвярах іхняй прыбіральні нехта цьвіком надрапаў “Брэжнеў – мудак”. Зьявіліся сьледчыя па асабліва важных справах, паўгода вялі сьледства, перамтрэсьлі казарму, перацягалі ўсіх у хітры дамок контрразьведкі, а знайшлі. Прыперлі, дык сам прызнаўся – першагодак з Мардовіі пакрыўдзіўся на старшыну і надрапаў тыя два словы – на сваю галаву.

Усё ж неяк Ступак перабыў тую ноч, спаў трывожным сном падбітага птаха – то засынаў, то прачынаўся,

спрабуючы як зручней уладкаваць балючую руку. Душу апякала крыўда і злосьць: што ж гэта робіцца? За што? Што ён парушыў, каму ён прычыніў шкоду? Завошта яго хацелі скалечыць? Выцялі па тым самым плячы, дзе яшчэ віднеўся сьлед-шнар ад душманскае кулі. Але ж гэтыя – не душманы, гэта ж свае. Хто ж іх так нацкаваў на мірны народ, чаму яны сталі карнікамі?

Але хто нацкаваў, было вядома. У гэтай краіне ўсё добрае і благое рабілася па камандзе аднаго чалавека. Усё залежала ад яго. Прачнуўшыся неяк пад ранак, згаладнелы і спакутваны ад болю ў плячы, Ступак раптам сьцяміў, што яго трэба забіць.

Як зрабіць тое, ён яшчэ ня ведаў, нават ня мог сабе ўявіць. Мусіць, для таго найперш трэба была зброя ці якая ўзрыўчатка. Але дзе яе ўзяць? Ад зброі залежаў і спосаб тэракту, значыць, найперш трэба зброя. Хаця б пісталет. Ці найлепш аўтамат, аўтамат Калашнікава, з якім ён ваяваў у Афгане. Ступак упершыню пашкадаваў, што сем гадоў назад прыехаў з Афгану з пустымі рукамі. Хаця з гэтай справай там было строга: патрабавалі падпіску, што не вязеш нічога. Ды хлопцы везьлі пісталет ці гранату. Ён не адважыўся, думаў – навошта? Ён не зьбіраўся стаць кілерам, ён вяртаўся на сваю родную “паштовую скрынку”, дзе рабіў нейкія штуковіны для ракетаў. Ці для космасу. Але “паштовая скрынка” накрылася адным месцам, і ён стаў беспрацоўным афганцам. Во лёс сабачы...

“Ну і хай! – лежачы на сваёй раскладусе, няпэўна думаў Ступак. – Кілер, па крайняй меры, гучыць. А то – тля! Я табе ня тля, ты яшчэ пазнаеш, хто я. Ня тое, што гэтыя дэмакраты. Наладзілі фэст, выйшлі, бы да касьцёлу. Не хапала музыкі. А ён на іх – гэтых двухногіх шакалаў у брані. Далі, аж пыл закурэў. Адлупілі, разагналі, пахапалі... Цяпер будуць хадзіць да пракурора, апраўдвацца. Быццам пракурор не заадно з імі. Пракурор, можа, сам лупіў са шчытом, у камізэльцы. А што? Пад каўпаком не відно, не пазнаеш, хто цябе нявечыць. Усе яны – адно кодла. Не, так не даб’ешся нічога. Трэба яго стрэльнуць. А там будзь, што будзе.

Чым так тухнуць у сьмярдзючым гаражы... Здохнеш і ня хутка здагадаюцца, што памёр. Як тая бабуся з першага пад’езду, што тры тыдні праляжала ў зачыненай кватэры. Пакуль суседзі ня ўнюхалі”...

Так, яму вельмі патрэбная зброя.

Але найперш, мусіць, трэба было прыдбаць грошы. Бяз грошай ні чарта ты ня зробіш, самадзейны кілер-адзіночка, нявесела думаў Ступак у ранішнім гаражным паўзмроку. Рашэньне, аднак, было прынятае, і ён не любіў мяняць сваіх нават і самых рызыковых рашэньняў. Такі ўжо быў характар. З тае ранішняй хвіліны ў яго паявілася мэта, што стала яго неадчэпным клопатам.

Ён яшчэ ляжаў у дрымоце, як знадворку пачуўся нягучны металічны бразгат паблізу, і Ступак, счакаўшы, прыадчыніў дзьверы. Крышку ўбаку стаяла “сямёрка” дацэнта Мінкевіча, якую той меўся загнаць у гараж. З гэтым інтэлігентам у Ступака не было ніякае дружбы, бо той трымаўся на адлегласьці ад астатніх, асабліва ні з кім не таварышаваў, рэдка калі ішоў на размовы. І заўсёды кудысь сьпяшаўся. “Сямёрка” яго заўжды была чысьценькая, бы сьвежа памытая, хаця ўжо і ня новая, ды і сам Мінкевіч заўжды выглядаў па сучаснай модзе – з каротка падстрыжанай бародкай, у акулярах з тонкай аправай, ён зірнуў на Ступака і павітаўся. Ступак, каб пачаць размову, папрасіў закурыць, і той мусіў затрымацца ля расчыненых дзьвярэй гаража.

– Вы не маглі б мне пазычыць?

– Колькі? – спытаў Мінкевіч, з гатоўнасьцю дастаючы кашалёк. – На паўлітру?

– Трэба больш. Баксаў пяцьсот, – адважна вымавіў Ступак, аж зьдзівіўшыся сваёй адвазе.

– Ого! – шчыра зьдзівіўся дацэнт. – У мяне зарплата трыццаць баксаў у месяц.

– Дрэнна жывяцё, – panыла зазначыў Ступак. – А можа, ведаеце, каму гараж можна б загнаць?

Мінкевіч пацiснуў плячыма.

– Дайце аб’яву ў газету. Цяпер жа там вунь колькі аб’яваў. Ці папытайце ў Валынца. Ён жа займаецца аўтабізнэсам...

Валынца Ступак збольшага ведаў, той жыў у суседнім доме, нядаўна скончыў еўрарамонт кватэры, пад якую адкупіў ледзьве ня ўвесь паверх замызганай хрушчоўкі. Цяпер любавацца на яго люстраныя, з мядовым адлівам вокны ў дзюралевых рамах зьбіраўся ўвесь падворак. Унізе ля пад’езду часьцяком стаялі “Вольвы”, “БМВ” ды “Мерседэсы” нярэдка з замежнымі нумарамі. Гэта быў тыповы “новы беларус”, і Мінкевіч меў рацыю. Гараж варта было прапанаваць Валынцу.

Але злавіць гэтага бізнэсмэна было няпроста. Ягонага “БМВ” ля пад’езду не было відаць, у кватэру ж Ступак не пайшоў, казалі, там заўсёды ахова. Тады ён прысеў на лаўку насупроць дзюралевых вакон багацея, трохі счакаў. Рука ўсё балела, хоць і ня так як учора. Рухаць ёй Ступак усё асьцерагаўся і, сагнуўшы, далікатна трымаў пад крысом накінутага на плечы пінжака. Як на падворку зачасьцілі ранішнія прахожыя, неахвотна падняўся і падыбаў да сваіх гаражоў. Тут, як заўжды ўраньні, ужо паявіўся Плешка, узяўся ладзіць капрызьлівы “Запарожац”.

– Што гэта ў цябе, – кіўнуў ён на руку, павітаўшыся.

– Ды так. Упаў.

– Выпіўшы?

На тое Ступак не адказаў, ён не хацеў нікому расказваць пра учарашняе, асьцерагаўся, як бы сёньня ня здарыўся працяг таго ўчора. Раз запазіраў на падворак, каб адразу заўважыць, калі там зьявіцца міліцэйскі “Уаз”. Але міліцыі пакуль не было, а Плешка, сагнуўшыся над задам “запарожца” калупаўся ў

рухавіку.

– Што – помпа? – паспачуваў Ступак.

– Помпа, хай яна згарыць. Каторы раз ужо, – сказаў Плешка і, азірнуўшыся, цішай заўважыў: – Чуў, што ўчора на прасьпекце было?

– А што? – прастадушна папытаўся Ступак.

– Кажуць, лядовае пабоішча. Менчукоў з псамі-рыцарамі.

– Вось як?

– Што ж думаеш: паўтары тысячы АМАПу. Ды міліцыя. Ды ўнутраныя войскі. Сіла!

– Сіла! – пагадзіўся Ступак.

Гэты Плешка заўжды пачынаў так – быццам быў на баку ўлады, мог нават мацюкнуць дэмакратаў, але свае сапраўдныя адносіны запасіў на канец. Прыхінуўшыся да крыла аўтамабіля, азірнуўся і нягучна паведаміў:

– Кажуць, сам лупіў. Палкай. Пад каскай амапаўца. Во драпежнік!

– Драпежнік, – міжволі пагадзіўся Ступак. Уласных адносінаў да таго ён раскрываць не хацеў.

Усё ж паведамленьне Плешкі ўзрушыла Ступака, сьпярша ён нават не паверыў у тое. Але затым, разважыўшы, падумаў: а можа, і праўда. Ад гэтага можна было чакаць усяго, і вельмі нават магчыма, што найбольшаю асалодай для яго было самому паўдзельнічаць у эфектыўнай паліцэйскай акцыі. Адчуць азарт расправы – як драпежнік над сваёй ахвярай. Ступаку нават здалося, што той, хто лупіў яго па параненым плячы, мог быць менавіта сам. Краем вока ён нават згледзеў падобнага – з азьвярэлымі вачыма, вусатага. Хаця вусатых там было шмат.

Пакінуўшы Плешку ля ягонага “Запарожца”, Ступак

пайшоў па падворку да суседняга дома і яшчэ здалёк убачыў там чорную “БМВ” ля другога пад’езду. Ён прысьпешыў крок, сапраўды, то была машына Валынца, а ля яе і сам гаспадар, які толькі што выйшаў з дзьвярэй. То быў маладжавы яшчэ чалавек у дарагім двухбортным гарнітуры, пры даўжэзным гальштуку; ён паклаў на задняе сядзеньне кейс і расчыніў пярэднюю дзьверцу. За рулём чакаў малады шафёр з бычынай шыяй і выстрыжанай патыліцай.

– Можна вас на хвілінку, – гукнуў Ступак.

Валынец з незадаволеным выразам твару прытрымаў дзьверцу, Ступак падышоў бліжай і стрымана павітаўся.

– Прадаю гараж. Ну той, металічны. Купіце?

Напружаньне на холеным твары Валынца разам зьмякчэла, здаецца, той зразумеў і дзелавіта кінуў:

– Колькі?

– Ну гэта... Тысячу.

– Даю пяцьсот. З вывазам.

Пяцьсот, канешне, ня тысяча, але тут ня гандаль, тут продаж, падумаў Ступак, адчуваючы, што ягоны пакупнік дужа сьпяшаецца і вось-вось сядзе ў машыну. Другі раз наўрад ці яго засьпееш.

– Ладна, што ж...

Валынец з унутранай кішэні пінжака дастаў кашалёк і спрытна вылузнуў з яго тры стодаляравыя купюры.

– У якасьці задатку.

– Толькі авызвалю ў канцы месяца,– вінавата зазначыў Ступак.

– Тады атрымаеш астатнія. Усяго добрага.

Валынец схаваўся ў сваю чорную “БМВ”, якая імкліва рванула з месца, а Ступак пастаяў яшчэ, ня ведаючы,

радавацца ці ня надта. У руцэ ён трымаў трыста баксаў, тое было для яго багацьце. Але ж ён траціў апошні прытулак. Дзе прыткнуцца, калі ягоны куратнік пяройдзе гэтаму бізнэсоўцу?

А зрэшты, можа, тады ў прытулку і ня будзе патрэбы. Пра прытулак паклапоцяцца іншыя.

Тым жа ранкам ён разьмяняў у вулічным абменным пункце першыя сто даляраў, накупіў у гастраноме харчу: два белых батоны, кавалак каўбасы і нават гронку жоўтых бананаў, якія прадаваліся на кожным рагу. Сьпярша добра пад’еў у гаражы на адзіноце, – Плешка ўжо некуды зьехаў, і ля гаражоў не было нікога. Пасьля сухога сьняданку зьявілася смага, але ён падумаў, што вып’е піва пасьля, як будзе ісьці на базар. Напружана думаючы пра зброю, ён усё ж вырашыў наведаць базар, дзе ня быў з самай вясны. Не было патрэбы ды й грошай. Цяпер жа зьявілася тое і гэта, і ён ня стаў губляць час.

Ашчаджаючы балючую руку, можа, з гадзіну ён швэндаўся між тлумных гандлёвых радоў, заваленых розным таварам – харчам, гароднінай, а таксама адзеньнем, рознай драбязой і начыньнем. Усё,што прадавалася, было раскладзена на прылаўках, століках, а таксама ля ног на асфальце, на газецінах ці проста выглядвала з расхінутых гаспадарчых сумак. Тавару было безьліч, здавалася, тут можна знайсьці ўсё. Але тавары яго цікавілі мала, ягоны інтарэс палягаў у іншым,і ён разумеў, што тое іншае на прылаўках ня згледзіш. Ён болей прыглядваўся да твараў – прадаўцоў і пакупнікоў, што ў цеснаце і штурханіне мітусіліся побач, выбіраў сярод іх пэўны тып – маладога, засяроджанага ў сабе чалавека, можа “афганца” або “чачэнца”.

У гэтых якраз і можна было нешта здабыць. Зброю ці наркоту. Неяк яшчэ зімой ён прыходзіў сюды з жонкай па бульбу і ў аднаго чарнявага, з выгляду каўказца, прыцаніўся да яго жоўтых гранатаў. Калі той назваў цану, пажартаваў: “Ого, бы лімонкі”. “То фрукты, а не лімонкі – крыўдліва паправіў гаспадар. – Лімонкі

таньней будуць”. – “А што, ёсьць і лімонкі?” – жартам пацікавіўся Ступак. “Знойдзем, калі трэба”, – хітравата падміргнуў каўказец. Тады Ступаку лімонкі не былі патрэбныя, але во цяпер…

Аднак жа, чаго трэба, менавіта таго і не бывае ў гандлі. Нават і на базары.

Дарма і доўга ён швэндаўся ў гаманкім базарным натоўпе, так і ня ўбачыўшы нічога здатнага. Пытацца ж у каго не наважыўся, адчуваў, нямала тут шылася і таптуноў, пераапранутых міліцыянтаў, кадэбэшнікаў, людзей са службыбясьпекі, якімі цяпер кішэлі вуліцы, вакзалы ды і базары таксама. Мабыць, тыя парадаваліся б, калі б спазналі, што побач шляецца кілер, шукае зброю. Хаця і без таго можна было проста і здорава ўліпнуць, калі б яго апазналі як удзельніка нядаўняй стычкі. Але во пакуль не пазналі, мабыць, там, на прасьпекце, не было знаёмых. Ля піўнога ларка ён нядоўга пастаяў у чарзе, выпіў цеплаватага піва, ледзьве ўтрымаўшы цяжкі куфаль у хваравітай руцэ, якая ўсё балела, асабліва ў плячы. Выпівох тут было нямала, але ўсе звычайныя півасёрбы, якія прагнулі адно – захмялець. Такіх жа, у каго можна было нешта здабыць, здаецца, не траплялася. І ён думаў, што, мусіць, ня так гэта проста прыдбаць зброю. Пісталет ці лепей славуты АК. Увесь сьвет завалены гэтымі Калашнікавымі, з ім ваюють цэлыя арміі, робяцца ўрадавыя перавароты, скідваюць і ўсаджваюць дыктатараў. А тут во, на ягонай радзіме, калі спатрэбілася, нават за баксы ня знойдзеш. Да чаго адсталая краіна, зласьліва думаў самадзейны кілер.

Краіна, можа, і была адсталая, але не былі адсталыя яе сьпецслужбы, і Ступак ведаў гэта. Ва ўсякім разе на рынку ён так і не наважыўся нават запытаць у каго-небудзь пра сваю патрэбу і надвячоркам прыбрыў дадому. Дзьверы аж трох гаражоў былі расчыненыя, але машынаў перад імі не было відаць, значыць, аўтамабілісты нікуды не сьпяшаліся. Два з іх – Сазон Іванавіч і малады хлопец Аляксей – стаялі каля Плешкавага гаража. Ступак насьцярожана падышоў да

іх, здаецца, тым перапыніўшы размову, і ён падумаў: ужо ці не пра яго ішла гаворка? Але, мабыць, не пра яго.

– Ну, Мінкевіч у бэнээфе, мужыкі казалі, – гучаў з гаража Плешкаў голас. Іншыя два маўчалі. Памаўчаў і Ступак.

– То-то, гляжу, по-белорусски разговаривает, – не зразумець, з захапленьнем ці асуджаючы, сказаў сівагаловы Сазон Іванавіч. – Нацдем!

– Размаўляе, як хоча, – азваўся Плешка.

– Э нет, не как хочет. Это у них установка такая, в бэнээфе, чтобы другие не поняли.

– Ты ж во панімаеш, – выглянуў з-за “Запарожца” Плешка.

– Не понимаю и понимать не хочу! – выказаўся Сазон.– Я русский человек и русским умру.

– Ну, а ён, можа, беларусам хоча памерці, – упарта пярэчыў Плешка.

Той Мінкевіч ня быў тут нікому сябрам, быў проста суседам ня болей, і Ступак ставіўся да яго спакойна. Але і Сазон ня выклікаў у яго вялікай сімпатыі, бо амаль заўжды быў злы і зацяты. Хаця па цяперашнім часе тое было не навіна, шмат хто злаваўся і раздражняўся, але ўсё ж неяк стрымліваўся. Сазон жа адкрыта і голасна наракаў на жыцьцё, развал СССР, апошнімі словамі пляжыў “агента ЦРУ” Гарбачова і часьцяком бегаў у адноўлены райкам партыі, дзе ва ўсю ішла палітычная мітусьня камуністаў. Галоўнай прапагандовай сілай там былі ветэраны вайны, пенсіянеры ды адстаўныя чэкісты.

– Придумали еще нацию – белорусы! – крыху цішэй бурчэў сам сабе Сазон. – Чтоб русским кислород перекрыть.

– Але ж Мінкевіч дэмакрат, ён не супроць іншых, – ціха

азваўся Аляксей, які да таго зважліва маўчаў побач.

– Демократы! Дерьмократы проклятые, – сказаў і смачна вылаяўся Сазон. – Все за доллары работают. Под американский заказ!

– Ня ўсе, – стаяў на сваім ціхманы Аляксей.

Ступак павярнуўся і пайшоў на падворак. Ён знарок не прыняў удзел у гэтай размове. Раней, можа б, што і сказаў, але не цяпер. Цяпер у яго былі справы болей важныя, чым драць горла ў спрэчцы з гэтым замшэлым бальшавіком, і ён не хацеў раскрывацца да часу. А можа, наадварот, трэба было маскавацца, сказаць што-небудзь у падтрымку Сазона. Але тое крывадушша было Ступаку агіднае, зноў жа ён не хацеў крыўдзіць і Аляксея, які ўвогуле яму падабаўся сваёй не характэрнай для цяперашняй моладзі сьціпласьцю. Сьціплы надзвычай быў і ягоны дзед, пасьля сьмерці якога перайшоў да ўнука гэты праіржавелы гараж. То быў слаўны стары, былы партызан-падрыўнік, меў шмат узнагародаў, якіх ніколі, аднак, ня бачылі на ягоных грудзях.

Аднойчы ў дзень перамогі запыталіся, чаму ён ня носіць ардэноў, на што стары адказаў: “На падушках панясуць перад труной”. Сталася ж трохі інакш. Пакуль дзед хварэў, тыя яго ўзнагароды пасьпеў прадаць скупшчыку старэйшы унук-наркаман. Так і пахавалі партызана без аніводнай узнагароды.

Ступак ведаў, што ў такіх далікатных выпадках лепей маўчаць, хоць бы дзеля перастрахоўкі. У шматмільённых шэрагах сексотаў нямала і гаваркіх, і маўклівых, нахабных і сьціплых, дурнаватых і надта ж разумных, – самы шырокі выбар. Навербавалі за семдзесят гадоў. У іхнім палку перад адпраўкай у Афган ці ня ўсіх па чарзе перацягалі ў хітры дамок, што мясьціўся паміж казармай і прыбіральняй – крышку, праўда, у баку, дзеля камфорту, каб ня дужа сьмярдзела. Хаця там стаяў смурод іншага кшталту. На каго было спадзявацца?

Удзень у гаражы было дужа сьпякотна, затое ўначы і ўранку самы раз. Лежачы ў зацішны час на скрыпучай раскладусе, Ступак часам шкадаваў, што зрабіў гэтую авантуру – прадаў гараж, які стаў ягоным адзіным прытулкам. Але штось перайначыць, мабыць, было ўжо позна. Першую сотню баксаў ён хутка патраціў, збольшага на ежу, і ўвесь час на адзіноце думаў пра сваю патрэбу: дзе раздабыць зброю?

На гарадской ускраіне за чыгункай некалі быў немалы гарнізон – вайсковая вучэльня, казармы і палігон; там некалі навабранец Ступак пачынаў вайсковую службу. Паблізу каля прахадной і на шашы заўжды таўкліся вайскоўцы, афіцэры ды прапаршчыкі, сярод якіх калісьці было нямала знаёмых. Асабліва сярод прапаршчыкаў. Але гэта калісь. Цяпер жа, пасьля скарачэньня арміі, развалу СССР ды ці мала чаго яшчэ наўрад ці хто знаёмы застаўся. І ўсё ж, не надумаўшы нічога больш здатнага, Ступак вырашыў наведацца на тую гарадскую ўскраіну. Ня дужа пагодным ранкам, пасьля начнога дожджыку, калі яшчэ не абсох асфальт, ён сеў у тралейбус, даехаў да кальцавой дарогі. Пасьля перасеў у аўтобус, які і давёз яго да знаёмага прыпынку. Дзіўна, але і праз дзесяць гадоў тут мала што зьмянілася – гэтак жа на кіламетр цягнулася ўздоўж шашы бетонная сьцяна, з-за якой нясьмела пазіралі на сьвет верхнія паверхі казармаў, чырванелі пяцціканцовыя зоркі на шырокіх варотах прахадной, ля якой стаяў вартавы з аўтаматам Калашнікава на грудзях. (Вось бы яму такі аўтамат, хаця б з адным магазінам). Часам да прахадной і адтуль таропка сноўдалі афіцэры, салдатаў не было відаць. Як не было відаць ніводнага прапаршчыка – вывеліся яны ў беларускім войску ці што? Пытацца пра што-небудзь у афіцэраў ён не наважыўся, а ў прапара, мабыць, ужо папытаўся б. З гэтымі, мабыць, можна было б паладзіць. А так з гадзіну патупаў уздоўж агароджы, каб згледзець якую дзірку ці якога самавольшчыка каля яе, ды марна. Затым пастаяў на прыпынку, пакуль не падышоў аўтобус, абышоў рад шапікаў з рознай драбязой. Нідзе нічога патрэбнага яму ня трапілася, і ён вярнуўся ў горад.

Зброі ў яго не было і пакуль невядома было, дзе яе ўзяць, а ў галаве ўжо мроіўся той самы рашучы і важны момант, да якога ён рыхтаваўся. Ведаў, аднак, тое будзе ня проста, нават складана і дужа небясьпечна. Але калі зрабіць усё, добра абдумаўшы, рашуча і хутка, дык вельмі нават магчыма. Галоўнае – падлавіць момант, – на дарозе, на вуліцы ці лепш, калі выйдзе з машыны. Выходзіць жа ён каля свайго палацу ці дзе на прадпрыемствах, на будоўлі, куды ён сноўдае час ад часу. Або яшчэ – на спартовых комплексах, дзе ён звыклы і часты госьць і ўдзельнік, бо дужа паважае спорт і клапоціцца пра сваё здароўе. Каб там падлавіць...

Рука стала балець меней, праўда, яшчэ аддавала ў плячы асабліва пры рэзкім руху локцем угору. Кепска, што ішоў час, і з ім раставалі яго грошы, набытку ж ад іх не было ніякага, усё ішло на харч. Ноччу яму часьцяком сьнілася нешта з яго дзённых мрояў, толькі той яго супраціўнік з выгляду быў нібы мядзьведзь – таўсты і касматы. Ступак цаляў у яго з пісталету, але пальцы нібы зьмярцьвелі, ён ня мог ціскануць на спуск, а страшыдла набліжалася. Тады ён кідаўся ўцякаць, ды ногі рабіліся, нібы з ваты, ён ня мог бегчы, а страшыдла было ўжо побач. На мяжы магчымай пагібелі нешта ўсё ж перайначвалася, пачынаўся іншы сюжэт, таксама мала прыемны, але без ранейшага жаху. Ноччу ён часта прачынаўся ў сваёй металічнай схованцы, асабліва як у двор уязджала машына і фарамі высьвечвала гаражныя шчыліны каля дзьвярэй, тады ўспыхвала трывожная думка: ці не па яго? Ці не разьнюхалі што? Можа, з таго памятнага шэсьця, калі яго пабілі, штосьці дазналіся і прыехалі браць. Тады нахлынала шкадаваньне і прыкрасьць на сябе – што не пасьпеў, прамарудзіў, прашляпіў. Аднак ішоў час, а да яго ніхто не завітаў, і тое абнадзейвала. Мабыць, усё ж яго праваронілі.

Затое не праваронілі іншых, мабыць, працавалі, як мае быць, не дарма елі свой міліцэйскі хлеб. Неяк уранку, калі ён яшчэ ляжаў пад брызенцінай на раскладусе, у дзьверы ціхенька пастукалі – раз і другі. Ён падхапіўся,

падумалася: ці не дачка, якая ні разу яшчэ не прыйшла да яго ў гараж. Але то была не дачка – на ўваходзе, як ён адчыніў дзьверы, стаяў Аляксей, які зважліва папытаўся:

– Ну, чулі навіну?

– Якую?

– Мінкевіч гараж прадае. Разам з машынай.

– Чаго ж гэтак?

Аляксей азірнуўся, але не пераступіў парог гаражу.

– Аштрафавалі. За дэманстрацыю. На шэсьцьдзесят мільёнаў.

– За тую?

– Ну. Быў арганізатарам ад БНФ. Дык затрымалі, суд і во – штраф.

– Нічога сабе! Шэсьцьдзесят мільёнаў...

Ступак, канешне, падзівіўся і ціха пры сабе парадаваўся, што тады пашчасьціла неўпрыкмет вывернуцца ад амапаўцаў, высьлізнуць з іхніх рук. Усё ж нездарма афганец, мае сякі-такі вопыт, ня тое, што гэтыя шпацыроўшчыкі па асфальце. Добра, што ён ня быў зьвязаны з БНФ, тое давала яму засьцярогу. А гэты Аляксей, мабыць, штось меў, інакш бы так не ўстрывожыўся навіной пра Мінкевіча. Што яму гэты Мінкевіч – брат ці сват? І ўсё ж Аляксей сімпатычны хлопец, не балабон, можа б варта параіцца з ім пра галоўны Ступакоў клопат? Але не, разважыў Ступак. Толькі тое ў сакрэце, што ведае адзін чалавек. Калі два, лічы, ніякага сакрэту няма. Гэта ўжо ведаў ён добра.

А можа, варта было скантактавацца з Мінкевічам? Усё ж калі бэнээфавец, дык, мабыць, не сексот, не пабяжыць вечарам на даклад да “кума”. А можа, і пабяжыць? Што, у бэнээфе няма сексотаў? Паленаваліся, не навербавалі? Не, гэтыя не лянуюцца...

Той дзень з раніцы ішоў дождж, было халаднавата, і Ступак, прычыніўшы жалезныя дзьверы, бавіў час у ляноце. Самы раз было б выпіць, хоць для сугрэву, але не было гарэлкі, а ісьці пад дажджом у гастраном ён без парасону не наважваўся. І злосна думаў пра жонку-паскуду, якая, выганяючы з дому, ня кінула яму якой апранахі. Усё ж ён пакінуў ёй кватэру, здабытую па льготах як воін-інтэрнацыяналіст, а яна чым аддзячыла? Хоць бы прыслала калі дачку ў адведзіны, дык не – трымала ў кіпцюрах пакорлівае дзяўчо, запалохала зьверам-бацькам, які во каторы месяц жыве сапраўды нібы зьвер у гэтай жалезнай бярлозе. Ды і добра, калі б ён быў зьвер. Ён хацеў быць зьверам, калі б атрымалася. Зьверу цяпер, мабыць, лепш, чым чалавеку. Такі настаў час.

Ён адразу пачуў, як побач забразгалі замкі ў гаражы Мінкевіча. Ступак падхапіўся з раскладухі і паволі выйшаў з дзьвярэй.

– Кажуць, і вы прадаеце? – запытаў, павітаўшыся. Апрануты ў спрытную джынсовую куртку Мінкевіч з-за тонкіх акуляраў зірнуў на суседа.

– Прыходзіцца.

– Чаго ж гэта?

– Каб заплаціць штраф.

– І вялікі штраф?

– Па максімуму. Дзьвесьце мінімальных зарплат.

– Ё-маё! І будзеце плаціць?

– А што ж рабіць? Апішуць маёмасьць...

Мінкевіч казаў тое амаль спакойна і разважліва, як пра што звычайнае і паўсядзённае, бы і не перажываючы. Можа, перажыўшы ўжо. Расчыніў насьцеж абедзьве палавіны дзьвярэй, зашчапіў на кручкі ў доле.

– І думаеце адкупіцца штрафам?

Мінкевіч выпрастаўся, павярнуўся да яго і ўздыхнуў.

– Штрафам, канешне, не адкупішся. Ад гэтага рэжыму наогул нічым адкупіцца немагчыма. Трэба ўзьнімаць народ, падвышаць ягоную самасьвядомасьць.

– Самасьвядомасьць! Вы – самасьвядомасьць, а ён – сто тысяч АМАПу. Чыя возьме? – запытаўся Ступак і змоўчаў, чакаючы, што скажа на тое адукаваны дацэнт.

– Што рабіць! – азваўся той пасьля паўзы. – Наогул дэмакратыя ў барацьбе з таталітарызмам ня мае адэкватных сродкаў.

– Гаўно тады вы, а не дэмакраты, – ціха, бяз злосьці сказаў Ступак і пайшоў да свайго гаражу.

Як узьнімаць народ, ён ужо бачыў, сам ледзьве не апынуўся ў ролі ўзьнятага, сьпярша было нават прыемна, неяк нават сьвяточна. Але як іх лупанулі гумовымі “дэмакратызатарамі”, дык гэты народ, бы чарада вераб’ёў, пырхнуў з вуліцы. Аж пыл закурэў. На тым баку – сіла, войска, міліцыя, КДБ, сотні тысячаў сексотаў, жалезныя кіпцюры “вертыкалі” Апроч таго, суд, пракуратура і нават адвакатура, новы дэкрэт пра якую толькі што надрукавалі, – усё ў ягоных руках.

Тая кароткая гаворка з Мінкевічам яшчэ болей умацавала Ступака ў ягоным намеры – толькі такім чынам, які ён задумаў, і можна нешта зьмяніць у іхнім бядотным становішчы. На сілу патрэбна – сілай. На гвалт – яшчэ большым гвалтам. Інакш кранты ўсім – і бэнээфаўцам, і афганцам, і камуністам. Каб дамагчыся царскай улады, гэты ня спыніцца ні перад чым. Пасьля царскай захоча імператарскай і так далей аж да сусьветнага панаваньня. Нахабства ў яго хопіць. Асабліва яшчэ, калі яго падтрымаюць. А гэткіх заўсёды падтрымліваюць, бо яны – сіла. Не, трэба ад яго ратавацца. І ён, афганец Ступак, – паратоўца, якім ён сам прызначыў сябе. Ну і што, што сам? Паратоўца-кілер, такога, можа, і не было. Ён будзе першы.

Але зброі ў яго ўсё ня мелася, а баксы ў кішэні

раставалі – праз дзень давялося разьмяняць і другую сотню. Як ён ні эканоміў, стараючыся есьці радзей, болей хлеб з салам, але цэны ў гастраноме кожны дзень скакалі ўгару. Людзі ажно стагналі ўранку, убачыўшы новую цану на хлеб, кефір, малако, якіх, мяркуючы па ўсім, пачалі прывозіць у магазін менш, чым раней; пад вечар ужо нельга было купіць нават хлеба. Затое надвячоркам праз расчыненыя вокны і форткі разносіўся па падворку знаёмы, з хрыпатой голас, поўны пахвальбы, абяцанак, пагрозаў да апазіцыі, праклятых бэнээфаўцаў, якія пляжылі ўсе ягоныя планы ашчасьлівіць народ. Народ жа ў яго заўжды быў слаўны, шаноўны і гераічны, які заўжды рабіў правільны выбар і не памыляўся, – не памыляўся і цяпер, адзінадушна абраўшы самага мудрага кіраўніка. Аднак тое перастала ўжо дзейнічаць на большасьць слухачоў, і калі яшчэ нешта натхняла іх, дык хіба паведамленьні пра чарговыя выкрыцьці ў органах улады, зьняцьці і нават пасадкі высокіх чыноў. Але не надоўга, бо жыцьцё ад таго не рабілася лягчэй, і тады зноў патрабавалася выкрываць ворагаў, шпіёнаў, вядомых эмігрантаў і некаторых дыпламатаў – агентаў ЦРУ. Суседзі ля гаражоў ужо не абмяркоўвалі палітыку самога, а толькі лаяліся. І нават цьвёрдакаменны камуніст Сазон Іванавіч і той пачаў бэсьціць самога, хаця гэта, мусіць, таму, што кампартыя раскалолася на дзьве, кожная з якіх усчала барацьбу з суперніцай. Цягавіты Плешка проста прымоўк, толькі паныла курыў, і калі аднойчы Ступак паспрабаваў пагутарыць з ім, махнуў рукой – то ваш клопат. Мне ўжо таго – ня шмат засталося...

Увесь час думаючы пра зброю і прыглядаючыся да людзей, знаёмых і выпадковых сустрэчных, Ступак цэлымі днямі швэндаўся па горадзе і калі-нікалі забрыдаў у цэнтр да рэзідэнцыі самога. Доўга стаяць там ці шпацыраваць навідавоку ў цывільных таптуноў ды міліцыянтаў было немагчыма, і ён дзелавым крокам, з заклапочаным выглядам тэпаў па адной вуліцы, пасьля па другой, скоса пазіраючы за тым што рабілася каля палацу. Пад’ездаў там было некалькі і ўсюды тырчэла ахова – у міліцэйскай форме і ў камуфляжы;

унутры таксама, мабыць, былі вартавыя, туды было не паткнуцца. Але ісьці непадалёк па вуліцы пакуль што не забаранялася, і Ступак усё меркаваў-думаў: як бы падлавіць пэўны момант...

Аднойчы ён, здаецца, натрапіў менавіта на такі момант. Хоць і быў з голымі рукамі, але што-ніўшто згледзеў, ідучы ад метро па вуліцы ўніз. Толькі мінуў сьветлафорны пераход, як пачуў рэзкі рух ззаду – то немаведама адкуль выскачылі адзін за адным аж тры аднолькава чорныя аўтамабілі замежных марак, порстка падкацілі да прыступкаў галоўнага пад’езду – адна бліжэй да дзьвярэй, іншыя – далей, мусіць, каб прыкрыць першую ад вуліцы. З першых высыпаліся чалавек дзесяць у камуфляжы, з аўтаматамі і адразу разьбегліся абапал прыступкаў. Адначасна з апошняй машыны таропка выскачыў рослы чалавек у шэрым гарнітуры і між ахоўнікамі порсткім крокам шыбануў да дзьвярэй. Тыя нібы самі сабой расчыніліся і тут жа ляснулі ззаду за ім. Усё тое заняло некалькі секунд, за якія пешаход Ступак зрабіў усяго дзесяць крокаў.

Ён згледзеў ня шмат, аднак, то было досыць карыснае назіраньне, мабыць, кожны кілер нямала зразумеў бы з яго. Найперш тое, што ўсё трэба рабіць дужа хутка і нахабна, ня здрэйфіць у самы апошні момант, нават калі самому будзе не ўратавацца. Як ён ня здрэйфіў пад Кандагарам, калі іншыя здрэйфілі пад душманскімі кулямі. Затое ён атрымаў ордэн. Шкада, не ўдалося тады збочыць з дарогі, каб зірнуць на вынікі свае працы – хутчэй пагналі наперад. Па трафеі, як заўжды, завіталі тылавікі, якія, казалі, нямала там пажывіліся.

Адышоўшы на пару кварталаў ад рэзідэнцыі, ён зайшоў у магазін гародніны. Той быў завалены экзатычнай гароднінай – ад бананаў да авакадаў. Ён жа хацеў купіць агуркоў, ды агуркоў тут не прадавалі, і ён павярнуў назад. Толькі вышчаміўся з цесных дзьвярэй магазіна, як сутыкнуўся з мажным маладым мужчынам у моднай цяпер уніформе колеру травянога сьмецьця, з камандзірскай папругай на круглявым жываце. Ступак зірнуў у ягоны твар і аж схамянуўся: то быў Шпак,

колішні яго афганскі знаёмец, з якім ён не спатыкаўся, можа, год восем.

– Ступак, прывітаньне!

– Прывет...

Яны саступілі трошкі ўбок, каб не замінаць прахожым, і Шпак прытрымаў у сваёй ягоную руку, тым даючы зразумець, што рады гэтай сустўласным клопатам Ступак увогуле быў да яе абыякавы – што яму колішні ягоны службовец, ці мала іх прайшло ля яго і забылася, не сустрэтых болей у жыцьці. Але, відаць, Шпак быў іншае думкі і не сьпяшаўся разьвітвацца.

– Гляджу, адразу і не пазнаў нават. Пахудзеў неяк...

– А ты, гляджу, паспраўнеў, – сказаў Ступак, пазіраючы ў цьвярды, сьвежа паголены твар Шпака. Свой твар ён не галіў, мабыць, з тыдзень.

– Дык як жывеш? Што робіш? Можа, прадпрымальнікам задзелаўся, бабкі зшыбаеш?

– Не, не задзелаўся. А ты? Ужо, мабыць, ня служыш? – пацікавіўся Ступак, павёўшы позіркам па яго новай ладнай уніформе, грубых чаравіках на тоўстай падэшве.

– Ведаеш, служу, – раптам сказаў Шпак.

– Во як! – шчыра зьдзівіўся Ступак. – У кагэбэ?

– Не, не ў кагэбэ. Бяры вышэй.

– Куды ўжо вышэй?

– А ёсьць куды. Слухай, а ты гэта... Які твой тэлефон? Трэба б сустрэцца, пагаварыць.

– Тэлефон? – прамовіў Ступак, адчуўшы пэўную няёмкасьць пры думцы пра тэлефон, да якога ён даўно не падступаўся. Але Шпак ужо расчыніў свой кейс і нарыхтаваўся запісваць у блакноце, і Ступак назваў свой ранейшы тэлефон, якім цяпер карысталася жонка.

– Я табе пазваню.

– Звані, калі хочаш.

Яны разьвіталіся, і Ступак пайшоў сабе далей, разважаючы, што ўсё ж д’ябал ці лёс сапраўды дзеляць няроўна. Нават іх, афганцаў, што выжылі ў той дзесяцігадовай вайне, быццам бы штось заслужылі, ды апынуліся ў надта розным становішчы. Ён, ардэнаносец Ступак, вярнуўся на сваю “паштовую скрынку”, як і раней, укалваць станочнікам, а гэты прапаршчык Шпак, што праседзеў два гады ў Кабульскай камендатуры, глядзі куды сігануў! Вышэй чым у КДБ. У ступаковым разуменьні вышэй, чым усемагутны КДБ, не магло быць нічога, ні ў войску, ні ў мірным жыцьці, дзе непадзельна і таемна верхаводзіў КДБ. Усё вайсковае і цывільнае начальства прызначалася толькі ім ці з ягонай згоды, абмінуць у жыцьці “органы” не было дадзена нікому. Значыць, прапаршчык каменданцкае роты Шпак быў ім болей прыдатны, чым прапаршчык дэсантнага батальёну Ступак, і кожны атрымаў паводле заслугаў. Такі вось іхні афганскі лёс. Ну але хай! Хутка стане вядома, хто чаго сапраўды варты, нявесела суцешыў сябе Ступак.

Ягоны клопат, аднак, упарта не адпускаў яго ад пэўных думак пра зброю. Ён яшчэ два разы хадзіў на базар, аднойчы прашвэндаўся там да закрыцьця і пасьля яшчэ пахадзіў па задворках, сярод прыезджых грузавікоў і легкавых машынаў; доўга стаяў ля піўнога ларка, для выгляду смакуючы піва. А сам слухаў, прыглядаўся. У аднаго каўказца нават папытаўся, нібы жартам, ці няма пушкі? Але той адразу ж спалохана шаснуў ад яго – бокам, бокам і далей. Можа, гэты гандляваў наркотай і, магчыма, прыняў яго за пераапранутага міліцыянта. Таксама было небясьпечна, каўказцы маглі і прышыць.

Вяртаўся з базару позна, як летняе сонца спаўзло за невысокія дахі хрушчовак і ўвесь падворак тануў у глухой засені. Ён ціха брыў да свайго гаражу, пазіраючы на колішнія свае вокны на пятым паверсе, дзе цяпер раскашавала ягоная жонка-банкірка. Злосьці на яе ў яго не было, хоць і не зьнікала застарэлая

крыўда – яна там з генеральным дырэктарам, на мяккай тахце, з ваннай і халадзільнікам, а ён туліцца ў цесным гаражы, харчуецца абы як, за ўсё лета не памыўся нават пад душам. Ён уласнай крывёй заслужыў тую кватэру, а яна дарма карыстаецца ёю. Дзе справядлівасьць?

Яшчэ здаля згледзеў ля дзьвярэй свайго гаража дзяўчынку, дачку Ленку, якая раз-пораз стукала маленькім кулачком ў жалезныя дзьверы, нібы там хто зачыніўся. Калі ён падышоў, яна нават ня ўзрадавалася ад тае сустрэчы і, мабыць, каб хутчэй разьвітацца, сунула ў ягоныя рукі пакамечаную паперку.

– Дзядзя сказаў, каб пазваніў.

У паперцы былі шэсьць лічбаў тэлефону і ўсё. Ленка пабегла да маці, а ён стаяў, думаў: хто б гэта мог быць? Але тады прыпамятаў нядаўнюю сустрэчу са Шпаком – няйначай то ён. Значыць, штосьці прысьпічыла камендацкаму прапаршчыку.

Каб пазваніць з аўтамату, патрэбна была магнітная картка, якой Ступак ня меў – не купляў прынцыпова, бо нікому званіць не зьбіраўся. А дадому ў сваю кватэру дачка не запрасіла, мусіць, так распарадзілася жонка. Што ж, пасьля ўсяго, што здарылася, ён туды і ня пойдзе. Ужо на зьмярканьні ля гаражу зьявіўся на сваім “Запарожцы” Аляксей, у якога Ступак пазычыў на дзесяць хвілінаў ягоную картку і выйшаў да аўтаматаў на вуліцу.

Ён прадчуваў правільна, то быў Шпак, які тут жа з уласьцівым для гэткіх людзей напорам абрынуў на яго цэлы паток словаў.

– Слухай, дзе ты прападаеш, ёсьць дзела, нада сустрэцца, я да цябе падскочу, скажы толькі, дзе ты жывеш, у якім раёне?

– А што такое?

– Не тэлефонны разгавор, трэба асабіста, куды

пад’ехаць? Я зараз, праз дзесяць хвілінаў на машыне.

Ступак бяз жаднае ахвоты да тае сустрэчы назваў адрас, сказаў што будзе чакаць у двары.

І праўда, хвілінаў праз дваццаць з вуліцы на падворак жвава, нават ліха ўляцела вішнёвага колеру “Пежо-605”. З пярэдняга сядзеньня шафёра праз апушчанае шкло выглядвала ўсьмешыстая фізіяномія Шпака.

– Прывет! Ідзі, сядзем.

Ступак абышоў машыну і, лёгка расчыніўшы дзьверцу, апусьціўся на мяккае пярэдняе сядзеньне побач з шафёрам. На заднім хтось моўчкі сядзеў, не прамовіўшы да яго ніводнага слова. Мабыць, слухаў. Шпак быў усё ў тым жа камуфляжы, толькі з пагонамі – кароткімі міліцэйскімі пагончыкамі на апушчаных плячах, дзе слаба азначаліся па чатыры зоркі – тры разам і адна вышэй, як бы асобна. Тое падзівіла Ступака – калі пасьпеў? Дэмабілізаваліся разам прапаршчыкамі, а гэты, глядзі, ужо капітан. Капітан міліцыі. Чаму ж тады ён вышэй за КДБ?

Мусіць заўважыўшы недаўменьне на твары Ступака, Шпак тым частаў нічога тлумачыць, толькі павярнуўся ад руля і дабразычліва заўсьміхаўся.

– Ну, як жывеш, сябрук? Кажуць, бяз працы, ага?

– Хто кажа?

– Людзі кажуць.

Значыць, ужо ведае, падумаў Ступак, які таксама пачаў пра што-кольвечы здагадвацца. Найперш – з кім мае справу.

Пачалася доўгая напорыстая размова – і што, і дзе, і чым займаўся дагэтуль, пра заробкі і грошы, і як справы ў сям’і. Шпак пытаўся пра ўсё, а той, з задняга сядзеньня, усё маўчаў ды пільна, неяк нават адчужана слухаў. Ступак адказваў скупа, зусім не хацелася яму ва

ўсім раскрывацца перад колішнім сябрам ды гэтым незнаёмым, і ён усё думаў: куды Шпак гне? Ужо ці не пранюхалі яны пра ягоны намер? Мабыць жа, не адна толькі цікаўнасьць была ў галаве сябра, нешта ж ён меў болей важнае.

Так яно і сталася. Скурыўшы па тры ці чатыры "Мальбара", якімі гасьцінна частаваў, Шпак нарэшце прыступіў да галоўнага.

– Слухай, ёсьць прапанова паслужыць. Ты таго варты. А што – афганец, ветэран і так далей. Узнагароджаны баявым ордэнам за выкананьне інтэрнацыянальнага доўгу...

Далей Ступак слухаў кепска, з першых жа словаў ён быў агаломшаны – паслужыць? Каму? Але каму – можна было здагадацца. І тут у ягоную галаву шыбанула рызыковая думка: а што? Можа, і добра. Можа, гэта менавіта тое, што яму трэба.

– Дык гэта... Ладна.

– Во і добра! Лічы, папярэдне дамовіліся. А цяпер чакай, мы паклічам.

Давайце, клічце, зласьліва думаў Ступак, ідучы да свайго гаражу. Мабыць жа, дасьцё зброю, што мне і трэба. Залічайце ў АМАП.

Шэраг наступных дзён мінуў у напружаным, доўгім чаканьні. Звычайна Ступак сядзеў ці ляжаў у гаражы за прычыненымі дзьвярыма, праз шчыліну ўвесь час пазіраючы на падворак – ці не паявіцца там зноў Шпак. Мусіць жа, павінны быў паявіцца, паклікаць ці што сказаць. Пра які адмысловы спосаб зносінаў яны не дамаўляліся, і Ступак думаў, што будзе скарыстаны ранейшы. Аднак ішоў час, беглі дні і ночы, а Шпак не паяўляўся, і ніхто ад яго не паяўляўся таксама. Можа, яны там перадумалі, пачаў сумнявацца Ступак.

Ён ужо не хацеў, каб перадумвалі, ён пагадзіўся, наважыўся, бо зразумеў, што тое – найлепшы для яго

варыянт. Можна сказаць, яму здорава пашэнціла, абы толькі ўдалося. Каб толькі не разьнюхалі пра ягоны ўдзел у шэсьці, у той летняй дэмакратычнай акцыі, ці як яна там у іх называецца. Але пакуль што пра тое не было ніякага знаку, і ён думаў: можа, і абыдзецца. Горш, што зусім канчаліся грошы, якія Ступак неяк міжволі перастаў эканоміць і пачаў выдаткоўваць тым болей, чым менш іх заставалася. Ён купіў ладную качалку каўбасы, памідораў, нават пластыкавую пляшку алею і еў спадцішка з табурэткі ў гаражы. Думаў, купляць аўтамат, можа, не спатрэбіцца – дадуць казённы, і то будзе для яго эканомія, можна на харчы не скупіцца. Пад’есьці сёньня і заўтра. А далей будзе відаць.

Неяк у дажджлівы выхадны дзень ягоныя гаражнікі не паехалі на дачы, сышліся да сваіх “коней”, як казаў Плешка. Сазон Іванавіч меў маленькі аўтамабільны тэлевізар, які падключыў да акумулятара, і той зранку трашчэў і рыпеў розныя рокі і рэпы. Сазон лаяў іх, але слухаў, можа таму, што іншага не перадавалі. Але вось загучаў дужа знаёмы голас, і Ступак выйшаў са свайго гаражу.

На багажніку Сазонавай “Волгі” мільгаў бляклы экранчык, на якім тапырыліся знаёмыя вусы самога, які то працінаў ястрабіным позіркам, калі казаў пра “вшывых блох” прадпрымальнікаў, то адорваў усіх усьмешыстай лагодай, як упамінаў самаадданых “тружаніц-жэншчын” або патрыятычную моладзь, што нібыта ішла гужом у свой нядаўна створаны лукамол. Пасьля ягоны голас і зусім перайшоў на выбачальны тон. Ступак прыслухаўся: то ўжо было цікава. Аказваецца, два журналісты з Расеі перайшлі мяжу – туды і назад, і цяпер сядзяць у турме. Сам разводзіў рукамі: ён бы і хацеў іх выпусьціць, ды ня мае права, усё павінны вырашыць суд; ён жа ня можа ўмешвацца ў справы правасуддзя. Такі бяспраўны начальнік...

– Берии, Ежова на них нет! – абураўся Сазон, што на нізкім услончыку перабіраў падшыпнік. Плешка таксама падышоў ад свайго гаражу і дабрадушна

зазначыў:

– А й на Берыю з Яжовым знайшлася ўправа.

То быў пэўны намёк, Сазон рэзка азірнуўся на суседа – ён быў абураны.

– Управа! А порядок был. Через границу как зайцы не бегали. Граница была на замке. А этим дали волю...

Тут усе ведалі, што Сазон быў з чэкістаў, гадоў з трыццаць праслужыў на мяжы, і гаражнікі, асабліва нябожчык Аляксееў дзед, клікалі яго Карацупам. Пасьля перасталі, як дазналіся, што ён разам з іншымі быў прыроўнены да ўдзельнікаў ВАВ (Вялікай айчыннай вайны). Раней і Ступак яму штось адказаў бы, але не цяпер: ён ня мог раскрывацца да часу. Тым болей, калі ў яго пачалася гэтая гульня.

– Але ж то рускія журналісты, – вёў сваё Плешка. – Дык як жа ты супроць рускіх?

– Я против националистов!

– Беларускіх? Ці і рускіх таксама?

Сазон на тое не адказаў нічога, толькі прабурчэў нешта. Мабыць, тое пытаньне было надта складанае для прасталінейнага і катэгарычнага памежніка, ушчэнт рускага па нацыянальнасьці.

Нарэшце грошы ў Ступака і зусім скончыліся, ён даеў у гаражы засохлы акраец хлеба і галадаў зранку. Пазычыць ужо не было ў каго, Плешку ён і без таго быў вінаваты дваццаць пяць тысячаў, Сазону, праўда, менш, але цяпер да Сазона ён не хацеў зьвяртацца. Заставалася папрасіць у маладога Аляксея, і Ступак зранку чакаў яго ў гаражы. Ды Аляксей штось не паяўляўся, можа куды зьехаў, думаў Ступак. Адлучыцца куды ў горад ён не адважваўся, чакаў, што павінен жа прыехацьшто павінен жа прыехаць да яго Шпак. Так і сядзеў да вечару галодны і дужа злосны – на сябе, на жыцьцё, на ўвесь белы сьвет.

На другі дзень, аднак, замест Аляксея ля гаражу паявілася Аляксеева жонка, худзенькая маленькая чарнушка, з малым сынком. Яна выглядала заплаканай і скупа паведаміла скрушную навіну:

– Алёшу зарыштавалі.

– Завошта?

– Ну, прыслалі павестку з пракуратуры, што выклікаюць як сьведку. Наконт таго мітынгу. Ён пайшоў і прапаў. Аказваецца, у пракуратуры і арыштавалі. Што цяпер рабіць? – сумна пыталася жонка.

Малы задуменна церабіў падол яе кароценькай, па модзе, сукенкі.

– Пусть не путается с бэнээфовцами, – сурово зазначыў Сазон.

– Нічога, ня плач, – суцяшаў Плешка. – У Хельсінскі камітэт трэба. Там добрая адвакатка ёсьць.

Ступак не сказаў нічога і, каб не цьвяліць душу, адышоўся ў цёмны кут свайго гаражу. Ён адчуваў, што ніхто ёй не паможа – ні Хельсінскі камітэт, ні адвакатка, ні нават сто адвакатаў: і суд, і закон былі ў ягоных руках, і ён сваю палітыку вёў, як хацеў, – напралом праз закон і права, па лёсах людзей, таптаў канстытуцыю і ўсе міжнародныя пагадненьні. Мабыць, зважыць ён толькі на сілу. Але дзе яна была, тая сіла? Дзе і адкуль было яе ўзяць? Цёмны забіты народ толькі і ведае глядзець у яго хітра-блатняцкія вочы і падтрымліваць, што ён ні скажа. Варта каму з замежжа заступіцца за бязьвінныя ахвяры, памагчы грашыма, як тут жа – разьюшаны вэрхал у газетах і на тэлебачаньні – змова, прошукі ЦРУ, прасоўваньне НАТА на ўсход. Недзе варушыцца жменька апазіцыі, самыя адважныя з якой ідуць на злом галавы, нявечаць жыцьцё сабе і сямейнікам. На што спадзявацца?

Можа, аднак, праз месяц пасьля шпаковага прыезду ўсё вакол Ступака раптам зьмянілася, – забурліла,

замітусілася, бы на пажары. Уранку, толькі ён пагаліўся перад кавалкам люстэрка, дужа забразгала гаражнай засаўкай жонка, якую паднялі з ложку. Ступак адчыніў дзьверы, і ўбачыў яе ў файным хатнім халаце, побач стаялі два ў камуфляжы, а ззаду чарнелася ўрадавая “волга”. Яго пасадзілі на задняе сядзеньне і моўчкі павезьлі кудысь па горадзе, затым – у загараддзе. Пасьля паволі між нейкіх дачных забудовак па лесе ці цераз парк, пад’ехалі да нейкага асабняку з калонамі. У Ступака ажно непрыемна заныла пад грудзямі – куды гэта яго? Ужо ці не пранюхалі што? Але, мабыць, яшчэ не пранюхалі, хоць па хмурых тварах яго спадарожнікаў і тых нямногіх, што траплялі насустрач, нічога нельга было заўважыць – так умелі хаваць усё ў сабе. Ці, можа, у іх не было нічога, – падумаў Ступак. Затое сыты, як і ў Шпака, твар нестарога яшчэ палкоўніка, да якога нарэшце яго прывялі, сьвяціўся лагодай і прыязнасьцю.

– Сядайце, таварыш прапаршчык, Ступак, здаецца? – папытаўся палкоўнік і для пэўнасьці зірнуў у паперку на стале. – Дык як жывяцё? Як здароўе?

– Нічога, – стрымана адказаў Ступак. Ён ужо ведаў, што гэтыя заўжды так пачынаюць гаворку – пра жыцьцё і здароўе, быццам тое іх дужа хвалюе.

Гаворка, аднак, выдалася доўгая – пра жыцьцё і пра палітыку, унутраную і зьнешнюю, камуністаў і дэмакратаў. Відаць па ўсім, палкоўнік быў чалавек гаваркі і меў процьму часу. Ступак болей слухаў, і калі палкоўнік пытаўся, сьціпла адказваў: так або не. Мусіць, яго суразмоўніка тое задавальняла. Як можна было зразумець, яго найбольш клапаціла стаўленьне Ступака да апазіцыі, якая “шалёна ірвецца да ўлады”. А таксама той факт, што “НАТА апантана прасоўваецца на ўсход”. Ступак нешта мармытаў у адказ, што мала разумеў сам, але думаў: “У труне я хацеў бачыць тое НАТА разам з табой”. Аднак услых не сказаў нічога, нават трохі пабойваўся, каб палкоўнік не адгадаў яго крамольнае думкі. Мабыць, аднак, не адгадаў, бо ў той час натхнёна апавядаў, як важна супрацьстаяць агрэсіі заходняга капіталу і ратаваць бацькаўшчыну. Што ён

разумеў пад тым словам – Беларусь, СНД ці ранейшы СССР, засталося невядома.

Далей Ступак паўдня праседзеў у асобным кабінеце – запаўняў анкеты. Гэтых было тры ці чатыры адразу, на некалькіх старонках, і ён аж спацеў, падрабязна адказваючы на дзясяткі пытаньняў – ад першага, пра імя, прозьвішча і імя па бацьку да імёнаў бацькоў, месца іх нараджэньня і сьмерці (дзе і калі памерлі, месцы пахаваньня і нумары магілаў). Жывога бацьку Ступак падрабязна атэставаў як партызана і ўзнагароджанага, а маці... Яна памерла, калі ён быў у Афгане. Сястра Алена жыла пад Масквой, ды ён ня ведаў дзе, у якім горадзе (ні то ў Жукоўску, ні то ў Чарняхоўску) і думаў, як лепш напісаць? Ці калі ня ведаеш, дык не пісаць нічога? Але тады могуць прыдрацца, што ўтаіў. І ён напісаў першае, што прыйшло ў галаву: горад Зеленагорск, вуліца Касманаўтаў, 10, кв. 20.

Пасьля ў іншым кабінеце афармляў падпіску аб строгай сакрэтнасьці – гэта ўжо было, як ён здагадаўся, па лініі бясьпекі. Хоць і прымаў яе лысаваты чалавек у модным двухбортным пінжаку з дужа акуратна завязаным гальштукам, важнасьці было нават больш, чым у кабінеце палкоўніка. Неяк вельмі стрымана, нібы выпрабоўваючы ягоную рэакцыю, чалавек вымавіў яму ў твар адно толькі слова “Музыкант”, і Ступак зразумеў усё. Некалі гэтую мянушку прыляпілі да яго таксама ў дужа сакрэтным аддзеле перад адпраўкай у Афган. З тае пары, праўда, ніхто яму пра яе не напамінаў, і ён ужо думаў: забыліся. Аж не, не забыліся. Зрэшты, цяпер ад яго нічога не патрабавалася, а гуляць з імі ў тыя сакрэтныя гулі ўвогуле было няцяжка, хай пацешацца. І ён усё падпісаў.

Мусіць, да паўдня, аднак, усе паперы былі аформленыя, якія забрала ў яго прыгожая, у міліцэйскай форме дзяўчына з дужа суровым позіркам і дзьвюма зоркамі на пагонах. У апошні момант ён нават падміргнуў ёй, ды тая не павяла і брывом, склала ягоныя паперы ў шыкоўную зялёную папку і замкнула ў шэры сейф у кутку. Значыць, будзе захоўвацца вечна і сакрэтна,

падумаў Ступак. Пасьля ўжо іншы, белабрысы міліцэйскі сяржант павёз яго кудысьці ў горад. Спакваля Ступак пачаў пазнавацьМУС. “Гэта навошта?” – спытаў Ступак. “А медкамісія! – проста і дабразычліва адказаў белабрысы шафёр і хіхікнуў: – Праверка на СНІД”.

Тое ўжо мала Ступаку падабалася, хутчэй – не падабалася зусім. На якога д’ябла! – думаў ён, губляючы трываньне ад гэтага падрабязнага дасьледваньня ягонай асобы. Што ён ім будзе служыць? У яго іншая мэта, яму б толькі дапяцца да зброі. Мабыць жа, дадуць якога “Сьцечкіна” ці “Калашнікава”, і ён падловіць момант. Ягонае здароўе яго мала цікавіла, хай не цікавіць яно і гэтых.

Але гэтых якраз дужа цікавіла. Да цямна яго вадзілі з кабінету ў кабінет, з паверху на паверх, – слухалі, мацалі, вымервалі на апаратуры, высьвечвалі ягоныя вантробы на мільготкіх маніторах. Але ўсё было ў норме, ціск жа, сказалі, бы ў юнака, і яго пахвалілі. “Алкаголь ужываеце? – папытаўся строгі доктар, на плячах пад халатам якога муляли цьвярдыя пагоны. Ступак з наіўным выглядам пакруціў галавой: “Ну што вы!” Трохі затрымаў на ім свой пранізьлівы позірк хірург, як убачыў сіняватую адмеціну на плячы. “Што – агнястрэльная?” – “Афган”, – коратка адказаў Ступак. “А то – ушыб?” – даволі груба памацаў ён сьлед ад нядаўняй амапаўскай палкі. “Упаў...” – “Па п’янцы?” – ухмыльнуўся доктар, штось разумеючы. Ступак тое пакінуў без адказу – здаецца, яны і так паразумеліся. Далей была кардыяграма з правадамі, якія аблыталі ягоныя рукі і ногі, акуліст са сваёй табліцай на сьцяне і ў канцы дзіўнаватая гаворка з псіхіятарам. Адзінае, што з яе запомніў Ступак, былі прыдзірлівыя пытаньні пра выпіўку і наркоту. І тое, і іншае Ступак рашуча адмаўляў, сказаў, што ніколі ні-ні, успамінаючы пры тым, як у тым жа Афгане, і неаднойчы, яны добра-такі кайфавалі анашой. Шкада, пасьля кінуў. Каб ня кінуў, можа б, лепей было, нечакана падумаў ён, седзячы перад хітраванам-псіхіятарам. Здаецца, стан ягонага здароўя іх задаволіў. Яго тым болей.

Да свайго гаражу ён прыплёўся, калі ўжо сьцямнела, побач на падворку ўгары сьвяціўся ліхтар, сьвяціліся вокны ў хрушчоўках. Ведаў, цяпер там усе ўтаропіліся ў свае зіхоткія скрынкі – хто на музычныя шоу, крывулякі-танцуляк са шнурамі ў руках, а болей, мусіць, на чарговы нумар самога. Амаль кожны вечар той выступаў са сваім гіпнозам – то пагрозьліва-строга, калі гаварыў пра апазіцыю, якая мае ад ЦРУ заданьне яго зьнішчыць, то шчодра адорваючы ўсіх белазубай усьмешкай з-пад шыкоўных вусоў, калі зьвяртаўся да гледачоў. Асабліва глядачак, якіх ён часьцяком на прамілы Бог прасіў падтрымаць яго ў сьвятой барацьбе за дабрабыт народу. Слухаючы яго лісьлівыя звароты, жанчыны былі гатовыя на што хочаш, – з такімі просьбамі да іх ніхто раней не зьвяртаўся. Тым болей з вялікіх начальнікаў, не памінаючы ўжо ўласных мужоў, якія даўно не прызнавалі нічога ў жыцьці, апроч бутэлькі. Мужчыны не любілі палітыку, якая цікавіла іх усё меней, чым горш жылося. Затое яна ўсё болей захапляла жанчын, асабліва з тае прычыны, што ў ёй верхаводзіў ён – такі выбітны, прывабны, амаль нежанаты, які ўвасабляў недасяжныя жаночыя мары аб мужчыне-кавалеру, мужчыне-лідэру. І тым вабіў.

Ну, але засталося нядоўга.

Так думаў Ступак, зласьліва чакаючы, калі яго паклічуць зноў. Павінны ж урэшце паклікаць, ён ужо прагнуў таго. Хоць бы таму, што ежы не было зусім, два дні таму пазычыў пару тысячаў у былога суседа па кватэры, якога падпільнаваў у двары. Перш чым выняць яму паперку, сусед добра паплакаўся, наракаючы на жыцьцё, малую пенсію, лайдачку дачку, якая ня хоча працаваць і звыкла жыць на ягоную пенсію. Ступак суцешыў яго, што хутка атрымае зарплату і разьлічыцца. І апусьціў долу вочы, бо глядзець на старога было няёмка.

На гэты раз да яго завітаў сам Шпак, на тым самым вішнёвага колеру “Пежо”, у камуфляжы, але ўжо з пагонамі маёра на шырокіх плячах. “Хутка, аднак, у іх растуць кадры!” – з нечаканай зайздрасьцю падумаў

Ступак, сядаючы поруч з колішнім калегам-прапаршчыкам. Гэты маёр пачаў распавядаць яму, як шмат даводзіцца працаваць (работа ж не нармаваная), як тлумна і небясьпечна, хоць ганарова і адказна. “А зарплата як?” – стрымана папытаўся Ступак пра тое, што яго цяпер найболей цікавіла. “Зарплата ніштo. Табе такой і ня сьнілася, – сказаў Шпак. – Напачатку тры мільёны, ну пад’ёмныя і так далей. Не пашкадуеш”.

Ступак унутрана парадаваўся, хоць і не падаў знаку, ды папраўдзе і слаба паверыў, прыпамятаўшы дацэнта Мінкевіча з яго шасьцюдзесяцьцю мільёнамі. Можа, маёр Шпак і атрымлівае тры мільёны, а ён жа прапаршчык...

– Пакуль будзеш жыць у афіцэрскай гасьцініцы. А там пабачым, – сказаў Шпак, як яны пад’ехалі да чарговай бетоннай сьцяны з прахадной і шлагбаўмам.

Тут, аднак, аказалася амапаўская база ці што. Некалькі гадзінаў Ступак з такімі, як сам, навічкамі, маладымі хлопцамі са сьвежымі ружовымі тварамі, абмундзіроўваўся на забітым скрынкамі ды цюкамі рэчавым складзе. Яму выдалі цэлую кучу абмундзіроўкі – зялёную і стракатую, колеру сьмецьця, сьвяточную і паўсядзённую, моцныя грубыя чаравікі, пілотку і берэт, цёплую куртку і цяльняшкі – аж тры штукі. І нават добры шкумат бязі – на каўнерыкі. Як у войску. Толькі ў войску так шмат ніколі не давалі, эканомілі. Хлопцам, што пераапраналіся з ім разам, дужа спадабаліся дзягі. “Афіцэрскія”, – з захапленьнем сказаў адзін, трохі старэйшы за астатніх. Дзягі сапраўды былі адмысловыя, з таўстой, прашытай скуры пры ладных спражках, ня тое што з металічнымі бляхамі ў войску. Ступак пераапрануўся ў новае, са сьвежым прыемным пахам; свае сьмярдзючыя трусы, азірнуўшыся, піхнуў у бляшаную урну, і яго павялі цераз падворак у афіцэрскую гасьцініцу.

Першы раз за лета ён з асалодай распрастаўся на чыстай новай прасьціне, уладкаваў схуднелыя плечы на ладнай падушцы. Заўтра сказалі падстрыгчыся, – хай, ён падстрыжэцца. І яшчэ, сказалі, вусы можна не

збрываць, тут паважаюць вусатых. Другі ложак у пакоі быў акуратна засланы, мабыць, кагосьці чакаў. Можа, таксама новенькага.

Служба пашыралася, камплектавалася, дасканалілася, – як і мае быць пры моцнай уладзе. Цікава было Ступаку другі раз перажываць тое, што ўжо было перажыта ў яго вайсковым юнацтве, у Афгане і пасьля.

Дэмабілізаваўшыся сем гадоў таму, думаў, што перажытое ніколі ўжо не паўторыцца. Аж во, абяцала паўтарыцца, хоць і на іншым вітку жыцьця.

Але дужа падобным. Як да таго трэба паставіцца, часам ён пераставаў разумець. Адно адчуваў, што будзе сыты, дагледжаны, а там... А там пабачым, як яно будзе, думаў Ступак.

Збылося амаль так, як ён меркаваў. Назаўтра ён добра пасьнедаў на першым паверсе ў амапаўскай сталоўцы, зьеў пару катлетаў з гарнірам макаронную запяканку, выпіў шклянку ражанкі і яшчэ – салодкай гарбаты. Бы на курорце ці ў доме адпачынку. Навакол з куды меншым, чым у яго, апетытам сьнедалі за сталамі іншыя амапаўцы, маладыя хлопцы з сяржанцкімі пагонамі на плячах. У яго пагонаў яшчэ не было, і ён трохі турбаваўся з тае прычыны. Усё ж у войску ці ў міліцыі ўсе павінны былі мець пагоны, якія і вырашалі статус кожнага. Без пагонаў ты ніхто. Проста цывільны чалавек – ня болей.

Той і наступныя два дні былі заняткі – у класах і на плацы, як некалі ў войску. Хіба што, апроч тэорыі, іх вучылі нейкай дзівоснай практыцы – як адбіваць напады дэманстрантаў, нападаць самім, строіцца і перастройвацца ў шчыльныя шэрагі. Вывучалі таксама ўласьцівасьці розных сьлезацечных і баявых газаў – у балончыках, дымавых шашках, гранатах. У праграме таксама значыліся найноўшыя сакрэтныя сродкі барацьбы з тэрарыстамі, экстрэмістамі і радыкаламі. Ступак слухаў усё ня надта ўважна, бы ў сьне; будова і ўласьцівасьці хімічных сродкаў яго ня дужа цікавілі, яго цікавіла зброя. Але пра зброю чамусьці гаворкі пакуль

не было.

Пасьля ён зразумеў, чаму не было.

Мабыць, усе гэтыя хлопцы-амапаўцы, хто раней, хто пазьней, служылі ў войску і вайсковую зброю ведалі, стралялі ня раз з АК і кулямётаў – то не было для іх навіной. Ім жа тут рыхтавалі нейкую навіну, і яны чакалі яе.

Але аднойчы, яшчэ бяззбройных, іх паднялі па трывозе на золку, загадалі разабраць баявое снаражэньне – белыя шчыты, шлемы, надзець цяжкія бронекамізэлькі, пабраць палкі і – хутчэй на пасадку ў “Камазы”. Яшчэ цалкам не разьвіднела, яны кудысь ехалі, спыняліся, паварочвалі назад, бы стараючыся заблытаць ворага, і толькі гадзінаў у дзесяць выгрузіліся каля рэзідэнцыі самога. Тут ужо быў маёр Шпак, куча іншых маёраў ды палкоўнікаў; амапаўцаў выстраілі ў тры шэрагі ўпоперак вуліцы – якраз, як тады, улетку, калі ён трапіў у перадзелку. Як бы ня трапіць зноў, засьцярожліва падумаў Ступак, апынуўшыся ў пярэднім шэрагу. Як і ўсе, ён стаяў плячо да пляча з суседзямі, маладымі хлопцамі, трымаючы ля ног лёгкі дзюралевы шчыт, з гумовым “дэмакратызатарам” у правай руцэ. Рука і плячо амаль перасталі балець, і ён, каб упэўніцца ў тым, трохі памахаў над сабой палкай і сьцішыўся. Нейкі час на вуліцы было амаль пуста, рух транспарту спыніўся, прасьпект перакрылі з абодвух бакоў. Увогуле навакол было спакойна і ціха, калі б не трывожная ўзьвінчанасьць начальства, якое, бы ўгарэлае, насілася перад амапаўцамі; некаторыя бегалі да чорнай “волгі”, што прытулілася да будынку ззаду. Усе чакалі.

Гадзіны пасьля дзясятай здаля на вуліцы паявіліся дэманстранты. Сьпярша сталі відаць над іх галовамі бел-чырвона-белыя сьцягі на высокіх лёгкіх шастках, плакаты; пасьля – і пярэднія шэрагі з маладых мужчынаў і дзяўчатаў, што з песьнямі нетаропка ішлі па прасьпекце. Некаторыя вялі за рукі дзяцей. Ступак спрабаваў зразумець, колькі іх там было, вызначыць хоць прыблізна, ды ня здолеў. Было надта шмат. Тысячы. Згледзеўшы перашкоду ўпоперак прасьпекту,

дэманстранты жвавей замахалі сьцягамі, данесьліся крыкі “Ганьба!”, “Здраднікі!”, “Гестапа!” Хтосьці з начальства вёртка крутануўся перад шэрагамі. “Яны нас абражаюць!” – прарэзьлівым голасам крыкнуў да амапаўцаў. Ступак унутрана хмыкнуў, пераборваючы, аднак, лёгкі страхавіты подых з прасьпекту. Усё ж рабілася ніякавата. Мусіць, стычкі ім не пазьбегнуць, як бы ня сталася горш, чым улетку. У той час ззаду прагучала каманда, усе ў шэрагу апусьцілі на твары празрыстыя ахоўныя казыркі – падрыхтаваліся. Дэманстранты тым часам падышлі бліжэй, добра сталі відаць пярэднія – маладыя мужчыны, хлопцы і дзяўчаты, што, пабраўшыся за рукі, як і раней, нясьпешна падыходзілі ўсё бліжэй. На самай сярэдзіне калоны пад вялізным крыжастым штандарам крочыў высокі хударлявы чалавек з лысаватай галавой і туга сьцятымі пашчэнкамі. То быў знакаміты Зянон, яго Ступак неяк бачыў вясной на мітынгу. Калі яны падышлі яшчэ бліжэй, ззаду за АМАПАм зноў гыркнула каманда, і ўсе тры амапаўскія шэрагі ўзарваліся жалезным грукатам, які заглушыў усю вуліцу. Ступак разам з усімі шалёна лупіў па шчыце гумоваю палкай і ўнутрана пасьміхаўся з дэманстрантаў. Спалохаліся ці не, было невядома, але, падышоўшы яшчэ бліжэй, шэсьце спынілася. Наперад з мегафонам у руках выйшаў Зянон.

– Спадары паліцыянты! – магутна прагучала з мегафону і тут жа заглохла ў яшчэ болей шалёным грукаце АМАПу.

Так лідэр БНФ некалькі разоў спрабаваў зьвярнуцца да АМАПу, ды той не хацеў яго слухаць. Тады з нястройных пярэдніх шэрагаў дэманстрантаў, на якія напіралі заднія, пачалі выскокваць асобныя людзі, маладыя хлопцы, махаючы рукамі, спрабавалі нешта даводзіць амапаўцам. Зянон кінуўся да іх, каб спыніць і вярнуць назад у шэрагі, якія ўжо зьмяшаліся ў стракаты крыклівы натоўп, што пераставаў каму-небудзь падпарадкоўвацца. Заднія напіралі на пярэдніх, некаторыя на правым флянзе ўжо сутыкнуліся з амапаўцамі. Пачуліся крыкі, праз момант шэрагі

дэманстрантаў зусім разбурыліся, іхні фланг перамяшаўся з амапаўскім. Грукат палкамі па шчытах неяк паволі спыніўся – усчынаўся стыхійны гвалт. Туды, налева, кінуліся начальнікі з мегафонамі, загучалі іхнія пагрозьлівыя каманды і лаянка. Там жа Ступак неўзабаве згледзеў крутаплечую постаць Шпака, які таксама шчыраваў – крычаў, камандаваў, пагражаў. Некалькі хлопцаў з плакатамі і сьцягамі амапаўцы захапілі ў свой ланцуг, але тады дэманстранты пачалі іх лупіць тым, што трымалі ў руках. Амапаўцы не саступалі, хоць і стараліся трымаць свае месца, каб ня зрушыць строй. Але тое кепска ім удавалася – у некалькіх месцах шэрагі скрывіліся, група амапаўцаў сама апынулася ў атачэньні дэманстрантаў. Некалькі дэманстрантаў, адлучаных ад асноўнай масы, амапаўцы ціснулі да сьцяны будынку, а тыя не здаваліся. На сярэдзіну шэрагу сцягам шаснуў над ім, мусіць цаляючы ў задняга за ім амапаўца. Выпусьціўшы палку, Ступак ухапіў рукой за лёгкую палатніну сьцяга і рвануў уніз, тканіна адарвалася на палову ад дрэўка. Другім рыўком ён адарваў яе ўсю і ўхапіў сваю палку.

Стычка далей, аднак, не пайшла, мусіць Зянон дакрычаўся ўрэшце да сваіх хлопцаў, і тыя спакваля адхлынулі. Некалькіх усё ж ухапілі міліцыянты і амапаўцы. Астатнія адышліся, пачалі паварочваць па прасьпекце назад, – здаецца, яны мянялі маршрут руху на іншы. Амапаўцы, пастаяўшы трохі, сышліся па камандзе ў гурт і, перакурыўшы, пасядалі ў свае “камазы”. Ступак патроху стаў спакайнець, яўная небясьпека мінулася, але на душы было амаль што паскудна. Было такое адчуваньне, што ён улез не туды. Хаця што ён зрабіў – толькі пастаяў у страі. Нават нікога ня выцяў ні разу.

Праз дзень, аднак, тое пачуцьцё мінулася. Ён атрымаў пад’ёмныя – аж дзевяць мільёнаў “зайцоў” і перад строем – пагоны з дзьвюма зоркамі – стаў лейтэнантам. Палкоўнік, начальнік штаба, аб’явіў яму падзяку за “ўзорныя дзеяньні па адбіцьці нападу экстрэмістаў” і сказаў, што лейтэнант Ступак будзе камандваць узводам. Што ж, узвод – справа няхітрая, ён у Афгане

ўжо камандаваў узводам, хоць тады быў яшчэ старшы сяржант. Пачуваючы, як ва ўнутраных кішэнях муляла па дзьве тугія пачкі купюраў, зласьліва падумаў пра жонку, якая наўрад ці дачакалася такога набытку ад свайго гендырэктара. А ён во, займеў! Тады ж падумаў, што, мабыць, дарма прадаў гараж, які вельмі нават можа спатрэбіцца. Хоць зусім не прадаў, а задатак як-небудзь верне. Калі да таго часу Валынец ня сядзе ў турму. Ці яго не падстрэляць у пад’езьдзе. Шкада, але што ж, значыцца, такі яго лёс. У кожнага свой лёс. Пра свой прывязьлівы страхавіты намер ён успамінаў усё радзей, таго вымагалі штодзённыя клопаты. Зноў жа зброі ім усё не давалі, выпрабоўвалі ці што?

Ну і чорт з імі, думаў Ступак, што яму зброя? Ці ён не настраляўся ў Афгане? Ён ужо пачаў думаць, каб яе не давалі як мага даўжэй, хоць бы месяцы два, каб ён параскашаваў на міліцэйскіх харчах, адляжаўся на белых прасьцінах. А то яшчэ і прыдбаў кватэру. На вечаровай бяседзе з асабовым складам палкоўнік сказаў, што афіцэрам дадуць кватэры ці палепшаць старыя – будуецца дом у прэстыжным раёне, блізка ад станцыі метро. Нехта спытаў: дык то ж для творчай інтэлігенцыі, як пісалі ў газетах. На тое палкоўнік адказаў: так, для творчай інтэлігенцыі. Дзесяць кватэр пісьменьнікам, а трыццаць пяць нам. Мы ў большай павазе, чым п’янтосы-пісьменьнікі, якія наскрозь бэнээфаўцы. Што ж, займець сваю кватэру бяз гэтай свалаты Людкі было дужа зманліва, думаў Ступак. Каб яшчэ і прыдбаць іншамарку, такую, як у Шпака. А што, ці ён не заслужыў? Хоць у Афгане.

Па вечарах у чырвоным кутку, як у іх называлася вялікая вуглавая зала, працаваў тэлевізар, перад якім, звычайна, сядзелі амапаўцы. Збольшага цікавіліся маскоўскімі шоу, сьпевакамі, сьпявачкамі, менш навінамі спорту. Але ў пэўны час тэлевізар пераключалі на мясцовы канал, і тады ўсе сьціхалі, глядзелі і слухалі самога. Ступак слухаў таксама, і надзіва цяпер і выступ, і жэсты, і аблічча самога не выклікала ў яго ранейшага зласьлівага пачуцьця, хіба адно – абыякавасьць. Пра свой ранейшы намер ён стараўся ня думаць, няпэўна

казаў сабе ў думках: пабачым. Пажывем, пабачым, як яно будзе.

Неяк у выходны ён рашыў завітаць на сваю хрушчоўку. Трэба было забраць партбілет (сказалі, што будзе добра, калі ён адновіцца ў кампартыі. У якой з дзьвюх – то яго асабістая справа). А галоўнае, яму трэба быў ордэн, які валяўся дзесь у жончынай шафе. Добра, жонкі не было дома, была толькі дачка, яна паказала шафу, што цяпер стаяла ў прыхожай, а ўся гасьцёўня была цесна застаўленая новымі столікамі і крэсламі ад шыкоўнага нямецкага гарнітуру. Дачка без вялікай радасьці ад спатканьня з бацькам пахвалілася, што маці – ужо дырэктар банку. Ступак ціха пазайздросьціў жонцы, – значыць, ня ўсім кепска, ёсьць людзі, якім і цяпер шанцуе. Доўга не затрымліваючыся ў кватэры, ён знайшоў усё, што трэба было, і, выйшаўшы з пад’езду, павярнуў да гаражоў пад ліпамі. Тут яго першым згледзеў сівагаловы Сазон, дужа зьдзівіўся ягонай уніформе. Пазяхаючы бяззубым ротам, усё аглядаў яго з галавы да ног і захапляўся:

– Вот и я когда-то... Такой молодой, подтянутый...

Вылез з-пад свайго “запарожца” Плешка, стрымана павітаўся.

– Глядзі ты – лейтэнант міліцыі! А нам і не сказаў нічога, усё ў сакрэце. І колькі плоцяць?

Ступак яму не адказаў, сапраўды, хай будзе ў сакрэце. Зноў жа, пра тое ён нядаўна даваў падпіску, – ня мог прыпамятаць, каторую за нядоўгі час. Значыць, трэба было маўчаць.

– А дзе Аляксей? – папытаўся ён, згледзеўшы два замкі на жалезных дзьвярах былога суседа.

– Гэ, Аляксей! Аляксей зьехаў, – сказаў Плешка.

– Куды зьехаў?

– Нам не сказаў. У Нямеччыну ці далей. Можа, у Ізраіль.

– Як у Ізраіль? – зьдзівіўся Ступак, – Ён жа беларус.

– Он-то белорус. А вот жена – довольно сомнительных кровей, – туманна растлумачыў Сазон.

Ступак прамаўчаў. Яму было шкада Аляксея, які колісь яго ўратаваў. Каб на паўхвіліны пазьней – яго б ужо не было тут. Ні тут, ні ў АМАПе, падумаў Ступак. І гэтыя дзядкі не дзівіліся б з яго камуфляжу. Зрэшты, можа і добра Аляксею. Каб у яго, Ступака, жонка была не беларуска, ён бы таксама зьехаў. У Ізраіль ці хоць да д’ябла. А так во трапіў на службу, прадаў д’яблу душу.

Але, можа, так яшчэ і лепей.

Таго ж дня ўвечары, толькі ён вярнуўся з гораду, як дзяжурны сказаў, што яго выклікае падпалкоўнік Шпак. Ступак трохі падзівіўся: чаму падпалкоўнік? Нядаўна яшчэ быў маёр, а цяпер падпалкоўнік, ці не наблытаў дзяжурны? Але не наблытаў. У штабе яго сапраўды чакаў колішні калега, у якога цяпер на пагонах блішчэлі дзьве вялікія зоркі, – Лейтэнант Ступак, загадана забраць рэчы і да штаба. Праз паўгадзіны ад’езд.

– Куды? – вырвалася ў Ступака.

– Да іншага месца службы.

Вось табе і на – ужо і да іншага. Трэба было зьдзівіцца, але Ступак перастаў ужо тут зьдзіўляцца. Афіцэры абступілі Шпака, а ён пайшоў у гасьцініцу, сабраў сваё небагатае майно. Праз паўгадзіны яго ўжо везьлі ў закрытым “Урале” кудысь за горад. У кузаве побач сядзелі яшчэ тры чалавекі – усе з іхняга АМАПу. Але яны былі мала знаёмыя Ступаку, і ён маўчаў. Неўзабаве, аднак, машына спынілася, яны вылезьлі. Вакол у вечаровым прыцемку стаялі высачэзныя хвоі, і пад імі мясьціліся шырокія нізкія будыніны – дачы. То была, як ён здагадаўся, старая ўрадавая рэзідэнцыя, куды іх прывезьлі, каб папоўніць асабістую ахову самога. “Во папаў!” – зноў падзівіўся Ступак, яшчэ ня ведаючы, радавацца з тае нагоды ці засмучацца. Аднак

зьнешне ён не выказваў нічога, толькі слухаў і выконваў усё, што загадвалі, ішоў, куды вялі. Зноў былі анкеты, падпіскі, нават подпіс строгай таемнай прысягі. Усё тое ён рабіў, бы машынальна, бы які бязвольны зомбі; свой даўні намер засунуў углыб памяці і нават трохі трывожыўся, каб яго не заўважылі.

Праз дзён колькі, аднак, давялося парадавацца, як іх тут узбройвалі, чаго ён не дачакаўся ў АМАПе. І не якімі хвалёнымі качэргамі АК, што адбівалі плячо пры стральбе і нямала заміналі на маршы, а новенькімі карацелькамі “Узі”. Дужа спрытныя выдаліся аўтамацікі, бы самі прасіліся ў рукі і зусім не заміналі – хоць на плячы, хоць на грудзях. Б’юць, казалі, за дваццаць крокаў у вераб’я пры нулявым расьсейваньні. Ступак старанна выцер з варанёнага металу лішак негустой змазкі, рукамі паважыў у сабраным стане. Ён быў задаволены. Можа, спатрэбіцца.

Клопату ў гэтым бары было, аднак, няшмат, некаторыя групамі кудысь езьдзілі, вярталіся і маўчалі.

Палітапрацоўка, як заўважыў Ступак, вялася ў інтэнсіўным тэмпе, рэгулярна, калектыўна і індывідуальна. Удзень і асабліва ўвечары заўжды па адным кудысь выклікалі, штось высьвятлялі, з іншымі доўга гутарылі. Так старанна не апрацоўвалі нават нампаліты ў войску. Ну, але тут было ня войска і нават не АМАП. Бяры вышэй. Яны – эліта бясьпекі, як сказаў новы палкоўнік, самыя з самых. Асабістая ахова. Хаця таго, каго ім належала ахоўваць і абараняць “вплоть до пожертвования собственной жизнью”, яны нават ня бачылі. Ні зблізку, ні здаля. Адчувалі, што ён недзе тут побач, у гэтых дамоўках-дачах між хвояў, але дзе канкрэтна – ня ведаў ніхто. І ніхто пра тое ні ў каго не пытаўся, – было забаронена. Наогул гэта было падразьдзяленьне маўчуноў. Яны маўчалі з начальствам, маўчалі ў страі, маўчалі ў сталоўцы і на адпачынку. Тое маўчаньне часам пачынала прыгнятаць, але Ступак думаў: хай! Ужо ён чагось дачакаецца. Кепска, што не было як выпіць. Пры тым, што грошай ужо набралася поўныя кішэні, некалькі пачак “зайцоў”

ён пакінуў у тумбачцы, захінуў газетай. І ніхто іх ня ўкраў. Мусіць, грошай у іх хапала. Затое не хапала часу, каб іх рэалізаваць, ізаляцыя была адмысловай. Бы ў турме. Мабыць, то была іхняя плата за сыты дабрабыт і няпыльную працу. Плата воляй. Але што зробіш – на гэтым сьвеце за ўсё трэба плаціць. Заплоціць і ён.

Аднойчы ўранку іх пастроілі ў спортзале, усіх чалавек трыццаць, што складалі цяпер ядро групы “Альфа”, як іх ужо назвалі. Казалі, што пакуль трыццаць, але будзе трыста, бо трэба мацаваць шчыт і меч кіраўніка дзяржавы. На тым пастраеньні з самага пачатку былі ці ня ўсе іхнія начальнікі разам з галоўным палкоўнікам – мажным бугаём, што зьверху форменнага кіцеля насіў скуранае паліто – дзеля маскіроўкі. Зрэшты, так тут хадзіў не адзін ён, а і яшчэ некаторыя, таксама маскіраваліся ці што? Яны можа, з гадзіну прастаялі ў страі, начальнікі ўсё аглядалі выпраўку і падкаўнерыкі, і чысьціню абутку, і ці ўсе добра паголеныя. Ніхто не казаў нічога, але яны пачалі здагадвацца, ці не зьявіцца да іх сам?

І сапраўды – тоўсты грымнуў каманду, і з галоўнага ўваходу зьявіўся ён. На той раз ён таксама быў у камуфляжы, новенькім, акуратным, які добра дапасаваўся да яго рослай спартыўнай постаці. Нягучным, нейкім цеплаватым, амаль хатнім голасам ён дазволіў “вольна” і падышоў да правага флангу, дзе стаялі самыя даўгалыгія, фізічна найболей накачаныя хлопцы, пачаў з усімі вітацца за руку. То было штосьці новае, – каб вялікі начальнік вітаўся з кожным у страі паасобку. Яны ўсе, бы зачараваныя, утрапёна ўзіраліся ў ягоны хітравата-ўсьмешысты твар, у якім цяпер не было і сьледу ад яго нядаўняй тэлевізійнай суровасьці – была толькі цеплыня і спагада. Калі чарга дайшла да Ступака, здалося: ён з нейкім асаблівым пачуцьцём зірнуў у ступаковы вочы, быццам пранікаючы ў самую глыб душы. Поціск рукі быў дужы, Ступак адказаў такім жа, і адчуў, што ён задаволены. Парукаліся, як мае быць, – па-мужчынску. Па-вайсковаму. Бо цяпер абодва былі вайскоўцы, хоць той і паходзіў з міліцыянтаў. Ды цяпер ужо і Ступак таксама.

Абышоўшы строй, ён выйшаў на сярэдзіну залы і пачаў гаварыць. Казаў нягучна, ціхім хрыплаватым голасам і, стоячы за пяць крокаў ад Ступака, здаўся яму зусім не маладым, хутчэй пажылым і стамлёным. А гаварыў пра тое, што дужа спадзяецца на сваю службу бясьпекі, да якой яны маюць гонар належаць, што яна – галоўная яго апора, для іх ён не пашкадуе нічога і будзе клапаціцца пра кожнага як родны бацька. Калі ў каго ёсьць якая патрэба, хай ідзе проста да яго і расказвае, – ён зробіць усё. Бо ён іх усіх любіць, як бацька любіць сыноў, што ў яго болей нікога няма, апроч іх, хлопцаў бясьпекі, ды яшчэ народу, які яго абраў на самы высокі пост. Што народ – галоўны ягоны клопат і галоўная любоў, асабліва такі народ, як наш, які вечна гаруе ў нэндзе, пакутуе праз усю гісторыю, што тое ён ведае як прафесіянал-гісторык. Што гэты народ заслугоўвае лепшае долі, чым тая, якую яму нарыхтавалі здраднікі-нацыяналісты, усе гэтыя пазьнякі, шарэцкія ды карпенкі, якія даўно запрадаліся ЦРУ ды іншым замежным сьпецслужбам і цяпер распрацоўваюць самыя хітравумныя планы, каб фізічна зьнішчыць яго і пакінуць сіратой любы беларускі народ. Таму вялікія спадзяванкі на іх – гонар ягонай бясьпекі, у руках якой ягонае жыцьцё і будучыня народу.

Ступак за жыцьцё нямала ўжо пераслухаў розных агітатараў-прапагандыстаў, у тым ліку і ў войску, і ніколі не ўспрымаў іх усур’ёз, заўжды слухаў хіба адным вухам. Не хацелася верыць і гэтаму. Але нейкая ўпартая сіла па-малу па-малу, усё ж дзейнічала на ягоную сьвядомасьць; напор і шчырасьць разважаньняў пачалі даходзіць да яго разуменьня. Найперш неяк бы міжволі само сабой хацелася ў тое паверыць. Так шчыра было ўсё сказана, што зьявілася спагадлівая думка: сапраўды, як нялёгка быць кіраўніком такога маштабу, як небясьпечна і адказна.

З гэткаю думкай-пачуцьцём Ступак і стаяў у страі, трошкі нібы задумаўшыся, як пачуў, што прамова перайшла на афганскую тэму, і аж скалануўся, як той, пазіраючы ў ягоны бок, прамовіў:

– Вон пусть скажет Саша Ступак, он участник, отмеченный наградами. Он на своих плечах вынес груз дружбы с братским афганским народом...

Пачуцьцё зьдзіўленьня кальнула Ступака – глядзі ты, ён ведае! Ведае пра Афган, нават называе яго па імені, чаго ў Ступака не здаралася нават у войску, нават у Афгане. Незвычайны, дзівосны чалавек, сумеўшыся, думаў Ступак. Не сказаць, аднак, каб тыя цёплыя словы ўзрадавалі яго, – зьбянтэжылі, гэта дакладна. І ён, задуменны, пайшоў у курылку, калі ўсё скончылася і строй распусьцілі. Ён нічога ня мог нікому сказаць пра сваё ўражаньне ад той сустрэчы, ды тут і ніхто не гаварыў пра яе нічога, усе зацята маўчалі, толькі пільней прыглядваліся адзін да аднаго, нібы выпрабоўваючы: ну што? Ну як? То былі толькі маўклівыя пытаньні без адказаў.

Нечакана надышоў момант, пра які Ступак столькі перадумаў калісьці, да якога ўвесь час міжволі рыхтаваўся. Здарылася, як і шмат што ў ягоным жыцьці, нечакана, зьнянацку, самым брутальным чынам.

Уранку, яшчэ да сьняданку, пад іхнюю лясную дамоўку падкацілі адразу тры чорныя “Ландроверы”, у якія порстка, бы мышы ў норы, шаснулі іх стракатыя постаці з новенькімі, яшчэ пахучымі ад змазкі “Узі”. Пад камандай незнаёмага падпалкоўніка ў скураным паліто хутка пад’ехалі да прахадной нумарнога заводу на гарадской ускраіне, які нядаўна яшчэ быў “паштоваю скрынкай”; адразу заехалі ў двор і выгрузіліся ля будынку заводакіраўніцтва. Тут жыва разьбегліся двума шэрагамі ўпоперак прыступак, утварыўшы нешырокі, але і ня вузкі калідор да дзьвярэй, і застылі. Іншыя, што прыехалі раней, былі ўжо ўнутры. Усе маўчалі, аднак Ступаку стала зразумела, што яны забясьпечвалі прыезд самога. Ступак вольна стаяў на другой аднізу прыступцы і думаў, што тое самае, што валодала ім гэтулькі часу, здаецца, урэшце наблізілася ўшчыльную. Урэшце ён дачакаўся магчымасьці, пра якую столькі перадумаў, да якой імкнуўся. Ражок аўтамата быў поўны патронаў, аўтамат на грудзях у поўнай

гатоўнасьці. Не хапала хіба апошняй кропкі рашучасьці. Але чаму? Хіба што-небудзь было ім няўцямлена, ці што зьявілася новае?

Нешта ўсё ж ён не пасьпеў дадумаць, каб канчаткова наважыцца, як да прыступкаў нечакана падляцеў адзін міліцэйскі “Мерседэс” з мігалкай, за ім другі такі ж самы. З іх борздка павыскоквалі людзі ў масках, разьбегліся непадалёк па завадскім наваколльлі. Тады падкаціў і трэці аўтамабіль, грузны, мабыць, браніраваны “Кадзілак”, з якога праз паслужліва расчыненыя дзьверы лёгка выскачыў ён. На гэты раз ён быў у цёмным, добра адпрасаваным гарнітуры, пры даўгім, да пупа, гальштуку; хуткім, амаль драпежным позіркам кінуў у адзін бок, у другі, мусіць, каб упэўніцца, што варта на месцы і ягоная ахова забясьпечаная. Ягоны цьвёрды, уладарны твар цяпер нёс няскрушную злую суровасьць. Тым самым прыдзірлівым позіркам ён акінуў абмерлую варту і, здалося, нібы спатыкнуўся на гэткай жа, як і ў яго, вусатай фізіяноміі Ступака. Ступак незнарок варухнуў кароценькай руляю аўтамату, міжволі скіроўваючы яе ўбок. Тады ж трывожна тузануліся ля пераносься русявыя бровы, але болей – нічога. Ступак абмёр, а той спружыніста скочыў цераз дзьве прыступкі вышэй і ўмомант апынуўся ля высокіх дзьвярэй, дзе яго чакала невялікая група ў цывільным і ў масках. Яны ўсе разам схаваліся ў памяшканьні. Ступак расслабіў свае напятыя мускулы і выдыхнуў.

Два шэрагі яшчэ працягвалі стаяць на прыступках, але ранейшае напружаньне мінулася, можна было разьняволіцца. Штосьці было не зразумела Ступаку, – чагось нават крыўдна, ды ён ня мог разабрацца, чаму? Можа, за сваё ранейшае, перажытое, а можа – за сёньняшняе – таго ён зразумець ня мог. Адно было пэўна – кілер з яго пакуль што не атрымаўся, і дзіўна, што тое цяпер пачало ім адчувацца, нібы палёгка. Нібы ён ўратаваў жыцьцё. Найперш, можа, сваё ўласнае. Магазін ягонага “Узі” застаўся цэлы, яго належала берагчы і прымяняць толькі ў крайнім выпадку. Але – дзе той крайні выпадак, і хто будзе вызначаць яго? Ужо,

мабыць, ня ён. З прыкрасьцю Ступак адчуваў, што неўпрыцям і назаўжды страчвае сваё асабістае права, якім ужо распараджаліся іншыя.

А ён што ж – ён мусіў чакаць і падпарадкоўвацца. І ён чакаў можа, з гадзіну ці болей, стоячы ўсё на той жа прыступцы, хіба мяняючы ўпор нагі. Хлопцы побач таксама чакалі. Іншай каманды ім не давалі, і Ступак пачаў думаць, што на іх забыліся. Аж не! Палкоўнік у скуранцы штосьці гаркнуў з дзьвярэй, і яны замерлі. Ступак чакаў зноў убачыць самога, ды замест яго ў расчыненых дзьвярах паявіліся двое ў шэрых пінжаках – высокі і ніжэйшы, якіх цесьненька абступілі хлопцы ў масках. Тыя два ішлі, патупіўшы долу сівыя галовы, неяк ненатуральна аднолькава трымаючы за сьпіной рукі. І толькі як спускаліся па прыступках, Ступак убачыў на іхніх руках бліскучыя кайданкі. Тады яму шмат што стала зразумела. Але нешта і яшчэ болей заблытвалася.

Арыштаваных павезьлі ў міліцэйскай машыне, а яны ўсё стаялі на прыступках, мусіць, чакалі самога. І Ступак думаў, што ягонае жыцьцё кудысь павярнулася. Хаця хто ведае, якім яшчэ бокам можа яно павярнуцца зноў. Усё ж жыцьцё кожнага сваю сілу мае – часам злую, нядобрую сілу...

## Ваўчыная яма

Адзінокая постаць чалавека то зьяўлялася, то зьнікала ў негустым бярозавым падлеску, сярод высока памкнутых да неба хвояў. Гэта быў малады хлапец у зашмальцаваным салдацкім бушлаце, зь зімовай шапкай на галаве. З-пад расхрыстаных каўняроў ягоных апратак на грудзях выглядалі сінія палоскі заношанай цяльняшкі. Схуднелы хлапечы твар нёс выраз немалога клопату, амаль спалоху. Салдат ішоў нетаропка, часта спыняючыся, часам мяняючы напрамак хады, штораз азіраючыся - назад і ўбакі.

Хваёвы бор між тым поўніўся ветраным шумам, які несьціхана мкнуў з вышыні і глушыў усе іншыя лесавыя гукі. Зрэшты, салдат ужо навучыўся ў звыклым пошуме лесу лавіць які іншы гук, ягоны слых зыўжды быў насьцярожаны. Але ўнізе пад хвоямі, сярод маладога падлеску было амаль ціха, адно далікатна трапятала сьвежая лістота бярозак. Дол быў яшчэ па-веснавому голы й шэры, хіба там-сям зелянеў чарнічнік ды, як заўжды на грудках, шарэлі лапіклы беламошніку, ступаць па якім было мякка, бы па дыване ў пакоі. Зрэшты, па дыване салдат не хадзіў, - адзіны дыван у іхнай кватэры чамусьці вісеў на сьцяне. Ды й ботаў ён не насіў да войска, а гэтыя, як надзеў - цяжкія кірзачы зь нягнуткімі халявамі, - дык і не зьнімаў другі год. І ў сухмень, і ў слату яны былі на нагах - ня дзіва, што левы пачаў ужо «прасіць кашы». Хаця што боты - прахудзіліся, пачалі ірвацца ягоныя штаны, вайсковыя «хабэ», залапленыя на каленях, на адным ужо паявілася дзірка. Вядома ж, усё тое было кепска і, мабыць, іншы раз прычыніла б салдату клопату. Але не цяпер. Цяпер яму дапякаў клопат іншага кшталту - салдат хацеў есьці.

Гэты клопат і вёў яго па хвойным грудку, прымушаў узірацца долу і ўгару, у вецьце дрэваў. То быў ягоны канкрэтны інтарэс: у доле маглі зьявіцца грузды, учора ён іх знайшоў ажно тры і зьеў. А тады спалохаўся ад думкі, што можа атруціцца й сканаць тут, у гэтай лесавой глушчэчы. Аднак учора абышлося - трохі пакруціла ў жываце й аціхла. Значыць, можна харчавацца грыбамі, падумаў ён, абы шэнціла іх знаходзіць. Яшчэ ён імкнуўся згледзець у гольлі птушынае гнязьдзечка - дробныя лесавыя птушкі павінны ўжо пачаць несьціся. Калісьці малыя падчас канікулаў у бабулі на вёсцы апаролі на ўзьлеску малое гнязьдзечка, зь якога выкаціліся чатыры шэранькія яечкі. Два зь іх разьбіліся, а два ён асьцярожна прынес у хату. Бабуля насварылася: нашто пабурылі птушынае жытла, Бог пакарае. Тады ён сапраўды пашкадаваў: нашто было бурыць? Іншая справа цяпер, калі даўно ўжо няма бабулі, а Бог, падобна, зусім адвярнуўся ад яго. А галоўнае - ён добра спазнаў, што голад -

сапраўды ня цётка.

Ні груздоў, ні гнёздаў у гольлі, аднак, не трапляла. Не было бачна і птушак, ня чулася іхнага сьпеву, і салдат падумаў, што, можа, гэтак толькі ў бары. Мабыць, варта было павярнуць з грудка ўніз, у сыраваты алешнік на беразе рэчкі. Учора ён хадзіў там, праўда, таксама з нулявым вынікам. Але ўчора яго рана выгнаў адтуль веснавы дожджык, ад якога хлопец схаваўся пад баравымі шатамі. У каторы раз за вясну хвоі ратавалі яго ад дажджу й давалі прытулак ноччу, але харчу тут не было. Пад хвоямі не расло нічога, дол быў густа ўсыпаны сухой ігліцай, па якой поўзалі веснавыя кузуркі. Уначы, як ён спаў на грудку, пад ягоныя апраткі налезла мурашоў, і хлопец усё раньне цёр лыткі, каб ад іх пазбавіцца.

Сыраватыя алешнікавыя мясьціны ўвогуле ён не любіў, і за час свайго лесавога блуканьня звычайна абмінаў іх. Нашмат весялей было брысьці борам, дзе стромкія хвоі зачароўвалі сваім выгоністым хараством, асабліва ў ціхманы сонечны надвячорак, калі іхныя вершаліны ўрачыста зьзялі ў золаце нізкіх промняў. А на ўзьлеску ці дзе на прагаліне часам трапляла якая старая сукаватая хваіна з такім крывулякам-суччом, што па-хлапечы карцела ўзьлезьці на яе і не зьлязаць да ночы. Першы раз салдат трапіў у вялікі хваёвы лес на выезьдзе, у час манэўраў, як толькі прыехаў з «вучэбкі» ў полк. Аўтамабілі сувязі тады паставілі пад хваёвыя шаты, не спатрэбілася й нацягваць сеткі. Салдат працаваў на радыёстанцыі і праз расчыненыя дзьверы тры дні й начы дыхаў смалістым водарам бору і слухаў сьпевы птушак. Шкада, вучэньні неўзабаве скончыліся, а затым усчалося такое, пра што ня хочацца і ўспамінаць. Ды й забыць немагчыма.

Алешнік над рэчкай ваўсю зелянеў сакоўнай лістотай, мусіць, вільгаці тут хапала. У доле праз ссохлы быльнёг прабіваліся галінастыя калівы крапівы, настырчыліся сухія дубцы маліньніку. У ім выразна прыкмячалася закінутая ад леташняга сьцежка. Ну вядома, сьцежка кіравала па беразе, уздоўж рэчкі, якая круцілася побач.

Салдат засьцярожліва пайшоў па ёй, асабліва ня дбаючы, куды, - сьцежкай заўсёды карцела некуды ісьці. І тады яго чуйны на пахі нюх злавіў у паветры гаркаваты пах дыму. Салдат спыніўся. Ну пэўна, то быў дым ад лесавога вогнішча - дзесь гарэў касьцярок. А можа, тое неслася з поля, на момант усумніўся салдат. Але не, поле ўсё ж было далекавата адсюль, за балотам, вёскі там ці ня ўсе ўжо папалілі-панішчылі. Гэта ж поруч з зонай. Ці, можа, таксама ў зоне - не зразумець. Казалі, на мяжы з зонай нядаўна яшчэ быў дрот на кольлі, але дрот у шмат якіх месцах зьнялі, парэзалі - на продаж ці што? Міліцыя часам патыкаецца сюды на сваіх «Уазах», але ў міліцыі бракуе бэнзыну, а галоўнае - каму хочацца лішні раз лезьці ў атамнае пекла? Не хацелася лезьці й салдату, але во мусіў. Калі яго ў хлеўчуку на хутары ледзьве не апарола міліцыя, ён болей рызыкаваць ня стаў. Ды й гаспадар, самасёл-хутаранец сказаў: трэба табе ісьці адсюль, хлопец. Што ж, ён разумеў і не хацеў ліха ні сабе, ні старому, якому падзякаваў за тое, што той прытуліў на тыдзень у сьцюжу. І ён пайшоў, куды глядзелі вочы. Вочы і прывялі яго ў зону.

Праўда, магло так стацца, што ён сам пакараў сябе нават болей строга, чым гэта зрабіў бы вайсковы трыбунал. Усё ж зона - ня рай, калі адсюль усіх выселілі, калі сюды баіцца патыкацца міліцыя, калі ў газэтах не перастаюць пісаць пра цэзій ды стронцый, якімі засыпана навакольле. Увесь сьвет устрывожаны. Захад гоніць гуманітарную дапамогу, лякарствы, вывозіць дзяцей на аздараўленьне. Дык то з бліжніх да зоны паселішчаў і вёсак, а ён во ўлез у самае пекла. Праўда, і ён напачатку баяўся, думаў, захварэе. Але за паўтара месяцы нічога кепскага ў сабе не заўважыў, нават не прастудзіўся ні разу, пачуваўся быццам нармальна. Калі б толькі было што есьці. Ды й стары хутаранец Карп, які з хутара нікуды не патыкаўся, за ўсе гады пасьля аварыі пачуваўся, казаў, можа лепей за каго з маладых. Бо ня піў - гэта галоўнае. А гарэлка, яна горш за радыяцыю для здароўя і без пары губіць мужчынаў. Харчу ж у хутаранца хапала - была карова, сьвінчо, дзясятак курэй ды сабачка Кудлацік, - і ўсе

жывыя, здаровыя. Карп сваім прыкладам здорава абнадзеіў салдата, асабліва як сказаў, што і па суседзтву, за шашой таксама нехта жыве (чутно, як брэша сабака), ды й за балотам у былой вёсцы таксама паявіліся самасёлы, - жывуць без электрычнасьці, крамы і ўлады. Што без улады - дужа спадабалася салдату, як Карпу - што без калгасаў. Ніхто, мабыць, ім не дакучае - не памагае, але й не замінае, гаспадар, як хочаш. Во, дажыліся мужыкі, век пра тое ня марылі.

Так, можа, яно й добра, думаў салдат, можа, і няблага старым. Але во маладыя, сыны і ўнукі таго ж Карпа, усе паразьехаліся, ніхто на хутары не застаўся. Значыць, чагосьці баяцца. Значыць, ёсьць чаго апасацца...

Гэткія думкі ня першы ўжо раз лезьлі ў затлумленую галаву салдата, можа, яны адтуль і не вылазілі. Ён і баяўся, і супакойваў сябе, і меркаваў і так, і гэтак. Але што ён мог зрабіць лепш, куды падацца? Без дакумэнтаў, бяз грошай. Пешшу ці далёка дойдзеш, а на першай жа аўтобуснай станцыі яго возьме міліцэйскі патруль. Дома яго ніхто не чакаў; мачаха, калі б дазналася пра яго, адразу б пабегла ў міліцыю ці ў ваенкамат - гэтая толькі й чакала, каб яго пасадзіць. Сябры? Пасьля таго, што здарылася, якія маглі быць сябры?

Крывулякай-сьцежкай у кустоўі салдат прайшоў уздоўж рэчкі, асьцярожна выглянуў з-за куста на бераг. Усюды было пуста, ды й дымам быццам перастала патыхаць, - можа, перамяніўся вецер? Тады ён зноў павярнуў ад рэчкі да хвояў і, узьлезшы на пагорак, апусьціўся на падушку мяккага белага моху. Было цёпла, нават угрэўна, але свой скарэлы бушлат салдат не зьнімаў ніколі -ні ўдзень, ні ўначы. Тут яго адразу апанавалі мурашкі -забегалі, замітусіліся па абдрыпаных халявах ботаў, мабыць, дзесь блізка быў іх мурашнік. Глядзі, якія порсткія, падумаў салдат, і ніякая радыяцыя іх не бярэ, прыстасаваліся за мільёны гадоў. Во, каб так чалавек! Але чалавек, мабыць, ніколі не прыстасуецца да гэтай атамнай пагібелі, - ня той арганізм. Добра гэта ці не, салдат ня ведаў. Можа, і добра, інакш чалавек

можа ператварыцца ў мураша... А калі не ператворыцца і адкіне капыты - хіба так лепш? Вунь маманты не прыстасаваліся і ўсе пагінулі. Цяпер толькі косьці выкопваюць зь вечнай мерзлаты. Можа, такі лёс напаткае і людзей...

Але маманты ня самі сябе пагубілі, а нейкія аб'ектыўныя перамены ў сьвеце. А чалавек? Сам - сябе.

Во даў Бог чалавеку розум - на ўласную згубу.

Як салдат пераставаў думаць пра ежу, тады яго пачынала адольваць дрымота, і ён быў гатовы заснуць. Удзень спаць, аднак, баяўся. Хоць тут, у лесе, нікога яшчэ не спаткаў, апроч хіба якой дробнай жывёліны - вожыка ці зайца. Людзей тут не было. Сьпярша тое абнадзейвала салдата, але затым пачало нават палохаць - усё ж ці не дарма ён сюды прыдыбаў? Мусіць, людзі ўсё ж адчувалі нешта нядобрае. Зноў жа адзінота пачала яго прыгнятаць, і чым далей ён тут бадзяўся, тым больш. Ды што зробіш? Розумам ён даводзіў сабе, што інакш нельга, што тут ён не па ўласнай волі, што лепш быць аднаму. Але, здаецца, і аднаму было неяк, не трывала душа. Во ў чым загвоздка.

Трохі паляжаўшы на сугрэве, салдат зноў адчуў подых дыму і на гэты раз затрывожыўся не на жарты. Хутка падхапіўся, паўзіраўся ў бор, у алешнік унізе. Затым, памеркаваўшы, зноў паціху пайшоў да рэчкі. Здалося, дымам павеяла менавіта адтуль.

Дзе сьцежкай, а дзе наўпрост праз хмызьняк салдат выйшаў на нешырокі ўзьбярэжны лужок, абышоў яго па краі алешніку. Лужок быў пусты. Блізка да рэчкі зноў падступаў абрывісты бераг з хвоямі, і ён пайшоў паблізу над ім, каб бачыць бераг. Яшчэ зводдаль на рачным павароце згледзеў нейкае жытло ў абрыве -цёмны лаз у зямлянку-нару, прыкрыты зьверху жардзём. На канцы адной жардзіны матлялася-сохла нейкая ануча, і наводдаль, на самым беражку лена дыміў касьцярок, дым ад якога, мабыць, і патрывожыў салдата.

І тады трошкі далей на беразе ён убачыў чалавека.

То быў невялікі мужчына ў кухвайцы, у ссунутай на патыліцу зімовай шапцы, ён махнуў у паветры белым, мабыць самаробным вудзільнам, зьнерухомеў на колькі сэкундаў і дакладным рухам выкінуў на бераг бліскучую рыбіну. Рыбіна, як бачна было здаля, надарылася ладная, не якая там уклейчына, - салдат тое вызначыў пэўна. У гэты момант чалавек таксама ўбачыў салдата, які ад нечаканкі не пасьпеў куды захінуцца. Мусіць, трэба было бегчы адсюль, але тая ўдалая рыбіна ў чужых руках нібы зачаравала згаладнелага хлопца, і ён знарок паволі пайшоў да рыбака.

- Здрасьце...

Рыбак не адказаў і нават не памкнуўся да свае рыбіны, якая білася ў траве на беразе. Утаропіўшыся ў незнаёмца, той мусіць, вывучаў яго, таксама ня ведаючы, як паставіцца да ягонага тут зьяўленьня.

- Лешч? - запытаўся салдат, абы не маўчаць.

- Падлешчык, - скупа адказаў рыбак і рашуча ўскінуў да яго аброслае шчэцьцю падбародзьдзе. - А ты скуль тут узяўся?

- Усё адтуль, - няпэўна адказаў салдат і няўлад са сваёй асьцярогай сеў непадалёк у доле. Чалавек яшчэ паўзіраўся ў яго, штось мяркуючы.

- А ты гэта - не зь міліцыі?

- Не-а. З арміі.

- Дэмабілізаваны?

- Дэзэрцір, - раптам сказаў салдат і ўнутрана схамянуўся. Ніколі яшчэ ён не вымаўляў услых гэтага слова, якое цяпер неяк само зьляцела зь языка.

Рыбак, відаць было, шчыра зьдзівіўся, аж хакнуў.

- Во гэта дзела! Першы раз бачу дэзэрціра.

Ён спрытна зьдзеў з кручка трапяткога падлешчыка,

кінуў у траву, дзе, як заўважыў салдат, ужо ляжала некалькі раней злоўленых рыбін. Чалавек гаварыў гучна, відаць, з намерам паставіцца да хлопца строга, можа нават сурова, - усё ж ён быў куды старэйшы. Але салдат цяпер ня дужа на тое зважаў, ён ужо адчуваў, што рыбак не такі й суровы, як хоча здавацца.

- А дайце я, - раптам прапанаваў хлопец, як чалавек узьдзеў на кручок новага белага чарвяка. Рыбак трохі змоўчаў, а затым рашуча сунуў у ягоныя рукі шурпатае ляшчынае вудзільна.

- На. Калі ўмееш.

- Некалі лавіў...

Чалавек адышоўся на сушэйшае і сеў на беразе.

У салдата адразу клюнула, і яшчэ праз дзьве паклёўкі ён выкінуў на бераг зноў такога ж, як ранейшы, ладнага падлешчыка. Рыбак ускочыў, зьняў рыбіну, пасунуў да яго бліжэй берасьцянку з чарвякамі.

За ня дужа даўгі час салдат выкінуў у траву яшчэ трох падлешчыкаў, і рыбак аж захваляваўся.

- Ну, дэзэрцір, ну малайчына! Значыць, рыбацкае шчасьце маеш. Я тут з раніцы тры штукі, а ты за пятнаццаць хвілін чатыры. Ну-ну! Давай лаві болей...

Салдат сам дзівіўся ў душы - не такі ўжо ён і рыбак. Як і ўсе, некалі вудзіў у дзяцінстве, а тут такая ўдача! Пасьля, добра, праўда, счакаўшы, зьняў з кручка яшчэ адну ўклейчыну. Але затым у рыбы, мабыць, настаў перапынак, і колькі ён ні кідаў паплавок у тое ды іншае месца - нічога не ўзялося.

- Ладна, - сказаў нарэшце рыбак. - Трэба гэту засмажыць.

- Дзе? - салдат праглынуў сьлінькі.

- На вогнішчы.

- А радыяцыя?

- Ну, і хрэн зь ёй, радыяцыяй. Смачней будзе, - сказаў рыбак і ўпершыню з прыязнасьцю засьмяяўся, паказаўшы шчарбатую скіўіцу. Салдат зь цікаўнасьцю ўгледзеўся ў ягоны густа абраслы твар, - мабыць, чалавек быў яшчэ не стары, але ўжо моцна пакамечаны жыцьцём, можа нават хворы. Сабраўшы ў нейкую анучу рыбін, ён панёс іх да касьцярка, дымок ад якога ціха курэў над берагам. Салдат пабрыў сьледам - усё ж ён адчуваў нейкае сваё права на тых падлешчыкаў.

- Запалак няма? - запытаў на хадзе рыбак.

- Няма.

- Гэта горш. У мяне таксама скончыліся. Так што дуй за суччом.

Чалавек пачаў разграбаць вугольле, а салдат узьлез на невысокі абрыў і пайшоў у бор. Паблізу, аднак, суччa ў доле было малавата, і ён змушаны быў адысьці далей, у хвойнік. Неяк ён быў нават рады, што натрапіў на гэтага рыбака, што злавіў падлешчыкаў і цяпер, можа, збольшага спатоліць голад.

Праз колькі часу салдат прывалок важкае бярэма сушняку, кінуў ля вогнішча. Рыбак ашчадна перагортваў прысак - пёк рыбіны. Нейкі час яны засяроджана маўчалі, напружана чакаючы самага жаданага моманту, які, аднак, трохі адкладваўся.

- Даўно тут? - запытаўся рыбак.

- Другі месяц.

- Ого! - рыбак уважліва паўзіраўся ў хлопца. - І цябе не скруціла?

- Ды быццам не...

- Тады й ня скруціць, - упэўнена аб'явіў рыбак. - Калі за месяц ня ўзяла, дык і ня возьме. Яна, ці ведаеш, ня кожнага бярэ.

- Хто ведае, - ціха мовіў хлопец.

- Я ведаю. Я тут ужо тры месяцы. І ні чарта: загартаваны арганізм!

- Як жа вы яго загартавалі?

- Гарэлку піў.

- Зразумела, - сказаў салдат.

- Столькі выпіў, што ніякая халера не бярэ. Так што й ты ня трусь.

Салдат не пярэчыў і не пагаджаўся - трошкі падзівіўся самаўпэўненасьці рыбака, але хто ведае. Можа, і праўда, што гарэлка загартоўвае - яму лепей відаць. Салдат жа гарэлкі выпіў няшмат і таму наўрад ці мог лічыць сябе загартаваным.

Яны сядзелі так - болей моўчкі ля гарачаватага цяпельца, якое то ўспыхвала невялікім полымем, то пачынала дымна курэць, абкурваючы іхныя твары. Салдат ніякавата адварочваўся, але ня зрушваў зь месца. Рыбак жа, амаль не рэагуючы на дым, дбайна паварочваў і агартаў прысакам рыбіны.

- Во гэтая ўжо, можа, і гатовая. Перакладзем яе сюды, а гэтага бліжэй да агню, во... Жару тут ня надта й патрэбна, каб не згарэла...

Нарэшце ён выграб адну і, абпякаючы запэцканыя пальцы, трохі абцёр зь яе попел.

- Ну во! Не падсмажылася - падгарэла. Але есьці можна.

Выграбшы яшчэ адну, не ўтрымаў і кінуў далей у траву.

- Частуйся. Лепшай ня будзе.

Рыбіна была дужа гарачая - ня ўзяць у рукі, салдат раскрышыў на траве рэшткі наліплага на ёй вугольля і пачаў аддзіраць касьцістыя кавалачкі. Увогуле было смачна, ён зжаваў усё, што можна было зжаваць,

старанна абсмактаў калючы хрыбет. Але было да роспачы мала, і тое зразумеў рыбак.

- Бяры яшчэ адну. Болей ня дам, - строга абвясьціў ён.

Што ж, і за тое дзякуй, падумаў салдат, маючы, аднак, надзею, што рыбу яны ўсё ж падзеляць пароўну. Але рыбак і сам зьеў толькі дзьве і раздумна памарудзіў, штось вырашаючы.

- А ладна! Яшчэ па адной. Астатняе ўраньні.

Зьелі й яшчэ па адной і зноў не наеліся. У прысаку засталіся тры апошнія, і рыбак прыняў непазьбежнае рашэньне:

- А чорт зь ёй! Што пакідаць... Яшчэ да ранку не дажывеш - радыяцыя!

Менавіта такога рашэньня й чакаў салдат. Хіба што недарэчны напамінак пра радыяцыю непрыемна шкрабануў ягоныя адчуваньні, але ён хутка на тое забыўся. Не ўстаючы ад цяпельца, яны зьелі ўсе рыбіны; рыбак дбайна загарнуў вугалькі, пакідаў у іх недагаркі.

- Тыаначуеш ці пойдзеш? Хаця куды табе йсьці, праўда? -папытаўся ён проста, нібы даўні знаёмы. І салдат нечакана для сябе гэтак жа проста адказаў:

- Праўда.

- Ну і хай! Тут такая справа - трымаць агонь. Згасьне - будзем сырую рыбу жраць. Паняў?

- Ды ўжо ж, - болей бадзёра адказаў хлопец, адразу прыпамятаўшы зьмест адной кнігі, якую чытаў у школе. Кніга называлася «Барацьба за агонь». Тады яго надта ўразілі падзеі, што адбываліся ў першабытным племені, як у таго згас агонь. Цяпер ім двум пагражала нешта падобнае.

- Цябе як зваць? - крыху падабрэлым голасам запытаўся рыбак.

- Ды салдат проста, - падумаўшы, адказаў хлопец. Яму зусім не хацелася называць сябе, а хлусіць таксама ён ня меў вялікай ахвоты.

- А я бамж проста, - у тон яму адказаў рыбак і засьмяяўся.

Што ж, хай будзе так, падумаў салдат. Адзін дэзэрцір, другі бамж, - сышлася салодкая парачка, зьедліва падумаў ён.

- Такія справы, - няпэўна закругліў кароткую гутарку бамж і выцягся на траве. З-пад расшпіленай ватоўкі зь дзіравым подкладам агаліўся ягоны запалы жывот увесь у нейкіх сіняках і больках, і салдат зважліва адвёў позірк. Падумаў, аднак, што цяпер і ў яго ня лепшы. Паляжаўшы крыху, бамж зноў падняўся, сеў на траве.

- Не паелі - толькі жывот разгнявілі. Знаеш, салдат, бяры вуду і закідвай. Можа, і яшчэ возьмецца...

Салдат паслухмяна ўзяў з долу ня надта зграбнае вудзільна з накручанай на яго жылкай і пайшоў на ранейшае месца, дзе нядаўна клявала.

- І глядзі мне кручок! - гукнуў ззаду бамж. - Адарвеш - галаву скручу!

Ды ўжо як-небудзь, адказаў яму ў думках салдат.

Увесь надвячорак ён кідаў у невялічкую затоку выразаны з хваёвай карыны паплавок і ўсё марна - клёву не было. Тады ён перайшоў у іншае месца - далей за трысьнёг, ніжэй па цячэньні. Але й там ў яго ні разу ня клюнула. Надвор'е тым часам усё лепшала, зрабілася зусім цёпла, над вадой таўкліся клубкі машкары. Вецер суняўся, круглявая рачная затока, бы цьмянае люстэрка, адбівала нязыркае хараство лесавога берагу, за які паволі заварочвала рака. Нізка навіслае над вадой кустоўе лазьняку на тым беразе клала на ваду глыбокі люстраны прыцемак, дзе, напэўна, вадзілася рыба. Можа, нават ляшчы, калі ў яміне, падумаў салдат. Але як перабрацца туды, каб не

разьдзяваючыся, разважаў ён, губляючы цікавасьць да вуды. Было ціха й лагодна, і ўжо ня верылася ў тую пагрозу, якая гадамі навісала над краем, якой гэтак баяліся. Але, можа, дарма? Можа, той страх перабольшаны? Неяк жа жыве каля ракі бамж і нават фанабэрыцца - загартаваны! А можа, ён гэтак, каб ня думаць пра горшае й падбадзёрыць сябе? А заадно й яго таксама.

Як сонца схавалася за вершаліны хвояў, салдат выкінуў з вады невялічкага акунька - і ўсё. Болей да самага зьмярканьня нічога ў яго не ўзялося. На вадзе ўжо цяжка было ўгледзець нерухомы паплавок, і хлопец зматаў вуду.

- Ну-у... А я думаў! - расчаравана сустрэў яго бамж, лежачы ля цяпельца. - Значыцца, такое тваё шчасьце...

- Не клявала зусім.

- Гэта яна як калі. Неяк за раньне я вывудзіў шэсьць штук. А пасьля два дні ніводнай. Проста злосьць бярэ. Але й жраць хочацца...

- А болей тут - нічога? - папытаўся салдат.

- А што ж тут яшчэ? Грыбоў, ягад няма - яшчэ рана. Зьверына ўся сышла прэч. Людзей адсялілі. Што беглым бамжам застаецца?

Так, мусіць, няшмат застаецца беглым бамжам-дэзэрцірам, згодна падумаў салдат. Але што можна было зрабіць, каб здабыць харчу, ён ня ведаў, як ня ведаў таго й бамж. Зрэшты, той, мабыць, і ня надта клапаціўся пра ежу.

- Тут, знаеш, такое дзела: менш будзеш есьці - даўжэй пражывеш, - не зразумець, жартам ці насур'ёз зазначыў ён. - Менш радыяцыі спажывеш. Так што нам голад карысны.

Не, з тым салдат ня мог пагадзіцца, - ён і так згаладнеў дарэшты, а сілы ад таго не паболела, - паменшала, гэта пэўна. І ён усё думаў, дзе каб што зьесьці. Але цяпер ля

рэчкі зьявілася надзея, і ён не хацеў нікуды адсюль ісьці.

Як стала цямнець, бамж падняў з долу вудзільна і адвязаў ад жылкі кручок, які акуратна зачапіў за падклад кухвайкі.

- Трэба берагчы, а то... Спаць хочаш?

- Ня дужа, - адказаў хлопец.

- Дык пільнуй агонь. А я кімарну пару гадзін.

Бамж на кукішках палез у цесны лаз свае зямлянкі ў абрыве, а салдат застаўся ля касьцярка.

Ён патроху падкладваў ў вагонь сухія хваёвыя палкі, санлява сачыў, як паволі, але настойліва між дрэваў тачыліся, большалі, убіраліся ў сілу, каб затым пачаць мізарнець, лянівыя языкі полымя. Тады зноў трэба было падкласьці. Часам на хлопца шугала дымам - ад подыху ветру з рэчкі. Наўкола панавала цемра; чорнай рачной затокі адсюль было ўжо й ня згледзець. Адно няроўна сьвіціўся - то ярчэў, то цямнеў - невысокі пяшчаны абрыў з нарой побач. Бор уначы амаль перастаў шумець, і навакол зрабілася аж занадта ціхмана.

На хлопца зноў абвалілася звыклае адчуваньне адзіноты, і ён пачаў думаць-меркаваць пра сваё незайздроснае становішча. Зрэшты, думаў ён пра яго заўсёды, быццам намагаўся штось вырашыць. Ці што зразумець. Але ні таго, ні гэтага ніколі да канца не ўдавалася, ён ня мог выкараскацца зь нейкага разумовага тупіку, куды яго загнала жыцьцё. Ці, можа, загнаў сябе сам. Шмат было незразумелага ў ягоным недаўгім жыцьці, але адно было пэўна, - яму не пашчасьлівіла нарадзіцца дужым. Нельга сказаць, што слабаком, але й ня дужым, - такім, каб уласнай сілай абараніць сябе. Як гэта рабілі іншыя - у двары. Калі тае сілы бракуе, тады над табой будуць знушчацца іншыя, а табе толькі й спадзявацца на іхную літасьць ці абстрактную справядлівасьць. Сіле ж ня трэба справядлівасьці, яна сама сабе гаспадыня й кіруе сабой

як хоча. У дзяцінстве салдата так сталася, што хлопцы з падворка былі старэйшыя за яго і ўжо таму дужэйшыя, якія ня грэбавалі тым, каб пазьдзеквацца зь яго. Калі трэба было куды па што зьбегаць, пасылалі яго, калі ў яго паяўляўся ножык, можна было яго адабраць. Ці папрасіць паглядзець і не аддаць. Ашукаць таксама можна было. Бо, апроч таго, што ён слабейшы за іншых, ён яшчэ скардзіцца не пабяжыць, бо яму не было на каго скардзіцца - ён ня меў бацькі. А пасьля ў яго ня стала й маці.

Дзяцінства для яго выдарылася мала шчасьлівае, нават пакутнае; асабліва, як ён страціў бацькоў і застаўся адзін з старой, нямоглай бабуляй. Пасьля, у інстытуце, што-нішто для яго зьмянілася да лепшага, ён шчыра памкнуўся да ведаў, набыў самастойнасьць і па магчымасьці адасобіўся ад калектыву, які яго ніколі ня вабіў. Але пасьля прызыву ў войска ўсё горшае да яго вярнулася: і гаманкі, мітусьлівы калектыў у казарме, і абсалютная залежнасьць ад нахабных, самазваных салдацкіх лідэраў. Апынуўшыся пасьля «вучэбкі» ў палку, ён думаў, што тут будзе інакш, што тут яны ўсе роўныя, і афіцэры будуць ставіцца да іх справядліва. Афіцэры, можа, і ставіліся да ўсіх справядліва, але афіцэраў было няшмат, і тыя былі занятыя ўласнымі афіцэрскімі справамі. Салдатамі ж верхаводзілі свае, тыя, што вылучыліся з салдацкай масы й кіравалі паводле свайго крымінальнага разуменьня. Самымі аўтарытэтнымі сярод іх былі тыя, што ўжо пасядзелі ў турме, адкуль яны прынесьлі ўласную мараль і турэмныя звычаі. Неяк перад вячэрняй паверкай сяржант Дробышаў упусьціў пад ложак свой футарал ад зубной шчоткі і, як заўжды, па-хамску загадаў салдату: «А ну, падымі!» Замест таго, каб зараз жа выканаць загад, салдат коратка кінуў: «Сам падымі» і тут жа паляцеў ад моцнага ўдару ў твар. Ён ня сьцяміў, што сяржант з намерам кінуў пад ложак футарал, і гэта яго няўцямнасьць каштавала салдату прыкметнага сіняка пад вокам. Назаўтра пры разводзе на заняткі камандзір роты пацікавіўся: «Што гэта ў цябе?» У страі ўсе напружана чакалі ягонага адказу, і ён, трохі счакаўшы, сказаў, што ўпаў. «Трэба глядзець пад ногі», -

глыбакадумна заўважыў ротны. А непадалёк зь першай шарэнгі злосна шчэрыўся на яго сяржант Дробышаў. Салдат падумаў тады, што, напэўна, адказаў правільна, але ўжо на наступны дзень яму давялося пашкадаваць аб тым. У курылцы, дзе ён толькі прысеў з хлопцамі, паявіўся сяржант Дробышаў і моўчкі з усяе сілы выцяў яго кулаком пад дых - пачаму не ўстаеш, калі старэйшы заходзіць? Скорчыўшыся ад болю, салдат павалокся ў казарму, у той час, як іншыя моўчкі і абыякава пазіралі ўсьлед. Ніхто не заступіўся, нібы так і належала ставіцца да шараговых.

Але яшчэ горшае стала на пачатку вясны, як старшыном роты прызначылі прапаршчыка Зяленку. Гэты ўзяў за звычай таемна кучкавацца зь сябрамі пасьля адбою ў капцёрцы, дзе яны выпівалі. Часам каго-небудзь будзілі ў казарме й таксама клікалі ў капцёрку. Аднойчы пасьля поўначы адтуль выйшаў счырванелы з твару, мо нават заплаканы, зямляк Пецюхоў, моўчкі лёг на свой ложак і накрыўся з галавой коўдрай. «Што яны там?» - ціха папытаўся салдат, ды зямляк нават не адказаў і доўга яшчэ ўздрыгваў пад коўдрай ад плачу. Салдат здагадваўся пра тое, што там адбылося, але маўчаў, ужо адчуваючы, што прыйдзе чарга й да яго. Праўда, пакуль не прыходзіла, і хлопец з трывогай і страхам чакаў, калі тое здарыцца. Пару разоў ён прыкмячаў, як пад ранак з капцёркі выбрыдаў яўна п'янаваты Дробышаў, таропка распранаўся і клаўся ў свой рупна разасланы для яго ложак, - праз тры ложкі ад салдатавага. Аднойчы Дробышаў, ужо легшы, устаў і з кішэні штаноў дастаў фінку, якую, азірнуўшыся, сунуў пад матрац. Ужо ці не зьбіраўся ён каго зарэзаць уначы, засынаючы, падумаў салдат. У той момант ён ня ведаў яшчэ, што зарэзаць давядзецца самому, і з тае хвіліны ўсё ягонае жыцьцё пойдзе наперакасяк.

Яны тады стомленыя зьмяніліся з нараду, і толькі салдат заснуў пасьля адбою, як адразу прачнуўся ад моцнага штуршка ў бок, -над ім у праходзе стаяў камлюкаваты радыст Падабед. «Да прапара», - прагугнявіў ён, і салдат зразумеў, што яго клікалі ў капцёрку. Пасьля другога такога ж тумаку ён мусіў

устаць, пачаў надзяваць штаны, затым боты. «Босы», - прасіпеў Падабед, і ён, памарудзіўшы, босы паплёўся па праходзе ў капцёрку.

Там яшчэ соннага й стамлёнага, з замутнёнай гідотай сьвядомасьцю яго нахабна згвалтаваў на падлозе ўсё той жа ненавісны яму сяржант Дробышаў; Падабед і Зяленка трымалі. Змучаны і зганьбаваны, як і нядаўна ягоны зямляк Пецюхоў, ён дабрыў да свайго ложка і лёг. Ён не палез хавацца пад коўдру, нават не заплюшчыў вочы і ляжаў, чакаючы свайго часу. Наўкола ў начным прыцемку казармы саплі, варочаліся, мармыталі ў сьне салдаты, і нікому не было справы да таго, што рабілася за сьцяной у капцёрцы. І салдат так меркаваў, што ня будзе справы й да таго, што неўзабаве мела здарыцца.

Усё ж ён дачакаўся таго, чаго хацеў. Праз гадзіну ці болей да свайго ложку ціха, нібы крадком, падышоў нарэшце і Дробышаў, распрануўся і лёг. Яшчэ праз кароткі час пачуўся ягоны нягучны храп, сяржант спаў. Тады салдат падняўся, надзеўся, акуратна навярнуў парцянкі, нацягнуў боты. Усё рабіў нетаропка і грунтоўна, бы цягнуў час. Заставалася надзець бушлат, але бушлат разам зь іншымі вісеў каля тумбачкі днявальнага, які там прымасьціўся кімарнуць у глухі час начы. Салдат падышоў да соннага Дробышава, паціху засунуў руку пад ягоны матрац. Не адразу, але намацаў фінку і без размаху, зь незвычайнай для сябе сілай увагнаў яе па самы тронак у левы бок Дробышава. Той толькі хрыпнуў гучней і, не прачнуўшыся, абвяў на ложку.

Ледзьве трымаючыся на дрыготкіх нагах, салдат зьняў з кручка свой бушлат і, на хадзе надзяваючы яго ў рукавы, выскачыў у калідор.

- Куды? - сонна гукнуў да яго днявальны.

- Жывот! - кінуў ён, зачыняючы дзьверы.

На далекаватую прахадную ён не пабег, за прыбіральняй у агароджы быў вузкі пралом, празь які

тыя ж сяржанты хадзілі ў самаволку. Салдат вылез зь яго і па цёмным перавулку скіраваў на гарадзкую ўскраіну.

Бамж кімарнуў, як ён і казаў, ня болей за пару гадзін і недзе за поўнач задам выбраўся са сваёй нары.

Была бязьмесячная ноч, над рэчкай курэла-паўзла белаватая коўдра туману. На беразе пачувалася па-начному зябкавата, і бамж, скалануўшыся, патупаў да касьцярка, дзе, паклаўшы галаву на калені, сядзеў салдат. Бамж затрывожыўся:

- О, о! Патухае! Падкласьці трэба...

Ён падклаў у вогнішча некалькі сухіх палак, ад якіх слабы агонь і зусім захацеў згаснуць, але памалу-пакрысе стаў разгарацца. Пустэльны бераг трошкі асьвяціўся, стаў відзён блізкі абрыў і над ім - суцэльная сьцяна бору.

- Ідзі ў зямлянку, - сказаў бамж. - Там лахманіна, накрыесься.

Салдат моўчкі падняўся, але не палез у нару-зямлянку, а прымасьціўся пад абрывам побач і адразу заснуў. Сноў ніякіх ня бачыў - ён іх наогул ня сьніў, - але не даспаў да ранку. Прачнуўся на золку ад сьцюжы, - ля ракі было куды халадней уначы, чым на баравінцы ў лесе, тут дрыжака даймала, як мае быць. Раз за разом скаланаючыся, ён падышоў да цяпельца, ля якога ў сьвітальным паўзмроку шарэла самотная постаць бамжа.

- Што, ня сьпіцца? А, холадна. Ну то зь непрывычкі. Мусіць, ад мамкі нядаўна? - хрыплаватым зранку голасам загаманіў бамж. Як ужо заўважыў салдат, бамж наогул быў ахвочы пагаманіць. Тое ўвогуле падабалася салдату, які сам ня дужа быў гаваркі й ня дужа любіў адказваць на чые-небудзь пытаньні.

- Ноч цёплая. Туман...

- Ноч цёплая, - падхапіў бамж. - А есьці ўсё роўна

хочацца. Так што бяры вуду і закідай. На ранку, можа, лепш возьмецца.

Ён прычапіў да жылкі свой беражоны кручок, і салдат, усё скаланаючыся, пайшоў да трысьнягу ў затоку.

Неўзабаве, суняўшы ранішнюю дрыжаку, ён як мага далей кідаў у ваду паплавок і чакаў, чакаў, што вось-вось клюне. Ды ні чарта не клявала. Вада была ціхая, ад паплаўка, як упадзе, на паверхні далёка расплываліся кругі, якія затым патроху зьнікалі. Ён чакаў, як паплавок торгне і вада ля яго здрыганецца, паплавок, можа, нырне - раз і другі, -пэўны знак таго, што ўзяўся. Лешч, падлешчык ці хоць бы які акунёк. Ды мінаў час, паплавок ляжаў ціха, клёву не было. Неба над лесам тым часам зусім прасьвятлела, у зоне пачынаўся новы дзень.

Тады салдат падумаў, што, мабыць, трэба зьмяніць прынаду, - гэтыя белыя, з-пад хваёвай кары чарвякі, можа, ня самы лепшы для рыбы корм, трэба пашукаць звычайнага дажджавога чарвяка.

Паклаўшы вудзільна канцом у ваду, ён адышоўся далей, пашукаў нізкаваты, зь дзерніной беражок і кароткай палкай стаў яго раскопваць. І сапраўды, хутка натрапіў на нейкае пачварства ў зямлі, хіба толькі падобнае да таго, што ён шукаў. То быў не чарвяк, а нейкі чырвоны вуж з палец таўшчынёй, доўгі, як яго выцягнуў салдат зь зямлі, - можа, нават паўмэтра даўжынёй. Перамагаючы гідлівасьць, салдат растаптаў абцасам яго галаву (хаця было не зразумець, дзе ў яго галава, а дзе хвост) і кінуў астатняе ў раку. Ці не ад радыяцыі тое? - спуджана падумаў хлопец. Каму радыяцыя - пагібель, а каму - во, спрыяе. Каб так паспрыяла чалавеку... Ён і яшчэ пакалупаўся ў беразе, шукаў звычайных чарвякоў, ды звычайныя тут, мабыць, вывеліся, ці не панішчаныя гэтым мутантам? - падумалася хлопцу. Мусіць, то натуральна, паводле законаў прыроды, калі той, хто дужэйшы, пажырае слабейшага. Як і ў людзей.

Як ён вярнуўся да вуды, паплавок яе чамусьці плаваў ля самага берагу. Затрывожаны хлопец выцяг з вады

вудзільна і сапраўды спалохаўся - кручка не было. Ад паплаўка гайдаўся кароткі канец жылкі і ўсё. Але куды ж ён падзеўся, хто яго адарваў? Мусіць, каб адарваць, трэба было тузаць, але ж ён ня тузаў. Ён наогул не чапаў вудзільна. Доўга не разважаючы, хлопец зьдзеў боты, падкасаў штаны і палез у ваду. Ён старанна абшарваў трысьнёг на водмелі, зялёныя травяныя водарасьці, як толькі іх можна было дастаць. Глыбей, праўда, нічога не было відно, адно стаяла мутнаватая вада, у якой штосьці струменіла і гайдалася - цякло ў адзін бок, усё да таго ж Чарнобылю. Добра, што не з Чарнобылю, падумалася хлопцу, хаця ад таго ня стала лягчэй. Кручка нідзе не было.

- Што, адарваў? - крыкнуў ззаду бамж, падышоўшы па беразе.

- Ды во...

- Я ж табе казаў... Цяпер галаву тваю адарваць! - пагразіўся той і таксама пачаў разувацца.

Салдат чакаў лаянкі і быў да яе гатовы, бо завінаваціўся пэўна. Але вялікай злосьці ў бамжа не адчувалася, той толькі вылаяўся, і праз хвіліну яны ўдвох лазілі па калені ў вадзе, мацалі ў дне нагамі, шарылі рукамі ў трысьнягу. Замутнёная імі вада не давала ў сабе шмат згледзець, муць няхутка зганяла ленаватым цячэньнем; цячэньне магло сагнаць і кручок з канцом жылкі. Бамж лаяўся, але не на салдата - хутчэй так, каб спатоліць прыкрасьць. Сапраўды, становішча іх рабілася ўсё горшым, было чаго злаваць. Урэшце абодва яны скалелі ў ранішняй вадзе й выбраліся на бераг.

- А можа й добра, - раптам сказаў бамж. - Менш радыяцыі набяром.

Салдат не адказаў. Увесь час адчуваючы, як смокча пад грудзямі, ён адышоўся ад вогнішча і, не зьнімаючы макравага бушлата, выцягся на траве. Туман над рэчкай увесь ужо сплыў, стала цяплей; на небе гулялі прыгожыя белыя аблачынкі, - неба абяцала цёплы пагожы дзень. Але неба не абяцала харчу - пра харч

трэба было дбаць людзям. Толькі дзе і як?

Яшчэ да таго, як трапіць на хутар да самасёла, ён швэндаўся наўкола зоны і аднойчы выйшаў да аўтобуснага прыпынку на ўзьлесьсі. Якраз падкаціў гарадзкі аўтобус, зь якога выйшла некалькі пасажыраў, усе таропка скіравалі да недалёкай вёскі. Толькі адна зь іх - немаладая вясковая цётка, затрымалася, паклала долу свае хатулі. Стоячы недалёка за кустом, салдат згледзеў, як цётка дастала з хатуля белы гарадзкі батон, адламала ад яго ладны кавалак. Ён глядзеў і баяўся, што тая на ягоных вачах пачне есьці - хлопец быў згаладнелы і думаў, што не стрымаецца. Але цётка, мабыць, ня ўчула ягоных думак і са смакам узялася ўплятаць гарадзкі гасьцінец, - таксама, відаць, была згаладнеўшы. Кепска сабой валодаючы, салдат выйшаў з-за кустоў і, стараючыся, як мага спакайней мовіў: «Не палохайцеся, цётачка, я...»

То была ягоная памылка, як ён зразумеў пасьля, ня трэба было так напружана, амаль трагічна; трэба было лягчэй, можа нават жартоўна. Але тады жартоўна ён ня мог. Ягоны напружаны тон, а можа, і схуднелы выгляд спудзіў жанчыну, яна крыкнула і, схапіўшы свае хатулі, пабегла да вёскі.

І ў тым і, можа, у некаторых іншых выпадках лепш было паводзіць сябе бесклапотней, лягчэй, без надрыву. Ды й ва ўсёй ягонай гісторыі таксама, часам думаў салдат. Што здарылася, тое здарылася, ну - пакарайце, гатовы адседзець. А калі што, то гатовы й да вышкі, што зробіш, калі вінаваты. Можа б, усё і ўладзілася як-небудзь. Усё - а як жа зона? Ці ня вылезе яму бокам яшчэ й зона?

Але куды ж яму было яшчэ дзецца, апроч зоны?

Ён ахвотна б застаўся на хутары ў дзеда Карпа, калі б той быў далей ад міліцыі. Дзед быў не гаваркі, пра сябе ня надта распавядаў, але й пра яго ня дужа распытваў. Як дажджлівым сьцюдзёным надвячоркам салдат пастукаў у ягоныя вароты, адразу пусьціў. Мабыць, нешта пацяміў зь першага позірку, і хлопцу ня трэба

было ні правошта расказваць. Галоўнае - не давялося хлусіць, чаго ён ня ўмеў зь дзяцінства. Хаця не заўсёды казаў і праўду, але кожны раз пасьля ў такіх выпадках было брыдка самому. І ён даўно адчуваў: лепей ня трэба. Лепш па-праўдзе.

Здаецца, ён зноў заснуў - дабіраў недаспаны ўначы час, - як устрывожана прачнуўся ад блізкіх таропкіх крокаў. То ішоў аднекуль бамж - басанож, бяз шапкі, у высока, за калені, падкасаных штанах.

- Уставай і давай за дрывамі. Будзем жабаў смажыць!

- Жабаў?

- А ты думаў! Смаката, я ўжо еў, - сказаў бамж і вываліў з шапкі дзясятак рознага памеру жабаў. Некаторыя зь іх адразу кінуліся прэч, і бамж босай нагой рашуча спыняў іх паратоўчы спрыт у траве.

- Куды? Куды скачаш? Я табе дам удзіраць! Знаеш, - сказаў ён хлопцу. - То, можа, і добра. Усё ж у жабаў радыяцыі менш. Бо тутэйшыя, не з Чарнобыля прыскакалі. А рыба чорт яе ведае, адкуль плыве.

Слабое гэта суцяшэньне ня дужа кранула салдата, які паволі, бяз жаднай ахвоты, палез на абрыў - у бор па дровы.

Бамж ня хлусіў - ён сапраўды еў жабаў, - ня тут, у зоне, а летась пад Менскам, як яны ўдвох акупавалі нечую пустую дачу. Праўда, тады яны мелі бутэльку, зь якой яно ўсё смачней і адважней. Ягоны напарнік Трушч, нядаўні дацэнт інстытуту, падаў прыклад гэтай адмысловай закусі. Ён жа распавёў, што недзе пад Полацкам мясцовы рыбгас заключыў дамову з францускай фірмай на пастаўку такіх во жабаў - увесну кашамі вазілі ў Парыж на адмыслова зафрахтаваным для таго самалёце. Французы няблага плацілі валютай, на якую начальнік рыбгасу паставіў катэдж над возерам і купіў «Пэжо». Катэдж, праўда, хутка згарэў, а што стала зь «Пэжо», дацэнт ня ведаў. Можа праўда, а можа й плёткі, меркаваў бамж, але цяпер перабіраць не

выпадала. Сапраўды, жраць дужа карцела. Як і заўжды.

Стрымліваючы гідоту, бамж ножыкам выпатрашыў жабіны вантробы, кінуў у раку. Нарыхтаваных жабаў радком расклаў на траве, некаторыя яшчэ тузалі лапкамі, але большасьць ляжала ціха. Салдат прынёс ладны бярэмак сушша, яны раскачагарылі добрае вогнішча і на выграбеным зь яго жары паклалі пляскатыя жабіны тушкі. Спакваля ад вугольля пашыбаваў незразумелы, але быццам зусім нябрыдкі пах смажанага. Жабы памалу пякліся.

- Хочаш жыць - умей падлу пажраць! - сказаў бамж. - Вось дэвіз савецкіх бамжоў.

- А што - ёсьць бамжы і несавецкія? - запытаў салдат.

- А як жа! У Францыі, напрыклад, бамжы. Называюцца па-французску кляшары, дацэнт расказваў. Ну жывуць, я табе скажу, ня горш, чым у нас сакратары райкомаў.

- Няўжо?

- Праўда. Дацэнт езьдзіў у Парыж, бачыў. Сьпяць пад саборам, ранічкай сьнедаюць у Булонскім парку. Культурна так, на лаўцы, пасьцелюць газэтку, паставяць бутэлечку чырвонага. Ну і там - французскую булачку, каўбаску. Пасьля - дабавяць яшчэ ў бістро, так забягалаўка па-іхнаму называецца. Ну а абед само сабой - дзе-небудзь на Елісейскім полі...

- Елісейскіх палях, - паправіў салдат.

- Можа, і на палях. Калі аднаго поля мала. Іх жа там таксама, мабыць, нямала, кляшараў гэтых... А ў нас якіх, можа, пару дзясяткаў і тым жраць не даюць. Во, трэба жабаў жраць...

- А не атруцімся?

- Ні чарта ня будзе, - запэўніў бамж, - радыяцыя ня дасьць. Яна сама каго хочаш атруціць.

Салдат зразумеў тое як жарт, хаця й на гэты раз яму

было не да жартаў. Як і заўжды, ён чуўся прыгнечаным, мала што яго весяліла ці нават захапляла. Тое, мабыць, заўважыў бамж і, знарок сярдзіта пачаў дакараць салдату:

- Ты гэта - ня кісьні! Малады яшчэ, трэба лягчэй пачувацца. Маладая бяда, яна што пылінка, дзьмух - і няма. Праз месяц і ня ўспомніш. Яшчэ хто ведае, каму пашэнціць - ім там, на чыстай зямлі, ці нам тут, у зоне.

- Наўрад ці нам, - сказаў салдат.

- А во й не наўрад! - загарачыўся бамж. - Мы тут сядзім на нікчэмнай зямлі, самі па сабе. А яны там ля ядзерных базаў. Ну па кім смалянуць у першую чаргу, саабразі?

- Па ўсіх разам.

- А во й няправільна. Усё ж ты салдат, ды яшчэ дэзэрцір, мусіць слаба ў гэтым петраеш. А я афіцэр запасу, дваццаць гадоў адслужыў, у том чысьле шэсьць у ракетных войсках стратэгічнага прызначэньня. Паняў?

Што было панімаць, думаў салдат. І дурню зразумела, што будуць цаляць па базах. Але гэтых базаў навокал столькі, што промаху проста ня можа быць - за кожным кустом база. Ды й Чарнобыль - ня пустка, там таксама засталіся рэактары. Але салдат не хацеў ні спрачацца з гэтым чалавекам, ні нават абмяркоўваць балючую праблему - у яго свае праблемы былі ня меней балючыя.

Зноў па адной, як учора падлешчыкаў, яны пачалі есьці падсмажаных жабаў, абсмоктваць іх тонкія костачкі. Жабы ўвогуле былі дробныя, канечне, абодва яны не наеліся, - хіба што раздражнілі свой згаладнелы апэтыт. І бамж абвясьціў:

- Ну, здарава, ды мала. Знаеш, давай ты нацягай болей дроў, а я зноў у балота. Ужо я іх налаўлю...

Так яны й зрабілі, - салдат зноў палез у бор, а бамж хуткім крокам пашыбаваў берагам рэчкі да недалёкага балота.

Салдат хадзіў доўга, забрыў нават далёка. Баравы лес усюды быў прыгожы нейкаю трагічнаю прыгажосьцю. Хвоі зь ціхім гулам гайдаліся ўгары, сьвежай лістотай трапяталіся пад імі бярозкі, бы не падазраючы, дзе расьлі. Дзе на сонечных палянках высока вымахала нейкая невядомая трава, - нібы жыта, нават з пустым калосьсем, ніхто яе тут не таптаў, не касіў. У гольлі нідзе не трапляла путшак, - нават вараньня й таго не было відаць. Аднойчы толькі высока над хвоямі палунаў у небе лясны канюк і таропка паляцеў кудысьці на захад. Чагосьці яму тут не падабалася. Хаця вядома чаго... Куды ж ён улез, радавы ракетнага дывізіёну, што яго тут чакала, скрушна думаў салдат.

Канечне, трапіў не адзін, цяпер яны ўдвох. Але бамжу што - бамж ужо стары, сваё, мабыць, аджыў, папіў гарэлкі ды й жанчын пазнаў... А салдат нават не пасьпеў каго пакахаць, толькі прымерваўся да нясьмелага юнацкага каханьня. У школе з восьмае клясы падабалася яму адно чорненькая весялушка Сімакова Тоня. Аднойчы напісаў ёй запіску, што кахае і хоча сустрэцца; да пачатку заняткаў паклаў ў тоньчыну парту. Усе перапынкі ні жывы, ні мёртвы сачыў за яе тварам, на якім, аднак, не было нічога, апроч звычайнай ейнай сьмяшлівасьці. Тады, падпільнаваўшы, як яна вярталася з туалету, спыніўся наперадзе і, нічога ня кажучы, уперся ў яе ідыёцкім позіркам. Яна ўскінула свае чорныя броўкі, ціха мовіла адно толькі слова «дурак» і пайшла ў клясу. Пасьля ўрокаў ён знайшоў у глыбіні яе парты сваю запіску і дробненька пашкамутаў яе. Так скончылася, не пачаўшыся, яго дурное каханьне.

Надвячоркам, як яны, трохі спатоліўшы голад, сядзелі на беразе, бамж папытаўся:

- Слухай, а чаго ты драпануў з войска?

- Было чаго, - ціха адказаў салдат.

- Што, мусіць, камандзіры дапяклі?

- Дапяклі...

Ён не хацеў нікому расказваць пра сваю бяду і сваю ганьбу, ён не хацеў нават пра тое думаць, - гідзіўся. Бамж, мабыць, адчуўшы нешта ў ягоным настроі, ня стаў дапытвацца. Ён ужо ўлазіў у свае ўспаміны.

- Знаеш, а я во хацеў служыць. Я ж па тэхнічнай часьці афіцэр, тэхніку любіў. Цікавая справа - тэхніка.

- А якая? - зь цікавасьцю запытаўся салдат, прыпамятаўшы свой агрэгат сувязі, зь якім яны нямала напакутаваліся на манэўрах.

- Аўтамабільная.

- Ну аўтамабільная, можа, і нічога. Калі не псуецца.

- Псавацца ўсё можа. Трэба рамантаваць. Але каб рамантаваць, трэба талент мець.

- Талент?

- А ты ня ведаў? Думаеш, талент толькі сьпявачкам ды пісьменьнікам трэба? І мэханікам таксама. Я, знаеш, меў.

- І што ж вы рамантавалі?

- За дваццаць гадоў усё перабраў - «Газы», «Уазы», «Мазы»...

- І каторыя лепшыя? - бяз жаднай, аднак, цікавасьці пытаўся салдат.

- Калі па шчырасьці - усё гаўно.

- Чаму так?

- Бо ня ўмеюць рабіць. Або ня хочуць. Хіба такая павінна быць армейская аўтатэхніка?

- А якая?

- А хоць бы, як у амэрыканскай арміі. Мы ж на курсах яе вывучалі. Дык наша ад іхнай - як зямля ад неба. А ўсё чаму? Бо перадраць па-людзку ня ўмеюць. Абавязкова

спаскудзяць, спрасьцяць і пагоршаць. Як тыя «Жыгулі». Перадралі ў італьянцаў і пагоршылі. А затым пачалі ўдасканальваць, гэта значыць - пагаршаць. Ну і давялі да ручкі. Аўтамабіль патрабуе дакладнасьці, яго напільнікам не ўдасканаліш.

- Аднак жа езьдзяць...

- Езьдзяць, бо які ж выбар? «Масквіч» яшчэ горшы. А «Запарожац» - гэты цуд тэхнічнай нядбайнасьці...

- Ну а грузавыя? Гэтыя, што руду возяць. У паверх вышынёй...

- Ня толькі руду возяць, яны яшчэ й нашыя ракетавозы. Гаўно таксама. Намучыўся я зь імі пад завязку. На поўначы... Яны добрыя толькі як у боксах стаяць. Вялізныя, колы памалёваны, бампэры выраўненыя, поўны ажур. А вы папытайце іхных мэханікаў... Хаця што пытацца - і яны ня скажуць, яны ж падпіску давалі. Таму - абы роўна, чыста і прыгожа. Як і запраўка коек. Вас жа, напэўна, здорава вучылі койкі запраўляць?

- Ага, здорава. Усю дарогу, - з усьмешкай зазначыў салдат.

- Во гэта галоўнае. Як і заўжды. І яшчэ страявая. І палітзаняткі - абедня з нампалітам.

- Цяпер ужо бывае, што і з папом.

- Ну, пацеха! - ёрзаў у доле бамж. - Кажаш, з папом нават? Ну дажылася непераможная армія. Добра, што я ў ёй не служу. Адслужыў сваё. Не, увогуле я любіў тэхніку. Калі дзе якая няспраўнасьць, начальства нэрвуецца, крыкі, мат... А мне цікава: у чым справа? Нейкі стук, а не зразумець, дзе. Стукі - яны хітрая штука, скажу табе, на слых не заўжды возьмеш. Бывае стукае ў адным месцы, а прычына ў іншым. Ці з той электратэхнікай, як наша. Знаеш, і цяпер калі рухавікі сьняцца. А табе што сьніцца - дзеўкі? - раптам запытаўся бамж.

- Мне? А нічога.

- Ну й кепска. Значыць, у цябе глухая псыхіка.

- Аглохла?

- Можа, аглохла, а можа, з такой нарадзіўся, - вырашыў бамж, паварочваючыся на другі бок. - Халера, нешта ў грудзях забалела... Але скажы ты мне, чаго ты ў гэтую зону ўлез? Ці болей не было куды?

- Значыць, не было.

- А што бацькі? Ці ня ведаюць, дзе сын?

- Няма каму ведаць.

- Панятна. Значыць, сірата. Угадаў?

- Ну.

- А што ў хвасьце? Палітыка, бытавуха?

Што ў яго ў хвасьце - палітыка ці бытавуха, салдат ня ведаў, у гэткіх тонкасьцях сучаснай юрыспрудэнцыі ён ня быў дасьведчаны, з пракурорам не сустракаўся.

- Аднаго гада пырануў, - адказаў ён ціхманым голасам.

- Да сьмерці?

Да сьмерці ці не, таксама ня ведаў. Тады здавалася - так, цяпер пачаў сумнявацца. Можа стацца, што й не да сьмерці, што Дробышаў выжыў, і ўжо яго не прысудзілі б да вышкі. Але што ж тады атрымліваецца? Што ён дарма зьбег з палка ды па дурноце сваёй ускочыў у гэтую зону? Тое было б жахліва. Праўда, бамж, дзякуй яму, болей ня стаў лезьці ў душу, распытваць падрабязнасьці. Падобна, трохі паспачуваў яму і на правах старэйшага пусьціўся ў павучаньні.

- Знаеш, у эвангельлі сказана: не забі. Думаеш, чаму сказана - што, ворага шкада? Цябе, дурня, шкада. Таго, хто забівае. Куля яна ж забівае двух - аднаго прама, а другога рыкашэтам, пагадзя. Во ў чым загвоздка. Я ўжо нагледзеўся. Вунь у Менску аднаму жонка ізьмяніла.

Гарачы быў, малады, ну і ўкокаў яе. Дарэчы, разам зь яе палюбоўнікам. І ўсё так тонка зрабіў, што не раскрылі: маўляў, пайшлі й зьніклі, я скуль ведаю? І што ж, думаеш, яму стала лягчэй? Высах, схуднеў, рак падключыўся. У кладоўцы павесіўся мужык. Без суда і сьледзтва.

- Ну вядома, - сказаў салдат. - «Праступленьне і наказаньне» Дастаеўскага...

- Дастаеўскі што! Дастаеўскаму таго й ня сьнілася, што ў нас робіцца. Сын бацьку забівае. Бацька дачку малалетнюю гвалціць. А ты - Дастаеўскі...

- Дык што ж тады гэтым злыдням? Рабі, што хочаш? Яны ж усё могуць.

- Яны могуць, ага. Але іхным спосабам супраць іх нельга. Нельга, нельга. Нізашто нельга!

- А якім жа тады спосабам?

- А супраць іх спосабаў няма, - глыбакадумна зазначыў бамж.

- Няўжо?

- Яны самі сябе павінны прыкончыць. Рана ці позна. Як павукі ў банцы. Калі ў банку да іх кінуць, напрыклад, шаршня, яны ўсе наваляцца на яго і заб'юць у момант. А калі іх там не чапаць - самі сябе пажруць. Бо нікога ня жраць яны ня могуць. Гэта точна, навукай даказана, - сказаў бамж і, мабыць задаволены сваім адказам, хітравата засьмяяўся.

Салдат маўчаў, задуменна калупаючы дубчыкам у пяску.

- Забойства - падвойная бяда. Нават калі й ня зловяць, не засудзяць. Цябе ж, мабыць, лавілі?

- Ня ведаю, - паціснуў плячыма салдат. - Можа, і цяпер ловяць.

- Тады табе нельга адсюль патыкацца. Сядзі. Тут яшчэ, можа, як пераседзіш.

- Чаго ж я тут дасяджуся? - нэрвова папытаўся салдат.

- А знаеш, усё можа быць. Уласьць зьменіцца - у нас жа таксама яна мяняецца. Ну, калі там памрэ хто. Ці амністыя. Ці дзе новы рэактар выбухне, - бамж зноў засьмяяўся.

- А радыяцыя? - узьняў галаву салдат.

- Во я й кажу: калі раней радыяцыя ня скруціць. Яна - паскудная сука, падбіраецца на кацiных лапках, а хапае, як тыгра.

- Скуль вы ведаеце?

- Ведаю, - няпэўна адказаў бамж. - Па сабе адчуваю.

Такі паварот размовы быў не па нутры салдату, і ён моўчкі ўстаў. Памалу пайшоў па беразе, пазіраючы на раку, нібы тая магла чым суцешыць. Было крыўдна на сваю няўдалую долю - і чаму гэткая дасталася яму? Чаму ён трапіў да гэтага гада Дробышава, а не да якога лепшага сяржанта? І мала яму было бяды ў палку, дык яшчэ ўлез у гэтую страшную зону. Усё ж, мабыць, яна сапраўды страшная - дарма некаторыя кажуць, што такія страхі перабольшаныя. Мабыць, не перабольшаныя, калі ад яе ўцякаюць людзі. Людзі ведаюць ці адчуваюць небясьпеку, адкуль бы яна ні йшла - ад Бога ці д'ябла. Людзей не ашукаеш. А ён во, здаецца, ашукаўся - ня трэба было бегчы сюды. Хаця, а куды б ён пабег - бяз грошай і бяз зброі? Са зброяй, напэўна, усё магло б быць інакш. Хаця... Вунь бамж гаворыць пра рыкашэты. Можа, хопіць яму й аднаго рыкашэта, які ўжо ці ня трапіў у яго.

Шмат што ва ўласным лёсе салдата здавалася яму няпэўным ці зусім кепскім. Людзі, якіх ён сустракаў, таксама ня надта захаплялі яго. Да бамжа ён зь першага дня прыглядаўся з асаблівай увагай - усё ж ня так часта выпадала яму сустракаць бамжоў. Спосаб

ягонага існаваньня і некаторыя словы часам зьдзіўлялі салдата, які зь дзяцінства прывык, можа быць, з празьмернай увагай ставіцца да словаў і ўчынкаў старэйшых. У старэйшых хлопцу перш за ўсё хацелася бачыць пэўнасьць і грунт, - якасьці, якіх, можа, не хапала самому. Але не нашмат болей ён знаходзіў іх у старэйшых, сярод якіх таксама панавалі зьменлівасьць і выпадковасьць. Пачынаючы ад дробных, асабістых падзеяў ды ўчынкаў і канчаючы Чарнобылем. Людзі яўна не разумелі, куды йшлі і куды трэба было йсьці. Часам ён думаў, што ўся гісторыя чалавецтва надта ж падобная на мітусьлівы рух згаладнелых мухаў па пустым стале. Ні законаў у тым руху, ні пэўнасьці, адно толькі памкненьне - знайсьці і зжэрці.

Во і бамж пра радыяцыю кажа то так, то гэтак. То яна для яго - не пагроза, то ён ужо штось адчувае. Хаця што бамж - нават вучоныя ня могуць дазнацца пра ступень яе небясьпекі. Адныя ўстанаўліваюць адныя нормы, другія - другія. Але ўсе вынаходзяць тэарэтычна, а тут даводзіцца выпрабоўваць гэтую халеру на сабе, сугуба практычна. Яны тут, нібы лябараторныя мышы зь нікому непатрэбнай лябараторыі, няплянавыя ахвяры заблытанай навукі. А заадно й гэткай жа тэхнікі. А можа, і абаронкі таксама. Салдат нідзе не чытаў, але чуў у размовах, што прычыны катастрофы - усё ж у абаронцы. Для ракет патрэбны ўзбагачаны плутоній, во абароншчыкі й гналі яго, каб выканаць і перавыканаць пляны да сьвята ўсіх працоўных - першага мая. Тэхніка й ня вытрымала. А за ёй і абаронка, ды й палітыка таксама. Але ж у гэтай дзяржаве палітыка - рэч сьвяшчэнная, у ёй ніколі ніхто не сумняваецца. Толькі чаму яна патрабуе столькі ахвяраў?

Апошнія дні салдат таксама пачаў прыкмячаць у сабе штосьці нядобрае. Нейкія кепскія зьмены пачалі адбывацца і ў яго арганізьме. Стала надта круціцца галава, часам ён нават баяўся, што ўпадзе, асабліва калі доўга глядзеў на рачную плынь. Зноў жа пачала балець шыя пад вухам, увесь час карцела адкашляцца, ды было нияк. Але болей за ўсё яму дакучала адчуваньне голаду. Ад голаду ён слабеў і думаў, што ўсе

прычыны яго хваравітасьці - ад недахопу харчу. Здавалася, калі б хоць аднойчы ўволю пад'еў, дык і пачуўся б лепей. Але пад'есьці ўсё не было чаго, а пра іншае ён баяўся й думаць.

Выратоўчы іх касьцярок, зь якога яны карміліся і які грэў іх уначы і ўраньні, апынуўся карай для салдата. Ён зжыраў неймаверную колькасьць дроваў, якія ўсё цяжэй было здабываць у лесе. Мабыць, усё было б лепш, калі б яны мелі сякеру ці хоць які здатны нож ці кінжал. Але нічога з таго ў іх не было - ні ў бамжа, ні ў салдата, дровы яны мусілі здабываць голымі рукамі. Гарадзкі жыхар, салдат ня думаў, што ў лесе гэта стане праблемай. Галоўнае, калі бамж ішоў на балота, хлопец ня мог на даўгі час адлучацца зь берагу, а адлучыўшыся, кожны раз баяўся, што спозьніцца, і касьцёр згасьне.

Таго дня ён асабліва далёка й не адыходзіў. Выбраў у маладым хвойніку ссохлую елку, якая была яму пад сілу, і распачаў яе гнуць-хістаць, каб выкруціць з каранямі. Елка была не таўстая, тым ня менш давялося павалэндацца, і хлопец ажно спатнеў, пакуль управіўся зь ёю. Так і павалок цераз падлесак да рэчкі, усё трывожачыся, ці не патух касьцярок. Як ішоў, падклаў зусім трохі, магло й дагарэць.

Выбраўшыся зь лесу на абрыў, перш за ўсё зірнуў на бераг і ад зьдзіўленьня ледзьве ня выпусьціў елку - каля касьцярка плячмі да яго сядзела незнаёмая жанчына. Касьцярок быццам яшчэ трохі дыміўся, і жанчына, апранутая ў джынсовую куртку і спартовыя штаны, клапатліва падкладвала ў яго тое, што не пасьпела яшчэ дагарэць. Салдат амаль што спалохаўся, што яна можа й зусім патушыць касьцёр, і саскочыў з абрыву.

- Во падкладваю, каб не патух, - сказала жанчына звычайным, амаль як у хаце, голасам.

Не адказаўшы ёй, салдат паправіў канцы недагаркі гальля - дымок пагусьцеў, неўзабаве павінны быў паявіцца агонь: касьцярок не затухне. Гэта яго супакоіла, хаця паяўленьне жанчыны амаль

затрывожыла, тым больш, што ён тут апынуўся адзін, - бамж з ранку прападаў на балоце.

- Што, рыбу ловіш? - паўзіраўшыся ў яго заклапочаны твар, запытала жанчына.

Яна была куды старэйшая за салдата, мела жвавы й востры позірк з-пад цёмных, не памаляваных брывоў; на яе вуснах таксама не было прыкметна сьлядоў памады, і яны здаваліся ня надта выразнымі на худаватым твары. Вольная манера гаворкі й не беларуская мова давалі зразумець, што жанчына не тутэйшая, - хутчэй за ўсё, з гораду. Але як яна апынулася тут? Што ёй тут трэба?

- Адзін тут? - зноў запытала яна.

- Не адзін, - буркнуў ён і палез на абрыў па елку. Усё ж трэба было падкласьці ў касьцёр.

Ён звалок елку з абрыву, падцягнуў бліжэй да берагу і пачаў абломваць галіны. Некаторыя зь іх кідаў у агонь, іншыя, што былі таўсьцейшыя, складваў наводдаль. Жанчына, пільна назіраючы за ім, моўчкі сядзела ля кастра. Пасьля рэзка спытала:

- Ты дурань, ці што?

Перш, чым адказаць, ён кінуў у яе бок злы позірк, бо яна яўна бянтэжыла хлопца і, мабыць, не адразу ўцяміла тое. Але зразумеўшы, падышла да яго бліжэй.

- Давай памагу.

Удвох яны сталі ламаць зь елкі суччо, хаця, як ён зразумеў, дапамога ад яе была невялікая; яна больш замінала, тузаючы елку. Ростам яна была вышэйшая за салдата і, мабыць, ніколькі не бянтэжылася ў адносінах зь ім. Ён жа немаведама чаму пачаў прыкметна для самога сябе саромецца ад таго, што яна была да яго так блізка.

- А сякеры няма? - папыталася жанчына, і ён згледзеў, што наперадзе ў яе не хапае зуба.

- Няма.

- І пілкі няма?

- Няма й пілкі.

- Як жа ты тут абыходзісься? Рукамі?

- Рукамі.

- А як рыба? Клюе?

- Клюе, - проста адказваў ён, ламаючы таўсьцейшыя сукі зьнізу. Жанчына абломвала болей тонкія зь вершаліны.

- І шмат налавіў?

Прыпамятаўшы іхны ўлоў і страчаны кручок, ён крыва ўсьміхнуўся. Падумаў, аднак, што падрабязнасьцяў ёй тлумачыць ня будзе. Хто яна такая, каб усё ёй тлумачыць.

- А дзе ж твая вуда? Ці, можа, сетка? - не змаўкала жанчына.

- Для нашай рыбы вуды ня трэба, - сказаў ён, маючы на ўвазе жабаў.

- Во як! Значыць, ты тут не адзін?

- Не адзін, - сказаў ён і ўпершыню проста зірнуў ёй у твар, затрымаўшы позірк на вязанай шапачцы на галаве. Усё ж улетку ў зімовых шапках жанчыны ня ходзяць, нават у лесе. Чаму гэтая ў шапцы? Ягоны позірк, аднак, зараз жа прыкмеціла жанчына.

- Што, думаеш - благая шапка? Вельмі нават зручная. І камары не кусаюць. Дык з кім жа ты ловіш?

- З кім трэба, з тым і лаўлю, - стрымана сказаў ён і змоўк. Недарэчная цікаўнасьць жанчыны пачала дакучаць салдату. Добра яшчэ, думаў ён, калі тое - толькі цікаўнасьць. Хутчэй бы прыходзіў з балота бамж, ужо ўдвох бы яны знайшлі як адчапіцца ад гэтай

жанчыны.

Жанчына ў сваю чаргу таксама зразумела, мабыць, што няшмат даб'ецца ад гэтага недарэкі-хлопца ў салдацкім бушлаце, і сказала пра сябе:

- А я гэта іду, гляджу - касьцярок, і нікога няма. Ну, думаю, прыкуру, а то запальніца скончылася. А топаць далёка...

- Гэта куды ж - топаць? - ваўкавата запытаў салдат.

- Туды, - няпэўна махнула рукой жанчына.

І тады салдат убачыў ля вогнішча невялікую гаспадарчую сумку, зь якімі гаспадыні звычайна ходзяць на рынак. У сумцы штосьці было накладзена, аднак, наўрад ці прадукты - з выгляду сумка здавалася лёгкай. У той час з кустоўя ля рэчкі паявіўся бамж, які, убачыўшы іх тут, прыпыніўся, але затым пачаў нетаропка набліжацца па беразе. Жанчына, згледзеўшы яго, кіўнула.

- Напарнік, ага?

- Напарнік, - сказаў салдат. Ягоны ніякаваты настрой адразу стаў лепшаць, у прысутнасьці бамжа ён адчуў сябе болей упэўнена.

Здаля азіраючы жанчыну, бамж падышоў да кастра. У шапцы ён трымаў налоўленых у балоце жабаў і цяпер яўна прыкідваў, што зь імі рабіць. Мабыць, паказваць іх незнаёмай жанчыне ён не хацеў, але й выпускаць таксама было шкада. Жанчына, падобна было, штось зразумела.

- Што гэта - рыба?

- Рыба, - раптам сказаў бамж. - Ляшчы. Паказаць?

- Пакажы.

Жанчына зрабіла некалькі крокаў насустрач, каб зазірнуць у шапку, адвязаныя вушы якой ён сьціскаў у

кулаку. Але, зазірнуўшы, адхіснулася.

- Фу, гадасьць! Нашто яны вам?

- Есьці!

- Есьці? Вы што?

- А нічога. Голад - ня цётка.

- Панятна, - не адразу сказала жанчына і адышлася, здаецца, страціўшы цікавасьць і да жабаў, і да іхных лаўцоў.

Бамж між тым зь нечаканым імпэтам забегаў каля кастра.

- А во мы іх зараз падкапцім, падсмажым і зьямо за мілую душу. Праўда, салдат? Можам і пачаставаць, калі згаладнела. Адкуль ідзеш? - быццам да добра знаёмай, зьвярнуўся ён да жанчыны.

- Адтуль, - сказала жанчына і прысела трошкі ўбаку ад вогнішча.

- Салдат, давай болей дроваў! - па-камандзірску распараджаўся бамж. - Напалі жару. А я іх выпатрашу, нафаршырую цыбуляй ды перчыкам. А як жа! Французы ядуць, а мы што - горшыя?

Салдат безь вялікай ахвоты ўзяўся падкладваць у вогнішча сухое яловае гольле, полымя ад якога хутка шуганула слупам пад неба. Зблізку ад вагню стала горача, яны адышліся далей; бамж ржавым складанчыкам выпатрашыў дзясятка паўтара жабак.

- Нябось уцякаеш? - раптам запытаўся ён у жанчыны, якая сядзела зводдаль. Жанчына насьцярожылася.

- А я не ўцякаю. Хай ад мяне ўцякаюць.

- Хе! Ты хіба зь міліцыі?

- Можа, і зь міліцыі...

- Так я табе й паверыў! - агледзеўшы яе, сказаў бамж.

Жанчына ў адказ засьмяялася - строгі яе напачатку твар па-добраму прасьвятліўся.

- Ну й правільна зрабіў. Цяпер верыць нікому нельга.

На грудку напаленага вугольля бамж распачаў пячы-смажыць жабаў. Седзячы побач, салдат звыкла глытаў сьлінькі й памалу пароў у агонь. Ён чакаў, што жанчына пойдзе, яе прысутнасьць непрыемна гняла яго, ён ужо пасьпеў адвыкнуць ад пустой балбатні зь незнаёмымі. Для пустых размоваў яму даволі было бамжа. З жанчынай, напэўна, трэба было абыходзіцца інакш, асабліва з такой во бессаромнаю прыліпалай. У размовах з жанчынамі ён наогул рэдка калі трапляў на патрэбны тон, часьцяком саромеўся і нават пакутаваў з таго.

Празь якую гадзіну ці болей жабкі, здаецца, падсмажыліся, і яны паселі іх есьці. Жанчына па-ранейшаму мясьцілася трохі ўбаку ад вогнішча, і салдат падумаў: ну, цяпер ужо пойдзе. Але яна нікуды ня йшла, і калі бамж падаў ёй невялічкую жабку на шырокім лісьце дзядоўніку, які служыў ім заместа талерак, нерашуча ўзяла яе. Аднак есьці пакуль не сьпяшалася.

- А солі? Солі ў вас няма?

- Чаго няма, таго няма, - ахвотна патлумачыў бамж. - Знаеш, і выпіць няма. Можа, у цябе маецца?

- Чаго няма, таго няма, - бы перадражніла яго жанчына і ціхенька, неўпрыкмет уздыхнула.

- Дык еш. Нябось даўно ня ела?

- Даўнавата, - прызналася жанчына. - Тут дзе возьмеш?

- Тут нідзе няма. Апроч як у нас, - жартаваў бамж. - Рэстаранчык на беразе. Бы паплавок, праўда, салдат?

Салдат няўтульна пацепаў плячыма, падумаў: чаго ён

чапляецца? Хай бы й чапляўся да яе, калі яму цікава, ды пакінуў яго ў спакоі.

Хутка яны скончылі тых жабаў, абсмакталі іх дробныя косткі, якія бамж сабраў у адну кучку ды затаптаў у пясок.

- Во й паабедалі! І павячэралі таксама. Ну як - нішто?

Жанчына няпэўна цепанула плечукамі - мабыць, адказу ў яе не знайшлося. Замест таго яна штосьці дастала з сумкі.

- Закурым?

- А мы некурашчыя, - адказаў бамж.

- Траўку...

- Траўку? Тады давай.

Жанчына спрытна згарнула з паперкі таўстую цыгарку, прыкурыла ад вугальку з кастра. Бамж падсунуўся да яе бліжэй.

- Цябе як зваць?

- А цябе?

- Мяне - Жора.

- Ну калі ты - Жора, дык я - Жаржэта. Чуў такое імя?

- А як жа! Толькі як ты тут апынулася? Тут жа зона.

- Ну і хрэн зь ёй, з зонай, - рэзка, без усьмешкі сказала жанчына. - Нам дык чаго баяцца?

- А сьмерці?

- Сьмерць я ўжо бачыла. Нават пацалавалася зь ёй. Во, паглядзі!

Яна ссунула з ілба вязаную шапачку, і на выстрыжанай скроні паявілася белае лапікла лейкаплястыру.

- Што гэта?

- Ад кулі. Кілер быў п'яны, не пацэліў.

- Кілер?

- А ты думаў - пятух клюнуў?

- І завошта?

- За грошы, канечне. За што ж яшчэ?

- І вялікія грошы? - зь цікавасьцю пытаўся бамж.

- Увогуле драбяза, - абыякавым тонам распавядала жанчына. -Асноўныя грошы пасьпелі перагнаць за рубеж. Во толькі самі зяўнулі, рэшту не хацелася губляць. Ну, сябрук мой і атрымаў у свой круты лоб. А мне з рыкашэту - таксама.

- Аднак! - задуменна мовіў бамж. - Рызыковая ваша жытуха -з грашыма.

- Была з грашыма. А цяпер пуста ў кішэні.

- Ну й добра. Ужо цяпер кілер адстане.

- Не скажы. Калі б адстаў, я б тут не апынулася.

- Во як!

Яны змоўклі, жанчына падала бамжу тоўсты недакурак, які той ашчадна ўзяў закапцелымі пальцамі.

- Што - ужо курыў?

- Было некалі...

- А пацан? Хаця яму яшчэ рана, - вырашыла жанчына, з усьмешкай азірнуўшы салдата.

Яму й зусім стала няловка, амаль пакутна. І гэтая размова пра грошы, кілераў, і курэньне «траўкі» непрыемна падзейнічалі на яго, карцела ўстаць ды пайсьці. Хай бы яны тут курылі й спавядаліся адзін

перад адным, усё ж у яго быў інакшы, чым у іх, лёс. Аднак штосьці ў асобе гэтай жанчыны прыцягвала ягоную ўвагу, і ён, хоць і зь непрыязнасьцю да яе, сядзеў і слухаў.

- Адной табе кепска, - сказаў бамж. - Напарніка трэба.

- Дзе ж яго ўзяць - напарніка?

- А мяне вазьмі. Ці, можа, хлопца. А што - у войску служыў, дэзэрцір...

Салдат моўчкі ўстаў і берагам рэчкі пайшоў прэч.

Ён доўга й бяз справы хадзіў між хвояў, пазнаючы ўжо бачаныя мясьціны лесу, часам прыкмячаючы дзе сухія сукі, якія маглі б спатрэбіцца для агню. Лаўжоў у доле тут было мала, пад хвоямі шырока распаўзьліся зялёныя лапіклы чарнічніку, хутка павінны былі паявіцца й ягады. Але галоўнае баравое хараство буяла ўгары, у бронзавым пераліве хвояў, якія, бы на падбор, стаялі ўсе роўненькія - і таўшчынёй, і ростам, і колерам аздобы, які плаўна мяняўся з камля ад шэрага да ярка-залатога ў вершалінах. Ад гэтых хваёвых вершалін імкнула чароўнае лесавае хараство, якога не было ні ў якім іншым лесе. Аднак і тут панавала самота, і салдат не разумеў, чаму. Ужо гэткая баравая лагода павінна б суцешыць, заспакоіць, абнадзеіць чалавека, а во не абнадзейвала. Хіба паглыбляла тугу - добра яшчэ, што не бурыла спакой. Спакою было тут нават багата, і чалавек нярэдка пераставаў прыкмячаць яго.

Паяўленьне тут гэтай незнаёмай жанчыны, здаецца, сапраўды разварушыла трохі заспакоеныя пачуцьці салдата, пабудзіла ў ім паўзабытае пачуцьцё няёмкасьці. Падобна на тое, што ён пачаў адчуваць сябе лішнім ці, можа, пабаяўся страціць бамжа? Але бамж асабліва яго й не трымаў ля сябе. Болей за ўсё верагодна, што ён адчуў непажаданую пэрспэктыву адзіноты, ад якой ужо стаў адвыкаць. І цяпер гэтая жанчына...

Ён ніколі ня ўмеў нармальна адчуваць сябе побач з

жанчынай, асабліва перад тымі зь іх, што былі старэйшыя, такія гаваркія і востраязыкія; іх жаночыя жартачкі, скіраваныя на яго, бянтэжылі й крыўдзілі яго. Ён злаваў часам, але не на іх - на сябе, ды нічога зрабіць ня мог, ня мог перасіліць сябе, толькі трываў. Калі не было магчымасьці ўстаць і пайсьці. Як во сёньня.

На чабаровай прагаліне ён паваліўся ў траву, прагна ўдыхаючы знаёмы гаючы водар, які памятаў яшчэ зь дзіцячых гадоў, як на канікулах жыў у бабулі. У полі ці ў лесе бабуля заўсёды зьбірала розныя зёлкі, сушыла іх у цёмных сенцах, і ён часам пытаўся: нашто? Ад хваробы, казала бабуля. Узімку прастудзісься, захварэеш, а я завару гарбаткі - пап'еш і паправісься... Калі б была жывая бабуля, пэўна, яна б і зараз заварыла якіх-небудзь лекаў - ад радыяцыі. Ён бы выпіў і быў здаровы. Але бабулі няма, а праклятая радыяцыя затаілася дзесьці паблізу й чакае. Чаго толькі чакае? І колькі будзе чакаць?

Як пачало зьмяркацца, салдат вярнуўся на бераг. Ён думаў, што жанчына пайшла - што ёй тут рабіць зь імі? Але аказалася, што побач з бамжом яна сядзіць ля агню і пра штось ціха гутарыць. Штосьці расказвае. Каб не замінаць ім, салдат апусьціўся на абрыве зводдаль, пачаў азіраць затуманенае вечаровай смугой зарэчча. Там, між лугавога кустоўя, ужо паднімаўся туман, няроўным поцягам плыў-расплываўся ля рэчкі, мкнучыся да ўжо затуманенай лесавой далечыні. Як заўжды, сьвятло мкнула зьяднацца са сьветлым, цьма - зь цемнатой, мусіць, у тым і была іх таемная спрадвечная роднасьць. Як і яшчэ пацямнела, мужчына з жанчынаю ўсталі ад вогнішча й пайшлі ўгару, пад хвоі. Трохі счакаўшы, салдат спусьціўся да агню, падклаў палак і сеў на сваё звыклае месца - тварам да рэчкі. Ён пазіраў у агонь, але слых яго лавіў таемныя й яўныя гукі лесу. Сьпярша там чуўся наводдалі ціхманы гоман, пасьля быццам крык, які змусіў яго насьцярожыцца. А затым пасьля працяглага перапынку данёсься бесклапотны жаночы сьмех. Што б гэта ўсё азначала? -засяроджана думаў салдат, пра што-колечы,

аднак, здагадваючыся. Але - толькі здагадваючыся. Самому ў такім становішчы апынацца не даводзілася, а з мужчынскіх размоваў можна было меркаваць аб розным.

Каля касьцярка ён і задрымаў пад ранак - як заўжды, паклаўшы галаву на калені, і прачнуўся, бо адчуў, што хтосьці падышоў побач. Гэта была жанчына, і яе голас аж спалохаў яго ў цішыні.

- Бедненькі, ён тут скорчыўся, бы сіротка, - казала жанчына, сядаючы побач. Яе лёгкая рука лягла на яго плячо, твар наблізіўся да ягонага твару, і ён адчуў яе незнаёмае дыханьне. - Напэўна, азяб?

- Ды не, нічога, - ціха адказаў ён, нечакана для сябе - амаль прыязна.

- Такі маладзенькі... Хочаш, я цябе пагрэю?

Салдат здрыгануўся ад настойлівага дотыку яе абедзьвюх рук, спрабаваў адхіліцца. Здаецца, ён спалохаўся і ўжо гатовы быў зьненавідзець сябе за той свой спалох. Але штось непадуладна калючае ўзьнялося ў ім знутры, і ён ваўкавата мовіў:

- Не нагрэліся... Там?

Жанчына ціхенька засьмяялася.

- Ды ну! Нагрэесься з вамі. Адзін стары, другі малы...

- Ну і хай, - сказаў ён. - Нашто ж тады вяжасься?

- Аташчалі, відаць. На жабах, - пасьля паўзы ўздыхнула жанчына і выразна з жалем сказала: - Што ж!

Пасьля, адхінуўшыся, скруціла цыгарку з «траўкай», прыпаліла ад дымнага дубчыка з вагню і ўстала.

- Думала, хоць парачку награжу. Дзеля помсты. Не атрымалася.

Салдат узьняў галаву - жорсткія словы жанчыны змусілі

яго здрыгануцца.

- Чаго дзівісься? Кажу, наградзіць хацела. Сьпідзікам. Такім маленечкім, невылечным. Мяне ж таксама салдат наградзіў. Ну хай не салдат - афіцэр, якая розьніца. Так што табе пашэнціла, пацан! - жорстка паведаміла яна.

Салдат марудна спасьцігаў сэнс тых яе страшных словаў і ня ведаў, што адказаць. Дзякаваць або лаяцца. Хацелася запытаць: а як бамж? Але не запытаў. Хвіліну ён няўцямна пазіраў на жанчыну, якая, прысеўшы на кукішкі, са смакам зацягвалася «траўкай». Не дакурыўшы цыгарку, кінула яе ў вагонь і ўстала.

- Віднее. Пайду. На Ўкраіну ў які бок? Туды? - махнула яна рукой.

- Ну, - разгублена буркнуў ён.

- Я тут заплутала трошкі. Даўно не хадзіла. Іншыя справы былі, - наркота!

Наркота, наркота, - стукала ў ягонай галаве невыразная думка, і ён прыпамятаў яе ўчарашнія словы пра кілера.

- А кілер? - запытаў ён.

- Што? А, кілер! - спахапілася яна й засьмяялася, лёгка й шчыра. - А вы й паверылі!.. Ярунда ўсё. Гэта - па п'янцы...

Не разьвітаўшыся, яна хутка пайшла па сьцежцы да трысьняговай затокі, пасьля прыпынілася, і ў ранішняй цішыні сьвежа прагучэў яе недалёкі голас:

- І сьпід - ярунда! Схлусіла я вам. Так што ня бойцеся...

Салдат сьпярша падняўся, узіраючыся ў яе невялічкую на лесавым фоне постаць, затым апусьціўся зьбянтэжаны. І калі праз якіх паўгадзіны з абрыву да яго скочыў бамж, толькі сказаў:

- Пайшла.

- Хай ідзе, - абыякава азваўся бамж. - На Ўкраіне нарката дзешавей.

Салдат не хацеў яму ні пра што расказваць, ні тым болей - пытацца. Сам ён разумеў няшмат, але й таго, што ўцяміў, для яго хапіла...

Колькі наступных дзён іхны найбольшы клопат стаў - жабы.

Зранку бамж ішоў у недалёкае балота, там разуваўся, зьнімаў порткі і, асьцярожна ступаючы, лез у балота. Жабы і ня дужа ўцякалі ад яго, ляніва скакалі з-пад ног, і ён хапаў іх за даўгія жылаватыя лапы, піхаў у шапку. Праўда, жаб рабілася ўсё меней, трэба было добра палазіць па багне, каб налавіць на вячэру.

Салдат тым часам падкладваў у цяпельца дроваў і лез на абрыў. Паблізу ў бары ён ужо падабраў усё, што магло гарэць, цяпер па дровы трэба было ісьці далей, у дробны сасоньнік за баравым пагоркам. Здалёку цягнуць іх да рэчкі рабілася цяжка (ці, можа, хлопец так зьнясілеў), некалькі разоў на шляху ён адпачываў у доле, дарэшты спатнелы ў сваім зашмальцаваным бушлаце. Бушлата ён не скідаў ніколі, як ніколі не зьдзяваў свае кухвайкі бамж. «Усё маё нашу з сабой», - сказаў той аднойчы, як салдат заўважыў, што трэба б распрануцца, бо стала горача. Бамж не сказаў болей нічога, а салдат падумаў, што той, зь яго немалым вопытам, мае на гэты конт і пэўную рацыю. Ён таксама ніколі тут не распранаўся.

Пра палітыку яны не гаварылі, быццам палітыка іх не датычыла. Падобна было, што ў атамнай зоне яны выйшлі з зоны палітыкі, як і ўлады таксама, і падпарадкоўваліся адно ня менш строгім законам прыроды, законам выжываньня. Толькі аднойчы, як бамж прачнуўся на сьвітаньні, каб падмяніць салдата ля касьцярка, сказаў нібы ў працяг колішняй гутаркі ці, можа, чаго ўбачанага ў сьне:

- Знаеш, салдат, увогуле я - за камунізм. Начарта мне гэты капіталізм...

- Мусіць, таму, што капіталаў бракуе? - з усьмешкай сказаў салдат.

- Не, не таму. Пры камунізме мяне, мабыць, даўно б у турму пасадзілі. А тут пакуль каго не заб'еш, не пасодзюць.

- А вам што - у турму хочацца?

- Ня тое, каб хацелася. Але ў турме, калі параўнаць, - рай. Асабліва зімой. А што? Цёпла, кормяць, кампанія нейкая. А паспрабуй перазімаваць у паддашшы. Ці ў каналізацыі. Ды паваяваць зь міліцыяй, з крыклівымі дворнічыхамі. А ў сьмецьцевых скрынях пры дамах цяпер што знойдзеш? Людзі самі ўсё жаруць, толькі цалафан выкідваюць, - мовіў ён зь нейкаю нават крыўдай. - Начарта мне гэты капіталізм, лепш быў сацыялізм.

- Каўбаса дзяшовая, - у тон яму зазначыў салдат.

- І каўбаса, і шмат што іншае. Вазьмі агароды. Можна было пайсьці і накапаць бульбы ці там нарэзаць капусты. Нікому не шкада - усё калгаснае. А цяпер цябе гатовы з ружжа застрэліць за адну маркоўку. Вунь старога бамжа ў Зялёным і стрэльнулі. За дзьве маркоўкі аддаў жыцьцё. Не аддаў на вайне за радзіму, дык за дзьве маркоўкі аддаў. Не, нашаму брату пры сацыялізме лепш.

- Мусіць, пры сацыялізме і бамжоў не было. Не дазвалялася.

- Не дазвалялася, ага, гэта праўда. Нават жабракоў вывелі.

- А жабракі і бамжы - гэта не адно й тое ж?

- Вялікая розьніца, - сказаў бамж. - Жабракі просяць, а бамжы - ніколі. Хіба, калі ім самі даюць. Бо гонар маюць.

- Во як! А я й ня ведаў.

- Бо малады і шмат чаго ня ведаеш. Але я цябе навучу. Раскажу пра сацыялізм як вышэйшую фармацыю... Чаго? Капіталізму ці камунізму - ужо й забыўся.

- Але некаторым і пры капіталізме няблага, - сказаў салдат. - Вунь якія катэджы набудавалі. Зноў жа іншамаркі...

- Набудавалі, ага. Жульлё рознае. Што яны зарабілі на тыя катэджы? Накралі і карыстаюцца. Была ўлада савецкая, а стала бандыцкая. Знаеш, аднойчы я не стрываў. Ну, у Менску. Бачу, у двары двое корпаюцца ў новенькім «БМВ». Знаеш, апошняя мадэль, усё ў ім блішчыць, бы ў люстэрку. І гэтыя пачынаюць у ім разьбірацца: дзе карбюратар, дзе турбанадуў, дзе шрус. А разьбіраюцца слаба, адразу відаць, усё зь нямецкай інструкцыяй зьвяраюцца. Я падышоў, аж душа мая зьнямела, кажу: дазвольце мне, хлопчыкі, толькі зірнуць, я ж аўтамэханік. Яны падднялі галовы, убачылі мае транты, і адзін са стрыжанай патыліцай хапае гаечны ключ - мабыць, памеру 28 на 30, і як гаркне: прэч адсюль, бомж ванючы! Ну, я ім паказаў бамжа ванючага. Я ім выдаў. На двары аж кучка пэнсіянэраў сабралася. І знаеш, мяне падтрымалі.

- Няўжо падтрымалі?

- Яй богу. Адзін сказаў: ноччу ім колы папраколваць, каб ведалі. Але гэта дарма. У такога прыгажуна колы папраколваць рука не паднімецца. Хай езьдзіць. Але я ўжо болей яго не пабачу.

- Хто ж вінаваты...

- Канешне, сам вінаваты, - азваўся бамж і перайначыў размову. - Ну, як там нашыя жабіны? Ці варушацца?

Пад той час яны зрабілі некаторы харчовы запас - налоўленых у балоце жабаў пасадзілі ў выкапаную на беразе ямку, напусьцілі туды вады, каб жабы пачуваліся лепей. А каб яны не вылазілі, бамж прыкрыў іх зьверху тонкімі жэрдкамі.

Цяпер амаль увесь час ён прападаў на балоце. Праўда, зблізку жабаў хутка ня стала, - ці ён іх палавіў, ці, можа, адчуўшы небясьпеку, тыя перабраліся ў дальні канец балота, дзе было глыбей і рос трысьнёг. Часта лазіць туды ў багну бамж асьцерагаўся; зноў жа там сталі трапляць дзіўнаватыя жабы, мусіць, жабы-мутанты, ці што? Некалькі разоў ён лавіў іх зь дзьвюма парамі даўгіх задніх лапаў і сьпярша аж парадаваўся: будзе болей наедку. Але пасьля пакідаў іх у багну - невядома яшчэ, чаго чакаць ад гэткага наедку. Іншым разам яму траплялiся невялікія жабкі зь дзіўна скасабочанай галавой -не ў канцы тулава, а быццам як збоку. Гэтых таксама давялося адбракаваць. За той час бамж ужо набыў пэўныя веды пра жабаў і разьбіраўся ў іх ня горш за якога прафэсара. Дзіва што - столькі часу прабыў у балоце сам-насам з жабамі. Яго толькі трохі дзівіла, што жабы нідзе не квакалі, быццам усе страцілі свой адмысловы жабіны голас.

Надвор'е на той час увогуле спрыяла іхнаму бамжоўству. Зранку выдараліся негустыя туманы, на траву клалася раса. У паўдзён жа было нават сьпякотна, і тады салдат перабіраўся на абрыў, у засень, пад хвоі. На сонцы ён стаў пачувацца блага: дужа кружылася галава, часам мутнела ўваччу, і ён пераставаў бачыць удалечыні. Але гэта ўсё з галадухі, ад недаяданьня, супакойваў сябе хлопец. Пра горшае не хацелася думаць. З абрыву ён не пераставаў сачыць за вогнішчам, якое слабенька дыміла, хаваючы ў прысаку не патрэбны да часу агонь. Неяк ён задумаўся на абрыве і раптам заўважыў, як касьцярок моцна задыміў, заіскрыў пад сьвежым подыхам ветру, што наляцеў ад рэчкі. Тады хлопец зірнуў у неба і спалохаўся - з-за бору сунулася шызая, з загорнутымі берагамі хмара, упершыню загрукацеў далёкі раскоцісты гром.

На выпадак дажджу ў бамжа была падрыхтаваная нешырокая пячурка ў абрыве, дзе ляжала некалькі патушаных галавешак. Абпякаючы рукі, салдат пачаў пераносіць з кастра дробныя галавешкі, хаваць іх у пячурку. Але ён не пасьпеў. Зь неба раптоўна абрынуўся дождж-лівень, берагавы пясок умомант

змакрэў, рака задымела ад струмянёў і бурбалак, касьцёр хутка асеў і патух. Ужо змокшы ў сваім бушлаце, салдат падаўся да пячуркі, каб неяк уратаваць наношаныя галавешкі, але з абрыву туды таксама паліліся дажджавыя ручаі, яны хутка залілі і пячурку, і ўсе галавешкі ў ёй. Тады хлопец стаў побач і роспачна апусьціў рукі...

Неўзабаве прыбег з балота бамж, таксама ўвесь змакрэлы, але з жабамі ў пале кухвайкі. Той адразу зразумеў, што сталася і, можа, упершыню брыдка вылаяўся.

- Ну што цяпер? Сырымі іх жраць?

Салдат змоўчаў, ня ведаючы, што сказаць, - усё ж ён пачуваў сябе вінаватым, што не ўбярог касьцярка. Але і як было ўберагчы ў гэтай залеве? Мабыць, бамж разумеў тое й не дакараў хлопца, толькі неяк надта засумаваў адразу. Ягоны звычайна дзейны, бадзёры настрой увачавідкі зьмяніўся на заклапочана-пахмуры.

- Дрэнь справы, - раздумна сказаў ён. - Што есьці будзем?

Што есьці, салдат ня ведаў; ня ведаў, што ў гэтай сытуацыі можна было прыдумаць, і ён вінавата маўчаў. Бамж абвяла апусьціўся на мокры пясок.

- І мне нешта сёньня... - сказаў ён і ня скончыў. Салдат занепакоена падняў галаву.

- А што?

- Ды ў грудзях душыць...

Салдат маўчаў, чакаючы, што бамж скажа нешта й яшчэ, але той не сказаў болей нічога. Яны абыдва сьціхлі пад здрабнелым ужо дажджом, размова далей ня йшла, кожны панура аддаўся ўласнаму клопату. Агульны, падобна, разам з дажджом адышоў стараной. Пасьля салдат павярнуўся і памалу падыбаў па змакрэлым беразе, шлёпаючы падэшвамі па набрынялым пяску.

Становішча іх пагаршалася. Толькі паспадзяваліся на лепшае, знайшлі, як уратавацца ад голаду, ды раптоўны лівень адабраў у іх надзею. Што яны цяпер без агню? Ды й бамж пачаў наракаць на здароўе. А нядаўна яшчэ выхваляўся: загартаваны арганізм, ніякая радыяцыя не бярэ. Не, мабыць, перад атамнай чумой ніхто не ўтрымаецца. Справа толькі ў часе...

Але што ж ім рабіць?

Нядаўна яшчэ шмат у чым, што тычылася іхнага тут побыту, салдат спадзяваўся на бамжа, чалавека болей спрактыкаванага ў зоне, мабыць, як і ў жыцьці таксама. Але во аказалася, што й бамж ня ўсё можа і нават ня ўсё ведае. Пра што-колечы трэба даўмецца самому. Калі ня позна...

Між тым насоўвалася сырая, сьцюдзёная ноч, належала паклапаціцца, як начаваць. У зямлянцы-нары ўсё абрушылася, лезьці туды было неяк. Трохі счакаўшы, пакуль сьціхне дождж, яны пачалі ўладкоўвацца на абрыве. Недалёка ў лесе салдат наламаў яловых галін, якія перацягнуў да абрыву, удвох з бамжом яны расклалі іх пад крайняй сукаватай хвояй.

- Ну й няблага! Праўда, салдат? - падбадзёрыў сябе й яго бамж. - Галоўнае, ня падаць духам. А там як-небудзь...

Падобна на тое, сам ён падаць духам усё не хацеў, усё чапляўся за нейкую прывідную надзею. Зрэшты, так, можа, і лепей, думаў салдат. Чым марнець ды стагнаць, лепш рабіць выгляд, што горшае не настала. Як настане, тады й паякочаш.

Але й як жыць з такім адчуваньнем?

Усё ж, мабыць, трэба б яму мець іншы характар, не рэагаваць так драматычна на нягоды жыцьця, - можа, так было б лепей. Навучыцца болей трываць, чаго ён ня ўмеў, хоць ужо й так натрываўся нямала. Калі б там, у казарме, ён неяк стрываў, перажыў сорам і абразу, як гэта зрабіў ягоны зямляк Пецюхоў, можа б усё й

абышлося. А так нарабіў бяды і гэтаму сабаку Дробышаву, і сабе таксама. І калі Дробышаў заслужыў, што паймеў, дык завошта ён гэтак пакараў сябе?

Але й як было рэагаваць інакш ці не рэагаваць зусім? Ня мог ён ні скардзіцца начальству, ні даравацъ крыўдзіцелям абразу. Колькі ён наслухаўся ў жыцьці ды начытаўся ў кніжках, што чалавек ёсьць стварэньне вышэйшае і павінны мецъ здольнасьць абараніць свой гонар. Дык вось ён і абараніў гэты гонар. І чаго тым дамогся?

Дамогся горшага, чым запэцканы гонар, - на гэты раз пагрозы жыцьцю. Што ўжо тут клапаціцца пра гонар, калі зьнікае магчымасьць жыць...

Во трапіў у ваўчыную яму. Колькі куды ні скачы - ня выскачыш.

Яшчэ не зусім сьцямнелася, як бамж лёг на калючую яловую кучу, падкорчыў ногі.

- Ну, а ты што? - гукнуў ён салдату. - Ідзі кладзіся. Удвох цяплей будзе...

Салдат доўга і моўчкі сядзеў поруч, думаў. І як зусім стала цёмна, таксама лёг плячмі да бамжа. Спакваля быццам зрабілася цяплей, памалу сунялася настылая дрыготка. І ён заснуў.

Бамж ляжаў ціха, стараўся лішні раз не варочацца, каб не трывожыць хлопца. Сну ў яго не было, пачуваўся ён блага, дарэчы, ня першы ўжо дзень. Сьпярша думаў, што, можа, прастудзіўся на балоце, як лавіў жабаў, але на прастуду было непадобна. Зноў жа да прастуды ён быў загартаваны, даўно ня кашляў і не смаркаўся, забыўся, калі хварэў на грып. Цяпер было такое адчуваньне, нібы ў яго зьліплася правае лёгкае, балела, што не ўдыхнуць; колькі дзён ён абыходзіўся частымі дробнымі ўздыхамі, рабіць хутка ня мог, мог толькі спакваля, памарудзіўшы; нават упраўляцца зь цяжкаватым вудзільнам яму было трудна. Не лягчэй было й нагінацца за порсткімі жабамі. Лацьвей, калі

сьпярша іх было багата. Пасьля, аднак, паменшала, і ён, ганяючыся за кожнай, проста зьнемагаў да вечара.

Сярод самай начы ён, здаецца, заснуў, але праспаў зусім мала. Прачнуўся і ляжаў так, слухаючы лесавы шум. Таемныя гукі лесу даўно яго не трывожылі, нічога ён не баяўся ні ў лесе, ні ў горадзе. І нават тут, у зоне, здаеца, нішто яго не магло напалохаць. Салдат за плячыма роўна і глыбока дыхаў, ад яго мкнула добрае, густое цяпло, яно заспакойвала. Усё ж куды лепш за адзіноту было ўдвох, нават з дэзэрцірам, можа нават забойцам. Але з маладзейшым. Усё ж старому патрэбны малады побач. Са старым часам цікава, але не заўжды прыемна - малады ж абнадзейвае, быццам малодзіць нават. Нават такога застарэлага бамжа, як ён.

Зрэшты, бамж не заўсёды быў бамж, некалі меў уласнае імя й нават пагоны на плячах, - як служыў у войску намесьнікам камандзіра па тэхнічнай частцы. Апошнія пяць гадоў ягонай службы міналі ў далёкім прыпалярным гарнізоне, дзе ён мацаваў ракетны шчыт радзімы і жыў разам з жонкай, загадчыцай афіцэрскай сталовай, і маленькім сынком Дзяніскам.

Прыпалярны ракетны гарнізон па сутнасьці мала чым адрозьніваўся ад колішняга Гулагу; там далёка ня кожны мог стрываць нават год, а яны змушаныя былі трываць тры, чатыры, а то й пяць гадоў запар, - пакуль дачакаюцца замены. Суцэльная сьнежная ноч бяз дня, маразы і сьцюжы, гнятлівае пачуцьцё закінутасьці на край сьвету шмат каго даводзілі да канфлікту з начальствам, сям'ёй, нярэдка з самім сабой, што нават канчалася стрэлам у скроню. Міжволі вайскоўцы шукалі нейкае выйсьце, прадуху ў гнятлівым жыцьці і, вядома ж, знаходзілі яго ў бутэльцы ці, лепей сказаць, у бэнзынавай бочцы, у якіх «Ваенгандаль» завозіў на поўнач 95-градусны сьпірт. Гэты напой меў высакародны каньячны колер і за палярную ноч спажываўся дарэшты. А калі яго не хапала, тады ў мясцовай крамцы дужа павялічваўся попыт на адэкалёны, ласьёны ўсіх гатункаў, на розныя тэхнічныя вадкасьці.

Нампатэх тады і ў сьне ня бачыў сваю хуткую будучыню, быў, як усе, - у меру піў і ня надта цьвяліў начальства. Зусім не цьвяліць было нельга, таго б не зразумелі ні сябры-таварышы, ні падначаленыя, ні нават начальнікі. А галоўнае, не было такой магчымасьці, абставіны вымагалі. Даванаццаць і болей гадзін у боксах каля настылай на марозе тэхнікі, з даўно памарожанымі рукамі, на сьцюжы й скразьняках, у няспынных сутычках з начальствам - сваім штатным, штабным і правяраючым, - усё тое як мае быць выматвала сілы й нэрвы. Адзіным паратункам ад таго было выпіць, расслабіцца, абнавіць нэрвовыя сілы, каб заўтра зноў марнаваць іх у тых самых боксах і тых самых сутычках.

Так цягнулася шэраг гадоў; мабыць, дацягнулася б і да жаданай зьмены, калі б аднойчы ў разгар палярнай начы ў гарнізон не прыляцеў новы камандуючы ракетных войскаў. Генэрал толькі што быў прызначаны на гэтую пасаду рашэньнем палітбюро, якое падпісаў сам Леанід Ільліч, і меў жалезную рашучасьць навесьці бальшавіцкі парадак у самым стратэгічным родзе войска. Зрабіўшы двухдзённы разгон у падразьдзяленьнях, зьняўшы з пасадаў двух камандзіраў і трох іх намесьнікаў, генэрал выправіўся на ня дужа далёкі (за 250 кілямэтраў) аэрадром стратэгічных бамбардзіроўшчыкаў. Натуральна, як самы вялікі ракетны начальнік, ён ня мог езьдзіць на нейкім вайсковым «Уазе», а прывез з сабой у самалёце адмысловы ўрадавы «Зім», які яго й падвёў. А заадно спляжыў і без таго ня дужа бліскучую кар'еру дывізійнага нампатэха.

Зрэшты, даўно тое было, за шмат гадоў усё было перадумана, і ён даўно ня меў крыўды на тагачаснага генэрала, што, як ён чуў, дажываў свой век на падмаскоўнай дачы. Разумеў, вінаваты быў сам, ня трэба было так паводзіць сябе, належала б асьцерагчыся. Але й як асьцеражэсься, калі самы блізкі табе чалавек - жонка толькі й пільнавала, каб дзе падлавіць яго, падставіць начальству, бачачы ў тым сваё помсьлівае жаночае задавальненьне. Таго разу пасьля

генэральскага разбору ў клюбе, як камандуючы ўжо выехаў за прахадную, і ў палку з палёгкай уздыхнулі, ён зь сябруком у акумулятарнай спажылі бутэльку 95-градуснага, і нампатэх заваліўся спаць. Мінулай начы спаў усяго тры гадзіны пасьля шалёнага перадпаверачнага аўралу ў аўтапарку і цяпер спаў, як забіты. І раптам жонка штурхае яго ў плячо - прыбег дзяжурны. Дзяжурны перадае загад камандзіра паехаць на 27-ы кілямэтар, дзе ў камандуючага сапсаваўся «Зім». Дзяжурныя ўжо езьдзілі, ня могуць зразумець, у чым справа - рухавік не заводзіцца. Што было рабіць соннаму, нецьвярозаму нампатэху? Абклаў матам жонку (нашто сказала, дзе сьпіць) і надзеў паўшубак. Машыну ён даволі хутка наладзіў (у той забракаваў ланцуг высокага напружаньня), і яна завялася. Але пакуль ён корпаўся пад капотам, напрактыкаванае вока камандуючага, мусіць, нешта ў ім згледзела, ён папытаўся прозьвішча нампатэха і кінуў ад'ютанту - запішы. Нампатэх падумаў: ну, будзе падзяка ў загадзе, і сьціпла парадаваўся. Загад сапраўды неўзабаве прыйшоў з вынікамі высокай праверкі, і там пасьля шмат чаго іншага аб'яўлялася аб звальненьні ў запас неадпавядаючых службе афіцэраў. Сярод іншых было і ягонае прозьвішча. І гэта за два гады да выслугі на пэнсію, зь неладамі ў сям'і, у прыпалярным гарнізоне, дзе немагчыма было знайсьці ні кватэры, ні працы.

А тут і зусім разьюшылася жонка, якая не трывала яго ў пагонах, дзе ўжо было ёй мірыцца зь беспрацоўным. Паўгода яна дамагалася разводу, а разьвёўшыся, тут жа запісалася з даўгавязым, бы жардзіна, прапаршчыкам, нядаўнім сваім улюбёнцам. Ды яшчэ наскардзілася ў палітаддзел на маральнае разлажэньне нядаўняга мужа. У часе чарговых разборак на партбюро ён, не стрываўшы, кінуў на стол свой партбілет і ў той жа вечар добра напіўся. Пасьля, як ня стала грошай, кудысьці паехаў з выпадковым субутэльнікам, у нейкім паўночным гарадку ўладкаваўся інжынэрам мясцовага аўтапарку, дзе праз паўгода яго зьнізілі да брыгадзіра мэханікаў. Затым некалькі месяцаў рабіў шараговым шафёрам, пакуль ДАІ не адабрала правы. Мабыць, самая пара было адумацца, зрабіць нейкія высновы з

свае кар'еры наадварот, але адумацца нампатэху не выпадала. Найперш не было часу. Жыў безь сям'і, вадзіўся з процьмай сяброў-субутэльнікаў, выдатных, на яго думку, мальцаў. Нехта зь іх прысватаў яго да таксама неблагой кабеціны (немаладой, праўда), якая рабіла ў гастраноме. Як ён цяпер разумеў, то была цярплівая жанчына і хацела яму толькі добрага. Яна нікому на яго ня скардзілася, калі ён па тыдні не паяўляўся дома, толькі часьцяком плакала, і аднойчы яму стала яе шкада. Як яна сказала, што, можа б, ён падлячыўся ў ЛТП, ён пагадзіўся. Тры месяцы ён сумленна адпакутваў сярод такіх, як сам, небаракаў, глытаў розную дрэнь, драў кішкі ад ванітаў. Але трываў, - ён сапраўды хацеў вылечыцца й завязаць. Ён дужа ўзрадаваўся, як доктарская камісія прызнала ягонае лячэньне скончаным і выпісала адпаведны дакумэнт, які ён з радасьцю прывёз жанчыне. Тая, ня менш за яго ўзрадаваная, прыгатавала смачны абед з украінскім баршчом, які ён заўсёды любіў, заслала на стол новы абрус. Аднак не хапіла хлеба, і ён вырашыў зьбегаць у хлебную краму на суседняй вуліцы. Гаспадыня дала яму грошай -дваццаць пяць рублёў у адной купюры, ён хутка купіў бохан хлеба і скіраваў дадому. Яму можна былоісьці наўпрост, цераз двор, каля дзіцячага садзіка, а можна па вуліцы, дзе на рагу мясьцілася тутэйшая забягалаўка з ласкаваю назвай «Уралачка». Не падумаўшы, ён пайшоў па вуліцы і каля забягалаўкі канешне ж наткнуўся на даўніх сяброў - аднавокага Юзя і Колю Валяўку. Тыя дужа ўзрадаваліся сустрэчы, бо ня бачыліся ад пачатку лета, і папыталіся, дзе быў. «Лячыўся, - сказаў ён. - У ЛТП». - «Ну, і як?» - «Парадак. І праўку маю». Сябры дужа ажывелі - праўку належала абмыць. Ён завагаўся, але тыя сказалі: «Ня бойся, можаш ня піць. Мы за цябе вып'ем». Як было адмовіць харошым мальцам выпіць за сябе, і ён зайшоў - на хвілінку. Тая «хвілінка», аднак, задоўжылася, ён выбраўся з «Уралачкі» недзе апоўначы ў дым п'яны, бяз грошай і бяз хлеба. Прадаўшчыца тры дні праплакала, а затым сабрала ягонае майно ў стары чамадан і выставіла яго на ганак. «Ты мне болей ня муж. Тым болей, мы не расьпісаныя»...

Пасьля былі й яшчэ жанчыны, добрыя і злыя, некаторыя спрабавалі перарабіць яго, адвучыць ад згубнае жарсьці. Былі яшчэ два ЛТП, адзін ганебны прысуд «да хіміі». І ўсё марна, без жаданага выніку. Былы нампатэх ня мог перамагчы ў сабе прагнага шэранькага пацучка, пацучок пасьлядоўна перамагаў нампатэха. Апошні пакутаваў, лаяў сябе за няўдачы й зрывы, але працягваў піць, спыніцца ён ужо ня меў сілы. Галоўнае - ня мог выскачыць з пэўнага кола сяброў. Кожны дзень ён быў на ўзводзе - за свае, заробленыя, ці на халяву, у доўг. Выпіць было куды лягчэй, чым прыдбаць паесьці, і ён часьцяком швэндаўся па вуліцах галодны, нэрвова напяты ад незадаволенага жаданьня ўсё таго ж - выпіць. Толькі апынуўшыся ў зоне, на абсалютнай адзіноце, неяк суняўся, можа, тут паспрыяла прырода, а можа, страх набрацца радыяцыі, хто ведае. Магчыма таксама, што справа ў прымітыўным ладзе жыцьця, дзе не было месца выпіўцы. Сапраўды, ніхто яго тут не падахвочваў, ня тузаў і не забараняў, тут ён круглы дзень пачуваўся свабодным, залежным толькі ад уласнае волі. А свабода, смак якой ён добра спазнаў у бамжоўстве, бы наркотык, цягнула яго да яшчэ большай свабоды. Здаецца, ужо тут яна стала абсалютнай, і ён акрыяў. Калі б толькі пра гэтую атамную зону ня спраўдзілася differentes разнае страхоцьце - наконт радыяцыі, аблучэньня, радыёнуклідаў ды іх наступстваў. Але, думаў ён, хіба небясьпечная толькі зона? Хіба не хварэюць і не паміраюць воддаль ад яе - ад раку, сэрца, ад СНІДу нарэшце. І якая розьніца, ад чаго памерці, калі прыйдзе той час. Ён сам сто разоў мог загнуцца, але ягоны час, мабыць, яшчэ не настаў. А як настане, ён шкадаваць ня будзе. Бо такое было жыцьцё.

Раньняй вясной міліцыянты выкурылі іх з пустой закінутай дачы, дзе ён зь яшчэ адным небаракам перабылі зіму. Ды яшчэ навесілі на іх рабаўніцтва маёмасьці, якой яны й ня бачылі, бо дачу абрабавалі да іх. Менавіта тады ён рашыў - у зону! Мабыць, іншага месца на зямлі для яго не засталося. Прынамсі, падумалася, што ў зоне яго шукаць ня будуць, і ён пражыве там у спакоі, колькі дасьць Бог. Зноў жа ягоны напарнік, былы інструктар райкаму, сказаў, што ў зоне

або адразу адкінеш капыты, або загартуесься, як сталь. Напарнік ведаў, бо ён сам паходзіў з раёну, які апынуўся ў зоне. Праўда, разам ехаць былы інструктар не захацеў, меў нейкія прычыны. Ён жа важкіх прычынаў ня меў і паехаў, як некалі ехалі на цаліну ці на БАМ. Губляць яму не было чаго, грошай ён ня меў, чым харчавацца ў зоне, інструктар яму не сказаў. Але ў яго прапацелай шапцы зь летняй пары тырчэў іржавы рыбны кручок, які яго й выручыў. Ужо ён бярог яго, той кручочак... Увогуле ля ракі ўлетку жыць было можна, ніхто яго тут не трывожыў, за два месяцы ён не спаткаў ніводнага чалавека. Беглы з часьці салдат быў першы, хто тут зь ім павітаўся, і ён быў хлопцу рады. Усё ж, мабыць, чалавек не павінен жыць у адзіноце, нават воўк адзін не жыве.

Вось каб толькі лепш пачувацца...

Дагэтуль у яго не было падставаў наракаць на здароўе, пачуваўся няблага нават на поўначы. Праўда, тады ён піў. А тут як вып'еш - раптам натрапіў ён на выразную думку, ад якой апошнім часам неяк зусім адвык. Во ў чым прычына, а ня ў той радыяцыі...

Раніцай, як толькі пачало шарэць, побач заварочаўся салдат, і бамж зразумеў, што той прачынаецца. Сам ён ляжаў моўчкі, ня маючы ахвоты ўставаць і нават размоваю парушаць ранішнюю цішыню лесу. Не расплюшчваючы вачэй, слухаў, як салдат падняўся, трохі пасядзеў, надзеў у рукавы бушлат.

- Пайду. Па агонь, - сказаў урэшце хлопец.

Бамж памаўчаў крыху. Тое рашэньне салдата не сказаць, каб было для яго нечаканкай, але не адазвалася й радасьцю. Дужа трывожліва было на душы ў бамжа, і ён спакваля папытаўся:

- І куды пойдзеш?

- А там хутар. За рэчкай.

- За зонай?

- За зонай.

Салдат пераабуўся, устаў, зрабіў сваю справу паблізу. Але ня йшоў. І бамж, набраўшы болей паветра ў балючыя грудзі, сказаў:

- Ты гэта... Можа, ня варта і вяртацца? Сюды...

- А куды ж? - павярнуўся да яго салдат. - Куды ж болей?

- Ну, ці мала куды. Сьвет вялікі.

- Сьвет вялікі, а месца няма. Счытай, для нас нідзе нет.

- Для нас нет, - пагадзіўся бамж і ледзьве стрымаўся, каб не заплакаць. Чамусьці сьлёзы падступілі да яго надта блізка, аж закруціла ў носе. Але кароткім намаганьнем ён стрымаў сябе.

Салдат ужо скочыў з абрыву, як бамж яго прыпыніў.

- Слухай... Ты гэта там... Ну, можа, хоць чакушачку? Ну, самагону, калі можа...

- Што?

- Ну, гэта... Выпіць мне, - слабым голасам патлумачыў бамж.

- Чаго захацеў! - няласкава азваўся салдат і хутка пайшоў берагам рэчкі.

Шлях свой сюды салдат збольшага памятаў, той пралягаў уздоўж крывулякі-ракі. Адсюль мо кілямэтраў пяць было да броду, а там яшчэ колькі полем да хутара. Заблудзіць ён не павінны, тым болей удзень. Толькі б не натыкнуцца на людзей, на міліцыю. Галоўнае - за рэчкай перайсьці гравійку-шашу, па якой, напэўна, гойсаюць патрулі, занепакоена думаў салдат. Усё ж як ні было рызыкова, а трэба было здабыць агню, безь якога ім жыць стала неяк. А яшчэ хлопец таіў прыліпчывую надзею паесьці. Можа, у старога паесьці будзе чаго. Той раз ён частаваў салдата бульбай з прастаквашай і нават быў хлеб. Ён доўга яшчэ

шкадаваў, што хлеба тады зьеў адну толькі лусту і цяпер адчуў паўзабыты пах зваранай у печы бульбы з падгаркамі на верхніх бульбінах. Можа, яму пашчасьціць, бо згаладнеў ён у зоне, як мае быць. А да жабаў так і не адолеў гідоту і еў хіба, каб не сканаць ад голаду. Ніштo яго так не гняло там, як голад, заўжды хацелася есьці. Ніколі раней ня думаў, што пачуцьцё голаду можа быць такім неадвязным і такім гнятлівым. Нават і ў тым даўнім выпадку, як спрабаваў уцячы ад мачыхі да бабулі на вёску і два дні праседзеў у пустым хлеўчуку без вады і ежы. Есьці тады нават ня дужа і хацелася, было страшна, што яго знойдуць. Яго і знайшлі. Дзяўчынкі з суседняга двара падказалі міліцыі, і тая яго ўзяла на сьвітаньні соннага. Пасьля быў пастарунак, нейкая дзяўчына ў міліцэйскім, якая ўсё нешта ад яго дамагалася. Дужа сорамна было затым вяртацца да мачыхі, і ён яшчэ дзень ці болей ня еў. І не хацелася дурню...

Ісьці каля рэчкі сьцяжынамі было даволі нязручна, тыя толькі дзе-нідзе захаваліся ў кустоўі і лазьняку, а ў большасьці пазарасталі хмызам і крапівой - ня згледзець. Тады ён прастаў шлях і шыбаваў дзе хмызьняком, а дзе лесам; часам трапляла перайсьці лужок з высокай, да калена травой, якая гучна шорхала па халявах ботаў. Людзей не было нідзе. Ды, мабыць, і не магло быць - усё ж тут пачыналася праклятая зона, якой палохаліся за дзясяткі кілямэтраў адсюль. Ён таксама баяўся, але тое ранейшае страхавітае пачуцьцё, зь якім ён ішоў сюды, неяк прытупілася. Падобна, ён стаў прывыкаць да небясьпекі ці прымірыўся зь ёй як зь непазьбежнасьцю. Можа, гэта й добра, а можа й не.

Абы толькі пашэнціла на хутары, думаў салдат. Абы не спаткаць там чужых, а дзед яму дапаможа. Як дапамог першы раз, дык дапаможа і яшчэ. Ды й ён уважыў старога - пайшоў, каб таго не абвінавацілі, што схаваў. Праз той выпадак дзед нібы стаўся ягоным саўдзельнікам і, напэўна, таксама падлягаў адказнасьці. Цікава, а ці падлягае адказнасьці бамж? Мабыць, так. Усё ж салдат распавёў яму пра забойства, значыцца,

той павінен данесьці ўладам. Ва ўсякім разе не хаваць злачынцу. Такія вось законы і такое права - данесьці на таго, хто пабач, з кім дзеляць хлеб і ложак... Дужа маральны закон, - нічога ня скажаш, разважаў салдат. Найбольшай бяды належала чакаць ад людзей, якія дужа сябравалі з законамі, а бамж яго не прадасьць, тое салдат адчуваў пэўна. Чаму ён так адчуваў, хто ведае. Мабыць, пачуцьці ня маюць адказнасьці перад законам, таксама як і перад розумам, таму яны й завуцца пачуцьцямі.

Адно было пэўна - за гэты бядотны час у салдата ня стала нікога больш блізкага за двух чалавек - дзеда і бамжа, во ў чым справа. Ужо яны ўтрох таксама, мабыць, зьвязаныя адным няшчасьцем, і калі што - іх напаткае адна бяда. Ці, можа, ужо напаткала...

А можа, плюнуць на ўсё й матаць куды далей, - ня ў лад з уласным настроем падумаў салдат. Толькі куды?

Так разважаючы, ён ішоў краем бору, перайшоў невысокі баравы грудок. Стала цёпла, ён угрэўся, адышоў ад учарашняга залеўнага холаду. Бушлат яго амаль ужо высах. Навакольны баравы лес, як заўжды, замілаванаю радасьцю клаўся на душу. Хлопцу было ў ім міла і прыемна, і хоць на час прападала гнятлівае пачуцьцё, што не зьнікала ніколі. Ён з захапленьнем азіраў амаль кожную хвойку і думаў, што, можа, гэта ў ягоных генах адгукаецца далёкая міласьць продкаў да лесу? Ці, можа, лесу да продкаў - цяпер як дазнаесься? І раптам наперадзе перад ім раскрыўся вялізны пусты прагал, над якім шырока сьвіцілася неба; шмат сонечнага сьвятла ляжала таксама ў доле. Салдат падышоў бліжэй - на вялізным у некалькі гектараў прасьцягу стаялі ссохлыя рыжыя хвоі з таксама ўсохлым рыжым суччом, зь якога абсыпалася долу ігліца. Усё выглядала здаля, нібы даўняе вялізнае пагарэлішча. Але прыкмет вагню тут не было відаць, ніводная хвоя не абгарэла. Значыць, гэта адтуль, ад Чарнобыля, уражаны здагадаўся салдат. Мусіць, добра, аднак, сыпанула сюды стронцыем або цэзіем ці яшчэ якой халерай, і лес не стрываў. Толькі некалькі маладых

асінак нясьмела зелянелі між мёртвых хвояў, болей ніякага жыцьця тут не было відаць.

Аж здрыгануўшыся ад страхавітага пачуцьця, салдат збочыў свой шлях. У гэты нежывы лес страшнавата было паткнуцца, і ён пайшоў у абход. Для таго яму спатрэбілася зрабіць ладны крук, перайсьці невялікае, парослае альхой балотца і нарэшце ён выйшаў да рэчкі.

Тое, што ён называў бродам, быў колішні рачны пераезд - з абодвух берагоў да ракі вялі зарослыя ўжо быльнягом ды крапівой аўтамабільныя каляіны, налітыя ад учарашняй залевы вадой. Салдат зьняў боты і, сьлізгаючы ў гразі босымі пятамі, перайшоў неглыбокую рэчку. Апынуўшыся на другім беразе, падумаў, што недзе тут канчалася зона і маглі трапіцца людзі. Аднак да шашы ніхто яму не трапіўся, ён перабег няпыльную пасьля дажджу гравійку і скіраваў у поле.

Закінутае пасьля чарнобыльскага выбуху поле густа зарасло немаведама чым - хамлакі нізкарослага жыта чаргавалаіся з зарасьнікамі аўсюга і вікі, нейкага бухматага разнатраўя, сярод якога дзе-нідзе тырчэлі хілыя кукурузныя калівы, а то пачынаў ярка квітнець люпін. Усё тое ня першы год буяла і расло без патрэбы і рук чалавека, самахоць вяла і дзічэла нікому не патрэбным. Людзі страцілі цікавасьць да гэтай зямлі. Хіба апроч дзеда.

Як на раўніннай далечы паказаўся шыфэрны дах дзедавага хутару, салдат аж адчуў хваляваньне. Тады, увесну, добра набадзяўшыся па сырых лясах і пералесках, ён забрыў сюды, бо далей ісьці ня мог, згаладнеў дарэшты. Дзедаў падворак толькі здаля нагадваў хутар, а на справе быў крайняй у вёсцы хатай. Але пакуль была вёска. Цяпер жа ад вёскі лічы не засталося нічога, апроч хіба некалькіх зьдзічэлых яблыняў у былых садках, падмуркаў ды студняў. Дамы дарэшты ўсе пабурылі, расьцягалі на дровы, а то й папалілі. На месцы некалькіх падворкаў хлопец убачыў сьмярдзючыя, парослыя дзядоўнікам пажарышчы. Ён тады абышоў усю вёску і толькі на апошнім двары знайшоў жывога чалавека, які нават спрабаваў тут

гаспадарыць: набыў каня, нацягаў такі-сякі інвэнтар, меў карову і пачаў гадаваць цялушку. Вакол сядзібы распрацаваў ладны пляц пакінутай зямлі, на якой нешта ўжо расло; зямля была дбайна апрацаваная і нават угноеная. Дзед, падобна, чуўся здаровым, ня дужа баяўся атаму. Ягоны прыклад даў бегламу салдату немалую надзею.

Салдат таропка крочыў да хутара па бульбяным палетку са сьвежа акучанымі баразнамі; дзе-ндзе ўжо зацьвіталі бела-сінія кветачкі. Мабыць, нішто будзе ў дзеда бульбачка, па-гаспадарску падумаў салдат.

Ён яшчэ не дайшоў да хутара і, мабыць, мала што згледзеў там, як штосьці яму не спадабалася. Штосьці там было ня так, як тады, калі ён завітаў у першы раз. Найперш не было варотаў, і ўжо з поля быў відзён голы дзедаў падворак. Але ці не пусты ён? Ні дзедавага каня, ні каровы зь цялушкай, якія некалі пасьвіліся паблізу на прывязі, нідзе не было відно. Не адзываўся таксама пранізьлівым брэхам Кудлацік. Прыцінаючы непакой, салдат паціху ўвайшоў у двор і адразу ўбачыў старога. Дзед моўчкі сядзеў на ганку і нават не зьдзівіўся ягонаму прыходу, не павітаўся.

- Што ў вас здарылася? - запытаўся салдат, ужо адчуваючы пэўна, што здарылася кепскае.

Дзед павёў на яго патухлым, няўцямным позіркам і моўчкі разьвёў рукамі. Мяркуючы па ўсім, гаварыць яму было трудна.

- Але што? Што такое?

- Ды во, - мовіў нарэшце гаспадар, - разбурылі, абрабавалі. Усё! Усю маю працу. Столькі стараўся...

Здалося, ён аж заплакаў, - зморшчыў аброслы сівізною твар і высмаркаўся на траву.

- Але хто?

- А хто ж іх ведае - хто. Прыехалі з фурай...

- З фурай?

- Ну гэтай - міжгародныя перавозкі...

- Ноччу?

- Удзень. Надвячоркам. Пагрузілі каня, карову зь цялушкай. Выграблі збажыну, ячменя з кубла... Перавярнулі ўсё дагары дном - валюту шукалі.

- Валюту?

- Ну.

- Але хто? Што за людзі? Свае, прыежджыя? - ня мог супакоіць хваляваньня салдат.

- А хто ж іх знае. Чацьвёра. Спраўных такіх. У скуранках. І з наганам. Кудлаціка застрэлілі.

- Во як!

- Вунь за хлевам ляжыць. Закапаць трэба...

Спакваля стары стаў спакайнець, рукавом заношанай сьвіткі выцер змакрэлыя вочы. Трудна падняўся з ганку. Прыгнечаны горам ён здаўся салдату быццам меншым у росьце, чым быў раней, схуднелым і бездапаможным.

- І што казалі? - дапытваўся салдат. - Можа, мяне шукалі?

- Не. І не пыталіся, рабаўнікі нейкія.

- Дык, можа, у міліцыю трэба? Заяву напісаць?

- Не. Сказалі: заявіш у міліцыю - усё спалім. Ды й міліцыя - ці не яна й навяла гэтых. Яны ж усе ў хаўрусе, - ціха, бы сам з сабой, разважаў стары, стоячы сярод спусьцелага двара. Дзьверы ў хляўкі й каморы былі расчыненыя насьцеж, у сенцы таксама. На траве ляжалі скінутыя з крукоў вароты. Відаць, стары быў моцна ўражаны тым, што тут адбылося і, падобна, паў духам. Салдат таксама быў уражаны і ня ведаў, чым суцешыць старога. Між тым ішоў час, доўга тут заставацца яму не

выпадала, і ён зважліва папытаўся:

- Паесьці ня знойдзецца?

Дзед, падобна, трохі аціх у сваім горы і адчуў чужы клопат таксама. Мабыць, згаладнелы выгляд салдата закрануў у ягонай душы іншыя струны.

- Каб жа было што! У печы другі дзень не паліў. Гэта... Чакай, можа, хлеба асталася...

Ён патупаў у сенцы, пастукаў там чымсь - дзьверцамі ці шуфлядамі - і вынес хлопцу няроўна абламаны кавалак хлеба. Ладны, аднак, кавалак. Салдат адламаў ад яго частку і стаў прагна жаваць. Хлеб быў такі смачны, што ён глытаў яго, здаецца, не дажаваўшы, увесь час, аднак, пазіраючы праз вароты на дарогу і поле. Дзед зноў апусьціўся на ганак.

- Абжыўся, называецца, - на восьмым дзясятку. Думаў, хоць позна, але дачакаўся свае пары. Хоць праз Чарнобыль. А то ўсё неяк было: то калектывізацыя, то вайна, то ўздым сельскай гаспадаркі. А тут Чарнобыль! Казалі, усё шкоднае - і малако, і прадукты. Яно, можа, каму і шкоднае, а мне нічога. Займеў гаспадарку. Адзін. Кішкі ірваў, але ніхто ня шкодзіў. Мусіць, баяліся сюды патыкацца. А я не баяўся - рабіў. Дзень і ноч. Затое і меў. Гэта раней задарма. А тут, што зрабіў - тваё. Што пасеяў - сабраў. Шкада, Чарнобыль гэты, каб ён прапаў. Хто яго выдумаў на нашу галаву?..

- Вучоныя выдумалі, - ціха мовіў салдат. - Самыя перадавыя ў міры.

- Каб яны сказіліся, тыя вучоныя. Хай бы лепш жняярку лепшую выдумалі, каб во ня мучыўся з гэтай, - кіўнуў ён на паўразабраную жняярку, што мясьцілася ля варотаў у двары.

- Ім жа, каб плутоній узбагачаць. На ракеты.

- А, ракеты ім трэба! Цяпер во дамавін не набярэсься, як пачнуць ад Чарнобыля мерці. Дамавіны трэба. Кажуць, у Менску ўжо ў цалафане хаваюць. Ці праўда?

А я сабе зімой з сухой дошкі змайстраваў, вугалкі на замок узяў - добрае дамаўё палучылася. Дык забралі й яго. Казалі, спатрэбіцца. Каб ім гэтак умерці спатрэбілася...

Сумна і горка было слухаць тое салдату, але словаў суцешыць у яго не знаходзілася - у яго ня меней балела сваё. Ён праглынуў палову кавалка і не наеўся - хацелася зьесьці ўсё.

- Дзед, можа, маеш яшчэ запалкі? - прыпамятаў ён і другую сваю патрэбу.

- Не, запалак ня маю. У самога недзе паўкарабка асталася. Але, калі трэба магу «кацюшу» даць.

- Якую «кацюшу»?

Дзед моўчкі пайшоў у сенцы і хутка вынес адтуль невялікі руды капшучок, разьвязаўшы які, выняў «кацюшу» - кавалак крэменю, абламаны канец напільніка і нейкі абрывак трантаў.

- Во, ударыць, іскра выскачыць, затлее і разьдзьмуць.

- Добра. І яшчэ... Там напарнік захварэў. Каб як падтрымаць...

- Гэтак? Захварэў, кажаш? - насьцярожыўся дзед, і ў яго спакутваных вачах мільгануў цень непакою. - Ад атаму, можа?

- Хто ведае. Але есьці няма.

Дзед уздыхнуў, павярнуўся, быццам куды выправіўся, ды спыніўся.

- Што ж табе даць? Каб жа ня выграблі ўсё. Во бульбачкі зь мех засталося. Сказалі: мы добрыя, гэта табе, каб ня ўмёр. Дык бяры з паўмяшка.

- Не данясу.

- Ну вядзёрка...

Яны ўдвох пайшлі ў цёмны прахалодны застаронак, дзе гаспадар, грузна дыхаючы, навыбіраў зь нейкай скрыні леташняй, з доўгімі белымі парасткамі бульбы. Набралася няновае пакарабачанае вядзерца. Здаецца, не без шкадаваньня дзед падаў вядро хлопцу.

- Во, болей няма. Каб ты гэта двума днямі раней - усё было: і сала, і каўбасы. Дык пабралі. Не пабаяліся, што й радыяцыя...

- А і праўда, што радыяцыя? - занепакоена спытаўся салдат.

- Хто ведае. Я еў і нічога, яшчэ не памёр во. І ўнукам даваў, як прыяжджалі. Але тыя наўрад ці самі жраць будуць - на продаж! У Маскву павязуць на нітраграцыю.

Вось табе й на, думаў салдат. Ён спадзяваўся, што хоць дзед жыве ў бясьпецы, неяк гаспадарыць ля самай зоны, не галадае. Аж на дзеда знайшлася іншая пошасьць - не радыяцыя, ня голад, дык бандытызм. Раней сялян рабавала ўлада, а цяпер гэтыя - на фурах. Сапраўды, куды дзецца працоўнаму чалавеку, дзе знайсьці прытулак?

Салдат таропка разьвітаўся і зь вядром у руцэ пашыбаваў па тым самым полі наўпрост да ракі. Сьпярша азіраўся, але дзеда не было відаць. Наводшыбе ад пабуранай вёскі сіратліва мясьцілася абрабаваная сяліба, трохі прыхаваная за некалькімі дрэвамі садка. Бы партызан, бы партызан, - думаў пра сябе салдат, прыпамятаўшы нейкі фільм, што глядзеў у дзяцінстве. Толькі там партызаны несьлі ў лес авечку, а ён - вядро бульбы. І ўсё тоячыся, баючыся. Не нашмат, аднак, зьмяніліся часы... Праўда, тыя хоць мелі вінтоўкі, а ён што?

Увесь час на хадзе ён саваў руку ў кішэню бушлата і адшчыкваў патроху хлеба. І кожны раз думаў, што гэты раз - апошні, што астатняе трэба пакінуць бамжу. І ня мог утрымацца. Голад яго, здаецца, ад таго ня меншаў, а нават большаў. Тады ён аж вылаяў сябе - трэба ж урэшце знаць меру! Ды ягоны дурны жывот, мабыць, не

хацеў ведаць меры і патрабаваў яшчэ. Тады салдат стаў суцяшаць сябе, што бульбу ўжо ён прынясе ўсю. Яны напаляць на беразе прысаку і напякуць яе - хопіць на двух. Ужо ён наесца...

Сонца тым часам увабралася ў паўдзённую высь і здорава прыпякала плечы ў бушлаце. Салдат зьдзеў шапку і сунуў яе пад дужку вядра. Так стала вальней і не было відаць, што ён нясе. Ён удала перайшоў затравянелае поле, зноў выйшаў да аброслых крапівой каляінаў на бродзе. Тут трохі спачыў у цяні пад алешынай, зноў разуўся. Пераходзіў брод, не сьпяшаючыся, з насалодай мацаючы босымі нагамі ў сьцюдзёнай вадзе. На другім беразе сеў, каб абуцца. І тады нейкая сіла змусіла яго зірнуць пад суччо недалёкіх елак. Сьпярша ён нічога там не заўважыў, а затым зірнуў зноў і сумеўся ад сполаху. Між елак ля броду стаяў худы, нейкі быццам аблезлы, зь белаватымі праплешынамі на баках воўк. Што то быў воўк, а не сабака, салдат адчуў пэўна: такімі насьцярожанымі і маларухавымі сабакі не бываюць. А ў гэтага - настырчаныя вушы, апушчаны долу хвост... Аднак у ім не прыкмячалася і ніякай адзнакі хцівасьці - можа, болей зьдзіўленьня і зьбянтэжанасьці ад нечаканай сустрэчы з чалавекам. Не адрываючы позірку ад ваўка, салдат падняўся, узяў вядро. Воўк здаля толькі пільна сачыў за ягонымі рухамі, сам, аднак, застаючыся разгублена нерухомым. У паставе ваўка па-ранейшаму не было жаднай прыкметы драпежнасьці - хіба адчай і бясьсільле. Можа, як і чалавек, ён быў згаладнелы і чакаў якой дапамогі, падумаў салдат. А калі ён шалёны? І салдат сьпярша памалу, а затым усё хутчэй пашыбаваў ад ракі. Воўк за ім не пабег.

Штораз азіраючыся, хлопец шпарка ішоў краем бору. Напачатку праз хвойнік яму быў відаць воўк, але спакваля яго аблезлая постаць пачала зьнікаць, заслоненая дрэвамі і падлескам. Хутка ён і зусім схаваўся. Тады салдат пайшоў крыху марудней. Гэта нечаканая сустрэча ў лесе новым клопатам уварвалася ў ягоную душу. А ён пасьля гутаркі зь дзедам у каторы ўжо раз гатовы быў паверыць, што не такая яна ўжо і

страшная - зона. Што і ў зоне ці каля яе жывуць людзі. Але воўк... Нават воўк! Хіба такі павінны быць нармальны воўк у летнім нармальным лесе? Але калі воўк так падупаў, дык чаго тады чакаць людзям?

Застаўшыся ўранку адзін, бамж доўга й нерухома ляжаў на лапніку, захінаючыся ў сваю кухвайку. Пачуваўся ён кепска, дужа не хацелася ўставаць, было санлява-млосна, сілы ўвачавідкі зьнікалі. І ён ня мог даўмецца, што зь ім адбываецца.

Мабыць, ён яшчэ трохі забыўся ці задрымаў і прачнуўся ад млоснай задухі - не хапала паветра, было дужа горача і хацелася піць. Але вада была толькі ў рацэ, за абрывам, - як да яе дапяцца? І бамж усё ляжаў, баючыся скрануцца з належанага месца, бо ня меў упэўненасьці, што зноў можа сюды вярнуцца.

Празь нейкі нядоўгі час ён адчуў, што стала й зусім кепска, усё ў ягоным нутры гарэла. У роце было суха, язык стаў шурпаты, бы яловая шышка, - не паварушыць. Усё болей дакучала смага, і ён думаў: трэба паўзьці да ракі. Зараз, зараз трэба намагчыся ўстаць, казаў ён сабе ў думках і ня мог устаць. Усё ляжаў, і стан яго ўсё горшаў.

Як зусім стала кепска, зразумеў, што зараз жа трэба вады... Тады нейкім намаганьнем устаў на калені і споўз зь невысокага абрыву. Тут, на ўгрэтым сонцам пяску зрабілася й зусім невыносна. Хістаючыся, ступіў колькі крокаў і ўпаў каленямі ў гарачы пясок. Далей поўз - на кукішках цераз пясок і травяністы бераг, пакуль нарэшце не дапяў да вады.

Ён спрабаваў піць, лежачы, але гэтак было нязручна, ён намачыў сабе ўсе грудзі ў кухвайцы і не напіўся. А галоўнае - вада аказалася зусім не такой, як чакаў, - цёплай, мутнай і брыдкай. Яна не спатоліла смагі, не дала ніякай палёгкі, а шлях да яе зусім зьнясіліў бамжа. Паляжаўшы нямала часу на беразе, ён зразумеў, што трэба вяртацца ў засень. На гэткай гарачыні доўга ня вытрымаеш.

Шлях па беразе ўгору быў і зусім жахлівы - бамж прапоўз крокаў дзесяць і зьнясілена аблёг на траве. Дыхаць зусім стала нейк. Цела ўсё гарэла, і ён не разумеў чаму. Ад сонца ці, можа, у ягоным нутры быў такі жар? Усё ж ён нейк дапоўз да абрыву, трэба было ўскараскацца на яго, пад хвоі, у засень. Але як?

Трохі паляжаўшы, ён падняўся на кукішкі, затым на ногі, аблёгся грудзьмі на ўзровак і не ўтрымаўся. Ногі падламіліся, галава закружылася, бор кудысьці паехаў, і ён споўз долу. Так, мусіць, ня трэба было яму паўзьці да ракі, траціць апошнія сілы. Палёгкі сабе ён не прыдбаў, а становішча сваё пагоршыў. Як і ў жыцьці. Дамаеш нешта зрабіць, каб лепш, а робіцца наадварот - яшчэ горш. Запаўзьці ў сваю нару? Але там з учарашняга ўсё абрушылася, схову там не было. Ну але няўжо ён не адолее гэты паўтарамятровы абрыў, - аж зазлаваў на сваю зьнямогу бамж. Няўжо ён так аслабеў?

Новая спроба, аднак, таксама не прынесла посьпеху, - чалавек аблягаўся грудзямі, шкрабаў башмакамі па ўсохлай, з каранямі зямлі, а ўскараскацца на абрыў ня мог. І зноў зьнясілена асядаў долу. Але ён так імкнуўся ў лес, пад засень хваёвых шатаў, дзе, думалася, быў яго паратунак.

Пасьля чарговае і марнай спробы ён, здаецца, страціў прытомнасьць.

А як ачуняў, не адразу зразумеў, дзе ён. Побач была нейкая земляная сьцяна, пад ёй зьявіўся нешырокі цень - сонца заходзіла за бор. І бамж адчуў прахалоду. І тады ён прыпамятаў салдата. Ці вернецца салдат? Зрэшты, наўрад ці вернецца, чаго яму вяртацца сюды - на пагібель у гэтую праклятую зону? Хай ідзе куды ў белы сьвет, можа, знойдзе іншае месца. Дарма ён яго тут трымаў, прынаджваў і суцяшаў - трэба было адразу прагнаць. Аблаяць апошнімі словамі й прагнаць - куды лезеш, дурань! Ды во пашкадаваў і пагубіў. Хаця ці пашкадаваў? Усё ж ён быў тут патрэбны, таму бамж і пакарыстаўся ім. А цяпер салдат наўрад ці доўга працягне, жальліва разважаў бамж са спазьнелаю, аднак, жаласьцю. Цяпер яму стала зразумела, чаму

партыйны інструктар зь ім не паехаў, толькі хваліўся зонай. Нікога яна не гартуе - яна ўсіх губіць. Але што крыўдаваць на інструктара, можа той толькі выконваў партыйнае даручэньне сярод бамжоў. Бо мусіць жа, партыя і сярод бамжоў павінна весьці нейкую масава-растлумачальную працу. Хоць бы пад лёзунгам: савецкім людзям атам ня страшны, як колісь пісала газэта «Правда». Разумныя ў тое, вядома, ня верылі, але колькі іх было, разумных. Калі ў часе ягонай службы ў войску да каго з афіцэраў падкатваўся асабіст з дужа сакрэтным даручэньнем, мабыць, ніхто таму не адмаўляў. На тое не хапала ні розуму, ні адвагі, усе спраўна выконвалі ўсё, што патрабавалася. Кожнаму тады абяцалі: як вы - нам, так і мы - вам. Тое падабалася. Але як яго вытурылі з войска, і ён пабег да асабістаў па дапамогу, тады атрымаў ад іх кукіш: прабач, нічога ня можам, ня ў нашай кампэтэнцыі.

А як ён ім паказаў кукіш, ужо стаўшы бамжом, тады амаль што пакрыўдзіліся - ну, такога ад цябе не чакалі, вэтэран, нашая апора і надзея. Але ўжо тады ён пляваў на ўсё і на ўсіх на сьвеце, ён стаў жыць толькі ўласным клопатам і ні на каго не зважаў. Якую з таго меў карысьць - іншая справа. Ягоны настаўнік бацька ўсё жыцьцё пражыў для людзей і дацягнуў да дзевяноста гадоў. Але што гэта было за жыцьцё? Асабліва апошнія гады. Зьнямоглы, усімі пакінуты ў глухой, непэрспэктыўнай вёсцы, ён ціха сканаў, і толькі праз тыдзень яго выпадкам знайшла суседка. Пахаваць не быо каму, сына нідзе не маглі знайсьці, бо ніхто ня меў ягонага адрасу, ён гадоў восем не пісаў бацьку - не было чаго. Мабыць, гэтак жа лічылі і астатнія два сыны, якія жылі немаведама дзе і пра бацькаву сьмерць, можа, яшчэ й не дазналіся.

Нядобры ён быў да бацькі, ня лепшы й да сына - таго лабаценькага Дзяніскі, якога некалі пакінуў у ракетным гарнізоне. Але калі да бацькі асаблівых сантымэнтаў ня меў, дык за сына дужа балела душа - які ён, дзе ён, ці жывы хаця? Усё зьбіраўся напісаць, зьезьдзіць, але куды і за што? Ды й былая жонка, маці Дзяніскі, хіба магла яму адказаць - яна толькі дамагалася ад яго алімэнтаў.

А Дзяніскі, можа, няма ўжо і ў жывых? У свой салдацкі ўзрост, можа, прапаў дзе ў Афгане, у Чачні, у якой са шматлікіх гарачых кропак, куды пішчом лезьлі нашыя інтэрнацыяналісты, пасылаючы чужых сыноў пад мусульманскія кулі. Папраўдзе ён баяўся дазнацца горкае праўды пра сына і жыў, нічога пра яго ня ведаючы. Яму аж занадта хапіла таго горкага болю, што ён стрываў у памятны дзень свайго разьвітаньня з сынам.

Зьехаць быў змушаны, зьбіраўся рабіць тое ціха, неўпрыкмет, як не было дома жонкі. Разьведзеныя, яны доўга жылі ў адной кватэры, у адным пакоі і між імі - пяцігадовы Дзяніска. Таго дня зранку жонка выправілася ў сваю сталоўку, ён, не зусім цьвярозы пасьля ўчарашняга, торапка пакідаў у сумку свой небагаты набытак і надзеў афіцэрскі шынель са спаратымі пагонамі. Дзяніска адразу заўважыў бацькавы зборы і кінуў мэталічны аўтамабільчык, якім гуляў на падлозе. «Ты куды, папка?» - «Я хутка», - схлусіў бацька, каб не трывожыць сына. «Ты ў краму па шакаладку? - дапытваўся сын. - І я з табой». «Я ня ў краму, я ў іншае месца». «Вазьмі й мяне ў іншае месца», - бы што прадчуваючы, прасіўся сын, ужо надзяваючы сваю куртачку. Што было зь ім рабіць? Сварыцца ў яго ўжо не было сілы, але і куды ён мог яго ўзяць? «Ня йдзі за мной, заставайся дома», - строга загадаў ён, і Дзяніска заплакаў. Дзіцячая душа, мабыць, ужо адчувала благое, ашукаць яе было нельга. А ён тады й не падумаў, што болей ім не пабачыцца. Выскачыў у дзьверы і накінуў на прабой дужку замка. У пакоі пакрыўджана плакаў Дзяніска, і ён не хацеў чуць дзіцячага плачу. Той плач прадаўжаў гучэць у ягонай памяці ўсе наступныя дваццаць ці болей гадоў, часам прападаючы, а то раптам узьнікаючы - нясьцерпна, да роспачы. У згадках, снах, самых недарэчных па часе ўспамінах...

Ну, але дзе ж салдат? Чаму не прыходзіць салдат?

Бамж ужо адкінуў свае нядаўнія велікадушныя думкі пра тое, каб салдат не вяртаўся - яму дужа трэба было,

каб вярнуўся. Што б зрабіў, калі б вярнуўся, чым бы дапамог бамжу, ён ня ведаў. Наўрад ці яму што памагло б. Але цяпер ён прагнуў пабачыць салдата, тое было вельмі патрэбна бамжу. І можа б, ён прынёс хоць малое каліва, хоць бы адзін глыток. Яму так хацелася цяпер глынуць хоць трошкі, - адчуваў, тады стала б лепей. Як лепей было заўжды, калі вып'е. Дурны ён, што паспадзяваўся, быццам адвыкне ў зоне. Нашто было адвыкаць?

Можа, выпіць - было самае лепшае ў яго бязладным жыцьці. А ад лепшага не адмаўляюцца. Ды й навошта? Дзеля чаго? Шкада, што найкаштоўныя ісьціны прыходзяць непапраўна позна.

Дык дзе ж салдат?

Невядома чаму ён зноў пачаў караскацца на абрыў, зрушыў зь яго пласт зямлі, і ўсё няўдала. Чаму ён гэтак караскаўся - хто ведае. Але такая была яго неўсьвядомленая апошняя воля -кудысь караскацца. Спазьнелая, марная воля. Як і ўсё спазьнелае, тое рэдка бывае ўдалым. Ня стала яно ўдачай і для бамжа. Мабыць, паратунку яму не было ўжо нідзе, і ён падсьвядома адчуваў тое. Ды нейкая добрая ці не воля цягнула яго туды, на абрыў, да іх учарашняга лаўжа, здавалася, так было трэба. І тады ён адчуў, што гэты покліч - покліч канца. Сканаць належала на ўласным месцы - у лаўжы ці ў ложку, але ў сваім кутку.

Але дзе ягоны куток? Кутка ў бамжа даўно не было, а можа, не было й ніколі. Ён свой куток прафукаў, прапіў, той растаяў у прывідным алькагольным тумане. А цяпер бы ён так спатрэбіўся. Хаця б для магілы...

Пасьля чарговае спробы ўлезьці і чарговай няўдачы ён адчуў, як запякло - агнём апаліла ў грудзях, і чымсь салёным напоўніўся рот. Тады ён сплюнуў у пясок, адчуваючы, як хутка зноў стала поўніцца ў роце. Не адразу ён зразумеў, што гэта ішла кроў. Кроў ішла з горла. Тое яго спалохала, але толькі на момант. Мабыць, так яно й павінна быць. Усё папярэдняе было падрыхтоўкай да такога канца.

Ён ляжаў на баку пад абрывам і ўжо не пляваў, толькі павярнуў долу твар. Кроў плыла на пясок. Усё ж крыві было шмат, і мабыць, трэба быў час, каб яна сышла ўся. Зь ёй сыдзе й жыцьцё...

Але, можа, раней прыйдзе салдат?

Салдат зрабіўся дужа патрэбны бамжу - зусім ня дзеля паратунку, а для чаго, ён і сам ня ведаў. Што б ён сказаў салдату? Увогуле сказаць было шмат, для таго не хапіла б жыцьця. Але, можа, найперш разьвітацца. Разьвітацца, не расказаўшы. Вось так, нічога ён не пасьпеў у жыцьці - ні для сябе, ні для другіх. Жыцьцё нядаўна яшчэ здавалася такое нясьцерпна даўгое, а апынулася кароценькім, бы заечы хвосьцік... А гэтага няўдаку-хлопца таксама скруціць тая ж самая радыяцыя, што даканала яго. На самым пачатку ягонага маладога жыцьця. Усё ж жыцьцё, якое б яно ні выдарылася, самае каштоўнае ў сьвеце перад чорным правальлем канца.

І ўсё ж ён хацеў дачакацца салдата. Можа б, той прынёс хоць глыток. А так...

Што значыла гэтае А ТАК, ён ужо не дадумаў. Ягоная цьмяная, з прывідамі сьвядомасьць згасла. Паволі, трудна, быццам з астатніх сіл чапляючыся за яву. Нарэшце зьнікла зусім...

Салдат нёс бульбу, ён дужа сьпяшаўся. Невялікае вядзерца, аднак адрывала рукі, і ён хапаў яго за драцяную дужку то правай, то левай рукой. Невядома, ці яно сапраўды было цяжкое, ці хлопец надта аслабеў у гэтай дарозе. Час ад часу ён спыняўся пад хвоямі, ставіў вядзерца ў дол і нядоўга спачываў, штораз азіраючыся па баках. Не, ваўка пакуль не было відаць, воўк за ім ня йшоў. Наўрад ці ён быў здольны бегчы, той пляшывы дахадзяга-воўк. Але й чалавек траціў сілы, дарма, што быў малады. Трудна было дыхаць, у грудзях увесь час тахкала сэрца, ён дужа змакрэў ад поту, але бушлат не скідаў. Зьнімаў толькі шапку, як адпачываў. Пасьля то надзяваў яе на галаву, то клаў на бульбу ў вядзерца. Усё роўна, і так, і так было душна, цяжка і

нязручна. Зімовая шапка замінала яму, але й кідаць яе не хацелася. Ён думаў, што шапка ўсё ж беражэ галаву ад нуклідаў.

Сонца ўжо схілілася над лесам, сьвяціла збоку і не так пякло, як у паўдзён. У лесе пабольшала прахалоды - нават на хваёвых грудках не было душнаты. Між хвояў гуляла-пералівалася цёплае, залацістае сьвятло, па імшыстым доле слаліся касыя цені, патрэсквала сухое гольле пад ботамі. Там-сям буялі верасы, а то пачыналі ўбірацца ў сілу, зацьвітаць зарасьнікі чарніц. Але ягад яшчэ не было. Ці дачакаецца сёлета ягад? - самотна падумаў салдат.

Балота ён абышоў стараной - прадраўся праз хмызьняк і апынуўся на беразе рэчкі. Адсюль ужо блізка было й да іхнага стойбішча, і ён прысьпешыў свой хісткі крок - хацелася, як найхутчэй.

Хмызьняковай сьцяжынай ён выйшаў нарэшце на іх беражок і трохі сумеўся - бамжа нідзе не было. Ні каля рэчкі, ні на беразе, ні на абрыве. Яшчэ праз колькі крокаў ён згледзеў скорчаную постаць пад абрывам і падумаў, што той заснуў. Але штось яго затрывожыла, - надта ўжо скорчаная пастава бамжа прымусіла салдата кінуць вядзерца і пабегчы туды. Там найперш ён убачыў згусьцелую кроў на пяску, на плячы кухвайкі і аж знячывеў ад думкі, што бамжа забілі. Ажно пасьля зразумеў, што кроў ішла з рота. Бамж быў нежывы.

Надзіва самому сабе, салдат ня надта й спалохаўся. Адчуў толькі вострае пачуцьцё непрыемнасьці, нават гідоты, а затым і зьдзіўленьня - нашто так? Быццам бамж зрабіў тое сам з пэўным нядобрым намерам. Пасьля, аднак, зашчымела шкадаваньне і зь ім - паўзабытае адчуваньне ўласнай пакінутасьці. Цяпер зноў ён адзін. Сам на сам. І ўся гэтая бульба - яго. Яе можна сьпячы і аднаму ўсё зьесьці. І ня трэба нікому аддаваць рэшту хлеба ў кішэні, - усё ж выгода ад гэтай неспадзяванай сьмерці. Ён асьцярожна дастаў абкрышаны кавалак і пачаў яго есьці. Мусіць, як у вайну. Вэтэраны расказвалі, што чым больш гінула ў роце, тым больш для галодных заставалася харчу. І

гарэлкі. А ён не прынёс бамжу выпіць, нават не папытаўся ў дзеда... Было журботна і паныла.

Салдат сядзеў побач зь нябожчыкам, жаваў хлеб і думаў. Мабыць, найперш трэба дроваў - тых, ля вогнішча, пасьля залевы засталося мала. І ён, зьеўшы хлеб, паплёўся ў лес. Нешта сабраў і прынёс. Пасьля пачаў ладзіць цяпельца. Ён ня ўмеў карыстацца «кацюшай» і пазьбіваў пальцы, пакуль запаліў шкуматок. Далей таксама было не лягчэй - ад дымлівага шкуматка распаліць кавалак сухога моху. Ён усё дзьмуў і дзьмуў, пакуль зусім не закружылася галава і ён стаў, бы п'яны. Трохі спачыў і зноў дзьмуў.

Можа, праз гадзіну ці болей учарашняе кастрышча ажыло, у вечаровай ціхманасьці над рэчкай зноў пацягнуўся ўгару хвост дыму. Сьпяшаючыся, ён падклаў болей паліва - будзе гарэць. Галоўнае было зроблена - яны здабылі агонь. То была б агульная радасьць, якую цяпер меў адзін. І яна менела напалавіну. Такая была тутэйшая арыфмэтыка. Арыфмэтыка сабачага жыцьця...

Пакуль гарэў ладны касьцёр, напальваў вугольле, салдат падышоў да бамжа. Што было рабіць? Наесьціся бульбы і матаць адсюль? Ды - куды? Гэтае нязбыўнае пытаньне, бы праклён, вісела над ім паўгода, і ён не знаходзіў на яго адказу. Можа, яго наогул не існавала - адказу, а ён, дурань, яго шукаў. Інакш бы ён не апынуўся ў зоне, а знайшоў бы якое іншае месца. Але ці было яно, тое іншае месца? Во і бамж апынуўся менавіта тут - ужо ці не зьвяла іх разам фатальная агульнасьць лёсаў? Але якая ў іх магла быць агульнасьць? Рознасьці - гэта так, колькі заўгодна. А агульнасьці?.. Аднак жа нешта было, інакш бы яны не апынуліся разам.

Дык што ж - і канец іхны аднолькавы?

Гэткія думкі палохалі, як было зь імі згадзіцца? Салдат здрыгануўся і перастаў думаць пра тое. Лепш было наогул ня думаць. Калі б тое было магчыма...

Сонца зусім схавалася за борам. Увесь бераг рэчкі і хмызьняк на баку зарэчча пataналі ў засені, у якой патроху расплываўся шызы дым кастра. Толькі бязвоблачнае неба над лесам раскашавала-купалася ў разьвітальным сонечным зьзяньні - там гралі шчасьлівыя бомы, якія не дасягалі зямлі. На зямлі ўладарылі бомы хаўтураў.

Нарэшце салдат паклаў у вугольле дзясятак бульбінаў, старанна загарнуў іх у прысак. Хай пякуцца. А сам падышоў да нерухомага цела бамжа. Што зь ім рабіць? Мусіць жа, трэба было яго пахаваць? Але ні рыдлёўкі, ні нават здатнага для такой патрэбы нажа ў іх не было. Салдат узьлез на абрыў і выламаў зь ляшчыны тоўстую палку. Канешне, лепей было б пахаваць на абрыве, збоч ад іхнага начнога лежбішча, але палкай там не ўкапаеш. Там дзерніна і хвойныя карані... І ён пачаў капаць у пяску, пад абрывам, побач зь целам нябожчыка. Тут было лягчэй, ён калупаў палкай і жменямі выграбаў пясок. Праз гадзіну атрымалася ямка, - мелкаватая, праўда, і нязграбная. Як і бамжова жыцьцё, падумаў салдат. Якое жыцьцё, такое й пахаваньне. Ды і ўсё жыцьцё ёсьць, мусіць, заробкі на паховіны, не на што іншае. А некаторыя думаюць - на кар'еру. Кожная кар'ера во -канчаецца ямай. Дык ці варта так дбаць пра яе? Пра кар'еру або пра яму - салдат ужо дадумаць ня мог. Ён аж спалохаўся ад думкі: а ці будзе каму пахаваць яго?

Можа, ня трэба было хавацца, уцякаць, можа, лепш, каб яго знайшлі. Вядома, і пакаралі. Чорт яго ведае, што ў жыцьці лепш, а што горш. Ён ці не з маленства хацеў пайсьці ў армію, з кніжак і кіно яму падабалася ўсё вайсковае - зброя, абмундзіроўка, тэхніка. Ён нават прагнуў абараняць радзіму і пры тым праявіць геройства. Ён радаваўся, як у ваенкамаце яго прызначылі ў ракетныя войскі, і ня думаў, што гэтая радасьць хутка вылезе яму бокам. Давялося пачарнець з гора - ня радуйся раней часу, дурань.

Ён не хацеў жыць брыдка, прагнуў сумленьня і чысьціні. Атрымалася ўсё наадварот. Дык што ж яму - гінуць

цяпер у свае дзевятнаццаць гадоў?

Задумаўшыся, ён не адразу заўважыў, як побач паявілася птушачка - маленькая вяртлявая трасягузка з доўгім хвосьцікам. Немаведама адкуль узяўшыся тут, яна бесклапотна паскакала па пяску, штосьці там клюнула, азірнулася на адзінокага, прыбітага горам чалавека ля вогнішча і нібыта ціхенька піскнула.

- Плісачка! - прашаптаў ён зь нечаканай пяшчотай, адразу ўспомніўшы слова, якім у вёсцы клікалі гэтых птушак. Але птушка адразу пырхнула ўгару ды імкліва адляцела за рэчку. Нашто яна тут, па чыю душу прылятала? - растрывожана думаў салдат, крануты нечаканым паяўленьнем птушкі.

Тым часам, мабыць, сьпякліся бульбіны.

Салдат выграб з прысаку крайнюю, трохі абцёр яе аб штаны і спрабаваў адкусіць. Але чамусьці ня здолеў - абпякло ў роце і спазма здушыла горла. Тады ён памкнуўся другі раз, і другі раз нічога ня выйшла. Штосьці сталася зь ягоным горлам ці страўнікам - тыя не прымалі ежы. Пачало мкнуць на ваніты, і ён выпусьціў бульбіну. Хлопец не на жарты спалохаўся - ён ня мог есьці. Затое мацнелі ваніты, разы два з горла лінула ледзьве не на касьцёр. Ад нутраных сутаргаў у яго выварочвала страўнік - так было кепска. Нізка схіліўшыся над долам, ён сядзеў ля прытухлага вогнішча ўжо бяз жаднай увагі да бульбы. Ён чакаў, калі ягоныя пакуты скончацца. Але пакуты не канчаліся - пакуты, здаецца, мацнелі.

Так доўжылася нямала часу, пачаў затухаць касьцёр. У цемрыве ночы зводдаль цьмяна блішчэла вадзяная пляма затокі. Побач, трохі асьветлены рэштай вагню, ляжаў скалелы нябожчык. Мабыць, трэба было падкласьці палак у вогнішча, ды салдату было не да таго. Ён зрабіўся абыякавы да вагню, пра які нядаўна яшчэ гэтак дбаў. Прыйшла чарга дбаць пра сябе.

Трохі, аднак, саўладаўшы зь немаччу, ён устаў, падняў ацежалелае нежывое цела і зваліў яго ў яму. Загарнуць

пяском не пасьпеў - зноў падступілі ваніты. Тады ён аблёг долу побач і думаў, што, мабыць, тут і сканае таксама. Сканаць тут разам, можа, было б і няблага... Побач марудна паміраў касьцярок, у цемры на краях вогнішча яшчэ варушыліся-міргалі дробныя агеньчыкі. Спакваля і тыя атухлі...

Ачнуўся глыбкай ноччу - яму й зусім стала блага. Толькі пасьпеў сесьці на сьцюдзёным пяску, як зноў скалануўся ад ванітаў. Ванітаваць даўно ўжо не было чым, але ўсё роўна яго ірвала знутры, - здаецца, ірвала з вантробаў. Ён не разумеў чаму, і то крыху паднімаўся, то зноў аблягаў долу. Між пакутных сутаргаў трохі забываўся ў зьнямозе, каб неўзабаве прахапіцца зноў і зноў надрывацца ў ванітах. Здаецца, ужо зусім апусьцеў страўнік і ўсе вантробы, а нясьцерпная гарката не пераставала імкнуць з горла, сутаргі не спыняліся. І яму здавалася, што лепей сканаць, чым так пакутваць.

Можа, пад ранак трохі заснуў.

Прачнуўся, як ужо разьвіднела, сеў, пачаў выціраць запэцканае падбародзьдзе, грудзі. І тады на пальцах убачыў кроў - як і ўчора ў бамжа. Зь ягонага рота таксама ішла кроў. Значыцца, і яго неўзабаве чакае тое ж.

Але ж ён не хацеў паміраць...

Ён з натугай устаў і, хістаючыся, пайшоў берагам прэч. Прэч ад гэтай затокі, ад вогнішча, ад незакапанай магілы. Яму трэба было дабрысьці да броду.

Мабыць, новая мэта надала нейкай сілы - хістка, няўпэўнена, аслабела ён адолеў, аднак, немалы кавалак шляху па лесе. Але і выдыхся дашчэнту. Упаў у падлеску, сярод арабінавага маладняку, доўга ляжаў. Сьвядомасьць яго затуманілася, часам ён пераставаў разумець, хто ён і дзе знаходзіцца. Але не надоўга. Усё ж ён прымушаў сябе ўстаць і йсьці. Яму вельмі трэба было дайсьці да броду.

- Людзі-і-і-і, людзі-і-і-і, - намагаўся ён крыкнуць, але зь

ягоных вуснаў зьлятаў толькі шэпт. Ніхто нідзе не адгукаўся. Ды і нідзе не было нікога. Не было нават ваўка. На момант успомніўшы дахадзягу, салдат прамовіў у думках: дзе ты, браток па няшчасьці? Воўк ты мой, воўча... Хадзі, можа, паратуемся разам...

Пачала дужа дакучаць смага - хацелася піць. Ды рака й балота засталіся ззаду, у бары вады не было. Ён разумеў гэта і трываў. Ён толькі ішоў. Ад дрэва да дрэва, ад хвоі да хвоі. Аднак усё выразьней стаў адчуваць, што ня дойдзе.

Але няўжо сапраўды ня дойдзе?

Спалох трохі надаў сілы. Але няшмат. Аслабела пратупаўшы дзясятак крокаў, падаў на дол, ляжаў. Нашто ж усё так атрымалася, чаму? - гучала ў ім недаўменнае пытаньне. Усё тое ж пытаньне без адказу. Хто загубіў ягонае жыцьцё? І чаму? А можа, гэтак з самага пачатку наканавана лёсам? Тады ён не вінаваты. Сам ён ужо бясьсільны што-небудзь у ім зьмяніць.

Устаючы, ён кідаў кароткія позіркі па бакох - думаў, мо дзе ўбачыць людзей. Каб крыкнуць. Ды людзей не было. Не было і ваўка. Салдат застаўся зусім адзін у гэтым прыгожым і страшным лесе.

Стала чамусьці цёмна. Можа, настала ноч? Значыць, ён так і не дапяў да выратоўчага броду, ня выбраўся з гібельнай ямы. Цемра навалілася на лес, на салдата, і ён ужо не разумеў, у які бок ісьці. І ці ісьці наогул? Сілы ў яго не было нават устаць...

# Апавяданьні

## Ружовы туман

Было іхнае сьвята, і яны з кветкамі і сьцягамі ішлі да

скамянелага правадыра. Іграў аркестар. Блішчэлі трубы, ад дажджу блішчэў граніт помніка, гарадзкое навакольле адбівалася ў мокрым асфальце. Усе былі бяз кепак ці капелюшоў — сівыя, лысыя, з мокрым пушком галовы, сурова-пакутныя позіркі на старэчых тварах. Адзін нес невялічкі вазончык бягоняў, які ашчадна трымаў аберуч, на сагнутай руцэ вісела клюка. Сярод іншых старых ён вылучаўся шыкоўнай, белай, амаль дзедмарозаўскай барадой, што ляжала на ягоных далёка не багатырскіх, змарнелых грудзёх. Як падыйшоў за іншымі да пастамэнту, няспрытна сагнуўся і паставіў свой вазончык, а, выпрастаўшыся, нязграбна, бы саромеючыся, перахрысьціўся.

— Глядзі, Барсук! — амаль з захапленьнем тузануў за рукаў сябра Вінцэсь. — Жывы, ты глядзі...

Так, гэта быў Барсук, жывы і быццам здаровы, якога Ляксей зь Вінцэсем памяталі яшчэ з ваенных гадоў, як жылі ў тым гарадку, дзе пражыў вайну і гэты стары, глуханямы чалавек з прозьвішчам ці мянушкай Барсук.

— І, здаецца, усё ранейшы, — не сунімаўся Вінцэсь.

Дзіўна, аднак, што ранейшы. Жыцьцё ці натура таму прычынай? Або, можа, ружовы туман падману, разьвеяцца якому ўпарта не даюць абставіны. Такія, як у гэтым выпадку з Барсуком.

Ён зьявіўся ў тым гарадку-мястэчку пры бежанстве. У першыя дні вайны з Заходняй Беларусі ўперамешку з войскам рынуліся і шмат якія з цывільных. Адныя ехалі на вайсковых машынах, іншыя на фурманках, а болей ішло пехатой — з клункамі, валізкамі, дзецьмі. Барсук вырваўся зь пекла, падобна, сам, адзін. Усе ягоныя сямейнікі недзе прапалі, і ён прыпыніўся, чакаючы іх, у мястэчку. Мабыць, думаў, часова, ды так і асеў на ўсе гады акупацыі. Жыў у старой бабкі ля рову, зарабляў, чым мог: капаў грады, сек дровы, а то рамантаваў абутак. Еў, што дадуць, часта галадаў, і ўсё чакаў, казалі, сваіх — жонку і двух дзяцей. Ды ішоў час, а сямейнікі Барсука не аб'яўляліся. Часам было яму дужа кепска, але ў лес ня йшоў. Ды і хто б яго ўзяў у лесе ў

партызаны — які набытак з глуханямога? Хоць часам да яго наведваўся суседзкі хлопец Валера, які, як тое некаторыя ўведалі, меў справу зь лесам, і то прападаў на тыдзень-другі, то цішком зьяўляўся ў гарадку. Барсук яму быў патрэбны, каб падрамантаваць боты, то наладзіць трафэйны гадзіньнік, у якім, як аказалася, неяк разьбіраўся Барсук.

Аднойчы гэты Валера заявіўся не адзін, а зь незнаёмым хлопцам, сяржантам з дэсантнікаў. У іх была адмысловая справа: апрабаваць прадуктовыя карткі. Так, звычайныя карткі рацыянаванага продажу крупаў, мукі, солі, якія выдаваліся службоўцам нямецкіх установаў, і якія наладзілі падрабляць у лесе. Ці, можа, у якой гарадзкой друкарні? Значыцца — фальшывыя карткі. Вядома, для такой апэрацыі апрабаваньня Валера мог бы паслаць сястру Нінку ці цётку Ганулю, але ж, мабыць, іх было шкада. І ён вечарком з напарнікам насыпаўся да Барсука.

Якраз у той тыдзень Барсук сядзеў бяз працы і бяз хлеба, даядаў апошні чыгунок бульбы, што зарабіў за рамонт коміна ў суседзяў; солі ў яго не было даўно. А тут раптам двое лясных гасьцей, партызанаў, гэтак сардэчна пытаюцца: як жывеш? Спачуваюць і шчодра надзяляюць карткамі. На, схадзі ў лаўку, атавар, нам прынясеш і сабе возьмеш. Нам што-нішто, галоўнае — цыгарэты, астатняе возьмеш сабе. Мы людзі ня сквапныя, мы савецкія партызаны...

Барсук ня мог паверыць — такая раскоша! І такія слаўныя хлопцы — гэтак сардэчна пашкадавалі адзінокага дахадзягу-інваліда! На тым тыдні на рынку паліцаі адабралі ў яго здатныя боты, якія хацеў памяняць на хлеб. Ды яшчэ далі высьпятка ў зад. Гэтыя ж во — задарма даюць карткі: маргарын, соль, мука...

Ён ня йшоў — ляцеў з тымі карткамі ў краму, дзе атрымаў усё, што належала. Гэтак жа шыбаваў дадому, дзе трохі засмуціўся, бо хлопцы чамусь яго не дачакаліся. Яны прыйшлі толькі ўначы, распыталі, як і што. І яшчэ далі картак, якія дужа тады падтрымалі згаладнелага Барсука.

Пасьля вайны Барсук некалькі разоў спатыкаў у гарадку пасталелага Валеру, і кожны раз цалаваў ягоныя рукі: такі слаўны быў той партызан. Гэтак уважыў старога! Асабліва, калі даў Барсуку даведку, быццам той — сувязны партызанскага атрада асобага назначэньня “Граніт”. Менавіта тая даведка дала яму сілы жыць пасьля страты сям'і. Праўда, неўзабаве ён выйшаў на пэнсію з быткамбінату, дзе рабіў на розных работах, і нават выбіўся ў майстры. Цяпер жа ён дужа перажываў распад СССР. Асабліва як дазнаўся, што Валера вялікі начальнік, робіць не ў Беларусі і наўрад ці прыедзе на рэвалюцыйнае сьвята. І ўсё з прычыны кардонаў, мытняў, разрыву эканамічных сувязяў. Валеру тут яшчэ памяталі з вайны, і найчасьцей успамінаў яго зь цеплынёй у старэчым позірку дзевяностагадовы Барсук. Ужо ён быў упэўнены, што Валера ня здрадзіў вялікай справе Маркса-Энгельса-Леніна. Ды і Сталіна таксама. І Барсук не хацеў здраджваць, бо здрада — заўжды кепска. Як пазванілі з савету вэтэранаў, каб прыйшоў на ўскладаньне кветак да помніка правадыру, ён і прыйшоў. Прынес свой апошні вазончык зь бягонямі, бо трэба ж было ўважыць і правадыра, і змагароў за ягоную справу, і Валеру, і таго сяржанта, якія некалі гэтак уважылі адзінокага, пагарджанага нямога.

Зрэшты, пасьля вайны тая гісторыя з Барсуком стала вядомая многім.

Праўда, пра яе ня ведаў адзін толькі Барсук. Ці варта было яму пра тое расказваць? Ці ён паверыць?

Можа, хай жыве ў сваім ружовым тумане, дажывае век і носіць вазончыкі да падножжа помніка. Тым болей, што цяпер можна ўжо перахрысьціцца — адкрыта, і нават з замілаваньнем...

## Жоўты пясочак

Іх везьлі ноччу па цёмных гарадзкіх вуліцах кудысь

прэч ад турмы, але ў які бок гораду — Аўтух зразумець ня мог. У крытай машыне не было вокнаў, не сьвяцілася нідзе нават маленькай шчыліны, і ні ўнутры, ні знадворку нічога не было відаць. Аўтух сьпярша думаў, што трапіў у страхавіты “чорны воран”, пра якога начуўся ў турме і нават раней — на вёсцы. Але, мабыць, то быў ня “чорны воран”, бо, як ён згледзеў уначы, калі іх вывелі на турэмны падворак, была гэта машына хоць і вялікая, але ня чорная. І нешта кароткае было напісана на яе баку, ды ён не разабраў, што — не далі. Пачалі штурхаць, каб хутчэй залязалі ў яе цёмнае нутро, а ў яго якраз разьвязалася аборына на лапці, і ён, сагнуўшыся, узяўся яе завязваць. Ды тут жа атрымаў злога высьпятка ў зад — гэта той канвой ці як яго — малады танклявы вайсковец з вусікамі, які сёньня распараджаўся імі. Аўтух таропка ўлез у машыну, дзе ўжо сядзела чалавек шэсьць ягоных спадарожнікаў, і стуліўся ля самых дзьвярэй, якія тут жа з бразгатам зачыніліся. Машына папаўзла-паехала з падворку, праз браму, затым па вуліцах, паварочваючы то ў адзін бок, то ў другі. Леваруч ад Аўтуха сядзеў мужчына ў скуранцы, якога напачатку, як арыштавалі, Аўтух бачыў у кабінэце сьледчага. Але цяпер Аўтух ня мог зразумець, чаму той тут? Ці таксама арыштаваны, ці вязе іх у якую іншую турму? А можа — на волю? Бо завошта караць Аўтуха, які зь яго польскі шпіён? У Польшчы ня быў ні разу, мала што жыў пры мяжы. На хутары. І аднаасобна...

Во ў тым, што аднаасобна, мабыць, найбольшы ягоны грэх. Праз тую аднаасобнасьць ён за год натрываўся столькі, што іншаму хапіла б на ўсё жыцьцё.

— Гэ, таварыш... А, таварыш, — далікатна папіхнуў ён лакцём суседа ў скуранцы. — Ня ведаеце, куды гэта нас?

— На кудыкіну гару, — не адразу і зласьліва адказаў сусед, нядаўні сьледчы ўправы НКВД Сурвіла.

Гэты Сурвіла ня тое, што Аўтух, — ён і ў цемры, з заплюшчанымі вачыма мог вызначыць іхны маршрут. Даўно і добра ён ведаў гэтую дарогу — ад гарадзкога

цэнтру да ўскраіны і далей, паўз прыгарадную вёску да недалёкага ляска, дзе было наркамацкае стрэльбішча. Некалі сам туды вазіў такіх жа, асабліва як служыў у камэндатуры. Пасьля ўжо, як перавялі ў сьледчы аддзел, разы два выяжджаў на практыкаваньне ў стральбе з асабістае зброі — пісталета ТТ. Раней усе чэкісты ўправы былі ўзброеныя рэвальвэрамі сыстемы “наган”, а летась у першую чаргу сьледчым выдалі новенькія ТТ — спрытныя такія, пляскатыя пісталеты з чорнымі шчочкамі на рукаятках. Зь іх і стралялі. Ён тады здаў практыкаваньне на “добра”. А цяпер тыя практыкаваньні будуць здаваць іншыя. На практыцы. На іхных патыліцах...

Па тым, як машыну стала кідаць з боку на бок, Сурвіла зразумеў, што яны выяжджалі з гораду. Недзе збоч у цемры туліцца невялікая прыгарадная вёсачка, а іх чакае паворотка ўлева, ад якой... Ад якой да мэты, да апошняй мяжы, лічы, што-ніштo, засталося якіх паўгадзіны часу, і ўсё. Усё назаўжды скончыцца.

Тое, што хутка ўсё скончыцца, яго, аднак, ня дужа і турбавала. Да таго ён гатовы быў месяц таму, нават да суда, ведаў, яго не памілуюць. Стрэльнуць. Бо тое, што яму прад'явілі для абвінавачаньня, увогуле было папраўдзе: дапушчаў і перавышэньне, і незаконныя мэтады — і біў, і ламаў косьці — “даваў дразда”. Але ж хіба ён адзін? У іхнай управе так працавалі ўсе, — стараліся, ня спалі начэй, выбівалі ўсё, што можна было выбіць з арыштаваных. А тыя, праклятыя ворагі, таксама маталі ім нэрвы, нізашто не хацелі прызнавацца — выкручваліся, ашуквалі сьледчых, і нават, ужо падпісаўшы прызнаньне, адмаўляліся ад яго на судзе. І ўсё бубнілі сваё: нічога ня ведаем, ні ў чым не вінаватыя. Ня шкодзілі, не шпіёнілі, нікога не вэрбавалі. Трэба было выбіць — і прызнаньне, і сьведчаньне, — прозьвішчы, даты, сустрэчы. Часам перабіраў, гэта праўда. Але ж на карысьць справы, не для сябе. Той Сёмух сканаў у ягоным кабінэце. Што сканаў, бяда не вялікая, але, сканаўшы, забраў усё з сабою. А на яго была надзея. Як добра далі, пачаў што-ніштo паказваць. Думалі, празь яго раскруціць усю

іхную арганізацыю, да таго ішла справа. А ён узяў ды сканаў...

Купцова застрэліў з таго новенькага ТТ. Але Купцоў кінуўся на яго з кулакамі. А кулакі ў двухмятровага каваля з прэсавага цэху такія, што двума ўдарамі мог увагнаць у падлогу. Добра, Сурвіла пасьпеў прымяніць зброю. Так што, як глядзець, як вінаваціць. Калі строга, паводле новай правазаконнасьці, дык, можа, і правільна, — ён вінаваты. А калі паводле рэвалюцыйнай, пралетарскай... Зрэшты, ён ня дужа і апраўдваўся — прызнаў усё. Але ў глыбіні душы хацелася спадзявацца, што пакараюць ня надта. Усё ж ён не такая контра, ня польскі шпіён ці беларускі нацыяналіст. Ён жа свой брат чэкіст. Павінны ж на тое зважаць. І цяпер яму крыўдна, што ня зважылі на розьніцу паміж ім і сапраўднымі ворагамі народа, піхнулі ў гэтую машыну зь іншымі разам. З гэтымі шпіёнамі і шкоднікамі, нацыяналістам і нават недарэзаным буржуем. Кінулі ў адну машыну і яшчэ, глядзі, кінуць у адну яму. Але ж гэта яўны апартунізм, правы ўхіл. Ці нават шкодніцтва ў саміх органах.

У машыне панавала цішыня, толькі чуваць было, як ляскаюць колы па бруку ды штось паскрыпвае ў куце буды, асабліва калі машына трапляе на выбаіну.

— Гэтак! На кудыкіну, кажаце? — ня мог чагосьці ўцяміць Аўтух і зусім апанурыўся ад кепскага прадчуваньня. Відаць, тое прадчуваньне дужа яго гняло, і ў хуткім часе ён зноў заварушыўся ў цемры. Недзе тут паблізу сядзеў ягоны зямляк, нават аднавясковец, хоць і ўдвая маладзейшы за яго, з гэткім самым прозьвішчам Казёл. Як навучыўся на настаўніка і пачаў пісаць вершы, дык зьмяніў тое нягеглае прозьвішча на лепшае і падпісваўся пад вершамі, што часам друкаваліся ў газэтах, Фэлікс Гром. Праўда, Аўтух вершаў не чытаў, толькі чуў пра іх ад людзей. Зрэшты, пра вершы на сьледзтве зь ім гаварылі мала, болей пра тое, як гэты Фэлікс Казёл-Гром завэрбаваў Аўтуха ў сваю шайку. Цяпер Аўтух ціха паклікаў:

— Фэля, а Фэля?

— Ну! — пачулася здаля ў машыне.

— Куды гэта нас вязуць?

— На выкананьне прыгавору, — зь нядобрым надломам у голасе адказаў Фэлікс. І менавіта гэты выразна адчуты надлом яшчэ болей устрывожыў Аўтуха.

— Няўжо на расстрэл?

— А ты думаў...

— Але ж... Я дык думаў... Можа, яны...

— Памаўчы лепш! — абарваў размову зямляк, якому, відаць па ўсім, было не да таго.

Сапраўды, размаўляць Фэліксу Грому было проста неяк, пасьля допыту ў яго душа балела ў грудзёх, было не ўздыхнуць. Ён толькі падзівіўся дзіцячай няўцямнасьці дзядзькі Аўтуха — ня ведае, куды вязуць, ці ня хоча паверыць, што ўсё ўжо скончана. Пазаўчора быў суд — дзесяць хвілін чыткі загадзя нарыхтаваных папераў, зь якіх яшчэ да прысуду ўсё стала зразумела. Відаць, нічога не зразумеў з таго ягоны аднавяскавец Аўтух. Ці ўсё думае пра сваю пакінутую аднаасобніцкую гаспадарку пад лесам?

Фэлікс Гром даўно перастаў думаць і пра родную вёску, і пра Менск, дзе жыў і вучыўся, як паступіў у пэдагагічны тэхнікум, і нават пра сваю паэзію, зборнік якой ужо падрыхтаваў да друку і вясной здаў у выдавецтва. Цяпер яму ўжо не пабачыць таго зборніка, які, відаць, пакаралі раней за аўтара. У час сьледзтва на допытах розныя сьледчыя наперамен цыталі старонкі ягоных арыштаваных вершаў — чыталі, крэмзалі і падкрэсьлівалі рознымі алоўкамі, пільна шукаючы хітра замаскаванай крамолы. Бліскае раніца агністая на хмарах восені маёй... Што значыць гэтыя вашы хмары? Нічога, апроч таго, што значаць хмары наогул. Э, не, у паэзіі хмары — гэта нешта іншае, казалі літаратуразнаўцы з наганамі на баку. Гэта на небе хмары ёсьць хмары, а тут штосьці іншае. Таемнае. Дык

што такое гэтыя хмары? Што вы разумееце пад ранішнімі хмарамі?

Ён нічога не хацеў разумець пад хмарамі, затое нешта разумелі яны, але яму не казалі. Ён павінен быў сам здагадацца пра іхныя думкі і падказаць ад сябе. Вось тое было б прызнаньне, якога гэтак дамагаліся ад яго, і яму было б куды лепей. Але ён не здагадваўся й не прызнаваўся. Тады яго білі — палкай па нагах, ботам у грудзі, не давалі спаць трое сутак.

А пасьля пачалі шыць шпіянаж на карысьць Польшчы. І прыплялі да яго дзядзьку Аўтуха, што жыў за вёскай на хутары і не ўступаў у калгас. А ён з тым Аўтухом па сутнасьці і гутарыў усяго адзін раз летась, як прыяжджаў зь Менску да хворага бацькі. Тады хадзіў пазычыць каня, каб зьезьдзіць да доктара. Ды дзядзька Аўтух каня ня даў, сказаў узяць у калгасе, а яму трэба пасьпець звазіць сена, бо зьбіралася на дождж. І гаворкі ў іх было якіх пяць хвілін. І вось цяпер за тыя хвіліны — расплата. Абодва — да вышэйшай меры.

— Ну што вы не пасядзеце? Усё тузаецеся, як на патэльні, — пачулася незадаволеная буркатня ў цемры.

— Ды каб выглянуць дзе. Тут жа вёска мая Зялёны Луг, — адказаў той, што тузаўся.

— Ты ж гарадзкі, казаў, — азваўся ад дзьвярэй Сурвіла. — Паказваў на допыце: з Камароўкі.

— То ж жыў на Камароўцы. Як на чыгунцы рабіў. А нарадзіўся ў Зялёным... Да.

— Во — выясьняецца! — мовіў Сурвіла. — А то ўсё — рабочы, чыгуначнік. Блытаеце нешта, Шастак.

— Нічога ня блытаю. Паходжаньнем зь вёскі. Але ж рабочы. Тое трэба ўзяць пад увагу. І парцейны!

— Быў, — каротка абвясьціў Сурвіла.

Рэпліка былога чэкіста зачапіла балючую струну ў параненай душы рабочага Шастака, які загаманіў, як

ведаў, як ад іх адчапіцца.

Ён ішоў і ішоў, сам ня ведаючы, куды — абы прэч з гэтых жудасных Чорных лядаў...

## Перад канцом

У нейкай даўгой, аднапавярховай, купецкага выгляду будыніне з паўкруглымі прыступкамі на ганку, дзе разьмяшчалася ЧК, паручніка Глушкевіча добра абшманалі, адабралі дакумэнты, дзягу, гадзіньнік, туалетныя прычындалы ў рэчмяшку зь небагатым запасам пайковага харчу, зрэзалі з шыняля гузікі і хлясьцік і змусілі зьдзець боты. Боты ён сьпярша пашкадаваў нават, апынуўшыся басанож на бруднай, сьцюдзёнай, запляванай падлозе, але тут жа сьцяміў, што, мабыць, цяпер не да ботаў. Ці ня прыйдзецца хутка пашкадаваць галавы. Праўда, здаецца, пакуль што павялі не расстрэльваць, а кудысь у склеп з даўгім калідорам, дзе было цёмна, і толькі недзе ў канцы падзямельля цьмяна сьвяціў закапцелы ліхтар. Нязвыкла ступаючы босымі нагамі па зямельнай падлозе, ён ішоў наперадзе канваіра з настаўленым у сьпіну джалам штыха. Паручнік быў прыгаломшаны і раззлаваны найперш на сябе самога: ну, да якога д'ябла было яму класьці ў рэчмяшок той браўнінг? Яшчэ, памятае, зьбіраючыся ў гэтую дарогу, пакруціў яго ў руках, шчоўкнуўшы стопарам, выняў магазін, праз круглыя дзірачкі якога выглядвалі жоўтыя бачкі патронаў, і загарнуў у вафэльны ручнік. Усё ўладкаваў на самым сподзе рэчмяшка — пад бялізнай, падумаўшы: можа, спатрэбіцца. А можа, пашкадаваў кідаць здатную вайсковую рэч, якая дасталася яму ад забітага аўстрыйскага ўлана, што тады ўніз галавой ляжаў на размоклым ад восеньскіх дажджоў бруствэры. З новенькай жоўтай кабуры забітага ён выняў гэты браўнінг і сунуў сабе ў кішэню. Полк атакаваў аўстрыякаў, паручнік бег за ротай, ня ведаў, ці доўга так будзе бегчы, пад апантаным агнём, а браўнінг узяў — так, без асаблівае мэты, каб не прападала дабро. Ды

во гэтыя ўгледзелі.

І як угледзелі — тое было трохі дзіўна: як сярод стракатага вакзальнага люду выбралі менавіта яго? Пагоны ён спароў яшчэ ўзімку пасьля аднаго мітынгу, нядаўна памяняў афіцэрскую фуражку на аўчыную салдацкую папаху. Праўда, гузікі на шынялі выдавалі яе афіцэрскае паходжаньне, але ў такіх шынялях цяпер хадзілі, хто хочаш: і былыя афіцэры, і шарагоўцы, і нават цывільныя. Можа, дарма перад тым пагаліўся ў вакзальнай прыбіральні і выглядаў ня надта зьверавата, нават даволі прыстойна па цяперашнім часе. Ён ціха сядзеў сабе на дубовай лаве — сярод тлуму, гаманы і куродыму прасторнай вакзальнай залі, чакаў свайго цягніка, які павінны быў прыйсьці позна ўначы, і яму неяк трэба было забавіць гадзіны чатыры часу. І тут яны падышлі. Ён убачыў іх яшчэ здаля, гэтых патрульных у расхрыстаных шынялях з чырвонымі шкуматамі на рукавах — яны трэсьлі нейкую крыклівую кабеціну каля ўваходу, і ён падумаў тады: можа, выйсьці куды — у прыбіральню ці на пэрон? Але ягоны выхад у такі момант падобны быў на ўцёкі, і ён застаўся там, дзе сядзеў, нават прыплюшчыў вочы — бы дрэмле. Ды марна. Яны таксама згледзелі яго ці не ад парога, паволі, ленай хадой між клумкаў і валізаў падышлі менавіта да яго, і чарнавусы патрульны з вырачанымі вачыма тузануў яго за рукаво: “Эй, грамадзянін, дакумэнты!” Ён знарок замаруджана, бы са сну, расшпіліў шынэлак, дастаў з гімнасьцёркі вайсковы білет, вядома ж, чужы, на імя старшага унтэр-афіцэра Сяркова, які, аднак, ня дужа зацікавіў патрульных, і тыя нават не разгарнулі яго. “Ахвіцэр?” — зласьліва запытаўся лупавокі. “Унтэр-афіцэр, там жа напісана”, — кіўнуў на дакумэнт паручнік. “Ды ахвіцэр, па мордзе відаць”, — сказаў другі, маладзейшы, з уважлівым выразам тонкага, бадай, інтэлігентнага твару. “А дзе чамайдан?” — “Які чамайдан?” — спытаў паручнік. “А то што?” — паказаў лупавокі на рэчмяшок, што ляжаў побач на лаве, і тут жа падхапіў яго. Яны ўмомант разьвязалі лямкі, лупавокі спрытна запусьціў у рэчмяшок нямытую, з жоўтымі пазногцямі руку. Яго праставаты твар раптам насьцярожыўся, вочы яшчэ

больш вырачыліся, і рука спаважна выцягнула з рэчмяшка знаёмы пакунак. “Ага, аружыя! Во контра!” Учуўшы тое, паручнік зразумеў, што ягонае падарожжа прыпыненае, як бы не прыпынілася і жыцьцё.

Праўда, у ЧК яго ня білі і нават не дапытвалі, толькі запісалі ў тоўстую рэгістрацыйную кнігу і, пасьля вобыску, павялі ў склеп. Змрочны сьмярдзючы калідор у тым склепе паварочваў кудысьці ўбок, дзе іх сустрэў новы канваір зь вінтоўкай, які ціха буркнуў: “Куды гэтага?”, і той, што ішоў ззаду, адказаў: “У сёмую, сказалі”. “У сёмую, дык у сёмую”, — адказаў сустрэчны, і яны ўтрох пайшлі ў самы канец калідора. Аднекуль чулася прыцішаная гамана людзей, паасобныя словы. Відаць па ўсім, людзей тут сядзела нямала, і ў гэты час, мусіць, яшчэ ня спалі. Ці, можа, яшчэ не дазвалялася спаць.

Як толькі расчыніліся дзьверы тае сёмае камэры, паручніка дужа штурханулі ззаду, і, спатыкнуўшыся, ён паваліўся на нечыя целы. Той, каго ён найбольш патрывожыў, злосна, па-блатняцку, вылаяўся, паручнік выціснуў “прабачце”, якое, аднак, засталося без адказу. Ён неяк узгрэбся на босыя ногі, ня ведаючы, куды ступіць ад дзьвярэй, пастаяў у маўклівым зьняменьні. Ля яго ног варушыўся патрывожаны ім чалавек, нешта бурчэў, іншыя маўчалі. Здаецца, народу тут было поўна, у застаялым паветры сьмярдзела потам чалавечых целаў, прэлай вопраткай і мачой, — то быў знаёмы для кожнага акопніка салдацкі смурод. Счакаўшы хвіліну, ня ў стане асвойтацца ў цемрадзі, ён сказаў, каб не маўчаць:

— Нічарта ня бачу...

— І ня ўбачыш да заўтра. Мы тут, бы краты, — адказаў яму нехта, дужа шапялявячы.

— Во як! Вайскоўцы ёсьць?

— Наўрад. Будзеш першы.

— І, можа, апошні, — буркнуў той, з-пад ягоных ног.

— Хай так, — больш бадзёра сказаў паручнік і апусьціўся там, дзе стаяў — плячамі да самых дзьвярэй. Здаецца, першае знаёмства адбылося. Хаця наўрад ці яго цікавіла цяпер якое знаёмства, у ягоным становішчы дапякаў адзін клопат — што далей? Але адказ на яго, мабыць, не залежаў ад гэтых людзей. Ягонае ж тут зьяўленьне, відаць, кагось зацікавіла.

— Адкуль будзеце? — зважліва папытаўся, мяркуючы па ціхім голасе, немалады чалавек, што мясьціўся недзе ў куце.

— З вакзала, — проста адказаў паручнік.

— Го, з вакзала! — нядобразычліва азваўся бойкі сусед ля ног. — На вакзале яны й бяруць.

— Чакаў цягніка...

— Ну й дурань! Чакаць на вакзале... Ля сэмафору трэба чакаць і на хаду садзіцца. Цяпер так робяць.

— Наўрад ці ў іх ёсьць якая заканамернасьць — яны ўсюды бяруць. Мяне вось, напрыклад, узялі дома. З пасьцелі паднялі, — расказваў старэйшы з кутка.

— Яны і з магілы паднімуць, — прашапялявіў той, зь сярэдзіны камэры. — Чэка!

— ЧК, ага. Гэта табе ня царская паліцыя. Што спала на хаду, — сказаў самы блізкі ў доле, і ў ягоным тоне разам з боязьзю чулася і затоеная павага менавіта да ЧК.

— Не заўжды спала. Бывала, давала і яна дыхту. Асабліва турэмшчыкі.

— Ну, хіба турэмшчыкі. Але пры цары не сядзеў, ня ведаю.

— Такога яшчэ не было ў гісторыі Расеі, — пакутна загаварыў у куце стары. — Былі смутныя часы, разладзьдзе. Але такога павальнага ачмурэньня не было. Бедная, няшчасная Расея...

— Рэвалюцыя, што ж вы хочаце, — даволі бадзёра, аднак, шапялявіў іншы. — Рэвалюцыя без ахвяраў не бывае.

— Ат, пайшла яна на хер, твая рэвалюцыя! — рэзка кінуў у адказ сусед. — Ад яе адзін сіфіліс, ад твае рэвалюцыі.

— Не скажы. Калі ёю правільна кіраваць...

— А хто, хто кіруе? Троцкі? Ленін? Ды яны Расею разам з рэвалюцыяй Нямеччыне прадалі.

У іх ішла нейкая свая спрэчка, мабыць, не цяпер пачатая. Паручнік ня ўмешваўся — моўчкі слухаў, спрабуючы вызначыць, хто гэтыя людзі. Ягоны сусед надта выяўляў у рэпліках і асабліва ў зласьлівым тоне блатняцкі, люмпэнскі характар, і паручнік пайменаваў яго ў думках Блатняком. Той стары з кутка, падобна, належаў да якой правінцыйнай інтэлігенцыі; клясавую ці якую прыналежнасьць шапялявага ён вызначыць ня мог. Іншыя, што патроху вырушыліся ў цемры, пакуль што маўчалі, але наўрад ці хто спаў, і паручнік папытаўся:

— Даўно вы тут?

— Як хто, — адказаў Стары. — Я чацьверты дзень. Ён во два, іншыя — хто колькі.

— Тут доўга ня дзержаць, — са значэньнем сказаў сусед — Блатняк. — Дзён пару і — на выхад!

— А куды?

— Гэ, куды! Ведама куды. У Гунькін роў.

Які гэта быў роў, паручнік ня ведаў, але ня цяжка было здагадацца. Значыць, сапраўды ён папаўся. Толькі ж, мабыць, павінны хоць дапытаць, вынесьці нейкі, хай сабе фармальны прысуд. Хаця цяпер маглі і без прысуду. Застрэлілі ж у іхным палку штабс-капітана Магілянцава — адразу пасьля мітынгу, ля канавязі, бяз допыту і прысуду. А калі за яго заступіўся прапаршчык

з узвода пешай разьведкі, застрэлілі і прапаршчыка. У імя рэвалюцыі. Менавіта тады паручнік Глушкевіч зразумеў: вайсковая служба для яго скончаная. У такім войску служыць немагчыма. Не зважаючы на прысягу, на абавязак перад імпэрыяй, на загады новай, рэвалюцыйнай улады, трэба скідваць пагоны і дабірацца дадому, у родны край, дзе яшчэ жыла маці, апошні ліст ад якой ён меў паўгода таму. І вось прыехаў. Да ягонай станцыі заставалася шэсьцьдзесят вёрст.

Пасьля нядоўгага маўчаньня кароткую спрэчку нібы падагульніў шапялявы голас:

— А што ж вы хацелі, грамадзяне? Пралетарыят абараняе сваю ўладу. Бо кожная ўлада павінна ўмець сябе абараніць.

— Яно, можа, і так, — мякка запярэчыў Стары. — Тое вядома з часоў французскай рэвалюцыі. Толькі вы мне скажыце, чаму гэткая шалёная абарона? Напрыклад, я не выступаў супраць іхнай улады. Я нэўтральны чалавек, абыватель.

— Вы не абыватель! — аб'явіў шапялявы. — Вы прадстаўнік чужое варожае клясы. Во ў чым прычына.

— Ну, добра, я — чужая кляса, — пасьля паўзы памяркоўна сказаў Стары. — Ну, а вось вы, напрыклад. Вы ж, пэўна, не чужой клясы? Вы за пралетарыят?

— Так. Але я чужой партыі.

— Дык жа таксама сацыялісты?

— Сацыяліст-рэвалюцыянэр. Заўважце розьніцу.

— Невялікая, аднак, розьніца, як я разумею. І тыя, і другія супраць манархіі.

— Гэта калі ў тэарэтычным разрэзе. Але ў тактычным мы разыходзімся. Мы варагуем з бальшавікамі.

— Даволі сумніцельна...

— Не сумнявайцеся. Тут ужо ці мы іх, ці яны нас.

Спакваля паручніку што-ніштo рабілася зразумела. Той стары інтэлігент у куце быў быццам знаёмы яму яшчэ з даваеннага часу — такіх ён чуў, назіраў у вайсковых гарнізонах — усіх гэтых земскіх дактароў і начальнікаў, настаўнікаў ды паштавікоў. Збольшага ён адчуваў лёгіку іхнага мысьленьня, заснаванага на дылетанцкім разуменьні палітыкі, хрысьціянскай маралі, памятаў іхныя гутаркі дзе-небудзь на дачнай вэрандзе пасьля вячэрняй гарбаты, пасядзелкі за круглым сталом пад лямпай з модным матавым абажурам. Яны былі людзі ня злосныя, часам і недурныя, ахвотнікі ў меру выпіць ды пагуляць у карты. У іх выхоўваліся неблагія дзяўчаты, патэнцыйныя жонкі гарнізонных падпаручнікаў, адна зь якіх некалі ледзьве ня стала жонкаю Глушкевіча. Ды ня даў Бог. Ці вайна... Эсэраў ён збольшага пазнаў пасьля рэвалюцыі, у войску, калі яны раптам павылазілі аднекуль, пераважна з унтэр-афіцэрскіх ці прапаршчыцкіх пасадаў і кінуліся выступаць на мітынгах. Яны мала чым адрозьніваліся ад бальшавікоў, і таму сустрэць у гэтым сутарэньні ЧК арыштаванага эсэра было для яго трохі дзіўнавата.

— А за што вас, прабачце, сюды? — стрымана запытаўся ён нябачнага ў цемры шапялявага Эсэра.

— А нізашто. Непаразуменьне выйшла.

— У іх непаразуменьня не бывае! — нэрвова заварушыўся побач Блатняк. — Ім трэба каго-небудзь шлёпнуць. І цябе першага.

— Шлёпнуць, канечне. Калі так доўга ня кормяць, — шапялява пагадзіўся Эсэр.

— Ня кормяць і не страляюць, — сказаў Блатняк.

— Можа, чакаюць, калі самі ногі працягнем? Каб на патроны не расходавацца.

— Не, царскія сатрапы такога не дапускалі, — сказаў Эсэр. — У турме ўсё ж кармілі. Кепска, праўда, але

кармілі.

— У іх там няўпраўка выйшла — аўтамабіль сапсаваўся, — зазначыў Блатняк.

— Думаеш, адрамантуюць і прывязуць прысмакі?

— Не. Адрамантуюць, і нас — у Гунькін роў.

Паручнік прыслухоўваўся да іх невясёлай размовы і разумеў, што ягоных суседзяў трывожыў той жа клопат пра ўласнае жыцьцё, які назаляў і яму. Зрэшты, што ж, усё натуральна, што яшчэ магло трывожыць людзей у гэтым чэкісцкім склепе? І спадзяванкі на жыцьцё былі ў іх гэткія ж хліпкія, як і ў яго.

Недзе ў калідоры непадалёк пачуліся галасы, грубыя, патрабавальныя крыкі: “Выходзь! Быстра, тваю маць...”, брыдкая салдацкая лаянка. Падобна, там усчалася тузаніна ці нават бойка, чуўся тупат шматлікіх ног, нешта моцна выцяла ў сьцяну — аж здрыгануліся прыхінутыя да дзьвярэй паручнікавы плечы. Агідны ветрык небясьпекі дзьмухнуў у цемрадзі сьмярдзючай камэры, усе насьцярожана прымоўклі, чакалі, што вось-вось адчыняцца і іхныя дзьверы. Але дзьверы пакуль не расчыняліся, а тупат і тузаніна сталі аддаляцца, мабыць, там кіравалі на выхад.

— Цяпер ці ня наша чарга? — паныла ўздыхнуў Эсэр.

Яму ніхто не адказаў, усе маўчалі, і пасьля маркотнае паўзы першы раздумна загаманіў Блатняк:

— А я якраз перад тым, як сцапалі... гуляш не даеў. Такі быў смачны гуляш. Каб ведаў...

— За жыцьцё не наеўся, перад сьмерцю не наліжасься, — сказаў Стары.

— Што праўда, то праўда! — падхапіў Эсэр. —Як помню сябе, усё есьці хацеў. І на волі, і ў турмах.

— А што, многа сядзеў? — пацікавіўся Блатняк.

— Хапала!

— Я ж казаў: трэба даваць дзёру! — нэрвова зашапатаў Блатняк. — А то давядуць, што ног не пацягнеш. Калі да таго ня стрэльнуць.

— Я ня супраць, — ціха адгукнуўся Эсэр. І з кутка развважна азваўся Стары:

— Вы думаеце, гэта магчыма? Гэта ж вельмі рызыкова, мабыць?

— А кулю ў лоб атрымаць не рызыкова?

Размова прыпынілася, і паручнік падумаў, што, відаць, іншага не застаецца. Ужо яго ЧК не памілуе, расквітаецца за ўсё. І за дваранскае паходжаньне, і за афіцэрства, і за рэвальвэр у рэчмяшку. Але гінуць у гэтым сьмярдзючым сутарэньні ці ў Гунькіным рове было пагана і страшна. Такога сабе канца паручнік ужо не чакаў. Ды яшчэ ў гэткай кампаніі. Усе ягоныя продкі ляжалі пад якімі-ніякімі помнікамі на старых сельскіх могілках ля невялічкай праваслаўнай царкоўкі, усе памерлі сваёю сьмерцю, у сваіх пасьцелях. А дзе давядзецца легчы яму?

— А і праўда, — зашапялявіў Эсэр. — Як адчыняцца дзьверы, калі каго прывядуць... Кінуцца і — за вінтоўку.

— Хто кінецца? — сказаў Стары. — Я пажылы. Ды хворыя суставы: раматус...

— Я б кінуўся, — працягваў Эсэр. — Ды ў мяне рука вывіхнутая. Як вялі, білі. Сапсулі руку.

Паручнік маўчаў, ён думаў. Трэба было штосьці ўзгадніць у душы, усё ж тая думка ўзьнікла для яго нечакана. Канечне, рукі ў яго не былі вывіхнутыя, пакуль што ад голаду ён не зьнясілеў. Але яму трэба было хоць бы адчуць нейкі давер гэтых людзей, каб нешта браць на сябе.

— Дык вось жа ў нас вайсковец, — падказаў Блатняк, — ты ж вайсковец, ага? — зьвярнуўся ён да паручніка.

— Вайсковец.

— Можа яшчэ ахвіцэр?

— Афіцэр.

— Дык каго чакаць? Самы раз будзе. Ён кідаецца першы, я — у помач.

— Ага. Тут важна, каб усім разам, — прашамкаў Эсэр. — Ламануць — і ў калідор, а там — як пашанцуе.

— Толькі б не спазьніцца. А то могуць на золку вывесьці. Яны на золку возяць, — паведаміў Блатняк. Ну, вядома ж, на золку, пра тое паручнік ведаў, ужо недзе чуў ці чытаў, як возяць на кару злачынцаў. А цяпер вось тое загадкава-страшнае падышло да яго. Значыцца, каб не загінуць па-дурному, безабароннай авечкай, трэба скарыстаць хоць бы й невялікі шанец. Гэтыя людзі паспадзяваліся на яго, і ён павінны. Хоць бы, як больш дужы. І, можа, як больш здатны. Урэшце, як афіцэр. Ці ня ў тым цяпер ягоная місія — маленькая, амаль мікраскапічная місія ў вялізарным віры людзкіх нягодаў. Ён павінны пайсьці наперадзе і зьдзейсьніць самае, можа, рызыковае. Так трэба. А як яно выйдзе — тое залежыць ня толькі ад яго. Тут ужо — як будзе заўгодна госпаду Богу.

— Я зразумеў. Але ці ўсе згодныя? — запытаўся ён.

— Я згодны, — лёгка сказаў ягоны сусед.

— Я тожа, — пацьвердзіў Эсэр. У куце, чутна было, трохі паварушыўся, паўздыхаў Стары, мабыць, ягонае рашэньне давалася яму трудней, чым іншым. Але і ён згадзіўся:

— Што ж, калі ўсе мірам рашылі, дык... Адмаўляцца не па-хрысьціянску будзе. Ужо як-небудзь...

— Во і добра. А ты, маўчун, што? — зьвярнуўся да кагось нябачнага ў цемры Эсэр. — Ці ўсё сьпіш?

— Я ня сплю, — прагучаў зь цемры новы басавіты голас.

— Дык ты чуў? Ты згодны?

— Ды я вось... бегчы не магу, во якое дзела...

— Тады што ж, застанесься?

— Мабыць, застануся.

“Во, пачынаецца, — зь непрыемнасьцю падумаў паручнік. — Адзін стары, другі з вывіхнутай рукой, гэты бегчы ня можа. Што ж тады яны — удвох? Ці ўтрох? Але ці справяцца ўтрох? А калі тых будзе болей?” Была вялікая няпэўнасьць, занадта шмат што залежала ад выпадку, але што ж тады?.. Адмаўляцца, калі ўжо пагадзіўся, было нягожа, ён мусіў трымаць слова. Тым больш, калі на яго паспадзяваліся.

Ноч тым часам, мабыць, пераваліла за поўнач, у сутарэньні памалу рабілася цішэй. Галасы ў калідоры і за сьцяной патроху глухлі. Нехта пагаманіў яшчэ — мабыць, канваіры ў канцы калідора, пасьля стала ціха. Падобна было, падземная турма спакваля засынала. У гэтай жа камэры, аднак, ня спалі — цяжар нялёгкага клопату аблёг на ўстрывожаныя душы арыштантаў, прымусіў жывей забіцца іх спакутаваныя сэрцы.

— Галоўнае, ня кормяць, — сказаў Эсэр. — Значыць, штосьці ўдумалі.

— А што — тут і аслу вядома, — пагадзіўся Блатняк.

— А калі ў іх усё ж які іншы плян, — усьміхнуўся Стары. — Калі, напрыклад, сапсуўся аўтамабіль, дык, мабыць жа, праблема з падвозам.

— Праблему з падвозам можна вырашыць шляхам падносу. Хоць бы ў мяшках. Хлеба ці бульбы. А калі чатыры дні не нясуць, значыць, ня варта, — прашапялявіў Эсэр.

— Значыць, Гунькін роў! — у каторы раз напомніў сваё Блатняк.

Той яго напамін пачынаў ужо раздражняць паручніка,

але ён устрымліваўся, думаючы цяпер пра іншае. Калі пашэнціць выбрацца з ЧК, дык куды бегчы далей? Ён тут даўно ня быў, знаёмых ня меў, шлях да маці даўгаваты, а лавіць, мусіць жа, будуць зацята. Зноў жа — як бегчы босаму па золкай веснавой гразі? Той яго клопат, аднак, быццам учуў Блатняк, які, чуваць было, штурхануў у бок Маўчуна.

— Ты, калі не пабяжыш, аддай боты ахвіцэру. Ён босы.

— Дык бярыце, — проста пагадзіўся Маўчун. Трохі пасопшы, ён зьдзёр з ног боты, і Блатняк перадаў іх у цемры паручніку.

— Абувайце.

Боты былі вялікія, добра растаптаныя, паручнік лёгка насунуў іх на свае босыя ногі.

— Такое дзела, — разважна казаў у куце Стары. — Можа, каму й пашанцуе, дык... Каб ведалі. Я вучыцель са Старыцы, Сергіеня маё прозьвішча. У мяне сын на румынскім фронце быў, цяпер ня знаю... другі паў пад Смаргонямі. А я вось...

— А цябе ў ЧК шлёпнуць. Калі не драпанеш, — груба зазначыў Блатняк, і тое не спадабалася Эсэру.

— Ну ты, далікатней! Нельга ж так: шлёпнуць, шлёпнуць.

— Ды не, яго пашкадуюць. Гэта мяне шлёпнуць. Дык што ж, я плакаць буду? Хай па мне плачуць. У Воршы абальецца сьлязьмі Любка, у Суражы Анастасься, а ў Піцеры Волечка. Волечка асабліва сардэчная была, любіла ў любоў гуляць.

— Мабыць, адлюбілася...

— А гэта яшчэ пабачым, — падбадзёрваў сябе Блатняк. — Я хлапец спрытны. Не глядзі, што мізэрны.

— А родам адкуль?

— Ды тутэйшы. Прыехаў на пару дзён і засыпаўся.

— І я недалёка адсюль. Горад Горкі, чулі? На каморніка вучыўся. Да катаргі.

— Катаржнік?

— А як жа! Паліткатаржанін. Шэсьць гадоў адтрубіў у Забайкальлі. Калі б не рэвалюцыя, яшчэ чатыры гады трубіць.

— Хар-рошая рэвалюцыя! — зьедліва зазначыў Блатняк, і з кута загаварыў Стары.

— Рэвалюцыя вас вызваліла, але ж рэвалюцыя вас і зноў пасадзіла. Як жа гэта атрымліваецца, таварыш сацыяліст?

— Вельмі проста, вучыцель. І рэвалюцыя павінна чымсь харчавацца. Дужа пражорлівая жывёліна, чым болей жарэ, тым болей хочацца, — прашамкаў Эсэр.

— Во дзіва! — раздумна сказаў Блатняк. — А казалі: свобода, свабода...

— Тут во якое дзела, — пачаў ахвотна тлумачыць стары. — Свабода гэта сымбаль, філязофская катэгорыя. Свабода наогул. Народу яна без патрэбы, народ і ня ведае, што зь ёй рабіць. Бо ён ніколі зь ёй ня меў справы. Народу патрэбна, каб над ім гаспадарылі, гэта ў ягонай крыві. Найлепш — чужаземцы. Прыйдзіце і валадарце намі, бо зямля наша вялікая, а парадку ў ёй няма.

— Гэта вы памыляецеся, — сказаў Эсэр. — Ёсьць свабода! За тую свабоду наша партыя эсэраў на катарзе гніла.

— Не супярэчу, можа, і гніла. Але за якую свабоду? За свабоду для сябе, а не для народа. Народу не свабода, а бізун добры самы раз будзе.

— Ну, тады вы рэакцыянэр! І манархіст, мабыць?

— Хай сабе і манархіст, — не пярэчыў Стары. — Але вы азірніцеся, што вырабляе той ваш народ на свабодзе. Вунь у нас, у мястэчку. Жыў такі пан Красоўскі, небагаты, шляхетнага роду. Палац каменны тры стагодзьдзі прастаяў ля ракі. Дык гэтыя местачкоўцы, свае ж сяляне, прыйшлі, пачалі цягнуць, рабаваць. Віна знайшлі, напіліся, падпалілі стайню. Стары пан кажа: “Што ж вы робіце, як вам ня сорамна?” А яны: “Дык ці ж гэта мы пачалі? Такія парадкі, закон у Піцеры выйшаў — свабода! Расея гіне, трэба хапаць, каб не прапала. Пакуль свабода”. І разрабавалі, і папалілі — і палац, і службы. А старога Красоўскага сьвятар ледзьве ўратаваў ад п'яных. А вы кажаце — свабода! Паглядзіце, хто нас сюды папрыводзіў, хто страляць будзе. Хіба тыя людзі не з народа? А тыя, што ў ЧК сядзяць, хіба не за народ? Хоць бы на словах.

— Во, менавіта на словах, — падхапіў Эсэр. — А па сутнасьці гэта шкурнікі. Прыстасаванцы да сьвятой сацыялістычнай ідэі ўсе гэтыя бальшавікі, чэкісты...

— Якая ідэя, такія да яе й прыстасаванцы, — упарта пярэчыў Стары. — Калі ідэя гэтак абрастае прыстасаванцамі, значыць, благая ідэя.

— Ну, пра ідэю так не кажыце. Ідэя роўнасьці і брацтва — найлепшая з ідэяў. Ад часу францускай рэвалюцыі...

— Роўнасьці, кажаце, брацтва? Колькі за тое крыві пралілося, а дзе тое брацтва? Усё шалёная барацьба, брат на брата, кляса на клясу. Столькі стагодзьдзяў мінула, а нічога не мяняецца.

— Зьменіцца. Рэвалюцыя толькі пачатак.

— Які пачатак, такі, мусіць, і працяг будзе.

— Не, будзе лепшы. Залаты век наперадзе.

— Дай-та Бог... Ды дужа сумнеўна.

Паручнік маўчаў і слухаў. Увогуле іхныя довады былі збольшага яму знаёмыя, гэткага і да таго падобнага ён нямала ўжо наслухаўся, асабліва за час рэвалюцыі.

Скептычныя погляды старога настаўніка былі бліжэй да ягонай сьвядомасьці, чым бадзёрыя запэўненьні Эсэра. Ня мог ён прыняць самаўпэўненую балбатню людзей, якіх не паважаў менавіта за іх крыклівую настырнасьць у справе свабоды. Гэта не пачуцьцё, гэта спрэс словы. Сапраўднае пачуцьцё маўклівае, яно выказваецца болей справай, ды не траскучымі словамі. Лёгка было крычаць аб свабодзе народа, калі гэта ні да чога не абавязвала, трудней было для яго нешта зрабіць. І нават не для народа, а для групы людзей, для некалькіх чалавек. Як толькі зьяўлялася такая неабходнасьць, тады ўся рэвалюцыйная пыха з гэтых людзей зьлятала, і яны рабіліся, бы пухіры, зь якіх выпусьцілі паветра. Зрабіць што-небудзь для бліжніх яны ня ўмелі. Лацьвей было для народа. Але ў разуменьні паручніка народ здаваўся разумовай абстракцыяй, канкрэтна ён яго ўявіць ня мог, як ня мог уявіць сутнасьці сьмерці або бясконцасьць сусьвету. Мусіць, тое было за межамі ягонага досьведу і здольнасьцяў да ўяўленьня.

Затое ён няблага навучыўся бачыць і разумець асобнага чалавека, хоць бы й гэтых розных, выпадкова сабраных у купецкім сутарэньні людзей. І ён мог прыкладна вызначыць, што ў кожнага за душой, і на што кожны зь іх здольны. Ён думаў, што перад пагрозай пагібелі кожны зь іх пашчыруе ў змаганьні за жыцьцё; усё ж яны разумелі, што літасьці ад ЧК ня будзе. Некаторае падазрэньне ў яго выклікаў хіба што Маўчун, які аддаў яму боты, — надта лёгка аддаў, без шкадаваньня. Яго зацятая маўклівасьць таксама магла значыць рознае. Блатняк хоць і не выклікаў асаблівых сымпатыяў, але да справы, якую яны задумалі, здаецца, мог прычыніцца няблага. Эсэр, мабыць, быў хітрэйшы, чым выяўляў сябе ў гэтай камэры. Ну, але што рабіць, выбар у паручніка быў невялікі.

— А вы, афіцэр, адкуль родам? — запытаўся Эсэр. — Са сталіц, мабыць?

— Не, не са сталіц. З-пад Полацка.

— А, мабыць, з фальваркоўцаў?

— Вы ўгадалі, — згодна адказаў паручнік і болей пра сябе не сказаў нічога. І ад таго, што паведаміў, стала няёмка, нібы чымсь пахваліўся. Мусіць, было б лепш, калі б ён назваўся сацыялістам ці простым рабочым, блатняком нават. Але іграць чужыя ролі паручнік ня ўмеў, адчуваў да таго ледзьве не фізычную гідоту, хоць і праўду пра сябе казаў каму-небудзь рэдка, у скрайнім выпадку. Як тут вось. Сказаў, бы распрануўся перад людзьмі ў гэтай сьмярдзючай цемры. Усё ж вялікая справа ананімнасьць, якая цяпер рэдка здараецца на людзях (хіба што ў дарозе), калі ні да цябе, ні ў цябе няма ніякае справы да іншых. Тут вось такая справа знайшлася.

— Ну, фальваркоўцы, як і дваране, розныя бываюць, — памяркоўна сказаў Блатняк. — Каторыя і нішто.

— Яны, можа, і нішто, — шапялявячы, запярэчыў Эсэр. — Але як кляса — ворагі рэвалюцыі. Контра!

У куце, чуваць было, заварушыўся стары настаўнік.

— Вось, пан эсэр, вы ўсё вялікімі катэгорыямі: кляса, народ. Але хто калі з вас меў справу цалкам з клясай або народам? Усё, ведаеце, болей з суседам, гандляром ці прыказчыкам. З кожным упаасобку. А прывыклі абагульняць.

Мабыць, так, схаластыка, — падумаў паручнік. Але кепска нават ня тое, што ў некаторых галовах укаранілася тая схаластыка, горай, што схаластыка стала дзяржаўнай дактрынай, ад якой так ці інакш залежаць лёсы тысячаў, калі не мільёнаў людзей.

— Ня клясавы ў вас падыход, — бяз злосьці, аднак, мовіў Эсэр.

— Ня клясавы, праўда. Боскі. Усё ж Бог стварыў чалавека, а ня клясы, партыі. Клясы і партыі — гэта, мабыць, справа нячысьціка. На пакуту людзям.

— Каб адно адным паганялі, — як заўжды зьедліва ўставіў Блатняк і запытаўся з выклікам: — Праўда,

Маўчун?

— Можа, і праўда, — не адразу, спаважна адазвалася зь цемры. Блатняк пачакаў, мабыць, думаў учуць і яшчэ што, але далей было маўчаньне.

— А цябе завошта сюды, калі не сакрэт?

— За цара, — не адразу, з натугай адказаў Маўчун.

— Ты што — радня яму?

— Не, не радня.

— Дык пры чым тут цар?

— Вартаўнік я. Ва ўправе служыў. А яны прыйшлі партрэт скідваць...

— Хто яны?

— Ды гэтыя... Чэкісты. Дык я... Узяў тапор і...

— І пасек іх? — зь цікавасьцю дапытваўся Блатняк.

— Не-а. Аднаго толькі. Галоўнага.

— Да-а, — сказаў эсэр. — Кепскія твае справы.

— Ну, — проста пагадзіўся Маўчун.

Няпэўная начная ціша ў сутарэньні зноў парушылася нейкімі невыразнымі галасамі ў тым канцы калідора, прагучала лаянка, падобна, там некага білі, — прывялі ці, можа, зноў выводзілі на расстрэл ці на допыт. У камэры прыціхлі, услухоўваючыся, са страхам чакаючы кепскага. Паручнік пасунуўся ад дзьвярэй у кут, так было зручней, калі што, кінуцца ў дзьверы. Кепска, думаў ён, што скрозь было цёмна, у цемры можна было памыліцца. Затое, можа, лепш будзе ўцякаць. Хоць як там ужо выйдзе. Цяпер ня шмат прадугледзіш.

— Значыць, так, — ціха сказаў ён. — Расчыняць, і я кідаюся. За мной — вы, — ён дакрануўся да выцягненай нагі Блатняка. — Зараз жа астатнія.

— Тады трэба перасесьці, — сказаў Блатняк. — Маўчун ня пойдзе, дык ён каб у канцы. Хай перасядзе з вучыцелем.

— Хай перасядуць, — пагадзіўся паручнік.

Трошкі стогнучы, Маўчун падняўся са свайго наляжанага месца і палез у кут да Старога. Той таксама нешта мармытаў сабе, незадаволены чымсь. Аднак паручнік ня надта іх слухаў — ён стараўся не прамінуць які рух у калідоры, каб ня даць застаць іх зьнянацку. Рух там, аднак, заглух, мабыць, каго было трэба, вывелі, і ў сутарэньні зрабілася па-начному ціха.

— Аднак аташчалі мы, чорт пабяры, — сказаў Блатняк. — У мяне ўжо кішкі да хрыбта прысохлі ад голаду.

— Хаця б далі вады, — паскардзіўся Стары. — Без вады арганізму ніяк: абязводжваньне тканак.

— Цікава, а колькі можна бязь ежы? — запытаўся Блатняк.

— Бязь ежы пацягнем, — адказаў Эсэр, як самы ў тым дасьведчаны. — Можна тыдзень і два. А без вады кранты.

Пакуль што паручнік не адчуваў ні смагі, ні асаблівага голаду, усё ж учора ён піў на станцыі гарбату, і цяпер напружана думаў, як лепей учыніць гэтыя ўцёкі. Роля першага, пачынальніка, несла як пэўную небясьпеку, так давала і пэўныя перавагі; ад ягонага спрыту і ўмельства залежала ўсё астатняе. Калі ён адолее канваіра ды завалодае зброяй, дык, можа, яны й вырвуцца.

Ён намагаўся слухаць, каб адразу злавіць які важны гук з калідора, і баяўся заснуць. Дрымота, між тым, агортвала яго ўсё болей, і тады ён, страпянуўшыся, ціха гукаў іншым: “Ня спаць”. Яны не маглі дазволіць сабе заснуць, кожную хвіліну трэба было быць гатовымі кінуцца ў дзьверы, як толькі тыя расчыняцца. Як за кім прыйдуць ці каго прывядуць. У кутку ля дзьвярэй

паручнік выбраў сабе найбольш зручную позу.

Аднак мінаў час, а дзьверы камэры заставаліся нязрушныя, бы замураваныя. З таго боку, здаецца, ніхто каля іх і не пратупаў ні разу. Спакваля зноў усталявалася трывожная начная ціша. Дужа цягнула на сон, і трэба было немалое намаганьне, каб адолець дрымоту. Паручніку, мабыць, не заўжды тое ўдавалася, і тады ў яго паўсоннай сьвядомасьці пачыналі мільгаць нейкія абліччы, нібы чуліся фразы, урыўкі падзеяў зь яго нядаўняга франтавога мінулага, даўнейшай службы і нават штосьці зь дзяцінства... Чамусь зьявілася перад зрокам разьбітая фура на гразкай вуліцы галіцыйскага мястэчка, забіты конь з разьдзьмутым, як бочка, брухам, і — бяз пэўнай з папярэднімі падзеямі сувязі — маці. Старая, заплаканая, з маўклівaю тугой у вачах, — мусіць, такая, якой ён бачыў яе апошні раз, ад'яжджаючы на фронт у пятнаццатым. “Застанецца адна”, — падумаў паручнік, і гэтая недарэчная думка аж скаланула яго сваёй нечаканасьцю, адразу прагнаўшы сон. Маці ўжо страціла амаль усіх — дзяцей, мужа, пляменьнікаў, брата. Хто памёр, не стрываўшы такога жыцьця, хто прапаў на вайне ці апынуўся на захадзе, як сястра Тацяна, што з мужам-дыпляматам выехала ў Фінляндыю. Адзін іхны брат не вярнуўся з палону, другі быў забіты ў першых баях ва Ўсходняй Прусіі. Ён застаўся апошні і, мусіць, з такой няўрымсьлівасьцю памкнуўся да маці, нібы адчуўшы яе далёкі жальлівы покліч з паўзабытай ім Полаччыны. Ледзьве ня ўсе свае маладыя гады, гады вайсковае службы і пасьля ён таптаў чужую зямлю, жыў сярод чужой прыроды, у незнаёмых раней гарадах, сярод чужых, іншамоўных людзей. Да іх прывыкаў, звычаіўся зь іхным бытам, мала і рэдка ўспамінаючы, адкуль ён і дзе ягоныя вытокі жыцьця. Можа б, жыў так і далей, калі б не вайна, ня гэтая рэвалюцыя, калі ўсё ранейшае паляцела ў тартарары. За кароткі час ён ня толькі страціў чын, пасаду, сякія-такія набыткі, але й звыклыя маральныя апірышчы, калі ўвачавідкі мяняліся вакол людзі і ягоныя да іх адносіны. І тады неўпрыцям і настойліва паўставалі ў памяці вобразы іншага, ранейшага, паўзабытага ім жыцьця. Здавалася, людзі ў

тым жыцьці былі зусім не такія, як гэтыя, — нязьменныя, з дабрынёй і Богам у душы, прыязнай прыветнасьцю на тварах, якімі ён памятаў іх зь дзяцінства. Бадай, у роспачным адчаі, як да паратунку, ён памкнуўся да іх, да роднае стараны, дзе мінула яго дзяцінства, застаўся вялікі драўляны дом з адкрытай вэрандай пад стромкімі вязамі з бусьлянкай, у якой кожнае лета ладзілі сваё жытло пара буслоў, ляскалі доўгімі дзюбамі — выводзілі бусьлянят. Пад імі ўнізе туліўся нешырокі ўтульны падворак малазаможнай шляхецкай сядзібы з квяцістаю клюмбай перад шырокімі прыступкамі ганка. Побач мясьціліся старасьвецкія драўляныя службы зь летняю кухняй, клецямі, стайняй, у таямнічым паўзмроку якой бразгалі цуглямі два буланыя стаеньнікі; на аднаго зь іх, рахманага Сярка, некалі падсаджвалі белагаловага хлопчыка ў белай матросцы, і сэрца яго замірала ад страху і адвагі. Аднойчы ён упаў зь Сярка, дужа папэцкаў матроску, і яны дамовіліся з хурманам Дзянісам утаіць тое ад маці, схлусіць, што ён упаў у лужыну ля падворку. Назаўтра маці загадала Дзянісу засыпаць лужыну. Дзіва, што застаецца ў душы на сконе жыцьця... Зь незабыўных уражаньняў раньняга дзяцінства ўзнавілася ў памяці іх даўняя паездка ў недалёкі Полацак да мошчаў сьвятой Еўфрасіньні, — як яны ранічкай ехалі туды ў ландо з бацькам і маці, мінаючы азёры і прыазёрныя вёскі, і ўрэшце, як скончыўся лес, на даляглядзе па-над далёкімі прысадамі засьвяціліся стромкія купалы Сафійкі, ярка асьветленыя летнім ранішнім сонцам. Ці пабачыць ён калі іх — тыя сьвятыя купалы, што доўгія гады стаялі ў змроку ягонай памяці — сярод страшнай калатнечы, гразі, крыві, бязладзьдзя вайны? Так недалёка засталося да іх, і так трудна іх дасягнуць.

Мабыць, ён усё ж задрамаў трохі, на якіх пару хвілін, і аж скалануўся ад нечаканага крыку, што раздаўся па той бок дзьвярэй.

— Па-ад'ём! Падгатовіцца — прыём пішчы!

У камэры разам спалохана заварушыліся, падскочыў і

сеў побач Блатняк, за ім санлява падняўся з долу Эсэр. У сьцяне насупраць ужо цьмяна азначалася невялічкае закратаванае акенца, сталі відаць плечы, галовы, шэрыя твары арыштантаў, і паручнік упершыню азірнуў людзей, зь якімі прабыў ноч. Крык у калідоры, які цяпер чуўся далей, чымсьці яго бянтэжыў, можа, тым, што на двары пэўна віднела, і ён сьцяміў, што з уцёкамі прыпазьніліся. Зноў жа ён ня ўбачыў на белабрысым, надта прышчавым твары памагатага Блатняка патрэбнай рашучасьці — там выразна мільганула зьбянтэжанасьць, што ўвачавідкі зьмянілася бадай што дзіцячай радасьцю, і Блатняк закрычаў:

— Чуеце? Не, вы чуеце? Жраць дадуць, далібог!

Эсэр, бачна было, з прагнаю ўвагай імкнуўся злавіць гукі з калідора, і яго запалыя, аброслыя блытанай шчэцьцю шчокі ды разяўлены ад увагі рот з выбітымі наперадзе зубамі выдавалі слабасільнага, нават змардаванага чалавека. Крыху далей у рэдзенькім сяйве сьвятла з акенца блішчэла лысая галава старога вучыцеля з зусім белым пушком — рэштаю валасоў над вушамі. Недзе ў густым ценю пад акенцам туліўся нябачны ад парога Маўчун. Здаецца, паведамленьне пра харч зьбівала іх з тропу, блытала намер; паручнік бачыў, як напружыліся іхныя твары — менавіта ад навіны пра харч. За дзьвярыма побач дужа бразнуў замок, і паручнік ускочыў на ногі. Ён чакаў, што дзьверы расчыняцца, а тыя толькі прачыніліся трохі, і цераз парог цяжкавата грукнула старое закапцелае вядзерца. У камэру шыбануў знаёмы з салдатчыны пах гарачай кашы-пярлоўкі.

— Трымайце на пяцёх...

— Вы бачылі? — зь ненатуральнай радасьцю закрычаў побач Блатняк. — Нас кормяць!..

І не пасьпеў яшчэ паручнік штосьці падумаць, як Блатняк, спрытна шмыгануўся пад яго нагамі, ухапіў ад парога вядзерца і пачаў уладкоўваць яго сярод камэры. З таго боку да яго ўжо сунуўся змардаваны Эсэр, запаволена, бы нерашуча, мясьціўся стары вучыцель. За

імі падняўся з свайго месца і Маўчун. Нібы апляваны, паручнік няўцямна стаяў пры дзьвярах. Здаецца, увесь яго выпакутаваны плян вылятаў насмарку, увагай гэтых людзей бяз рэшты завалодала ежа.

— А як жа — бяз лыжак? — запытаўся Эсэр.

— А ручкамі, ручкамі, пан сацыяліст. Во так! — па-блазенску выпінаўся Блатняк, тут жа зачэрпаўшы жменяй ня дужа густую кашу, пачаў вылізваць яе з далоні. За ім болей рашуча папнуліся да вядзерца і Стары з Эсэрам.

— Ну, а вы што? Ахвіцэр! Запрашаць трэба?

Стоячы на каленях, каля вядра, Блатняк на момант павярнуўся да паручніка, але той не скрануўся зь месца. Нейк ураз аслабелы, нібы пасьля цяжкай працы, паручнік ціха апусьціўся ў сваім кутку на шынэлак. Ён быў ашаломлены і спустошаны дарэшты. Варта было пакутаваць, пераажываць, спадзявацца на Бога, аддаючы яму права распарадзіцца сваім лёсам. Аказалася, тым лёсам з большым посьпехам распарадзіўся прышчавы Блатняк. Ці гэтае праклятае паўвядра пярлоўкі.

Маўкліва і хутка яны ўтрох апаражнілі вядзерца і з асалодаю сытых адваліліся да сьцяны. Падобна, пад'елі і паспакайнелі. Прынамсі, ранейшая трывога і напружаньне дарэшты пазьнікалі зь іхных галасоў і твараў, саступаючы месца санлівай ціхманасьці. Яны задаволіліся. Паручніку вельмі карцела вылаяцца ад злосьці, і ён ледзьве стрымліваўся, трошкі цешачы сябе думкай, што, можа, яшчэ ня ўсё страчана. Мабыць жа, яшчэ прыйдуць па тое вядро і расчыняць дзьверы. Ды тое, што ён неўзабаве ўчуў, прымусіла яго зьнерухомець у зьдзіўленьні. Зьвяртаючыся да Блатняка, Эсэр сказаў:

— Ну, а ты палохаў: Гунькін роў, Гунькін роў. Аднак жа накармілі!

— Знача, перадумалі, — сыта пярэчыў Блатняк, выцягнуўшы ў доле ногі. — Мабыць, яшчэ пачакаюць страляць.

— А можа, яны й ня думалі нас страляць. Бальшавікі ж таксама розныя. Па тваёй жа тэорыі?

— Ну, а ты, вучыцель, што думаеш? — Блатняк павярнуў прышчавы твар да сьвятла з акенца. Сюды-туды паводзячы лысаю галавой, стары вучыцель зручней уладкоўваўся на падлозе і маўчаў.

— А я вам скажу, — раздумна зашамкаў Эсэр. — Ну і дурні ж мы былі ўначы: што ўдумалі. Тут хіба ўцячэш?

— Хрэна ў іх уцячэш, — пагадзіўся Блатняк. — А так...

— А так, можа, і абыдзецца, — падхапіў Эсэр. — Калі разабрацца, дык мяне і праўда нізашто ўзялі. Гэта мой кораш тую купчыху экспрапрыяваў, ды ня я. Але нязручна было выдаваць.

— А мяне, пэўна, кораш прадаў, во скаціна! Але як дакажаш, што я чэсны пралетар? Ну, што спэкулянт трохі, дык за гэта страляць?

Запытальным позіркам Блатняк абвёў арыштантаў у камэры, чакаючы падтрымкі, ды арыштанты маўчалі. Толькі спакваля азваўся Стары:

— Цябе, можа, і не застрэляць. Але ж тут афіцэр...

— Ну, і што?

— А тое, што яго падманулі.

— А хто, хто яго падмануў? — загарачыўся Блатняк. — Мы самі падмануліся. Ну, ня кормяць, думалі — шлёпнуць. Аж, пэўна, не. Дык што ж нам цяпер — напралом? На злом галавы дзеля ахвіцэра? Не, тут кожны — сам за сябе.

— Рызыка павінна быць апраўданай, — глыбакадумна прашамкаў Эсэр.

Унутры ў паручніка штосьці пакутна напялася і разам аслабла, нешта ён ужо пачаў разумець. Ён слухаў іх моўчкі, адчуваючы, як ягоная разгубленасьць

ператвараецца ў маўклівы нутраны гнеў. Ужо такога павароту ў іхным настроі ён не чакаў. Ці гэта ён прапанаваў ім тую рызыку? Ці ён угаворваў іх уцякаць? Ён толькі пагадзіўся, уступаючы іхнай волі, падмануўшыся на іхны давер. Яму тое ня танна далося, але ён перамог сябе, бо лічыў, што абавязаны. А яны наеліся і, нібы ракі, папаўзьлі назад. Але ён ня рак, ён гэтак хутка мяняць накірунак ня мог. Ён меў свае прынцыпы ў жыцьці, якія сёньня былі гэтак нахабна спляжаныя.

У камэры раптам настала пакутная напружаная цішыня, у якой важка і нават злавесна раздалося з-пад вакна:

— Скаты!

— Што? — падняўся і сеў на доле Блатняк. — Хто скаты?

— Вы! — кінуў забойца Маўчун.

— Вы чулі? Чаму гэта мы скаты?

— Трэба сьпярша падумаць, чым гаварыць, — пакрыўджана прашамкаў Эсэр.

Але Маўчун толькі аднойчы няспрытна варухнуўся ў шэрым сьвятле з вакна сваёй крутаплечай паставай і зноў схаваўся ў цяню — павярнуўся на другі бок.

— За ахвіцэра, ці што, заступаесься? — прыдзіраўся да яго Блатняк. — Дык ахвіцэр не крыўдуе. Праўда, ахвіцэр?

Паручнік ва ўпор, не маргнуўшы, паўзіраўся ў ягоны нахабны твар, і той, мабыць, нешта адчуў.

— Ахвіцэр ня згодны! — аб'явіў Блатняк. — Ён заадно з бандытам. Во дзьве контры!

— Мала, што скаты! Дык яшчэ й падлюгі, — з раптоўнай рашучасьцю сказаў паручнік, адчуўшы, як нешта назаўжды адразае ў сваім жыцьці. Паправіць ці перайначыць што ўжо ня будзе магчымасьці, і ён

пайшоў напралом.

— Ну во, я ж казаў! І гэты таксама — контра! А тыя сумняваюцца — гэтыя дурні з ЧК.

— Ідзі, закладзі! — сказаў паручнік.

— Ісьці нягожа, — зашмакаў Эсэр. — Але калі запытаюць, што ж... пакрываць ня трэба. Клясавы вораг! — пырскаючы сьлінкамі, крыкліва скончыў Эсэр. Перад ім спалохана ўскочыў на калені Стары.

— Ціха, ды ціха вы! Учуюць жа... Яны ж усіх нас...

Але ягоныя ўгаворы яшчэ болей злавалі разьюшанага Блатняка, які, ужо не стрымліваючыся, крычаў:

— Што ціха! Гэта ён хай ціха! Ён змоўшчык! А той бандыт! Яны ворагі! Яны сабраліся канвой душыць...

— Змоўкніце! Што ж вы робіце? Адумайцеся, — роспачна ўпрошваў Стары. Ды марна.

— А, і ты? І ты тожа за іх! І ты контра, за Бога, procіў рэвалюцыі...

І тады з-пад змрочнай сьцяны насупраць неяк марудна, бы перасільваючы сябе, падняўся Маўчун, босымі нагамі перажыргнуў выцягнутыя ў доле боты Эсэра. Ён яўна кіраваў кудысь—марудна, але з адчайнай рашучасьцю на чорным, аброслым шырокай барадой твары. І Блатняк, учуўшы нядобрае, віскліва закрычаў ля парога:

— Не падхадзі! Не падхадзі... Не падхадзі...

І задыхнуўся, захроп, як Маўчун вялізнаю рукой ушчаперыў яго за грудкі, згроб, пераламаў пасярэдзіне і паваліў пад сябе. Слабасільны Эсэр засьцярожліва адхіснуўся, стары вучыцель напружыўся ў нерашучасьці, і паручнік адчуў, што зараз здарыцца кепскае.

— Стой! — загадаў ён строга, як прывык загадваць

салдатам. — Стой! Адставіць...

— Прыкончу, скаціна...

— Ня трэба. Адпусьці!

Іх крыкі і валтузьню ў камэры, мабыць, пачулі з калідора, там бразнуў замок, і рэзка расчыніліся дзьверы.

— В чом дзела? Што такое?

У дзьвярох стаялі двое чэкістаў, яны не пераступалі парог, але, мабыць, і без таго ўсё зразумелі.

— Устаць! Всем устаць!

Першы хуценька ўскочыў Эсэр, за ім з натугай падняўся Стары, падумаўшы, устаў паручнік. Маўчун у доле зь яўнай неахвотай выпусьціў з рук Блатняка і таксама, цяжка дыхаючы, узгрэбся на ногі. Блатняк застаўся ляжаць, змусіўшы астатніх падумаць, што канае. Але раптам ён залямантаваў, перабіраючы нагамі ў стаптаных, з глінай на сподзе, гамашах:

— Ратуйце мяне ад яго, ратуйце! Ён бандыт, ён хацеў мяне задушыць. Каб я іх ня выдаў... Во бандыта і таго, ахвіцэра...

Гэта было жахліва, але паручнік ня вымавіў і слова. Ды і што тут можна было сказаць, чым запярэчыць? Ён толькі адчуў злосны дакор сабе — каму ён даверыўся? Тады было цёмна, ён нікога ня бачыў. Але ж чуў! І ці ён ня ведаў гэтых і да іх падобных людзей — з войска, з вайны, хоць бы зь пяхотнай роты, якой камандаваў. І гэта — за паўвядра пярлоўкі.

— Так, выхадзі! — коратка загадаў пярэдні чэкіст, плячысты чалавек у пакамечаным скураным картузе. З-за ягонай сьпіны выглядвалі двое, і паручнік зразумеў, што трэба ісьці.

Забыўшыся на свой шынэлак у куце, ён выйшаў у калідор і спыніўся. Ззаду, мядзьведзявата ступаючы

босымі нагамі, няўклюдна вылазіў з камэры забойца Маўчун, і ў паручніка мільганула думка: “Трэба аддаць боты”. Але ў той жа час яго штурханулі па калідоры, і ён нетаропка пайшоў наперадзе чэкістаў. Ззаду, з камэры, чуўся роспачны голас старога вучыцеля:

— Людзі, што ж гэта робіце, людзі!..

Стары і яшчэ нешта галасна гаманіў там, але паручнік ужо ня слухаў. Ён зь нясьцерпнаю горыччу думаў: трэба ж так памыліцца ў жыцьці! Вядома, ня першы раз. Ды, мабыць, апошні. Толькі гэта і суцяшала яго перад непазьбежным канцом.

## Народныя мсьціўцы

З поля да вёскі можна было ісьці па сьцежцы, уздоўж прасьцягу кукурузы, каб затым на аселіцы завярнуць да хаты. Але той шлях цяпер здаўся задоўгім, і Іван па мянушцы Снайпер рашуча павярнуў на палетак. Тым болей, што кукуруза тут выдалася дохлая, да калена даўгалыгаму Івану, як, зрэшты, і ўсюды ў іхным калгасе. Апроч хіба шнурка пад борам, уздоўж бальшака ў раён. Але пра той шнурок дужа дбалі і страшыня і брыгадзіры, — то быў шнур напаказ для начальства, якое зь вясны сноўдала па раёне з найбольшым цяперашнім клопатам — пра кукурузу. Ні пра жыта, ні пра ярыну, ні пра бульбу так ня дбалі, як пра гэтую кукурузу, якая, аднак, упарта не хацела радзіць на тутэйшых клятых падзолах.

Пра кукурузу дбалі, але скаціну кармілі ўсё ж сенам, хоць назапасіць яго на зіму было няпроста. Найперш не было дзе, усё паўзворвалі на пасевы, засталіся хіба што балацявіны ды хмызьнякі. Зранку Снайпер-Іван касіў сваю пайку ў кустах між пнёў і алешніку, ды між пнёў ня шмат што накосіш, хіба на пару-другую рэзгінаў, і ўсё. Адно што — намахаесься касой да болю ў плячах. А тут, як на ліха, скончылася курава, і Снайпер-Іван ледзьве датрываў да вечара. Як сонца пахілілася да

лесу, плюнуў на тую нехуцавую пайку і з касой на плячы рушыў дадому. Памятаў, недзе ў кухвайцы павінны застацца распачаты пачак ягонай “Прымы”.

Шоргаючы гумавікамі ў нізкарослым зарасьніку кукурузы, ён кіраваў цераз палетак наўкось і думаў, што кукуруза наўрад ці акрыяе да восені, каб хоць было што скасіць на сілас. Зрэшты, на гэтым падзоле ня надта расло і ў ранейшыя, дакалгасныя гады. Снайпер-Іван памятаў, як колісь бурчэў бацька, возячы сюды гной па вясьне: колькі яго ні вазі, ураджаю ня будзе. Такая зямля. Непадалёк за кукурузным палеткам быў іхны надзел, на якім падлетак Іван упершыню сьціснуў у даланях высьлізганыя ручкі плуга і правёў свой першы загон. Увогуле скупы на пахвалы бацька тады шчыра пахваліў сына, сказаў: будзе гаспадар, ёсьць на каго пакінуць зямлю. Аж гаспадара з Івана ня выйшла, выйшаў снайпер, а зямля засталася нікому не патрэбнай, зрэшты, таксама, як і яе былы гаспадар. Бацьку ўзялі раньняй вясной, а старэйшаму ў сям'і Івану найперш стала патрэбнай не скалектывізаваная зямля, а дровы, каб маці магла зварыць бульбу для траіх згаладнелых братоў і сястры, якія зранку сядзелі на астылай печы. І ён зь сякерай за дзягай ішоў у кустоўе, сек алешыны і па сьнезе цягаў іх на дрывотню, каб насеч дроваў і напаліць у хаце. Пра бацьку наогул стараўся не ўспамінаць, аж пакуль яго не паклікалі ў раён і не ўручылі паперку пра рэабілітацыю “за адсутнасьцю складу злачынства”. Яшчэ праз год у райфо ён атрымаў 650 рублёў — за сьмерць бацькі, якая, як было напісана ў паперцы, наступіла ў сорак другім годзе “ад язвы страўніка”. За тыя грошы Снайпер-Іван купіў новую кухвайку і бутэльку “маскоўскай”. На абмыўку бацькавай памяці.

З аселіцы ён пералез цераз жардзіну ў плоце і апынуўся на сваім агародзе. Перш чым выправіцца па баразьне далей, звыкла павёў адным вокам да хляўка — ці няма дзе курэй. Другога вока ня меў, замест выбітага асколкам пасьля вайны ў шпіталі ўставілі шкляное. Але шкляное Снайпер-Іван не падабаў і ўстаўляў яго хіба як куды ехаў — ў раён ці да доктара на інвалідзкую

камісію, куды спраўна выклікалі штогод. Каля дому абыходзіўся сваім апошнім, да якога прызвычаіўся за гады і бачыў навокал ня горш за двухвокіх. Хоць бы і цяпер — лёгка прыкмеціў жонку Стасю, якая, сагнуўшыся, стаяла ў бурачніку. Угледзеўшы яго, выпрасталася, хвіліну паўзіралася, пакуль ён падышоў бліжай. Мусіць, дзівілася, чаму ён так рана, калі ўсе іншыя мужыкі яшчэ шчыравалі на пайках.

— Што, ці скасіў?

— А нягож табе пакінуў?

— Усё?

— А што там касіць? Ацяробкі...

Жонка змоўчала, мабыць, ня надта яму верачы. Але ён ня стаў яе пераконваць, моўчкі павесіў касу на вугал і пайшоў у сенцы, дзе на шуле вісела новая яго кухвайка. Ён паляпаў па кішэнях, але там было пуста, і тады ён успомніў, што два дні таму той пачак яны дакурылі ў Воўчым лагу, як выпівалі зь Ляплеўскім. З нагоды... Снайпер-Іван ужо ня памятаў, зь якой нагоды была тая п'янка, бо п'янак розных зь вясны здаралася ў іх нямала. Але ён памятаў, што, проч Ляплеўскага, там быў яшчэ малодшы Цыпрукоў зяць, міліцыянт з раёну, а пасьля набрыў абавязковы ў такой справе Дубчык. Добра пагудзелі тады, ледзьве дабрылі да аселіцы, як ужо прыгналі з пашы кароў.

Ад няўдачы з куравам злосна стала на душы ў Снайпера-Івана, а тут яшчэ пачала церціся аб ягоныя гумавікі маладая кошачка, нешта замяўкала, і Іван са злосьці паддаў ёй у бок: хай не вярэдзіць душу чалавеку, у якога няма чаго закурыць. На падворку прыслухаўся: праз дзьве хаты адсюль чуваць быў мерны жалезны стукат — гэта цягавіты Саўчанка адбіваў на бабцы касу, рыхтаваўся да заўтрашняй касьбы. Але заўтра мелася быць нядзеля, і ўжо ён, Снайпер-Іван, заўтра касіць ня пойдзе. Хіба — з паўдня, паверне тыя ацяробкі, каб лепш падсыхалі ў кустах. Саўчанка ж, ведама, будзе шчыраваць і заўтра, як і

кожнага дня, гэта такі ўжо чалавек. Што значыць, зь сям'і падкулачнікаў. Ужо ў яго напэўна будзе што закурыць, падумаў Снайпер-Іван і саступіў зь нізкіх прыступкаў ганку. За парканам на агародзе зноў выпрасталася ягоная дзябёлая жонка.

— Гэта чуеш, да Касатага Вусаў прыехаў, — лагаднейшым, чым раней, голасам паведаміла яна.

— Вусаў?

— Ну, Вусаў. Той самы!

— Да Касатага?

— А нягож...

Во гэта навіна, — падумаў Снайпер-Іван. Старэйшыя дзеравенцы гэтага Вусава памяталі ўсе гады да вайны й пасьля, але пасьля ніхто нідзе ня чуў і ня бачыў яго. Спакваля пачалі на яго забывацца, думалі: прапаў за вайну, як тады прападала нямала каго. Меркавалі, што туды яму і дарога. Ніхто ніколі не памянуў яго добрым словам, так ён насаліў тут за тыя некалькі гадоў, што ажыцьцяўляў клясавую барацьбу і рэпрэсіі ў іхным Богам праклятым раёне. А ён, глядзі ты, — аказваецца, жывы, здаровы, і нават прыехаў да свайго сябрука — сувязнога Касатага. Але да каго ж яшчэ мог ён наведацца?..

— Надвячоркам Манька Валодзева бачыла, як з аўтобуса цераз аселіцу ішоў. Агародамі. Мусіць, каб не пазналі. Спраўны такі, у капелюшы.

— Мабыць, баіцца, аднак...

Узварушаны той навіной, Снайпер-Іван памалу пабрыў абсаджанай каровінымі лепяхамі вуліцай да хаты Саўчанкі. Ён аж забыўся на сваю патрэбу, калі ступіў у расчыненыя варотцы сядзібы. Саўчанка, мажны, шыракагруды дзядзька зь сівою чупрынай на галаве, у белай расшпіленай сарочцы, скончыўшы адбіваць касу, прыладжваў яе да касавільна.

— Чуў? — запытаў ад варотцаў Снайпер-Іван. — Вусаў прыехаў.

З выгляду быццам абыякавы да ягоных словаў, Саўчанка падняў касу, памацаў, ці ня кратаецца на касавільне. Каса ня краталася.

— Прыехаў, ага, — пацьвердзіў ён спакойна.

— Да Касатага?

— Да Касатага.

— І што яму трэба?

— Значыць, штось трэба, — ухіліўся ад адказу Саўчанка. Але, мусіць, ён таксама ня шмат што ведаў. Хоць калі б і ведаў, ад гэтага чалавека ня шмат можна было дазнацца.

— Закурыць у цябе ці ёсьць?

Вялікай рукой Саўчанка моўчкі вышчаміў зь цеснай кішэні штаноў пакамечаны цыгарэтны пачак, даў суседу, пасьля ўзяў адну цыгарэту сам.

— Дык гэта што ж атрымліваецца? — закурыўшы, ня мог чагосьці даўмецца Снайпер-Іван. — Па-новаму пачынаецца, ці як?

— Можа, і па-новаму.

Саўчанка быў старэйшы за Снайпера-Івана і, у адрозьненьне ад яго, негаваркі і стрыманы ў пачуцьцях. Для таго былі свае прычыны: толькі якіх-небудзь пяць гадоў прыехаў зь Сібіры, з ссылкі, у якой адбухаў ці ня дваццаць пяць гадоў. Паехаў некалі маладым мальцам з бацькамі-падкулачнікамі, а вярнуўся сівым і старым. Паводзіў сябе ціхмана, мабыць, не адчуваючы раўнёй з астатнімі калгасьнікамі, хоць бы во і з гэтым Іванам. Гэты так загераізаваўся ў вайну, што гатовы быў забыцца пра сваё бацькоўскае прозьвішча Ярашэвіч і ахватней адгукаўся на мянушку Снайпер. Але лацно Івану, ён і праўда прайшоў агонь і ваду ў партызанцы, і

хоць славы там агораў ня шмат, затое языку цяпер даваў волю. Ня тое, што Саўчанка, нядаўні ссыльны падкулачнік, які на старасьці гадоў захацеў дажываць свой век у родным кутку. Тут трэба было раз і назаўжды забыцца пра свае крыўды. Калі б яны забываліся.

— Я яму пакажу, сволачы, такую яго маць! — вылаяўся Снайпер-Іван, кіруючы з падворка.

На вуліцы, аднак, ён спыніўся, яшчэ ня маючы рашучасьці рэалізаваць сваю злосьць. Патаптаўшыся ля плоту, успомніў, што ёсьць яшчэ чалавек, якому варта пачуць тую навіну пра Вусава, гэта — Ляплеўскі, настаўнік, што рабіў у раёне і прыехаў цяпер у касьбу памагчы маці. Тая жыла на краі вёскі, ля сажалкі, і Снайпер-Іван рашуча скіраваў туды. Каб хоць бы параіцца, аслабаніць душу ад таго, што пачало расьпіраць яго, ад застарэлае крыўды. Калісьці той энкавэдэшнік перасаджаў палову вёскі. То быў чужынец, аднекуль прыежджы ў іхны раён, і ў іхнай вёсцы займеў сабе вернага памочніка зь мясцовых — Касатага, зь якім і саджалі, пачынаючы з трыццаць трэцяга. Але асабліва пашчыравалі яны ў трыццаць сёмым, калі загрэблі і старога Іванавага бацьку. На ўласнага стукача Касатага ў вяскоўцаў злосьці ўжо не было, яна ўся перагарэла за гады, калі гэтага недалэнгу таксама загрэблі, хоць і апошнім у тую пару, — на заедак. Праўда, таму ўсё ж неяк пашэнціла вярнуцца пасьля вайны з нажытымі ў лягеры сухотамі і таксама рэабілітаваным, як ягоныя ахвяры, што бязь сьледу пазьнікалі ў лягерах і турмах. Цяпер ён жыў-дажываў са старой бабай у старым дамку, апусьцелым ад дзяцей і сямейнікаў, якіх некалі было ў яго многа. Але сямейнікі паразьяжджаліся хто куды, бо жыць з такім бацькам было ня надта зручна, асабліва апошнім часам. Людзям Касаты казаў, што на супрацоўніцтва з органамі яго змусіў усё той Вусаў, бо Касаты меў грашок яшчэ з часоў рэвалюцыі, калі, будучы ў войску, пацікавіўся палітыкай і разы два наведаў партыйныя сходкі левых эсэраў. Тая цікаўнасьць дорага каштавала салдату, ды й ці толькі яму аднаму.

На незагароджаным ад вуліцы падворку Ляплеўскага нікога не было відаць, але на паркане каля сенцаў віселі поруч дзьве касы з блішчастымі лёзамі, згледзеўшы якія, Снайпер-Іван зразумеў, што гаспадар дома. І яшчэ нехта апроч, які, мяркуючы па ўсім, памагаў яму на касьбе. Снайпер-Іван паціху перайшоў зарослы лапухамі падворак, зайшоў на той бок хаты і адразу ўбачыў двух мужыкоў. Пад глухой сьцяной ля старой разгалістай грушыны быў змайстраваны невялічкі столік з лаўкай, за якім цяпер сядзеў маладжавы, хоць ужо лысы Ляплеўскі і ягоны госьць Дубчык. Гэты апошні быў дужа падобны на дачасна састарэлага хлопчыка з худой шыяй і зморшчаным, бы печаны яблык, тварыкам. Абодва моўчкі ўтаропіліся ў нечаканага заходжага. На засланым газэцінай стале валяліся калівы сарванай з градкі цыбулі і стаялі дзьве шклянкі. Бутэльку, вядома, яны засьцярожліва пасьпелі прыхінуць у траву побач, што, аднак, адразу згледзеў Снайпер-Іван.

— П'ем! — замест прывітаньня строга канстатаваў той.

— А што — нельга? — з выклікам азваўся Ляплеўскі. У ягоным паглядзе, аднак, мільгануў цень занепакоенасьці — ці мала што? Усё ж Ляплеўскі нядаўна ўступіў у партыю, чаго дамагаўся шмат гадоў, як, зрэшты, і Снайпер-Іван, таму зьявілася падстава асьцерагацца. — І табе можам наліць. Дубчык, дай шклянку.

Дубчык, нешта жуючы поўным ротам, не адразу пасунуў сваю пустую шклянку, у якую Ляплеўскі ашчадна адмерыў роўна палову. Затым трохі пляснуў у сваю.

— Во дакасілі, дык надумалі адмеціць, — сьціпла патлумачыў гаспадар.

Снайпер-Іван выпіў тыя паўшклянкі — адным спраўным глытком, заядаць нічым ня стаў, узяў са стала пачак “Прымы”. Зацягнуўшыся пару разоў, расслаблена апусьціўся на вузлаватыя карані грушы, што вытыркаліся побач зь зямлі.

— А вы ведаеце, хто да Касатага прыехаў?

— Ну, а хто? Пляменьнік? У яго ж у Воршы племяшы жывуць, — спакойна зазначыў гаспадар, таксама закурваючы.

— Пляменьнікі!.. Вусаў, во хто прыехаў. Той самы. Чэкісты НКВД. Які твайго брата змыліў. І тваіх, Дубчык. А то — пляменьнікі...

За столікам ураз зьнерухомелі, Ляплеўскі на момант нібы праглынуў язык, а Дубчык нават перастаў жаваць.

— Гэта што ж яму трэба? — вымавіў нарэшце Ляплеўскі.

— А во нешта трэба. Можа, у свой час не дабраў?

— Дык не дабраў. Мы ж во засталіся.

— Мы дык засталіся. А колькі не засталося? У мяне — бацька. У цябе брат. Такі слаўны дзяцюк быў, граматны чалавек, усё вучыўся, вучыўся. І парцейны. У яго вунь, — Снайпер кіўнуў на Дубчыка, які амаль са спалохам на дзіцячым твары нерухома сядзеў, адхінуўшыся да бёрнаў сьцяны. — У яго во, лічы, уся сям'я ляснула.

— Бацька, — тонкім голасам сьціпла ўдакладніў Дубчык.

— Бацьку ўзялі. А матка памерла. Чаму памерла — ня знаеш? Бо надарвалася, адна з кучай малых. Ты во добра — старэйшы. А трое малых тваіх дзе?

— Пад крыжамі...

— Во, пад крыжамі. Бо з голаду дайшлі. Помню, як жабравалі. Малыя. Па вёсках. Праўда, малым хоць давалі...

— Жабравалі, — паныла пагадзіўся Дубчык.

— Дык рэабіліціравалі, — уставіў сваё Ляплеўскі і завучана бадзёрым тонам дадаў, як усім вядомае: — Парція дапусьціла памылкі, яна іх і выправіла.

— Што? Выправіла? — настырчыўся Снайпер-Іван. — Па

шэсьцьсот пяцьдзясят рублёў заплаціла? За чалавечую душу. Гэта кампэнсацыя?

— Гэта — адчэпнае, — ціха ўдакладніў Ляплеўскі.

— Вот іменна — адчэпнае. Каб адчапіцца ад людзей.

— Але ж ты ўзяў? І ён во ўзяў, — кіўнуў Ляплеўскі на змарнелага пад сьцяной суседа.

— А то — ня ўзяць? Ты ня ўзяў?

— Мне не плацілі. За брата не паложана, — сказаў Ляплеўскі.

— А я ўзяў. Бо паложана. Па закону. Я на тыя грошы кухвайку купіў.

— Ты купіў кухвайку, а Дубчык — паўлітру.

— Не, тры бутэлькі купіў.

— Ну во, аж тры бутэлькі. І ўсё прапілі. Дык ці варта было плаціць тую кампэнсацыю. Вы ж усё роўна ў райфо вярнулі. І кухвайку прап'еш, — сказаў ён і каротка задаволена рагатнуў, пазіраючы на Снайпера-Івана, які ніякавата ёрзаў на мулкіх каранях.

— А што, болей няма? — іншым тонам папытаўся той пасьля нядоўгай паўзы.

— Не, болей няма. Скончылася, — паказаў гаспадар пустую бутэльку. — Хіба ў Дубчыка...

— Была ў сабакі хата! — безнадзейна заключыў Снайпер-Іван. — Пайду да Бараніхі схаджу.

У Бараніхі павінна штось быць — ці якая бутэлька самагонкі, ці хоць бы кіслага балгарскага віна, якое нікому не падабалася, бо слабое і добра ня вып'еш. Але, калі не было іншага, пілі, хіба толькі меней. Бо, казалі, віно — не гарэлка, многа ня вып'еш.

— Дык нам чакаць ці што? — папытаўся Ляплеўскі.

— Чакайце, — няпэўна азваўся Снайпер-Іван ужо з панадворку.

Ляплеўскі з Дубчыкам засталіся, дзе сядзелі. Абое курылі і, ня маючы вялікай ахвоты размаўляць, думалі кожны на свой лад. Ляплеўскі, хоць і ня быў ад прыроды маўчун, але, даўно адарваны ад вёскі, зь вяскоўцамі размаўляў мала. Па-першае, шмат з кім тое было нецікава, а па-другое, ён ужо напярод ведаў, што ад каго пачуе. Выключэньне рабіў хіба што за сталом ці за бутэлькай, калі інакш было нияк. Іншая справа выпіць. Але шкада, што выпіваць нельга было моўчкі, прыходзілася гаварыць, што заўжды было небясьпечна, асабліва ў вялікіх кампаніях. Ды й сам-насам таксама, бо не было ніякай гарантыі, што сабутэльнік — не падасланы сексот. Вось трохі выпілі з маўчуном Дубчыкам, але набрыў гэты балбатун Снайпер-Іван, і Ляплеўскі адчуваў: цяпер пачнецца надоўга. Хоць цяпер яго трымала тут ня так жаданьне дабавіць, ня Снайпер-Іван, як навіна, якую той толькі што прынес. Каб на цьвярозую галаву, можа б усё сталася іначай, а на хмельную Ляплеўскі рабіўся надта чульлівы: старыя крыўды нечакана ажывалі ў ягоных пачуцьцях і рабіліся амаль неадольнымі. Цяпер ён з трывогай думаў пра Вусава. Найперш — глядзі ты, не баіцца нічога, калі ў такую пару завітаў на месца выкрытага свайго злачынства, якое скрозь асуджана і людзьмі, і ўладай. На што разьлічвае чалавек, якога тут дзясяткі гадоў праклінали вяскоўцы, які пакалечыў шмат якіх сем'яў, панішчыў нямала людзей?

Ляплеўскі ўсё жыцьцё перажываў за старэйшага брата Сяргея, які першы зь сям'і некалі выбіўся ў людзі і цягнуў за сабой астатніх. Яго пасьля школы ўладкаваў у настаўніцкі інстытут у Воршы, дзе рабіў сам, узяў на кватэру ў сваю каморку ў чыгуначным бараку, карміў, апранаў і выхоўваў. Выхоўваў, вядома ж, у камуністычным духу, як і належала сьвядомаму камуністу-выкладчыку. Вучыцца было нялёгка, не хапала ні харчоў, ні часу, і Сяргей кожны раз, як выходзіла якая пастанова ЦК партыі, раіў брату яе прачытаць, падказваў, якую скарыстаць дадатковую

літаратуру. І ўсё прывучаў выступаць на сходках, быць актыўным камсамольцам, не ашывацца па закутках, ініцыятыўна і сьмела паводзіць сябе зь сябрамі, не губляючы, аднак, клясавай пільнасьці. Тое ня надта давалася ціхманаму малодшаму Ляплеўскаму, але ён стараўся. У інстытуце быў членам бюро камсамола, агітатарам, здаў нормы на значкі ГТО, ГСО, “Варашышаўскі стралок”. Разы два яго ўжо выклікалі на бяседу ў органы, здаецца, мелі штось на ўвазе. Штось, аднак, добрае, нават прыемнае для ягонага лёсу. І ён чакаў.

Але ўсё рухнула аднойчы паўночнай парой. Толькі ён заснуў, змораны над канспэктамі “Кароткага курсу ВКП(б)”, як у шыбіну пастукалі. Сяргея не было дома, якраз за дзень да таго паехаў на вёску памагчы маці з дрывамі, ну, і прыхапіць сёе-тое з харчу для двух гарадзкіх сыноў. Ляплеўскі адчыніў, у каморку ўвалілася чалавек шэсьць энкавэдэшнікаў, паднялі Сяргееву жонку з грудным дзіцём, запатрабавалі гаспадара. Хлопец сказаў, што выкладчыка Ляплеўскага няма дома. “Где он, говори быстро!” — запатрабаваў галоўны чэкіст з кароткімі вусікамі пад носам-бульбінай. Некалькі часу Ляплеўскі вагаўся, гадаючы, казаць праўду, ці схлусіць. Але не стрываў і сказаў, як было, што брат у вёсцы. На вёсцы тае начы яго і ўзялі. Але ўжо ня той з вусікамі, а мясцовы ўпаўнаважаны, мардаты бязвусы Вусаў.

Пасьля шэраг гадоў да вайны і пасьля Ляплеўскі каяўся, што сказаў праўду, можа, трэба было пасланць іх у Віцебск ці ў Менск, — хай бы шукалі, трацілі час. А самому як-небудзь папярэдзіць брата, можа б і ўратаваўся, калі б зьехалі куды далей. Як гэта некаторыя рабілі тады. Але што было б самому, калі б тое яго ашуканства раскрылася? І без таго клопату яму хапала, часам ён ажно зайздросьціў брату, бо той зьнік невядома дзе; калі жыў, дык, мабыць, яго кармілі. Як было жыць яму — выключанаму з інстытуту, без жыльля, без прапіскі, бяз працы. Добра яшчэ, што пасьля некалькіх месяцаў бадзяньня па падстрэшшах і садках у знаёмых, уладкаваўся на чыгунку пуцявым

рабочым, атрымаў карткі і нейкі заробак, які даў яму магчымасьць датрываць да вайны. У вайну трапіў пад акупацыю, ледзьве не памёр ад тыфусу ў роднай вёсцы, пасьля яго загрэблі ў Нямеччыну на Рурскія шахты... А пасьля вайны? Вэрбаваўся ў Карэла-Фінскую, вучыўся завочна і толькі тры гады таму выбіўся ў настаўнікі.

А летась нават прынялі ў партыю.

Ляплеўскі ўстаў ад століка, усё курачы, падышоў да плоту. Сонца ўжо закацілася за лясныя нетры, з алешніку за бульбяным палеткам насоўваўся вечаровы прыцемак, мацней запахла бульбоўнікам, прыемна павеяла дымком з суседняга коміну. Плечы ў лёгкай сарочцы ўжо ахінула вільготная сьвежасьць. Трэба схадзіць у хату ды надзець пінжак, але гаспадар бавіў час, чакаў пасланца па дабаўку. Дубчык у заношанай шэрай сьвітцы таксама цярпліва чакаў, падпіраючы худымі плячамі цеплаватыя бёрны сьцяны.

— Дубчык, у цябе хоць з радні хто застаўся?

— Ды няма нікога.

— А сястра старэйшая? Клаўдзіяй, здаецца, звалі?

— Дык памерла.

— А малодшая?

— Тожа памерла.

— А Кандрусёва старэйшы сын. Ён жа табе дваюродным братам даводзіўся?

— Таго ў вайну забілі.

— Дык што ж ты — адзін?

— Ну, — ціха азваўся Дубчык.

Дубчык і сапраўды жыў бабылём, адзін у старой хаце, скаціны ніякай ня меў, не трымаў нават курыцы, рабіў у калгасе па спэцыяльнасьці “куды пашлюць”, еў, дзе што

дадуць. Піў, колькі нальюць, паводзіў сябе ціхмана і непрыкметна. Калі дзе перабіраў, дык там і засынаў — хоць на лаўцы ў хаце, хоць пад кустом у полі. Мужыкі яго недалюбвалі за недаросласьць, а болей за схільнасьць да дармаўшчыны — у кураве ці выпіўцы; бабы ж нават любілі — за безадмоўнасьць. Калі дзе што трэба было з мужчынскае працы — напілаваць дроваў, узьлезьці на страху да коміна ці выкапаць магілу нябожчыку, найперш клікалі Дубчыка. І той рабіў. Пра плату не пытаўся ніколі, ды яму рэдка і плацілі, — звычайна давалі на бутэльку ці самую бутэльку, якую Дубчык тут жа і выпіваў — з выпадковым сабутэльнікам. Але і сам пры выпадку не пудлаваў, калі у каго пасьпявала выпіўка. На тое ён меў адмысловы нюх і свайго не ўпускаў ніколі.

Празь якіх паўгадзіны на падворку паявіўся Снайпер-Іван, за ім нетаропка ступаў Саўчанка, які моўчкі дастаў з кішэняў пінжака дзьве паўлітры, з важнасьцю паставіў на стол.

— Ого! — міжволі вырвалася ў гаспадара.

— Вось табе і ого! — перадражніў яго Снайпер-Іван. — Дубчык, а ну, давай, нарві цыбулі. І гэта — хлеба! Што ў цябе, вучыцель, хлеба няма?

— Хлеб ёсьць. Зараз...

— Дык налівай!

Пакуль гаспадар хадзіў у хату, шукаў хлеб і надзяваў пінжак, Снайпер-Іван з Саўчанкам налілі па шклянцы і выпілі. Дубчык тым часам нарваў побач на агародзе ладны пук цыбулі. Затым настала іхная з гаспадаром чарга выпіць з тых самых шклянак. У бутэльцы засталося няшмат.

Выпіваць зручна было і стоячы, але каб курыць, мабыць, трэба было сесьці. На гэты раз за столікам уладкаваліся Снайпер-Іван з Саўчанкам, гаспадар прымасьціўся пад грушай, а Дубчык на водшыбе ля вугла, на краі падмурку. Ён не курыў і ў гутарцы амаль ня

ўдзельнічаў. Так, калі запытаюць, адкажа. Але цяпер у яго ні пра што не пыталіся, трое дбалі аб сваім, і Снайпер-Іван усё ня мог супакоіцца.

— Прыехаў, падлюга! Думае, тут пра яго забыліся. Не, я яму, падлу, таго не дарую...

— А што ты яму зробіш? — спакойна запытаўся Ляплеўскі. — Солі на хвост насыплеш?

— Ды ўжо адпомшчу, сабаку.

— Як? У газэтку напішаш? — зьедліва дапытваўся Ляплеўскі. — Вунь адзін напісаў, дык з партыі выключылі. За паклёп!

— Не, я пісаць ня буду! Я яго заб'ю! — нечакана для сябе вырашыў Снайпер-Іван. — А што? Што так гледзіцё?

— Такі рашучы! Глядзі, каб штаны ня ўпалі.

— А і праўда, — стрымана азваўся Саўчанка. — Такому адпомсьціць — ня грэх. Было ў Сібіры, аднога вертухая да кедра ў тайзе прывязалі. Празь месяц знайшлі — адзін шкілет. Камары заелі.

— Ага, то ў Сібіры! — з зайздрасьцю вымавіў Снайпер-Іван. — А тут дзе прывяжаш? Свае ж і адвяжуць. Каторыя сексоты.

— Ня ўсе ж сексоты, — ціха зазначыў Ляплеўскі.

— Хапае. І ў нас таксама.

Ляплеўскі не запярэчыў, толькі прыслухаўся, каб зразумець, на што той намякае? Ляплеўскі заўсёды быў чуйны да нават малога намёку такога кшталту, бо за намёкам магла быць небясьпека ці яе блізкі сыгнал. Тое, што некалі пасобіла яму ў жыцьці, дало магчымасьць скончыць інстытут і нават уступіць у партыю, цяпер вельмі проста магло ўсё спляжыць. Настала іншая пара, пачалася новая палітыка, і невядома яшчэ, як там, наверсе, паставяцца да

інстытуту сексотаў. Могуць тайна аддзячыць, а могуць і адкрыта спагнаць. У кожным разе было няпэўна і неспакойна. Нарабіў гэты дурань Хрушчоў вэрхалу ня толькі з кукурузай...

Спакваля зусім зьвечарэла. Густаваты прыцемак праглынуў ужо агарод і падворак, накрыў дрэвы і дахі. Усё навокал сьціхла, стаілася насустрач летняй кароткай начы. Толькі пад грушынай за хатай чулася стрыманая гамонка падпітых людзей, ды мільгалі ў змроку чырвоныя агеньчыкі цыгарэтаў. Адзін, выгнуўшы крутую дугу, зьнік у гародзе за плотам. Снайпер-Іван са злосным мацюгом вырашыў:

— Годзе піць! Мальцы мы ці засранцы! Гайда помсьціць!

— Яшчэ бутэлька засталася, — напомніў Ляплеўскі.

— Тады налівай! Але па апошняй. Вунь Дубчыку, а то ён мала выпіў.

— Ды выпіў я. Можа, годзе? — няпэўна азваўся Дубчык, аднак, пасоўваючыся бліжэй да стала.

— Выпі. І ты, сусед, выпі, — запрапанаваў Снайпер-Іван Саўчанку. — Там, брат, сіла спатрэбіцца.

— Ад гарэлкі сіла? — усумніўся Саўчанка.

— А ты думаеш — не? Выпіўшы заўжды дужэйшы за цьвярозага. Навука гаворыць, чытаў.

— Але ноччу нядобра. Нібы бандыты, — сказаў Ляплеўскі. Яму, пэўна, ня надта хацелася лезьці ў даволі сумнеўную справу, ды ён ня мог устаяць ад напору Снайпера-Івана.

— Нам, значыць, па начы нельга? Ага? А ім дык было лацьвей. Заўжды ноччу шчыравалі, каб сьведкаў не было. Я ж памятаю, мне ішоў пятнаццаты год. Прыехалі трох: гэты Вусаў і зь ім яшчэ два міліцыянты. Касаты — за панятога. Паднялі ўсіх апоўначы, толькі заснулі. Бацька якраз пастаўкі вазіў на станцыю, прыехаў азяблы, зморany, толькі чуні разуў, анучы ля грубкі

разьвесіў. Уставай, ты арыштаваны. І вобыск. Усё перавярнулі, у дзежку з капустай шампалом шпыралі — контррэвалюцыю мацалі. Польскі шпіён! А я, панімаеш, ня дужа й спалохаўся, бо ведаю ж: не шпіён, мяне яны ня возьмуць. Чаму так думаў, дурань безгаловы? Вунь жа вас, Саўчанка, усіх пабралі, табе ж таксама было няшмат гадоў...

— Дык то ж у трыццаць трэцім, — азваўся з-за століка Саўчанка. — На ссылку ўсіх бралі: і старых, і малых.

— А я скуль ведаў: на ссылку ці на расстрэл? Сядзеў зь дзецьмі ў запеччы, каб вобыску не мяшаць, а бацьку яны ля парога з узьнятымі рукамі пад вінтоўкай трымалі. Бачу, гэты Вусаў выцягвае з куфэрка маю будзёнаўку з чырвонай зоркай. Скажу вам, неяк увосень бацька прывез з кірмашу, дужа яна мне падабалася, тая будзёнаўка з маленькімі такімі гузічкамі, таксама з зорачкамі. Я ж змалку да вайсковага прыхільнасьць меў, шкада, праз калецтва не давялося нават да сяржанта выслужыцца.

— Во чаму ты гімнасьцёрку ўпадабаў. Трэці год з плечаў не скідаеш, — ціха пасьміхнуўся Саўчанка.

— А што — паважаю. Але не пра тое гаворка. Надзеў раз тую будзёнаўку ў школу, ну мальцы й наляцелі: дай ды дай памераць. Адзін гузік і адарвалі. Бацька ўвечары пабачыў і адабраў, кажа: сьпярша аблавушку данасі. Крыўдна было, але, думаю, ладна. Ужо хутка дваццаць трэцяга лютага, дзень Чырвонай Арміі, ужо тады ён пра мяне ўспомніць. Выпрашу. Ды во — кукіш, а ня дзень арміі. Вусаў гэты маю будзёнаўку міліцыянту аддаў, кажа: не дамо польскаму шпіёну чырвонаармейскі ўбор кампрамэтаваць. Тая будзёнаўка мне затым два гады сьнілася.

— Таму ты і снайперам стаў? — спытаў Ляплеўскі.

— Не, снайперам не таму. Снайперам — гэта па слабасьці характару. У партызанку, як вока асколкам выбіла, ну трохі загаілася, а тут блякаду немцы распачалі. Загад: усіх інвалідаў у строй. Якраз снайпера

нашага Біклагу забіла, вінтоўка з прыцэлам засталася. Каму яе аддаць? Усе адмаўляюцца: то не магу, то ня ўмею. Вядома, дрэйфяць, бо тут адвагі паболей трэба, чым з простым ружжом. Дык камандзір кажа: Івану Ярашэвічу, у яго адно вока спраўнае, а другога няма, то і прыплюшчваць ня трэба. Будзе біць нямецкіх захопнікаў. Во я і біў, як снайпер. Двух паліцаяў шлёпнуў і аднаго захопніка. Як цяпер памятаю: ранічкай на ўзьлеску вылез зь люку на танку, узіраецца ў дальні ўзьлесак зь бінокля. А я праз сто мэтраў пад кустом ляжу. Ну, я яму й гвазданую проста пад бінокаль, так і абвіс у люку.

— Герой! — няпэўна сказаў Ляплеўскі.

— А ты думаў! Мэдаль “За адвагу” ня кожнаму давалі.

— Ну, і камандуй. А мы за табой.

— Лады, мальцы! Тады яшчэ па каліву, і завязалі. А то... Ня знаю, які ён цяпер, а тады ладны бугай быў.

— Ня думай, не зьмізарнеў. Такія не мізарнеюць, — сказаў Саўчанка.

Яны і яшчэ выпілі — на гэты раз моўчкі, ужо агорнутыя новым клопатам, які абрынуў на іх гэты няўрымсьлівы Снайпер. Пасьля Ляплеўскі ненадоўга адлучыўся да плоту і зноў вярнуўся да століка. Іншым разам пара было ўжо і разыходзіцца, усё ж купальская ноч кароценькая, ды нейкая сіла трымала іх разам, як змоўшчыкаў небясьпечнае справы, якая немаведама яшчэ чым скончыцца. І яны ўсе сядзелі за столікам, на якім цьмяна шарэла газэта зь дзьвюма парожнімі шклянкамі. Саўчанка нялоўка неяк саўгануў локцем і скінуў кудысь кавалак хлеба, які тут жа палез шукаць у траве. І доўга ня мог знайсьці, пакуль Дубчык не намацаў яго зводдаль на сьцежцы.

— І каб усе разам! Каб ніхто не сачкануў, — папярэджваў Снайпер-Іван.

— А чым мы яго? — прастадушна запытаўся Дубчьж.

— А хто чым. Бяры кол або камень. Нажа няма?

— Нажа няма, — сказаў Ляплеўскі бязь ценю гумару.

— Дык прынясі! Ужо ж у хаце нож ёсьць?

— Не, няма.

— Ну і хазяйства! Нават нажа ня маюць. А калі зарэзаць каго?

Дубчык аж дробненька засьмяяўся ад таго Іванавага досьціпу, а можа, успомніўшы, што і ў яго не было нажа. Можа, гады чатыры, як зламаўся бацькаў саморобны, выкуты ў местачковай кузьні, з драўлянымі тронкамі. У сваёй бабыльскай гаспадарцы Дубчык абыходзіўся сякерай, праўда, таксама старой і заржаўленай, зь нязручнай і кароткай расхістанай ручкай. Яшчэ ягоны бацька, калгасны вартаўнік, зьбіраўся яе паправіць, маці ўсё лаяла яго за няздатны інструмэнт, ды так і не сабраўся да арышту. Тупаючы марознай зімой ля калгаснага сьвірану, ён усё сьпяваў прыпеўкі — недзе пачутыя, а таксама ўласнага сачыненьня, часам бязглуздыя, а часам з пэўным дужа надзённым сэнсам. І хтосьці яго ўчуў. Ці адмыслова падслухаў. Як арыштавалі ўначы, дык гэты Вусаў, мабыць, не стрымаўшыся, працытаваў адну, якая на ўсё жыцьцё ўрэзалася ў памяць падлетка-сына: “У калгасе добра жыць, хто на могілках ляжыць”. Бацька тады аж заўсьміхаўся з радасьці ад увагі да ягонай творчасьці. Тады наўрад ці ён прадбачыў, што і сам хута ляжа на нейкіх могілках, і паўміраюць малымі ягоныя тры дачушкі, састарыцца сынок, а тая сякера-інвалід з раструшчаным тронкам усё будзе служыць. Несьмяротная сякера.

— Я гэта — па тапор зьбегаю, — ціха прапанаваў Дубчык.

— Давай, толькі хутка. А, ядры яго зьвер, — няўжо сьвітае?

— Аднак сьвітае, — пагадзіўся Саўчанка. — А ў мяне ў

Кутах яшчэ пайка ня скошаная...

— Скосіш, пасьпееш! Ат, матары яго, давай разьлівай, дап'ем, і годзе, — раптам вырашыў Снайпер-Іван. — А то... Сумленьне не дазваляе.

— Не дазваляе. Сумленьне — яно тонкая рэч, — пагадзіўся Ляплеўскі, ужо бразгаючы бутэлькай аб пустую шклянку.

— Мне годзе, — сказаў Саўчанка.

— Годзе, дык годзе, — ахвотна пагадзіўся разьлівака.

— Нам болей дастанецца. Ага, вучыцель? — падхапіў Снайпер.

— Я ўжо пас!

— Што так? Ці брата не шкада? Я ж твайго Сяргея во як учора помню. Граматны мужык быў.

— Да, граматны.

— І дужа парцейны. Тожа ў калгас заганяў, — сказаў Саўчанка.

— Што ж, такая палітыка была.

— Ну, і яго загналі. Каб ня крыўдна было, — зноў зь нейкім намёкам сказаў Саўчанка.

— Каму ня крыўдна? — зьдзівіўся Ляплеўскі.

Усё ж яны добра выпілі, і думкі ў іхных галовах роіліся густа, блыталіся словы, што ня ў лад з думкамі ішлі зь языка.

— А ўсім — і камуністам, і беспартыйным, — няпэўна тлумачыў Саўчанка.

— Мой брат быў чэсны бальшавік, — пачынаў злаваць Ляплеўскі. — Гэта яго энкавэдэшнікі згубілі.

— Ён тут дваццаць чалавек згубіў, — удакладніў

Снайпер-Іван, маючы на ўвазе Вусава. — І яшчэ мае нахабства сюды прыяжджаць на госьці. Ці ня ведае, што ўсіх рэабілітавалі?

— А, можа, ён мяркуе, што рэабілітавалі няправільна. Інакш гэта ж — брак у рабоце, — сказаў Саўчанка.

— Мы яму пакажам брак! Я яму самалічна чарапок раскрою! — лютаваў Снайпер-Іван, ускочыўшы з-за стала. Але ўпаў, зачапіўшыся гумавікамі за траву, зноў з натугай ускараскаўся на ногі. У той час з пашарэлага падворку сунуўся Дубчык зь сякерай у руках, якую ў яго адразу выхапіў Снайпер.

— Во гэтай сякерай галаву зьнясу!

Наглядна дэманструючы астатнім, як ён зробіць гэта, Снайпер-Іван шырока замахнуўся ў паветры, і сякера, зьляцеўшы з тронка, недзе тупа шпокнулася ў гародзе.

— Што гэта? Што ты мне прынёс, паскуда! А ну, шукай!

Дубчык моўчкі палез у гарод, поўзаў там пад плотам і ў градках, але знайсьці ня мог. Тады Снайпер-Іван выламаў бліжні кол з плоту, адкінуў на траву рэшту ссохлых лазовых перавязкаў.

— Пайшлі!

Ён быў ужо на добрым падпітку, але, мабыць, не заўважаў таго. Астатнія, відаць, цьверазейшыя за яго, напэўна, ужо сталі разумець сур'ёзнасьць сытуацыі і не адразу кінуліся за самазваным камандзірам. Хоць і не стрымлівалі яго. Першым з гатоўнасьцю скіраваў за Снайперам-Іванам Дубчык, пасьля з-за стала ўстаў Саўчанка. Ляплеўскі спрабаваў нешта намацаць на газэціне, ды кінуў і таксама падаўся сьледам за ўсімі.

— Мальцы, не адставаць, не адставаць мне!

Яны выйшлі з падворку на пустэльную ранішнюю вуліцу. Вёска спала, сонца яшчэ ня выкацілася з-за лесу, але навокал было ўжо добра відаць. Недзе ў хляве паблізу спазьнела пракукарэкаў певень, цераз вуліцу,

вяртаючыся з начнога паляваньня, перабег чыйсь кот. Саўчанка збочыў на свой падворак і прыхапіў навостраную зьвечара касу — прыдасца. Ля плоту зраньня ўжо пасьвілася сівая каза Бараніхі, яна толькі азірнулася на мужыкоў і працягвала сваю традыцыйную справу. Бараніхі паблізу не было відаць, затое ў сваім двары Снайпер-Іван адразу ўбачыў жонку. Ну вядома, тая ня спала, як заўжды, калі гаспадар дзе-небудзь бавіўся, і цяпер стаяла ў варотцах.

— Куды гэта вы?

Снайпер-Іван зрабіў выгляд, што ня бачыць жонкі і важна пратупаў міма з калом на плячы. Тады жонка зьвярнулася да іншых.

— Аўдзей, Дубчык, куды гэта вы?

— Чакістага біць, — не адразу патлумачыў Дубчык.

— Ай, Божа, здурнелі, ці што! Жонка зусім выскачыла з варотцаў на вуліцу і аж залемантавала ў прадчуваньні хуткага злачынства.

— Спыніцеся, не чапайце яго! Не рабіце таго, вы сябе пагубіце, не хадзіце туды!

— Ціха, цётка! — прыкрыкнуў на яе Ляплеўскі.

Жанчына засталася ззаду, а болей іх ніхто не спыняў, і яны ня надта хуткай хадою ішлі па вуліцы.

Сядзіба Касатага была на канцы вёскі, і чацьвёра мужчын ня надта суладнай чарадой валакліся туды. Імі кіравала да мэты нязьдзейсьненая прага помсты, застарэлая крыўда, якая гэтак нечакана дала магчымасьць сквітацца. Ляплеўскі трымаўся трохі ў баку ад Снайпера-Івана, ягонай рашучасьці на вуліцы пачало бракаваць. Хоць ён і быў ня меней за іншых п'яны, але ня мог не разумець небясьпеку іхнай задумы, асабліва яе наступствы. Мусіць, трэба б запярэчыць гэтаму Снайперу, думаў ён, але пярэчыць усё не выпадала, і ён ішоў разам з усімі — цяпер сьледам за Дубчыкам. Дубчык жа, можа, упершыню адчуў сілу свае

праваты і гатовы быў дзеля яе на што хочаш. Асабліва калі разам з мальцамі, на чале з адважным завадатарам Снайперам-Іванам.

Так яны прывалакліся нарэшце ў канец вёскі. Далей ляжаў пусты выган, а да сядзібы Касатага з вуліцы вёў нядбайна агароджаны плотам кароткі завулак. Прайсьці ў той завулак мальцы чамусь асьцерагаліся. Снайпер-Іван спыніўся, за ім спыніліся астатнія.

— А калі ён з нагана праз вакно... — сказаў Ляплеўскі.

Усе на хвіліну змоўклі, прыслухоўваючыся, але ні на падворку, ні ў хаце нічога не было чутна. Пасьля вечаровай гасьціны, мусіць, там яшчэ спалі.

— Я ж казаў: трэба было ўначы, — сказаў Снайпер-Іван.

— Трэба пачакаць: выйдзе. У дзевяць аўтобус, — патлумачыў Саўчанка.

Снайпер-Іван пагадзіўся:

— Правільна! Бы пры шашы ў засадзе.

Яны адышліся на другі бок пыльнай дарогі і спыніліся ля канавы. Нядоўгая вулічная праходка, падобна, стаміла іх пасьля бяссоннае ночы, і Дубчык першы сеў на зямлю за канавай. За ім на дробную, запэцканую курамі траўку апусьціліся Снайпер-Іван і астатнія. Побач Снайпер паклаў інструмэнт забойства — кол.

— Я яму як урэжу! — пагразіўся ён. — А вы не зявайце. Як упадзе, адразу насесьці. Галоўнае, каб усе разам. Мы яму пакажам рэпрэсію... А закурыць? Ці ёсьць у каго закурыць?

Усе, аднак, маўчалі, здаецца, курава ні ў кога не было. Тады Снайпер-Іван вылаяўся і сьціх. Мабыць, трэба было патрываць, зрабіць сваю справу, а затым ужо дбаць пра курава ці яшчэ што.

З-за саламяных і шыфэрных дахаў выглянула нарэшце нізкае сьляпучае сонца. Саўчанка глыбей насунуў на

вочы кепку. Ягонае звыкла заціснутае пачуцьцё было на парозе нейкага выйсьця. Адчуваў, калі б яны зьдзейсьнілі тое, на што наважыліся, яму была б палёгка. Толькі во гэты Снайпер... Саўчанка пачынаў сумнявацца ў ягоных якасьцях самазванага камандзіра-завадатара, і ўсё болей стаў пазіраць не на падворак Касатага, а на сьцежку ў поле. Там, згледзеў адразу, паявілася з касой раньняя кабета Бараніха, за пуняй на гародзе стала, пастаяла, няўцямна ўзіраючыся з-пад рукі на іхную купку на выгане. Яна ішла касіць пайку, тым напомніўшы Саўчанку пра ягоную патрэбу, і ён затурбаваўся:

— Ну, дзе ён там? Мне тожа касіць трэба.

— Ды чакай ты! У Сібіры не накасіўся! — груба папракнуў яго Снайпер-Іван. — Заб'ем, тады і скосіш.

Яны і яшчэ пасядзелі моўчкі. Напружана ўзіраючыся ў ненавісны падворак, які працягваў мірна спаць. Пэўна, пасьля добрага гасьцяваньня ўвечары. А можа, і ўначы. Але пачынаўся дзень, і ягоныя турботы ўсё болей апаноўвалі людзей. За парканамі суседніх падворкаў замільгалі жаночыя хусткі — гаспадыні распачыналі ранішнюю дойку, выглядвалі на вуліцу, калі пачнуць выганяць на пасту. Дбайна абскубваючы падплоцьце, да мужчын паволі набліжалася памаўзьлівая Баранішына каза. За ёй паявіліся на вуліцы тры хлапчукі, — зь цікаўнасьці да таго, што тут мела адбыцца. Паселі непадалёк пад плотам, моўчкі пазіраючы на мужчын.

— Ну, што ён там так доўга! — занепакоіўся і Ляплеўскі. — Хіба днявацъ будзе?

— А можа, ён агародамі? Струсіць — па вуліцы, — памеркаваў Саўчанка.

— Дагонім! І ногі паламаем.

— Ну-ну.

Яшчэ пасядзелі колькі часу. Нарэшце, Саўчанка ўстаў з канавы.

— Ды ну яго ў дупу! Пайду касіць...

— Дрэйфіш? — злосна прыжмурыў адзінае вока Снайпер-Іван.

Не адказаўшы, Саўчанка ўскінуў на плячо касавільна і спорна пакрочыў краем вуліцы. Астатнія яшчэ болей апанурыліся, ужо амаль безнадзейна азіраючы абгароджаную сядзібу Касатага. Сонца тым часам прыўзьнялося над вёскай, стала прыграваць астылую за ноч зямлю. Снайпер-Іван стомлена адкінуўся на локаць, вальней выцяг у канаву доўгія ногі ў шэрых, падсохлых ад начное расы гумавіках. Трохі паляжаўшы, успомніў:

— Ляплеўскі, а там не засталося?

Ляплеўскі, што сядзеў побач, ленавата павярнуў да яго лысаватую галаву.

— Адкуль...

— Ты не цямні. Павінна застацца. У бутэльцы. Дубчык, а ну зьбегай. А то знаеш, — галава расколваецца.

Дубчык паслухмяна ўстаў і моўчкі патэпаў вуліцай у другі канец вёскі, дзе нешта павінна было застацца. Снайпер-Іван трохі пасядзеў яшчэ, але ягоная галава ўсё болей хілілася на грудзі, чалавека агортвала стома, і ён пляцнуўся плячмі на траву.

— Дык што ж цяпер мы — удвох? — няпэўна запытаўся Ляплеўскі.

Снайпер-Іван не адказаў. Калупаючы травіной у зубах, Ляплеўскі зірнуў на яго зьверху і зразумеў: іхны завадатар спаў.

— Ну во — дачакаліся!

Ён, аднак, працягваў сачыць за падворкам насупраць, ды там нічога пакуль не мянялася. Памаўзьлівая каза, між тым, ужо наблізілася да іх па канаве, недаўменна ўзьняла ад травы галаву і ўставілася на двух мужыкоў, што заміналі ёй пасьвіцца на яе звыклым шляху.

Ляплеўскі замахаў рукой “Пайшла прэч!”, ды марна: каза й ня думала саступаць. Хлапчукі насупраць засьмяяліся, мабыць, ім стала цікава ўбычыць, як настаўнік будзе адганяць бадлівую казу. Ён хацеў устаць і, як мае быць, шугануць яе, ды раптам на падворку Касатага ўбачыў людзей. Ну, вядома, адзін у кухвайцы, згорблены і белагаловы, — то быў сам галоўны вясковы сексот, побач ягоная баба, а сьпінаю да вуліцы стаяў мажны плячысты мужчына ў чорным пінжаку, з партфэлем у руках. Яны разьвіталіся. Парукаўшыся, госьць лёгкім жэстам дакрануўся да сьветлага капелюша на галаве і, азірнуўшыся, пайшоў да вуліцы.

— Іван! Іван! — Ляплеўскі штурхануў у бок таварыша. — Ідзе! Ён ідзе!

Снайпер-Іван толькі прамармытаў нешта і вальней выпрастаўся ў канаве. Ад прыкрасьці Ляплеўскі вылаяўся, ня ведаючы, што рабіць. Вусаў ужо згледзеў іх тут, за дарогай, і Ляплеўскаму здалося, зараз паверне назад — можа, на агароды...

Аднак Вусаў не павярнуў на агароды, толькі на момант замарудзіў хаду, выходзячы з завулка, і зараз жа даволі ўпэўнена скіраваў упоперак, цераз дарогу. Несумненна, да іх. Ад нечаканасьці Ляплеўскі марудна падняўся на ногі, паспрабаваў зашпіліць пінжак, ды пальцы чамусьці не маглі намацаць гузік. Ён ня мог адарваць позірку ад рослае постаці чэкіста, яго цьвёрдага, рашучага твару, караценькага гальштука на грудзях і — асабліва — ад стракатых радкоў ягоных узнагародаў на левай грудзіне. “Як у маршала”, — мільганула недарэчная думка ў разварушанай сьвядомасьці настаўніка.

— Здарова, вучыцель! — бадзёра павітаўся Вусаў. — На касьбу сабраліся?

— Ды не, знаеце, — штось выціснуў зь сябе Ляплеўскі.

— А то хто? — кіўнуў Вусаў на распластаную постаць Снайпера-Івана.

— Ды так. Сусед...

— Ну, а как жысьць?

— Ды нічога.

Вусаў узіраўся яму проста ў твар, і ў тым позірку не было ні варожасьці, ні насьцярогі, адна спакойная ўпэўненасьць бязгрэшнага праведніка. Зьбянтэжаны Ляплеўскі ня мог даўмецца, як яму паводзіць сябе. Снайпер-Іван ляжаў, бы нежывы, а што ён мог адзін? Ды й наогул, ці варта было што рабіць? Упэўненасьць чэкіста абяззбройвала, і Ляплеўскі толькі ўнутрана ўсьміхнуўся зь нядаўняй свае рашучасьці. А яны яшчэ турбаваліся, дурні, каб гэты чалавек куды ня зьбег агародамі. Нашто яму куды бегчы?

— Я в курсе, — сказаў Вусаў, усё сьвідруючы сваім валявым позіркам. — Всех реабіліціравалі, выплацілі дзеньгі...

— Дзякуй, — нечакана выціснуў зь сябе Ляплеўскі.

— Галоўнае цяпер — не азлобіцца. Работаць, работаць нада! Для страны, для народа, для парціі...

— Ведама ж, партыя...

— Правільна! Парція ўсягда права! Чалавек можа ашыбацца, парція — нікагда. Ну, вучыцель, жалаю усьпеха.

Ён падаў на разьвітаньне руку, і Ляплеўскі, бы да агіднай жабы, слаба дакрануўся да яе. Затым хвіліну пазіраў усьлед яго мажнай, крутаплечай постаці, як ён усё далей ішоў па вуліцы, абмінаючы ссохлыя і сьвежыя каровіны лепяхі ў доле, і ня ведаў, што рабіць. Нават, што думаць. Са спазьнелаю злосьцю зірнуў на распластанага за канавай Снайпера, пад нагамі якога валяўся сухі кол з гнілым абламаным канцом.

Пасьля вылаяўся і паплёўся да свайго падворку.

## Бедныя людзі

“Ня бойся госьця, які сядзіць, а бойся таго, што стаіць”, — гэтая прыказка разоў колькі прыходзіла ў галаву гаспадара, пакуль ён стаяў каля дзьвярэй кватэры, праводзячы спазьнелага госьця. Ужо яны разы тры паручкаліся, і гаспадар разы тры памыкаўся расчыніць дзьверы, а госьць усё ня мог скончыць думку, а як сканчаў, тут жа за яе чаплялася наступная, ня меней абавязковая або цікавая. Выглядаў ён на прыкметным падпітку, хоць яны выпілі якіх па тры кілішкі пад каву, відаць было — чалавек у пэўным узрушэньні, гаварыў з эмоцыямі і быццам шчыра, нават узьнёсла, прыпыніць яго ў гаспадара не хапала рашучасьці.

— Паверце, мы як пачулі, дык унутры бы перавярнулася што. Жонка кажа: ты павінен тэлефанаваць, падтрымаць чалавека, усё ж несправядлівасьць жахлівая, як так можна ў наш час?

— Што ж... Значыць, можна, — вяла пагаджаўся прафэсар Скварыш, думаючы аб адным — як бы скончыць размову.

— Ну. І галоўнае — усе маўчаць. І на катэдры, і ў друку. А ў вас жа столькі вучняў! Адных асьпірантаў...

— Што рабіць...

— Во я й думаю: пад'еду вечарком, як пацямнее. Дык вы ўжо не крыўдуйце, што не патэлефанаваўшы...

— Ды не, нічога...

— Ага. Бо патэлефануеш — самі разумееце... Што цяпер скажаш па тэлефоне?..

Ці не ў чацьверты раз паціснуўшы гаспадарову руку, госьць урэшце пераступіў парог, і Скварыш зь вялікай палёгкай зачыніў за ім дзьверы. У душы прафэсара была мешаніна пачуцьцяў — прыкрасьць ад гэтага запозьненага візыту блыталася з удзячнасьцю за словы, здаецца, поўныя шчырага спачуваньня. Усё ж падобна

было, што Красьнянскі гаварыў шчыра, сапраўды хацеў суцешыць яго і абураўся на несправядлівасьць улады. Але вось поўнай задаволенасьці ад таго не было, штось перашкаджала, муляла, утварала нутраны дыскамфорт ад усёй гэтай сустрэчы.

Застаўшыся адзін, Скварыш выключыў верхні сьвяцільнік у вітальні, вярнуўся ў кабінэт, дзе на нізенькім століку пры канапе стаялі два кубкі зь недапітай кавай, паўбутэлькі “Белага аіста”. Скварыш усё перажываў сустрэчу. Красьнянскі ня быў ягоным любімым асьпірантам, не вылучаўся ні асаблівымі здольнасьцямі, ні біяграфіяй. Наогул, пра яго Скварыш ведаў няшмат — ну, нарадзіўся недзе на Палесьсі, ці не на Тураўшчыне, служыў у войску, працаваў на мэталаапрацоўчым заводзе, скончыў вечаровую школу. У асьпірантуру прыйшоў не з камсамолу і, здаецца, без валасатай рукі. Жонку ягоную ён бачыў аднойчы, як у выхадны спаткаў на праспэкце ўсю іх сямейку з дачушкай, — так, ніштo сабе, хоць і не прыгажуня, але даволі мілавідная маладая асоба. Ішлі, елі марожанае, жонка ветліва, нават трохі лісьліва павіталася, мабыць, Красьнянскі пасьпеў ёй шапнуць, што гэты цельпукаваты таўстун з партфэлем і ёсьць ягоны навуковы кіраўнік дысэртацыі. За апошнія гады праз Скварышавы рукі прайшло іх нямала, будучых кандыдатаў навук; былі здольныя, былі так сабе, траплялiся й ня надта. Адносіны зь імі Скварыш стараўся захоўваць з усімі роўныя — і са здольнымі, і з тымі, што ня надта, нікога асабліва не вылучаючы ні ў якім сэнсе. Тыя, што абараніліся, “аступеніліся”, неяк паволі аддзяляліся, ішлі ў сваё жыцьцё. Іншыя ад'яжджалі ў блізкія ці далёкія гарады, дзе знаходзілі працу, сьпярша пісалі, часам тэлефанавалі, прысылалі паштоўкі зь віншаваньнямі пад рэвалюцыйныя сьвяты. Але з часам тыя сувязі глухлі, засыхалі, патрэба ў зносінах меншала, пакуль не зьнікала зусім. Мусіць, так было б і з Красьнянскім, калі б з навуковым кіраўніком яго ня здарылася няшчасьце. Самае страшнае няшчасьце, горш за якое можа быць толькі калецтва ці сьмерць. Ды тое й была сьмерць — хіба не фізычная — грамадзянская. Але ад яе нядоўга дайсьці і да фізычнай,

Скварыш адчуваў гэта пэўна.

Верхняе сьвятло з кабінэта праз расчыненыя дзьверы падала ў вітальню і часткай у большую залю, дзе касой плямай ляжала на стракатым дыване, мякка ступаючы па якім, Скварыш прайшоў да цёмнага вакна, паўзіраўся праз шыбіны на падворак. Унізе пад цёмнымі кронамі таполяў слаба адсьвечваў асфальт падворка ад адзінае лямпы ліхтара, бялелі вярхі некалькіх аўтамабіляў, прыткнутых нанач адзін за адным да бардзюра. Ён ведаў гэтыя аўтамабілі — два белыя “Жыгулі”, жоўты, зачуханы “Запарожац” і новая “Волга”, што належала нядаўняму адстаўніку палкоўніку. Часам там паяўляліся і незнаёмыя машыны — стаялі нейкі час і зьнікалі, калі-нікалі заставаліся на ноч, калі хто прыяжджаў на госьці да сваякоў у гэтым вялікім доме. Цяпер чужых аўтамабіляў, здаецца, не было відаць, не было і “Волгі” — мабыць, палкоўнік начуе на дачы. Скварышава жонка з унукамі таксама ўчора зьехала на дачу, а ён застаўся на гарадзкой кватэры, сказаў, ёсьць справа. Хоць справы ў яго не было ніякай, проста хацелася пабыць аднаму, на адзіноце са сваёй бядой. Ды во гэты візыт, які заняў увесь вечар і дашчэнту разбурыў ягонае адчуваньне адзіноты. Зрэшты, можа, і добра, што разбурыў, бо адзінота зь нейкай пары таксама ня стала паратункам, як не было ім і шматлюдзьдзе. Для прафэсара наставала пара, калі людзей ля яго ўсё меншала, а часам тыя і зусім зьнікалі, асабліва зь ліку сяброў, калегаў; адзінота вакол яго ўпарта шырылася, абкладвала яго тоўстым глухім пухіром. Тое было нязвыкла, нават палохала, і ён ня ведаў, як лепш — дома безь людзей ці дзе на людзях ня дома.

Тое, што не было чужых аўтамабіляў унізе, трохі яго супакоіла, хоць, падумаў ён, машына магла ўжо і ад'ехаць, пакуль ён разьвітваўся з Красьнянскім. Але калі той не патэлефанаваў папярэдне, яны маглі і зяўнуць. А можа, яны ўладкаваліся дзе ў іншым месцы, далей на падворку, дзе цень ад таполяў быў гусьцейшы, а сьвятло ліхтара не дасягала далёка. Неяк вясной Скварыш выйшаў з кватэры прайсьціся перад сном,

вечар быў слаўны, ён далекавата зайшоў у задуме — аж за будоўлю на суседняй вуліцы, і вяртаўся наўпрасткі, задворкамі. І ў канцы падворка натрапіў на незнаёмую машыну, звычайныя шэрага колеру “Жыгулі”, і, мабыць, прамінуў бы яе ў прыцемку, калі б адтуль не пачуўся ціхі прыглушаны голас: “Аб'ект удаліўся на той бок, спыняю назіраньне”. Скварыш пахаладнеў, зразумеўшы ўсё, і хуценька пайшоў прэч, уцягнуўшы галаву ў плечы. Збоку, блізка за газонамі сьвяціліся дзясяткі вокнаў зь фіранкамі, безь фіранак, і нават адчыненых у гэты пагодны вечар, нехта там, мабыць, і не здагадваўся, што яго падслухоўваюць. Ды й як здагадаесься?

Скварыш ня стаў тузаць штору, занавешваць вакно, так было зручней — яго тут, у змроку, не маглі бачыць знадворку, ён жа што-колечы бачыў. У расплывістай пляме сьвятла пад ліхтаром нячутна сьлізганула жаночая постаць з сумкай, павярнула ў крайні пад'езд; зь сярэдняга пад'езда выбег мужчына з сабачкам — абое зьніклі насупраць пад таполямі на газоне. Адтуль жа, з-пад таполяў, чуўся малады прыглушаны голас і сьмех. Скварыш ня бачыў адсюль, але ведаў: там, у альтанцы, ля дзіцячай пясочніцы зьбіраліся нанач дзецюкі, часам зь дзеўкамі — па-маладому забаўляліся далёка за поўнач. Але, мусіць, ня толькі забаўляліся. Аднойчы адзін зь іх, мабыць, добра паддаўшы, прайшоў каля шэрагу сонных аўтамабіляў, пакідаючы на кожным адмеціну — арматурнай жалязякай. Так, без усялякай мэты, дзеля свавольства. А можа, ад клясавай нянавісьці да іхных уласьнікаў. Скварыш яшчэ пастаяў ля вакна, паўзіраўся з восьмага паверху ўніз, пасьля — у зьвечарэлае неба, дзе над плоскімі дахамі блізкіх дамоў засьвяцілася і журботна вісела адзінокая зорка. Міжволі ён імкнуўся адсюль, з уласнай кватэры, кудысьці туды, на волю, бо тут ён бяз рэшты страціў спакой, душэўны камфорт, а гэты візыт Красьнянскага разварушыў яго, зьбіў з тропу, і як ён ні супакойваў сябе, супакоіць ня мог. Чаго прыяжджаў асьпірант, што меў на мэце? Ці сапраўды, каб паспачуваць, сагрэць чалавечай цеплынёй у трудны твой час? Ці...

Менавіта гэтае “ці” балючаю стрэмкаю засела ў

Скварышавай душы, не даючы як-небудзь супакоіцца перад ноччу.

Ён яшчэ не адышоўся ад вакна, як у вітальні затрашчаў тэлефон, і Скварыш аж здрыгануўся. Пасьля напяўся, зьнерухомеў — не, трубку ён, вядома, ня зьніме. Цяпер ён баяўся тэлефона, ужо другі месяц не размаляў па ім — з таго часу, як яго паклікалі на бюро райкаму. Памятнае праклятае бюро, яно падкасіла жыцьцё, увесь лёс павярнула ў невядомы страхотны бок, разам з партыйным білетам адабрала, здаецца, волю да жыцьця, пакінуўшы толькі вось гэта — тайныя страхі, чаканьне невядомага, мабыць, яшчэ горшага. Пэўна ж, горшага. Бо на выключэньні яны ня спыняцца; даўно вядома, што яны дзейнічаюць па законах зграі: калі хтось закульгаў і ня можа гарцаваць нароўні з усімі, дык яго трэба расшкуматаць і зжэрці — выбракаваць, каб не псаваў усёй зграі. Законы зграі, мабыць, адныя й тыя ж, што ў зьвяроў, што ў людзей. Тысячагадовая эвалюцыя віду тут мала што значыла і ў тых, і ў гэтых.

Але ж гэты Красьнянскі... Ну чым ён, Скварыш, мог выклікаць у яго такое спачуваньне, прымусіць да рызыкі — гэтага вечаровага наведваньня і гутаркі на мяжы рызыкі. Канечне, Скварыш ужо быў вучаны й ня надта раскрываўся ў адказ на ўвогуле разумныя, але й небясьпечныя пасажы асьпіранта. Асабліва наконт Афгану. Але і зусім адмаўчацца было неяк, ён мусіў то кіўнуць галавой, то пагадзіцца дзе адным словам, дзе толькі намёкам на згоду. І толькі калі асьпірант загаварыў пра колішнюю лекцыю Скварыша, дзе ён выказаў некаторае сумненьне наконт палітыкі калектывізацыі, прафэсар заўважыў, што ён зусім ня ў сэнсе адмаўленьня, а хутчэй канструктыўнага асэнсаваньня — вядома ж, у рамках палітыкі партыі, хіба з трохі інакшым аспэктам. Красьнянскі ж быццам не пачуў таго і горача даводзіў пра шматмільённыя закупы збожжа за рубяжом як наступства тае калектывізацыі. Вядома ж так, думаў Скварыш, каму тое не вядома, але навошта пра гэта гаварыць? Хіба ён не разумее, гэты гаварлівы асьпірант, што прафэсар ня можа яму адказаць у той самай меры адкрытасьці,

мусіць адмоўчвацца? А калі разумее, дык што гэта? Вельмі ўжо падобна на правакацыю, небясьпечную, нават страшную для чалавека, выключанага з КПСС.

А калі не? А калі ўсё тое ад наіўнай шчырасьці, элемэнтарнай чалавечай спагады? Усё ж Скварыш быў неблагі прафэсар, студэнты яго любілі, ён ведаў гэта і даражыў сваёй рэпутацыяй, часьцяком адчуваючы прыязнае стаўленьне да сябе. Бо стараўся не крывіць душой, ня надта даказваць тое, што было і без таго зразумела кожнаму. Не шчыраваў — ні за Леніна, ні за Брэжнева, хацеў быць памяркоўным марксістам, наколькі тое было магчыма ў гэты пракляты час. Ды не ўдалося...

Тэлефон зноў празваніў раз і другі — мусіць, нехта ўсё ж ведаў, што ён дома, але Скварыш усё роўна не падышоў да тэлефоннай тумбачкі, хоць і затрывожыўся яшчэ болей. Замест таго ён ціхенька пратупаў у кабінэт, наліў з бутэлькі ў сваю чарку і кулянуў, не закусваючы. Дзіўна, але надта не цягнула і выпіць, хоць для таго былі ўсе ўмовы — ня трэба было ні рыхтавацца да лекцыі, ні ўранку ехаць у інстытут. А выпіўшы, як во цяпер, ён не п'янеў, галава была цьвярозая, дэпрэсія не міналася, можа, нават большала. Каньяк, які ўвогуле ён любіў, цяпер здаўся рэзкім, нясмачным, амаль агідным. На гэты раз ён сеў пры стале на канапе, утаропіўшыся невідушчым зрокам у круглыя плямы на бліскучай паверхні, думаў. Надта яго бянтэжыў гэты візыт Красьнянскага, адчуваў: тое ня так сабе, мабыць, за тым нешта тоіцца. А што — здагадацца было няцяжка. Красьнянскага падаслалі.

Тое, што ён “пад каўпаком”, Скварыш зразумеў яшчэ да выключэньня, можа, нават зімой, як атрымаў аднойчы ліст з-за мяжы, з Кембрыджу. Пакет быў з добрай паперы, але адзін ягоны канец, відаць было, адклейваўся, бо заклееины быў надта старанна і гэтак жа старанна запрасаваны. Тады ён стаў узірацца на іншыя канвэрты і згледзеў, што з адваротнага боку ўсе яны былі нібы калісьці намочаныя й старанна высушаныя. Мусіць, тое ж тычылася і ягоных

тэлефонных размоваў — на катэдры, дома: перапады ў гучаньні, староньнія шчаўчкі кантактаў — чаго раней не было. Ён амаль перастаў пісаць лісты знаёмым, толькі рэдчас паштоўкі. Па тэлефонах гаварыў каротка і самае неабходнае. Але менавіта тады заўважыў, што да яго па тэлефонах зачасьцілі — знаёмыя і малазнаёмыя, і зусім чужыя людзі. Іншыя гаварылі далікатна, часам кранаючыся рызыковых тэмаў, іншыя ж наўпрост пыталіся, як ён ставіцца да злачыннай гібелі нашых хлопцаў у Афганістане, да таго, што абмежаваны кантынгент нашых войскаў за столькі гадоў ня можа даць рады агідным наймітам імпэрыялізму — афганскім душманам. Як мог, ён выкручваўся, стараўся не гаварыць пэўна, але некаторыя патрабавалі пэўнага адказу. Было няёмка, агідна, хацелася вылаяцца і кінуць трубку.

Цяпер гэты Красьнянскі...

І быццам жа харошы хлопец, так шчыра дзякаваў за сумленьне, якое цяпер ня часта праяўляецца ў людзях, казаў, што правільна ён гэта — пра Афган. У яго самога, Красьнянскага, нядаўна ў Афганістане загінуў стрыечны брат, прывезьлі ў цынкавай труне, хавалі ўсім калгасам, маці самлела, труну не адкрылі, забараніў ваенкамат, і як уведаеш, хто там — можа, зусім і ня іх хлапец. Скварыш ужо чуў пра такія выпадкі, калі хавалі чужых замест сваіх, вайскоўцы чамусьці блыталі, нават у такой справе не было парадку. Але цяпер, думаў ён, тое, можа, і ня надта важна. Тая вайна несправядлівая ва ўсіх сэнсах, нават паводле марксізму-ленінізму, а тыя, хто яе ўсчаў, рана ці позна будуць названыя злачынцамі і праклятыя. Але што з таго радасьці яму, Скварышу, пакуль вось праклінаюць таго, хто пасьмеў пра іх заікнуцца. Яго выключылі з партыі, здаецца, хутка выганяць з працы. Хоць ён і падаў апэляцыю і ўжо напісаў нямала папер, “аб'ясьніцельных”, даказваючы, што нічога падобнага не гаварыў і нават ня думаў. Што ён цалкам і поўнасьцю падтрымліваў і падтрымлівае зьнешнюю і ўнутраную палітыку партыі, інтэрнацыянальную дапамогу братняму афганскаму народу. Да агіды лісьліва і вернападдана. Было брыдка

ўспомніць, як ён на бюро райкаму, дзе яго выключалі, фальшыва апраўдваўся, і тое яму, мабыць, кепска ўдавалася, райкамаўцы наўрад ці верылі яму. Неяк ён не стрымаўся, закалацілася сэрца, прыйшлося пры тых самаўпэўненых маладых функцыянэрах даставаць валідол, рукі трэсьліся, бубачкі лякарства пасыпаліся на калені, паскакалі ва ўсе бакі па бліскучай падлозе. Малады мардаты сакратар на хвіліну прыпыніў свой допыт і, нібы падсумоўваючы, сказаў: “Шкада, ня хочаце вы раззбройвацца перад партыяй”. “А я й ня ўзбройваўся. Я нічога ня маю супраць маёй партыі”, — сказаў тады ён і сам зьдзівіўся ненатуральнай ліслівасьці свайго голасу. Сакратар толькі крыва ўсьміхнуўся, седзячы за сталом пры шасьці тэлефонах на тумбачцы. “А ў нас ёсьць матэрыялы, якія сьведчаць якраз наадварот. Напрыклад, у сакавіку вы сьцьвярджалі, што наш абмежаваны кантынгент у Афганістане зьнішчыў каля аднаго мільёна афганцаў. Адкуль вам вядомая гэтая хлусьня?” Яны ўсе, колькі іх было там, можа, чалавек дваццаць, што расьселіся каля даўгога стала і пад сьценамі, варожа ўтаропіліся ў яго. А ён маўчаў, пакутна згадваючы, каму ён гаварыў пра тое. Адкуль сам ведаў гэтую лічбу, памятае пэўна — тое казала радыё “Свабода”, якое ён начным часам слухаў, што-колечы разьбіраючы праз глухі трэскат глушылак. Агідным, пісклявым голасам ён пачаў адмаўляцца, гатовы быў пабажыцца, што нічога падобнага не гаварыў, хоць менавіта тады раптоўна ўсё прыпамятаў. Але як можна было прызнацца. Доўга сядзець нерухома Скварыш ня мог, прыгнятала начная цішыня, ён ня мог знайсьці сабе ўтульнага месца і пайшоў туляцца па невялікай трохпакаёвай кватэры. Забрыў на кухню, уключыў сьвятло. Мог бы зварыць сабе кавы (усё ж занятак), але кавы ён выпіў тры кубкі, мабыць, на сёньня годзе. Расчыніў халадзільнік, паўзіраўся ў сякі-такі запас харчу — кавалак каўбасы ў рудай паперы, бутэлька кефіру, некалькі плоскіх бляшанак кансэрваў, — нічога ў яго не выклікала апэтыту, жаданьня зьесьці. Што-небудзь варыць, натуральна, ён не хацеў, не хацеў нават сасмажыць яешню, якую ўвогуле любіў і еў з задавальненьнем, калі яе смажыла жонка. Разьбітае шкло ў дзьвярах на кухонны балькон каторы раз

напомніла пра непарадак, але цяпер ён падумаў, што шкло ўставіць ня хутка. Было не да таго. Ён асьцярожна расчыніў дзьверы і выйшаў на балькон, паклаў рукі на яшчэ цёплыя ад дзённага сонца парэнчы і здрыгануўся: на суседнім бальконе з асьветленай ззаду сьпінаю ў гэткай самай позе стаяў і курыў сусед. Скварыш адхіснуўся, хуценька вярнуўся на кухню і прычыніў дзьверы. Цяпер ён не хацеў бачыць нікога, ні з кім размаўляць; усё здавалася, што ў яго занадта цікаўна ўзіраліся і ўжо напэўна ўважліва слухалі. Ці падслухоўвалі. Цікава, падумаў Скварыш, ці была чутная на бальконе іхная гаворка ў кабінэце ды асабліва ў вітальні каля дзьвярэй. І ці даўно ён стаіць там, гэты сусед у майцы.

Ён зноў вярнуўся ў кабінэт. Прыбіраць зь нізкага століка нічога ня стаў, стомлена апусьціўся ў крэсла за пісьмовы стол. Уключаная настольная лямпа асьвяціла вольны ад папераў кавалак стала... Надта мутарна было на душы ў прафэсара, вялікі сумнеў тачыў яго ўсё болей — дык проста ці не заходзіў Красьнянскі? А што, калі ў гэты час ён ужо сядзіць у КГБ і апісвае іхную тут гутарку? Ці, можа, запісаў усё на магнітафон і заўтра аднясе ў вядомы дом на праспэкце? У такім выпадку, адзін паратунак — апярэдзіць самому. Інакш яму пэўны капец — і працы, і кар'еры. А то і жыцьцю. Але зноў жа

— як напісаць? А калі тое яму толькі здаецца, а Красьнянскі ўсё — па сваёй чалавечай шчырасьці, па дабрыні...

Праклятае становішча, яго адчуваў Скварыш кожнаю мазгавой зьвілінай, кожным кончыкам нэрваў. Усё здавалася: трэба нешта прыдумаць, нешта зрабіць, набрысьці на якое выйсьце. І ён думаў, напружваў мазгі, а выйсьця не знаходзілася. Ці яго не было наогул? Але ж такога не могло стацца, усё ж павінна быць нейкае выйсьце.

Ён зноў пачаў блукаць па кватэры, паласатай дарожкай пратупаў да зачыненых на два замкі, абабітых цыратай дзьвярэй, павярнуўся назад. Зь вялікага календара на сьцяне ад Новага году звыкла ўсьміхалася яму

прыгожанькая японка, ніжай чарнелі два шэрагі лічбаў летняга месяца. Чорная пара, праклятыя месяцы, падумаў прафэсар, колькі яны задалі турбот, перажыванак, пакутнай няпэўнасьці. Калі парткамісія ЦК, куды ён зьвярнуўся, зацьвердзіць ягонае выключэньне, дык будзе канец. Кранты! Няўжо такое магчыма?

А чаму б і не?

Выключылі ж з партыі дацэнта Куліковіча, неблагога разумнага чалавека, вэтэрана вайны, толькі за тое, што той выступіў на сходзе супраць уводу савецкіх войскаў у Чэхаславаччыну і ня ўзяў сваё выступленьне назад, калі яго паклікалі ў гаркам. Не павініўся. Зрэшты, выключылі нават не за гэта, а быццам знайшлі, што, будучы ў нямецкім палоне, ён ня надта добра сябе паводзіў. Раскрылі тое менавіта пасьля ягонага выступленьня на партыйным сходзе, а раней быццам таго ня ведалі. І згарэў дацэнт. Казалі, пасьля таго ўладкаваўся грузчыкам на агароднінавую базу, іншай працы ў горадзе яму не знайшлося. Пасьля некуды зьехаў. А можа, зьвезьлі.

У вітальні ляжаў мяккі санлявы прыцемак, трохі адблісквaў паркет ля кабінэту і ён пачаў тупаць сюды-туды — пяць крокаў ад дзьвярэй да люстэрка і столькі ж назад. У тапках на дарожцы было зручна і зусім ціха. Цікава, ці дазваляюць у турме хадзіць у тапках, унутрана паморшчыўшыся, падумаў прафэсар. У яго даўно былі хворыя ногі, і дома ён заўжды стараўся карыстацца тапкамі. Але пра турму ён, вядома, дарма падумаў. Ня трэба загадзя каркаць на сваю галаву.

Хадзіць так — узад-уперад — нават спадабалася, усё ж гэты занятак ад чагось адцягваў, даваў працу нагам. І ён прыпамятаў, як некалі малым хлопчыкам упершыню ўбачыў у заапарку мядзьведзя, што ў сваёй клетцы гэтак жа тупаў сюды-туды. Тады ён аж пашкадаваў касалапага небараку, мабыць, таму дужа мутарна, і ён гэтак цэлыя гадзіны тупае й тупае. Цяпер сам ці ня ў гэткім становішчы. У клетцы. Толькі яму ці паспачувае хто? Апроч хіба гэтага асьпіранта Красьнянскага.

Задаў яму клопату Красьнянскі.

Усё ж, мабыць, трэба напісаць. Ня можа таго быць, каб гэты асьпірант, зь якім у яго не было ніякіх адносін, апроч чыста службовых, так ужо растаў ад спачуваньня да яго бяды і прыехаў адно суцешыць зь іншага канца гораду. Каб паспачуваць толькі. Сьпярша прафэсар падумаў, што ён па якой патрэбе, можа, папрасіць грошай ці пахадайнічаць перад кім? Ці наконт кватэры (такіх просьбаў ён меў ці ня кожнага месяца)? Але не. Нічога не прасіў Красьнянскі, так і сказаў: толькі каб давесьці сваю чалавечую падзяку за праўду і сумленнасьць. За праўду? Добрая, вядома, штуковіна праўда для таго, хто яе спажывае, калі яна зьвернутая да нас. Але наша праўда… Во і тады ён выдаў два словы праўды, якія, здаецца, спляжаць яму ўсё жыцьцё. Трэба ж было… Сапраўды, ён забыўся, што можна было штоніштто сказаць аднаму, але ня больш. Калі ж цябе пачулі больш за аднаго, дык твая справа трэснула. Гэта пэўна.

Увогуле, справа была ў бутэльцы — праклятай бутэльцы, здаецца, армянскага, якую яны выпілі ўтрох. Выпівалі ня першы раз, пасьля парыльні. Увечары некалькі чарак няблага спрыялі сасудам, распаранае цела, апаласнутае ў басэйне пры саўне, нібы абнаўлялася, маладзела, зьнікала назапашаная за тыдзень стома; лёгкі і спрытны рабіўся розум. Тая размова адбылася па дарозе да прыпынку тралейбуса. Яны закурылі, Бокач нешта памянуў пра Афган, яму штосьці няпэўна адказаў Волахаў, і тады ён, Скварыш, прыпамятаў начную перадачу “Свабоды” і зь неўласьцівай яму жвавасьцю пераказаў яе. Вядома, усё праз каньяк ды парыльню, інакш бы, напэўна, ён змоўчаў. Бокач з Волахавым нейк хмурна паслухалі яго, на хадзе зацягваючыся цыгарэтамі, а ён яшчэ дадаў пра злачыннасьць тае вайны, за якую калісьці прыйдзецца некаму адказваць. Цяпер ламай галаву, хто зь іх двух стукнуў. Удала стукнуў, нічога ня скажаш, узяліся за яго як мае быць. А з тых двух ніводзін і не патэлефанаваў, ні слова болей не сказаў яму. Бы ня чулі й ня ведалі, што зь ім робіцца.

А можа, яны стукалі ўдвох? Хіба такое немагчыма? Што з таго, што сябры, што Бокач і Скварыш некалі вучыліся разам, а Волахаву дачку ён уладкоўваў у інстытут — прасіў за яе дэкана, улагоджваў злую экзамэнатарку Папрышку, якая рэзала спрэс па фізыцы. Паступіла дзеўчына, а яе бацька стаў ягоным сябрам, колькі бутэлек зь ім выпілі — на сьвяты, у саўне, на рыбалцы. Мабыць жа, не павінны ён яго гэтак прадаць? Але і Бокач не павінны. Усё ж стары, шматгадовы сябра, некалі, яшчэ як былі бедныя студэнты, езьдзілі ўлетку да ягонага бацькі на Віцебшчыну, купаліся ў возеры і пілі адмысловую бацькаву самагонку. Не павінны Бокач яго прадаць. Ды вось прадаў. Хто з двух, мабыць, не дазнаесься ніколі.

Цяпер гэты Красьнянскі.

Дужа сьмелыя былі ягоныя думкі — і наконт Афганістану, і наконт Беларусі зь яе ўшчэнт лёкайскім парткіраўніцтвам. І наконт Брэжнева нешта закідваў. Перадражніў, як той называе сябе па тэлефоне: “Паважаны Леанід Ільіч слухае”. Слухаючы тое, Скварыш сядзеў, бы на іголках, так было яму не пад настрой, ён усё імкнуўся перавесьці гаворку на іншае, — пытаўся пра сям'ю, пра жонку — не памагло. Што жонка, што зь ёй зробіцца, быў адказ. Але вось гэтая гонка ўзбраеньняў... Далася тая гадзіна Скварышу, аж спатнеў увесь, пакуль зачыняў за Красьнянскім дзьверы.

Не, аднак жа, мусіць, ён яшчэ ня ў камэры-адзіночцы, каб так тупаць без канца па вітальні, і не мядзьведзь у клетцы. Усё ж у зальчыку было прастарней, Скварыш уключыў тэлевізар і выцягся на канапе. Як засьвяціўся экран зь нейкім старым чорна-белым фільмам, ён хацеў быў пераключыць канал на маскоўскі, ды паленаваўся ўставаць. Хвіліну спрабаваў зразумець сэнс пафаснага дыялёгу двух рабочых — маладога, даўгашыяга, са старым вусатым, — ды хутка страціў увагу, аддаўшыся ўсё тым жа сваім беспрасьветным думкам. Мабыць, трэба ўсё напісаць. Пакуль памятаў, пакуль што не забыўся. Бо забудзесься, а яны палічаць — утойваеш.

Мабыць, у іх усё на ўліку — і словы, і думкі, і намеры. На тое яны спэцыялісты, у акадэміях вучацца. Мабыць, у іх ёсьць кандыдаты і дактары такіх справаў — тайных паліцэйскіх справаў, каб яны спрахлі, як сказалі б на вёсцы. Ды ня спрахнуць — яны дасканаляцца год ад году, даходзячы да мастацтва. Як з гэтым ягоным даносам. Данёс нехта адзін з двух ці, можа, абодва, і ён ніколі не дазнаецца, хто менавіта. І ён будзе абодвум паціскаць рукі і маўчаць, баяцца пакрыўдзіць невінаватага. Бо пакрыўдзяцца. Сам жа пакрыўдзіўся за адно толькі негрунтоўнае падозраньне. Але калі хто вінаваты, даносчык, дык, мабыць, пакрыўдзіцца яшчэ болей, і ты будзеш прасіць у яго прабачэньня. Між тым, на экране былі ўжо не рабочыя ў камбінэзонах, а трое дзяўчатак на беразе прыгожай летняй рачулкі, сярод маляўнічай сельскай ідыліі; на дзявочых галовах бялелі вяночкі з рамонкаў, дзяўчаткі трымаліся за рукі і, ідучы беражком, сьпявалі шчымлівую песьню. Тварык адной зь іх дужа напомніў кагось... Так, даўняе амаль трыццацігадовае знаёмства... Здаецца, імя яе было Валя. І ён быў нават трохі закаханы ў яе, у гэтую статную хахатушку, што неяк нечакана зьявілася ў іхнай кампаніі. Цяпер ужо цяжка і прыгадаць, хто прывёў яе — Бабкоў ці Сельмашынскі, два іхныя неразлучныя сябрукі, франтавікі-ардэнаносцы, кандыдаты ў члены партыі, хлопцы канчалі інстытут, сядзелі на дыплёмах і рыхтаваліся да прыёму ў члены. І менавіта ў той час органы завэрбавалі іх у сексоты. Але пара была пасьляваенная, яшчэ мела кошт франтавое сяброўства, і хлопцы амаль адначасна прызналіся адзін аднаму пра тую вярбоўку. Падзівіліся, вядома, але падзівіцца давялося яшчэ болей, калі першым заданьнем тых органаў Бабкову было нешта вызнаць пра бацькоў Сельмашынскага, а Сельмашынскаму — нешта дазнацца пра ягонага сябра. Сябры, вядома, згодна прасыгналілі, але тыя сыгналы папярэдне абгаворваліся і ўзгадняліся між імі, каб незнарок не нанесьці шкоды адзін аднаму. Мусіць, органы ўсё ж нешта западозрылі, і тады сярод іх паявілася Валя, вясёленькая такая хахатушка ў вэльвэтавым жакецiку. Яна неяк спрытна ўлезла між хлопцамі ды так павяла сябе ў адносінах да таго і другога, што тыя закахаліся ў яе абодва. А

закахаўшыся, хутка паварагавалі, мабыць, ужо не ўзгаднялі свае сыгналы, пачалі пісаць інакш, чым раней. І сумна скончылася тое: абодва аднойчы зьніклі, і ніхто зь іх агульных знаёмых ня мог сказаць куды. А Валя неяк сустрэлася Скварышу ў цягніку Масква-Тбілісі, ехала з маленькай дачушкай, казала, туды пераводзяць па службе. А па якой службе, калі не сакрэт, пацікавіўся ён. Ды так, па вайсковай, па лініі мужа, сказала яна і адвяла позірк. Можа, і па вайсковай, падумаў ён, але навошта тады заклапочана адводзіць позірк? Ён і не заўважыў, як скончыўся фільм і на экране апантана замітусілася срэбра, тады ён устаў і ціскануў выключальнік. Час быў ня раньні, мусіць, трэба было ўставаць і пісаць. Усё, як было. Як, хто і што гаварыў. Хоць, зрэшты, амаль увесь час гаварыў Красьнянскі. Значыць, так і напісаць. Але ж то — данос на Красьнянскага? А што ён мог зрабіць, што яшчэ напісаць? Усё роўна той дасьць поўную справаздачу аб гэтай гаворцы. Няважна, у якой форме. Важна, каб тыя не падумалі, што ён нешта ўтойвае. Ня хоча раззбройвацца перад роднай партыяй. А так — калі ласка, ён паднімае абедзьве рукі, ён здаецца. Сам, добраахвотна. Карайце, калі хочаце. А можа, усё ж памілуеце? Праклятае гэта пачуцьцё надзеі на краі пагібелі, гэты рудымэнт пячорнага аптымізму. Ведаў жа, што не даруюць, спагоняць, як мае быць. А вось спадзяваўся... Ён ведаў, што менавіта схільнасьцю чалавека да надзеі на лепшае выдатна карысталіся немцы-фашысты. Выганяючы людзей на зьнішчэньне, яны клапаціліся, каб тыя ўзялі каштоўныя рэчы і цёплую вопратку і харчу на трое сутак. У лягерах зьнішчэньня іх сустракалі з аркестрам і перш-наперш вялі ў лазьню, на мэдагляд да кваліфікаваных спэцыялістаў, якія па адным стралялі ім у патыліцу. На ростамеры. Яны ўмелі зрабіць, каб людзі па-дурному спадзяваліся да самай апошняй хвіліны і паводзілі сябе адпаведна з уласнай надзеяй. Мусіць, так сябе паводзіць будзе і ён. Мабыць, ужо асуджаны, а ўсё чапляецца — за партбілет, за працу. Бо яны ж не гавораць, што запланавалі яму. А яму хочацца як-небудзь выкараскацца з-пад іхнай навалы. А можа, а можа...

А ўсё ж, можа, яны і ўлічаць ягоную шчырасьць, зразумеюць яе як абсалютную ляяльнасьць і як-небудзь спусьцяць усё на тармазах, думаў ён, ня надта падрабязна, але ўвогуле правільна апісваючы сваю размову з Красьнянскім. Вядома, болей — словы і фразы Красьнянскага. Пад самы канец, калі ўсё амаль дарэшты было выкладзена на паперы, бліснула ўпартая думка-сумнеў: а калі ўсё ж тое — ад наіўнае шчырасьці? Сапраўды, ад спачуваньня да яго, старога кніжнага дурня? Тады што ж... Ён жа загубіць чалавека. І яго сям'ю. І яго малую дзяўчынку, здаецца, Ірачку з марожаным на палачцы, сьцятай у маленькім кулачку... Во д'ябальшчына, во становішча! Што ж тады ён робіць?

Але што было яшчэ рабіць?

Скварыш адсунуў ад сябе тыя дзьве старонкі дробнага тэксту — мабыць, горшага ён не пісаў за ўсе свае пяцьдзясят гадоў. Подлыя старонкі, нічога ня скажаш. Вылез з-за стала, наліў чарку каньяку, выпіў. Наліў другую... Пакуль чуцьцё ўпарта патрабавала нейкае пэўнасьці, канчатковага рашэньня, якога ўсё не знаходзілася; кожны варыянт быў горшы за папярэдні. Хоць варыянтаў тых было ў яго два. І абое — рабое...

Між тым, настала глыбокая ноч. Дом сьцішыўся, перасталі гудзець ліфты, грукаць дзьверы. За сьцяной у суседняй кватэры ціхенька паплакала ды сьціхла дзіця, мабыць, заснула. Жыхары ў сваіх сотах-кватэрах вялікага дому пакрысе сьцішыліся, паснулі, толькі ў трубах водаправоду часам чулася нейкае тоненькае жалобнае скуголеньне. Скварыш зноў пачаў хадзіць па кватэры, падыйшоў да цёмнага вакна ў зальчыку. На падворку ўнізе неяк быццам ярчэй, чым зьвечара, сьвяціў на мачце ліхтар, ярчэй сьвяціліся кодабы аўтамабіляў між счарнелых кронаў дваровых дрэваў. Цяпер там было сонна і пуста. І гэтак жа пуста і стомлена-сонна рабілася на душы ў прафэсара.

Можа, цяпер было б лепш, каб дома, а не на дачы была яго жонка Леакадзія Адамаўна, было б каму сказаць слова, ня глухнуць у гэтую маўклівую ноч. Хаця, можа, і ня лепш. З жонкаю ён ужо даволі нагаварыўся аб сваім

няшчасьці, жонка яму не спачувала. Толькі дакарала за ягоны доўгі язык, за дзіцячую даверлівасьць. За дурную наіўнасьць. Можа, і так, ён ёй не пярэчыў. Жонку ён добра ведаў, пражыў зь ёю жыцьцё, яны выгадавалі дачку, гадавалі ўнукаў, але...

Было невялікае “але” ў іхным жыцьці, якое заўжды ў далікатных выпадках прымушала яго прытармазіць, успомніць, змоўкнуць, каб не перасягнуць апошнюю рысу шчырасьці. За той рысай была небясьпека, ён адчуваў гэта, хоць фармуляваць яе пазьбягаў, нават баяўся. Маўклівае табу доўгія гады ляжала за той рысай.

Ён тады быў яшчэ даволі маладым чалавекам, толькі што сьпечаны кандыдат навук, жылі яны на прыватнай кватэры, вядома ж, без тэлефона. Неяк улетку прыйшла тэлеграма, што занядужала маці — упала, зламала нагу, просіць, каб прыехаў. Ён хутка сабраўся, паехаў, зайшоў у раённую бальніцу, уладкаваў туды маці. Назад паехаў дні праз тры, спазьніўся на рэйсавы аўтобус, дабіраўся спадарожнымі, і надвячоркам зь лёгкім партфэлем у руках кіраваў на сваю прыгарадную вуліцу. І тады ён убачыў жонку, якая неяк хуценька гаманіла з маладым чалавекам у блакітнай тэнісцы, усё азіраючыся па баках. Было гэта за якіх два кварталы, на скрыжаваньні дзьвюх вуліц, ля водаразборнай калёнкі. Леакадзія змалку была блізарукай, але акуляраў тады не насіла, і ня згледзела, як ён да іх набліжаўся. Пагаманіўшы трохі, яны хуценька разышліся — жонка, азірнуўшыся, павярнула за вугал на сваю вуліцу, а той, у тэнісцы, — у іншы яе канец, кірункам да цэнтру. Скварыш нетаропка дайшоў да калёнкі, жонкі ўжо ня стала відаць, а той яшчэ крочыў здаля, за які квартал ад яго. Непрыемна ўражаны, Скварыш павярнуў не за жонкай, а ў другі бок, за тым незнаёмым. Ён так ішоў за ім на некаторай адлегласьці, не набліжаючыся і не адстаючы. Бліжэй да цэнтру незнаёмец зайшоў у гастраном, купіў пачак цыгарэт, пасьля нядоўга тэлефанаваў з вулічнага аўтамату. У Скварыша было адно падозраньне, яно вяло яго з пэўнай настойлівасьцю і ўрэшце прывяло менавіта туды, куды

ён і думаў. І дужа баяўся. То быў бакавы ўваход у будынак КГБ — непрыкметныя дзьверы бяз шыльды і вартавога. Чалавек у тэнісцы каротка зіркнуў у адзін бок, у другі — і зьнік за дзьвярыма. Скварыш няхутка дабрыў дадому. Жонка паставілася да яго, як звычайна, ён ні пра што ў яе не пытаўся, чакаў, што сама скажа пра сваё спатканьне ля водаразборнай калёнкі. Але не сказала. А неяк ужо напачатку восені, як ён вяртаўся зь ёй пасьля дзённага сэансу ў кіно, насустрач трапіў малады хлопец, і ў той самай тэнісцы. Толькі цяпер на ім быў надзеты пінжак. І жонка, як заўважыў Скварыш, каротка кіўнула яму, як знаёмаму. “Хто гэта?” — трохі пагадзя запытаўся Скварыш. “Ды так, — сказала жонка, — настаўнік адзін”. “Нішто сабе, — падумаў Скварыш, — настаўнік, а бегае ў КГБ”. Але тады ён змоўчаў і болей размовы з жонкай пра таго чалавека ў іх не было. Засталося толькі пытаньне, адказу на якое да канца сваіх дзён будзе баяцца Скварыш. Дык, можа, яно й лепш, калі цяпер ён адзін, і ягоным турботам ня будзе сьведак. Усё сам-насам.

Са страхам і агідай ён перачытаў свае дзьве старонкі паганага тэксту-даносу. Менавіта даносу, бо як жа яшчэ можна было іх назваць, — тое Скварыш разумеў выдатна. Ён нічога там не прыдумаў, нічога не дадаў да таго, што гаварыў Красьнянскі, усё выклаў так, як яно й было. Праўдзівы быў да канца. Але чаго вартая тая яго праўдзівасьць, якой была ёй цана? Можа, парваць, спаліць і нікуды не хадзіць, — у каторы раз прыйшла няпэўная думка-намер. Але што будзе тады? Выкінулі з партыі, выкінуць з працы, адбяруць дыплёмы. Што адбяруць дыплёмы і званьні, то пэўна. Адабралі ж кандыдацкі дыплём у дацэнта Шавякова — за перараджэньне. У дысэртацыі абгрунтоўваў выгоды калектывізацыі, а пасьля ў лекцыях выказаў сумненьне наконт тых выгодаў. Далі дыхту дацэнту — не перараджайся! Не разумней. Заставайся ў жыцьці пнём і калодай — без вачэй і вушэй, тады будзеш адпавядаць усім навуковым званьням. Добра, Шавякоў меў гадоў трыццаць ад роду, быў хлопец дужы, мог працаваць грузчыкам на агароднінавай базе. А дзе будзе працаваць ён? Што ён умее, апроч як пераказаць

устаноўкі марксізму-ленінізму, якому ён даўно і пераканана ня верыць. Але што рабіць, мусіш. Вучыць студэнтаў, прымаць экзамэны, несьці заведамую лухту, бо яна корміць, дае хлеба і да хлеба. І ўсё было добра, пакуль маўчаў, пакуль нічога — нікому, апроч таго афіцыйнага, праверанага і зацьверджанага, што ўжо амаль бяздумна і мэханічна балбатаў на лекцыях. А тут во не стрываў, вымавіў усяго дзьве-тры фразы на цёмнай вуліцы блізкім сябрам. І ўся яго шматгадовая ранейшая стараннасьць абрынулася ў тартарары. Калі гэта сапраўды правакацыя, наладжаная органамі праз асьпіранта Красьнянскага, іхны яму экзамэн, дык тыя дзьве старонкі памогуць. Павінны памагчы. Усё ж яны засьведчаць, што ён чалавек адкрыты, і ні ад партыі, ні ад КГБ нічога ня ўтойвае. Ну там нешта сказаў, можа, не зусім цьвярозы, можа, яго трохі перакруцілі, утрыравалі. Але ён не раззлаваўся на даносчыкаў і цяпер раскайваецца. Можа, выключэньне заменяць на “страгача”. “Страгач” — не сухоты, год паносіць, і здымуць. І зноў усё пойдзе, як ішло дагэтуль. Ціха і спакойна. Добра ішло. Хіба што з гэтага моманту прафэсар будзе навучаны. Тады ўжо сапраўды да канца жыцця нічога — нікому.

А калі не? Калі Красьнянскі зусім па ўласнай ахвоце? Па сваёй дурноце, нарэшце. Тады яго выкінуць з кандыдатаў, адбяруць унівэрсытэцкі дыплём, спляжаць кар'еру. А то й пасадзяць. Як тады яму, Скварышу, жыць? Што скажуць пра яго ў інстытуце? Як паглядзіць у ягоныя вочы дачка?

Дачка была, можа, найбольшым клопатам у ягоным жыцьці, большай праблемай, чым нават жонка. Ужо немалая, студэнтка, што вырасла на ягоных вачах і на ягоных руках, яна, тым ня менш, таіла ў сабе неразгаданую загадку: якая яна? Тое, што адбывалася ў грамадзкім жыцьці краіны, вядома, не магло не кранаць яе, выдатніцу-школьніцу, а затым студэнтку, але ён дагэтуль ні разу ня чуў ад яе ні слова ўхвалы, ні слова асуджэньня. Нават незадаволенасьці. Усе гэтыя рэабілітацыі, рэпрэсіі, барацьба з касмапалітамі і безыдэйнасьцю, нават распорваньне ці звужэньне

штаноў у хлопцаў, лаянка еўтушэнкаўскай паэзіі зьнешне ніяк не выяўляліся ў ягонай Людкі. Прынамсі, дома, пры бацьках, яна была да таго нібы глухая. Аднойчы ён рэзка загаварыў зь ёй пра камсамол, знарок правакуючы яе на адказ, і дачка толькі зіркнула на яго страхавіта-зьдзіўленым позіркам і не сказала нічога. “Божа, падумаў ён, — і яна? Ці яна асьцерагаецца яго, бацьку, ці сама ўжо там? У іх на кручку ў свае дзевятнаццаць гадоў? Няўжо і цяпер, у эпоху разьвітога сацыялізму, нічога не зьмянілася ні ў грамадзтве, ні ў псыхалёгіі яго членаў? Ну добра, баяўся ён, але чаго ўжо баяцца ім?”

Мабыць, баяліся, бо жыў страх.

Ён зноў пачаў хадзіць паласатай дарожкай — да дзьвярэй і назад. Мінаў час, а нешта ні ў галаве, ні ў душы не праясьнівалася. Урэшце ўсё абарочвалася найбанальнейшай сытуацыяй — каму прападаць? Або яму, або Красьнянскаму. У такіх выпадках прэч адлятала мараль, спрацоўваў адно інстынкт, жывёльны эгаізм, як біялягічны сродак выжываньня. Ведама, гэта кепска, гэта непрыгожа, гэта амаральна. “Але рабі, што трэба, і хай будзе, што будзе”, — шматзначна вучыў некалі Талстой, гэты вялікі мараліст стагодзьдзя. Хоць добра было Талстому вучыць, у яго была Ясная Паляна. А што ёсьць у яго, прафэсара Скварыша? Апроч зарплаты ды гэтых во катухоў — кватэры?

Не, мусіць, праўда ўсё ж за Пратагорам зь ягонай высновай аб чалавеку як меры ўсіх рэчаў, менавіта чалавек заўжды вызначае, як яму жыць. Замест чалавека таго ня можа зрабіць ніхто — ні Бог, ні д'ябал, толькі ён сам. Кепска, аднак, што ён, Скварыш, не належаў да ліку людзей, якія свой выбар робяць рашуча і беспаваротна. Але чалавек, пастаўлены перад фактам неабходнасьці такога выбару, страчвае свабоду. Ён чалавек несвабодны. Свабодным жа ён робіцца тады, як зьнікае сытуацыя, што вымагае выбару.

Бяда яшчэ ў тым, што людзям занадта шмат трэба, мабыць, прыродай ім ня дадзена абмяжоўваць сябе, як дадзена жывёле. Яны Богам надзеленыя свабодай

думкі, а ім яшчэ трэба і свабода слова, як некалі зьедліва заўважыў К'еркегор. Сапраўды, ці не занадта вялікая гэта раскоша ў таталітарным грамадзтве — свабода слова. Ва ўмовах дэмакратыі іншая справа. Там пра свабоду ня марацъ, там ёю карыстаюцца гэтак натуральна, як дыхаюць паветрам. Тут жа нават памкненьне да яе — крамола, за якую непазьбежная расплата. Расплата ўсё тым жа — свабодай і лёсам. Д'ябальскае грамадзтва, д'ябальскі час! І калі ўсталявалася тое? Ці, можа, і не выводзілася? Можа, і праўда, што пагібель сучаснай культуры пачалася даўно. Ці ня ў ноч на 25 чэрвеня 1820 году, калі разумнік Гегель, гэты філёзаф таталітарызму, вырадзіў сваё знакамітае: усё рэальнае — разумнае. Унівэрсальнае апраўданьне тыраніі. Ня дзіва, што ягоны дэтэрмінізм аднолькава прыйшоўся даспадобы як ягоным землякам-фашыстам, так і расейскім камуністам. Зручная філязофія дваццатага стагодзьдзя... У санлявай сьвядомасьці Скварыша думкі ішлі чарадой, ня дужа лягічна чапляючыся адна за адну. Але з часоў Дэкарта вядома, што ў духоўным жыцьці разумныя думкі займаюць надта малое месца. Куды болей тых самых блытаных, санлявых і нелягічных, ад якіх мала сэнсу. Так, пустазельле, духоўная палова, асьцё, празь якое калі-нікалі, аднак, прарастае штосьці значнае і нават геніяльнае. Але калі няма страху. А можа, менавіта ў атмасфэры страху найболей напружана і працуе розум? Хаця б у пошуках выйсьця... Рэшту тае начы ён не хадзіў па кватэры, сядзеў у вяртлявым крэсьле за пісьмовым сталом, утаропіўшыся невідушчым позіркам у свае праклятыя радкі. Настольная лямпа ярка і звыкла асьвятляла кавалак заваленага паперамі стала, галава і твар Скварыша туліліся ў ценю. Так было зручна. Стома ад перажываньняў усё ж дапякла яго, ён стаміўся, але сон ня йшоў, і ён ня клаўся. Вялікія турботы прыгняталі яго — як зрабіць лепш? Каб без памылкі, ад якой не давялося б пасьля кусаць локці. Калі будзе позна. Але тая праклятая задачка, здаецца, увогуле ня мела рашэньня. Колькі над ёй ні біцца. Былі два варыянты, і абодва жахлівыя. Значыць... Значыць, марна было столькі ламаць галаву, думаць. Тым ня менш, думаў і

ламаў галаву, — шукаў, перабіраў у паўсоннай сьвядомасьці магчымыя і немагчымыя, па сутнасьці, фантастычныя варыянты. І вельмі выразныя наступствы. Наступствы ўсе былі бязрадасна горкія і пачварныя. Ярка асьветленыя на стале старонкі ўсё болей рабіліся чымсь фантасмагарычным, прывідным, набывалі жахлівы зьмест, ён ужо баяўся да іх дакрануцца, каб не наклікаць новай бяды. Яны займалі ўсё большую ўладу над ім, ён апынуўся ў поўнай ад іх залежнасьці. Як было ад іх пазбавіцца? Мусіць, толькі адным спосабам — здаць туды, дзе была ў іх патрэба. І вызваліцца. Але тое ці не канчаткова заняволіць яго?.. Тое, што настаў ранак, ён адчуў па няпэўных гуках у суседняй кватэры, недзе ціхенька запяяў водаправод. Тады ён устаў, рассунуў шторы на шырокім вакне. Неба над дахамі ўжо на ўсю моц залівала сінеча сьвітанку, стала відней у кабінэце, і ён выключыў лямпу. Ісьці ў КГБ трэба было да дзевяці гадзін, каб не спаткацца з кім па дарозе, не тлумачыць нічога. Здаць, і — назад. Мабыць, там разьбяруцца, куды, каму. У які аддзел, якому маёру ці падпалкоўніку. Трэба думаць, гэта ў іх наладжана. Даносы не прападаюць. Ня тое што заявы ў гарвыканкаме.

Ён выйшаў у вітальню з рашучым намерам пайсьці, не адкладваючы, тым болей, што будынак КГБ быў няблізка. Пакуль дойдзе, настане ранак. Але калі паперы перадаваць праз дзяжурнага, мабыць, трэба канвэрт. Давялося вяртацца па канвэрт, на якім ён вывеў выразнымі літарамі: “КГБ БССР”. Заклейваць ня стаў, мусіць, так было лепей. А то падумаюць, што ў канвэрце плястыкавая бомба, і затрымаюць самога. Затрымлівацца там ён не хацеў нават на хвіліну. Ліфт незвычайна гулка грукацеў у ранішняй цішы пад'езда, пакуль ён спускаўся з паверху. Унізе ля доўгага шэрагу паштовых скрынак сутыкнуўся з суседам, адстаўнікомвайскоўцам. Той, у спартовых штанах і красоўках, мабыць, вяртаўся з ранішняй прабежкі і толькі зьдзіўлена акругліў вочы, пабачыўшы Скварыша. Скварыш нічога тлумачыць ня стаў, хутчэй сігануў ад парога да прыступак. Цяпер ён не хацеў бачыць нікога.

Спакваля прачынаўся горад, на пустых з ночы вуліцах усё большала таропкіх мінакоў. Бліжай да цэнтру, якраз на прыпынку, яго дагнаў першы тралейбус, і ён рухава ўскочыў у пусты прыбраны салён. Сядаць там ня стаў — як калісь у далёкім студэнцтве, прыткнуўся на задняй пляцоўцы і стаў пазіраць праз шкло. Нязвыкла было адчуваць сябе так, павернутым тварам назад. Але цяпер так было лепей.

З тралейбусу выйшаў за два кварталы ад знакамітага ў горадзе будынка, і тут рашучасьць пачала пакідаць яго. Чым бліжэй ён падыходзіў да бакавых дзьвярэй КГБ, тым рашучасьці заставалася ўсё меней. Ля дзьвярэй ён зусім замарудзіў крок, матавае шкло дзьвярных філёнак не давала згледзець, што там адбываецца. Але ён ведаў, што там стол і дзяжурны — неяк зімой зазірнуў выпадкам. Ля вушака на сьцяне чырванела невялічкая шыльда: “Прием посетителей круглосуточно”, яна абнадзейвала. Але менавіта ля самых дзьвярэй ён згубіў рэшту намеру і пратупаў міма. Дайшоў да рога будынка, завярнуў на іншую вуліцу і стаў. Што ўрэшце рабіць? Вельмі хацелася плюнуць на ўсё ды паехаць дадому. Можа, дапіць бутэльку і заваліцца на канапу. Хай яно ўсё гарыць ясным агнём...

Але, мабыць, гэта агнём не згарыць. Гэтае ўсё не гарыць у агні і ў вадзе ня тоне. Тое ён ведаў пэўна. Калі ён цяпер нешта ня вырашыць — рашуча і назаўжды — дык яго чакае незайздросная рэшта жыцьця. Значыць, хоча ці не, а трэба вяртацца.

І ён вярнуўся. Зноў нерашучым крокам наблізіўся да матавых філёнкавых дзьвярэй, на гэты раз трымаючыся бліжэй да гранітнага цокаля будынка. Каб не адступіць. Каб адступіць было неяк. І з ходу рвануў за доўгую адпаліраваную ручку дзьвярэй.

За сталом пры дзьвярах не было нікога, дзяжурны, — мардаты ўкормлены прапаршчык з партупэяй цераз плячо — апынуўся якраз насупраць — ад суму шпацыраваў па праходзе. Скварыш павітаўся. Той, здаецца, ні кроплі не зьдзівіўшыся раньняму наведніку, нават бы ўсьміхнуўся — маўляў, давай, заходзь. І

Скварыш сунуў у ягоныя рукі канвэрт.

— Каму?

— Ды там разьбяруцца. Ад Скварыша.

— Гэта вы? Падпісана, да?

— Усё падпісана.

Каб разам спыніць тую размову, Скварыш, не разварочваючыся (бы надта сьпяшаў на працу, ці што), задам піхнуў дзьверы і апынуўся на вуліцы. Мляўкім крокам пайшоў па тратуары па-над самым бардзюрам, і жахлівая ява зробленага ўсё болей апаноўвала яго. Як жа так, навошта?.. А калі ён спудлаваў? Падставіў сумленнага чалавека? Што ж тады ён нарабіў?

Ды, мабыць, нарабіў...

На рагу будынка ён зноў спыніўся, паазіраўся на шкляныя дзьверы. Ну, што рабіць? Вярнуцца, узяць заяву назад? Але ці аддадуць назад? Мабыць, прапаршчык-дзяжурны ўжо рэгіструе яе ў якой тоўстай кнізе. А як зарэгіструе, дык ніякая сіла яе адтуль ня выпіша. Будзе захоўвацца вечна. Дзяржаўная тайна. Во — так!

Бедны, няшчасны асьпірант Красьнянскі.

Бедны, няшчасны прафэсар Скварыш...

## Музыка

Надвячоркам ён задрамаў у зацемненым гатэльным нумары. Празь няшчыльныя пласьціны белых жалюзяў у пакой цадзілася дробна-паласатае сьвятло, якое ламана стракацела па мэблі, дыване на падлозе, па сьценах, невялікай карціне з выявай карыды. Што — менавіта карыды, пра тое можна было толькі здагадвацца: постаці на карціне спрэс выяўляліся ў форме трохкутнікаў, чорных і чырвоных — быкі і

матадоры. Ён, аднак, не ўглядаўся ў карціну — ён ня дужа заўважаў карцін ні ў гатэлях, ні ў офісах. Ён быў музыка, і нашмат большую цікавасьць для яго мелі гукі. Але цяпер, калі сіеста збольшага скончалася, а вечаровы курортны тлум яшчэ не настаў, было быццам ціха, адно мерна гуў пад стольлю вялізны трохлопасны вэнтылятар, ды ў падваконьні раз-пораз уздыхаў кандышан. І ўсё ж менавіта ў гэтай цішы ўзьнік нейкі незразумелы гук, які вынікаў невядома адкуль і чамусьці трывожыў слых. Ён і прачнуўся ад таго гуку, хоць не зразумеў нічога, сподам душы, аднак, адчуваючы штось благое, і доўга ляжаў, ня кратаючыся. Прахалоды ў пакоі не было ані колькі, было душна, млосна, неяк надта дыскамфортна, і ён не разумеў прычыны таго дыскамфорту. Магчыма, ён захварэў ці пачынаў захворваць. Ці не з тае нагоды прапаў апэтыт, на сьняданьні ў кавярні ён выпіў шклянку апэльсынавага соку і есьці нічога ня стаў. На абед зусім не пайшоў. Не было ні сілаў, ні жаданьня ўставаць і ісьці ў гаманкую залю рэстарану, парушаць свой спакой. І ён ляжаў, услухоўваўся ў пошум вэнтылятара і думаў. Адчуваў — найлепей ляжаць. Калі б толькі не праклятая задуха, ад якой у тропіках не было паратунку ні ўдзень, ні ўначы. І вось гэты гук, што абудзіў яго ад санлявай зьнямогі.

Не разумеючы да канца ні свайго стану, ні прычыны трывожлівага гулу — звонку ці, можа, знутры, у сабе, ён урэшце памкнуўся ўстаць і сеў на край шырокага ложка. Але далей рашучасьць яго ўбавілася, пасядзеўшы крыху, ён зноў з палёгкай адкінуўся на скамячаную прасьціну пасьцелі.

Здаецца, дарма ён прыехаў сюды, у гэты блаславёны трапічны рай, здатны для людзкіх целаў, аблагоджаны прыродай і морам. У яго быў іншы інтарэс, але сталася так, што кантракт на канцэрты падпісаць не ўдалося, трапіўся няўдалы антрапрынёр, і ён падумаў тады, што, можа, гэтак і лепш. Ён вольны, без абавязкаў і мітусьні пабудзе ля мора, колькі ляжа на душу, а там будзе відаць. Тым болей, што дома, далёка на поўначы, яго ніхто не чакаў, пад той час ён вызваліўся ад якіх бы там

ні было абавязкаў — перад сям'ёй, антрапрынёрамі; можа ўпершыню ў жыцьці настаў ягоны доўгі ці кароткі тайм-аўт. Ён быў музыка, але і з музыкай апошнім часам штось не заладзілася, ніколі ў яго не здаралася такой абыякавасьці, нават агіды да інструмэнту, які цяпер, бы непатрэбны, сіратліва стаяў у чорным футарале ля белых дзьвярэй. Штосьці ў ім разладзілася, гняло, — невыразнае, нават загадкавае, да канца не адчутае. Галоўнае — гэты вібрасты гул, падобны на нізкую ноту, якую хтосьці ня мог узяць да канца, толькі спрабаваў і цягнуў, бы няўмека. Але чаму ў ёй столькі няўтульнай гнятлівай трывогі?

Калі разумна і па-добраму, дык, мабыць, яму ў самы раз было б да псыхіятара, да іх сямейнага доктара Гаула, які некалі лячыў жонку, цешчу, старэйшую дачку. Але ніколі не лячыў яго самога — не было патрэбы. Зноў жа ён памятаў, як яшчэ ў дзяцінстве на тую схільнасьць тутэйшага люду да псыхіятрыі адгукнуўся ягоны бацька — грэбліва, бы да вэнэроляга. Але бацька быў чалавек іншага веку ды й іншага племя, якое, здаецца, мела калісьці звычай наогул абыходзіцца без дактароў. Мабыць, штосьці ад таго перадалося і сыну.

Не заўважыў, як зноў задрамаў, — мржа, карыстаючыся рэштай сіеставай цішы, і неяк адразу безь пераходу ці паўзы яму прысьнілася іншае, што ў рэальным жыцьці ня мела да яго пэўнага дачыненьня. Але ў сьне тое ўспрымалася, бы даўно знаёмае, звыклае, і не выклікала зьдзіўленьня. Найперш ляндшафт — шырокая прастора ўзгоркавай даліны, зялёная ад маладой травы, але з выгляду зусім ня прэрыя, не савана, — шырокі лясны далягляд без паселішчаў і дарог. Ён ішоў па травяністым схіле, за ім нясьпешна цягнуўся статак валоў ці бізонаў, тое неяк было не зусім зразумела, але ён і не спрабаваў зразумець. Ён пачуваўся ў ролі ці то пастуха, ці то правадыра гэтага статку, і не камандаваў, не заганяў жывёлін, а суладна вёў іх кудысь па невысокай, нетаптанай траве. Настрой і выява былі зусім букалічныя, калі б не загадкавая трывога, што пакрысе вынікала невядома адкуль. Трывога тая, аднак, перарасла ў спалох, калі наперадзе

паблізу зьявіўся абрыў, — нейкая шырокая бездань, якую было не абмінуць. Галоўнае, ён ня мог спыніцца, не спыняўся і статак; мабыць не адчуваючы небясьпекі, валы (ці бізоны) маруднаю лавай сунуліся і сунуліся за ім і ўжо наблізіліся да краю бездані. Іх трэба б спыніць ці завярнуць назад, але ён не рабіў таго — ня мог ці ня ведаў, як. І ён з жахам памкнуў па сьлізкай траве ў бездань, на дне якой штосьці бурліла, нібы кіпела ў аграмадным катле — бруд, вулканічная магма ці яшчэ што....

Адчуваньне блізкай катастрофы і пагібелі змусілі яго на нейкія душэўныя высілкі, якія прыпынілі тую пакуту, і ён прачнуўся.

Асьвятленьне ў пакоі зьмянілася: было цемнавата, здаецца, настала ноч; дробныя шчыліны-палосы перасунуліся ўгору і цяпер паласавалі столь — гэта праз жалюзі прасьвечвала нізкае сьвятло вулічных ліхтароў. Прыглушана гучэла недалёкая музыка ламбады — ігралі ў суседнім гатэлі ці на ўзьбярэжжы пад пальмамі. Толькі ён адчуў з палёгкай, што пазбыўся прыкрага сну, як да ягонай душы зноў дапяў ранейшы загадкавы гул. Таго не магла заглушыць нават прычэплівая рытміка ламбады, ягоны несьціханы суцэльны фон клаўся на ўсе іншыя гукі знадворку, — то было ненатуральна, незразумела і загадкава. Ён устаў з пасьцелі і, не ўключаючы сьвятла, у паўзмроку пакою намацаў дзьверы ў лоджыю.

Рытмічныя гукі ламбады агарнулі яго з большай выразнасьцю, у твар дыхнула вечаровай парнасьцю, саланаватым подыхам мора. Босы, неапрануты, у адных толькі плаўках, ён ступіў да белых, яшчэ гарачых ад сьпёкі парэнчаў і абапёрся аб іх. Унізе пад лоджыяй ціхенька варушылася ад начнога брызу касмылявае лісьце пальмаў, уздоўж выгінастага берагу цягнуўся бісэрны ланцужок матавых прыдарожных ліхтароў, якія зьнікалі за скальным мыском. Мора чорнай сьцяной лена варушылася на ўсім начным прасьцягу, нябачна зьліваючыся ў далечыні з зорным высокім небам. Была ноч, зь ярка, бы ўдзень, асьветленай набярэжнай,

абсаджанай шэрагамі пальмаў. Па гэты бок на горным адхоне груваськіліся белыя будынкі вілаў, курорты і пансіёны; непадалёк, заліты нізкім сьвятлом, высіўся масіўны куб новага гатэлю кампаніі Шаратон. Унізе пад пальмамі, наўзбоч ад дарогі і гатэляў з бліскаўкамі рознакаляровых шыльдаў замерлі шэрагі аўтамабіляў; на прыморскай шашы іх трохі парадзелы паток, аднак, не прыпыняўся, бліскаючы фарамі, каціў і каціў у абодва бакі. Збочыўшы, два зь іх спыніліся ўнізе, якраз перад ягоным гатэлем пад пальмамі. З аднаго неўзабаве выйшла пара, жанчына прыпынілася трохі, чакаючы, пакуль мужчына зачыняў аўтамабіль, затым абодва таропка скіравалі да ўваходу. З другога чамусьці доўга ніхто не выходзіў, і ён перастаў чакаць. Ён перавёў позірк угору, у зіхоткую ад зораў чарнату паўдзённага неба.

Якраз перад фасадам гатэлю невысока над гарызонтам і морам выразна зьзяў пяцьцю зоркамі славуты Паўднёвы крыж. Тры зь іх былі амаль аднолькавай велічыні і яркасьці, а дзьве астатнія, што ўтваралі левае плячо крыжа, выдаліся драбнейшымі і амаль што зьліваліся ў адну, — быццам дзеля сымэтрыі крыжа. І з-пад гэтых зораў раптам узьнікла невыразная, бы ў тумане, выява твару ягонага бацькі (на сэкунду, можа, ня болей), але ён ажно здрыгануўся ад нечаканасьці. І разам менавіта адтуль зноў данёсься той загадкавы гук, ён стаў мацнець, зь ім сталі хутка большаць-набліжацца зоркі; стварылася ілюзія, нібы ён паляцеў насустрач. Сапраўды, ён страціў вагу, невядома як адарваўся ад поручняў, і апынуўся над морам. Сьпярша ён бачыў толькі зоркавы крыж, які ўсё большаў, выразна адчуваўся палёт, згледзеў затым, як прамільгнулі і зьніклі ўнізе набярэжная, вуліца з пальмамі, белыя фасады гатэляў, выгінастая палоска берагавога прыбою. Пад ім апынулася шырокая чорная пустка, а ён ціха, без супраціву паветра, нібы бесьцялесны, мкнуў кудысьці ўгору — у зорную мітусьню чорнага начнога неба.

Зноў, як і раней, тое не выклікала ў яго вялікага зьдзіўленьня сваёй нерэальнасьцю, было нават у чымсьці прыемна; яго цялеснае адчуваньне зьнікла, і ён

не адчуваў ні сьцюжы, ні ранейшай звыклай задухі. Ягонае бесьцялеснае Я распласталася над змрочным марскім прасторам, які, аднак, рассьцілаўся ўсё шырай і шырай, ён адчуваў тое, чым вышай паднімаўся над ім. Неўзабаве зямная прастора і зусім зьнікла ўначы, навакол — зьверху і зьнізу, бліскала, мітусілася зоркавая карусэль; дзіўна было дзе не наткнуцца на якую зь нечакана блізка вынікльіх зорак. Але ён не наткнуўся. Яго нават вабіла іхнае зіхоткае мноства, сярод якога ён стаў пазнаваць некаторыя зоркі. Адкуль было тое пазнаваньне, невядома, ніколі ён адмыслова не вывучаў астраномію, можа так, выпадкам штосьці колечы зь яе ўведваў. Але цяпер з пэўнасьцю пазнаў ярчэйшую камбінацыю зь некалькіх зораў, што сьвяціла-міргала якраз на ягоным шляху наперадзе. То была раскіданая, бязладная гронка Стральца, ён нават палічыў зоркі, якіх аказалася дзесяць ці нават адзінаццаць — калі самых буйных, ня лічачы цямнейшых, дробных. Крыху далей над імі сунулася туманістая града Млечнага шляху, і ягоны шлях кіраваў напярэрэз ёй. Тады першы непакой уварваўся ў ягонае адчуваньне — што ж гэта зь ім робіцца? Неяк пераадольваючы першую прыкрасьць, ён пачаў вальней азірацца па баках, нават зірнуў назад — Паўднёвага крыжа ўжо ня стала відаць, і зь ім дзесь неўпрыкмет зьнік, бы растаяў, невыразна-няўлоўны прывід бацькі. Мабыць, было менавіта так: бацька толькі прывід — ужо ён ня чуўся ўпэўнена, што то быў бацька. Унізе ляжала густая чарната — значыцца, ён пластаўся над акіянам, бо на мацерыку аднекуль бліснула б якое сьвятло. А можа, ён падняўся гэтак высока, што зьнікла зямля, і навакол быў адно толькі космас. Сьцюдзёны, мёртвы, загадкавы космас. Але ён не адчуваў сьцюжы, ды і дыхалася нармальна, хаця хутчэй за ўсё — ён ня меў патрэбы ў дыханьні. Нібы альбатрос над акіянам, ён бесьцялесна лунаў у зорнай стыхіі. Куды толькі?

Нешырокі прасьцяг Млечнага шляху ён адолеў даволі хутка, хоць было невядома, як мераўся час — зямнымі гадзінамі ці сьветлавымі гадамі. Аднак нічога асаблівага ў ім ён не адчуў — хіба пабольшала навакол дробных пылінак-зораў, якія, аднак, не краналіся да яго. А як

вырваўся з тае зорнай туманнасьці, зноў трапіў у вольны зорны прастор, у якім па-новаму загучаў той зьнешні ці нутраны гул-сьпеў. Цяпер, аднак, той гул стаў болей падобны на сьпеў, урачыста-жалобны рэквіем. Але чаму рэквіем? Па кім рэквіем?..

Цяпер ужо было зразумела, што ён мкнуў-ляцеў кірункам на поўнач. Магчыма, ужо прамінуў экватар, — калі толькі з тое вышыні можна было спраектаваць на зямны экватар. Але куды? І адкуль вынікаў трывожны той сьпеў? Што яго яднала з тым сьпевам? І што чакала яго наперадзе?

Мусіць, аднак, ён ляцеў ня так і высока, хоць, несумненна, ужо ў космасе. І ён усё часьцей стаў пазіраць уніз. Празь нейкі час унізе паказаўся ледзьве прыкметны берагавы абрыс нейкага мацерыка, мабыць, акіян там скончыўся. Але што гэта быў за бераг, якога мацерыка, — ён вызначыць ня мог. Уздоўж берагу разьбегліся і цьмяна сьвяцілі туманістыя плямы сьвятла, — можа ад гарадзкога сьвятла шматлікіх мэгаполісаў? Значыць, то ня дзікая прастора, падумалася з надзеяй. Можа, Эўропа?..

Толькі што яму рабіць у Эўропе, да якой ён ня меў дачыненьня, яна не была ягонай радзімай, ён нават ні разу ня быў там наездам. Іншая справа бацька, бацькавы продкі. Некалі ў дзяцінстве ён чуў бацькаў аповед пра яблыкі “антоны”, і зь дзіцячаю наіўнасьцю верыў, што яны самыя смачныя. Смачнейшыя за апэльсыны, за ананасы. Аднак ні есьці іх, ні нават убачыць ніколі не давялося. Хапала заўсёды іншых. Цяпер ён пачаў адчуваць, што падняла яго з гатэльнае лоджыі нейкая несумненна бацькоўская сіла, ці воля, ці хоць бы ягоны прывід, які затым зьнік. Ці, можа, застаўся ззаду. Цяпер у зорнай прасторы яго вёў іншы лякатар, вёў, аднак, упэўнена, мабыць, загадзя пракладзеным курсам. Што гэта было? Ці ня той гул-рэквіем? Але, можа, ён зьменіцца на іншы, на штось весялейшае, болей пэўнае і меней трывожнае?

Не, гул-сьпеў не зьмяняўся, наадварот, з часам рабіўся болей выразны, набыў быццам бы знаёмыя ноты —

штось з Моцарта, Бэрліёза. Неяк яму нават пачуўся вядомы матыў з другой санаты Шапэна. Славянскі кампазытар мінулага, ён ведаў таго кепска, але чуў калісь, што і бацька паходзіў з таго далёкага краю. Падобна, тут умяшаўся сакральны фактар — покліч продкаў ці што. Здаецца, ён нёсься ў зорнай віхуры менавіта ў той бок, прынамсі — на поўнач.

Ля сузор'я Зьмяі, гэтых выгнутых справа налева пяці буйных зорак, ён зноў адчуў блізкую прысутнасьць бацькі, хоць ні вобліку таго, ні гуку нідзе не заўважаў. Быццам той быў побач і ці то кіраваў ягоным шляхам, ці то сваёй містычнай прысутнасьцю суправаджаў яго. І жалобны нутраны матыў стаў болей выразны — ён ужо прывык да яго мэлёдыі і ведаў пэўна, што то — пахавальны марш. Але чаму пахавальны? Запытаць у нябачнай бацькавай прысутнасьці не было як, ды ён і не наважваўся. Ён паводзіў сябе ў гэтай касьмічнай бездані дужа ашчадна і стрымана, каб не пашкодзіць чаму, зрабіць што ня так. Ды й бацькава прысутнасьць была далікатнай і не назаляла. Відаць па ўсім, нябожчык-бацька меў большае дачыненьне да таго, што цяпер зь ім адбывалася. У адрозьненьне ад сына, бацька так і не прызвычаіўся да краіны, дзе пражыў большую частку жыцьця і дзе аддаў Богу душу. Але не аддаў маладосьці, якая разам з фактам нараджэньня належала іншаму племю, ды й іншай культуры. А тое, мабыць, усё ж штось вызначае, як ён зразумеў, часам насуперак уласнае волі. І абставінам. Бацька быў не такі, як іншыя ля яго — не такі характар, не такая сутнасьць. Часам яго несумяшчальнасьць з акаляючай рэальнасьцю раздражняла сына, народжанага і выхаванага на новай зямлі, хоць ён і не асуджаў бацьку. Адно — доўга ня мог зразумець, таму, мабыць, ягоная сутнасьць і ня надта перадалася сыну. Але зь ягонай сьмерцю... Пасьля сьмерці бацькі штось незразумелае пачало мацнець у сэрцы сына, і той сьцяміў, што гэта не выпадкам. Найперш ён адчуў нейкія моманты ўласнай рознасьці з той зямлёй, дзе нарадзіўся, быццам у яго адкрылася іншая сапраўдная радзіма. Ды ён ведаў пэўна, што іншай радзімы не было, ён цалкам быў задаволены тою, што меў. Аднак, глядзі ты...

І цяпер гэты зорны палёт!

Мабыць, ён трапіў у самую высь неба, у самы зорны касьмічны зэніт. Зоркі абсыпалі яго з усіх бакоў, зьверху і зьнізу, нясьцерпна ярка зіхацелі перад вачыма, пераліваліся рознакаляровымі агнямі, некаторыя апынуліся зусім блізенька, і хутка імчалі ля яго, болей насустрач і назад: іншыя паволі адплывалі ў бакі. А то непадалёк падалі зьнічкі, выпісваючы касыя срэбныя дугі, ад якіх не заставалася сьледу. На палёце яго да Валапаса з валадарна зіхоткім Арктурам у сярэдзіне, хаўтурны матыў загучаў выразьней. Мэлёдыя неслася аднекуль з вышэйшых сфэраў і поўніла зорны абсяг нясьцерпным жалобным смуткам. Ён ужо выразна пачаў адчуваць, што тут нешта адбудзецца, і штораз пільней узіраўся ўніз. Унізе, аднак, скрозь было цёмна, толькі зрэдку штось бліскала — вадзяная паверхня ці, можа, асьветленае навакольле гарадоў-мэгаполісаў. Адзіночныя і дробныя агні на такую высь, вядома ж, не пранікалі. І ён падумаў, што, можа, ён пачаў зьніжацца, ці мо зорнае неба апусьцілася на зямлю. Толькі чаму зямля была гэткай сурова маўклівай? Чаму яна так затаілася? Бы набракла горам і гневам і чакае чаго? У небе ж не было ні гора, ні гневу. Зрэшты, не было й радасьці, гэта ён адчуваў пэўна.

Як на зорным краявідзе заблішчэў коўш Вялікай Мядзьведзіцы, сумны харал загучэў на ўсю моц, толькі ён усё ня мог сьцяміць, адкуль? Зьверху, з навакольля, ці ўсё ж са змрочнай зямлі? Або можа, зь ягонай душы? Ён падумаў, што, можа, менавіта з душы, што ён яго нес з сабой. Але адкуль у душы было загучаць незнаёмай мэлёдыі? Звычайна гучала шмат іншых, ды ўсё ж знаёмых, хоць бы аднойчы ім чутых. Гэтага ж (ён мог сказаць з пэўнасьцю), ён ніколі ня чуў. Значыць, тады не з душы. Зь неба ці, можа, зь зямлі...

Што зь зямлі — то было болей пэўна.

Гэтае адкрыцьцё змусіла яго пільней узірацца ўніз, у зямное цемрыва; зоркі перасталі цікавіць яго — яго болей зацікавіла зямля. Усё ж нешта трэба было згледзець на ёй — там была разгадка ягонай

незвычайнай загадкі. Толькі дзе? Але вось палёт ягоны запаволіўся, ён лунаў ужо не сярод зораў, а пад імі, значыць, пачалося зьніжэньне. Здаецца, зьніжэньне па сьпіралі ці што? Музыка гучала аж да нясьцерпнасьці ўрачыста і кранальна. Так, там яўна штось здарылася, падобна — некага хавалі. Але каго? Так урачыста хаваць можна хіба што самога Бога. Але няўжо тут жыў Бог? Усё ж месца Бога вышэй, над усімі і ўсім, створаным ім. Над зямлёй, плянэтамі, зоркамі і космасам. Так, прынамсі, лічыў ён змалку, так было засьведчана ў сьвятым пісаньні.

Ён ужо не апускаўся нават па сьпіралі, ён кружыў над адным, бадай, месцам — чорным хаўтурным месцам у паўночным паўшар'і неба. Рэквіем то гучаў выразна, то заціхаў трохі, і тады ён разумеў, што аддаляецца ад нейкай мясьціны — ці не ад крыніцы музыкі? Нейкі час у ягоным становішчы нічога не мянялася — ягоныя кругі паўтараліся адзін за адным, і ён падумаў, што ад яго штось вымагалася. Зрабіць ці хоць бы спытаць? Толькі ў каго? Нікога нідзе не было паблізу, нават і бацькаў прывід тут ужо зьнік канчаткова. Ён быў адзін — у суцэльнай цемрадзі, пад зорным купалам, над цёмнай зямлёй, адкуль імкнула ўвысь і ўшыркі загадкавая музыка. І тады ён наважыўся.

— Каго хаваеце? — хрыплавата крыкнуў у цемру і аж не пазнаў свайго голасу, — гэтак жахліва гучна прагучэў ён у касьмічнай прасторы. Толькі рэзананснае рэха голасу сьціхла ўгары, як зноў жа з тае прасторы пачулася:

— Народ хаваем...

“Які народ? Чаму народ?” — заварочаліся ў ягонай сьвядомасьці недаўменныя думкі-пытаньні. Але вымавіць іх ён не наважыўся: мабыць, тое было ўжо занадта. Усё ўслухоўваючыся, ён стараўся зразумець нешта і, здаецца, пачаў разумець. Канечне, не дарма тут бацька. Але пры чым тут ён, бацькаў сын? Навошта яго прынесла сюды нейкая добрая ці злая воля?

А калі боская воля? І прынесла яго сюды праз космас,

цераз акіян не дарма, бо было ў тым нейкае наканаваньне. Мо нават выбар, думаў ён, па-ранейшаму кружляючы і кружляючы ў недаўменьні над змрочнай зямной прасторай. Выпісваў у разрэджаным паветры кола за колам, а рэквіем чуў то выразна і гучна, то цішэй, то аддалена. І раптам ён з жахам падумаў: што будзе, калі сьціхне музыка? Куды яму? Як яму? Вярнуцца назад ён ня ведаў як, а ўпасьці на гэтую змрочную хаўтурную зямлю было б жахліва. Падняцца ў космас? Але як? Тое ўжо ад яго не залежала, ён ведаў. Адчуваньне катастрофы ахапіла яго і ад яго ішло, нібы трансьлявалася ў наасфэры. Можа толькі ў тым і быў нейкі сэнс ягонага тут зьяўленьня.

І ён круціўся, лунаў угары, пад зорнаю высяй, усё ня мог даўмецца, што трэба зрабіць, і навошта ён тут? Дзеля чаго? Ратаваць ці ратавацца самому? Але як ён мог нешта зрабіць, калі быў падначалены чужой волі, пазбаўлены ўласнага Я. Праўда, ён адчуваў, што так доўга цягнуцца ня можа, хаўтуры ўсё ж скончацца, колькі б ні цягнуліся. Цалкам магчыма, што зь імі скончыцца і ён.

І сапраўды, музыка стала цішэць, бы аддаляцца кудысь у зямную цемрадзь. Але ён кружляў усё над тым самым месцам, ён не аддаляўся нікуды, — мабыць, ужо не было куды аддаляцца. Толькі штосьці ўнутры ў яго аддалялася ў пачуцьцях, у стаўленьні да тае трагедыі, — рабілася абагульненым, абстрактным, ці што. Глушэла жалобная мэлёдыя, і ён таяў зь ёй разам. Хоць сябе фізычнага ён па-ранейшаму не адчуваў, бы і ня меў свайго цялеснага Я. Але цяпер пачало марнець і ягонае Я духоўнае...

Так цягнулася, мабыць, усё ж доўга, а мо і каротка — ён не адчуваў часу. Можа, гадзіну, а можа і год... І ўжо ён усьвядоміў, што яго самога ў прасторы стала да мізэрнага мала. Краёчак ягонага былога Я. Усё астатняе сасмактала цемра з далёкім, як у пачатку, жалобным гулам, ды зорным касьмічным бляскам угары.

А пасьля не засталося нічога...

## Восьлік

На зорным небе між чорных верхавін кіпарысаў бліскуча сьвяціла летняя поўня. Яе ясны зіхотны водсьвет няроўна ляжаў на верхніх камянях доўгай мураванай сьцяны, за якой туліўся вузкі бядняцкі падворак з мандарынавымі дрэўцамі на схіле ды двума-трыма каменнымі хлеўчукамі ніжэй. Ля рогу аднаго зь іх, прыхаваны ценем бліжняга кіпарысу, сядзеў чалавек, які, не зважаючы на начны позьні час, ня спаў і нават не заплюшчваў вочы, здаецца, і ня дыхаў нават, толькі чуйна ўслухоўваўся ў кожны гук з навакольля. Як цень ад кіпарысу пасунуўся ўбок, і поўня далікатна кранула зарослы чорнаю шчэцьцю твар, чалавек, не ўстаючы, пасунуўся далей у цень. Было відавочна, што ён асьцерагаўся начнога сьвятла, не хацеў, каб яго згледзелі тут, на гэтым ускраінным гарадзкім падворку, дзе ён, відаць па ўсім, бавіў час, чагосьці чакаючы.

Але побач не было нікога, ніхто да яго не падыходзіў. Вузкая сьцежка за нізкай сьцяной, што бегла ўсьцяж камяністага, зараслага чорным кустоўем раўчука, ляжала пустая, на падворку побач не здаралася ніводнага чалавечага руху. Дзесь у калючым, ссохлым ад дзённае гарачыні быльнягу нязмоўчна трашчэлі цыкады, ды за будынінай на падворку зрэдчасу варушыўся, уздыхаў галодны малады восьлік. Надвячоркам, як трохі сьцямнелася, чалавек падабраў у доле рэшту травяных аб'едкаў, пасунуў бліжэй да прывязанай жывёліны. Аднак восьлік не накінуўся на траву, толькі няўцямна паўзіраўся ў незнаёмага чалавека і жаласьліва раўнуў — ён чакаў гаспадара. Але гаспадар прапаў ад учарашняга ранку, і чалавек думаў, як бы ня сталася бяда. Як бы гаспадар не прывёў сюды тых, каго цяпер належала асьцерагацца.

Асьцерагацца ён стаў даўно, прынамсі, ня першы месяц. Адразу, як ляснула іх сьвятая агульная справа, і яны рассыпаліся, хто куды. Тыя, што ацалелі ад арышту, турмаў ды лягераў, перайшлі горы, знайшлі нейкі

прытулак у суседняй, думалася, дэмакратычнай краіне, дзе яны меліся знайсьці і падтрымку. Дэмакратыі там, здаецца, хапала, але з падтрымкай мала што атрымалася. Учора ён глухой горнай сьцежкай перайшоў мяжу і спусьціўся з гораў назад у гэтую няшчасную краіну, яго радзіму. Якую, не зважаючы на ўсё самае ліхое, прадаўжаў любіць сыноўскаю любоўю патрыёта ці, як некаторыя казалі, — нацыяналіста. Хай будзе і так, ад зьмены назвы ягоная адданасьць краіне і яе гаротнаму люду ня зьменшыцца. Тое ён ведаў пэўна.

Хоць, відаць, тое было нялёгка — некаторыя абставіны пачалі сьведчыць супраць тае яго любові. У гарах ён мог знайсьці схованку між зарасьніку і камянёў, але ў горадзе яе трэба было шукаць між людзей. Першы, да каго ён прыбрыў на золку, быў іхны колішні добры сябра, стары мудры гаршчэчнік, што нямала памог ім у іх барацьбе. Але гаршчэчнік, сказалі, памёр сваёй сьмерцю, падкошаны горам ад страты сыноў. Прасіць прытулку ў заплаканай зьнямоглай нявесткі ён не адважыўся. Зрэшты, абсыпаная дзецьмі, тая й ня надта запрашала яго, і ён пайшоў прэч. Памятаў, што непадалёк жыў студэнт, таксама іхны сябра, якога ён уцягнуў у рух і зрабіў неблагім агітатарам. Але ўжо было ведама, што хворага на сухоты студэнта, адзінага сына ў маці, таксама ўзялі. Цяпер той паволі канаў недзе на сталічным стадыёне сярод тысячаў іншых — бязьвінных зусім і вінаватых хіба тым, што не схацелі жыць пад драпежнай уладай дыктатара. Другі, да каго ён пастукаў у тую ноч, спаў на ўласнай пасьцелі, але ён не пусьціў яго й на парог, сказаў, што сам сядзіць, бы на іголках, — чакае гасьцей у бронекамізэльках. То быў іхны аднадумца — сьвятар, і чалавек падумаў: можа, і праўда, можа, і чакае. Але яму стала крыўдна, а галоўнае — пачынаўся сьвітанак, і было невядома, куды падацца на дзень.

Патуляўшыся па ўскраіне, ён падаўся да вадавоза, якога ведаў зь дзіцячай пары ад сваёй колішняй нянькі. То быў балбатлівы стары, п'яніца і абібок, ён ахвотна ўзяў зь ягоных рук апошнюю ягоную купюру і прапаў на ўвесь дзень. І на ўсю наступную ноч, якую цяпер

чалавек дабіваў разам з галодным восьлікам.

Пад ранак, як поўня закацілася за пляскаты дах суседняй будыніны, чалавек устаў і падышоў да варотцаў у завулак. Тут ляжаў глухі начны цень, чорнае прысядзібнае кустоўе добра хавала яго на падворку. Унізе, рассыпаўшыся на павольным схіле, ляжаў сонны горад, месячныя прыцемкі лагодна ахіналі крывыя вулічкі жабрацкіх прадмесьцяў, бязладныя забудоўкі каменных, гліняных, саманных сядзібаў. Нідзе паблізу ня бліскала ніводнага агеньчыка, не сьвяцілася ніводнай лямпачкі; прадмесьці танулі ў туманістым месячным сутоньні. Толькі ўдалечыні зьзялі адбіткі сьвятла з-за высокіх дахаў камяніц у цэнтры, дзе высіўся нябачны адсюль прэзыдэнцкі палац, ратуша зь вежай і падсьветленым гадзіньнікам, гатэлі, дзьве паліцэйскія казармы за катэдрай у старажытных, нядаўна мадэрнізаваных кляштарах. Турма месьцілася далей, на ўскраіне, і таксама ў кляштары каля рэчкі. То было дужа здатнае месьцейка, у ім цяпер пляжылі маладыя жыцьці шмат хто зь ягоных сяброў. Іншых, мабыць, няма ўжо і ў жывых, і наўрад ці знойдуцца калі іх магілкі — гарылы ўмелі хаваць ахвяры — бяз знаку і сьледу.

Стоячы ў месячных прыцемках ля паламаных варотцаў, чалавек рашыў канчаткова: тое ён зробіць сёньня, уранку, адкладваць далей было немагчыма. Адклад можа абярнуцца для яго катастрофай.

Шкада, для таго зноў патрэбныя былі людзі; было бязглузда рабіць тое ўпотай, безь людзей. Толькі на людзях, лепей на плошчы. Але не на рынкавай — мэтазгодна было б на ратушовай. Тую плошчу ён ведаў змалку, туды хадзіў гуляць зь нянькай, затым церазь яе бегаў у недалёкую школу. Там жа ён упершыню спаткаўся са сваім адзіным і такім няшчасным каханьнем, а галоўнае — там пераважыў колькі хвалюючых хвілінаў на сходах і мітынгах, як пасьля стольніх гадоў таталітарызму пачала ўсталёўвацца дэмакратыя. Ды не ўсталявалася. А тады плошча раілася ад тысяч людзей пад нацыянальнымі сьцягамі, з

партрэтамі колішніх герояў нацыі, пад мегафонныя гукі палымяных прамоваў... Сьвятарныя словы пра дэмакратыю, волю і незалежнасьць хвалявалі болей, чым адмысловае віно, дужа верылася, што ўсё тое хутка настане. Але не настала і, здаецца, ужо не настане. Тыя, што тады зласьліва назіралі за імі з палацаў ды офісаў, са штабаў і казармаў, ліхаманкава рабілі сваю справу і выбіралі зручны для сябе момант.

І яны выбралі яго ўдала, якраз тады, як дэмакраты таго не чакалі, і скарысталіся спосабам, якога не прадбачылі.

Калі дэмакратыя зусім ап'янела ад пачуцьця грандыёзнай перамогі над шматгадовым таталітарызмам, гэтыя на авансцэну палітыкі выпусьцілі Бульдозэр — раней нікому не вядомага правінцыйнага палітыка, за якім у цяньку стаялі іншыя, вядомыя і дужа разумныя. Задума была ў тым, каб Бульдозэрам расчысьціць шлях да ўлады і прыхапіць яе для сябе. Але Бульдозэр аказаўся хітрэйшым за ягоных апекуноў і, зь нечуваным цынізмам захапіўшы ўладу, не схацеў ні з кім ёю дзяліцца, падгроб усю пад сябе. Сьпярша разагнаў парлямэнт, пасьля па адным перасаджаў у турму нядаўніх хаўрусьнікаў; вядомага крымінальнага аўтарытэта прызначыў кіраваць уласнай бясьпекай. Тым ён зьбянтэжыў лідэраў палітычных партыяў, якія напачатку нібы праглынулі языкі, ня ведаючы, як паставіцца да таго. А як адумаліся, стала позна: іхныя партыі былі аб'яўленыя падрыўнымі і распушчаныя. За тры месяцы Цынічнай дыктатуры ад нядаўняй дэмакратыі не засталося і сьледу. Парлямэнцкая апазыцыя апынулася на каменнай высьпе ў моры, мітусьлівых студэнтаў з унівэрсытэту перасялілі за калючы дрот на гарадзкім стадыёне, унівэрсытэцкія будынкі занялі пад паліцэйскія казармы. Прафэсары па адным паўцякалі за горы — на эміграцыю, а тыя, што засталіся, шчыльней зачынілі аканіцы і не паказваліся на вуліцу. Народ стаіўся, сьцішыўся, змоўк у паняверцы, падобна было — зноў засынае, каб не прачнуцца стагодзьдзе.

Чалавек ня меў выразнага намеру каго-небудзь будзіць, тым болей — народ, разумееў, тое было яму не па сіле. Але ягоная неспатольная душа прагнула пратэсту супраць гістарычнай недарэчнасьці, якую ён бачыў у гэтым брутальным перавароце Зялёнай дэмакратыі на Цынічную дыктатуру. Прагу пратэсту ён ня мог задушыць у сабе, яна стала мацней за яго і вымагала ўчынку. Асабліва пасьля таго, як за горы даляцелі чуткі, што некаторыя зь ягоных сяброў перабеглі на службу дыктатуры; іншыя на эміграцыі павініліся і пачалі прасіць дазволу вярнуцца. Ён жа вярнуўся тайком, без дазволу.

На досьвітку пачаў неспакойна тупаць нагамі, а затым парывіста зароў восьлік. Тое затрывожыла чалавека, усё ж ён хацеў тут застацца незаўважаным. Але й пайсьці адсюль пакуль не выпадала: было зарана, адзінокі мінак на вуліцы тым болей прыцягваў да сябе ўвагу. Чалавек адышоўся ад варотцаў да арбы з прывязаным да яе восьлікам, ласкава паляпаў яго па шыі. Восьлік даверліва памкнуўся да яго, пацёрся аб яго сьцягном. Бедны восьлік, ён таксама пакутаваў на адзіноце, чакаючы ад чалавека ласкі і разуменьня. Але чалавек нічога ня меў яму даць і ня ведаў, як памагчы. Можа, варта было б яго адвязаць ад арбы ды пусьціць — хай корміцца самахоць. Асабліва, калі гаспадар зьнік надоўга. А мо назусім? Людзі цяпер прападалі ў любы час і дзе хочаш — уначы, з свайго ложку, на кірмашы, у аблавах, на вуліцах і тракцірах. Наляталі гарылы, шчоўкалі на руках кайданкі, і чалавек зьнікаў. Ні суда, ні адваката...

Стоячы ля восьліка, чалавек пазіраў, аднак, на завулак, што ад падворку зьбягаў уніз да шырэйшае вуліцы — ці ня зьявіцца там хто-небудзь. Яму патрэбныя былі людзі на вуліцы, сярод якіх неўпрыкмет мог бы зашыцца і ён. Ужо няблага разьвіднела, а ў завулку было пуста і ціха. Поўня ня зьнікла зь неба, хоць яе бляск стаў не такі зіхоткі, як ноччу, срэбная яе манэта паволі закочвалася за хрыбціну недалёкай гары. Чалавек чакаў, што, можа, зьявіцца гэты ягоны недалэга-вадавоз ды дасьць рады бедалазе жывёліне. Ды ішоў час, а гаспадар не

вярнуўся.

Яшчэ празь якіх паўгадзіны зусім стала відна. Здалёку і зблізку пачаў падаваць свае гукі горад: пошум аўтамабіляў у напрамку цэнтру, жаночыя галасы зблізку; у ранішнім паветры над прыгарадам пранеслася імклівая чародка галубоў. Ад недалёкага манастыра пад гарой прагучэлі знаёмыя зь дзяцінства глухаватыя гукі звона — да раньняй імшы. Тыя гукі як бы абудзілі чалавека ад ягоных начных клопатаў — здаецца, ягоны час наставаў. На разьвітаньне з восьлікам ён коратка палашчыў яго даверлівую шыю і засьцярожліва ўзьняў на плячо невялікі хатулёк, да якога адразу пацягнуў сваю пысу восьлік. Панюхаў і незадаволена фыркнуў — не спадабалася. Пах бэнзыну не падабаўся і чалавеку, але цяпер было не да пахаў. Літровая бутля з бэнзынам была ягонай найбольшай каштоўнасьцю, даражэйшай за жыцьцё.

На гэтым ускраінным завулку не было ходнікаў, адно — пыльны крываваты прамежак сярод старых каменных сьцен і будынін. Чалавек ішоў пасярэдзіне, як тут хадзілі ўсе. На рагу з шырэйшаю вуліцай трапіўся кудлаты вулічны сабака, які моўчкі збочыў з чалавечага шляху і са спазьнелым зьдзіўленьнем зьнізу ўгору паўзіраўся ў сустрэчнага чалавека. На шырэйшай, але таксама мала прывабнай вуліцы чалавек пачаў спатыкаць мінакоў — высокая худая жанчына ў чорным несла на плячы кошык з агароднаю зелянінай — на рынак. Жанчына коратка зірнула на яго, незнаёмага тут чалавека з зарослым тварам і даўгімі валасамі, у дужа разношаным, з чужога пляча, цёмным швэдры. На ягоных стаптаных сандалях ляжаў даўно ня кратаны пласт пылу шматлікіх дарог. Але такія цяпер тут спатыкаліся на кожнай вуліцы і не прыцягвалі вялікай увагі. Ён зважліва ўступіў дарогу арбе, што цягнулі за сабой два змакрэлыя ад поту мулы. Мужчыну са скрыпучай двуколкай, накладзенай кукурузнымі пачаткамі, прапушчаць ня стаў і нейкі час ішоў поруч. Мужчына-нэгар туга ўпіраўся ў зямлю босымі нагамі і ўпарта сунуў перад сабой несамавіты агародны набытак. Усё — на рынак. У гэты ранішні час людзі

сьпяшаліся прадаць, як даражэй, свой бядняцкі тавар, вырашчаны на бядняцкіх прысядзібных лапіках, адарваны ад сям'і, ад уласных дзяцей. Кожнаму найперш трэба былі грошы — на жыцьцё, на хлеб і падаткі. Бяздонная дыктатарская казна бясконца патрабавала грошай — для войска, вялізнае зграі паліцыі, безьлічы дыктатарскіх спэцслужбаў. У краіне, бы на дражджах, расьлі цэны на хлеб, а разам і памеры падаткаў ды розных плацяжоў, і канца іх росту не было відаць. Тыя, што беглі на рынак з пустымі сумкамі й кошыкамі, кожнага ранку жахаліся ад новых, большых за ўчарашнія цэнаў. Жаночыя твары скрозь несьлі на сабе скруху нязбыўнага клопату — як за меншыя грошы купіць болей, каб накарміць мужоў і дзяцей. То была невырашальная задача, не па зубах ніякаму матэматыку. Ды й ніякай, самай дасканалай кампутарызаванай навуцы. Бедны, няшчасны народ, што трапіў у такую сьмярдзючую яму, зь якой не відно было выйсьця.

Празь нейкі нядоўгі час чалавек ужо нетаропка крочыў сярод многіх іншых гарадзкіх мінакоў, што чым бліжэй да цэнтру, дык болей высыпалі на гарадзкія вуліцы. Гэтыя ішлі ня толькі ў кірунку рынку. Горад прачынаўся, усчынаўся звычайны працоўны клопат: адчыняліся раньнія крамы, падмяталіся ходнікі, на якія выстаўлялі тавар рамесьнікі, ювэліры, гаршчэчнікі; на вешаках разьвешваліся нейкія апранашкі. Крыху пазьней на вуліцах сталі трапляць са сваімі чорнымі кейсамі дзяржаўныя службоўцы, гэтыя з важным выглядам сьпяшаліся мацаваць дыктатуру. У абодвух накірунках па вуліцы каціліся аўтамабілі. Напружаньне асьцярогі, што не пакідала яго доўгія дні і ночы, неяк паволі пачало нават меншаць, ён зноў трапляў у звыклы зь дзяцінства асяродак, ад якога быў надоўга адарваны. Добра, што ніхто пакуль не пазнаваў яго, ды асабліва й не ўзіраўся ў ягоны нічым не прывабны твар. Трохі было дзіўнавата, але ў тым горадзе, дзе ён пражыў жыцьцё, знаёмыя, мусіць, вывеліся, разьбегліся, хто куды. Шмат іх уцякло за мяжу, іншыя апынуліся за дротам ці ў турмах. Астатнія сядзелі ціха, мабыць, перажывалі спазьнелае адчуваньне віны перад дыктатурай і

найболей — перад Бульдозэрам. Над гарадамі і паселішчамі гэтай краіны ўдзень і ўначы лунала ўсеабдымная здань страху, якая паралізавала волю.

Чалавек ня быў надта наіўны ў палітыцы і сваімі ўчынкамі ня меў спадзяванкі ўзварушыць народ, падштурхнуць яго на барыкады. І ўсё ж… І ўсё ж нейкая карысьць будзе, думаў ён, выпраўляючыся ў апошні свой шлях. Калі ня зараз, дык потым. Калі аб тым не напішуць тутэйшыя газэты, дык пабягуць чуткі, напэўна, перадасьць замежнае радыё. Гэткія ж рэчы здараюцца ня кожны дзень. А ў межах ягонай краіны, дык ці не ўпершыню за сто гадоў. І ўжо напэўна ягоны ўчынак — першы за час гэтай Цынічнай дыктатуры.

Сьцяўшыся ў тугі камяк, чалавек таропка пракрочыў паўз шыкоўны шкляны пад'езд высачэзнага гмаху замежнага банку, дзе, як заўжды, тоўпілася група паліцыянтаў у навюткай шызай форме. Унізе ля прыступкаў іх чакалі стракатыя ад розных колераў аўтамабілі зь мігалкамі. А крыху далей, пад мэталёваю агароджай царквы, сядзеў нядоўгі радок жабракоў — тых, каму не хапіла месца на цьвінтары. Выпетраныя жыцьцём старэчыя твары, схуднелыя рукі, якія цягнуліся да мінакоў, вочы ўмольна лавілі чужыя позіркі. Лепей было туды не глядзець, даць ім у яго не было чаго. Ён толькі збочыў ад іх на асфальт і тады на каменным слупе агароджы ўбачыў шырокую абвестку з партрэтамі і паліцэйскім подпісам унізе. Бегла зірнуўшы туды, чалавек аж скалануўся, пазнаўшы ў адным з партрэтаў сябе. Праўда, там ён быў маладзейшы, паголены, з гальштукам. Несумненна, то былі злачынцы, якіх шукала паліцыя. Але чаму на царкве? Ці ўжо й вернікі рабіліся памагатымі дыктатуры, зьбянтэжана падумаў чалавек. Зрэшты, а чаму б і не? Царкоўныя герархі працавалі на яе заўзята, мусіць, варта было чакаць таго і ад вернікаў… Здаецца, там была пазначана, і сума ўзнагароды тым, хто іх выдасьць. Тады тым болей, каму ня хочацца зарабіць у жабрацкай краіне.

Побач па бруку праімчаліся некалькі джыпаў з рулямі

кулямётаў над ветравым шклом. У іх цесна сядзелі крутаплечыя постаці гарылаў у зялёных, пад мяккімі чахламі касках. Мабыць, куды на аблаву ці ўжо з аблавы, падумаў ён без жаднае, аднак, засьцярогі і схамянуўся. Яму ўжо заставалася няшмат, ягоная роля самапала блізілася да фіналу. На рагу ўжо віднелася паваротка, далей была караценькая вулічка да ратушавай плошчы, дзе хутка ўсё і скончыцца. САМАПАЛ было для яго слова новае, нязвыклае, мабыць, не пазначанае ні ў адным слоўніку, наватвор праклятага часу; здаецца, раней у ім не было патрэбы. А цяпер во такая патрэба зьявілася. Упершыню ён учуў яго з радыёперадачы пра падзеі ў далёкай паўночнай краіне і хутка забыўся пра яго. Аж во пакуль яно не займела непасрэднага да яго дачыненьня на тым, апошнім для яго паседжаньні камітэту. Як абмеркаваньне падышло менавіта да такой высновы, паўстала пытаньне — хто? Усе дужа задумаліся, ва ўсіх знаходзіліся прычыны. Ён такіх прычынаў для сябе не знайшоў. Прынамсі, па ім плакаць ня будзе каму, а самому ўжо ня прыйдзецца. Тое ўсё і вырашыла.

У прадчуваньні самага для сябе вырашальнага чалавек усё ж захваляваўся. Каторы раз памацаў у правай кішэні бэнзынавую запальнічку, запальнічка была на месцы — хоць бы не падвяла. Учора правяраў, тады спраўна пыхкала слабым сіняватым агеньчыкам. Мабыць, хопіць і слабога. Бэнзын быў гатунковы, самы лепшы на той запраўчнай станцыі, павінны загарэцца ўмомант нават ад слабой іскры. І ён пакіне гэты свалачны сьвет, грукнуўшы дзьвярыма. Ня дзеля славы — дзеля народа. Трохі шкада, што разам адыдзе і жыцьцё. Але што зробіш? Ня ён першы і, трэба спадзявацца, не апошні.

Бадай, ён ужо дайшоў да апошняй паваротка на плошчу і нават міжволі парадаваўся, што ўсё абышлося. Галоўнае, не спаткаў нікога зь ліку знаёмых, і гэта абяцала ўдачу. Зь нейкага часу ён стаў адзінцам, чалавекам паасобнага кшталту; пара калектывізму для яго мінулася.

Адрываючыся ад рэальнага, ён ужо пераходзіў на адпаведны моманту патэтычны лад, пачынаў думаць у высокіх катэгорыях. Што было для яго жыцьцё? Асалода? Пакуты? Нейкі абавязак перад людзьмі? Перад Богам? Ні тое, ні гэта. Мала было асалоды і, калі падумаць, няшмат і пакутаў. Іншыя пакутавалі болей. Уся справа, аднак, як да таго ставіцца. Ён меў занадта вялікае адчуваньне гонару і паставіўся да таго надта строга. Ягоныя сябры былі надзеленыя большаю схільнасьцю да лібэралізму, ён жа застаўся заўзятым рыгарыстам. Асабліва пасьля гібелі Яны. Хто яна была для яго? Яна не была жонкаю, не была нават каханкай. Яна была для яго МАДОНАЙ. І яе ня стала. Яна згарэла не ад любові — ад цынізму несправядлівасьці. Банальную несправядлівасьць яна прызвычаілася трываць гадамі, нахабна-цынічнай — ня здолела і двух месяцаў. Калі яе маладзейшы каханак з дэмакрата-філёзафа ператварыўся ў шэфа дыктатарскай прапаганды, жыць яна не стрывала. Яе пагібель, мусіць, стала для чалавека апошнім штуршком да ягонага азарэньня.

Да павароткі заставалася дзясятак крокаў, як раптам ён убачыў перад сабой кабеціну ў чорным. Нейкім зьдзічэла-спакутаваным позіркам тая ўперлася ў ягоны твар, вочы яе раптам расшырыліся, і яна закрычала:

— А-а-а...

На момант ён зьмізарнеў пад тым яе зьдзічэлым позіркам, а затым і ад гэтага нямога крыку, не адразу пазнаўшы ў жанчыне маці ягонага студэнта-сухотніка. Пакуль ён сьцяміў тое, жанчына каршуном наляцела на яго і невялікаю сумкай на ланцужку пачала біць яго — па галаве, па плячах, па твары і крычаць:

— Забойца! Забойца! Забойца...

Адчуўшы, што ўсё ў яго рушыцца, ён ірвануўся прэч, на брук, ледзьве ня трапіўшы пад вялікія колы чорнага лэндровэра. Але жанчына не адрывалася ад яго, прадаўжала крычаць, і людзі, колькі іх было навакол і паблізу, паварочваліся да іх — сьпераду, ззаду, з бакоў.

Чалавек памкнуўся назад, дзе, як здалося, было трошкі вальней, і з усяе моцы прыпусьціў па вуліцы. Мусіць, тое стала яго фатальнай памылкай: кожны драпежнік бяжыць за тым, хто ўцякае. Пабеглі й за ім... Ягоны ж інстынкт самазахаваньня пагнаў яго прэч — каб толькі адчапіцца ад гэтай звар'яцелай жанчыны. З шырокай вуліцы ля царквы ён завярнуў на вузейшую, на рагу азірнуўся — за ім беглі пераважна мужчыны, але траплялiся і жанкі таксама. Сьледам па вуліцы несься разрозьнены лямант і крык. Натоўп даганятых усё гусьцеў, зьяўляліся новыя людзі — з падворкаў, ці што, далучаліся да тых, што беглі наперадзе. Праз момант яго ўжо сталі абмінаць — з бакоў і пад сьценамі. Мабыць, справа ягоная рабілася дрэнь. Асабліва, як з-за высокіх сетак тэніснага корту збоч вуліцы выскачылі двое ў спартовых гарнітурах, гэтыя апынуліся наперадзе ўсіх. Іншыя, не адстаючы, беглі й беглі сьледам і, бы зайца ў полі, гналі яго да ўскраіны. Усе крычалі-галёкалі, іх усё большала, а ў яго ўжо не хапала дыханьня ад гэтага зьдзічэлага бегу, і ён ня ведаў, што рабіць. І што думаць нават. То было неспадзеўна, несправядліва, няўцямна. Адчуваючы, што захлынаецца гаркотаю ад стомы, ён шаснуў у расчыненыя вароты знаёмага зь дзяцінства прыземістага дому з платанам каля ўваходу. Ведаў, калісь там быў скразны ход на суседнюю вуліцу, можа б там ён адарваўся ад даганятых. І тут жа зразумеў, што памыліўся — двор перагароджвала суцэльная бэтонная сьцяна, на якую ён скочыў з разьбегу. Яму пашчасьціла ўхапіцца рукамі за яе чарапічны верх, і ён кінуў угару нагу. Яшчэ не ўзабраўся наверх, як адчуў прарэзьлівы смурод бэнзыну. Па беленым баку сьцяны папаўзьлі няроўныя сьмярдзючыя пісягі, хатулёк адразу аблягчэў, і Чалавек абвяла зваліўся на брук пад сьцяну. Спартовыя хлопцы ў тэніскаx схапілі яго за рукі, вывелі на падворак, куды зьбягаўся разрозьнены натоўп ягоных даганятых. Усе ўзрушана гаманілі, лаяліся ці спрачаліся нават, але ён ня слухаў. Нехта садраў зь ягонага пляча сьмярдзючы, непатрэбны цяпер хатулёк. Хтось пасылаў у паліцыю. Наўкола раілася рознагалосая гамана. Хтосьці задыхана распавядаў, як згледзеў яго і не адразу пазнаў. Іншыя даводзілі, што адразу кінуліся наўздагон, бо адчулі:

уцякае ня так сабе. “Падпальшчык! Ах ты, падпальшчык!” — лямантавала жанчына, і ён трохі паўслухоўваўся, стараючыся даўмецца, што ўсё ж сталася? Чаму? Ці то непаразуменьне, ці злая воля, ці ягоны недаравальны промах? А можа, заканамернасьць, фатальная прадвызначанасьць? Ці... паратунак ад самога сябе? Але што лепей? Узрушана адчувалася, аднак, што ўсё кепска. Для яго даўно ўжо не здаралася, каб лепей. Толькі горш... Гэта не народ, гэта не народ, як суцяшэньне, няўцямна гучала ў ягонай сьвядомасьці, і тут жа выразна чулася іншае: а тады хто ж? Хто тады былі тыя, што загналі яго ў пастку? Не прынялі ягонае ахвяры? Ці ён нявартым быў для таго ахвяраваньня? Чагосьці цяпер ён ня мог зразумець ад узрушаньня, і няўлад са сваім станам, падумаў: усё ж трэба было адвязаць восьліка...

Нейкі час у яго ўсё пыталіся, чагось ад яго дамагаліся, але ён не разумеў і ня слухаў. Маўчаў ён, калі на падворку зьявілася паліцыя, і купка людзей расступілася, прапушчаючы да яго двух гарылаў у іх сьмецьцевай форме. Ён не зірнуў у іх твары — ён добра ўжо ведаў тыя нахабныя твары і ніколі не хацеў іх бачыць. Зрэшты, як і твары з натоўпу таксама. Цяпер яны для яго зьядналіся ў адзін агідна абагулены воблік, ад якога пагрозьліва патыхала сатанінскім злом. Ён нават недарэчна зьдзівіўся, як мог столькі трываць іх у сваім нядоўгім жыцьці? Мусіць, так думаць было несправядліва, усё ж належала аддзяліць адно ад другога. Але цяпер штось разьдзяліць ён ня мог. Штосьці ў ім скранулася са свайго звыклага месца і назад не трапляла...

## Сьцяна

*Рыгору Барадуліну*

Сьцяна была каменная, закапцелая, дужа старая, як і ўвесь гэты будынак-турма, што дастаўся дыктатару краіны ад ранейшага дыктатара, а таму — ад яшчэ

ранейшых. Дыктатары ў гэтай краіне не выводзіліся ніколі. Калісьці тут балявалі ці спраўлялі крывавыя трызны, плялі змовы і ўсялякія іншыя злачынствы — супраць улады, народа ці каго з тых, хто выйграў у бясконцай барацьбе за ўладу. Або прайграў таксама. А цяпер тут сядзеў ён і такія, як ён. Іншыя, мабыць, сядзелі даўно і доўга, ён жа тут апынуўся нядаўна. Ранейшыя ягоныя гады і месяцы мінулі ў іншым месцы, надта, аднак, падобным на гэта. Таму перамена месца зьняволеньня ня дужа яго ўзрушала — і там, і тут для яго быў нарыхтаваны каменны калодзеж, сыры і цёмны, — пяць крокаў удоўж і тры ўшыркі. Жалезныя дзьверы з засовам, сьмярдзючая параша ў куце — як і ўсюды. Адзіным, што тут прыцягвала ягоную ўвагу, была сьцяна. Тая, што насупраць ад дзьвярэй.

Колькі і дзе ні сядзеў, ён заўжды цікавіўся сьценамі, тым, як і з чаго яны зробленыя. І асабліва — што было па той бок, за сьцяной. Звычайна па той бок была зваблівая, недаступная для яго воля, пра якую ён не пакідаў марыць. А зробленыя сьцены былі як трэба, як гэта ўмелі рабіць калісьці: камень, вапна і цэгла — усё спрэс сьцьвярдзелае і нязрушнае, не драпанеш. Не прастукаеш нават. Яшчэ ў першы тут дзень ён спрабаваў пастукаць на звыклай для яго турэмнай азбуцы, але ніякага адказу не пачуў. А можа за сьцяной не было нікога. Значыць, там магла канчацца гэтая мур-турма і пачынацца воля. Зелянець на сонцы які куст цёрну, трава, буяць пры сьцяне старыя дрэвы замкавага парку...

Стоячы на каленях ля сваіх лахманоў, ён прыслухаўся. Але скрозь было ціха. Наглядчык нядаўна пратупаў за дзьвярыма, крокаў яго ўжо ня стала чуваць. Слабая электралямпачка пад дужа высокаю чорнай столлю ледзьве разьвейвала змрок на каменнай падлозе; была, мабыць, глухая турэмная ноч. І ён пакрысе папоўз на каленях каля той супрацьлеглай ад дзьвярэй сьцяны, пачаў яе мацаць, агладжваць — дасьледаваць.

Ніжні рад буйных каменных блёкаў быў складзены шчыльна і нязрушна і не прымаў у сябе ніякі ягоны стук

— хоць костачкай пальца, хоць кулаком. Тое ж было і вышэй. Драпін і нейкіх адзнак людзкога паходжаньня на камянях хапала, але яны мала пра што яму сьведчылі. Можа, там было што напісана, ды ў паўзмроку нічога нельга было разабраць. Хоць ён і не дамагаўся таго. Навошта яму былі адзнакі чыйгосьці лёсу — яму хапала свайго: пакутнага, гаротнага і дужа няўдалага. Трудна было ўявіць чаго іншага ў тым лёсе, апроч гэтай во каменнай нары. Мабыць, іншага й ня будзе ніколі, тут і скончыцца ягонае жыцьцё. Бяз жаднай надзеі.

А так хацелася лепшага, якой перамены. Толькі якой? Увогуле ён выдатна разумеў, што на спадзяванкі не было падставы, трэба было мірыцца з найгоршым. І з тым дажываць адмераны табе Богам і судзьдзямі тэрмін. Ды ўсё ня мог саўладаць з надзеяй. Здаецца, яна ўпарта і неадчэпна валодала ім.

Сьцяна была сьцюдзёная і цьвярдая. Спрэс шурпатыя бакі граніту, закамянелыя ад часу наплывы вапны. Дзенідзе, праўда, траплялі мякчэйшыя кавалкі, складзеныя з каменя-ракушачніку. І толькі ў кутку, у сырым і нават вільготным кутку ўнізе... Час ці, можа, вільгаць штосьці зрабілі нават з каменем ці з вапнавай зацьвярдзеласьцю — там, здалося яму, было трохі мякчэй. Вядома, ня так, каб можна было штось выдраць, які кавалак. Але калі паруліцца... Мусіць, варта было паспрабаваць.

І ён спрабаваў. Сьпярша кіпцямі, ды хутка пазламваў іх на абедзьвюх руках. Тады голымі пальцамі. Пальцамі, вядома, ня шмат дамогся, ды ўсё ж...

У яго зьявілася надзея, быццам нават цьмяная мэта жыцьця. Ён пачаў менш успамінаць былое, нават меней гаротна думаць. Толькі чакаў, як крокі наглядчыка трохі прыціхалі за дзьвярыма, тады кідаўся ў кут, сядаў на кукішкі і дзёр, калупаў, драпаў. Ён амаль не пазіраў туды, яму ўжо ня трэба было сьвятло, пальцы яго ведалі ўсе драбніцы каменя, увогуле надта цьвярдога, якога, здаецца, ня бралі ніякія ягоныя высілкі. Але на ражку, у самым кутку быццам было зручней — мякчэй, ці што. Менавіта там і сышліся цяпер усе ягоныя назапашаныя

за гады воля і надзея.

Ён спаў у суткі, можа, якіх пару гадзін перад пабудкай — скорчыўшыся на трантах пад сушэйшай сьцяной, неяк забываўся, пакуль здалёку не далятаў гук гонга — сыгнал уставаць. Чакаў сьняданку, міскі чачавічнага сёрбава, якое зьядаў за хвіліну. Астатні час удзень і ўначы бавіў у куце — бы шашаль у дрэве, тачыў камень. Ражок каменя ўжо яўна вызначыўся на каменным рэльефе, мабыць, яго можна будзе паспрабаваць выдзерці першым. А там мо зьявіцца і дзірка. Ці хоць бы патанее сьцяна. Хоць бы каб маленькая дзірачка, ён бы, здаецца, пралез. Як было ў дзяцінстве, калі яны, падшыванцы, лазілі цераз агароджу ў суседзкі сад. Старэйшыя яго пасылалі першым, бо быў ён самы худзенькі-маленькі рухавы жэўжык, які пралазіў усюды, дзе толькі можна было пралезьці. І дзе не было ніякай магчымасьці — таксама. Ведаў з таго часу — калі пралазіла галава, магло пралезьці і ўсё цела. Такі быў жэўжык. Пакуль не падрос і не заняўся палітыкай. У палітыцы было інакш. Часам ня мог пралезьці ніхто. Не пралез і ён. Таму і папаўся.

Ён не лічыў дзён і ня ведаў, колькі мінула іх, як ён улёг у сваю бясконцую працу. Час для яго чаргаваўся пабудкай, ядой — двойчы на суткі, крокамі наглядчыка за дзьвярыма — туды і назад. Як зьявілася мэта, узьнікла нецярпеньне. Часам яно так жахліва ўзгаралася, што ён палохаўся. Ведаў, так нельга. Калі што і выйдзе, дык дужа няхутка, праз нялёгкае пераадоленьне каменя і часу. Для таго патрэбныя дні, месяцы, а то й гады. Трэба было запасьціся вялікім трываньнем, уменьнем скараць час. І ён запасаўся. Прывучаў сябе да павольнасьці, мэтадычнасьці, непасьпешнасьці. Трудна было да таго прызвычаіцца, засвоіць тую нетаропкасьць, д'ябальскую вытрымку, зрабіць яе другой уласнай натурай. Але ён стараўся, бо без таго ня стала б надзеі. Нецярпеньне нішчыла надзею, гэта ён ведаў пэўна. Надзея ж часам то зусім замірала, то ўзгаралася да нясьцерпнасьці. Неяк, калупаючы ўсё за ражком каменя, ён пачуў па той бок сьцяны нейкія адзнакі жыцьця: быццам піск птушаняці.

Нутраным зрокам ён ужо ўбачыў там птушынае гнязьдзечка — недзе паблізу, у зарасьніку цярноўніка, маленькія жаўтаротыя птушаняты, і тое здалося яму дужа добрым знакам. Нецярпеньне ахапіла яго да роспачы. Спатрэбілася сьцюдзёная лёгіка развагі, каб астудзіць яе. Той піск мог быць зусім не птушыны, а мышыны, напрыклад. Значыць, там магла быць нара з агіднымі турэмнымі пацукамі. Але й нара, мусіць, вяла кудысьці з муру. Можа, таксама на волю.

Аднойчы на зыходзе глухой начы, якую ён перабыў амаль бяз сну, усё калупаючы ў сваім змрочным кутку, адчуў, што той вугалок-аскялёпак нібыта кратаецца пад ягонымі пальцамі. Ня надта каб дужа, але ягоныя чуйныя пальцы ўсё ж запрыкмецілі невялікі рух — уніз і ўгару. Тое надало яму незвычайнага імпэту. Ён напяўся, ірвануў, але тут жа і астудзіў сябе: сёньня ня трэба. Сёньня хай будзе ўсё, як было. Мабыць, выдзерці той аскялёпак трэба на пачатку ночы, а не ў канцы. Усё ж напачатку куды болей часу і болей магчымасьці. Зноў жа ўранку звычайна прыходзяць наглядчыкі.

Перад прыходам наглядчыкаў ён турбаваўся, каб тыя чаго не заўважылі на ягоным твары—якога ажыўленьня, сьледу надзеі. Хоць у камэры было змрочна, але ён ведаў: штосьці магло адбіцца ў выразе яго аброслага шчэцьцю твару, у які яны кожнага разу пранікліва ўзіраліся. Зь цікавасьці ці з абавязку свае турэмнае службы. І ён намагаўся зрабіць той выраз як мага спакайнейшым, засяроджаным на чымсьці ўнутраным, сонным, замкнёным ад зьнешняга позірку. Невядома, як тое яму ўдалося, але, здаецца, наглядчыкі пакуль што нічога не заўважалі. Тое ўжо было немалой удачай. Але ўдач цяпер яму трэба было шмат, ён прагнуў удач. І найперш у тым сырым куце.

І праўда, лёс да яго, мусіць, паставіўся міласэрна. Неўзабаве ён выдраў каменны аскялёпак — вузкі, з вострымі бакамі, за якім, аднак, нічога яму не адкрылася. Далей скрозь быў цьвярды, шурпаты, сьцюдзёны камень. Але тым аскялёпкам усё ж можна было дзейнічаць, нібы інструмэнтам, тачыць ім паміж

камянёў. І ён пачаў тачыць, адломваць, шараваць камень аб камень. Біць ён ня мог, трэба было як мага пазьбягаць кожнага гуку, каб нічога ня ўчулі ні за дзьвярыма, ні там, за сьцяной. Ён па-ранейшаму ня ведаў, што яго там чакае — воля ці, можа, новая турма. Але надзея ўпарта малявала яму пэўныя пэрспэктывы волі: горад, спатканьне зь сябрамі і зь ёй... Яму б толькі адолець гэты каменны мур.

І ён калупаў — ціхенька, з асьцярогай, увесь час чуйна прыслухоўваючыся да шолахоў-гукаў за дзьвярыма. Раз-пораз падхопліваўся ды кідаўся на свае транты ў другім кутку. Але ўначы тое здаралася рэдка, уначы да яго праз дзьверы амаль не зазіралі, болей глядзелі зьвечара. Пад раніцу наглядчыкі таксама, мусіць, стамляліся, хадзілі радзей і павальней. Аднойчы ён сьцяміў, што варта пасунуць пасьцелю бліжэй у кут, каб рабіць сваю справу лежачы, так было б больш непрыкметна. Але як было тое зрабіць? Усё ж, калі пасунуцца з пасьцеляй на мэтр, яны адразу заўважаць. А калі памалу, па колькі дзюймаў за дзень? І ён пасунуўся. Сьпярша на тры дзюймы, пасьля на пяць. І яшчэ. Кожны раз, калі прыходзілі наглядчыкі, ён няўзнак і пільна назіраў за іхнымі позіркамі — ці не заўважылі яны? Не, пакуль быццам нічога. Ці, можа, гэтак умелі схаваць свае падазрэньні? Але тое было б жахліва, каб заўважылі і чакалі, маючы намер злавіць у самы апошні момант. Схапіць ззаду за ногі, калі ён ірванецца на волю.

У канцы лета ён ужо прасунуўся з трантамі ў кут амаль ушчыльную. Пра тое, што скончылася лета, ён меркаваў па вопратцы наглядчыкаў, якія апрануліся ў цяплейшае. Часам некаторыя прыходзілі, мусіць, знадворку, ад іх веяла восеньскай сьвежасьцю, з кроплямі дажджу на плячах уніформы. У камэры ж заўжды стаяла аднолькавая тэмпэратура — халаднаватая для лета і цеплаватая для зімы. Ніякага ацяпленьня тут не было.

Яшчэ праз нейкі час ён пратачыў між камянёў вузкую шчыліну, у якую пралазілі чатыры пальцы ягонай рукі.

Там сапраўды аказаўся лёх ці, можа, мышыная нара — вузкая і, здаецца, глыбокая. Ён ссыпаў туды ўсе наточаныя за ноч крошкі ад сьцяны, і яны зьніклі там, не пакінуўшы сьледу. Дзірку пад ранак, перад пабудкай, акуратна закладваў каменным аскялёпкам — той добра клаўся на сваё ранейшае месца, і нават зблізку нічога падазронага нельга было заўважыць.

Яшчэ дужа баючыся паверыць у сваю ўдачу, ён усё ж страціў частку свае насьцярогі і ледзьве не загубіў усю справу. Сталася тое праз ягоныя рукі. Неяк прынесшы ежу — міску чачавічнага сёрбава, наглядчык, немалады, з хваравітым тварам мужчына, спыніў позірк на ягоных руках. Ён таксама заўважыў тое, але рук схаваць не пасьпеў — у абедзьвюх была ягоная міска. “Што, будаўнік?” — папытаўся наглядчык і кіўнуў на ягоныя рукі. Будаўнік, — як мага спакайней адказаў ён, хоць у ягонай душы ўсё напялася ад раптоўнага страху: няўжо здагадаўся? Але не, здаецца, не здагадаўся, бо сказаў быццам са спачуваньнем нават: і я рабіў мулярам. Пасьля ўжо, застаўшыся на адзіноце, ён уважліва дасьледаваў свае агрубелыя, у цьвярдых мазалях рукі. Ніколі яны ў яго не былі такія, фізычнай працай на волі ён амаль не займаўся. Будаўніком стаў тут, у гэтай камэры. Толькі не будаваў — бурыў старадаўні каменны мур; мабыць, тое было цяжэй, чым будаваць. Але дзеля волі на што ня пойдеш? Тое можна зразумець, толькі назаўжды страціўшы яе, волю.

Мусіць, было б лепш, калі б ён загінуў, памёр, каб яго пахавалі сябры па барацьбе, і яна, паплакаўшы, пахавала б разам зь ім і сваё да яго каханьне. Так было б лепей, але так ня стала. Сталася горш, і тое душыла сваёй няпэўнасьцю, несканчонасьцю, недагаворанасьцю. У той восенскі вечар яны рассталіся, як меркавалі, на пару гадзін, апоўначы ён абяцаў вярнуцца ў яе сьвяцёлку на паддашшы акрай гарадзкога парку. І яна, памятае, нават не зьбіралася класьціся спаць, сказала: буду чакаць. І не разьвіталася як мае быць, толькі трошкі прыгарнулася да яго і расчыніла палавіну дзьвярэй — ідзі! Ён і пайшоў. Ён сьпяшаўся, бо ісьці было на край гораду, а часу

бракавала, і ён спазьняўся. Каб ведаць, куды сьпяшаўся! Думаў, па справе іх сьвятой барацьбы, да сябра, а там чакала яго самая чорная здрада. І ён не пасьпеў падаць каханцы хоць які-небудзь знак, так нечакана абрынулася на яго бяда. І зьнік назаўжды. Можна было падумаць: уцёк. Ад сяброў, ад яе, з гораду наогул. Ды яшчэ падумаць, што здрадзіў. Можа, усё тое зрабілі іхныя ворагі, каб сябры і яна думалі, што ён прадажнік. І цяпер замест каханьня яна яго ненавідзіць. Хіба ж можна кахаць здрайцу? А яшчэ ён не сказаў ёй самага галоўнага слова — усё думаў, зьбіраўся, ды адкладваў. То не было зручнага моманту, то здатнага для таго часу. Думаў: пасьля.

Не, яму вельмі патрэбна апынуцца на волі.

Усе гады, праведзеныя ў адзіночках ды ў агульных камэрах, ён і ня марыў калі-небудзь дачакацца волі. Вядома, можна было чакаць амністыі, часу, калі сканае дыктатар. Але дыктатары ў гэтай краіне паміралі нячаста, бо мелі жалезнае здароўе, як і наогул усе дыктатары. Хутчэй памрэ ён, ягонае здароўе ніколі не было надта моцнае. На волі, праўда, неяк ліпеў, падахвочаны барацьбой за вялікую ідэю. Тут жа ён падупаў і часта кашляў, балела ў грудзях. Але як зьявілася гэтая надзея, ён адчуў сябе лепш, быццам набыў другое дыханьне, і кашляў толькі лежачы на трантах, як калупаўся ў кутку, нават не кашлянуў ні разу. Ня мог таго дазволіць сабе.

Аднойчы глыбокай ноччу, як пратупалі за дзьвярыма і сьціхлі крокі наглядчыка, ён намацаў у нары штось новае. Новы край каменя, ражок, за які можна было ўхапіцца. Пакуль што аднаруч, але, калі яшчэ папацець, дык можна і аберуч. Тое адкрыцьцё яго надта ўзрушыла. Гэта быў плён, новыя магчымасьці, узрастаньне надзеі, набліжэньне жаданай мэты.

Але, мусіць, ня трэба было сьпяшацца. Хутка выдраць той камень наўрад ці ўдасца, на тое ў яго проста не хапала сілы. Сьпярша трэба было абкрышыць, пашырыць шчыліну, можа, раскалупаць побач другую. Усё ж, мусіць, ён перабольшыў свае магчымасьці, пачаў

дужа пацець і, натуральна, стамляцца. Асабліва пад ранак. Ды яшчэ бадай што бяз сну. Якіх дзьве гадзіны зьвечара ці перад пабудкай, мабыць, было замала, каб адысьці ад стомы, аднавіць сілы. Сваю міску чачавічнага сёрбава ён зьядаў усю, але таго было цяпер мала. Неяк папрасіў дабаўкі, ды на яго толькі зьдзіўлена глянулі: чаго гэта ён раптам? І ён змоўк. Мусіў абысьціся тым, што давалі.

З тае хвіліны, як ён намацаў край каменя, часьцей стаў думаць пра яе. Яе мілы воблік паўставаў перад ім у куце, як ён калупаў, шкрэб, тузаў. Зьяўляўся ў кароткім сьне. І заўжды кепска — сумна і гаротна. Ніколі — весела, гульліва, як нярэдка было наяве, асабліва калі яны заставаліся ўдваіх на яе паддашку. За сьценамі шумеў дрэвамі вецер, у вокны пазіралі вузлаватыя сукі клёнаў, а ім так хораша было ўдваіх. Нават бяз словаў. З маўклівым клопатам адзін пра аднаго і аб іх агульнай і сьвятой справе.

Цяпер яму б толькі сказаць, што ён кахае яе і ён — ня здраднік. Ён — ахвяра, і няхай яна тое ведае. Каб усё папраўдзе. Каб яна ня думала пра яго інакш — інакш ён не заслугоўвае. Каб ён ведаў, як тое можа абярнуцца, ён быў бы тады інакшы. Быў бы ў сто разоў лепшы. Сьмялейшы. Разумнейшы. І кожны дзень, калі яны былі разам, гаварыў бы ёй, што кахае. Як нікога — ніколі. Калі б тое ведаў. Але ж ня ведаў і не сказаў. І яго дужа гняло несказанае слова.

І цяпер гэтая надзея...

Пакуль што, аднак, усё ішло няблага. Падобна, турэмшчыкі нічога не заўважылі і ні пра што не здагадваліся. З воглага заўсёды кутка дужа веяла сьцюжай, камяні сталі халодныя, нават мерзьлі рукі. Тое, аднак, дало падставу адчуць, што засталося няшмат. Некалькі апошніх камянёў, а там — воля. Аднойчы ўдзень, лежачы на сваіх трантах, ён пачуў галасы — гэта адтуль, з-за сьцяны. Гаварылі дзесьці паблізу ад ягонага кутка, словаў нельга было разабраць, але то былі людзі з волі. Значыць, воля была дужа блізка. Менавіта ў такі час ён стрываў немалую

трывогу, што пачалася з ранку. За дзьвярыма ўсчаўся крык, здаецца, кагосьці там білі. Пасьля крык стаў глушэйшы, перайшоў у камэру, ці што? Ён сядзеў, слухаў і, сьцінаючы сэрца, чакаў. Думаў, што тое нейкім чынам можа тычыцца і яго. І праўда, неўзабаве ягоныя дзьверы шырока расчыніліся, уварвалася цэлая зграя турэмшчыкаў, з лаянкай выпхнулі яго ў калідор — пачалі шманаць. Перавярнулі ягоныя транты, абмацалі сьцены. Ён нібы абмёр ад кепскага прадчуваньня, здалося, што яны нешта ведаюць. Магчыма, ён аж пабялеў з твару і спалохаўся, што тое заўважаць. Быццам, аднак, не заўважылі — вымеліся, папярэдне піхнуўшы яго на скамячаныя растрэсеныя транты. Тую ноч ён не калупаў у куце, болей чакаў і слухаў. Нешта неспакойная выдалася ноч

— ледзьве не да ранку хадзілі й бегалі за дзьвярыма турэмшчыкі, зноў чуліся крыкі, лаянка, грозныя каманды. Але пад ранак усё быццам пацішэла і зусім аціхла. Ён трохі задрамаў перад пабудкай.

Наступныя суткі былі спакайнейшыя, і ён, бы згаладнелы да ежы, улёг у сваю справу. Ён стараўся браць углыб, у самую тоўшчу сьцяны, не калупаючы яе ўшыркі. Калі б ухапіцца глыбей, ды яшчэ абе268уч, каб ужо выдзерці, выкаціць вялікі камень, утварылася б нара-лёх. Каб толькі якая адтуліна. Ужо б ён прашчаміўся.

Што-колечы ён накалупаў, але стала невядома, куды падзяваць той каменны друз. Пакінуць у куце было нельга, тое б адразу заўважылі. Разы два ён высыпаў у парашу, якую выносілі зьняволеныя пад наглядам турэмшчыкаў. Але й тое было рызыкова. Хіба зьядаць? Пакуль што ён сыпаў друз у чаравікі, што стаялі збоч каля дзьвярэй. Быццам навідавоку, але змрок не даваў згледзець, што ў іх. Сам быў босы. Быццам у абутку яму было горача.

Ранкам аднаго дня, яшчэ да сьняданку, зірнуўшы ў свой кут, ён ледзьве ня страціў прытомнасьць: у змроку цьмяна сьвіцілася вузенькая кароткая шчылінка. Бы сьветлая стрэмка на глухой чарнаце сьцяны. Баючыся,

што тое заўважаць наглядчыкі, ён кінуў туды сваю турэмную куртку, неяк захінуў сьветлую стрэмку. Турэмшчыкі, і праўда, не заўважылі, але ён падумаў, што годзе! Трэба як найхутчэй ірваць кіпці. Інакш усё прападзе.

Наступнаю ноччу ён дамогся новага посьпеху — так пашырыў шчыліну, што мог прасунуць у яе абедзьве рукі, неяк узяцца за бок каменя. Належала яго рваць на сябе, але ці вырвецца? Ці стане ў яго столькі сілы? Усё ж сілы, мабыць, было малавата. Тады ён пачаў варушыць камень — цягнуць і піхаць яго з боку ў бок, зьверху ўніз. Тое адабрала нямала часу, але дало большы вынік, — здаецца, ён перамагаў каменную пароду. Зь яго слабымі чалавечымі сіламі і яго магутнаю прагай волі.

Нарэшце ён выдзер гэты камень, хоць у самога паплылі ад натугі каляровыя кругі ўвачу, захлыналася дыханьне. У сьцяне быў вузкі і глыбокі лаз, зь якога патыхнула сьцюжай і змрокам бязьмесячнай ночы. Але, мусіць, у яго не засталося часу. Да ранку былі лічаныя хвіліны — ён адчуваў, што не пасьпее. І ў апошнія хвіліны можа здарыцца бяда.

Зь вялікаю асьцярогай ён ускаціў камень на ранейшае месца, доўга круціў яго, пакуль уладкаваў дакладана туды, дзе ён заўсёды ляжаў. Неяк затуліў трантамі шчыліны. Здаецца, і зблізку нічога не было відаць. Але калі ня ўчыняць шмон. Калі будзе шмон, усё прапала.

Той дзень ён пачуваўся бы на іголках. То сядзеў, то ўскокваў, хадзіў сюды-туды па апрыклай камэры. Наглядчык, што прынёс яму сёрбава, быў у воглым шынялі і змакрэлых ботах, значыцца, там, на волі, ішлі дажджы. Здаецца, настала восень. І яго ня выкрылі. Ужо гэта была ўдача — нечуваная, небывалая. Жахліва, калі ўсё сарвецца у апошні час. У апошнія хвіліны. Яму б толькі дачакацца начы...

Але настала і ноч. Турэмшчыкі паводзілі сябе, як заўжды: прынесьлі вячэру, зьмянілі парашу. Ні ў іхных паводзінах, ні ў позірках, здаецца, не было нічога, што

выклікала б у яго трывогу. Ужо ён бы заўважыў. Ягоны позірк і слых сталі цяпер, бы напятыя струны, бы лазэрны прамень — ён заўважаў усё. Надта шмат цяпер залежала не ад яго — ад іншых. І ён настроіўся на іншых — на ягоных турэмшчыкаў. Што залежала ад яго, ён зрабіў усё. Нават болей, чым спадзяваўся.

Ён хваляваўся. Увечары ня здолеў зьесьці сваю пайку хлеба (ня лезла ў горла) і ня ведаў, куды яе схаваць. Нязьедзеная, яна магла выклікаць падазрэньне і выдаць яго. Сунуў у гамашы, да паловы засыпаныя друзам. А сам ужо прызвычаіўся босы. Як босаму будзе там, на волі, не хацелася думаць. Галоўнае, каб вырвацца на тую волю. Як добра ўцямнела і за сьцяной аціхлі ўсе шолахі-шумы, стаў на калені і перахрысьціўся. Канечне, ён быў ня надта рэлігійны, але ж... Мусіць, для надта вялікае мэты здатныя ўсе сродкі — і д'яблавы, і Богавы. Абы памаглі. Трохі адкаціў убок камень, згорбіўся, нагнуўся — галава пакуль што лезла. Дужа абдзёр вуха, садраў скуру на лобе, але прашчаміцца целам было трудней. Галоўнае, не пралазіла плячо і зь ім рука, як ён ні выкручваў яе ў гэтым каменным лёху. Тузаўся так і сяк, аж спалохаўся, што зусім зашчаміўся, бо ня мог ужо выдзерціся і назад. Але ўсё ж, неяк намогшыся, прашчаміў руку з галавой, мабыць, да крыві абдзёршыся пад кашуляй. Горш, аднак, што і далей ня стала лягчэй. Ён ужо адчуваў, што прасунуцца назад ці наперад у яго проста не стае сілы. Нейкі час ён ляжаў так, зашчэмлены ў камяніцы, і ня рухаўся. І тады выразна адчуў, што прападзе. Калі ня знойдзе ў сабе сілы на апошні рывок. Яго ахапіў спалох. Але спалох, мусіць, і надаў сілы, прымусіў ірвануцца. За штосьці ён учапіўся рукой наперадзе і трохі пасунуўся. Затым зноў напяўся і яшчэ пасунуўся. І яшчэ. І ўрэшце па грудзі выдзерся з каменага лёху, далей стала лягчэй. І ён апынуўся пад сьцяной знадворку, на мокрым, сьцюдзёным бруку з дробнаю траўкай між камянёў.

Вакол было цёмна, даволі сьцюдзёна, але зацішна. Нейкі час ён пластом ляжаў на бруку, аддыхваўся, ня ў стане падняцца, каб сесьці. Пасьля падняў галаву — у чорным небе высіўся шэры мур сьцяны, ад якой

паўколам зачынаўся іншы, — мабыць, вежа гэтага старога збудаваньня. Сьцяна была ўзбоч, каля ягонага лёху, што чорнаю плямаю зеўраў нізка ля ног. Вакол была ноч і воля, да якой ён нарэшце дапяўся. Але чаму ж ад яго адхлынула радасьць?

Нешта ўпарта замінала той яго радасьці, можа, змрочная няпэўнасьць навакольля — што тое было? Вуліца, падворак, закінуты сквэр? Але нідзе не відаць было дрэваў. Хоць павінны ж былі яны расьці ля старога турэмнага муру. Замест дрэваў стромка ішла ўвысь чорная вежа, а за ёй мроіўся ў цемры шэры прасьцяг усё той жа сьцяны. З кепскім прадчуваньнем ён устаў на ногі, хістаючыся патэпаў уздоўж сьцяны, мацаючы яе зьбітай да крыві рукой. Пад яго босымі нагамі быў сьлізкі сьцюдзёны брук. Хутка ён упёрся ў куток; высокая, на два паверхі сьцяна паварочвала ў іншым кірунку. Ледзьве ня подбегам ён скіраваў ля яе, усё мацаючы рукамі яе шурпаты тынкаваны бок, думаючы натыкнуцца на браму, арку ці які выезд. Ды марна. Ён бег нядоўга і ледзь ня выцяўся аб выступ старой і няроўнай каменнай кладкі, за якой, аднак, бы чарнелася штосьці. То была шырокая і высокая ніша зь дзьвярыма-выездам з гэтай каменнай пасткі. І праўда, у нішы чарнеліся вялізныя, абкаваныя жалезнымі крывулякамі дзьверы, але ні каля іх, ні ўнізе не прасьвечвала ні шчыліны. Не было і клямкі. Ён ціха патузаў дзьверы, паштурхаў плячом — тыя нават не скрануліся ад яго слабой сілы. Тады ён кінуўся адсюль у другі бок, выцяўшыся аб штось у цемры, апынуўся на бруку. Моцна пабіў калена, ускочыў і зьнерухомеў у палахлівым зьдзіўленьні. Над ім у змрочнай шэрані неба высіўся знаёмы абрыс шыбеніцы, амаль над самай галавой невысока зьвісала вяроўка-пятля. Пад ёй быў збудаваны драўляны падмостак, на які ён і натыкнуўся ў змроку. Выйсьця адсюль не было.

Прыгаломшаны і зьнясілены, ён ціха апусьціўся долу. То быў поўны тупік; пастка за ім зачынілася. Надзея, што вяла яго гэтулькі часу, увачавідкі змарнела і раптам сканала. Ён яшчэ жыў, але толькі нейкаю часткаю свае істоты. Жыць у турме ня мела сэнсу, памерці таксама

мела ня большы сэнс. Добра б не нарадзіцца зусім. Але, на жаль, тое ад яго не залежала...

## Труба

Халера на яе, гэткую дарогу, – калдобіна на калдобіне, гразь да калена – і калі яе разьмясілі гэтак? Але, мабыць, быў час, – вялізныя «МАЗы», трактары ды трубавозы ў слату і дождж разьмесяць і не такую дарогу. Тым болей хілы калгасны прасёлак, шкада яго ім ці што? Яны сваё зробяць і зьедуць у іншае месца, а вы тут куляйцеся да зімы па гэтых калдобінах. А зрэшты, Валеру сёньня напляваць на дарогу, калдобіны і ўсё гэта гразкае поле, ужо як-небудзь ён пройдзе. Праўда, ужо два разы ён падаў, пасьлізнуўшыся. Крысьсе ягонага плашча ў гразі, ногі да калепяў - таксама. Але сн няблага выпіў сёньня ў раённай забягалаўцы «Рыца», Сямён Рудак раскашэліўся, ды і ўся ягопая выручка за^бутэлькі засталася там жа. Во на бохан хлеба ды на кіло абаранкаў толькі і сабраў, каб не вяртацца дадому з пустымі рукамі. Цяпер, хоць і пазнавата, ён прыйдзе дамоў з хлебам, ня трэба будзе заўтра з бабамі ў чарзе зябнуць каля сельскай крамы, чакаць хлебавозку. Усё ж Валсра інтэлігент з вышэйшай адукацыяй, сельская эліта. А што яго жытло за шэсьць вёрст ад райцэнтру, дык ці ў тым вінаваты Валера? Ведама, некаторым пашэнціла болей, і тыя ўладкаваліся зручней, нават у самім мястэчку, у яго ж не атрымалася, і, па-сутнасьці, ён задаволены тым, што мае. А мае ёп пасаду загадчыка клуба калісь перадавога калгаса «Шлях да камунізму», – сьціплая, праўда, пасада, ды лепшай для яго не знайшлося, дзякуй і за гэтую. «Во і тупай цяпер з мястэчка дадому сваім камуністычным шляхам», – спрабаваў іранізаваць з сябе Валера.

Як заўсёды пад градусам, ён пачуваўся даволі разумным і сьмелым, часам велікадушным у адносінах да сяброў ды і да сябе таксама. Уласныя хібы па п’янцы яго мала craналі, ён іх доўга ў памяці не трымаў.

Вядома, з мястэчка можна было б ісьці і па бальнаку, але па бальшаку было куды далей, а ён і без таго задоўжыўся ў раёне. Во і спрастаў дарогу на сваю галаву. Пайшоў напрасткі па будоўлі газаправоду, цераз поле і Сакольскі луг. Хто думаў, што тут так разьмесяць газавікі?

Мабыць, аднак, дарма ён не падумаў пра тое, не прадбачыў, які можа быць гэты шлях да камунізму. Калі не атрымалася ва ўсёй краіны, наўрад ці можна было чакаць удачы для асобна ўзятага грамадзяніна, простага сельскага культурніка. Цяпер во купайся ў гразі. Добра яшчэ, што ён нападдатку, а калі б быў цьвярозы, было б зусім самотна. Цьвярозыя заўжды надта памяркоўныя, асьцярожныя і нават баязьлівыя. Валера ж баякам сябе не лічыў – дык ці яму саступаць цяпер перад гэтым балотам? Падумаўшы так, ён ужо не выбіраў дарогі і жвава крочыў па лужынах, тым больш, што ягоныя гумовікі былі яшчэ амаль новыя. Хаця і ў новых ногі чамусьці рабіліся мокрыя.

Ён яшчэ не дабраўся да сярэдзіны шляху, як пачало цямнець, лужыны зьліваліся ў непралазную багну, удалечыні ўжо стала нічога не відаць. Каб не згубіць накірунак, ён часьцей пазіраў на земляныя хрыбціны ўздоўж трасы, ад якіх па полі расплывалася багністая хлюпкая гразь. Дзе-нідзе яны разрываліся нядоўгімі прамежкамі – гэта там, дзе траса была ўжо скончана, труба пакладзена і траншэя засыпаная. Але так было ня ўсюды. На некаторых участках толькі нядаўна ў траншэю паклалі трубы – шырокія, укручаныя ў паперу і бітум, дыяметрам амаль у рост чалавека. У рост падлетка напэўна. Нездарма вясковыя школьнікі, што вярталіся з заняткаў ці ўцякалі з урокаў, ладзілі ў трубах дзіцячыя забавы: і біліся, і курылі, і нюхалі розную дрэнь. За мястэчкам на мінулым тыдні знайшлі цела нейкага недалыгі, утопленага ў траншэі. Казалі, таксама падлеткі забілі. А можа, і няпраўда.

На луг Валера выбраўся, калі ўжо сьцямнела, амаль зьнясілеўшы ў гэтай бясконцай барацьбе з дарогай. І нават нібы пачаў цьверазець. Цяпер ён ужо выразна

адчуваў, што лепш было заначаваць у мястэчку. Але ў каго заначуеш? У Сенькі Рудака было б здатна ва ўсіх адносінах – нязлы чалавек і хата новая. Але ў Сямёна – злосная жонка, якая ненавідзела ўсіх мужыкоў-выпівох. У Камянецкага жонка быццам бы і нашто, не крыклівая кабета, але ў кватэры няма дзе павярнуцца: трое дзяцей, невядома дзе самі сьпяць. У міліцэйскага землячка Пуставога Валера і сам не застаўся б, калі б той і прапанаваў заначаваць. Такіх, як Пуставой, належала абмінаць за сто вёрст. Запросіць, а пасьля яшчэ здасьць у працьвярэзьнік – казалі, такое ўжо рабіў. Не, у мястэчку ён не застаўся правільна, але во пайшоў не па той дарозе. Але ўся краіна хіба ідзе правільна? Тое меркаваньне трохі суцешыла Валеру: ён падумаў, што як у кроплі вады адбіваецца акіян, так і ў яго дурным выбары адбілася палітыка. Палітыка ягонай краіны – дужа было падобна да таго. Дык чаго ж тут дзівіцца?

Вось толькі надвор’е...

Надвор’е сапраўды рабілася ўсё болей сабачым. Мала таго, што рана пачало зьмяркацца, дык яшчэ і паімжэў дожджык, які ўсё мацнеў, гусьцеў і ўрэшце проста паліў. Усчаўся сьцюдзёны вецер. Нават у плашчы Валера хутка адчуў, што прамакае. На гэткай дарозе нядоўга было схапіць прастуду, грып ці яшчэ якую трасцу. Як ягоны сябра ветэрынар Круглякоў. Прамок на рыбалцы – пад ранак выпаў сняжок з марозам – і ўхапіў ветэрынар сухоты. Праз год пахавалі – не памаглі ні дактары, ні чарнаморскія курорты. Хаця Круглякоў і без таго быў хліпкага здароўя, – ня піў, не курыў. Валера ж пакуль на здароўе не наракаў. Аднак ён разумеў, што ўсё да часу, можа знайсьціся і на яго халера. Асабліва калі ня піць гарэлку. А якраз з гарэлкай цяпер рабілася ўсё горш – бракавала фінансаў. Грошы ў калгасе плацілі не рэгулярна, затрымлівалі на паўгода, часам не было за што купіць хлеба, ня толькі гарэлкі. Во і цяпер, добра што ён здаў сабраныя пасьля дыскатэкі ля клуба пустыя бутэлькі, а то б... А то б не было завошта і выпіць. Сёньня, аднак, выпіў, прасьвятліў душу. Цяпер толькі б дабрысьці дахаты.

Звычайна ў якім бы стане ні быў, ён заўжды стараўся даклыпаць дамоў, дзе чакалі яго два хлопцы-падлеткі ды ня вельмі ласкавая жонка, настаўніца Валянціна Іванаўна. Ня вельмі ласкавая, але свая. А што калі крытыкуе, дык такой бяды, – мусіць, на тое яна і жонка, каб крытыкаваць. Асабліва цяпер, калі партыі не да крытыкі, а іншых крытыкаў не засталося. Аддзел раённай культуры? Там адны бабы, а начальнік Кобзеў Сямён Пятровіч сам ахвочы паддаць, асабліва калі на халяву. Таму хаця для краіны настаў трудны час, для выпівохаў у некаторых адносінах – самы раз. Было б за што.

Дождж уначы яшчэ памацнеў, і Валера падумаў, што гэта ўжо занадта; трэба было б недзе схавацца. Але дзе схаваешся ў полі? Праўда, ён памятаў, што наперадзе каля луга быў пагорак, да якога з двух канцоў вялі газатрасу. Там павінен застацца яшчэ ня звараны стык. Было зусім ужо цёмна, калі Валера дабрыў да пагорка і ўзьлез на рыхлую земляную гару. Як ён і меркаваў, стык яшчэ не зварылі, канец адной трубы ляжаў у траншэі, а задраны канец другой трымаўся на перакладзіне – бервяне, пакладзеным цераз траншэю. Не выпускаючы з рукі сумку, Валера адважна прабраўся па бервяне да трубы, ухапіўся за яе шурпатыя берагі і ўскараскаўся ў нутро. Тут было суха, зацішна, толькі надта сьмярдзела бітумам; ды смуроду Валера ня надта баяўся. Галоўнае – не ліло за каўнер. Сьпярша на чатырох, а пасьля трохі прыўстаўшы, ён прабраўся ў гулкую глыб трубы і паваліўся задам на яе бакавіну. «Адпачну, дождж сьціхне, пайду...» Адразу зрабілася ціха і спакойна, нават быццам утульна ў металічным схове; неўзабаве ён падыхаў сабе на грудзі пад плашч і заснуў. Сноў яшчэ не пасьпеў згледзець, як праз нейкі час яго патрывожылі галасы: здалося, хтось таксама лезе ў трубу. Сустракацца тут з кім-небудзь у Валеры не было жаданьня, паўсонны, ён падняўся і, прыгнуўшыся, хутка палез па трубе – чым далей, – пакуль ня ўпаў, зморany алкагольнай стомай. Тут жа вольна выпрастаў ногі і бесклапотна салодка заснуў.

Сон убачыў ня страшны, нават у чымсь прыемны.

Здалося Валеру, нібы засядае бюро райкама і яго, як некалі, выключаюць з партыі. Увогуле зразумелая справа, але ўсе райкамаўскія начальнікі надта ўжо спачувальна ставяцца да яго, ня лаюць, не крытыкуюць нават, толькі цёпла, па-сяброўску ўсьміхаюцца. Нібы ён зрабіў штось выдатнае, можа, нават гераічнае. Быццам касманаўт, які толькі нядаўна вярнуўся з космасу на зямлю. Во толькі адчувае сябе ён не як касманаўт і не як гэтыя райкамаўцы, а зусім як злосны рэцыдывіст-крымінальнік. Асабліва ненавісны яму сакратар Сьцяпан Міхайлавіч, які кіруе пасяджэньнем і якому Валера ўсё імкнецца лупануць аплявуху. А той бы не разумее Валеру і нават не ўхіляецца ад яго. Але і Валера нешта кепска валодае сабой, – бы паралітык, хоча выцяць сакратара і ня можа. Скорчаная сударгай правая рука не слухаецца. Валера нярвуецца. І мабыць, дарма. Таму што, хаця яго і выключаюць з КПСС, але, па-сутнасьці, для ягонай жа, Валеравай, карысьці, для карысьці партыі і, значыць, усяго савецкага народу. У такім выпадку ці трэба абурацца і гэтак паводзіць сябе? Хаця Валера зусім не паважаў слаўную партыю бальшавікоў, амаль ненавідзеў яе злачыннае кіраўніцтва, але зусім ня марыў, каб яго з яе выключылі. Перад сабой і людзьмі, можа, было б болей сумленна самому выйсьці з яе, але і таго Валера ня мог дазволіць сабе – выхад з партыі быў раўназначны самагубству. Усё ж партбілет для яго, як і шмат для каго з іншых, быў галоўнаю хлебнай карткай, па ёй камуністы жылі, елі свой хлеб. Дзіўным, аднак, здавалася ў сьне, што яго дружна выключылі і гэтак жа дружна і радасна павіншавалі – усе па чарзе. У тым ліку і Сьцяпан Міхайлавіч, які на разьвітаньне нават па-бацькоўску абняў Валеру. Толькі вось заўжды незадаволена надзьмуты твар партсакратара стаў і зусім нібы ў бульдога, што, аднак, нікога тут не зьдзіўляла.

Дзіўнаватае ўражаньне зрабіла на Валеру тое выключэньне, сонныя пачуцьці яго пераблыталіся. І зблыталіся яшчэ больш, калі ён пасьля апынуўся на плошчы перад райкамам. З пыльнага завулка на плошчу хлынуў статак авечак (і адкуль ён узяўся?), прыціснуў

Валеру да штакетніку райкамаўскага палісадніку; на ягоных вачах авечкі пачалі ператварацца ў разыюшаных markdown рознапародных сабак, гатовых накінуцца на яго. Валера азірнуўся, шукаючы абароны ў райкамаўцаў, але тыя адразу некуды пазьнікалі, і ён застаўся адзін перад разыюшанай зграяй. Добра, аднак, што шаленства сабак працягвалася нядоўга, яны пачалі кудысьці зьнікаць, нібы растварацца ў прасторы. І вось ля яго застаўся адзін – стары Бобік, які шмат гадоў жыў у калгасе пры клубе. Гэты нязлосны, вушасты пёс з жалем у сьлязьлівых вачах уставіўся на Валеру, нібы чагосьці прасіў. Можа, есьці? Так ён звычайна рабіў каля клубнага ганка, калі раніцай чакаў гаспадара. Але цяпер у Валеры не было нічога, што можна было б яму кінуць. І тады ён успомніў пра сумку з хлебам, якой чамусьці не аказалася побач, і, заклапочаны, прачнуўся.

Сумку з гасьцінцамі ён намацаў адразу пад бокам, але яго зноў зьбянтэжылі галасы – быццам недалёкая мужчынская гамана. Валера не адразу прыпамятаў, дзе ён апынуўся, а зразумеўшы, зьдзівіўся, азадачаны пытаньнем: колькі ж ён тут праспаў? Галасы выразна даносіліся аднекуль зблізку, хаця зразумець, пра што там гутарылі, яму не ўдалося. Ён падхапіў сумку і жыва падаўся па трубе ў той бок, адкуль улез у яе. Праўда, ён ня ведаў цяпер, ці далёка адпоўз ад таго месца ноччу, памятаў толькі, што адпаўзаў ад нейкіх начных галасоў у трубе. А можа, тое яму здалося? Усё адбывалася ў п’яным стане, гэта Валера цяпер памятаў пэўна. Цяпер ён прабраўся па трубе даволі далёка, часам прыўстаючы, а болын – на кукішках, ды разрыву ў трубе ўсё не было. Галасы ж сталі бы глухнуць, часам зьнікалі зусім, дзесьці ціха тарахцеў трактар, чуліся выхлапы з рухавіка, і Валера, падумаўшы, вырашыў, што зблытаў напрамак. Мабыць, трэба было прабірацца ў другі бок. З прыкрасьцю на свой промах ён павярнуўся і палез назад.

«Усё ж кепская гэта справа – п’янка», – зусім ужо па цьвярозаму падумаў Валера. Цьвярозы ўсё пачынаеш разумець інакш, чым пад градусам. Не сказаць, лепш

або горш, але, несумненна, інакш. Здаецца, учора недалёка адпоўз ад канца трубы, а во сёньня патрэбнага стыку знайсьці ня мог. «Зусім заблудзіўся, п’яная морда», – крытычна падумаў пра сябе Валера. Падобна, праспаў ноч, а можа, і дзень. Што ў полі разьвіднела і працуюць трубаўкладчыкі, было пэўна. Толькі дзе ж да іх выйсьце?

Нязграбна, бы малпа, з дапамогай рук Валера адолеў ладны кавалак трубы, а ўчарашняга стыку ўсё не было, і тое пачало ўжо яго не на жарты палохаць. Ці, можа, ён так далёка залез ноччу, ці зараз зноў пайшоў не туды? Ня ў той канец. Але ў такім разе што ж атрымлівалася? Ці ўчора, ці сёньня ёп яўна быў зьбіты з панталыку, падобна, здурнеў чалавек, дах паехаў...

Нядоўга счакаўшы, адпачыў ад нязвыклага спосабу руху; з падкурчанай шыяй ён пралез трохі наперад і спыніўся. Тут галасоў зусім не было чуваць, колькі ён ні прыслухоўваўся ў цішы. «Можа, яны там пагутарылі і паехалі, – падумаў ён. – Дык куды ж усё-такі прабірацца – назад ці наперад? І дзе яны тут, гэтыя зад-перад?» Упершыню Валера адчуў спалох ад адзіноты і пакінутасьці. Хаця ён усё яшчэ ня мог канчаткова пагадзіцца з думкай, што пакуль спаў, яго заварылі ў трубе. Колькі ж гэта трэба было праспаць? Хаця газавікі працавалі хутка, а ад яго можна было чакаць усяго. На сон ён з маладосьці быў зух, асабліва як вып’е. Калісьці на вай- сковых зборах праспаў дзень і дзьве ночы ў кустах за лагерам. У роце яго ўсе шукалі, палічылі за дэзерціра. А ён проста дрыхнуў. Таксама пасьля п’янкі, канешне.

Але калі ён цяпер сапраўды доўга праспаў, дык ягоныя справы могуць быць кепскія. Нават вельмі і вельмі кепскія...

А можа быць; ён проста палез ня ў той бок і яшчэ не дайшоў да праклятага стыку? У тое, што той стык завараны ў час ягонага п’янага сну, ён ня мог паверыць. Не магло такога здарыцца. Не павінна здарыцца. Інакш...

З яшчэ болыным, чым раней, спрытам ён падаўся па трубе назад. Прыгнуўшыся, бег, караскаўся, хапаючыся рукамі за выгнутыя сьцепы трубы, здавалася, бясконца доўга, імкнучыся вярпуць па дураце страчаны час. Гадзіньнік на ягонай руцэ спраўпа ішоў, чуваць было яго ціхенькае цікапьне, але які паказваў час, – у цемры не было відаць. Стыку ўсё не было. Не чуваць стала і галасоў. Адчуўшы, што дарэшты зьнясільвае, Валера ўпаў бокам на выгін трубы і сьціх.

Можа, трэба было крычаць?

І ён пачаў крычаць, – на ўсё горла цягнуць бязглуздае «А-а-а-а...», якое, разыходзячыся ў абодва канцы трубы, вярталася далёкім трохі прыглушаным рэхам. Водгуку знадворку, аднак, не было ніякага, і ён замоўк. Вядома, калі траншэю засыпалі, ніхто яго на паверхні ня ўчуе. Ніколі! Але што ж тады атрымліваецца?

Кепска атрымліваецца, загадчык клуба Валера Сарокін.

Асірацее твой клуб перадавога калгаса-маяка «Шлях да камунізму», бязбацькавічамі застануцца хлопцы-блізьняты Коля і Дзіма. Можа, для прыліку трохі патужыць жонка – суровая жанчына Валянціна Іванаўна. Усё ж не зусім недалужны ён быў чалавек, яе абібок Валера. Зрэшты, цяпер яму хацелася думаць так. Яшчэ счакаўшы, Валера падумаў, што, можа, варта дакрычацца ў другім канцы, якраз там, дзе ён упершыню пачуў галасы. Але дзе быў той, патрэбны яму канец, вызначыць не мог. Здаецца, ён канчаткова зблытаў напрамкі. Яўна замітусіўся, разгубіўся, запанікаваў. А паніка, як вядома, – прамы шлях да пагібелі.

Не, трэба было ўзяць сябе ў рукі, менш думаць пра кепскае. Выбірацца, але думаць пра штосьці пабочнае. Пра тое, якой падлюгай аказаўся іх ветэран, франтавік, партызан і так далей Кузьма Зудзіловіч. Той, які ў будні і ў сьвяты гойсае па вёсцы, абвешаны медалямі ад пляча да дзягі свайго замызганага вайсковага кіцеля. Дурань Валера яшчэ запрасіў яго на выпівон у гонар канцэрта прыезджых артыстаў-гумарыстаў. З

гумарыстамі, як меркаваў загадчык клуба, абышліся зусім па-людску: прынялі, заплацілі, адправілі. Усё як трэба. А што ў ведамасьці заместа 300 рублёў ён пазначыў 400, дык хіба гэта новая справа? Заўжды так рабілі, бо трэба ж было наладзіць пачостку – і для гасьцей, і для некаторых з начальства. Парторга, напрыклад, які ніколі ня быў супраць таго, каб выпіць, і ў выпадку чаго мог прыкрыць. Як жа без парторга – партыя ж заўсёды наперадзе. Тады ён паклікаў яшчэ і Зудзіловіча, які выступаў з прывітаньнем ад імя ветэранаў, удзельнікаў ВАВ. Той, канешне, піў, еў за трох, і хто б мог падумаць, што назаўтра стукне ў райкам і ў КДБ таксама. Неўзабаве прыехала камісія, пачала капаць. Ну і накапала загадчыку клуба на кругленькую суму. Во тут і пачалося... Нібы гэтая сотня рублёў аказалася ў калгасе апошняй. Вунь на кароўнік убухалі 600 тысяч, і цяпер гэты помнік калгаснай сістэмы стаіць забыты і закінуты, а цэглу і дрэва местачкоўцы памалу расьцягваюць на свае лецішчы.

Не, дарма ён тады не набіў змаршчэлую морду гэтаму Зудзіловічу, пабаяўся падняць руку на камуніста. Сам на той час ужо камуністам ня быў, партбілет ужо адабралі на пасяджэпьні бюро райкама. Без партбілета ён доўгі час адчуваў сябс сіратой, асабліва калі ранейшыя яго сябрукі-таварышы, яны ж і сабутэльнікі, зьбіраліся ў клубе на партыйны сход і староньпіх прасілі «аслабаніць памяшканьне». Ён і аслабаняў – часам у адзінай асобе староньні. Хто мог думаць тады, што гадоў праз дзесяць шмат хто з гэтых людзей пакідаюць свае партбілеты ці пахаваюць куды далей – на ўсякі выпадак.

Валера ж тады апынуўся безабаронны перад рэвізорамі, парторг ад яго адвярнуўся, робячы выгляд, што ня мае ніякіх адносінаў да фінансавых махінацыяў загадчыка клуба. І давялося Валеру паўгода сядзець без зарплаты. Добра яшчэ, што Валяпціне плацілі ў школе і яна карміла дзяцей. Валянціна ў любых абставінах умела захаваць непахісны гонар камуністкі, дарэчы, маючы з таго ўсё, што толькі можна было тады мець: і неблагую кватэру, і няпыльную працу ў школе, і пуцёўкі ў дамы

адпачынку і нават у цэкоўскі санаторый у Ялце. Справядліва, аднак, зазначана, што за ўсё трэба плаціць, і Валяпціна старалася. На жаль, для Валеры гэтая плата аказалася празьмернай. Або непасільнай, не для ягонага розуму і здолыіасьцяў. Але – кожнаму сваё.

Працуючы ў школс, малады Сарокін, як усе настаўнікі, называўся па імені і па бацьку – Валерыем Паўлавічам. А стаўшы загадчыкам клуба, неяк неўпрыкмет страціў бацькава імя і зрабіўся проста Валерам. Ішлі гады, расьлі дзеці, набіралася мажнасьці жонка, а загадчык клуба ўсё заставаўся Валерам. Валера і Валера – для равесьнікаў, для старэйшых і нават для маладых – нахабпаватых танцораў клубнай дыскатэкі. Зрэшты, Валера не крыўдаваў, ён ужо ведаў, што ня ў тым шчасьце. Для яго ў гэтым жыцьці шчасьцем-удачай было б ня ўліпнуць у якую гісторыю. Ды во ўліп!

Халера на яго – няўжо сапраўды яму адсюль не выкараскацца? Проста анекдот нейкі, а не здарэньне. Хаця – усё па п’янцы. А па п’янцы чаго толькі не здараецца. Валеру гэта добра знаёма...

Але знаёма на прыкладзе іншых, а як во прысьпічыла самому, дык ён аказаўся прафанам. Галоўнае – усё ня мог зразумець, у які канец выбірацца. Увесь час здавалася: то ў той, то ў іншы. Самы элементарны выбар – адзін варыянт з двух, і на той ён аказаўся няздольны. «Дык гэта ж адзін, паасобку ўзяты чалавек, а чаго ўжо чакаць ад грамадства з яго блытанай залежнасьцю прычын і наступстваў, – па-вучонаму думаў Валера. – Ды яшчэ такога бязладнага і дурнога грамадства, як наша. Мабыць, тут трэба здольнасьці генія. Але дзе яго ўзяць у грамадстве авантурыстаў? Нават Бог тут не памочнік, тут ён будзе няздатны. Відаць, такая ўжо мы самабытная нацыя. Што ні зробім, усё не ў лад. Усё па-дурному – і сабе, і іншым».

Дык што ж – зноў трэба крычаць? Таму што іншага не выпадае. Ды і замарыўся Валера ад гэтага дурнога тузаныія пад зямлёй, у цёмнай жалезнай пастцы. Упёршы падагнутыя ногі ў выгнуты бок трубы, ён пачаў

крычаць штосьці невыразнае, самому незразумелае. Абы не маўчаць. Але так крычаць хутка яму надакучыла, захацелася хоць якога сэнсу ў гэтым выратоўчым крыку. І тады крык памалу набыў нейкія адзнакі маналогу. Маналогу крыўды ці скаргі – тое ўжо было Валеру ўсё роўна.

– Эй, там, наверсе! Мяне засыпалі! Замуравалі ў трубс. Чуеце? Я прападу тут, чуеце? Я ж чалавек, стварэньне божае. Губіце чалавека! Людзі вы ці не?

Напэўна, крычаў ён зусім разумна і пераканаўча, але адказу з паверхні, канешне, не атрымаў ніякага. І ён, сумна ўхмыльнуўшыся ў цемры, падумаў: «Марна стараешся! Так яны і кінуцца табе на дапамогу, прыгоняць бульдозеры, аўтаген, сьпецмашыны – пачнуць бурыць зробленае, раскопваць трасу. А калі ў іх няўпраўка з планам, зрываецца графік, сыплюцца штрафы-няўстойкі? Дык што ж ім – прыпыняць складана-сьвяшчэнны будаўнічы працэс? У іх – аграмаднасьць еўрапейскай задачы, магутнасьць транснацыянальнага канцэрна, які пампуе для Расеі валюту, неабходную для заняпалай эканомікі, змарнелага ВПК. Усім трэба даляры, даляры, даляры. Што ім нейкі дурны туземец, які трапіў у бяду па п’янцы – сельскі загадчык клуба Валера!»

Значыць, яму тут і гінуць?

Значыць, і гінуць, калі ён такі недалэнга, ня можа даць сабе рады сам ды па-дурному спадзяецца на іншых. Быццам нс разумее, хто яны, гэтыя іншыя? Яшчэ пашанцуе, калі хутка пусьцяць свой газ, – хоць бы для пробы трубы, – і ён адразу адкіне капыты. А калі будуць марудзіць, цягнуць з выпрабаваньнямі, утрасаць цэны-тарыфы, – колькі яму тут канаць?

«Колькі наогул можа вытрымаць чалавек пад зямлёй без вады і харчу? Колькі ён можа ў космасе – тое мы ведаем, на тое вучаць і трэніруюць адмыслова выбраных герояў-касманаўтаў. А во пад зямлёй, у цеснай жалезнай трубе? І не шахнёр – загадчык калгаснага клуба, – таго, мусіць, ня ведае ніхто. Ды і на зямлі

таксама ня ведаюць. Цэлыя народы стагоддзямі абыходзяцца бяз хлеба і волі і быццам пакуль ня ўмёрлі. Але дзе мяжа той іхняй жывучасьці? Няма ні ў кога адказу. Во чаму марксізм – наўрад ці навука. Кажуць, што калі б марксізм быў навукай, дык бы яго перш чым укараніць у масы, змадэлявалі б на камп’ютэрах ці праверылі б на мышах. А так адразу бяз доследу плюхнулі ў масы, ну і атрымаўся пшык», – сумна разважаў Валера.

Тое, што з гэтай ненавуковай прыдумкі добрага не атрымаецца, загадчык клуба Валера прадчуваў са студэнцкай пары. Было толькі дзіўна, што таго не разумелі іншыя – усе гэтыя высокавучоныя кандыдаты ды акадэмікі, дактары і партыйныя сакратары, якія ўсю дарогу толькі і ведалі, што разьвіваць ды абгрунтоўваць кожнае вар’яцтва, якое ішло зьверху. Зьнізу не дазвалялася нічога – усё зьверху. Але хто тыя, што былі наверсе? Хоць бы проста нармальныя людзі, а то ўсё вар’яты. Ці авантурысты. Ці шызафрэнікі або садысты. Яны і вызначалі жыцьцё народаў на адной шостай. Ды яшчэ ім мала было адной шостай – захацелася ўлезьці і на іншыя кантыненты, каб валадарыць і там. Бо што ж яны яшчэ маглі, апроч як валадарыць? А ў сябе даваладарыліся да таго, што не засталося ні хлеба, ні табакі. Адзіным сродкам асабістага фінансаваньня сталі пустыя бутэлькі. Не зьбярэш бутэлек – ня будзе за што купіць ні хлеба, ні курыва. Дзіўнавата, праўда, але бутэлькі знаходзіліся заўжды, нібы былі пасланыя Богам для паратунку. Колькі іх ні здавалі ў ларкі і крамы, заўжды зьяўляліся новыя. Быццам камяні ў полі. Як казалі старыя людзі, камяні выраслі з зямлі; колькі іх ні зьбірай, менш на палях ня робіцца. Зямля рэгулярна нараджала новыя. Мабыць, так і бутэлькі.

– Гэй, людзі! Подлыя вашы душы, што ж вы робіце? Я ж ведаю, вы чуеце... Адкопвайце, а то я ўсё ўзарву! Усю вашу трасу! Увесь газаправод. Во ў мяне запалкі! – перайшоў да пагрозаў Валера. Так, яму здалося, было лепш зразумела для зьнямелых знарок ці папраўдзе газавікоў. Можа, хоць пагроза аварыі кране іх ачарсьвелыя душы.

Але ўсё было марна.

Ад крыку запяршыла ў горле, ён закашляўся. Запалак, канешне, у яго не было, у свой час ён кінуў курыць. Гэта калі стаўся пажар у клубнай кінабудцы, згарэў выдатны савецкі фільм «Кавказская пленница» і ледзьве не згарэў увесь яго клуб. Калі па шчырасьці, дык загарэлася ў час выпіўкі ад чыйгось недакурка, але пра тое ніхто не дазнаўся. Прысланая з раёна камісія аказалася на вышыні: выпіўшы дзьве бутэлькі «Маскоўскай», падпісала акт, што прычынай нажару стала няспраўная электраправодка. Давялося мяняць увогуле не старую яшчэ праводку, супраць чаго загадчык клуба не запярэчыў, старшыня калгаса таксама. Але іх тайны грэх часам шкроб у Валеравай душы, асабліва калі з пахмелкі. Грахі з пахмелкі наогул мелі ўласьцівасьць абвастрацца, часам разрастаючыся да вялікіх памераў. І тады трэба было паправіць хваравітае сумленьне – зноў бегчы па бутэльку. Што, увогуле, было зразумела...

Калі засмактала пад грудзьмі, Валера ўспомніў сваю кінутую дзесь сумку. Можа, варта было пашукаць яе ды падмацавацца. Усё ж там хлеб, а колькі яму тут праседзець, хто ведае.

Таропка мацаючы па дне трубы заскарузлымі ад гразі гумовікамі, ён пралез сотню метраў і сапраўды наткнуўся на сумку. Ад скамячанай падмоклай буханкі адламаў ладны кавалак і хутка зжаваў яго. Розумам яго Бог, можа, надзяліў і ня надта (усё за несумніўныя ягоныя грахі), але на апетыт не пакрыўдзіў, і Валера нават падумаў: во каб яшчэ і бутэльку! Або хоць бы чацьвярцінку, можа б, і ня гэтак самотна было, можа б, і суцешыў загадчык клуба свой недарэчны канец. Але пра чацьвярцінку пакуль не было чаго і марыць. Як і пра шмат што іншае, не ў пару і беззваротна для яго страчанае. «Цікава, якое там сёньня надвор’е? – ня ў лад са сваім горкім настроем падумаў Валера. – Выглянула сонца ці ўсё яшчэ ідзе дождж? Калі дождж – зусім залье пляцоўку перад уваходам у клуб, будзе не пралезьці да ганка». За лета ён так і не сабраўся

падвезьці самазвал гравію, засыпаць лужыну, каб, ідучы ў клуб, ня трэба было надзяваць боты. «Разгільдзяй, а не загадчык», – пакаянна разважаў пра сябе Валера.

Паўбохана неўчарсцьвелага яшчэ хлеба ён усё ж зьеў і без чацьвярцінкі, мог бы зьесьці і болей, але спыніўся. Ежу, мабыць, належала эканоміць, адсюль у краму ня зьбегаеш нават з сумкай бутэлек. Абаранкі пакуль што пакінуў, калі што – дзецям...

Калі што... А калі нічога? Хутчэй за ўсё акурат нічога. Бо што ж яшчэ ён мог тут прадпрыняць? Хіба зноў крычаць? І ён зноў закрычаў, прыкметна, аднак, паглушэлым голасам:

– Э-э-эй! Вы там – будаўнікі газаправоду! Капіталізму ці сацыялізму – хто вас разьбярэ. Вы чуеце? Я не жартую! Я сапраўды тут гіну!..

Як і раней, адказам яму была глухая падземная цішыня. Хутчэй за ўсё наверсе проста не было нікога.

Мяркуючы па тым, як яго ўсё болей учэпіста пачала агортваць стома, Валера падумаў, што, мабыць, дзень мяняўся на ноч, хацелася спаць. Што ж, тут у трубе, час, мабыць, мяняўся інакш, чым на волі, можа, там даўно ноч. Тым горш для яго – ноччу ён напэўна ні да кога не дакрычыцца. Але як тут угадаць, калі ноч, а калі дзень? Во яшчэ праклятая праблема на яго галаву!

Добра, аднак, што ўвогуле было не сьцюдзёна, прасьмярдзелае ад бітуму паветра ў трубе стаяла нерухома, інакш бы Валера жыва адчуў, адкуль вее. Але, падобна, ніадкуль не веяла, ня дзьмула, падобна, трубу ладна замуравалі, закупорылі герметычнымі заслонкамі. Можа, на самой справе зьбіраюцца выпрабаваць на герметычнасьць? Ня могуць жа яны дапусьціць, каб іх шаноўны газ бясплатна выцякаў у атмасферу. Тады ўжо яму напэўна канец.

Што ж, ён быў гатовы да ўсяго.

Нядоўга пасядзеўшы, ён пачаў драмаць і, падобна,

нават заснуў, праспаўшы нейкі кавалак часу – дня ці ночы. Асабліва ўражлівых сноў не пабачыў, толькі прысьнілася штосьці з дзяцінства і – маці. Кожнага разу, калі ён бачыў яе ў сьне, трывожна прачынаўся, – маці была ягоным дакорам, яго хваравітым сумленьнем. З гэтым гаротным пачуцьцём ён жыў усе апошнія гады, выразна ўсьведамляючы свой грэх, ня ў стане яго замаліць. Хацеў і ня мог. Валера быў сынам старэнькай настаўніцы-пенсіянеркі, усё жыцьцё якой з маладых гадоў было аддадзена яму, адзінаму сыну – яе лёсу. ГІраз яго яна пакутвала і радавалася; болей, аднак, пакутвала. Радасьці ад яго было няшмат. Апошнія дзесяць гадоў яна жыла адна, у вёсцы праз дваццаць кіламетраў ад ягонага «Шляху да камунізму», часта хварэла; часам тэлефанавала яму, але хатняга тэлефона ў яго не было, а ля клубнага ў кабінеце не заўсёды быў ён. Даўно трэба было б узяць маму ў яго сям’ю, ён гэта ведаў (хаця мама ніколі не прасіла яго пра тое), мабыць, з унукамі ёй было б весялей. Але жонка, Валянціна Іванаўна… Валера за дзесяць год іхняга жыцьця так і не наважыўся загаварыць з ёй пра маці, хаця жонка, можа б, і не адмовіла сьвекрыві ў прытулку і хлебе. Ды падкоркай Валера адчуваў, што добра гэтая справа ня скончылася б, як дабром не канчалася ніводная яго новая справа ў сям’і. Надта ўжо розныя яны былі, гэтыя дзьве сельскія настаўніцы: адна – навучэнка мястэчковага педтэхнікума трыццатых гадоў і другая – выхаванка ня так сталічнага педінстытута, як розных парткамаў, камісіяў ды саветаў, членам якіх ёй давялося перабываць. Так сталася, што яна рана зразумела сваю галоўную ролю ня так у народнай адукацыі, як у клопатах аб выкананьні розных партыйных мерапрыемстваў, найпершымі сярод якіх былі пасяджэньні і нарады. Паўдня адрабіўшы ў школе, астатні час Валянціна Іванаўна засядала то ў калгасным партбюро, то ў якой-небудзь грамадскай камісіі; у выхадны абавязкова адпраўлялася на нараду ў райцэнтр ці на правядзеньне семінара ў адзін з сельскіх калгасаў. Некалькі разоў у год яна прымала ўдзел у сесіях абласнога савету, дэпутаткай якога была абраная. Ягоная Валянціна актыўнічала з усёй уласьцівай ёй кіпучай энергіяй і тым ганарылася. Валера ж з тае

прычыны часьцяком пакутваў, перыядычна і марна абураючыся: калі галодны да позьняй ночы тырчэў у клубе; калі не знаходзіў чыстай сарочкі да чарговага канцэрта клубнай самадзейнасьці; калі ўвечары не было за што выпіць і не было ў каго пазычыць на бутэльку. Жончын жа кашалёк даўно быў не для яго. Але за гады сумеснага жыцьця ён паступова прывык да свайго незайздроснага лёсу нявольніка камуністычнай сістэмы, як моўчкі ён сябе называў.

Ягоная ж старэнькая маці, дажыўшы да пенсіі, перастала прызнаваць камуністычную ўладу наогул, якую да таго тайна і ўпарта ненавідзела за пагібель мужа ў трыццатыя, размаўляла з сялянамі па-беларуску і зрэдчас хадзіла ў каталіцкі касыдёл, бо ў акрузе не было ўніяцкага. Валянціна Іванаўна летась закінула на шафу патрэпаныя кансьпекты гутарак па навуковым атэізьме і следам за раённым кіраўніцтвам са сьвечкай у руках пайшла ў прыгожа адрамантаваную праваслаўную царкву. «Нельга адрывацца ад народа», – патлумачыла яна сваю нечаканую рэлігійнасьць. Валера на гэта толькі крыва ўсьміхнуўся і не пайшоў у царкву. Па-першае, пад той час ён стаў беспартыйным, па-другое, яму хапала і клуба з партрэтам сурова насупленага прэзідэнта, які яго абавязалі павесіць над сцэнай. Такія ж партрэты віселі ў кожпым класе іх школы, пра што паклапацілася член бюро райкама ПКБ Валянціна Іванаўна.

Калі добра падумаць ды на цьвярозую галаву дык няцяжка было зразумець, што ў безвыходнай пастцы Валера апынуўся не ўчарашняй начы ці днямі, нават не ў гады перабудовы, а куды раней. З прычыны ўласнай дурноты ён зрабіў учынак, які ў той час яму здаваўся ўдачай, а затым пакрысе стаў ціснуць на яго чыгунным цяжарам, гасячы шматлікія яго зусім чалавечыя памкненьні. Асабліва ў апошнія перабудовачныя гады, калі грамадзянскія хібы мінулага ўпершыню былі названыя ўласнымі назовамі і шмат што перастала быць грамадзянска-партыйным абавязкам, стаўшы, як яму і належала, звычайнай подласьцю. Ня ўсе, каго гэта тычыла, пранікліся раскаяньнем, але і наўрад ці хто

ганарыўся сваім тайным мінулым, адчуўшы хоць бы кароткі спалох ад магчымых наступстваў. Некаторым перастала памагаць і бутэлька.

Пачаткі душэўнага дыскамфорту кожнага таіліся ў далёкім ці нядаўнім мінулым, пра якое некаторыя стараліся забыцца; і іншыя, каб і хацелі, не маглі тое зрабіць. Валера сваё ўкрыжаваньне памятаў з усімі драбніцамі, забыцца на яго яму так і не далі.

У час разьмеркаваньня на працу пасьля сканчэньня педінстытута сакратарка дэкана паклікала яго ў кабінет – зазірнуць на хвілінку. Справа адбывалася ўвечары; адстаўшы ад сяброў, ён затрымаўся ў вучэбным корпусе па нейкай патрэбе і трохі зьдзівіўся выпадковай сустрэчы ў пустым калідоры: дэкан, думалася, ужо даўно павінен быць дома. Трохі заінтрыгаваны зайшоў у прыёмную, адтуль у кабінет, дзе за прыбраным ад папяровых завалаў сталом сядзеў зусім не дэкан, а незнаёмы малады чалавек з высокімі залысінамі ў бялявых, акуратна зачасаных валасах. Са зьзяючым, быццам ад гэтае сустрэчы, тварам, ён пацiснуў Валераву руку, запрасіў сесьці. Тут жа пацікавіўся, як Валера Сарокін здаў дзяржэкзамены, якія ў яго далейшыя планы? Ці задаволены ён сваім разьмеркаваньнем? Валеру разьмеркавалі ў нейкі мядзьведжы куток на Палесьсі, задаволенасьці з тае прычыны ў маладога выпускніка было няшмат, што, мабыць, і адбілася на яго насьцярожаным твары. Незнаёмы, здаецца, усё зразумеў адразу, сардэчна яму паспачуваў і абяцаў памагчы. Як можна было памагчы, калі сьпісы былі падпісаны і зацьверджаны, а можа, і разасланы ў вобласьці, Валера не разумеў; незнаёмага ж гэтыя абставіны ані не бянтэжылі. Той толькі крышку ўсьміхнуўся і сказаў, што, калі трэба, усё можна ўладзіць. «Дзяржаўная камісія, канешне, – улада, але ёсьць улада і вышэй. Думаю, вы разумееце, пра якую я кажу ўладу?» – «Разумею», – выціснуў з сябе Валера, пакуль, аднак, мала што разумеючы. «Але і ад вас патрабуецца дапамога. Ня вельмі вялікая, але важная для органаў. Як вы – згодны?» – уставіўся чалавек у трохі зьніякавелага Валеру. Здаецца, толькі тады

Валера пачаў штось разумець.

У выпадковых гутарках з markрознымі людзьмі яму ўжо даводзілася што-ніштo чуць пра работу гэтых таямнічых органаў, як імі часам называўся вядомы ўсім КДБ. Што-ніштo пра тое ён чытаў у газетах. Але галоўнае – ён памятаў некаторыя скупыя аповеды маці пра бацьку – як яго ўзялі невядома за што і ён прапаў, ня даўшы ніводнага знаку пра сябе. Нейкі час Валера нават перажываў з гэтай нагоды, баяўся, як бы бацькаў лёс не адгукнуўся і на лёсе сына, але, відаць, перажываў дарма. Яго прынялі ў камсамол, ён лёгка паступіў у інстытут, ніхто яму ніколі не напомніў пра яго рэпрэсаванага бацьку. Ды ў інстытуце мала хто ведаў пра тое. За чатыры гады вучобы Валера прывык сябе адчуваць нароўні з усімі, з органамі ні разу ня меў справы і ўвогуле думаў, што іхняя праца яго ня тычыцца. Усе ягоныя сябры ў групе і на курсе былі добрыя хлопцы, спрэс працоўнага паходжаньня; ніхто не займаўся ні сьпекуляцыяй, ні фарцоўкай, у нізкапаклонстве перад гнілым Захадам таксама нікога немагчыма было западозрыць. Хаця, як цяпер аказалася, ад яго і не патрабавалася каго-небудзь падазраваць або за кімсьці сачыць. Проста належала даць фармальную згоду па супрацоўніцтва з органамі, падпісаць адпаведнае абавязацельства і выбраць псеўданім. Які хочаш, на свой густ – хоць «Талстой», хоць «Пушкін».

Нядоўга падумаўшы, Валера падпісаў паперку і, зірнуўшы ў акно на разлапістае гольле клёна, нерашуча прапанаваў: «Клёнаў».– «Ну і добра, хай будзе Клёнаў. Так і запішам, – пагадзіўся чалавек. – Цяпер вы ў нашым актыве. Калі што – мы з вамі зьвяжамся». – «А як жа з разьмеркаваньнем?» – хацеў запытаць Валера, бо хутка трэба было зьбірацца на новае месца працы. Ехаць да ягонага месца ў далёкі невядомы Петрыкаўскі раён Валеру ня надта хацелася, калі папраўдзе – зусім не хацелася, і ён не адзін дзень перажываў праз тое. Але ягоны шэф адразу змоўк, нібыта забыўся, з чаго пачынаў размову, і Валера не наважыўся ў яго запытацца. Падумаў, можа, і сапраўды яго яшчэ

паклічуць і ўсё перайначаць як трэба.

Аднак пе паклікалі і не перайначылі. Маладжавага чалавека з залысінамі ён ніколі болей ня бачыў, у прызначаны тэрмін мусіў паехаць у школьную сямігодку пад лесам на краі балота, дзе і працаваў чатыры гады, пакуль не ажаніўся з разьведзенай, старэйшай за яго настаўніцай Валянцінай Іванаўнай. За пяць гадоў, што прайшлі пасьля памятнай размовы, у яго не было ніводнага кантакту з кім-небудзь ад тых органаў, падобна, ніякай цікавасьці да яго ў іх не ўзьнікала. Ад іншых, болей вопытных людзей ён ведаў, што гэтыя органы - не ЗАГС, разводу нікому не даюць і вярбуюць людзей назаўсёды. Таму паперкі з ягоным подпісам і псеўданімам «Клёнаў» будуць дзесьці ляжаць з грыфам «Зусім сакрэтна» і «Хаваць вечна», аж покуль іх не пагрызуць мышы. Ці не паб’е моль. Усьведамленьне свайго дачыненьня да справы, якая мае такую дзяржаўную важнасьць, часам зімовай сьцюжай абдавала Валеру і ў хвіліны спрыяльныя, і асабліва ў хвіліны трудныя. Вядома, гэтае ўсьведамленьне не аднойчы ўтрымлівала яго ад шмат якіх легкадумных па маладосьці ўчынкаў, але было і так, што скоўвала волю, калі яе трэба было праявіць для ўчынкаў людскіх і добрых. Часам ён хацеў і мог, але не рашаўся. Хіба калі вып’е, расслабіцца, адкрые душу ў сяброўскай размове з сабутэльнікамі, і то ўсё ламаючы галаву: хто перад ім – сябра ці стукач, таксама які-небудзь Клёнаў, Бярэзін ці, можа, Дубаў. Пад той час ён ужо ведаў сілу гэтых людзей і заўжды меў іх на ўвазе. Калі ягонага сябра заатэхніка Кірыліна за нешта няўцямнае зьнялі з працы, ён адразу адчуў, чыя гэта справа, і не заступіўся, не спрабаваў памагчы апраўдацца, хаця да таго амаль кожны выхадны яны разам вудзілі рыбу і нямала выпілі гарэлкі. Мабыць, Ватера павінен быў нешта зрабіць для яго, але не зрабіў, бо сам спалохаўся: ці мала што ягоны гаваркі сябра мог сказаць каму за бутэлькай. Яму, напрыклад, ён нагаварыў столькі, што гадоў на пятнаццаць хапіла б абодвум.

Што ж да яго даўняга, амаль ужо забытага ім псеўданіма, дык яго ўсё ж прыпамяталі.

Увосень у школу прыехаў новы настаўнік фізікі Лукашэвіч Павел Іванавіч, адзінокі, немалады, трохі дзіўнаваты чалавек, які пасьля заняткаў самотна сядзеў у сваёй каморцы. Каморка была часткай кватэры суседкі, акушэркі Клаўдзі, з агулыіай кухняй, дзе да таго часу аднаасобна гаспадарыла акушэрка. Халасьцяк Лукашэвіч за тры месяцы працы, мабыць, ні разу ня выйшаў з-за дашчанай перагародкі на кухню, і тое, па ўсёй верагоднасьці, насьцярожыла суседку. Неяк пасьля адной нарады ў райана Валеру, які ў той час быў настаўнікам беларускай мовы, папрасілі затрымацца і зайсьці ў бібліятэку, дзс яго ўжо чакаў незнаёмы тып з квадратнай сківіцай і густымі брэжнеўскімі брывамі. Тып узростам быў куды старэйшы за Валеру, але бы з роўным жыва завёў з ім лёгкую размову пра тое, як вудзіць ляшчоў, у чым ён быў сьпец, як адразу адзначыў Валера, які таксама вудзіў усялякую рыбу. Але во, нібы між іншым, Тып пацікавіўся, ці сустракаецца Сарокін з новым настаўнікам фізікі, і прыкметна насьцярожыўся, чакаючы адказу. Валера адразу сьцяміў, дзеля чаго яго паклікалі сюды, і моўчкі вылаяўся. З тае прычыны сн мусіў адстаць ад сяброў і прапусьціць немалую п’янку ў рэстаране. Памеркаваўшы, аднак, сказаў, што з Лукашэвічам не сустракаецца, і наогул фізік ні з кім не сябруе, болей сядзіць дома. Тыпу гэтае паведамленьне Валеры ня дужа спадабалася, ён адразу прагнаў з цьвёрдага твару нсшта падобнае да ўсьмешкі і сказаў, што гэтую справу трэба паправіць, бліжэй падысьці да Лукашэвіча. Запрасіць калі ў выхадны на госыді, выпіць, пагутарыць па душах. Можна нават пакрытыкаваць улады, але ня так, каб вельмі, лепш мясцовыя, на раённым узроўні, – тое дазваляецца. Всльмі гэта не спадабалася Сарокіну-Клёнаву, і ён напружана думаў, як быць? Было пэўна, што п’янка ў рэстаране для яго ляснула, і Валера занерваваўся, тым больш, што ён зусім не хацеў рабіцца памочнікам гэтага Тыпа. Каб як-небудзь ад яго адкараскацца, Валера даволі рашуча аб’явіў, што Лукашэвіч – нармальны настаўнік, свой прадмет ведае, выкладаць умее, бо мае немалы педагагічны вопыт. Уважліва выслухаўшы Валеру, Тып зрабіў працяглую паўзу затым сказаў тонам вялізнай важнасьці: «Я не павінен вам гатага казаць, але для вас

зраблю выключэньне. Справа ў тым, што ваш Лукашэвіч у час вайны супрацоўнічаў з акупантамі, і на ягоных руках – кроў савецкіх патрыётаў».

Пачуўшы гэта, Валера зьніякавеў: аказваецца вунь што! Калі Лукашэвіч – пасобнік акупантаў, дык гэта мяняе ўсю справу. У Валеры стрыечны брат загінуў ад рук акупантаў, у сорак трэцім акупанты зьнішчылі суседнюю вёску разам з яе жыхарамі, землякамі Валеры. Але тут у Валеры ўзьнікла шмат пытаньняў, і першае з іх: чаму органы так доўга не арыштоўвалі гэтага здрадніка пасьля вайны? Прыкладна так ён і папытаўся ў Тыпа. Той, аднак, не адказаў і перайшоў да канкрэтнай справы. Ён сказаў, што Сарокін усё ж павінен наладзіць з Лукашэвічам дружбу і пры выпадку завесьці размову пра Чэхаславакію, даведацца, як той адносіцца да факту ўводу войска Варшаўскага дагавору ў гэтую краіну. Што на гэты конт думае? Канкрэтнае заданьне трохі зьбянтэжыла Валеру, і ён падумаў: ці ня надта розныя гэта рэчы – нямецка-фашысцкія акупанты і ўвод нашых войскаў у Чэхаславакію? Надта тут туманная сувязь. Але каб хутчэй адкараскацца ад гэтага чалавека, ён змоўчаў, і яны разьвіталіся. Дамовіліся сустрэцца праз тыдзень.

У той дзень, вяртаючыся дадому, Валера не пераставаў думаць пра нечаканае заданьне і ў каторы раз прыходзіў да высновы, што тут нешта ня так. Зразумела, што яны капалі пад старога настаўніка зусім не за супрацоўніцтва з акупантамі, якога, можа, і не было, а найперш іх цікавіла Чэхаславакія. Міфічнае супрацоўніцтва ці не было засланкай. Валера, вядома, выканае заданьне, пагутарыць з Лукашэвічам, але наўрад ці яны атрымаюць ад яго кампрамат на настаўніка. Тым больш на тэму Чэхаславакіі. У той жнівеньскі ранак Валера сам слухаў па «Бі-бі-сі» рэпартаж пра ўвод войскаў і лаяўся, аж пакуль жонка не адабрала ў яго «сьпідолу». У Чэхаславакіі душылі свабоду - гэта ж было зразумела. Праўда, ён толькі лаяўся, але пра свае адносіны нічога нікому не сказаў. У школе пра тое таксама дружна маўчалі. Адзін толькі ветэран Зудзіловіч хадзіў па вёсцы і зласьліва даказваў,

што зноў ледзь не спазьніліся, даўно трэба было зрабіць тое, а то глядзі, каб амерыканцы не адхапілі ў нас братнюю Чэхаславакію, якую ён вызваляў ад фашыстаў.

Неўзабаве ў нядзелю, калі Лукашэвіч на адзіноце сядзеў у сваёй каморцы, Валера пастукаў у яе зьбітыя з дошак дзьверы. Лежачы на ложку, настаўнік чытаў нейкую кніжку і, заклаўшы палец паміж старонак, устаў насустрач. Валера бадзёра павітаўся, сьпярша загаварыў пра надвор’е, пра грыбную пару, якая сёлета абяцала быць ураджайнай. Але далей размова чамусь не павялася, і Валера запытаўся проста: адкуль Лукашэвіч родам, дзе быў у вайну? Аказваецца, родам ён з Гомельшчыны, у пачатку вайны трапіў у палон, уцёк і партызаніў у Славаччыне; інвалід, мае нявынуты асколак ад нямецкай гранаты ў патыліцы. Як ён адносіцца да таго, што цяпер робіцца ў Чэхаславакіі? Ды як да нахабнага ўдушэньня Чэшскай вясны, яе маладога памкненьня да незалежнасьці, – як жа яшчэ да таго можа адносіцца сумленны чалавек? Лукашэвіч сказаў тое проста, бяз хітрыкаў і намёкаў, як пра нешта, што само па сабе зразумела. І Валеру гэта спадабалася. Ён сам думаў якраз гэтак, толькі ён пра тое ніколі б не прызнаўся нават перад жонкай Валянцінай. Тады Валера адразу падумаў пра таго Тыпа, сустрэча з якім меркавалася праз два дні: халеру я вам пра гэта скажу. Ужо яго вам я ня выдам.

І на самай справе, у знаёмым кабінеце райбібліятэкі, дзе яго ўжо чакаў Тып, Валера па ягоным загадзе накідаў паўстаронкі тэксту, падпісаўся: «Клёнаў». Той прачытаў і нечакана не на жарт зазлаваў: «Вы што мне марочыце галаву? Каго спрабуеце ашукаць? Хіба Лукашэвіч гэтак сказаў? Ён во як сказаў...» І Тып з іншай, вынятай са скураной папкі паперчыны прачытаў яму сапраўдныя словы Лукашэвіча. Валера зусім разгубіўся, падумаўшы: адкуль ён чуў іхнюю размову? Там жа было іх двое. Ці, можа, дзе сядзеў трэці?

Для Валеры яго няхуцавая спроба ашукаць органы абышлася занадта дорага. Праз пару месяцаў Лукашэвіча забралі з райаддзела міліцыі, куды

выклікалі быццам бы дзеля афармленьня прапіскі. А яшчэ праз месяц Валеру Сарокіна на бюро райкама выключылі з партыі з туманнай фармулёўкай – за перараджэньне. І тут жа звольнілі з працы. Паўгода ён прасланяўся без ніякага занятку, пакуль старшыня калгасу ня ўзяў яго загадчыкам клуба – замест маладой жанчыны, што пайшла ў дэкрэтны водпуск. Валера быў дужа ўдзячны старшыні, былому партыйнаму сакратару, якога ў трудны час кінулі з райкаму на ўздым сельскай гаспадаркі. Увогуле, ён і ўзьняў калгас, калгасьнікі яго нават любілі. Аднойчы ў хвіліну шчырасьці, калі са старшынёй была выпіта бутэлька «Сталічнай» і Валера пачаў п’яна і нялоўка дзякаваць старшыні за дабрыню, той раптам сказаў: «Думаеш, я гэта – дзеля цябе? Ды хто ты такі? Толькі дзеля карысьці справы! Падмочаныя, яны заўжды болей стараюцца, па сабе ведаю». І засьмяяўся.

Валера маўчаў. Увогуле ўсё было правільна: ён быў падмочаны. І нават вельмі. Але хто яго падмачыў? Ужо ня ён сам сябе. А можа, і сам, хто ведае...

Была і ў Валеры пара (асабліва на пачатку яго настаўніцкай працы), калі ён сумленна хацеў адпавядаць ідэальнаму абліччу камуніста, што ўвогуле было нескладана. Трэба было толькі ціха сябе паводзіць, болей маўчаць. Што ён і рабіў, хаця часам падмывала выказацца, нават абурыцца. Асабліва, калі тое здаралася пад градусам. Але ён хутка зразумеў, што гэта небясьпечна. Ён рэдка выступаў на сходах, болей сядзеў і слухаў, тым болын, што актыўных выступак хапала заўсёды, і заўсёды не хапала часу. Ніколі ня лез у спрэчкі з начальствам, а на яўнае бязладдзе навучыўся заплюшчваць вочы і затыкаць вушы. Нават дома, у сям’і, у адносінах з жонкай, тым больш такой актывісткай, як яго Валянціна.

У часе нядаўніх прэзідэнцкіх выбараў раённая наменклатура кінула тайны, але настойлівы заклік: усе – за кандыдата пры ўладзе! Ягоная Валянціна Іванаўна, як заўжды, зрабілася членам выбаркама і амаль на тыдзень перасялілася ў райцэнтр, дзе няспынна

засядала камісія. Праседзеўшы з сынамі тры дні бяз хлеба і бяз грошай, Валера заскочыў у выбаркам узяць у жонкі хоць на хлеб. У выбаркаме ліхаманкава тасавалі вынікі выбараў, у памяшканьне не пускалі нікога, ён паклікаў Валянціну ў калідор і там, на падаконьніку, яна таропка расшпіліла сваю гаспадарчую сумку. Сярод іншых папераў і розныя драбязы ён адразу ўбачыў тоўсты пачак нейкіх бюлетэняў і зьдзівіўся: што гэта? «Ня твой клопат!» – спалохалася жонка, ляснуўшы яго па руцэ. Ну, усё зразумела, сьцяміў Валера і пасьля па дарозе ў краму пакутліва думаў, што рабіць? Гэта ж злачынства, яўная фальсіфікацыя, трэба было людзям цягнуцца па гразі ў мястэчка галасаваць, выбіраць з пяці аднаго, калі гэтыя ў зачыненым пакоі пад аховай міліцыі зробяць усё, што захочуць. І каму паскардзішся, калі члены камісіі строга падабраныя выканкамамі і ўсё робяць па іхнім плане. Значыць, маўчаць, рабіць выгляд, што нічога ня ведаеш, ні ў чым нікога не падазраеш. Калі ня хочаш сабе яшчэ горшага. Асабліва калі да ўлады прыйдзе іхні абраньнік.

Зрэшты, так яно і здарылася. Яны далёка глядзелі, гэтыя раёпныя стратэгі, і не памыліліся. А разам з імі і яго Валянціна Іванаўна. Цікава, што яна думае цяпер пра яго прапажу? Звычайна ў такіх выпадках, калі ён дзе-небудзь затрымліваўся і сыны пачыналі пытацца, дзе бацька, іхняя маці з грэблівай усьмешкай адказвала: «Прыйдзе, нідзе ня дзенецца». Зайздросная вытрымка – і так ва ўсім.

«Але што ж, так і сядзець у гэтай жалезнай нары і гінуць у поўнай пакоры недарэчнаму лёсу?» – думаў Валера. Становішча яго, канешне, было зусім ахавае, хаця ў глыбіні сьвядомасьці ўсё ж таілася маленькая спадзёўка. На авось ці, можа, на цуд. Калі іншага не было, звычайна спадзяваліся на цуд, мабыць, так было заўжды. У жыцьці і ў гісторыі. Цуд, вядома, памагаў рэдка, болей падводзіў, асабліва атэістаў-бальшавікоў, якія, быццам не ведаючы таго, цяпер так дружна рушылі да хрысьціянскіх цудаў. Авось паможа! Калі памаліцца Богу, абразам, паклікаць царкоўных іерархаў на шматлюдныя прапагандовыя шоу. Авось будзе вынік.

Можа, калі-нсбудзь і будзе, але пакуль што дапамогі ад іхняга стараньня было няшмат – эканоміка катастрафічна падала, фінансы ўжо разваліліся. Але камуністы маліліся! Чым далей, тым болей. Ці можа, рабілі выгляд, што вераць і моляцца, прытвараючыся ў набожнасьці. Гэтыя заўжды былі вялікія майстры наконт прытворства. Валеру ж тут прытварац-ца не было патрэбы, не было перад кім, і ён разумеў, што, калі не пастараецца сам, дык ніколі яму адсюль ня выбрацца. Значыць, трэба старацца. Мала што абдумаўшы і нават без выразнай мэты, ён падняўся і на кукішках, прыгнуўшыся, палез па трубе – няважна ў які бок, абы не сядзець на месцы.

На гэты раз ён поўз па-сабачы доўга, пакуль ушчэнт не стаміўся. І ўсё без якога-небудзь выніку. Ні стыку, ні люка, ні якога голасу знадворку – нічога нідзе. Вельмі магчыма, падумаў Валера, што яны заварылі апошні на гэтым участку стык і паехалі на новае месца. На новую базу. Але дзе яна магла быць, тая іх новая база, ён здагадацца ня мог. І трэба ж было яму ўлезьці ў гэтую пастку! Называецца, спужаўся дажджу. Ды хоць бы прамок да касьцей, ухапіў прастуду, грып ці яшчэ якую халеру, – можа б, урэшце як-небудзь выкараскаўся. А во як выкараскаешся адсюль, калі прапаў выхад? Выхад на самай справе зьнік, яго заварылі, засыпалі і зараўнялі, – во ў чым справа.

Як жа яму цяпер быць? Мабыць, ніяк. Ён ужо не жыхар на сьвеце, ён – перасяленец пад зямлю. Дарэчы, па сваёй п’янай дурноце. Аказваецца, па п’янцы магчыма і такое. Не прадбачанае нават для самага цьвярозага розуму.

Ён доўга ляжаў на дне трубы, адпачываў. Пасьля падцягнуў бліжэй сумку і даеў хлеб. Абаранкі расьпіхаў у кішэні, – каб спаражніць сумку, якая болей яму не спатрэбіцца. Вольным рукам будзе лепш. Хоць бы ведаць, колькі ён прайшоў пад зямлёй, – пры такім спосабе хады тое было няпроста. Усё ж ісьці было цяжка, няспрытна, надта сагнуўшыся, на кукішках. А можа, і ня варта было нікуды ісьці? Легчы і сканаць.

Гэта было б лягчэй. Значыцца, і разумней.

Але няўжо яны там не спахопяцца, не заўважаць ягонай прапажы, ня ўзьнімуць трывогу? І не здагадаюцца, дзе ён зьнік. Хоць бы Сямён Рудак. Сямён быў апошні, хто ў мястэчку ля забягалаўкі бачыў Валеру. Яны доўга разьвіталіся – не маглі разьвітацца. Хаця Сямён што – у Сямёна ўласнага клопату поўная галава. Нядаўна адчыніў гандлёвы ларок з рознай драбязой – «сьнікерсамі», галантарэяй ды іншым, – дык абчысьцілі ноччу. Цяпер бегае, шукае зладзеяў. У міліцыі так і сказалі: шукай сам. Знойдзеш, даложыш, – прымем меры. Ня знойдзеш – аштрафуем за кепскія клопаты аб ахове. Вось такія парадкі. Магла б узьняць тарарам Валянціна, але ад яе дачакаешся! Для яе галоўнае – не ўзьнімаць паніку. Яшчэ парадуецца, што прапаў, скажа сынам: прыйдзе, нідзе ня дзенецца. Калі толькі тыя папытаюцца. А можа, і пе папытаюцца, – падрасьлі, агрубелі, ня тое што былі малыя. Цяпер цалкам пад матчынай педагагічнай апекай. І дзеці, і муж. Быў. Ды ўвесь выйшаў...

І ўсё ж трэба паўзьці. Куды? Хто яго ведае, куды. Наперад. Раней казалі б – наперад да камунізму. А зараз падобна – наперад да капіталізму. Але да капіталізму ня хоча прэзідэнт. Куды брысьці нацыі, ведама толькі яму аднаму Але ён ня кажа нікому, гэта яго прэзідэнцкі сакрэт. Хутчэй за ўсё, аднак, ён таксама ня ведае, адно робіць выгляд, што яму вядома. Выгляд ён рабіць умее... Выдатны акцёр, усіх пераконвае. Нават тады, калі сам ня верыць. Ведама, што жыцьцё з тоіі прычыны ггя можа лепшаць і, здаецца, забрыло ў тупік. А во камуністы, падобна, ведаюць. Для іх наперад – значыць назад. Тут у самага разумнага галава закруціцца: куды ўсё ж рухацца? Як у яго тут, у трубе. Калі б ён ведаў, дзе зад, а дзе перад, дзе выйсьце – наперадзе ці ззаду? Ён падумаў – наперадзе. А можа быць, ззаду, і ён аддаляецца ад свайго паратунку? Во ў чым праблема.

Хоць цяпер ён поўз толькі ў адным, наўгад абраным кірунку, ніякай упэўпенасьці ў ім не было. Часам

накочвала сумненьне: а можа, трэба павярнуць назад? Бо колькі ж можна паўзьці і бяз выніку?

Нечакана ён заўважыў, што траса пайшла ўніз, паўзьці па трубе стала зручней – пад невялікі плаўны ўхіл. І ён стаў прыпамінаць знаёмую мясцовасыіь – дзе мог быць гэткі ўхіл? Можа, каля Альхоўкі? Але там пагорак ня з гэтага боку, здаецца, з другога. Траса трубаправода туды прайсьці не магла. Ці, можа, ён ужо мінуў Альхоўку? Або не дапоўз да яе?

Пакуль ён так думаў, упарта прабіраючыся наперад па шархоткай трубе, тая неўггрыкмет пайшла ўгару. Рухацца стала горш. Усё ж гэтае сабачае перапаўзаньне было ненатуральнае для чалавека і адбірала занадта шмат сілы. Валера ўсё часьцей спыняўся, лажыўся на бок, прываліўшыся да акруглай сьцяны. Было цёпла, і ён нават спатнеў пад воглым плашчом. Сьцягнуўшы яго з плячэй, адкінуў прэч, так стала зручней. Абаранкі ён, падобна, паразгубляў з дзіравых кішэняў, засталося ўсяго два, якія ён тут жа згрыз. Тым нібыта падмацаваўся, але захацелася піць. Вады яму тут, зразумела, нідзе не здабыць, і ён не спадзяваўся напіцца. Вада магла паявіцца разам з вызваленьнем з падземнага палону. Ён зразумеў гэта і засумаваў яшчэ больш. Праклятая сітуацыя! Навошта ён выпіў тады з Рудаком? Нашто піў наогул? Лепш, калі б жыў цьвярозым, мужычком-хітраванам, хоць бы настаўнікам ці загадчыкам клуба. Напэўна б, без пары не загнуўся, пражыў бы болей. Як сельскі камуніст-праведнік Зудзіловіч, што дацягнуў да сямідзесяці сямі гадоў. Але што б гэта было за жыцьцё – во ў чым пытаньне. У такім, як ягонае жыцьцё, толькі і радасьці было – выпіць. Ды і мэта таксама. Што толькі адна мэта, гэта, бадай, кепска. Кепска, калі ў чалавека адна мэта; напэўна, у грамадства – таксама. Нават калі гэтая мэта – пабудова бяскласавага камуністычнага грамадства, усё роўна кепска. Адна мэта можа аказацца фалыпывай. Або недасяжнай. І тады – крах! Як во зараз. І няма вінаватых. Бо, як кажуць, ідэя правільная, а во яе ўвасабленьне ў жыцьцё... Але што ж гэта за ідэя, калі яе нельга ўвасобіць. І яна прыгодная хіба для бібліятэчных

фондаў ды абароны дысертацый. Усё ж людзі розныя. І чалавек – не тэлеграфны слуп. Чалавек болей падобны да дрэва – надта кучаравае ў думках і справах. Хаця і дрэвы бываюць розныя – розных парод, з рознымі лёсамі. Бадай, самы няўдалы лёс мае дрэва, што пры дарозе. Як старая бяроза на Курмакоўскім раздарожжы. І сукі абламаныя, і кара садраная. І розныя словы выразаны нажом на камлі. Хто ні ідзе, кожны драпае, каб пакінуць свой сьлед. Такі во лёс пры дарозе. І на парозе таксама. Як у Беларусі. Прысьпічыла ж ёй сесьці на парозе між Усходам і Захадам. Не, лепей за ўсё жыць у куце. У сваім Богам абраным куце, дзе вешаюць абразы. Дзе толькі той кут?

Угару па трубе ён ускараскаўся амаль бяз сілы, – так яму дапёк гэты сабачы шлях. Але тут стала лягчэй, труба пайшла раўней, і ён спыніўся. Здаецца, наскрозь прапацела сьвітка, пот заліваў твар. Дужа хацелася піць. І ён, можа, упершыню адчуў, што доўга так не стрывае. Так ён тут і сканае без дапамогі і надзеі. Гэта сапраўды страшна, калі зьнікае надзея. Хаця ў жыцьці ён ня надта песьціў сябе надзеяй, ды ўсё ж... Усё ж прыемна супакойвала, калі іншыя навакол спадзяваліся. То на выкананьне плана. То на лепшае фінансаваньне ў наступным квартале. На чыё выздараўленьне ці зьніжэньне цэнаў. Хаця чорта тыя калі зьніжаліся (няспынна расьлі), ды людзі спадзяваліся. Прыемная рэч – надзея. А галоўнае – нічога не каштуе, заўжды колькі хочаш і бясплатна. Толькі не лянуйся – спадзявайся. Во і даспадзяваліся. Цяпер у ім зьнікала рэшта яго слабай надзеі, і ён выразна адчуў сябе сіратой. Асуджанай сіратой надзеі.

– Эй, людзі! – раптам, сам ня ведаючы чаму, закрычаў Валера. – Людзі-і-і! Тут чалавек! Ці вам напляваць? Пашкадуйце чалавека! Ці вы ўсіх – у трубу і за долары? Я не хачу ў трубу! Я хачу жыць!

Ну, навошта ён робіць гэта, крычыць пад зямлёй, калі яго ніхто ня чуе? Напэўна ніхто не пачуе, а крычаць усё роўна хочацца. Бо – надта доўга маўчаў. Баяўся! Усяго баяўся! Нават самога сябе. Цяпер яму ўжо не страшна.

Цяпер ён вызваліўся ад усяго. І ад страху таксама.

– Эй, вы – КДБ! Што маўчыцё? Ці Клёнаў вам непатрэбны? Спалохаліся, што ўсё раскрые? І раскрые ўсіх да д’ябла. Усю вашу сістэму! Толькі б мне выбрацца адсюль... – пракрычаў ён і раптам падумаў: «Ну і ляпнуў, цяпер ходу назад ня будзе. Нават калі і выберашся. Але чорт з ім! Усё роўна прападаць...»

Ад перанапругі Валера закашляўся, доўга адкашліваўся. Ён разумеў, што ягоны роспачны крык наўрад ці наблізіць яго паратунак, але ўласггая адвага надавала рашучасьці. Пракрычаў, і стала лягчэй. Як на сходзе. Але ў тую пару што б ён мог сказаць на сходзе? Лепш было памаўчаць. А калі стала можна сказаць, не было каму слухаць. Бо кожны мог сказаць тое ж. Начальства аглухла і зьнямела. Праўда, засталіся ветэраны, тьгя, што на заслужаным адпачынку. Але гэтыя не спрачаліся – гэтьгя болей пісалі. У КДБ і прэзідэнту аб здрадзе справе рабочага класа. Аб адыходзе ад генеральнай лініі. Або аб недахопе прывілеяў, якіх яны пільнаваліся яшчэ як! І заўжды ўзьнімалі трывогу, калі заўважалі, што нехта скрьтўляе лінію прэзідэнта, на якога яньг маліліся. У цэрквах і ўвечары каля тэлевізараў, дзе заўжды выступаў іх кумір. Зрэшты, ля тэлевізараў маліліся больш, бо тэлевізарамі былі забясьпечаны, а цэркваў не хапала. Разбураныя імі ў маладыя гады цэрквы ня ўсе былі адбудаваныя. Ваяўнічыя бязбожнікі пад старасьць ператварыліся ў ваяўнічых вернікаў і лаялі тых, хто не хадзіў у царкву. Або ходзіць ня ў тую царкву – каталіцкую, напрыклад.

– Гэй вы, старыя абармоты! Хопіць хапаць за ногі маладых! Дайце ім жыць! Сацыялізм ваш здох, хіба ня бачыце! Ад яго на сьвеце смурод. Хутчэй закопвайце! А то будзе чума!

Во, выказаўся! А што далей? Чакаеш апладысьментаў, дурань! Дойдзе да Зудзіловіча, ён на цябе напіша! Атрад АМАПа выцягне цябе з трубы, тады запяеш па нотах!

«А няхай выцягвае, – раптам падумаў Валера. – На волі

горай ня будзе. Ня выцягне – таксама няблага, буду недасяжны. Незалежны. У трубе ўсё ж свабода. Во дажыў – два варыянты і кожны лепшы адзін за другі. Во – свабода!»

– Свабода! – закрычаў ён. – Сарокін свабодны! А Клёнаў?.. А і Клёнаў – таксама.

Гэта вырвалася ў яго спантанна, ён ня меў іншых пераканаўчых аргументаў, бо наўрад ці сапраўды адчуў сябе свабодным. Але калі чалавек ня можа на справе, тады выйсьцем для яго робіцца слова. Мабыць, слова – апошні аргумент свабоды.

«Дайце чалавеку слова!» – хацеў закрычаць Валера, але падумаў, што тое будзе занадта банальным. Вось каб толькі папіць...

– Падлы вы і злачынцы! І вертыкалынчыкі! І сексоты. І ты, Валька – сука. І твой муж – таксама. Пастой, хто гэта? Знаёмае імя... Усё роўна падлюга.

Падобна было, што ён пачаў вар’яцець! Ці, можа, тое яму здавалася. Усё навакол плыло і круцілася, быццам ён выпіў паўлітра. Але яму было добра ў трубе – спакойна і незалежна. І зьявілася думка, нікуды адсюль болын не ісьці. Ня лезьці, не караскацца. Не чапляцца за жыцьцё. Што яму там, у жыцьці? Згрызоты і няволя. Тут жа – спакой і свабода. Тут ён сам за сябе і ніхто – супраць яго. Можа сьмела аблаяць кожнага. Або маўчаць. Плюнуць на клубны рамонт, на зьвягу жонкі. Нават ня будзе патрэбы шукаць бутэлькі па клубных закавулках. Мабыць, там ужо ўсе падабралі пасьля дыскатэкі. Упершыню ў жыцьці Валера Сарокін набыў голас і з ім стаў адважным.

Кепска было толькі тое, што за ўсё належала плаціць уласным жыцьцём, якое ў яго адно. А за адно, мабыць, шмат ня купіш. Нават за адно вартае жыцьцё, а не такое нехлямяжае, якім было жыцьцё ў Валеры.

Ён і на самай справе болей нікуды не палез, застаўся ляжаць у трубе, пакуль яго не адолеў сон. Ці, можа,

прастрацыя. У стомленай сьвядомасьці яго ўсё настойлівей пачыналі гаспадарыць дзіўныя, пачварныя вобразы-здані – сабачая галава на вялікім блюдзе, у якім жонка звычайна рабіла вінегрэт для сям'і. Пасьля зьявілася нейкая рыба ў кузаве самазвала – дробная, жывая рыбка, за якой ладавалася мітусьлівая жаночая чарга. Валера быццам нідзе там не прысутпічаў, але ўсё бачыў, нібы назіраючы збоку. Ці зьверху. Пасьля яшчэ нешта, што не запомнілася – блытанае, дзівоснае, – як на карцінах сучасных мастакоў-сюррэалістаў. Усяго шмат, усё блытанае, і нічога не зразумець. Можа, Валера і спаў, але ён не адчуваў таго. Выразна было толькі тое, што ён пакуль жыў; замаруджанае жыцьцё ў ім працягвалася, хоць і ў дзіўным, заблытаным стане.

У канцы ён адчуў сябе пад нібыта крыштальным скляпеньнем вялізнае залы палацу, поўнай людзей, сьвятла і – дабрыпі. Прасьветленыя, цярплівыя твары людзей былі зьвернутыя ў бок подыума, дзе зьбіраўся гаварыць прамову Валера. Побач стаялі іншыя людзі, нібыта якое начальства, і сярод іх – знаёмы яму Пазьняк, якога ён раней бачыў толькі на здымках. Усе чакалі Валеравага слова, і Валера чакаў таксама. Але што ён павінен сказаць – ня ведаў сам. Запаветнае слова павінна зьявіцца да яго аднекуль звыш, ён напружана чакае яго, каб вымавіць грамавым голасам, і тады адбудзецца штосьці. Штосьці неверагодна важнае і шчасьлівае. А слова тое недзе затрымліваецца, і Валера ад неспакою хвалюецца. Ён ужо амаль ведае гэтае слова, ды штось не дае вымавіць яго, Валера нервуецца, марудзіць. А тут прыходзіць трывожная думка, што ён жа памёр і нічога ніколі ня скажа. Валера нейк ненатуральна адплывае назад, убок і вышэй, сьціскаецца, нібы растае ў прасторы...

Валеру Сарокіна знайшлі ў трубе на сёмы дзень пасьля ягонай прапажы. Ён не дапоўз да газакампрэсарнай станцыі нейкіх дзьвесьце метраў; яго пачулі мантажнікі, якія па мабільным тэлефоне зьвязаліся з тэхслужбай, а тая выклікала міліцыю. Два міліцыянеры выцягнулі Валеру з трубы. Ён быў яшчэ жывы, але да рэанімацыі не датрываў.

Пахаваньне загадчыка клуба калгасу «Шлях да камунізму» фінансаваў «Газпрам». Гэта было прыстойнае пахаваньне. Удава, Валянціна Іванаўна, на магілкі не паехала...

Але Валера аб тым ужо не даведаўся

## «Мальбара»

– Яўген Іванавіч, дык колькі вам гадоў?

Яўген сядзіць на лаўцы ў гародчыку за густым кустом бэзу, што аддзяляе яго ад вуліцы. Бэз ужо зацьвітае, сярод лісьця вісяць набрынялыя сокам гронкі. Вясновы дзень з ранку выдаўся цёплы, у небе над шыфернай суседскай дахоўкай клубяцца прыгожыя аблокі – пад вечар можа нават здарыцца дождж. Праз расчыненае акно з хаты чуюцца ня дужа цьвярозая гамана, сьмех, малады бесклапотны рогат – гэта сватаюць Яўгенаву ўнучку Сьветку. Зрэшты, Яўгена тое мала крапае, ён ужо там выпіў і цяпер выйшаў на вуліцу. Тым болей паявілася не абыякая нагода – да Яўгена прыехаў карэспандэнт.

– Гадоў? – перапытвае Яўген, і яго зморшчаны, невядома калі голены твар напружваецца – Яўген прыпамінае ці лічыць. Ці, можа, не хоча адразу ашаломіць чужога чалавека нсмалым лікам сваіх гадоў, зацягваецца цыгарэтай і быццам нехаця абвяшчае: – Дык, значыцца, калі з Вялікадня, дык пайшоў семдзесят шосты год.

– Нямала, аднак, – кажа карэспандэнт і нешта памячае ў сваім разгорнутым на калене блакноціку.

Яўген ветэран, удзельнік вялікай вайны – фронту і партызамкі, адзнакі якой пазначаны на борце ягонага даўно ня новага суконнага пінжака: тры крывавата прышпіленыя бланкі стракацяць нясьвежымі колерамі юбілейных узнагародаў. Менавіта як да ветэрана да яго і прыехаў сёньня карэспандэнт з раёнкі, – набліжаўся

дзень Перамогі, спатрэбіліся сьвежыя ўспаміны пра вайну. Але ветэранаў заставалася з кожным годам усё меней, ужо трэба было падумаць, да каго паехаць, каб зрабіць варты матэрыял. Карэспандэнту параілі Яўгена Матусеню, і ён сёньня прыехаў.

Тым часам гамана ў хаце трохі прыпыняецца, і з акна высоўваецца віхрастая галава Сьветчынага свата Сяргея, які разам з яе жаніхом Вакулёнкам сёньня прыехаў з мястэчка. Вясёлы, счырванелы Сяргееў твар сьведчыць, што яны там добра ўжо ўзялі, і Сяргей цяпер курыць, пускаючы дым у гародчык.

– Што, дзед, расказваеш карэспандэнту, як на Прарыве немцаў грамілі? Ці немцы грамілі вас? Усё роўна карэспандэнту цікава...

Прыплюшчыўшы вока, Яўген пускае ў ягоны бок воблачка дыму.

– Цікава! – кажа ён з прыхаваным дакорам. – А во мне не цікава.

– Ну то ж табе! Столькі разоў, мусіць, расказваў – надаела.

– Надаела, – лёгка пагаджаецца Яўген і пазірае на вуліцу, дзе паўз гародчык тупаюць каровы – пастух гоніць нешматлікі вясковы статак. Размова за акном прыпыняецца.

– Яўген Іванавіч, а колькі ў вас урадавых узнагародаў? - пытаецца карэспандэнт, каб узнавіць патрэбную размову.

– А хто іх ведае. Я дык не лічыў.

– Вунь на пінжаку бачу дзевяць.

– Дык то было да перастройкі. А пасьля яшчэ давалі. А два медалі дык я не палучыў – у бальніцы ляжаў.

– Тады раскажы пра партызанскую любоў, – раіць з акна Сяргей. – Хай карэспандэнт надрукуе, як вы ў бары

любіліся.

– А што ж, – пагаджаецца Яўген. – Была і на вайне любоў. Толькі не такая, як зараз.

– А якая ж?

І Сяргей у акне, і карэспандэнт прыціхаюць, чакаючы, што Яўген нарэшце пачне расказваць. Але Яўген хвіліну маўчыць, а пасьля абвяшчае:

– А й то ня вам слухаць.

– Чаму ж ня нам? Вунь хай Сьветка паслухае, ёй будзе цікава. І карэспандэнт надрукуе.

– Не надрукуе, – ціха пярэчыць Яўген.

Карэспандэнт не пагаджаецца:

– Не, чаму ж? Калі матэрыял цікавы...

– Мацер’ял... У нас раней пра крамніну казалі: мацер’ял, – зазначае Яўген. – Ці мацерыя. Праз гэтую мацерыю ў брата жыцьцё наперакасяк пайшло.

– Праз мацерыю? – дзівіцца Сяргей, але не зразумець, ці на самой справе, ці хлопец блазнуе.

– Ну. Тады ж ня тое, што зараз – пайшоў, купіў. Трэба было на пай, па тры метры ў гаду. Ды ў чарзе пастаяць. А ў вайну дык і таго ня стала. Во братава Марыля і ўзьелася на мужыка, бо не хапіла мацер’ялу. Вядома ж, на каго жонка можа ўзьесьціся, калі якія непаладкі. Ці няхваткі. Зьвяглівая была баба. А брат Ягор увогуле быў чалавек цярплівы, але пакуль ня вып’е. А як вып’е, можа даць добрага дыхту. Во раз і даў ёй дыхту.

У акне паявіліся аж тры галавы разам – побач з Сяргеем кучаравая галава жаніха Вакулёнка, які ўвогуле жыў у горадзе, але часьцяком наязджаў да бацькі-пчаляра па грошы. І між імі выбеленыя патлахі нявесты – Сьветкі.

– Дык калі тое было? – сьмяшліва пытаўся Сяргей. – Яшчэ да Акцябра?

– Да якога табе Акцябра? У сорак першым, як немцы прыйшлі. Восеньшо. Пра партызанаў яшчэ ні слуху, ні духу не было. Немцы на Маскву пёрлі, а да нас у мястэчка прыехаў камендант, усё доктарам звалі. Пастой, як жа яго фамілія – забыўся. Памяць стала дурная, і не прыпомніш. Адно дык дужа помніцца, а другое – хоць забі. Учора некуды малаток паклаў, сёньня шукаў, шукаў... Пайшоў, у суседа пазычыў.

– Мусіць, таму, дзед, што ўчора добра паддаў? – зьедліва ручыць з акна, і Яўген незадаволена моршчыцца.

– А я яе ніколі дужа і не падабаў. Ну, так калі... А цяпер дык і саўсём... Гары яна гарам. Хіба ўжо якая нагода...

– Нагода, а як жа, – кажа Сяргей. – Унучку сватаем.

– Каторы ўжо раз сватаеце? – з дакорам зазначае Яўген.

– А нам што – абы жаніхі былі.

– Жаніхі... Абы выпіць вам...

Яўген, відаць па ўсім, яўна незадаволены такім паваротам у размове, – усё ж хацеў бы болей павагі да сваёй сустрэчы з карэспандэнтам, а гэтыя гагатуны ўсё зводзяць да жарцікаў. Карэспандэнт, малады хлопец з капешкай белых валасоў, якія неслухмяна рассыпаюцца на галаве, турботна перабірае на калене свой пакамечаны блакноцік. Ён хоча запісваць, ды запісваць, падобна, няма чаго.

– Гэта ж яны ўжо чацьвёрты раз, – кіўнуўшы на акно, паведамляе яму Яўген. – Сватаюць! Вып’юць, закусяць, перасьпяць на паддашшы. А праз месяц зноў у сваты.

– А мы, каб ужо моцна было. Каб не заржавела, – шчэрыць белыя зубы Сяргей. Ягоны сябра Вакулёнак насьцярожваецца.

– Сьветка, чуеш? Цябе дзед крытыкуе.

Сьветка ганарліва закідвае галаву, матлянуўшы скудлычанымі патламі, і вымаўляе працяжна:

– Ну і што? Падумаеш...

Відаць, яна таксама паддала ўжо сёньня і цяпер курыць цыгарэту за цыгарэтай. Здаецца, да сёньняшняга сватаньня адносіцца надта спакойна, калі не абыякава – ёй тое не ўпершыню. Сьветка ўжо выходзіла замуж аж тройчы, двойчы разводзілася, дзяцей ня мела. Апошні яе муж – прапаршчык – недзе прапаў у Прыднястроўі, куды яго нейкая халера загнала, і Сьветка яго не чакае – выходзіць замуж.

– Во, чуў? – зьвяртаецца Яўгеп да карэспандэнта. – Гэта ж такая парода – Гулькевічаў. Аняго ж! І яе бабка Марыля гэткая ж была. А то і горшая. І замужам, і як адна засталася. Як брат пагіб.

– Пагіб? – устрывожана пытаецца карэспандэнт.

– Пад Варшавай. Зямляк расказаў – на міну наступіў. А ён і мог наступіць, бачыў кепска. Можа, каб акуляры... Хто іх яму дасьць? А я во цяпер без акуляраў ні газеціны не прачытаю, ні сярнічак не знайду. Зрок зусім кепскі стаў.

Карэспандэнт, перагарнуўшы свой блакноцік, напомніў:

– Дык тады, у гады вайны, вы былі ў партызанах...

– Быў, быў, за брата Ягора пайшоў. Ну таго, што пагіб. Ён жа што мог у парцізанах – хіба хамуты пачыняць. А я ўсё ж, хоць малады, ды граматны быў, восем класаў скончыў. На значок «Варашылаўскі стралок» нормы здаў. Ну і пайшоў.

– За брата?

– Ну.

Карэспандэнт ня мог чагось сьцяміць, і тады з акна падказалі:

– Гэта як немцы яго адлупілі. За жонку.

– Немцы?

– Немцы, ага, – паволі выдыхнуў дымам Яўген. – Ну я ж кажу, гэта яго Марыля такая вужака была, узьелася з-за нейкай лахманіны, што ня даў грошай, не было ў яго грошай. Брат доўга зважаў тое, маўчаў, а пасьля ну й даў дыхту. Відаць, добрага дыхту. Упярод, да вайны, дык тая пасьля ў прочкі бегала, як маці была жывая. А тут матка памерла, куды пабяжыш? Дык яна, дурніла, – у мястэчка да гэнага каменданта. Пастой, як жа яго фамілія? – напружыў аслабелую памяць Яўген і, раптам, успомніўшы, узрадваўся: – А, Мільх, во як! Доктар Мільх. Прыехаў гэты доктар у мястэчка на пачатку восені ў сорак першым, з ім дванаццаць немцаў, пасьля паліцаяў прыбавілася. Клопату вялікага ў іх не было, у раёне ціха, фронт улетку прайшоў, парцізаны яшчэ не паявіліся. Гэта ўжо пасьля, перазімаваўшы, парцізан набегла ў лясах. Знаеш, скажу табе, каб гэтыя немцы былі разумнейшыя, дык, можа б, і парцізанкі ў нас не было.

– Як не было? – зьдзівіўся карэспандэнт і пагартаў блакноцік. – Во: у раёне ў сакавіку сорак трэцяга года дзейнічала дзьве брыгады і трынаццаць баявых групаў.

– Дык гэта ўжо ў сорак трэцім. Тады ўжо ім лацьвей было паяўляцца. Тут такое дзела... Ну, нашыя некаторыя і асобенна акружэнцы сабраліся на зіму і сядзелі, як мышы, па хатах. Некаторыя прыжаніліся, за гаспадарку ўзяліся. Ды яшчэ як узяліся – немцы ж калгасы распусьцілі, зямлю назад аддалі, трэба было пахаць-сеяць, дзяцей карміць. І знаеш, кармілі ня тое што раней у калгасе: і немцам здавалі, план жа ранейшы быў, і парцізан забясьпечвалі, але і сабе хапала. Тады хлеба наеліся – што значыць: аднаасобна. Вайна там недзе пад Масквой грыміць, а тут ціха. Дык гэтыя дурні-немцы аддаюць загад, каб усе акружэнцы, ну і там чужыя – усе прыбылі на рэгістрацыю. За невыкананьне – расстрэл. Ну хто, скажы, пойдзе на тую рэгістрацыю, з якой, можа, у лагер загрыміш? Пабеглі ў лес і пачалі ствараць парцізанку.

Усе гэтыя расповеды цікавыя, думаў карэспандэнт, але абсалютна непрахадныя, што толку было іх запісваць. І каб скіраваць Яўгена ў патрэбнае рэчышча, ён зважліва папытаўся:

– Але ж вы пайшлі добраахвотна?

– Я – дабравольна, – з прыхаваным гонарам адказаў Яўген і ўсьміхнуўся. – Дабравольна, але абязацельна. Як на заём! А як жа. Хоць і малады быў, сямнаццаць гадоў меў, але мусіў. Бо Ягор куды пойдзе – счытай, сьляпы. А да яго вясной з лесу – ідзі ды ідзі, немцы усё роўна стрэльнуць, бо скампраметаваны. Ці нават зьвязаны з немцамі, – што таксама расстрэл, толькі з другога боку. Ужо ад сваіх.

– А ён што – сапраўды быў зьвязаны?

– Гэ! Так лічылася. Усе мы былі зьвязаныя, бо пад немцамі жылі, не пад саветамі ж. Саветы ж нас кінулі, куды нам было падацца? Дык гэта камендант, доктар, як яго... Зноў забыўся...

– Ну, Мільх, малочнік, – падказаў карэспандэнт.

– Ага, малочнік, тоўсты такі, усё па мястэчку хадзіў з ад’ютантам – высокім, бы жардзіна, у акулярах і з рудой аўчаркай на повадзе. Баяліся яго, ага. Праўда, тады яшчэ нікога не застрэліў, толькі яўрэяў некуды вывезьлі. Куды? Тады ж ніхто ня ведаў, казалі, у гета, у горад. Пабралі з сабой цёплыя апраткі, грошы, прадукты, думалі: значыць, недзе жывуць. Пасьля аказалася – пастралялі.

– А вы можаце сказаць, дзе пастралялі?

– А хто ж іх ведае. Можа, у раёне, можа, у Менску. Ці па часьцях. Каб следу не засталося. Але гэта пасьля ўжо, як сьнег лёг. А сьпярша ціха было. Дык гэтая Марыля пасьля адной пачосткі ад брата пабегла ў мястэчка і – да каменданта: дай рады, пан немец, муж з парцізанамі зьвязаўся, у лес да іх бегае. Во дурная баба! Трэба ж было так на мужыка плявузгаць. Дай яшчэ сігарэціну,

калі ёсыдь, – зьвярнуўся ён да карэспандэнта.

– Ёсьць, калі ласка, – пасьпешліва працягнуў той пачак «Мальбара», з якога Яўген каравымі пальцамі вылузнуў адну, заклаў за вуха.

– Я дык больш «Прыму» абажаю. А гэтыя «мальбары»... у тэлевізары глядзеў неяк, пачалося здорава – коні, дзецюкі такія зубатыя, ну, думаю, пра бандытаў будзе, цікава. Аж толькі рэклама...

– Табе лепш махру курыць, – азваўся з акна Сяргей. Там ён застаўся адзін, Сьветка з жаніхом ужо зьніклі. За вуглом прарыпела драбіна на паддашша, і ў хаце зрабілася ціха.

– А што – махра неблагое курыва. У вайну яшчэ як курылі. Нават немцы ўпадабалі. Лепей за гэтыя «мальбары».

– Дык Марыля паскардзілася каменданту, – нецярпліва напомніў карэспандэнт, з прыкрасьцю адчуваючы, як марудна рухаецца яго інтэрв’ю.

– Паскардзілася, ага. Думала са злосьці, што ўдавой будзе. Некаторыя ж жанкі толькі і марыць, каб удавой стаць. Сьпярша замуж выйсьці, пасьля пенсіі дачакацца, а затым удавой стаць. Так і Марыля.

– А што камендант?

– А камендант гэны, доктар... Ага, Мільх кажа: яволь. І падае каманду ад’ютанту, той – іншым. І во ўжо падкатвае брычка і конных некалькі і – у дзярэўню. І да Ягора. Той якраз бульбу на гародзе выбіраў, дык яго, не памыўшы рукі, – ком! А затым да старасты нашага – быў такі гаваркі актывісьцік у калгасе, дык яго старастам паставілі, каб народ да канторы сабраў. Ну чалавек дваццаць сабралася, і я там быў. Чую, мужыкі кажуць, што Ягора будуць вешаць за сувязь з парцізанамі. Якімі парцізанамі – ніхто ня ведае. Але прывялі Ягора, і Марыля тут, гэтая аж цьвіце – яе перамога. Можа, трохі і баялася, але не відно. Прыцягнулі з канторы лаву, на

лаву ўзьлез камендант. Народ стаіць кучкай, чакае. І во камендант пачаў гаварыць, а перакладчык, нядаўні наш вучань, праўда, трохі старэйшы за мяне, Юрка Паўшонак перакладае. І што ж атрымліваецца? Атрымліваецца, што Марыля зрабіла наўмысны паклёп на мужа з намерам увесьці ў зман нямецкія ўлады, бо парцізан у раёне няма, не было і ніколі ня будзе. А таму за паклёп ёй належыць трыццаць Розгаў, якія сй даць тут жа.

Ну, мужыкі ўздыхнулі, – значыць, Ягора вешаць ня будуць. А бабу варта павучыць, хай гэтак не жартуе. Два паліцаі хапаюць Марылю ды на лаву. Тая крычыць, выкручваецца, ды паліцаі, здаровыя мужыкі – адзін з акружэнцаў, камандзір нейкі, а другі міліцыянер наш раённы, немцы сьпярша такіх бралі. Нават начальнік НКВД стаў нейкім паліцэйскім чынам у Полацку. Пасьля яго парцізаны застрэлілі.

Карэспандэнт уважліва слухаў, хаця нічога не запісваў, мусіць, не было чаго, і ён усё чакаў. У акне, пасьміхаючыся, сядзеў Сяргей. Гэты Яўгенаў расповед хлопец слухаў не ўпершыню і цяпер толькі курыў і таксама маўчаў. Да Яўгена падбегла яго рыжанькая вяртлявая сучачка, але, адчуўшы побач незнаёмага чалавека, адбеглася на вуліцу. З вуліцы да гародчыка падышлі двое малых, стаялі, зважліва пазіраючы цераз кветнік.

– Павалілі бабу на лаву, задралі спадніцу і дзержаць. А трэці ў нямецкай форме розгаю ёй па задзе. Тая галосіць, бы на хаўтурах, а гэты хлешча. Камендант лічыць – айн, цвай… Мы ўсе гледзімо – цікава. Трохі шкада, але і варта гэтай Марылі, будзе навука. Ягор таксама тут жа стаіць зьбялелы, гэтаму не да цікаўнасьці, мусіць. Тым болей, што бабы ўжо пачалі воўкам пазіраць на яго – ведама ж, бабам болей бабу шкада. Адсьцябалі яе, паднялі за рукі – каціся прэч, вэк, значыць. Народ уздыхнуў, але расхадзіцца не далі. Новы прысуд. Камендант аб’яўляе, што і Ягору таксама належыць уляпіць. За тое, што кепска выхоўвае жонку – дваццаць розгаў. Ягор стаіць нерухома, бы не разумее,

мы таксама мала што разумеем. Тады паліцаі яго за рукі, як нядаўна жонку, – лажыся. Той няспрытна так лезе на лаву. Э, не, браце, – скідывай порткі. Расьпяразваецца, бы ў непрытомнасьці кладзецца, паліцаі яму порткі да калень ссоўваюць, каб зручней было, і ўсё той жа немец пачынае хвастаць. Добра даў, ня горш чым Марылі.

Народу аж шкада стала – завошта? Але немец ведаў, завошта: не распускай жонку, бо наробіць клопату.

– Гэта... Я хачу запытаць, – перапыняе Яўгена карэспандэнт. – А як прозьвішча вашага брата?

– А навошта ягонае прозьвішча? У газету? Ня трэба ў газету. Прозьвішча яго на камені пад Варшавай, там не сатрэцца. Ага... А каменданта ўвесну парцізаны падстрэлілі. Выйшаў уранку да туалета, ну там зарадку пачаў рабіць, як паложана, а з ляска Коля, малодшы Варончын хлопец, яму з вінтоўкі – прама ў скрошо. Во снайпер, халера. У блакаду ля Сухадольля забілі.

– А помнік? – запытаўся з акна Сяргей.

– Які табе помнік! – незадаволена азваўся Яўген, прыкурваючы «Мальбара». – Гэта на захадзе помнікі, кожнаму асобны. А ў нас хто тады помнікі ставіў? Адзін на ўсіх. Пасьля вайны паставілі бетоннага пастуха ў накідцы – вунь і цяпер ля сельсавета стаіць. Ну і словы – вечная памяць і так далей.

Карэспандэнт зноў разгарнуў блакнот.

– Але ж мые непанятна – Ягор гэты ваш, мяркуючы па ўсім, чалавек блізарукі, у партызаны не ўзялі, а ў войска?

– А ў войска ўзялі. Ды ён і ў парцізанах быў. Як я пайшоў, ну і да яго прыляпіліся – ідзі ў лес, бо ўжо скампраметаваны – ня немцы, дык нашы застрэляць. Як прыйшла брыгада Селязьнёва, дык жонка і туды зьбегала, на яго накапала. Ну асабісты і ўзялі. Думалі, застрэляць, не – паставілі ў строй. У атрадзе

кулямётчыкам быў.

– Блізарукі – кулямётчыкам?

– Кулямётчыкам. Праўда, ня тым, што страляе, а тым, што станок на горбе носіць.

– Панятна, другім нумарам, значыць.

Карэспапдэнт зноў нешта пазначыў у сваім блакноце і змоўк, бытццам задумаўся. У той час у акне паявіліся ўжо адсутныя да таго Сьветка і яе жаніх Вакулёнак. Сьветка гукнула да Сяргея:

– Пасунься. І дай прыкурыць.

Сяргей толькі павярнуў галаву.

– Хай табе той дасьць, каму ты давала.

– Ахламон! – кінула Сьветка і зьнікла з акна.

– Во якія яны, цяперашнія, – сказаў Яўген. – Усё Марыліна племя...

Карэспандэнт аж прыўстаў з лаўкі, каб зірнуць у хату,

дзе схавалася Сьветка. Але яе там не было відаць, толькі аднекуль здаля, можа, з сенцаў, пачуўся яе бесклапотны пявучы голас:

– А што такога? Падумаеш...

– Немца на вас няма, – сказаў Яўген. – Ён бы вам паказаў, што такога...

З акна, па-сяброўску абдымаючыся, пазіралі на гародчык і вуліцу Сяргей з Вакулёнкам, і Сяргей сказаў:

– Дзе ж цяпер возьмеш немца? Вы ж яго перамаглі. А цяпер во хутка і жраць ня будзе чаго.

– Эх ты – перамаглі. Многа ты панімаеш, – з дакорам сказаў Яўген. – Можа, гэта ён нас перамог...

Карэспандэнт, між тым, то разгортваў, то складваў свій блакноцік. Чагось ён усё ня мог сьцяміць. На хлапечым твары яго ляжаў ранейшы клопат – трэба было вяртацца ў раён, а матэрыялу пра гераізм у яго – кот наплакаў. Не надрукуеш жа гэтыя Яўгенавы байкі. Значыцца, ёсьць адно выйсьце – ехаць да Грыгаровіча, былога парторга брыгады Селязьнёва. Гэты, праўда, ужо зусім аглух і, бадай, зьдзяцінеў, але наконт гераізму – артыст! Толькі папытайся пра гераізм, ён табе нагаворыць, хоць на паласу, хоць на дзьве. Кепска адно, што яго ўжо растыражыравалі – і ў раённай, і ў абласной, і ў менскіх газетах, на кожнае сьвята – Грыгаровіч. Але нічога ня зробіш – трэба ехаць да Грыгаровіча.

Карэспандэнт хуценька разьвітаўся з Яўгенам, які, дакурваючы «Мальбара», застаўся ў гародчыку.

Маладых у акне ўжо ня стала відаць...

## Доўжык

Магілы, магілы...

Абапал вузкай, пасыпанай гравіем дарожкі цягнецца шматрадоўе гарадскіх могілак – на зямлі, якая яшчэ нядаўна была палеткамі прыгараднага саўгаса. Некалі тут вырошчвалі бульбу, капусту, розную гародніну. Але рос горад – расьлі і гарадскія могілкі. І во яны – цесна зьбітыя шэрагі помнікаў, магіл-загародак – з вугалка, дрэва, здабытага за бутэльку арматурнага жалеза. Амаль усе – з абавязковай бетонна-мармуровай стэлай, змайстраванай у форме марскога паруса, хаця і мала падобнай да яго. Крыжоў на пахаваньнях савецкай эпохі амаль не відно, хіба дзе-нідзе на вяршку каменнай стэлы выбіты і абведзены чорным тоненькія праваслаўныя крыжыкі. Некаторыя помнікі ўпрыгожаны невялічкімі, з далонь, авальнымі фатаграфіямі на фарфоры, перазыштымі з маладых здымкаў памерлых, усьмешыстыя твары якіх слаба дапасуюцца да самотных мясьцін іх бытаваньня.

Непадалёк ад цэнтральнага ўвахода ўздоўж дарожкі – недаўгі рад адыолькавых парусоў з чырвонымі зоркамі на вяршках і павялічанымі партрэтамі маладых дзецюкоў на фасадах стэл. Гэта – афганцы. Усе ў зухавата заламаных на вуха бярэтах, у паласатых цяльняшках на расхрыстаных грудзях. А два – нават з улюбёным сябрам баявой пары аўтаматам Калашнікава ва ўчэпіста сьцятых сьпецназаўскіх руках. Некаторыя з іх бесклапотна ўсьміхаюцца, мабыць, ня ведаючы яшчэ, што пройдзе небагата часу, і ім наканавана будзе пераўвасобіцца з бравых пераможцаў «духаў» у банальныя ахвяры канаючага інтэрнацыяналізму.

А цераз дарогу насупраць – другая група помнікаў, куды багацейшых ды болей імпазантных: груваcткія маналіты пераважна з чорнага паліраванага лабрадору, з вялікімі, да пояса, партрэтамі ў люстрана-зіхоткіх на камені скураных куртках, ды і надпісы пэўнага кшталту. «Твой посьпех абмылі без цябе, Бабок», «Касой, мы адпомсьцілі», «Чакай мяне, лапка, і я вярнуся. Твая Разяўка», – значыцца на гладкіх баках манументаў, абкружаных цяжкімі ланцугамі з меднымі круглякамі па кутах. Гэта ўжо трагічныя знакі бурнай эпохі пачатковага пераразьмеркаваньня капіталу.

Макарэвіч роздумна ішоў па дарожцы, няўцямна азіраючы матэрыяльны плён людской марнасьці, лена аддаючыся сумным развагам пра загадкавую сутнасьць зямнога. А таксама – пра ня меншую загадкавасьць тагасьветнага, калі цела застаецца на гэтым во нядаўнім саўгасным полі, а душа адлятае кудысь. Але куды? – пытаньне, на якое чалавецтва так і не здабыло адказу за ўсе стагоддзі свайго існаваньня. Мабыць, дужа строгае табу ляжыць на гэтай загадцы, адгадаць якую ня дадзена людзям. І Макарэвіч падумаў, што вельмі нават можа так стацца, што дагэтуль не адгаданага проста не існуе, і кожнае чалавечае жыцьцё банальным чынам заканчваецца на гэтых во могілках. Хіба пажыве ў памяці двух-трох пакаленьняў і пойдзе ў нябыт. Назаўжды і беззваротна.Дык ці варта дужа клапаціцца пра помнікі, загародкі, чысьціню магіл і пасьмяротную памяць? Зноў жа, паводле камунальных

правілаў, могілкі праз пяцьдзясят гадоў ліквідуюцца, каб зноў ператварыцца ў тэрыторыю пад чарговую будоўлю або стадыён для футбалістаў, працягваў думаць Макарэвіч, усё далей заглыбляючыся ў магілкавы гушчар. Ён шукаў патрэбную яму магілу, месца якой памятаў кепска, ды і тапаграфія мясцовасьці надта зьмянілася за тыя паўтара дзясятка гадоў, якія ён тут ня быў. Памятае, хавалі зімой, магіла патанула ў глыбокім сьнезе, дзьмуў сьцюдзёны марозны вецер, яны ўсе азяблі, пакуль слухалі службовыя прамовы і, таропка закідаўшы магілу камякамі мёрзлай зямлі, пабеглі на дарогу ў аўтобус.

З той пары ён сюды не прыходзіў.

І, мабыць, дарма не прыходзіў. Усё ж пакуль жывы, на могілкі, як і ў царкву, трэба хадзіць часьцей і зусім ня дзеля нябожчыкаў ці Госпада Бога – дзеля сябе. Па сутнасьці, як і нябожчыкі, ты таксама ў значнай ступені належыш мінуламу, куды табе наканавана рана ці позна вярнуцца ад сваёй мітусьлівай, няўлоўнай сучаснасыді, якой, вельмі магчыма, і не існуе. Замест яе – суцэльныя ілюзіі, гэтыя імклівыя ластаўкі, што бясконца праносяцца ў змрочным патоку сьвядомасьці. Зусім іншая справа – тваё добрае ці кепскае мінулае, яно ляжыць у душы валуном, і ніхто ня ў стане зрушыць яго. Ні прырода, ні закон, ні начальства.

Азіраючы нагрувашчаньне магілаў ды помнікаў, Макарэвіч думаў: і тут цяснота, і тут няма волі. Мала яе было пры жыцьці, ня стала болей і пасьля сьмерці. А можа, людзям яе і ня трэба? Можа іх вабіць толькі адно – заўзяты працэс барацьбы за волю, дасягнуўшы якой, яны тут жа пачынаюць будаваць з яе клетку ў выглядзе дзяржавы, улады, турмы і арміі. Воля робіцца ўласнасьцю бамжоў, ад якой і тыя не заўжды ў захапленьні.

Макарэвіч мінуў дзясяткі два магільных радоў, задуменна азіраючы іх беглым няўцямным позіркам. Дзе-нідзе між магілаў відаць былі людзі, пераважна жанчыны – прыбіралі, парадкавалі, упрыгожвалі апошні прытулак блізкіх. Сумны але і высакародны клопат, без

разьліку на ўдзячнасьць, ад чыстага сэрца. Таму, мабыць, некаторыя магілкі з тых, што бліжэй ад дарогі, выглядалі па-сьвяточнаму прыбранымі, чысьценькімі, з кветкамі за абгародкай, сьвежа пафарбаванай у які-небудзь невясёлы колер. Зрэдку на мармуры ўрачыста зіхацелі золатам аздобленыя надпісы – дарагому такому і такому – ад жонкі і дзяцей. Або ад мужа і дзяцей. Радзей – ад калектыву супрацоўнікаў. На высокім кутнім, трохі шырэйшым чым звычайна «парусе» сьвяціўся трайны партрэт пахаваных – дарослага і дзьве дзіцячыя галоўкі. Макарэвіч пакутліва адвёў позірк – ён ужо ведаў, што там можна ўбачыць, – хутчэй за ўсё трагічныя ахвяры дарог, гэтую непазьбежную даніну аўтамабільнаму молаху за спазьнелую аўтамабілізацыю, у якую кінуліся людзі, не забясьпечаныя ні дасканаласьцю тэхнікі, ні бясьпекай дарог. Бо чаму, калі ў нас ступень аўтамабілізацыі ў дзесяць разоў ніжэй, чым у Штатах, сьмяротнасьць на дарогах у два разы вышэй?

Дзякаваць Богу, ягоны нябожчык памёр на ўласным ложку, акружаны любай сям’ёй, адданымі супрацоўнікамі па інстытуце, якім ён кіраваў шмат гадоў. Не абыдзены таксама ўвагай улады, якая рэгулярна адзначала яго ўзнагародамі і паставіла хоць сьціплы, але ўвогуле прыстойны помнік з папулярнай мармуровай крошкі. Дальназоркі Макарэвіч яшчэ з дарогі ўбачыў яго шырокі, усьмешысты на помніку твар і, узрадаваны, нібы жывому, павярнуў на праходзе.

– Ну, здароў Аляксей Іванавіч, даўно ня бачыліся, – сказаў ён і спыніўся, паклаўшы рукі на запыленую парэнч агароджы.

Апошнюю з ім сустрэчу памятаў добра – сам ляжаў у бальніцы з трэцім інфарктам. У тыя гады інфаркты лячылі старанна і доўга, па тыднях не давалі ўставаць з пасьцелі, што ўвогуле было нялёгка. Напачатку бальнічную самоту трохі разьвявалі частыя адведкі родных і знаёмых. Але спакваля тыя адведкі радзелі, – бо колькі ж можна наведвацца, калі хворы не здаравее і не памірае. У адзін з такіх невясёлых дзён надвячоркам

у палату, дзе ляжаў Макарэвіч, уваліўся жвавы, счырванелы ад марозу Аляксей Іванавіч. Доўга не марудзячы, паклаў на тумбачку пяток апельсінаў, кавалак каўбасы, азірнуўшыся, выцяг з цэлафанавага пакета запаветную бутэлечку з бацяном. «Ну, ты як? Нічога? Папраўляешся? Ну і добра. А як наконт гэтага? Не? Ну не, дык не, – вядомая справа. Тады я за тваё здароўечка. Каб хутчэй гэта самае... А то там студэнты сумуюць – залікі ўсё ж...» – ажыўлена гаварыў ён, ня надта чакаючы ягонага адказу.

Натрэніраванай за доўгае кіраўнічае жыцьцё рукой булыснуў у шклянку роўна сто грамаў і выпіў. А выпіўшы, быццам нават паспакайнеў, набыў звыклую важнасьць, пачаў расказваць пра інстытуцкія справы, праблемы з разьмяшчэньнем, завал фінансаваньня на трэці квартал. Макарэвіч расслаблена слухаў, з зайздрасьцю пранікаючыся ягонай валявой дзелавітасьцю і энергіяй, якіх даўно ўжо ня меў сам. Адкуль яму было ведаць, што роўна праз тыдзень, у дзень ягонай выпіскі з бальніцы, Аляксей Іванавіч сканае ад першага ў ягопым жыцьці інфаркту, і яму давядзецца хаваць чалавека на гэтым во засьнежаным пагорку.

Помнічак увогуле быў ня горшы за іншыя, але магіла выглядала страшэнна засьмечанай, відаць, з вясны ніхто ля яе не паяўляўся. Нейкія дробныя кветачкі ля бетонных беражкоў кветніка безнадзейна паніклі на ссохлай зямлі, з якой дружна мкыула ўгару пустазельле. Некалі чырвоныя гвазьдзікі ў брудным шкляным слоікуператварыліся ў сухі калючы гербарый. Макарэвіч адагнуў на варотцах канцы іржавай драціны і ступіў у абгародку. Павесіўшы на кутні слупок пінжак, павыдзіраў пустазельле, выкінуў у кут сухія гвазьдзікі з разьбітага слоіка. Трэба было працерці каменны фасад стэлы, які ад пылу стаў матавы, паліць кветкі, можа б, тыя і ажывелі. Вада тут была ля ўвахода на могілкі, але ў яго не было пасудзіны, і ён пашукаў наўкола вачыма, каб каго-небудзь згледзець. Непадалёк, трохі ніжэй пагорка, каля трох аднолькавых абеліскаў завіхалася немаладая жанчына з дзяўчынкай – абедзьве,

схіліўшыся над кветнікам, штосьці саджалі, – і ён скіраваў да іх.

– Добры дзень вам, – павітаўся Макарэвіч, падышоўшы да жанчыны. Тая адразу выпрасталася, ухапіўшыся аберуч за набалелую сярэдзіну. Гэта была сівенькая бабулька з добрым, прыветным тварам. Трохі пявучым голасам яна адказала на прывітаньне.

– Мне вядзёрачка на хвіліну не пазычыце? Я тут во – паблізу, – сказаў ён, ужо згледзеўшы каля яе налітых хваравітай паўнатой ног пластмасавае вядзерца.

– Ну, чаму ж не? Калі трэба, вазьміце. Вы ж не насаўсім, прынясеце...

Гадоў сямі дзяўчынка ў стракатым сарафаніку і белай панамцы тут жа ўскочыла ад расады і па-дзіцячы даверліва паведаміла:

– А наш дзядуля хутка прыедзе, вяргіні прывязе і флоксы, мы будзем садзіць.

– Гэта добра – саджаць флоксы, – сказаў Макарэвіч і з вядзерцам у руцэ пайшоў з пагорка.

Ахоплены канкрэтным клопатам, ён страціў жаданьне разважаць пра асаблівасьці могілак, сентыментальнае пачуцьцё адляцела, як заўжды перад справай. Насустрач яму ішлі людзі – жанчыны з дзецьмі, бабкі з кошыкамі ў руках, некаторыя несьлі вядзерцы, рыдлёўкі. Прашкандыбаў высокі худы інвалід на пратэзе з сумкай і кіёчкам у руцэ. Напрыканцы рабочага дня з горада прыехаў нячасты на гэтым маршруце аўтобус, людзі ўспомнілі пра свой абавязак перад нябожчыкамі.

Каля трубы з кранам, якая для зручнасьці была прыладжана на драўляныя казлы, ён наліў вядзерца і нетаропка панёс яго да магілы Аляксея Іванавіча. Тут, паліваючы з прыгаршчаў, абмыў фасадны бок стэлы, і твар нябожчыка быццам праявіўся з пылу, набыў першародную сьвежасьць. Рэштай вады паліў зморанаыя кветкі – можа, ажывуць? Усё ж было сумна, што з

немалой сям’і нябожчыка так ніхто і не сабраўся за лета на гэтую магілу. Няма калі? Напэўна, і ўсё ж... Ён таксама сабраўся ўпершыню за пятнаццаць гадоў – ня густа. Але во зрабіў невялічкую справу, і стала неяк вальней на душы – быццам дзеля жывога. Для нейкае яго зручнасьці. Хаця нябожчыку ўжо ўсё роўна, значыцца, для сябе гэта, дзеля ўласнага задавальненьня. Дзіўнаватае ўсё ж пачуцьцё, капрызьлівая патрэба душы. Які ў тым сэнс? А які наогул сэнс у жыцьці?

Зрэшты, мабыць, дарма шукаць сэнс там, дзе яго, можа стацца, і не было ніколі. Не па сваёй волі паявіўся на сьвет і жывеш не па сваёй волі. А прыйдзе пара зьнікаць – катастрофа! Быццам несправядлівасьць якая. А даўно ж і дакладна сказана: нішто ня вечнае на зямлі. Усё, што мае пачатак, павінна мець і канчатак. Іначай і быць ня можа. Вельмі гарманічна, справядліва і надта дэмакратычна. Вечна жыць немагчыма, а пры нашых завядзёнках знайшліся б выключэньні і прывілеі. Для начальства, найболыл заслужаных, дэпутатаў і карупцыяністаў – за грошы, вядома. Не, ужо лепш хай будзе, як ёсыдь. Адбыў свшо чаргу на зямлі і ідзі. Дай месца наступнаму.

Нядоўга спачыўшы ля загародкі, ён надзеў у рукавы пінжак, узяў вядзерца.

– Ну пакуль, Алёша, да новага. Тут або там, – сказаў ён і адразу адчуў пранізьлівае шкадаваньне да сябе, успомніўшы класічнае: я ўжо дома, а ты яшчэ ў гасьцях...

Аднёсшы вядзерца, паставіў яго ля чорнай, нядаўна па фарбаванай абгародкі, за якой высіліся тры аднолькавыя абеліскі, кожны з невялічкай клумбачкай унізе, ужо занятай пасаджанай расадай. Бабуся ахвотна паднялася насустрач і тут жа зьнямогла апусьцілася на лаўку.

– Во дзякуй, прыбраў і паліў...

Перш чым пайсьці, беглым позіркам сьлізгануў па

абелісках – на першым былі два прозьвішчы з імёнамі і датамі, на другім – адно, а трэці бялеў чыстым, падрыхтаваным для надпісу квадратам. Ягоную ўвагу прыцягнулі надпісы з нячастым у тутэйшых мясьцінах прозьвішчам Доўжык. Аднекуль, можа, з глыбіні падсьвядомасьці, вынырнула забытая фраза, і ён мовіў услых:

– Доўжык з Малых Доўжыкаў.

– Ага. Доўжыкі мы. Не тутэйшыя – з-пад Полацка. Тут мы пасьля вайны, як брат прыйшоў з арміі і пачаў на трактарным рабіць, – ахвотна загаварыла бабуля.

– Доўжык з Малых Доўжыкаў, – паўтарыў Макарэвіч. – Гэта хто? Муж?

– Не, гэта дзядуля. І бабуля. Ведаеце, яны ў адзін год памерлі. Тут, ужо на трактарным...

– А во цёця Наста пахавана, – паведаміла дзяўчынка, паказваючы на сярэдні абеліск, дзе лаканічна значылася: «Доўжык Анастасія Іванаўна. 1936-1967». – Яна на самалёце пагібла.

– На самалёце?

Бабуля ўзялася распавядаць, як нявестка паляцела па турыстычнай пуцёўцы ў Чэхаславаччыну і загінула з усімі разам, прывезьлі запячатаную урну...

Няўважліва слухаючы яе, Макарэвіч утрапёна пазіраў на трэці абеліск з чыстай таблічай і баяўся спытаць. Ды спытаць усё ж давялося.

– А там што? Ці хто пахаваны?

Бабуля сьціпла схавала пад фартушок напрацаваныя рукі і ледзь чутна сказала:

– Ніхто.

Здаецца, ён зразумеў. Так часам робяць асабліва запасьлівыя – ладкуюць участак, ставяць помнік з

прозьвішчамі і дзьвюма лічбамі даты, астатняе пакідаючы на пасьля.

– Тут для сябе пакінула і для брата Валодзі.

– А брат жывы?

Дзяўчынка зводдаль, каля сярэдняга абеліска адразу насупілася, бабуля вярнулася да лаўкі і, перш чым адказаць, прысела на яе.

– Прапаў. На вайне. Пісалі – нідзе няма, ні ў сьпісах забітых, ні ў сьпісах параненых. Можа, знойдзецца...

– Валодзя? – заклапочана запытаў Макарэвіч. – Валодзя Доўжык?

– Ну. Дваццаць гадкоў было хлопцу.

– А дзе прапаў? На фронце? У партызанах?

– У партызанах, ага. Пайшоў і прапаў. Пісалі ў архіў камандзірам – ніхто ня ведае, нідзе ня чысьліцца. Можа, у палон папаў, можа, яшчэ што. Можа, вы дзе страчалі? – з раптоўнай надзеяй у вачах запытала бабуля, напэўна, адчуўшы ягонае хваляваньне.

– Я? Ды не, не...

Ён стрымана разьвітаўся і пайшоў між магіл на дарожку. Ягонае хваляваньне паволі перарастала ў гняўлівае раздражненьне, і ён ціха сам сабе казаў: сволачы! Гэта ж трэба! Нават і са сьпісаў выкрасьлілі. Ці і не запісвалі? У жмуркі гуляюць...

Сьпярша Макарэвіч гатовы быў усумніцца, не адразу паверыўшы сваёй здагадцы – усё ж мінула столькі гадоў. Але во падкорка, глыбіня падсьвядомасьці паслугавалі наўзьдзіў дакладна. (І што там хаваецца, якія працэсы адбываюцца ў яго старэчай галаве?) Ён даўно ўжо забыўся на тое прозьвішча, калі б трэба было прыпамятаць, мабыць, не прыпамятаў бы. А тут рэфлекторна, нібы стрэліў хто, як толькі слыху дапяла даўно забытае слова Доўжык, умомант выскачыла ўся

знаёмая фраза: Доўжык з сяла Малыя Доўжыкі. І праўда, ён ведаў і Валодзю, і ягоную вёску, калі ўначы хадзілі каля яе на «жалезку». Зрэшты, ведаў, як і шмат каго іншых жывых і памерлых партызан, з якімі давялося калісь дзяліць хлеб, жыцьцё; хіба ня даў Бог падзяліць толькі сьмерць. Доўжык... Хаця ведаў, – можа, занадта па цяперашнім часе, калі, працуючы ў адной арганізацыі, ня вельмі ведаеш чаланека. Або жывеш дваццаць гадоў у адным доме і хіба што вітаешся з ім пры выпадковай сустрэчы ў пад’езьдзе. Там жа ўсё было інакш, час там імкнуў паводле іншых, асаблівых законаў. З гэтым Доўжыкам ён прабыў побач няпоўныя два дні, а во запомніў, як аказалася, на ўсё астатняе жыцьцё. І нават не па ўласнай волі, – можа, насуперак ёй. Падкорка зафіксавала калісь і выдала ў пэўны для яе момант.

...Мокрай туманнай ноччу васямнаццацігадовы партызан Макарэвіч стаяў на пасту ў бліжняй ахове і зьмяніўся перад сьвітаньнем. Ранкам яго не адразу пабудзілі, ён прыпазьнеў са сьняданкам і не пасьпеў даесьці халоднае сёрбава ў кацялку, як пачулася каманда на пастраеньне. Хапаючы зброю і майно, у буданах затаўкліся партызаны іх атрада імя «...наццатага зьезда ВЛКСМ», няласкава паціху лаючыся з прычыны няўрочнага пастраеньня. Сапраўды, з нейкага часу яны амаль кожнага дня строіліся – для агляду, палітгутарак, а болей для суровых вымоў не заўжды цьвярозага камандзіра атрада. Ранейшы камандзір, якога яшчэ застаў Макарэвіч, быў не такі, алс ранейшы месяц таму загінуў. Вяртаючыся з разьведгрупай з другога атрада, натрапіў на паліцэйскую засаду, іх абстралялі, і выпадковая куля, выпушчаная ў ноч, забіла камандзіра. Усе астатнія вярнуліся жывыя-здаровыя, а камандзіра па другі дзень закапалі. Неўзабаве, аднак, паявіўся новы – дзесьці і кімсьці прызначаны, у атрадзе нікому не знаёмы. Партызаны яшчэ не пасьпелі перажыць сьмерць ранейшага, што арганізаваў атрад і год праваяваў з ім, сустрэлі новага моўчкі і насьцярожана. Вядома, камандзір адчуў тое і, падобна, затаіў зло.

Напачатку для знаёмства ён расстраляў перад строем начальніка забесьпячэньня, былога бухгалтара сельпо. Але таго, можа, і варта было расстраляць за яго ня надта чыстыя стасункі з мясцовай паліцыяй, а галоўнае – за п’янства і нядбайства да партызанскага харчаваньня. Затым пасьля начной фалынтрывогі камандзір уласнымі рукамі зьбіў ротнага, які быццам бы ня выканаў ягонага загаду аб узмацненьні пільнасьці – замест шасьці дазораў выставіў ноччу чатыры, пашкадаваў партызан. Камандзір гатовы быў вар’яцець ад браку пільнасьці, і нават у пушчы, дзе атрад разьмяшчаўся раней і дзе на дваццаць кіламетраў вакол не было жывога чалавека, акружаў сябе трайным ланцугом варты. Для такой высокай пільнасьці трэба было шмат людзей, і партызаны невялікага атрада зьнемагалі ад празьмернае каравульнае службы. Кожную ноч некалькі дзясяткаў іх зяблі і моклі ў шматлікіх лясных заслонах, сакрэтах, дазорах, а ўдзень ішлі за дзясяткі кіламетраў па харч і для ліквідацыі здраднікаў з ліку вясковых старастаў і прымакоў-паліцаяў.

Прытрымліваючы на бягу даўгую, без штыха вінтоўку, Макарэвіч сьпяшаўся ў строй, які ўжо няроўна выцягнуўся сярод баравых хвояў на воглай з начы палянцы. У атрадзе ён быў нядаўна, крыху больш як месяц і далёка ня кожнага партызана ведаў у твар. Пакуль бег, перад строем, было відаць, паявіўся і камандзір – прыземісты камлюкаваты кавалерыст, за якім, бы на прывязі, плёўся ягоны ад’ютант. Часу шукаць месца ў страі Макарэвіч ня меў і прыткнуўся на левым флянзе шэрагу, калі ўжо прагучала каманда «сьмірна». Зірнуўшы ўбок, сьлізгануў позіркам па твары суседа – рослага, худога хлопца, якога першы раз бачыў.

Камандзір разам з чарнатварым ад’ютантам, якога за яго смаляную чупрыну, што лезла з-пад вайсковай фуражкі, клікалі Махно, ішоў перад строем. З-пад ілба ўзіраўся ў маладыя і ня вельмі, схуднелыя, далёка не зухаватыя твары партызан, быццам шукаў каго. Усе моўчкі і пакорліва нерухомелі, не разумеючы, чаго хоча

гэты чалавек, ва ўладзе катoрага жыцьцё і сьмерць кожнага. Стоячы воддаль, падобна гэтак жа няўцямна чакаў начальнік штаба атрада маўклівы лейтэнант Курапаткін і з ім яшчэ нехта невядомы. Прайшоўшы да канца шэрагу і, як здалося Макарэвічу, зафіксаваўшы на ім апошні свой позірк, камандзір вярнуўся на сярэдзіну паляны.

– Дзе дысцыпліна? – пагрозьліва прарыкаў ён. – Дзе парадак? Дзе пільнасьць? Дысцыпліны няма! Парадку няма! Пільнасьці няма! Да якога часу гэта будзе прадаўжацца? – зноў запытаўся ён і скончыў моцным камандзірскім матам.

У страі, напэўна, неяк адрэагавалі на тое выступленьне, якое ўжо рабілася для яго звыклым, можа, загаварыў хтось,і камандзір вызьверыўся з яшчэ большым імпэтам:

– А каманда волыта была? Я пытаюся: каманда вольна была? Не было каманды вольна! Дык якога ж хрэна... Сьмірна! – скончыў ён зусім ужо грымотным голасам, ад якога, здавалася, хіснула вяршаліны хвой. Макарэвіч, падобна, таксама скалануўся ў страі, а сусед ціха сам сабе прамовіў:

– Ай, як грозна, як страшна...

У ягоным тоне чулася ўсьмешка, і Макарэвіч збоку зноў зірнуў на яго, падумаўшы: хоць бы на палянцы ня ўчулі. Але не, усё ж было далекавата. Тым болей, што камандзір працягваў лаянку:

– Я вам навяду парадак! Я змушу выконваць загады! Паважаць ваенную дысцыпліну!..

– Які як! Хоць паклажу грузі, – ціха бурчэў сусед.

– Пільнасыдь, пільнасьць і яшчэ раз пільнасьць! – гучала на прыціхлай палянцы. – Вам зразумела, такую вашу растакую – адтор тры крыжы!?

Падобна, нарэшце, ён сьцішыўся; кавалерыйская каманда, пададзепая для ўласнага заспакаеньня, была

пэўнай таго адзнакай. Начальнік штаба зусім па-штацку прамовіў «вольна», і ўся камандзірская група скіравала да асядланых коней, якія чакалі непадалёк. Атрад у тутэйшых лясах разьмяшчаўся ў розных мясьцінах (дзеля бясьпекі), і камандзір з аховай езьдзіў між імі, кожны раз паяўляючыся зьнянацку, у самы няздатны час.

Застаўшыся без камандзіра, партызаны не сьпяшаліся ў буданы, – камандзіры ўсчалі разьмяркоўваць людзей у нарады; некаторыя ўзяліся круціць цыгаркі ці проста чакалі. Звычайна пасьля пастраеньня людзі весялелі, чуўся сьмех і жарты; сёньня ж было не да жартаў – пасьля камандзірскай лаянкі мала каго вабіў гумар. Макарэвічаў сусед адышоўся да знаёмых, пра нешта паціху размаўляючы там, як паблізу паявіўся Махно, – няпэўнага ўзросту чалавек у ватоўцы, перакрыжаванай некалькімі рамянямі, з нямецкім аўтаматам на плячы.

– Камандзір кліча! – кіўнуў ён суседу, і той, недаўменна цепнуўшы плячыма, пакорліва пайшоў сьледам да коней, дзе чакаў камандзір.

Трохі зацікаўлены выклікам, Макарэвіч пазіраў ззаду, як той нетаропка крочыў па мокрай ігліцы, у кароткім чырвонаармейскім шынялі, што быў яму да калена. Падышоўшы, зусім па-вайсковаму махнуў рукой да аблеглай на галаве пілоткі, і між імі адбылася гутарка. Зрэшты, гутарка здавалася спакойнай, бяз крыку, і тое заспакоіла Макарэвіча. У той час яго паклікаў узводны старшына Дзмітрэнка, які аб’явіў, што Макарэвіч прызначаецца ў дазор да вёскі Вязавічы. «А дзегэта?» – папытаўся Макарэвіч, але і камузвода таксама ня ведаў, бо раней дазоры туды не прызначаліся. «Хто ведае?» – павярнуўся ўзводны да хлопцаў, ды яму ніхто не адказаў, мабыць, таксама ніхто ня ведаў. А калі і ведаў, дык каму ахвота была прызнавацца ды ісьці немаведама куды – можа, д’яблу ў зубы. Але тут падышоў сусед, яўна заклапочаны. «Вунь Доўжык ведае», – падказаў нехта, і старшына запытаўся: «Дзе Вязавічы, ведаеш?» – «Ведаю», – упэўнена адказаў Доўжык. «Пойдзеце ў дазор. Во з ім. Там недзе ля моста...» Ісьці трэба было

зараз жа, бо камандзір чакаў. «А зьмена калі?» – запытаўся Доўжык. «Зьменім, зьменім», – няпэўна паабяцаў Дзмітрэнка, і яны нетаропка пайшлі баравой прасекай.

– Ну і камандзір! – незадаволена бурчэў Доўжык, нічога, аднак, не тлумачачы. – Ахламон гарласты. Алюр тры крыжы яму...

Макарэвіч ня ведаў, што азначае гэты алюр, але падумаў што напарнік чымсь раззлаваны, і папытаўся, навошта яговыклікаў камандзір. Перш чым адказаць, Доўжык засьцярожана азірнуўся на недалёкую яшчэ прагаліну.

– Разумееш, боты мае яму не спадабаліся. Кажа, варожая форма! А я за гэтыя боты ледзьве кулю не атрымаў. Затое хоць ногі сухія.

Макарэвіч зірнуў на ягоныя боты, сапраўды, тыя былі не тутэйшага шытва, падобна, з нямецкай нагі, але і не салдацкія. Нямецкія салдацкія боты ён ужо бачыў, тыя мелі кароткія халяўкі і нехуцаваты выгляд. Аднак, можа, гэта афіцэрскія?..

– Я за ім кіламетр па лесе бег, ён у мяне з пісталета пуляў, а я з карабіна. Але, сьпяшаючыся, ведаеш... Толькі на мушку возьмеш, а ён за куст схаваецца. Але ўсё ж падлавіў... Бег, думаў, у яго ў палявой сумцы якія сакрэты, а там брытва ды мамазок. Затое боты цяпер на ўсю зіму. Праўда?

– Добрыя боты, – з прытоенай зайздрасьцю сказаў Макарэвіч.

– Ну во і пазнаёміліся. Я – Доўжык з Малых Доўжыкаў, - дадаў хлопец і ўсьміхнуўся, адразу прагнаўшы з твару ранейшую заклапочанасьць.

– А я з Полацка. Макарэвіч.

– Гарадскі, значыць?

– Гарадскі...

Макарэвіч не захацеў расказваць, што ў горад ён пераехаў перад самай вайной, што раней жыў пры станцыі, бацька да арышту рабіў на чыгунцы. Казённую кватэру пасьля ягонага арышту адабралі, і маці з трыма дзяцьмі перабралася ў горад да брата, у яго вузкую барачную каморку, дзе і бяз іх жыло трое. Як пачалі набіраць у ФЗН, Макарэвіч пайшоў вучыцца на муляра і перасяліўся ў інтэрнат. На аднаго чалавека сям’я скарацілася, у бараку стала нібы вальней. З далейшае размовы высьветлілася, што Доўжык старэйшы за Макарэвіча на адзін год і да вайны скончыў дзесяцігодку. Наступны момант біяграфіі быў самы важны, – іх партызанскі стаж. І тут выявілася, што Доўжык у гэтым атрадзе з вясны, што тут ён ведае кожнага, асабліва камандзіраў.

– Ранейшы камандзір быў не такі. Маўклівы быў, ага. Для яго галоўнае – разьведка. Кожную ноч ганяў дробныя групы – за тры, за пяць, за дзесяць кіламетраў – усё на разьведку. Затое і ведаў, дзе што адбываецца. Дзе колькі паліцэйскіх, якія старасты. І пamalу адстрэльваў па адным усіх здраднікаў і прыслужнікаў. А цяпер паспрабуй знайсьці каго. Рэшта ў райцэнтр змылася. Хлопцы пойдуць на нарыхтоўку прадуктаў – няма ў каго ўзяць. Ну і даводзіцца радавых калгасьнікаў трэсьці. Жраць жа трэба.

– І сам загінуў. А ты кажаш – разьведка, – сказаў Макарэвіч, успомніўшы недарэчную пагібель камандзіра.

– Ну то выпадак! Выпадак ніякі разумнік не прадугледзе.

Ціха перагаворваючыся, яны нядоўга ішлі ўздоўж прасекі, пасьля павярнулі пад хвоі. Сыры мох пад нагамі рабіў нячутнымі іх крокі. Але бор хутка скончыўся, пачаўся беразьняк, зарасьлі алешніку і ляшчыньнік з парадзелай восеньскай лістотай. Прадраўшыся праз гушчар, апынуліся перад шырокай палявой роўняддзю. Удалечы за пустынным полем відаць былі дахі і коміны нейкае вёскі, – напэўна, гэта і былі Вязавічы. Па ўзьлеску цягнуўся гразкі прасёлак з мастком, пад якім

у аброслых асакой берагах бліскала сонная рэчка. Недзе тут і павінны засесьці ў дазор. Да асноўнага лагера адсюль было кіламетры два, мо крыху болей.

Не пераходзячы масток, яны ўскараскаліся на зарослы хвойнікам крутаваты прырэчны пагорак і прыпыніліся.

– Сядай, таварыш Доўжык з Малых Доўжыкаў, – жартоўна скамандаваў сам сабе хлопец. За дарогу ў сяброўскай размове прыкметна праявілася напэўна ўласьцівае яму пачуцьцё гумару.

– А ведаеш, добра, што ў дазор, – сказаў ён, з задавальненьнем аблёгшы на сухім прыгорку. – Усё далей ад гэтага дурня.

Пасьля павярнуўся ніц, агледзеў поле. З пагорку было відаць далёка, але нічога падазронага нідзе не заўважалася. Людзей нідзе не было. Дарога таксама ляжала пустая, месцамі чарнеючы гразкімі калдобінамі. Хмарнае з раніцы неба быццам трохі праясьнела, хаця сонца нідзе не паказвалася; з поля дзьмуў нямоцны, але даволі сыдюдзёны вецер. Шчыльней захінуўшы свой куртаты шынелак, Доўжык выняў з-за пазухі кніжку.

– Што глядзсць! Пакуль час, трэба пачытаць. Макарэвіч, аднак, стараўся назіраць. Ён не ўпершыню быў у дазоры і ведаў, як трэба быць пільным і не праваронiць бяду. Вядома, бяда можа стацца, а можа, і не, – тут як пашанцуе. Але і зяваць нягожа. Вунь Скакуы зяўнуў, паспадзяваўся на авось, пайшоў на хутар раздабыць харчу і папаўся. Пакуль былі патроны, адстрэльваўся, а пасьля, запаліўшы хату, спрабаваў прарвацца. Але ўдзень хіба прарвешся? Так і загінуў, пагубіўшы яшчэ двух партызан і хутарскую сям’ю з дзецьмі. А ладны быў партызан, узнагароджаны...

Аднак увесь час сядзець на адным месцы было сьцюдзёна і надакучліва. Пазіраючы на поле, Макарэвіч круціўся на пагорку – то сядаў, то клаўся на бок. Напарнік жа, захапіўшыся кніжкай, быццам забыўся, дзе ён і дзеля чаго сюды пасланы. Доўгія ягоныя ногі бясьпечна раскінуліся на траве, і Макарэвіч з

цікаўнасьцю разглядваў яго боты. Боты сапраўды былі добрыя – з тоўстай юфтавай скуры, халявы ў форме бутэлек – якраз па назе. Пад каленямі былі прышыты кароценькія раменьчыкі з спражкамі, – мабыць, каб зашпіліць і не згубіць, едучы конна, падумаў Макарэвіч, з прыкрасьцю зірнуўшы на свае растаптаныя бахілы. Тут жа ляжала вінтоўка Доўжыка – звычайны нямецкі карабін з загнутай уніз рукаяткай і нейкімі засечкамі на ложы. Макарэвіч палічыў засечкі, іх было сем, але чый гэта быў лік, не зразумець. На даўгой вінтоўцы Макарэвіча ніякіх засечак не было, і невядома, ці застрэліў хто з яе хоць аднаго немца. Макарэвічу дык пэўна не давялося. Крысом сваёй фэзэоўскай курткі ён выцер добра паіржавелы за ноч затвор, выдзьмуў з прыцэльнае планкі налезлае туды ў лесе сьмецьце. Ён таксама хацеў дастаць сабе такі вунь карабін, але палітрук Лучынін, што нядаўна загінуў на млыне, сарамаціў тых партызан, што мелі ахвоту да нямецкіх трафеяў і нямецкае зброі. У часе палітінфармацыі ён пераканаўча тлумачыў перавагі нашай вінтоўкі – і безадмоўная, і зімой у мароз не падводзіць, у рукапашным з ёй куды лепш – далей штыхом дастае. Можа, і так, думаў Макарэвіч, але чаму тады ў камандзіраў нямецкія аўтаматы, пісталеты таксама. Асабліва хлопцу падабаліся «парабелумы» з тонкім ствалом і зручнай рукаяткай.

– Вінтоўку дзе дастаў? У атрадзе? – запытаўся ён у Доўжыка.

– У атрадзе, дзе ж яшчэ, – сказаў Доўжык, паварочваючыся на бок. – Са зброяй у нас, канешне, праблема. Людзей шмат, зброі не хапае. Сьпярша ў паліцаяў адбіралі, але паліцаяў перабілі – дзе возьмеш? Немцаў няма, па дарогах ніхто ня едзе. Вясной пятнаццаць чалавек паслалі за лінію фронта – па зброю.

– Прынесьлі?

– Чорта з два. Пайшлі і прапалі. Можа, не дайшлі, а можа, ідучы назад, дзе напароліся. Так і невядома. А гэтая – за перакладчыцу.

– Перакладчыцу?

– Ну. У вайну – перакладчыца, раней у школе рабіла, настаўніца, Рыма Арнольдаўна, нямецкую ў нас выкладала. Ведаеш, маладая, сімпатычная такая. Мы нават яе любілі. Хто ж думаў, што вайна пачнецца, і яна да немцаў перакінецца.

– Да немцаў?

– Ну, не да немцаў, – там у іхняй управе будзе рабіць.

Доўжык замоўк і склаў кніжку. Відаць, губляючы цікавасьць да чытаньня, зьдзеў з галавы старую, бяз зоркі пілотку, пяцярнёй прыгладзіў свае адрослыя віхры.

– Можа, і кепска зрабіў... А можа, і не. Усё ж перакладчыцай яна была? Была. А з іншага боку – і настаўніцай была. Праблема, канешне. І не застрэліць нельга было, загад жа...

– Гэта дзе? Тут? У сваёй вёсцы? – запытаўся Макарэвіч, узіраючыся ў поле. Доўжык адказаў не адразу, пасьля паўзы, нібы прыпамінаючы штось.

– Ня тут – у мястэчку. Атрад жа тады дзейнічаў па той бок, за «жалезкай», у ваўчанскім лесе. Прыйшлі мы з Колькам Церахам у гэты атрад... Чаму ў гэты? Які надарыўся, у той і пайшлі. Перапыніў во гэткі дазор, прывёў да камандзіра. Хто такія? Хочам у партызаны. А дзе зброя? Зброі няма. У нас для вас таксама няма, здабывайце самі. Як здабыць? Забіце немца і вазьміце зброю. А як яго забіць, калі самі бяз зброі? А гэта ўжо як хочаце. Забіце, задушыце, утапіце. Вось вам дзьве гадзіны на роздум. Сядзім пад сасной, думаем. Робіцца зразумела, што бяз зброі мы ім не патрэбны. І нас яны ня пусьцяць, бо мы іх рассакрэцім. Ну што рабіць? І тут зноў кліча камандзір. Вы адкуль, пытаецца. Ну, з Малых Доўжыкаў. У школу ў мястэчка хадзілі? У мястэчка. Настаўніцу Петракевіч ведаеце? Ведаем, нямецкую ў тшс вяла. А цяпер ведаеце, дзе яна? Не, ня ведаем. Нямецкай перакладчыцай працуе. Дык пойдзеце з

Лізюковым і ліквідуеце яе. Тады і атрымаеце зброю. Во гэта заданьне! Ды яшчэ бяз зброі. А Лізюкоў гэты – два метры бугай, бровы на пераноссі зрасьліся. З акружэнцаў ці прымакоў, але таксама новы ў атрадзе. Пасьля ўжо я зразумеў, што ўвогуле справа была ня ў зброі – яны нас правяралі. Ну пайшлі мы ў мястэчка. Нібы пад канвоем Лізюкова. Праўда, ён дарогі ня ведае, усё ж мы вядзем. Яно і ня дужа далёка, а ўсто ноч ішлі. Заблудзіліся трохі. Хаця ночы кароткія, якраз на Купалку. Дзіўнавата было – ідуць вучні сваю настаўніцу караць. Я дык у яе нядоўга вучыўся, усяго два гады. А Коля чатыры – з пятага па восьмы клас. Кепска ўсё, і я сябе ўгаворваю: правільна! Перакладчыца, значыць, здрадніца. А калі здрадніца – атрымай кулю. Нашто пайшла да немцаў? І ўсё ж страшна... першы вораг, і такі дзіўны, – настаўніца. А што рабіць? Ня можам жа мы адмовіцца. Уцячы можна, але як жа тады партызаны? На сьвітаньні падышлі да мястэчка, на лузе пералезьлі цераз рэчку. Ідзём па скошанай траве, лёгкі такі туманок сыделецца. Лірыка! Ведаеш, тут зусім стала мне страшна. Дык я сябе лаю: трус! Калі струсіш, табе ня жыць. Паняў? Быццам трохі падзейнічала. Крытыка, яна, знаеш, заўжды дзейнічае. Падышлі да гародаў, пералезьлі цераз адзін плот, другі. Арыенцір – журавель над калодзежам. Ужо амаль разьвіднела. Баімся, хоць бы на сабаку не налезьці. І якраз налезьлі. Малы, а зьвяглівы, так і заліўся ў двары побач. Але і настаўнічын двор – во ён. А як увайсьці? Гляджу, на сабачы брэх з-за фіранкі выглядвае бабка. Падыходжу, Колька з Лізюковым абапал акна стаіліся. Кажу бабцы: Рыма Арнольдаўна дома? Гэта яе вучань, Доўжык Валодзя. Бабка схавалася, праз нейкі час фіранка зноў адхінаецца – настаўніца. Добры дзень, кажу, Рыма Арнольдаўна. А гэта ўжо сігнал Лізюкову. Той з вінтоўкі – трах! Шкло пасыпалася, крык у хаце. Ну, а мы – дай Бог ногі... Толькі ў лесе спыніліся. У той жа дзень надвячоркам далі вінтоўку. Во гэту, нямецкую.

– Лізюкова? – здагадаўся Макарэвіч.

– Ну. Камандзір уручыў. Лізюкову аўтамат далі.

– А што – Лізюкова таксама правяралі? – зьдзівіўся Макарэвіч.

– Хто знае? Можа быць, – сказаў Доўжык, чагось, аднак, не дагаворваючы.

Макарэвіч маўчаў. Ён ня ведаў, як да таго аднесьціся. Усё ж, відаць, трэба мець моцныя нервы, каб забіць настаўніцу, хаця і нямецкую прыслужніцу. Можа быць, думаючы пра тое ж, Доўжык сказаў:

– А наогул – паскудная справа!..

– Мабыць, так, – пагадзіўся Макарэвіч. – Асабліва калі настаўніца была добрая. А як жа друг твой?

– Колька? Колька ўцёк.

– Як – уцёк?

– Струсіў, мабыць. Яшчэ прыйдзецца шукаць. Добра, калі дома паявіцца. А то ў паліцыю ўскочыць?

Яны прымоўклі. Абодвум стала чамусьці няёмка, асабліва Макарэвічу. Доўжык зноў разгарнуў кніжку, рабіў выгляд, што чытае. Але наўрад ці чытаў, усё часьцей пазіраў на поле. Дачакаўшыся, калі ён перагорне старонку, Макарэвіч спытаўся:

– Што ты чытаеш?

– Знаеш, цікавая кніжка, шкада, раней не чытаў. «Амок» Янкі Маўра, – сказаў ён, раптам прасьвятлеўшы тварам амаль ад дзіцячай усьмешкі. – Была калісьці ў мяне мара: зрабіцца мараком і аб’ехаць вакол сьвету. Цікава было б, як думаеш?

– Мабыць, цікава.

– Ужо не аб’едзеш! Вайна. Цяпер хоць пачытаць пра далёкія краіны. Ды ты ня надта ўзірайся туды – нічога там няма. Гэта вёска пустая, паліцыя ў Грабянюках, праз дванаццаць кіламетраў. А камандзір наш – бздун, – казаў Доўжык, расьцягнуўшыся на траве. Пасьля

перавярнуўся ніц і, паўзіраўшыся ў поле, сказаў: – Там вёска мая.

– Дзе?

– А там за Вязавічамі. Сьпярша будзе паваротка на возера, пасьля трэба пераехаць ляском і – Малыя Доўжыкі. А я – Доўжык з Малых Доўжыкаў, – скончыў ён, відаць, улюбёнай сваёй прымаўкай. Мабыць, адчуўшы некаторае недаўменьне напарніка, патлумачыў: – Гэта мой дзед так рэкамендаваўся. Паехаў у Піцер без дакументаў, без знаёмых, ну, і зьвяртаючыся да гарадавога ці там дваравога, перш-наперш казаў: – Я – Доўжык з Малых Доўжыкаў. I вельмі дзівіўся, што тыя нс разумелі. Пасьля дома жартаваў: дужа цёмны народ! Ня ведаюць, дзе Доўжыкі. У нас хоць мальца запытай, кожны скажа: там Доўжыкі, дзе Доўжыкі жывуць. У нас жа ўсе Доўжыкі.

– Добрае прозьвішча маеце.

– Старажытнае. Нідзе болей такога няма. Хаця хто ведае, – сказаў ён і раптам запытаўся: – Як думаеш, калі вайна скончыцца?

– Вайна? Ня ведаю. Можа, праз год. Калі другі фронт адкрыецца.

– Доўга чакаць. Можна не дачакацца. Ведаеш, а маю сястрычку ў Нямеччыну забралі.

– Сястрычку?

– Ну.

– Кепска.

– I нават вельмі. Можа, і жывой няма. А ў цябе сястра ёсьць?

– У мяне два браты, – сказаў Макарэвіч.

– Малодшыя ці старэйшыя?

– Малыя яшчэ.

– Малым таксама ня мёд. Ды ўсё ж лепей. Падрастуць, здабудуць вінтоўкі і – у лес. А во дзяўчаткам... Мая слаўная такая была сястрычка. А я яе крыўдзіў...

– Крыўдзіў?

– Дурны быў. Малы дуронік. Хочаш пачытаць? – падаў ён кніжку. – А я падрамлю.

Макарэвіч узяў з яго рук дужа пацёртую, абгорнутую старой газецінай кніжку, пагартаў, паглядзеў малюнкі. Малюнкі былі цікавыя – мора, пальмы і буданы, чарнаскурыя людзі з крывымі нажамі – напэўна, таксама вайна. Вайну ён не любіў – ні ваяваць, ні чытаць пра яе, болей падабаў жывёлаў. Калі яны жылі на станцыі, у іх была карова з цялушкай, якую ён пасьвіў улетку ў кустах, побач заўжды бегаў Жулік, нізенькі, на кароткіх лапах, вельмі адданы яму сабачка. Жулік разумеў кожнае яго слова. Хлопцаў на станцыі было мала, і ён усе гады да пераезду ў горад сябраваў з сабачкам. Жуліка ў горад узяць было нияк, пакінулі суседзям. Дык ён аднойчы самохаць прыбег за дзесяць кіламетраў, укусіў гаспадара, і той загадаў яго ўтапіць, бо карміць не было чым. Як тапілі яго, Макарэвічу не хацелася і ўспамінаць нават. Сэрца абліваласся крывёю, як казала маці.

Калі Макарэвіч падняў галаву ад кніжкі, напарнік, падобна, спаў. Сагнуўся на баку, засунуў у рукавы сашчэпленыя рукі, уцягнуў галаву ў плечы. Пад вечар рабілася сьцюдзяней; хоць дажджу не было, але памацнеў вецер з поля. Хацелася есьці, і Макарэвіч пашкадаваў, што не дамогся ад узводнага адказу, калі ж іх зьменяць? Ды ўсё ж, думаў ён, да ночы павінны зьмяніць. І яны пойдуць у свае буданы, бліжэй да кухні і, мабыць, чаго зьядуць. Галоўнае – каб гарачага. Хоць супу, хоць кашы ці нават гарачай гарбаты з хлебам, але абавязкова гарачага, а не цеплаватага, як звычайна. Ад сьцюжы ўсё паступова дубянела ўнутры; азызьлі і зрабіліся няўклюднымі рукі, карцела стаіцца, зьнерухомець, заснуць. Чаго якраз і нельга было

дазволіць сабе. Тым больш у дазоры.

Каб не заснуць, Макарэвіч пачаў грэцца, – скакаць, бегаць на месцы, абмахваць сябе рукамі. З дарогі і поля іх тут не было відаць, хаваў сасоньнік; хлопец жа час ад часу пазіраў на поле. Доўжык, здавалася, спаў, але во ён разьняў павекі, убачыў напарніка і, быццам трохі ўсьміхнуўшыся, зноў іх заплюшчыў. Не, ён таксама ня спаў, проста ляжаў у спакоі і думаў. Пра што толькі думаў? Наўрад ці пра заморскія краіны і ўжо не пра тое, мабыць, што хутка ўсё для яго скончыцца самым зьнянацкім чынам, час ягоны мінаўся. І гэты сьцюдзёны восеньскі дзень у дазоры можа стацца самым спакойным днём яго лесавога жыцьця.

Так і не адолеўшы сьцюжу, Макарэвіч прытаміўся і вырашыў спачыць. Напасьледак кінуў позірк уніз і нечакана ўбачыў на дарозе двух. Ён адразу пазнаў іх – адзін быў узводны Дзмітрэнка, а другі... Ну, вядома, з ім побач на дарозе крочыў Махно, тут не было ніякага сумневу.

– Доўжык... Доўжык! – ціха паклікаў Макарэвіч. Доўжык падхапіўся з долу, стаў на каленях – тыя два з дарогі, задраўшы галовы, ужо выглядвалі іх на пагорку. «Нарэшце зьмена», – узрадаваўся Макарэвіч, хаця штосьці замінала яго радасьці. Нашто тут Махно? Ды і з кім жа яны зьменяць іх – болей там нікога не было відаць. Аднак ён прыўзышўся з-за хвоек, замахаў рукой – тут мы.

Партызаны хутка ўскараскаліся на крутаваты дарожны схіл, азірнуліся на поле.

– Ну, як тут у вас? – запытаўся заўжды дапытлівы ўзводны. – Усс ціха?

– Усё ў парадку, – сказаў Макарэвіч.

– Гэта добра, што ў парадку, – як праз зубы, працадзіў маўклівы Махно. – Значыць, працягвай назіраць.

– А зьмена? Мы ж тут ад ранку...

– Зьмена будзе. Пазьней, – сказаў узводны і павярнуўся да Доўжыка. – А мы пойдзем.

– Куды?

– На Кудыкіну гару, – з гумарам адказаў Махно.

– Куды загадаыа, – дадаў узводны.

Доўжык, як і раніцай, недаўменна цепнуў плячыма, і яны ўтрох адзін за адным пабеглі з крутога пагорка.

– А кніга, кніга! – крыкнуў наўздагон Макарэвіч, падхапіўшы з травы забытую кніжку. Доўжык зьнізу толькі махнуў рукой і пасьпяшыў за камандзірамі. Неўзабаве яны ўтрох схаваліся за прыдарожным хмызам.

Макарэвіч застаўся адзін. Самотным позіркам акінуў пустое поле, над якім пачалі гусьцець вечаровыя прыцемкі. Далячынь з вёскай ужо і ня ўгледзець было – хаты, дахі, вершаліны дрэў патаналі ў сівой туманістай навалачы. Дарога яшчэ цьмяна сьвіцілася на вузкім кавалку каля моста. Усё болей змрочна-загадкавым рабіўся хвойнік паблізу, які хутка губляў зялёныя фарбы дня. Макарэвічу стала журботна, усё ж аднаму ў дазоры было нягожа – нязручна і страшнавата. Увесь час думалася – і калі ж яны прышлюць зьмену? І чаму не зьмянілі ўдзень? І куды павялі Доўжыка?

Але на яго пытаньні адказаць не было каму, і Макарэвіч, каб ня зябнуць на ветры, пачаў хадзіць па пагорку, увесь аддаўшыся слыху. Асабліва як сьцямнела. Усё ж ноччу галоўная ўвага падала на слых, зрок уначы быў без патрэбы. Ён сваё адрабіў за дзень і начы ягоныя паслугі былі бескарысныя. А то і шкодныя. Увесь час штосьці здавалася на дарозе, быццам там хто ідзе, нібыта спыніўся, чакае. Нейкія невыразныя цені плывуць па полі. І нават хтось выразна варушыцца за крайняй хваінай. Але ўсё тое толькі здавалася, каб ашукаць уяўленьне. Макарэвіч гэту асаблівасьць начной псіхікі ўжо ведаў і разумеў: нічога там не было – ні ценяў, ні падазронага варушэньня. Хаця ад

усьведамленьня таго не рабілася лягчэй. Усё роўна было трывожна.

Ён стаяў, узіраўся, асьцярожна, амаль нячутна ступаў па траве між хвоек і слухаў, слухаў... Чамусьці менавіта ноччу лезьлі аднекуль падазроныя гукі – быццам дзесьці за лесам загуў рухавік аўтамабіля, але пагудзеў нядоўга і змоўк. Затым данёсься далёкі, незразумелы крык – птушкі ці чалавека. Ці, можа, каманда. Аднойчы далёка ў лесе бухнулі два стрэлы запар. Ён напружана і доўга чакаў працягу стралянiны, але болей яе не было чутна, – значыць, то былі выпадковыя стрэлы. А можа, усё тое яму здалося?..

Пад ранак спакутаваны ад сьцюжы і бяссоннай начы, ён пачаў думаць: ці не забыліся на яго там? Або знарок кінулі з нейкаю незразумелай мэтай? Можа, плюнуць на ўсё і пайсьці? І ўсё ж кінуць дазор ён не адважваўся. Тое, што магло здарыцца пасьля, было страшней за яго начныя страхі. Гэта Макарэвіч ведаў з вопыту некаторых. Але і недарэчна было зрабіць, як сабака, які застаўся пільнаваць пастухову бурку, калі пастух пайшоў за атарай. Пастух вярнуўся да вогнішча толькі вясной і знайшоў поруч з буркай шкілет сабакі. Усё ж ён – не сабака.

Калі разьвіднела, моца яго скончылася. Хай будзе, што будзе – ён пойдзе да ўсіх. Бо – чаму не мяняюць? Ці там што здарылася? Ці іх падстрэлілі па дарозе адсюль – узводнага і Махно? Але ж быў яшчэ Доўжык, хіба і ён забыўся пра свайго забытага напарніка?

– Чаму не зьмянілі? – чужым ад крыўды голасам запытаў Макарэвіч.

Узводны быццам шчыра зьдзівіўся.

– Да? Не зьмяыілі? Я ж сказаў... Сказаў Доўжыку – зьняць дазор. Там болей ня трэба, камандзір загадаў. Дзе Доўжык? Доўжыка – да мяне!

Штосьці, аднак, фалынывае чулася ў голасе ўзводнага, у яго нязвыклай, амаль вінаватай інтанацыі. І Макарэвіч

ня мог паверыць, што Доўжык забыўся перадаць загад камандзіра. Але дзе Доўжык?

– Дзе Доўжык? Паклічце Доўжыка...

Узводны і яшчэ гаманіў у будане і за буданамі, пасылаў кагось па пошукі Доўжыка. Але Доўжыка не было, і ніхто ня бачыў яго. Макарэвічу стала і зусім трывожна; ягоныя начныя перажываньні зусім адляцелі прэч перад загадкавым благім прадчуваньнем.

Да канца сышданку Доўжык не паявіўся.

Макарэвіч зноў пазьней за ўсіх атрымаў паўкацялка халоднай гарохаўкі, як аб’явілі пастраеньне. Ён думаў, што на пастраеньні ўжо ён убачыць Доўжыка. Але таго не было і на пастраеньні. Як і мінулы раз, Макарэвіч знарок стаў на левым фланзе. Каманды пакуль што не падавалі. Наперадзе, на палянцы з некалькімі камандзірамі стаяў узводны – штось там абмяркоўвалі, і Макарэвіч меркаваў-думаў. Зрэшты, меркаваў пра кепскае...

Але во зводдаль між рэдкіх хвояў паявіўся камандзір. Як заўжды, разам з сваім цемнатварым Махно і двума ардынарцамі пад’ехаў конна з левага фланга. Ротны, былы сельскі настаўнік, глухаватым, зусім не камандзірскім голасам падаў каманду, строй не адразу, але ўсё ж прыкметна прыціх, падраўняўся шэраг. Якраз перад тым месцам, дзе стаяў Макарэвіч, камандзір спыніў каня і спрытна, у два прыёмы саскочыў. Гэта ў яго кожны раз атрымлівалася прыгожа, недарма да вайны ён служыў у кавалерыі і «алюр тры крыжы» было яго любімым прыслоўем. Асабліва калі ён быў пад мухай, а пад мухай ён быў нярэдка. Выняўшы з страмёна правую нагу, ён імклівым узмахам перакідваў яе цераз конскі круп і, не дапяўшы долу, лёгка вымаў левую. Менавіта ў такі момант Макарэвіч міжволі ахнуў – з-пад доўгай палы камандзіравага шыняля мільганула знаёмая, матава наваксаваная халява з раменьчыкамі пад каленам. У Макарэвічавай галаве раптам мільганула здагадка, ад якой сьцямнеў сьвет.

Доўжык ніколі і нідзе не паявіўся, у атрадзе пра яго памалу забыліся. Забыцца было не складана – атрад памяняў стойбішча, пачаліся сутычкі з паліцыяй, асабліва як усчалася блакада. Старых партызан у атрадзе заставалася ўсё меней. Хвацкі кавалерыйскі камандзір па-геройску загінуў каля возера Шо, куды прапаў ягоны ад’ютант Махно, ніхто ня ведаў. Узводны Дзмітрэнка паранены трапіў у палон да карнікаў з батальёна СС, ягоны лёс і зусім жахлівы. Кнігу «Амок» Макарэвіч нейкі час насіў у кішэні сваёй фэзэоўскай курткі. Пасьля яна пайшла па руках і нарэшце была разадрана на цыгаркі.

...Макарэвіч сядзеў на аўтобусным прыпынку і не разумеў, што рабіць. У аўтобус насупроць біткам налезла народу, а людзі ўсё лезьлі ў яго нахілены на адзін бок кузаў Зьбянтэжаны Макарэвіч гэткім даўно ня памятаў сябе. Паехаць або вярнуцца – во што ён вырашаў і ня мог вырашыць. Ён неасьцярожна дакрануўся да сваёй старой раны, і ад таго забалела душа. А калі ён падзеліць той боль з іншымі...

І ўсё ж ён наважыўся. Чаму – сам ня ведаў. Як сьлед нічога не абдумаўшы, падняўся з лаўкі і пайшоў назад да пагорка. Па дарозе надумаў: сьпярша ён задасьць толькі адно пытаньне і ў залежнасьці ад адказу вырашыць, сказаць або не.

Зводдаль стала відаць, што бабуля з дзяўчынкай усё шчыравалі з расадай, але цяпер там паявіўся і хтосьці яшчэ. Падобна, высокі мужчына ў капелюшы. Ды гэта ж сустрэты ім інвалід...

Калі ён падышоў да знаёмай металічнай абгародкі, усе разам быццам з нядобрым адчуваньнем уставіліся на яго. У бабуліным паглядзе цьмела трывога, амаль спалох. Ён павініўся.

– Скажыце, калі ласка, я забыўся спытаць. У вайну вы былі ў Нямеччыне?

Настала недаўменная паўза, пасьля якой бабуля, быццам сумеўшыся, войкнула.

– Я ж так і ведала? Я так і падумала, – вы ж яго ведалі! Вы з ім у партызанах былі, праўда ж?

– Праўда, – сказаў ён. – І во хачу расказаць... А вы хто? - зьвярнуўся ён да інваліда ў капелюшы, – высокага і худога, з дужа запалымі шчокамі.

– Я яе муж, – сказаў інвалід. – Я ў курсе.

- Так... З чаго ж тут пачаць? Значыць, на пастраеньні мы сталі побач у страі...

Ён пачаў распавядаць – блытана, ня ўсё прыпамінаючы адразу, час ад часу прыпыняючыся. Далёка ня ўсё з напаўзабытага мінулага лёгка клалася на сучасную мову, аддзеленае ад сёньня паўсотняю гадоў. Ды і ў душы ня ўсё было пераадолепа да канца – супраціўлялася праўда, ведама ж, карцела выглядаць прыгажэй. Трудны і часам не зусім зразумелы быў ягомы аповед, і ён адчуваў тое. Ведаў, што так бывае яшчэ, калі аўдыторыя не спачувае апавядальніку або калі сярод яе знаходзіцца «духовы вампір», драпежнік думкі, як ён яго называў. Гэты, нічым не выдаючы сябе, пярэчыць зацята і моўчкі, паралізуючы тым думкі апавядальніка. І тым ня менш Макарэвіч расказаў пра ўсё, дадаўшы, што пасьля баёў і майскага разгрому саракчацьвёртага з атрадаў і брыгад засталіся малыя рэшткі, якія разьбегліся па навакольлі. Шмат якія камандзіры загінулі, мабыць, прапалі і дакументы. Асабліва тыя з іх, што сьведчылі пра разгром. Гэты разгром для прапагандысцкай зручнасьці пасьля назвалі прарывам і, каб не засталося сумневу, паставілі грандыёзны помнік. Сімвал перамогі...

Калі ён скончыў, бабуля моўчкі заплакала. Яе ніхто не ўгаворваў, не чапаў, толькі дзяўчынка самотна церлася ля яе каленяў. Зводдаль ля нейчай магілы, яўна прыслухоўваючыся да іхняй гаворкі, моўчкі стаялі дзьве жанчыны. І раптам інвалід павярнуўся да Макарэвіча і сурова, бадай, з накіпелай злосьцю загаварыў:

– Нашто вы нам расказваеце? Хто вас прасіў? Навошта нам ведаць пра тое? Мала ёй было гора, як ня ведала?

Але тады хоць была надзея. А цяпер – праўда! Ды на якога д’ябла нам ваша праўда! Паміраць з ёй? Адкуль вы ўзяліся на нашу галаву?

Абгародкі, помнікі, стэлы, – усё паплыло ў вачах Макарэвіча. Ну нарабіў! – была першая думка. Сапраўды – навошта? Нашто гэтая праўда, калі ад яе горш. Калі ад яе баліць. Бабулі ды і яму таксама. Сэрца здушыў знаёмы тупы поціск, як бы зноў не хапіў інфаркт. І ён устаў з лаўкі.

– Я пяцьдзесят гадоў у партыі, страціў здароўе ў барацьбе за савецкую ўладу. Я верыў... І я хачу верыць. А вы ў мяне адбіраеце веру. Вы – зьвер! – стоячы воддаль, амаль крычаў інвалід. – Вы забіваеце... Бачыце?

Ён бачыў: бабулі рабілася кепска. Яе грузнаватае цела хілілася на бок, дзяўчынка пачала тузаць яе, а інвалід кінуўся да сумак ля лаўкі, дрыготкімі рукамі пачаў там поркацца – шукаць лекі.

Макарэвіч адарваў ад абгародкі свае ацежалелыя рукі і, нібы пабіты сабака, пабрыў прэч.

Пражыў сем з лішкам дзясяткаў гадоў, а галоўнага не зразумеў...

## Глухі час начы

Той вечар, як бадай і ўсе апошнія вечары, Чарняк вяртаўся дадому позна, гадзіне а дванаццатай. У сьцішаным па-начному пад’ездзе цьмяна сьвяціла ўгары закратаваная лямпачка, ён нецярпліва і амаль машынальна ціскануў чырвоную кнопку ліфта, не адразу сьцяміўшы, што дарма, – ліфт заняты. Тое змусіла яго ціха вылаяцца: заўжды, калі трэба, ліфт гуляе недзе ўгары. Чарняк меў пэўную ў ім патрэбу, бо задоўжыўся на вуліцы, а да таго – у забягайлаўцы, дзе пасядзелі трохі з даўнім сябрам Сямёнам, а пасьля праводзілі адзін аднаго – сьпярша ён Сямёна, а пасьля

Сямён яго. Усё пад размову. Але размова тая не была пустая балбатня пра баб ці пра палітыку – яны абмяркоўвалі справу. Чарняк прасіў сябра падбаць наконт невялікага крэдыту ў банку, у якім той меў свайго чалавека. Чарняку трэба было ўсяго пару мільёнчыкаў да канца квартала, можа б ён тады і вылез з цэйтноту. Днямі з Нямеччыны павінен прыбыць фургон тавару, учора ён тэлефанаваў Курту ў Мангейм. Але ж дарогі, каб іх пабурыла, ды мытні, ды пошліны, само сабой хабар – гэта яшчэ дні тры-чатыры. Крэдыт патрэбен быў дазарэзу, не пазьней чысла дваццатага. Сёньня ж пачалося шаснаццатае, Чарняк зірнуў на гадзіньнік – было дзесяць хвілін на першую. Ну дык дзе ж ліфт?

Ліфта не было, а з кнопкай рабілася штось незразумелае – то яна бы цьмела, гатовая во-во згаснуць, і ён напагатоў трымаў на ёй палец. То раптам зноў загаралася бурштынавым колерам, і недзе ўгары чуўся далёкі гул-ляскат быццам бы ад занятага кімсьці ліфта. Счакаўшы яшчэ паўхвіліны, Чарняк гучна і злосна вылаяўся – мабыць, трэба паднімацца па лесьвіцы. Праўда, сёмы паверх – высакавата, але што зробіш? Ды ён яшчэ не стары, ёсьць моц у нагах, можа, дабяжыць хутчэй, чым вызваліцца ад нейкага дурня той ліфт.

Ён выйшаў з ліфтавога пад’езда, перайшоў у адсек поруч, дзе пачыналіся лесьвічныя маршы, і няўцямна спыніўся. Тут было зусім цёмна і глуха, бы ў яме. Хоць ён і не лічыўся баякам, але ўсё ж не адчуў у сабе пэўнай рашучасьці, каб лезьці ў тую сьмярдзючую цемру, і вярнуўся назад. Усё ж трэба было дачакацца ліфта. І праўда, пунсовая кнопка неўзабаве згасла, бы зьнікла, ён хуценька націснуў яе і з задавальненьнем адчуў угары роўны, знаёмы гул. Кабіна спускалася. Значыць, яму пашэнціла, ён зараз паднімецца і пасьпее з сваёй патрэбай, задаволена думаў Чарняк, уваходзячы ў пашкрэбаную і размалёваную фламастэрамі кабіну ліфта.

Каб ён ведаў, якім коштам абыдзецца яму тая ўдача,

дык бы ўцёк і з ліфта, а мо і з горада нават. Але ня ведаў. Мабыць, чалавеку наогул дадзена мала ведаць і яшчэ менш прадбачыць.

Зрэшты, пакуль усё ішло добра, ён даехаў да свайго паверха, адамкнуў грунтоўныя, нядаўна пастаўленыя сталёвыя дзьверы. Уключыўшы сьвятло ў цесьненькай прыхожай, акуратна зашчоўкнуў дзьверы – сьпярша з калідора, пасьля ўнутраныя. Нават пакратаў, ці добра зашчоўкнуліся. Каб знадворку нельга было адчыніць, ключ пакінуў у дзьвярным замку. Ён ведаў, што дома не было нікога, жонка з дачкой паехалі ў вёску памагаць бацькам выбіраць бульбу, і ён халасьцякаваў ужо другі тыдзень. Увогуле яму было няблага, дома ён адно начаваў, увесь дзень прападаючы ў разьездах або ў офісе фірмы, дзе і харчаваўся. А дома хіба што піў раніцай каву, ды зрэдчас уключаў тэлевізар – паглядзець навіны. Хоць навіны цяпер ішлі такія, што лепш бы іх не глядзець, здаравей пачуваўся б. Але ж мусіў – даўняя прывычка яшчэ з таго часу, як было іншае жыцьцё, і ён рабіў у канструктарскім бюро пры заводзе. Як не займаўся бізьнесам. І ніколі ня думаў, што прыйдзецца займацца, ды во давялося. А што зробіш – жыць жа трэба. Жонка на сваю настаўніцкую зарплату не пракорміць, ды і дачка падрастае. Жыцьцё даражэе, цэны пруць угару, грошай з кожным месяцам трэба ўсё болей. А бізнэс яго пайшоў уніз. Во клопат...

Зайшоўшы сьпярша ў туалет, Чарняк паўключаў у кватэры сьвятло, любіў, каб скрозь было відна. Пасьля ўжо зьняў туфлі, павесіў на вешалку пінжак. Падумаў, што трэба пазваніць Сёмку, але той, мабыць, яшчэ не дабраўся да свайго мікрарасну – усё ж дзьве перасадкі, на тралейбус і аўтобус. Стрэлкі на гадзіньпіку ў прыхожай ужо хіліліся да гадзіны начы, скрозь стаяла глухая паўночная ціша. Ён падумаў, што заўтра трэба неяк не праспаць, а сёмай заедзе Бахмутаў, з якім яны дамовіліся паехаць на мытню – плаціць пошліну за затрыманы тыдзень таму «Камаз». У большым пакоі свае двухпакаёўкі ўключыў тэлевізар, але па экране замітусілася срэбра, трансьляцыя ўжо скончылася. Значыць, трэба класьціся спаць. Як заўжды ў канцы

даўгога клапатлівага дня, адчуваў у целе лёгкую зьнямогу, не гнятлівую, а нават прыемную. Выпілі з Сямёнам няшмат, грамаў па якіх стопяцьдзясят каньяку, цяпер адчуваў смагу, хацелася чымсьці запіць. Здаецца, у халадзільніку павінна быць бутэлька піва, успомніў Чарняк і ўключыў та кухні сьвятло. Тут было прахалодна, дзьверы ў лоджыю ён пакідаў расчыненыя, каб не сьмярдзела газам. Са стала трэба было б прыбраць – кубкі, талеркі, відэльцы, але падумаў: хай, позна ўжо. Прыбярэ заўтра ўранку. У халадзільніку сапраўды чакала яго засьцюдзянелая бутэлька «Пльзеньскага», якую ён тут жа адкаркаваў. Любімага ім фужэра па сталe, аДыак, не апынулася, фужэр быў у пакоі разам з сьвяточным посудам. Нетаропка і расслаблена пайшоў па яго ў большы пакой, і там, як адчыняў шкляныя дзьверцы шафы, пачуў, бы за сьцяной штось грукнула, быццам упала што на падлогу. Устрывожаны, з фужэрам у руцэ хуценька ўбег на кухню і скалануўся.

Пасярод кухні стаяў камлюкаваты чалавек у бейсболцы з накіраваным на яго пісталетам.

– Чашкоў? – рыкнуў ён сьцішаным басам.

– Я?

– Ты, ты!

– Які Чашкоў? Я Чарняк.

– Дакумант!

– Які дакумант?

– Пашпарт. Пашпарт!

Стараючыся адолець зьнянацкі спалох, Чарняк марудзіў, не разумеючы, што адбываецца. Ці гэта жарт? Ці каму што мярзотнае ўзбрыло ў галаву? Але чалавек чакаў, шырока расставіўшы ногі ў разлапістых красоўках «Рэбек» ня меней, чым сорак чацьвёртага памеру. Стаяў якраз пад лямпачкай, і даўгі казырок ад бейсболкі клаў глухі цень на яго грубы квадратны твар.

Вачэй было ня згледзець, ды Чарняк і не хацеў у іх зазіраць, не чакаючы там убачыць нічога добрага. Груваскі пісталет з даўгім глушыльнікам на канцы быў па-ранейшаму скіраваны ў ягоныя грудзі.

– Пашпарт, кажу!

– Дык пашпарт там, у пінжаку...

Чарняк пралепятаў тое чужым і агідным для самога голасам, усё думаючы бязглузда жахлівае: кілер! Тады ён прапаў... А той выразна гэтак кіўнуў глушыльнікам у бок прыхожай – да вешалкі, і Чарняк бокам боязна скіраваў туды. Кілер ступіў сьледам. Пакуль ён з фужэрам у руцэ поркаўся ў кішэнях, шукаючы пашпарт, кілер сігануў да дзьвярэй і вылузнуў з замка ключы. У дрыготкай руцэ Чарняк працягнуў яму пашпарт.

– Разгарні!

Ён разгарнуў, сунуў блізка да твару – маўляў, чытай. Бачыш: я Чарняк Павел Іванавіч, тысяча дзевяцьсот пяцьдзясят трэцяга года нараджэньня, напісана ясна і выразна, думаў ён. Кілер прачытаў і апусьціў пісталет.

– Ч-чорт!..

Здаецца, абодвум стала зразумела – выйшла памылка. Чарняк упершыню за час гэтай сустрэчы выдыхнуў з грудзей агорклае паветра – ну і ну! Што далей? Але добра, што ён Чарняк, а не Чашкоў, кватэра якога месьцілася за ягонай сьцяной, у суседнім пад’езьдзе. З фасаднай сьцяны іхнія балконы былі поруч, часам у летнія дні яны нават перагаворваліся там здаля. Так што наблытаў, шаноўны спадар кілер, думаў Чарняк, стоячы перад заклапочаным начным госьцем. Квадратны твар таго перасмыкнуўся.

– Дзе тэлефон?

– Во побач, за шафай, – паказаў Чарняк.

Ён адчуў сябе трохі сьмялей, першы спалох мінаўся – сьцяміў, што ў гэтай непрыемнай гісторыі ён – чалавек

вышадковы. Так што… Падумалася, госыдь будзе кудысь тэлефанаваць, а той падышоў да тэлефона і, тузануўшы за провад, выдраў яго з разеткі. То было горш – нешта ўскладнялася…

Мусіць, каб не стаяць у прыхожай, кілер кіўнуў на дзьверы, і яны абодва мусілі зайсьці на кухню. Там кілер дастаў з нутраной кішэні курткі мабільны тэлефон з куртаценькай антэнай, аднаруч набраў нейкі нумар. Але нумар не азваўся, і кілер вылаяўся.

– Няўвязка? – спачувальна папытаўся Чарняк, як мага стараючыся захаваць спакой. Не адказаўшы, кілер зноў набраў нумар, і зноў там быў маўчок. Тады ён прысеў на табурэт, маларухавым позіркам акінуў непрыбраны стол.

– «Пльзеньскае»? Багата жывеш.

Агледзеўшы этыкетку, закінуў бутэльку і нетаропка выжлукціў палову. Чарняк стаяў сярод кухні і думаў, што нейкая халера дзесь не заладзілася, і ня ведаў спачуваць ці палохацца з тае нагоды. Найлепш, канешне, было б што-небудзь зрабіць. Але што? Выскачыць з кватэры ён ужо ня мог, патэлсфанаваць таксама. Ён толькі чакаў, скоса пазіраючы на няўклюдны пісталет з таўстым глушыльнікам на канцы, што ляжаў у таго на каленях. «Магнум» – вызначыў Чарняк. Нядаўна ў нейкім галівудскім баявіку бачыў менашта такі пісталет, гэтак названы адным з герояў.

– Наблыталі падонкі. А ты іспалыяй! Крэціны… – бурчэў кілер і падняў на гаспадара сурова насуплены твар.

– Што – адзін жывеш?

– У дадзены момант так. Жонка ў ад’езьдзе.

– На курорце?

– На вёсцы ў старых. Бульбу капае.

– Бульбу…

Кілер штось думаў ці ўспамінаў, можа. Ягоны бязлобы твар, заценены даўгім казырком бейсболкі, здаваўся змрочна-пагрозьлівым. Але быццам ня злым, і тое абнадзейвала Чарняка. Ён азірнуўся на адчыненыя ў лоджыю дзьверы і падумаў: адкуль гэты д’ябал узяўся? Насупраць перад домам расьлі высокія таполі, але ж ня з іх ён узьлез на сёмы паверх. Значыць, з даху. Во гэта скалалаз!

– Альпініст? – спытаў ён, ужо амаль што суняўшы хваляваньне. А таксама каб не маўчаць, бо ад маўчаньня проста рабілася страшна.

– Я – кілер! Хіба не ўцяміў? – жорстка вымавіў госьць, не скрануўшыся з табурэта.

– Ну я разумею – кілер, – вінавата сказаў Чарняк.

– А наогул – дэсантнік.

Чарняк змаўчаў, ён ня мог сьцяміць, як размаўляць з гэтым злыднем. Ды і наогул ці трэба з ім размаўляць. Але і маўчаць рабілася нязносна. Здаецца, заклапочаны няўдачай або чымсьці і яшчэ, кілер усё даставаў свой куртаты тэлефон. І дарма. Тэлефон на тым канцы сувязі не адказваў, і кілер каторы раз мацерна вылаяўся.

– Падонкі...

Пасьля ён дастаў з маленькай кішэнькі паперку.

– Кватэра 138 – так?

– Так.

– Чашкоў Іван Сямёнавіч?

– Ды не, вы ж бачылі. Чарняк я.

– А Чашкоў дзе? – падумаўшы, спытаў кілер. Чарняк няўцямна цепнуў плячыма – хто ведае. У грудзях у яго адразу пасьцюдзянела – ня дай Бог зразумее, ці як дазнаецца, што Чашкоў побач. Але ўсё роўна ён зрабіў выгляд, што ня ведае ніякага Чашкова, першы раз чуе

гэтае прозьвішча.

Госьць хутка апаражніў піўную бутэльку і кінуў яе пад стол. І тады ў Чарняка ўспыхнула думка, што межавала з надзеяй. Аж спалохаўшыся ад свайго намеру, ён, аднак, сказаў:

– Можа, гэта самае – трохі гарэлкі? Га?

Кілер зьнерухомеў на момант, бы прыслухоўваючыся да чагось, і раптам згодна кіўнуў:

– Давай!

Няпэўнымі рухамі яшчэ дрыготкіх рук Чарняк выняў з халадзільніка пачатую бутэльку «Крышталю», кавалак каўбасы і плаўлены фінскі сырок. Хлеба ў яго не было, у хлебніцы знайшоўся толькі чэрствы кавалак батона. За чаркамі хацеў выскачыць у суседні пакой, але кілер тут жа выцяг убок нагу – стоп! Ён сам наліў сабе ў кубак ад кавы, пасьля наліў гаспадару. Яны суладна падънялі кубкі. Мусіць, з тае нагоды трэба б нешта сказаць, які тост, але не сказалі нічога і моўчкі выпілі. Чарняк з тае хвіліны пачаў адчуваць сябе трохі сьмялей, хаця разумеў, што з кілерам належыць абыходзіцца ветліва, не гнявіць яго. Лепш, канешне, задобрыць, тады, можа, яшчэ і пашэнціць выкруціцца з гэтай бяды.

– А што вам гэты Чашкоў? Ці правініўся ў чым? – далікатна пацікавіўся ён. Кілер варухнуў тугімі плячыма.

– Мне адкуль знаць?

– Але ж вы...

– Далі заданьне – іспалняю. Маё дзела цялячае.

– Во як! – зьдзівіўся Чарняк. – Бы ў войску?

– Іменна, як у войску...

– Мабыць, служылі?

– Ды ўжо ж.

– А я не служыў, – прызнаўся Чарняк. – Не давялося.

– Адкупіўся?

– Ды не, знаеце. У абаронцы працаваў...

– Ах, у абаронцы...

– Таксама ня мёд, знаеце. Фінансаваньне, праўда, было. Але матзабесьпячэньне...

Кілер па той бок стала ня надта, аднак, рэагаваў на спробу гаспадара пачаць з ім размову. Засяроджана рухаючы шырокімі сківіцамі, ён даядаў каўбасу – мабыць, быў згаладнелы. Чарняк назіраў за ім і думаў: Божа, каго ён нагадвае? Нібы знаёмы твар, дзе ён мог яго бачыць? А можа, які артыст – чорт ведае. Але надта знаёмая морда.

– А давайце яшчэ патроху, – асьмялеўшы, прапанаваў Чарняк. – Я вам яешню зраблю. Га?

– Зрабі, – проста пагадзіўся кілер.

Запаліўшы газавую гарэлку на пліце, Чарняк паставіў на яе патэльню. Пакуль тая грэлася, сам напружана думаў: што ж рабіць? Як ратавацца? Саскочыць на падворак нельга – усё ж сёмы паверх, унізе асфальт. Крычаць – мабыць, прыстрэліць. І нічога здатнага пад рукамі. На стале ляжаў тупы сталовы нож з цешчынага сервіза, такім толькі намазваць масла на хлеб, А ў таго напагатове ягоны жахлівы «Магнум». Так разважаючы, Чарняк разьбіў на патэльню тры яйкі, падумаў: яшчэ ці, можа, хопіць? Як ззаду пачулася:

– Бі яшчэ. Калі не шкада?

– Не, чаму шкада? Калі ласка. Яйкі ёсьць.

– Вот іменна. Мабыць жа, ня кожны дзень кілера частуеш?

– Ня кожны, праўда, – адчуўшы гумар, пагадзіўся Чарняк. – А ваша імя як, калі ме сакрэт?

– Сакрэт, – сказаў кілер. – Імя маё табе ня трэба.

– Ну што ж. Сакрэт дык сакрэт...

– А наогул, ты чым займаешся? – папытаўся кілер.

– Я? Ды так, трохі бізнэсам, – сумеўшыся, адказаў Чарняк, ня ведаючы, аднак, наколькі з ім можна быць шчырым.

– І як? Удала?

– Ведаеце, ня надта. Можна сказаць – няўдала. Кілер без асаблівай цікавасьці абвёў позіркам ягоную ня вельмі шыкоўную кухню з старамодным буфетам і запэцканай газавай плітой у куце.

– Відаць што! Абыходзішся без еўрарамонту.

– Які еўрарамонт! Тут жэсаўскі ня памятаю, калі быў.

– Да! І ў вас, у буржуяў, бардак, – сказаў кілер. – Як і ў нас тожа.

– І ў вас? – не зразумеў Чарняк.

– А што ж, думаеш, у нас камунізм? Тая ж перастройка.

– Во як!

– Дэмакрацыя, такую іх матары! Кожнаму мудаку свая куля.

– Куля? – зьдзівіўся Чарняк.

– А ты думаў – піражок з макам? – гатовы быў зазлаваць кілер на няўцямнасьць гаспадара. – Вот я цябе шлёпну, а затым шлёпнуць мяне. Гэта дэмакрацыя.

У Чармяка зноў пасьцюдзянела ў грудзях ад тых яго словаў. Завошта ж яго, Чарняка, страляць? Ён жа не Чашкоў, які штось напартачыў з крэдытам ці хабарам.

Не таму даў ці, можа, даў мала. Ці Чарняк вінаваты ў іхніх няўвязках, калі аднаго блытаюць з іншым, паныла думаў ён, падсмажваючы пырскотную ад масла яешню. Хутка ён паставіў патэльню перад шырокаю пысай кілера, сам сеў па другі бок стала, есьці яму не хацелася. Кілер яго і не запрашаў, правай рукой згроб відэлец, левай жа ўвесь час прытрымліваючы на каленях свой, відаць, цяжкаваты «Магнум». Чарняк глядзеў, як ён жарэ яешшо і думаў усё: што рабіць? Так зброю ў яго ня вырвеш – цесна і перашкаджае стол...

– Ну ты як хочаш, а я і яшчэ вып’ю, – сказаў кілер і зноў наліў сабе гарэлкі.

Ягоны цёмна-азмрочаны твар, падобна, стаў крыху жвавейшы, рухі за сталом заставаліся ўпэўнена-стрыманыя. Левая рука нязрушна ляжала на «Магнуме».

– Думаеш, уп’юся? – раптам спытаў ён, выпрабавальна зірнуўшы на гаспадара. – Ня столькі піў...

– Ды я нічога, – апраўдваючыся, сказаў Чарняк, думаючы, аднак, што такі сапраўды не нап’ецца. Але, можа, напіцца самому? – падумаў ён. Калі перад канцом... Але чаму – перад канцом? Усё ж ён не павінны яго застрэліць. Завошта?

– Апроч таго, што дэсантнік, яшчэ і снайпер. Уразумеў?

– Дык добра, – пагадзіўся Чарняк, баючыся запярэчыць.

– У Афгане меў сорак пяць «духаў» на рахунку. Ордэн зарабіў.

– А які ордэн?

– Баявога Чырвонага Сьцяга. Паняў? Так што – кілер-інтэрнацыяналіст.

– Панятна, – думаючы, аднак, пра іншае, сказаў Чарняк.

– Думаеш, чаму кілерам задзелаўся? Праўда?

– Праўда, – пагадзіўся гаспадар, хаця і ня думаў пра тое.

– А во і не скажу. Ваенная тайна.

Каб ты прапаў з сваёй ваеннай тайнай, падумаў Чарняк. Каму не вядома, колькі той набрыдзі распаўзлося па сьвеце з Афгана або Чачні, дзе гэткія добра напрактыкавалі руку. Так, што аж дагэтуль не могуць спыніцца – усё забіваюць.

– А ў Чачні не былі? – запытаўся Чарняк.

– А то як жа! – зноў з гонарам мовіў госьць. – Быў і ў Чачні, і яшчэ ў некаторых кропках. Задавалі мусульманам дыхту.

– А яны – вам? – вырвалася ў Чарняка.

– Бывала, што і яны нам, – амаль шчыра заўсьміхаўся кілер. – Аж успаміналася мамачка родная.

Чарняк падзівіўся: гэты забойца можа нават успомніць пра маці! Хаця чаму ж не – пра сваю маці, а не пра тых мацярок, якіх там вынішчалі «градамі» ды «тунгузкамі» разам з іх дзецьмі, дарэчы. Відаць па ўсім, ад гарэлкі ён зусім не п’янеў, паводзіў сябе роўна і ўпэўыена, пакуль не выказваючы пагрозьлівых намераў. Але што ён будзе рабіць далей? Мабыць жа, вытрахнецца да раніцы. На гадзіньніку ўжо ішла трэцяя гадзіна ночы.

– Што зыркаеш? – зглядзеўшы ягоны пагляд на гадзіньнік, сказаў кілер. – Ня дужа сьпяшайся.

– Ды я нічога. Не сьпяшаюся.

– Я во пасьпяшаўся і – міма. Як бы зноў не давялося лезьці на дах. Па начы то – апаснае дзела. Чашкоў таксама пад дахам жыве?

– Ды ня ведаю, – сумеўся Чарняк і падумаў: хоць бы ён не дазнаўся, што Чашкоў – ягоны сусед. А той, нібы зноў падслухаўшы ягоныя думкі, выняў свой тэлефон. На гэты раз сувязь яго спрацавала, яго ўчулі, і ён ціха мовіў нейкіх тры ыезразумелых словы – мабыць, які

пароль. Пасьля засяродзіўся з увагай і нерухомым позіркам уставіўся на Чарняка.

– Ты мяне хацеў ашукаць, – выразна абвясьціў кілер, хаваючы тэлефон.

– Я?

– Ты – Чашкоў. І не залівай мне кулі, ня пудры мазгі.

– Яж вам паказваў пашпарт.

– Пашпарт фальшывы.

– Ну, чаму фальшывы! – пачаў нервавацца Чарняк. – Магу іншыя дакументы паказаць. Прынесьці?

– Сядзець! – суха загадаў кілер. – Цяпер ня мае значэньня.

– Як жа ня мае? Што ж ты мяне стрэльнеш замест Чашкова? А Чашкоў, можа, за сьцяной жыве?

– Можа быць, – проста пагадзіўся кілер. – Але не маё цялячае дзсла.

– Дык жа няправільна! – гатовы быў замаліцца Чарняк.

– Непрафесійна!

– Непрафесійна, кажаш? – нібы зьдзівіўся кілер. Відаць, гэты папрок яго, аднак, уразіў. – А ты адкуль ведаеш?

– Што ж тут ведаць! Што тут ведаць? Гэта ж і дурню вядома: невінаватага забіваць – дзе ж прафесійнасьць?

Кілер адкінуўся шырокімі плячмі да сьцяны і аж застагнаў, бы ад зубнога болю.

– Крэціны! Наблыталі, нахамуталі! Як на вайне, так і тут. Начальнічкі, маць вашу такую...

Чарняк маўчаў – то было нешта новае. Відаць, ён зачапіў у гэтага забойцы балючы нерв і ня ведаў, кранаць яго болей ці пе чапаць.

– Гэта правільна, – сказаў ён спакайней. – У нас уся бяда – ад начальства.

– І ў Афгане, і ў Прыднястроўі. І тут. Адзін чорт! Мудазвоны, – злосна лаяўся кілер.

Відаць, і яму набалела, падумаў Чарняк. Можа, варта было і далей разьвіць гэтую тэму – авось дапаможа. Асабліва, калі і яшчэ выпіць.

– А давайце і яшчэ па каліву, – кіўнуў ён на бутэльку, дзе яшчэ штось заставалася.

– Годзе! На заданьні не напіваюся, – сказаў кілер. – Ты мне лепш чыфіру завары.

– Калі ласка. Магу чыфіру, магу кавы.

– Не, чыфіру даўно ня піў. А то дзе мне пасьля шукаць той чай.

– Ды чаю пакуль хапае. У кожным гастраноме, – сказаў Чарняк і сумеўся, адчуўшы падвойны сэнс тае просьбы. Страшнаваты сэнс. Але ён паставіў на полымя чайнік, нарыхтаваў заварку. Усё ж трэба было заставацца спакойным.

– Ня ведаю, як вас, а нас, бізьнесоўцаў, зусім задушылі. І падаткі, і мытні, і акцызы ды іншае – немагчыма дыхнуць, – паскардзіўся ён.

– І ў нас ня лепей, – выдыхнуў кілер. – Парадку мала, адно – давай, давай.

– Шмат працы?

– Хапае... Сёньня ў Мінску, заўтра ў Хвалынску. Ніякай каардынацыі.

– Разарваны сувязі, – сыранізаваў Чарняк. Але госьць не зразумеў іроніі, і ён папытаўся болей сур’ёзна: – Ну, а заробкі як жа?

– Храновыя. Кідануць пару тысяч – што на іх?

– Рублёў?

– Даляраў – чаму рублёў. Затое сабе дзесяць тысяч.

– Каму? – чагось ня мог сьцяміць Чарняк.

Кілер упершыню зірнуў на яго чыстымі, амаль па-дзіцячы наіўнымі вачыма.

– Начальству, каму ж яшчэ. А паспрабуй вякнуць, адразу злапаеш...

– Кулю?

– А ты думаў!

– Да, кепскія і ў вас справы, – падумаўшы, сказаў Чарняк і наліў госьцю вялікі кубак чыфіру. Міжволі яму ўжо рабілася яго шкада. Усё ж як ні блага было ў бізнэсе, а мабыць, лепш, чым у іх кілерскай справе.

І ўсё ж ягоны клопат заставаўся нявырашаны, як і што будзе далей, ён ня ведаў і надта турбаваўся.

– Дык што ж рабіць?

– А ні храна! – сказаў кілер, па-свойму зразумеўшы ягоную думку. – Трэба было раней думаць.

– Раней?

– Ну. Да акцябра сямнаццатага году. Цяпер ужо позна.

Чарняк няўцямна трохі памарудзіў – яны абодва ўвесь час меркавалі пра featuresрознае.

– Слухай, – сказаў ён амаль даверліва. – Я бачу, ты чалавек харошы. Можа, табе памагчы?

Кілер сербануў чыфіру і паківаў галавой. – Мне ўжо ніхто не паможа. Зрэшты, і табе тожа.

– Як?

– Так! – зноў з дзівосным наівам зірнуў у ягоныя вочы

кілер.

– Слухай, а калі знайсьці таго?

– Таго знойдуць, – упэўнена сказаў кілер і зірнуў на свій «Арыент». – Праз дваццаць хвілін.

– Во як!

– А ты думаў! Удакладняюць адрас.

– І ты пойдзеш?

– Пайду. Што рабіць? Застрэлю цябе і пайду. Чарняк на хвіліну зьнямеў ад гэтае будзённае шчырасьці. Дужа не хацелася верыць, але ў той жа час ён разумеў, што кілер не падманвае, што яму з гэтай пасткі, відаць, ня выкараскацца. Але ўжо гэта чорт ведае што! Завошта яго страляць? Іхняе начальства наблытала, а яму гінуць? У чым ягоная, Чарняка, віна? Нават у чым прычына? – ён ня мог зразумець. Блытаныя думкі мітусіліся ў ягонай галаве, сэрца калацілася ў грудзях. Але дзе ж паратунак? Ён прагнуў паратунку і ня ведаў, што рабіць. Мабыць, ягоны ўсхваляваны стан заўважыў кілер, які вельмі нават спакойна мовіў:

– А ты пя дзёргайся. Сядзь, супакойся, лягчэй будзе.

– Лягчэй ня будзе! – ледзьве ня крыкнуў Чарняк. – Гэта безабразія!

– Уся жысьць безабразія, – па-філасофску заўважыў кілер. – А гэта такое правіла.

– Якое? – упіўся ў яго позіркам Чарняк. Ён хацеў ведаць усё.

– Няўжо не ўразумеў, якое? – стрымана папракнуў яго кілер.

Так, цяпер Чарняк зразумеў. Яго ўсё ж застрэляць. Але як жа так – ён не хацеў паміраць. Ён хацеў жыць. Асабліва цяпер, калі дамогся самастойнага, хоць і дужа клапотнага жыцьця. Сваёй справы. Хоць часьцяком ён і

скардзіцца на тую справу і ўмовы працы, але ўсё ж са свайго клятага бізьнесу мае трохі больш, чым меў у канструктарскім бюро. Зноў жа жонка, дачушка Іначка... І чаго ён павінен паміраць за нейкага Чашкова, з якім у яго амаль ніякіх адносінаў, хіба дваравое знаёмства. І што ён там нарабіў, гэты ваўкаваты, увогуле маласімпатычны чалавек, што на яго нават наслалі кілера? І хто б мог падумаць? Іхнія аўтамабілі ў двары заўсёды стаялі побач – задрыпаная «сямёрка» Чарняка і ўвогуле не стары яшчэ «мэрс» Чашкова. Дваравыя аўтамабілісты заўжды пазіралі на яго з зайздрасьцю, а можа, і з затоенай варожасьцю. Але Чарняк не зайздросьціў і ніякай варожасьці не меў. Зрэшты, як і Чашкоў да яго таксама. Дык які ж д'ябал зьвёў іх у адно сьмяротнае кодла?

Тым часам, мабыць, мінула дваццаць хвілін – Чарняк ужо не сачыў за часам. Затое за ім сачыў кілер. Не ўстаючы ад стала, ён набраў свой нумар і прыклаў тэлефон шчыльненька да вуха. Чарняк напружыў слых, ды ня ўчуў нічога. Праўда, і размова была падазрона кароткая – так, не, – і кілер схаваў прыладу.

– Да-а, – вымавіў ён. – Сплашное блядства! Ня могуць дазнацца. Што ж, пачакаем. Чыфіру вып'ем.

Чарняка раптам аж скаланула ад новай удала знойдзенай думкі.

– Слухай, а калі я вас выручу?

– Гэта ў чым? – насьцярожыўся кілер.

– Ну, знайду Чашкова. Вы мяне пусьціце?

– Вядома, – лёгка адказаў кілер. – Баш на баш. Вы – нам, мы – вам, як у КДБ. Ён дзе жыве?

– Тут блізка, – сказаў Чарняк.

Кілер зноў дастаў свой жахлівы тэлефон і зноў штосьці буркнуў, – мусіць, на іх шыфраванай мове. Трохі счакаў адказ. Чарняк сядзеў, бы на іголках, і караў сябе думкай: што ўдумаў зрабіць! Ты ж прадаеш чалавека,

які табе не зрабіў кепскага. Але тут жа зьявілася іншая думка: а што ён зрабіў добрага? Летась пазычыў каністру бензіну, як не было на запраўках, дык жа Чарняк аддаў і падзякаваў. І ўсё ж было вельмі пагана на душы – пакутна і брыдка. Хіба трохі апраўдвала думка, што не па сваёй волі. Ён жа змушаны. Што ж, лепей, калі яго тут застрэляць на гэтай кухні? І завошта? У Чашкова дык, мабыць, хоць ёсьць правінка, пэўна, якаясь прычына, калі прыслалі кілера. А Чарняк чысты, як перад Богам.

– Во ты пытаўся, як кілерам стаў? Дык скажу: каб аднаго мудака ўхлопаць. Даволі пузатага. Ды, здаецца, ён мяне хлопне, – сказаў між тым кілер.

Чарняка тое, аднак, ужо мала цікавіла. Ён пакутна думаў пра іншае: як уратавацца? Можа, як выйдуць на вуліцу, тады?

У двары, як заўжды, цёмна, і дарма гэты хваліцца, што снайпер. Калі рвануць пад таполі ды ў міліцыю. Міліцыя побач, ля ЖЭСа...

Але ж хітры гэты Чашкоў! Відаць, зьняў сваё прозьвішча з даведачнага бюро, во яны яго і шукаюць усю ноч...

Мяркуючы па ўсім, так яно і выходзіла – яны там не маглі знайсьці Чашкова, кілераў тэлефон маўчаў. А Чарняк тым часам адумаўся, ён ужо шкадаваў, што паабяцаў памагчы. Можа, яго і ня думаюць страляць, можа, гэты хмыр толькі страшыць?

Гэта ж жахліва, калі так за нішто будуць страляць па начах сумленных людзей. І нашто ён сказаў яму пра Чашкова... Каб як перайначыць тое, Чарняк заўважыў:

– Праўда, я добра ня ведаю, дзе ён жыве...

Кілер варухнуў густымі брывамі.

– Ну ня ведаеш, дык ня ведаеш, – няпэўна сказаў ён і зноў зірнуў ма гадзіньнік. – Засталося дзесяць хвілін.

– Да чаго... дзесяць хвілінаў?

– Да таго! Праз дзесяць хвілінаў я іду. Чарняк зьнерухомеў.

– Але ж... Я застануся?

– Безумоўна. Ты застанешся. Назаўжды.

Чарняк апусьціўся над сталом, абхапіў галаву рукамі. Божа мой, што ж гэта робіцца? Чаму так? Што ён павінны зрабіць, каб ратаваць сябе? Апроч прадажніцтва, сапраўды нічога не застаецца. Але ж ён нікога не хоча прадаваць. Ды ўсё так складваецца, што камусь трэба гінуць – або яму, або Чашкову. Хаця ў жыцьці ўсё так уладкавана, што кожны – найперш сам за сябе. Недзе чытаў: калі я не за сябе, дык хто за мяне? Праўда, далей там было напісана: калі я толькі за сябе, дык навошта я? Во дзівак-філосаф: навошта я? Быццам гэтая акалічнасьць ад мяне залежыць. Сам бы апынуўся ў маім становішчы, дык, мабыць, не напісаў бы так.

Здаецца, разумеючы стан гаспадара, кілер, аднак, заставаўся спакойны, лават нібы абыякавы і да гаспадара і да свайго, усё ж заблытанага, становішча. Выхлебтаўшы чыфір, зноў зірнуў на гадзіньнік.

– Ты ведаеш, канешне, дзе гэты Чашкоў. І баішся прадаць? Што ж, усё правільна. Тваё права – баяцца, спадзявацца... Засталося пяць хвілін.

Пяць хвілін усяго жыцьця! Бог ты мой! Што ж гэта робіцца...

– Дык як жа мне быць? – роспачна вырвалася ў Чарняка, і ён застыў, чакаючы адказу. Адказ мог даць кілер. Але той моўчкі ўстаў, перахапіў у правую руку свой «Магнум».

– Пайшлі!

– Куды?

– Пакажаш Чашкова.

Ну во – і ўсё. Калі цяпер адмовіцца, дык гэтая хвіліна, мабыць, будзе для яго апошняй. А калі пагадзіцца – зьявіцца нейкая хоць кароценькая надзея. Канешне, яна можа і ня спраўдзіцца, можа сканаць. Сьпярша ён, затым і яна. Ці наадварот – не зразумець. Але пакуль сам жывы, жыве і яна, – блыталіся ў ягонай галаве палахлівыя думкі.

– Надзень пінжак, – зусім па-сяброўску сказаў кілер. – На дварэ сьцюдзёна.

Той нечаканы клопат Чарняку спадабаўся, у ім прагучала надзея, якой ёп прагнуў. Ён таропка апрануў пінжак, а кілер тым часам дастаў з задняй кішэні маленькія чорныя кайданкі. Убачыўшы іх, Чарняк ледзь ня ўпаў на зьнянацку падагнутых нагах.

– Спакойна, – сказаў кілер і зашчоўкнуў адну брасьлеціну на яго правай руцэ, а другую – сабе на левай. – Так будзе о’кей.

Гэта канец, сказаў сабе ў думках Чарняк. І раптам адчуў дзіўную палёгку, як бы скінуўшы з сябе ўвесь гнятлівы, турботны клопат. Можа таму, што раптоўна і назаўжды скончыўся пакутны працэс выбару паміж жыцьцём і сьмерцю. Пагібсль перамагла, і выбару не засталося. Поўная пустка. Вакуум. Над шматлікімі праблемамі вакууму ён калісь завіхаўся ў сваім канструктарскім бюро. І ён прыпамятаў, як некаторыя пустазвоны балбочуць аб важнасьці свабоды выбару. Дзе яна ў жыцьці, тая славутая свабода, як і той знакаміты выбар? Так мала іх было пры жыцьці і зусім не засталося перад пагібельлю. Усё навакол і раптоўна адсуналася ад Чарняка, паблякла; зьніклі ўсе турботы пра сябе. Ягоныя пачуцьці запоўніла дзіўная абыякавасьць да сьвету і да сябе таксама. Падобна, ён пераставаў існаваць яшчэ да жахлівага імгненьня канца.

Бы спачуваючы яму, кілер ціха зазначыў:

– А ты маладзец. Іншыя, знаеш... абсіраюцца.

І нетаропка адамкнуў дзьверы. Яны выйшлі з прыхожай, і кілер ціхенька прычыніў іх, выразна шчоўкнуўшы замкамі. Не ўратавалі і сталёвыя дзьверы, падумаў Чарняк, успомніўшы, як даставаў іх па блату на складзе, грузіў з хлопцамі ў «Калхіду». А пасьля цягаў на сёмы паверх – у кабіну ліфта яны пя ўлазілі. Трэба было... Яны ўдвух ціха спусьціліся ў незанятым на той час ліфце, выйшлі на цёмны падворак. Ім ніхто не спаткаўся ў гэты глухі час начы. А калі б і спаткаўся, дык што? Ідуць поруч два сябрукі-мужчыны, паводзяць сябе спакойна, а што позна, дык, можа, заседзеліся ў каго ў гасьцях. Кілер маўчаў, але Чарняк адчуваў скабамі ўпёрты ў яго бок глушыльнік «Магнума». Кожны момант кілер мог націснуць на спуск – варта яму было толькі вякнуць. І ён, праклінаючы ў душы забойцу і сябе разам, вёў яго да суседняга пад’езда. На што ён спадзяваўся, на што разьлічваў?..

Мабыць, ужо ні на што. Інстынктам выгадваў некалькі лішніх хвілін жыцьця, хаця тады для яго тое ня мела значэньня. Ён ужо ведаў, што нават пагібельлю суседа нельга купіць сабе паратунку. Заставалася хіба ненавідзець Чашкова, усё ж з нянавісьцю гінуць было лягчэй.

Яны падняліся ў ліфце таксама на сёмы паверх, і кілер сам націснуў на кнопку званка. З кватэры азваліся не адразу, давялося ціснуць яшчэ. Пасьля гаспадар сонным хрыплаватым голасам папытаўся «Хто?», і Чарняк з дрыготкай у раптам перасохлым горле назваў сябе. Няхутка яшчэ дзьверы адчыніліся, у якіх паказаўся няголены, заспаны Чашкоў з ускудлачанымі сівымі валасамі на галаве. Ён толькі зірнуў на суседа, і то быў апошні ягоны позірк перад тым, як ва ўпор хлопнуў стрэл «Магнума». Другі стрэл Чарняк чамусь не пачуў - разам асунуўся пад дзьвярыма і зьнерухомеў. Славутыя кантрольныя стрэлы былі справаю дзьвюх секунд, пасьля чаго кілер спакойна рушыў на тым самым ліфце ўніз і назаўжды зьнік у цемрыве начы.

Магчыма, яго таксама хутка прыстрэлілі.

## Чырвоныя пятліцы

У хмарны восеньскі надвячорак сакратар сельсавета, які быў таксама і сакратаром партячэйкі, Пётра Анішчык вяртаўся з райцэнтра ў вёску.

Ён прыпазьніўся. Нябачнае за хмарнаю навалаччу сонца, мабыць, ужо села за лесам, над дарогай і ў навакольлі пачало зьмяркацца, асабліва ў нізкіх балоцістых мясьцінах, дзе прыдарожныя альхоўнікі спрэс туліліся ў змроку. Анішчык сьпяшаўся і, раз за разам тузаючы лейцамі, паганяў каня па гразкай, разьбітай дарозе, каб пасытець да начы вярнуцца ў сельсавет і сабраць партыйцаў. Ужо сёныш належала пры- няць рашэныіе, важнейшага за якое, мабыць, яшчэ не прымала ячэйка.

Зрэшты, колькі Анішчык ні думаў пра тое, усё ня мог прыбіцца да цвёрдае думкі. Часам здавалася, што лепей было б усё вырашыць, не выязджаючы з мястэчка, дзе ён праседзеў на нарадзе ў райкаме. Але там ён не знаходзіў у сабе патрэбнай рашучасьці і цяпер думаў, што трэба ўсё вызначыць разам, параіўшыся з партыйцамі. Ён разумеў, вядома, што того справай нікога не ўзрадуе. А што ён мог зрабіць – не з уласнае волі тое, а паводле палітыкі партыі бальшавікоў. Ягоныя ж партыйцы людзі сьвядомыя і павінны зразумець сакратара. Як ён зразумеў таго, хто цяпер стаяў вышэй за ўсіх у раёне.

Сёньня Анішчык сустрэўся з ім нечакана, не спадзеючыся, што ўбачыць яго на нарадзе па льнонарыхтоўках. Пакуль змрочны, заклапочаны першы сакратар райкаму таварыш Князеў бэсьціў нізавых сакратароў за правал у выкананьні плана льнонарыхтовак, Анішчык сядзеў, бы на іголках, – чакаў свае чаргі. Калгас «Другая пяцігодка» выканаў гэты план усяго на 37,5 працэнта – было чаго хвалявацца. Але сакратар райкама ў сваім дакладзе неяк абмінуў яго, хаця сёньняшняя газета надрукавала зводку, дзе

ягоны калгас значыўся ў другім радку зьнізу. То была катастрофа.

Катастрофа і сталася, хаця і ня там, дзе яе чакаў Анішчык, – не ў сакратарскім дакладзе. Пасьля трох гадзінаў паседжаньня – лаянкі, вымоў, апраўданьняў і пагроз, калі ў душнай і цеснай залі ўсё часьцей чуліся стомленыя ўздыхі прыезджых з раёна сакратароў, у бакавым праходзе ўзьнік таварыш Дзьвярной. Ён штось ціха прамовіў змрочнаму, стомленаму Князеву, што сядзеў за сталом, і той згодна кіўнуў. Усе ў залі быццам скалануліся ад нечаканкі, сьцяліся, са страхам пазіраючы, як начальнік райаддзела НКВД зайшоў за фанерную трыбуну і зьняў шапку. Гэта быў даволі маладжавы мужчына ў вайсковым фрэнчы і фарсістых галіфэ; шырокай пяцярнёй ён прыгладзіў на галаве цёмны і шорсткі чуб. Чэкіст прыехаў улетку з абласнога цэнтра, каб тэрмінова выкараніць трацкісцка-зіноўеўскае ахвосьце, таксама як і белапольскія шпіёнска-тэрарыстычныя банды. Пад яго кіраўніцтвам органы НКВД раёна шчыравалі як мае быць – выкрывалі і арыштоўвалі ноччу і ўдзень. Але во бяда – пад восень тэмпы выкрыцьця пачалі слабнуць, у мінулым месяцы шпіёнаў і шкоднікаў розных гатункаў было выкрыта і абясшкоджана на васямнаццаць працэнтаў меней, чым у папярэднім. Начальнік НКВД таварыш Дзьвярной самым сур’ёзным чынам зьвярнуў увагу партыйных сакратароў на гэты вельмі трывожны факт і прыгразіў, што органы будуць змушаныя зрабіць з яго адпаведныя высновы.

Стомленая доўгім паседжаньнем сакратарская аўдыторыя маўкліва слухала ягоную тэмпераментную прамову, кожны моўчкі меркаваў, чым яна можа скончыцца. Сакратары ўжо ведалі, што за пагрозамі раённага чэкіста вельмі проста могуць наступіць сумныя справы. Асабліва яны затрывожыліся, калі начальнік выняў з кішэні складзены аркушык паперы і пачаў называць канкрэтныя факты.

– Злачынная халатнасьць ёсьць прамое ўтойваньне імеюшчага места шкодніцтва, – пасьля нядоўгай паўзы

вымавіў ён у насьцярожаную залу. – Таварыш Клепікаў тут маецца?

– Я! Ёсьць! – порстка ўскочыў з другога рада сакратар партарганізацыі льнозавода.

– Вось вы, таварыш Клепікаў, адкажыце: колькі ў вас членаў ВКП(б)?

– Дык гэта… Было васямнаццаць чалавек. Двух выключылі, адзін днямі памёр – інфаркт…

– Інфаркт. А колькі вы выкрылі як ворагаў народа?

– Дык гэта – двух, – спалохана адказаў сакратар і, здаецца, перастаў дыхаць.

– Ня двух – аднаго. Другі – нашых таварышоў заслуга. Дык вось, таварышы, – зьвярнуўся начальнік да прыціхлай залы. – Вынік наліцо. Ільнозавод заваліў ільноапрацоўку ў вобласьці, а вы самасупакоіліся і пакрываеце шкодніцтва!

Усё болей тулячыся, каб ня надта вытыркацца з шэрагу іншых, ільнозаводскі сакратар вінавата маўчаў. Анішчык, які сядзеў праз тры рады ад яго, нутром адчуў, што наступным начальнік падыме яго. І прадчуваньне яго не падманула. Зноў зазірнуўшы ў паперку, Дзьвярной скіраваў суровы погляд у залу.

– Во і яшчэ прыклад. Ня менш вапіюшчы. Калгас «Другая пяцігодка». Хто там сакратар? Ёсьць тут сакратар?

Зала з паўсотняй згорбленых плячэй, стол і сакратар таварыш Князеў за ім – усё паплыло перад вачыма Анішчыка, які, аднак, з роспачнай рашучасьцю ўстаў і назваў сябе.

– А, гэта ты – чырвонаармеец! – пазнаў яго начальнік і быццам нават квола ўсьміхнуўся. – Колькі вы выкрылі ў сваім калгасе?

Можа, ад міжвольнай усьмешкі начальніка Анішчык

раптам адчуў сябе спакайней і нягучна мовіў:

– Нікольк...

– Вы чулі? – амаль жахнуўся чэкіст, сагнаўшы з твару падабенства да ўсьмешкі. – Нікольк! Ён чакае, калі за яго тое зробіць дзядзька. А пакуль у яго поўны ажур. План выкананы, ніякага шкодніцтва! Так? Які ў яго працэнт ільназдачы? – павярнуўся ён да змрочнага Князева побач. Той пачаў шукаць патрэбную паперку, і Анішчык раней за яго адказаў:

– На трыццаць сем і пяць дзясятых працэнта.

– Бачыце? Трыццаць сем працэнтаў! – з націскам паўтарыў Дзьвярной у залу. – Да-а... Відаць, прыйдзецца мне вамі заняцца. Лічна!

Пастаяўшы яшчэ трохі, Анішчык асьцярожна сеў і засланіўся ад трыбуны нейчай лысай патыліцай.

Ня хутка яшчэ начальнік НКВД скончыў лупцоўку нядбайных сакратароў, якія ўхіліліся ад выкананьня найпершага свайго абавязку – выкрываць шпіёнаў і шкоднікаў. Шмат каму ў залі давялося ўспацець і пахваляваца ў часе гэтага публічнага допыту. Наўрад ці хто з тых, каго ён узьнімаў з месцаў, ведаў напэўна, што сёньня вернецца дадому. Шмат хто памятаў, як месяц таму з суседняга кабінета ўзялі старшыню райза Янкоўскага. Таксама ў часе чарговай нарады, дзе ён сядзеў у прэзідыуме і нават меўся выступіць з дакладам. Тады ў кабінет зазірнуў дзяжурны, кіўнуў Янкоўскаму, – той устаў, выйшаў, і болей ніхто яго ў раёне ня бачыў. Праўда, гэтым разам быццам абышлося, нікога не ўзялі, ды людзі адчувалі, што пашэнціла ненадоўга, увечары могуць і ўзяць. Як толькі нарада скончылася, Анішчык кінуўся на двор да свае фурманкі і паехаў дадому.

Ён амаль пэўна ведаў, што Дзьвярной на яго не забудзецца, што наступная з ім сустрэча можа стаць апошняй. Калі той наедзе са сваёй камандай у вёску, можа загрымець ня толькі сакратар Анішчык, але і ўся

ячэйка. Як нядаўна ў Сямёнавічах, дзе за адну ноч узялі шасьцярых – старшыню калгаса, ягонага намесьніка, дырэктара сямігодкі, загадчыка хаты-чытальні ды двух калгасьнікаў. Выкрылі згуртаваную групу шкоднікаў і дыверсантаў, як напісала пасьля газета. Невядома толькі, калі згуртавалася тая група? Дырэктара школы зусім нядаўна перавялі з іншага раёна, з загадчыкам хаты-чытальні Анішчык вучыўся ў адным класе... Мабыць, самае правільнае ў гэткай сітуацыі было – апярэдзіць. Кагосьці аддаць органам, каб ўратаваць астатніх. У тым ліку, вядома, і сябе...

Конь, які застаяўся за дзень на падворку, рупна бег па роўнай дарозе – сьпяшаўся дадому ў сваё звыклае стойла з сенам. Хіба па гразі Анішчык трохі падганяў яго, ляскаў па азадку лейцамі. Пугу ў яго хтосьці ўкраў на тым тыдні, калі езьдзіў у НКВД, каб аддаць подпісы, сабраныя ў абарону Янкоўскага. Як пасьля зразумеў, дарма стараўся. Але тады меў жаданьне абараніць. Усё ж Янкоўскі быў родам з ягонае вёскі, дзе нямала гадоў працаваў старшынёй сельсавета. І, мабыць, працаваў бы і дасюль, калі б не пайшоў на павышэньне і не перабраўся ў раён. Але каб жа ведаць, дзе паваліўся... І глядзі ты – пазнаў, падумаў Анішчык, прыпамятаўшы сёньняшнюю размову з Дзьвярным. Што значыць учэпістая чэкісцкая памяць! Хаця да таго яны бачыліся ўсяго аднойчы і то ня болей як дзесяць хвілін – пасьля таго, як Анішчык паўдня пратырчэў у калідоры доўгага барачнага будынка НКВД. Зранку там тоўпілася нямала народу, у асноўным хадакі з вёсак са сваімі скаргамі на няправільныя арышты, суды і вобыскі. Усім трэба быў менавіта начальнік, які дзесьці прапаў у той дзень, і людзі таўкліся ў калідоры, уздыхалі, жаліліся, некаторыя жанкі плакалі. Анішчыку дык хоць пашэнціла – толькі ён выйшаў перакурыць на ганак, як у двор укаціла брычка, з якой якраз саскочыў Дзьвярной. Анішчык не разгубіўся і, як калісь на вайсковай службе, спрытна аддаў начальніку чэсьць: той нават згодна кіўнуў у адказ. У кабінет яны ўжо ўваходзілі разам, і Анішчык трохі блытана вымаўляў сваю патрэбу наконт Янкоўскага, які...

– Невінаваты – так хочаш сказаць? – нецярпліва абрэзаў яго Дзьвярной, распранаючыся і вешаючы плашч на сьцяну.

Анішчык аддаў яму згорнутыя ў трубачку подпісы аднавяскоўцаў, якія начальнік толькі разгарнуў і, не чытаючы, шпурлянуў на стол.

– Во грамадзяне падпісаліся, каб...

– Каб яго аслабадзілі? – упёрся Дзьвярной пагрозьлівым позіркам у зьнякавелага Анішчыка.

– Ну.

– Кулькоў, пазвані Цярэшчанку! – крыкнуў начальнік у прыадчыненыя ў суседні кабінет дзьверы. – Хай зойдзе. Аслабаніць! Усіх трэба аслабаніць! Калі паслухаць вас, дык усе невінаватыя. Але дзеля чаго я сюды прысланы? У бірулькі з вамі гуляць?

Анішчык разгублена маўчаў, яшчэ чагосьці чакаючы. Ды, мабыць, дарма. Тым часам усеўшыся за сталом, Дзьвярной закурыў «Беламор» і пусьціў перад сабой воблака дыму.

– Ніякага аслабаджэньня! Пасадзілі і будзе сядзець. А гэта, – кіўнуў ён на стол, дзе ляжалі ягоныя подпісы, – забяры. І не паказвай нікому. Паняў?

Так, Анішчык, здаецца, усё зразумеў: ягоны намер пляжыўся, Янкоўскага не ўратаваць. Апанураны, ён выйшаў з кабінета, прапіхнуўся праз шчыльны натоўп у калідоры і паехаў дадому.

Сёньня ён сьпяшаўся адолець дваццаць кіламетраў шляху да ягонай вёскі. Дарога пагоршала, раскісла ад нядаўніх дажджоў, у каляінах стаяла вада. Па лугавой лагчыне разліліся шырокія лужыны, у якія боязна ступаў конь. Надвячоркам пасьцюдзенела, насустрач дзьмуў золкі парывісты вецер, і Анішчык падняў каўнер шыняля, адвярнуўся ўбок.

Усім лепшым у жыцьці ён абавязаны Янкоўскаму, які

летась прыняў яго ў партыю, вылучыў сакратаром сельсавета, а пасьля і дамогся, каб выбралі сакратаром калгаснай пярвічкі. Хто ён быў яшчэ два гады таму, калі вярнуўся з войска на бядняцкую гаспадарку маці? Скончыўшы толькі сем класаў, ня маючы ні радні, ні знаёмых у горадзе, чаго ён мог дамагчыся на трох дзесяцінах неўрадлівай зямлі? Дзякуй бальшавіку, чырвонаму партызану Янкоўскаму, які прыкмеціў яго, наблізіў да агульнае справы, можна сказаць, – вывеў у людзі. Яны разам арганізоўвалі калгасы, сноўдалі па вёсках і хутарах, раскулачвалі і ссылалі – тыя патрабавалі, і яны стараліся. Янкоўскі быў верньш працаўніком партыйнай справы і ня ведаў сумневу ў тым, што рабіў.

І во яго ўзялі на новай раённай пасадзе. Ноччу чэкісты прыехалі ў вёску, дзе заставалася сям’я, перагрэсьлі хату. Раніцой у сельсавет прыбегла заплаканая жонка – памажыце, уратуйце... Цяпер, падобна, той лёс набліжаўся і да самога Анішчыка, – што было рабіць?

Сьпярша, як пачаліся гэтыя пасадкі, шмат хто ламаў галаву: каго і завошта? Можна было зразумець, калі бралі ў горадзе, сярод начальства, вайскоўцаў ці буйных гаспадарнікаў, якія праводзілі няправільную палітыку ці, магчыма, шкодзілі на вытворчасьці. Але тут, на вёсцы, сярод нізавых кіраўнікоў, настаўнікаў і нават шараговых калгасьнікаў якія маглі быць шпіёны? Якія шкоднікі? Не знаходзячы якога-цебудзь адказу на тое пытаньне, Анішчык наогул перастаў яго шукаць, думаў, што не ягоная гэта справа. Правільна ці няправільна, калі так робіць партыя, значыць, так трэба.

І ўсё ж шкада было Янкоўскага, шкада ні ў чым не вінаватых іншых. Боязна было за сябе таксама...

Ён адчуваў, што трэба як мага хутчэй нешта зрабіць, кагосьці пасадзіць. Калі б знайшоўся чалавек, згодны ахвяраваць сабой дзеля іншых, гэта было б лепей за ўсё. Тады б на пытаньне таго ж Дзьвярнога, колькі чалавек ён выкрыў, можпа было б сумленна адказаць: дваццаць працэнтаў. І тое не было б хлуснёй – у іх пярвічцы кожны значыў роўна дваццаць працэнтаў. Простая і

выразная арыфметыка. Няўжо тое не задаволіла б оргапы?

Алс каго ўламаць на ахвяраваньне, хто пагодзіцца? Вядома, Анішчык мог бы аформіць арышт кожнага, ведаў, што цяпер гэта робіцца проста. Але ён хацеў заставацца сумленным бальшавіком і не парушаць прынцыпу дэмакратычнага цэнтралізму. Хацеў па-добраму. Бо павінна ж быць зразумела кожнаму, што, калі заўпарцяцца, вельмі хутка могуць загрымсць усе разам. Ячэйкаю ў поўным складзе. Усімі ста працэптамі.

Ужо сьцямнелася, калі ён зьехаў з бальшака на вясковую вуліцу і павярнуў на сельсавецкі падворак.

Вокны ў пярэдняй палове хаты слаба сьвяціліся, значыць, сельсаветаўская вартаўніца Аўдоцьця яшчэ не пайшла ў сваю бакоўку, чакала яго. Анішчык з парога загадаў ёй бегчы зьбіраць партыйцаў, а сам узяўся распрагаць каня. Аўдоцьця з відавочнай неахвотай абвязала галаву цёплай хусткай, як заўжды, штосьці мармычучы сама сабе, – звычайна ёй ня надта падабалася ўсё, што рабілі партыйцы. Янкоўскі дык зьбіраўся яе звольніць, узяць каго маладзейшага, але ў яго не дайшлі да Аўдоцьці рукі. З Анішчыкам яна наогул мала лічылася, добра яшчэ, што прыбірала ў сельсавеце і даглядала каня.

У пустой і сьцюдзёнай сельсаветаўскай хаце Анішчык выкруціў ярчэй кнот лямпы, што вісела пад бэлькай, зірнуў на ўзровень газы ў шкляным магазіне – газы было малавата, засядаць доўга не прыйдзецца. Грубка ў куце, як заўжды, была ледзьве цёплая. Не распранаючыся, толькі распусьціўшы на грудзях аплікі шыняля, залез за стол на сваё сакратарскае месца. Чакаў, калі прыйдуць партыйцы, курыў і думаў. Вядома, ён ня надта спадзяваўся на іхнюю сьвядомасьць, з практыкі ведаў, што ў такой галаваломнай справе прыйдзецца націснуць, як гэта рабілася, калі штосьці вымагалася ад каго-небудзь. Ніхто не хацеў у чымсьці вылучацца – у горшы ці ў лепшы бок усё роўна. Як усе – было звычайным правілам вяскоўцаў; не далёка

адышліся ад іх і партыйцы-бальшавікі. Праз якія паўгадзіны ў сенцах стукнулі дзьверы, Анішчык варухнуўся за сталом, у бляшанцы ад гуталіну скамячыў недакурак. Ён адчуваў, што хутка давядзецца пахваляваца ад непрыемнасьцяў, якія ён выклікаў на сваю галаву. Але інакш было нельга. Інакш зусім магло стацца кепска.

У сельсавет увайшла Аўдоцьця, ад парога паведаміла: – Абышла ўсіх. Ідуць. Вучыцеля аднаго не засьпела – сышоў кудысь. Можа, перададуць.

– Кепска. Вучыцель патрэбны.

– Патрэбны! Дзеля патрэбы дня ў вас няма? – прабурчэла Аўдоцьця, паварочваючыся, каб пайсьці. Сакратар грубавата перапытаў:

– Што ты сказала?

– А нічога, – азвалася Аўдоцьця ўжо з дзьвярэй, дзе яна спаткалася з кімсьці, хто лез з сенцаў. – Во яшчэ адзін начлежнік...

Цераз парог няўклюдна пералазіў аднаногі інвалід Петрачкоў, апрануты ў цёплы кажух, у зімовай аблавушцы на галаве. Гэты заўжды быў самы акуратны наконт нарады ці паседжаньня, яго не абмінала ніводная сходка ў калгасе. Пятнаццаць гадоў лічыўся актывістам і не пераставаў абвяшчаць пры кожным здатным выпадку, што ён удзельнік штурму Зімняга, патрабуючы з таго адпаведных адносінаў да сябе. Да яго і адносіліся адпаведна – перасталі ўжо зьвяртаць увагу на ягоныя аповеды, што ўвогуле нярэдка злавала старога бальшавіка.

– Што – сход? – запытаўся Петрачкоў, зручна ўладкаваўшыся ля дзьвярэй са сваёй драўлянай кульбай.

– Ня сход. Але важнае пытаньне, – стрымана адказаў Анішчык. З Петрачковым належала трымацца асьцярожна.

– Цяперака ўсе пытаньні важныя. Пра ўрагоў?

– Угадаў.

– А што ўгадваць! Разаблачаць трэба і ўсё.

Такі пачатак размовы ня дужа падабаўся Анішчыку, але сам-пасам з Петрачковым ён не хацеў разьвіваць гэтую тэму. Ён чакаў, калі прыйдуць астатнія, і задуменна круціў у руках злашчасную трубку з подпісамі. Колькі дзён тая без патрэбы валялася на стале, ніхто ёй не цікавіўся. А ён тыдзень хадзіў па хатах, на ток, на апрацоўку льну. Людзі падпісваліся, хаця ня ўсе адразу і ахвотна, шмат хто са страхам, каб не нашкодзіць сабе. Але Петрачкоў свайго подпісу тут не паставіў, гэты, як заўжды, быў разумнейшы за іншых. Сказаў: нічога ня выйдзе. І нічога не выйшла. Як у ваду глядзеў.

Спакваля ў хату ўлезлі яшчэ два – брыгадзір Сярмяга і калгасны каваль Кляшчоў, якога ў калгасе клікалі проста Клешч. Гэтыя не маглі скопчыць, відаць, пачатую па дарозе гаворку пра гаспадарчыя няўвязкі. Брыгадзір, гарачыўся, надта блізка прымаючы розныя нелады ў калгасе.

– Я ж казаў: нельга было яго пад лесам сеяць. Там ён ніколі не радзіў. Там суглінак. Чарта ты яго з суглінку выдзераш.

Гэтыя – таксама пра лён, зразумеў Анішчык. Лён цяпер стаў самай вялікай праблемай калгаса, раёна і нават рэспублікі. Колькі праз гэты лён зляцела з плячэй разумных і дурных галоў! І яшчэ, відаць, нямала зьляціць, сумна разважаў сакратар.

– А дзе ж яго сеяць? – слаба пярэчыў каваль. – Усюды адна халера – пяродзіць. Ня тая зямля.

Ля парога заёрзаў Петрачкоў.

– Ды хопіць пра лён. Пра палітыку трэба.

– А лён – не палітыка? – з папрокам азваўся брыгадзір.

– Палітыка, палітыка, – нядбайна пагадзіўся Петрачкоў, які, мабыць, ня мог дачакацца, калі пачнецца гаворка пра іншае. – Ну што там у раёне? Можа, Янкоўскага выпусьцілі?

– Ня выпусьцілі, – сказаў Анішчык. – НКВД патрабуе і яшчэ пасадзіць.

Усе насьцярожана змоўклі, зьнерухомелі на лаўках, і Анішчык падумаў, што настаў самы момант падступіць да галоўнага.

– Такая справа, таварышы. Трэба прызначыць аднаго чалавека. Партыйца, – сказаў ён і змоўк, ня ведаючы, як прадоўжыць думку. – Інакш загрыміць уся ячэйка. На сто працэнтаў.

Брыгадзір роспачна ляснуў сябе даланёй па калене і ціха вылаяўся. Каваль, раптам азмрачнеўшы, адкінуўся шырокімі плячмі да чорных бёрнаў сьцяны. Адзін Петрачкоў быццам ніяк ня выказаў свайго стаўленьня да сказанага сакратаром. Толькі счакаўшы, горача загаманіў:

– Я ж казаў! Я казаў: нельга ўхіляцца ад класавай барацьбы. Усе разаблачаюць, трэба і нам разаблачаць. А як жа? Во і дачакаліся!

– Што ты кажаш? Каго разаблачаць? – зазлаваў брыгадзір. – Каго? Цябе хіба?

– А чаму мяне? Гэта ты...

– А што я. Дзе я супраць савецкай улады? Я – батрак. І мой бацька ўсю жызьнь батрачыў...

«Ну во, – падумаў Анішчык, – яшчэ нічога ня вырашылі, а ўжо і сварка. Хаця яно і зразумела: каму хочацца ў турму! Але – трэба!»

– Ня лайцеся, – сказаў ён прымірэнча. – Тут трэба ра-шыць па-добраму. Самі разумееце: з органамі не жартуюць.

– А і ворганы ні пры чым: у іх тожа план, – сказаў Петрачкоў.

– Скуль ты ведаеш? Ты што – там рабіў? – ня мог супакоіцца брыгадзір.

– Не рабіў. А ведаю.

– Чаму ж тады газеты ня пішуць? Што план?

– Бо сакрэт.

– Ах, сакрэт...

Настала гнятлівая цішыня, усе чацьвёра моўчкі замерлі на сваіх месцах. Тады Петрачкоў адкашляўся і пачаў нязграбна ўставаць з услона, грукаючы па падлозе сваёй драўлянай нагой.

– Хачу выступіць.

– Ды можна седзячы, – дазволіў Анішчык.

– Э, не, тут трэба стаяком. Гэта па калгасных справах можна седзячы, а па нартыйных я звыклы стоячы. Дык вось што я хачу сказаць... Нашы слаўныя ворганы вядуць барацьбу з трацкісцка-зіноўеўскімі бандамі, белапольскімі шпіёнамі, нацдэмамі, міравой буржуазіяй і гэтак далей. Усіх – пад корань. Я прапаную як стары бальшавік паддзяржаць цалікам і поўнасьцю...

– А калі канкрэтна? – грубавата перапыніў яго сакратар. Ён ужо ведаў, што гэтаму старому бальшавіку толькі дай слова, як ён гатовы гаварыць да ранку. Толькі яго і слухай.

– Магу і канкрэтна, – не сумеўся Петрачкоў. – Я падтрымліваю і адабраю мудрае ўказаньне НКВД, яго трэба спалняць. Адзін чалавек для пабеды рэвалюцыі – гэта няшмат. Мы, калі ішлі на сьмяротны штурм Зімняга палаца...

– Ну а сам ты гатовы выканаць патрабаваньне ворганаў? – рашуча папытаўся Анішчык.

– А чаму я? Я заклікаю! Як стары бальшавік, зноў жа інвалід, страціў здароўе...

– Панятна, – сказаў сакратар. – А каго прапануеш?

– Ну, хто маладзейшы, дужэйшы. Вунь таварыш Кляшчоў, напрыклад. А што – здаровы, як бык.

Зрабілася дужа ціха, і ў той цішыні пачуўся зьвяглівы сабачы брэх, што даносіўся з другога канца вёскі.

– Цікава – Кляшчоў! А хто будзе інвентар да пасяўной рыхтаваць? Ды вываз рудстойкі. Вунь адных саней поўны двор перад кузьняй, – крыўдліва сказаў каваль.

Памочнік управіцца. Малады хлопец за зіму можа ўвесь калгас перакаваць, – стаяў на сваім Петрачкоў.

– Малады, а што ён умее? Малатком махаць? Каня не падкуе.

Анішчык сядзеў і думаў. Вядома, без каваля ў калгасе не абысьціся, тым болей зімой. Будзе няўпраўка з інвентаром – западуць усе іншыя справы. Клешч увогуле каваль умелы, замяніць яго няма кім.

– Во як! Сапраўды задачка! – бедаваў брыгадзір. ~ А можа, пакуль адкладзем. Хаця б на тыдзень. Каб з лёнам управіцца.

– І сані. Галоўнае – сані абладзіць, – дадаў каваль.

– Не. Трэба, каб заўтра зьявіўся. Гэтак загадана, – схлусіў Анішчык.

– Але і я не магу, – заклапочана сказаў брыгадзір. – Па-першае, на мне апрацоўка лёну. Бабы без мяне не ўправяцца, чым план будзе выконваць? А па-другое...

– А што па-другое? – спытаў і насьцярожыўся Анішчык.

– Ды баба ў мяне... Хворая.

– Ага, табе нельга, – падтрымаў суседа каваль. Анішчык толькі павёў у іхні бок позіркам, прыпамятаўшы, што

брыгадзір з кавалём – радня, жаніліся з роднымі сёстрамі і заўжды падтрымлівалі адзін аднаго. Але што ж тады застаецца? Ён заклапочана думаў, узваліўшыся грудзямі на стол. У маўклівай засяроджанасьці курылі цыгарку за цыгаркай астатнія. Але во, шпурлянуўшы недакурак у парог, брыгадзір сказаў:

– А можа, дарма мы гэта? Калі трэба пасадзіць, хай самі садзяць.

Раптам з лавы пачаў Петрачкоў, відаць было, штосьці яго ўзрушыла.

– А я во што скажу, таварышы парцейцы. Калі воргапы патрабуюць, дык трэба падабраць добрую кандыдатуру. Во быў Янкоўскі, якога пасадзілі. А хто ягоны намесьнік? Сакратар у яго намесьнік, значыцца, ён лепей за ўсіх адпавядае. Правільна я кажу, таварышы? – сказаў ён, зьвяртаючыся да ўсіх адразу.

– А во і няправільна! – не стрымаўся Анішчык. – Што ж ты прапануеш – зусім агаліць сельсавет? І праваліць усе партыйна-савецкія кампаніі? Хто тады будзе адказваць?

Пытаньне аб адказнасьці заўжды было дарэчы, звычайна яно і ратавала ў пэўныя моманты. Петрачкоў спрабаваў запярэчыць, але закашляўся, нешта загаманіў ды змоўчаў. Анішчык адчуў, што ўласныя довады неабвержныя – актыўную партыйнасьць Петрачкова заўжды трэба было нейтралізаваць яшчэ большай партыйнай актыўнасьцю. Сапраўды, як можна – няма старшыні, дык пасылаць пад арышт сакратара? Нават калі загадваюць органы?

– Ворагі народа адкажуць, – не адразу і злосна сказаў Петрачкоў.

– На ворагаў ты не ківай, – усё спрабаваў асадзіць яго Анішчык.

– А ты іх зашчышчаеш? Таму што… Хто табе рэкамендацыю ў партыю даваў? Не Янкоўскі?

– Ну Янкоўскі, дык што?

– А то! – выгукнуў, бы забіў цьвік, Петрачкоў.

Але гэта было ўжо занадта, пачаў хвалявацца Анішчык. Гэта было ўжо падобна да звады. Год таму Петрачкова хацелі вылучыць на сакратара партячэйкі, але Янкоўскі вылучыў Анішчыка, і стары бальшавік затаіў крыўду. Таму ён і насядае з боку Япкоўскага. Але, калі разабрацца, дык і правільна: Анішчык быў правай рукой Янкоўскага і да апошняга часу ганарыўся тым. А цяпер во як бы не давялося апраўдвацца.

Са свайго месца ўстаў брыгадзір, кіруючы да дзьвярэй, і партыйцы насьцярожана павярнулі да яго галовы.

– Ты куды? – спытаў сакратар.

– Не ўцяку, ня бойцеся. Вады папіць...

І праўда, напіўшыся ў сенях, ён хутка вярнуўся на сваё месца і запытаўся:

– Сакратар, а што, абавязкова трэба партыйца? А калі проста талковага чалавека? Хаця і беспартыйнага?

– Ну, хіба талковага, – нерашуча сказаў Анішчык.

– А нягож! А то куды ні кінь, усюды нашага брата, члена партыі. На ўсё ці набярэшся?

– Не раўнуючы, як затычку да кожнай бочкі, – падтрымаў суседа каваль.

– А што ж – партыя авангард – жвава абвясьціў Петрачкоў. – А ў авангардзе авангарда хто? ЧК! Трэба панімаць...

Усе ненадоўга змоўклі, і брыгадзір пачаў тлумачыць нядаўна знойдзеную думку:

– Во я і кажу. НКВД павінны нас зразумець. Ячэйка малая, аслабленая. Нельга ж яе секчы пад корань. І так падсеклі. А тут і яшчэ. Трэба пагаварыць, сакратар, каб беспартыйнага.

– Як пагаворыш – часу не засталося. Быў бы тэлефон, а то тэлефонную сувязь абяцаюць толькі ў трэцяй пяцігодцы. Доўга чакаць.

Ён яшчэ падумаў і стомленым, амаль пакутлівым голасам запытаўся:

– А калі беспартыйнага, дык каго?

– Трэба падумаць, – ажывеў брыгадзір. Мабыць, гэткі варыянт сапраўды быў яму даспадобы.

– Толькі каб нармальнага чалавека. Не забулдыгу якога. Забулдыгі і там не патрэбныя.

– Ну ведама ж, не забулдыгу. Працавітага і няп’юшчага. Што ў нас гэткіх няма, ці што, – узрадавана загаварыў каваль. – Во ўзяць Міхасёва...

– Міхасёва? Івана Аляксеевіча?

– Ну.

– Ня пойдзе, – падумаўшы сказаў Анішчык. – Міхасёў ня пойдзе.

– Чаму?

– Ня ведаеш чаму? Радня Аляксандравічу.

Каваль вінавата плюнуў пад ногі.

– Я забыў. З галавы выскачыла. Ага, з начальствам лепей іга зьвязвацца. Тады Сямёна Карытнага. А што – неблагі мужык.

– Гэта – што пчолы, ага?

– Ага. Пчаляр.

Але тут, павярнуўшыся да каваля, нязгодна загаманіў брыгадзір:

– А пчолкі як жа? Хай прападаюць? І на лекі лыжку мёду ня будзе ў каго дастаць. Калі там дзіця захварэе,

што, у аптэку ехаць? Падводу нараджаць?

Ну во, родзічы і не пагадзіліся, адзначыў у думках сакратар. Хаця, напэўна, і Карытны - не кандыдатура. Мужык ён някепскі, але – пчолы. Пяць калодаў на ўвесь калгас. Калі ў каго якая патрэба, беглі да Карытнага, і той памагаў. Прадаваў, пазычаў, проста даваў - каму як. Мёду ў яго трохі было.

У той час хтосьці далікатна застукаў у сенцах, і ў сельсавет увайшоў прыпазьнелы настаўнік. Ён з усімі павітаўся за руку, пачынаючы з Петрачкова, вінавата прамовіў:

– Спазьніўся. Прабачце... Затрымаўся.

Анішчык нічога не сказаў, астатнія, зацятыя ва ўласным клопаце, таксама маўчалі. Мабыць, адчуўшы напружаньне, настаўнік моўчкі сеў ля каваля.

– Во настаўнік самы здатны, – пасьля сказаў Петрачкоў. – Малады, граматны...

– Тожа ярунду скажаш, – зірнуў у столь брыгадзір. – А хто дзяцей вучыць будзе?

Гэта зразумела, падумаў Апішчык. У брыгадзіра чацьвёра вучацца ў школе, калі яе зачыняць, хто іх будзе вучыць?

– Настаўнікаў хапае. Прышлюць іншага.

– Дзе ж хапае? Дзе хапае? – загаманіў брыгадзір. – На чатыры класы адзін настаўнік – гэта правільна?

– Было два. Ня трэба было Апрышкінай лезці ў палітыку, – махнуў рукой Петрачкоў.

– Яна і ня лезла.

– Лезла, ня лезла – ня наша справа. Мы цяпер пра іншае, – сказаў Анішчык.

Настаўнік круціў галавой ад аднаго да другога,

намагаючыся зразумець сутнасьць спрэчкі, але, мабыць, тое было няпроста. Надта незвычайным выдаўся прадмет спрэчкі, каб яго можна было адразу сьцяміць.

– Пра што гаворка, таварышы?

Яму ніхто не адказаў, нібыта размова ішла пра штосьці саромнае або таемнае. Анішчык міжволі перакладваў на стале злашчасную трубку з подпісамі. Ён нічога з гэтай размовы не запісваў, думаў, што наўрад ці варта ў такім выпадку запісваць. Партыйцы, мяркуючы па ўсім, яго разумелі, і нават вялікі фармаліст Петрачкоў не пярэчыў. Ды во размову пачало хіліць кудысьці ўбок ад галоўнай праблемы, трэба было яе скіраваць у патрэбнае рэчышча. Але сёньня сакратар баяўся перагнуць і тым самым сапсаваць усю справу, асабліва ў прысутнасьці маўклівага настаўніка.

Гэта быў яшчэ малады чалавек, які прыехаў улетку з горада і першы год працаваў у школе. На пачатку восені ў школе іх было два, але настаўніцу Ганну Іванаўну рэпрэсавалі за пацдэмаўшчыну, і настаўнік застаўся адзін. Мабыць, не зразумеўшы, у чым справа, ён кінуўся яе абараняць, нават езьдзіў у Менск, пакуль сам ня трапіў у пастку. Анішчык атрымаў указаньне выключыць яго з кандыдатаў, але пасьля выключэньне замянілі на строгую вымову. Настаўнік прыціх, зьніякавеў неяк, перастаў выступаць на сходах і ўвогуле паводзіў сябе палахліва. Анішчык думаў, што яго павінны арыштаваць, але ў райкаме сказалі, што ў таго нейкая падтрымка з наркамата асьветы, і сакратар перастаў разумець, як да таго належыць ставіцца.

– Выбіраем ворага народа, – нарэшце адказаў настаўніку Петрачкоў.

– Як – ворага народа?

Зьдзіўленае пытаньне настаўніка засталося без адказу, не схацеў нічога тлумачыць і Анішчык. Ён ужо разумеў, што для арышту настаўнік не падыдзе, бо, калі ўжо пабыў у руках ворганаў, дык чымсьці ім згадзіўся. Або, можа, сапраўды высокая падтрымка, можа, з таго ж

НКВД? Вельмі нават магчыма, што яго адмыслова пакінулі для сакрэтнай працы на месцы.

Але што ж тады рабіць, халера на яго? На самой справе, хоць ты сам сьвядома ідзі ў ворагі народа? Хаця тое было б, напэўна, самай натуральнай контррэвалюцыяй – сьвядомым падрывам палітыкі партыі на вёсцы. Такога сакратар ячэйкі дапусьціць ня мог.

Пакуль яны гаварылі-спрачаліся, у сені ўлезьлі два недарослыя ахламоны – Красноў і Дзяленя, расчынілі ў сельсавет дзьверы і з парога пачалі цьвяліць партыйцаў.

– Таварышы партыйныя! Да вас з вялікаю просьбай: вазьміце з сабой...

– Куды вас узяць?

– Ды ў камунізм. А то ўсё няцерпіцца...

– Счакайце. Сьпярша паразумнець трэба, – сказаў Петрачкоў.

– Дык разумнейце ж хутчэй! – ашчэрылі зубы ахламоны.

– Зачыніце дзьверы! З таго боку! – раўнуў на іх брыгадзір, і яго паслухаліся, – дзьверы зачыніліся. З падворку, праўда, яшчэ даносіўся нецьвярозы голас:

– Засядаюць, шчасьця нам куюць, а людзям не даюць...

Гэта вясковая пара ахламонаў не ўпершыню выскалялася, але так налаўчылася, што не пераступала парог, за якім палягала крамола. Яўны зьдзек у іх заўжды маскаваўся, фармальна прыдрацца да іх было амаль немагчыма.

А Ганна Іванаўна, якая калісьці вучыла і яго, Анішчыка, пагарэла на тым, што не заклеіла ў падручніках партрэты нядаўна рэпрэсаваных беларускіх нацдэмаў. За папярэднія гады ўсе былі заклееныя або закрэсьленыя, а за апошні год не пасьпела. Як пасьля тлумачыла яна на ячэйцы, – чакала ўказаньня з райана, якія менавіта партрэты належала заклеіць, а ўказаньня

не было. А яго і не магло быць – амаль усе работнікі райана былі арыштаваныя, паслаць указаньне не было каму. Газет жа Ганна Іванаўна не выпісвала, казала, што палітыка ёй абрыдла. І зусім не ў палітыку яна лезла, настаўніца цуралася яе. Тут, як звычайна, Петрачкоў наблытаў, што, аднак, ня шкодзіла яму лічыцца ці ня самым сьвядомым бальшавіком у калгасе.

Пасьля пядоўгае паўзы Анішчык заклапочана ўздыхнуў.

– Дык што ж нам рабіць?

Каваль на лаве рашуча папнуўся наперад.

– Паслухайце, у мяне ёсьць прапанова. А калі Злотніка?

– Злотніка?

– Ну. А што ? Ціхі, спакойны. Ня п’е. Чысты пралетар.

– А й праўда, – памяркоўна сказаў брыгадзір. – Усё роўна ў калгасе ад яго нуль аддачы.

Анішчык адкінуўся плячмі да сьцяны – ён думаў. Злотнік у калгасе жыў другую восень, пасьля таго, як у мястэчку на яўрэйскае сьвята пурым згарэла ягоная хата. Вялікая сям’я Злотніка засталася без прытулку, і старшыня Янкоўскі ўладкаваў пагарэльцаў да сухотнага бабыля Рудака. Часова, вядома. Праўда, часовасьць тая задоўжылася на другі год, але Злотнікава сям’я была ўдзячная старшыні.

Кавалёва прапанова, можа б, і сталася дарэчы, але штосьці не давала пагадзіцца з ёю. Усё ж было неяк нядобра на такую справу прызначаць нетутэйшага, па сутнасьці, чужога чалавека, нядаўняга пагарэльца. Зноў жа, яўрэя. У адносінах да яўрэяў палітыка ўлады здавалася дужа няпэўнай і зьменлівай. То іх лаялі за сувязь з трацкізмам ды сіянізмам, то каралі іншых за яўны ці выдуманы антысемітызм. Нядаўна газета пісала пра суд над адным пакупніком з мястэчка, які абазваў жыдам прадаўца гаспадарчай лаўкі. Пакупніку далі два гады прымуспрацы. А тут прапануюць Хаіма Злотніка прызначыць у ворагі народа! Як на тое паглядзіць

таварыш Дзьвярной?

– Пойдзе, пойдзе, – горача пераконваў каваль. – У аўторак быў у мяне ў кузьні, казаў, што гатовы зьехаць, куды вочы глядзяць. Во якраз і паедзе. Бясплатна, – хіхікнуў каваль.

– Паедзе... Але дзяцей куча, – сумняваўся Анішчык.

– А ў каго іх не куча? Зноў жа, ня ён іх корміць – жонка корміць. Шые штоноч і корміць. І свайго Хаіма разам.

Можа, і так, думаў Анішчык, сям’ю корміць швачка Двойра, можа, дзеці і не памруць з голаду. І ўсё ж... Гаворка не пра жонку – гаворка пра мужа.

– Зноў жа – яўрэй, – ня мог наважыцца сакратар.

– Ну і што? А ў нас раўнапраўе, – цьвёрда мовіў Петрачкоў.

Можа, менавіта гэтыя словы Петрачкова ўсё і вырашылі. Калі Петрачкоў згодны, дык вельмі магчыма, што яны надумаліся правільна – скаргі ў райкам ня будзе. Увогуле ў гэтага партыйца нюх на палітыку меўся адмысловы.

– Усё ж трэба падумаць, – сказаў Анішчык.

– Што думаць, сакратар? Выклікай Хаіма і парадак. Хай пакуе чаймадан, – хіхікнуў каваль. Ягоны сусед брыгадзір, аднак, гэтым разам маўчаў.

З лавы падняўся і чамусьці зноў сеў настаўнік, ён прыкметна хваляваўся – невядома чаму.

– Штось я не разумею, аб што рэч? Што адбываецца? Куды мы выбіраем? У органы ўлады, ці што?

– Ня трэба спазьняцца, – папракнуў Петрачкоў.

– Я спазьніўся, бо была прычына. Хадзіў у Судзілкі да хворага вучня. Пяты дзень няма ў школе, – аказалася, дыфтэрыя. А тут – пра што вы?

– Ладна, пасьля растлумачу, – махнуў на яго Анішчык. Ён ня ведаў, куды можа павярнуць размову настаўнік, і баяўся страціць няпэўнае яшчэ выйсьце.

Але, мусіць, і праўда – іншага не заставалася, як запрасіць Злотніка. Калі пайсьці ўсёй ячэйкай, можа, распавесьці пра прыклад Япкоўскага, з павагі да якога Злотнік ня можа адмовіцца. Што ён лепшы за старога бальшавіка, нядаўняга старшыню сельсавета? Вядома, гэта нядобра, што ў такой сітуацыі члены партыі змушаны прасіць беспартыйнага яўрэя, але што рабіць? Ня першы і, вельмі магчыма, не апошні раз. Такое жыцьцё і такая палітыка.

– Так! Пайшлі...

Рашуча ўстаўшы з-за стала, Анішчык надзеў вайсковую, з цвёрдым казырком фуражку. Лёгка ўскочыў з лавы каваль, падняўся брыгадзір. Але настаўнік заступіў ім шлях да дзьвярэй.

– Усё ж растлумачце, куды Злотніка?

– Не ў пачальнікі, супакойся, – раздражнёна сказаў Анішчык, ступаючы цераз парог.

Чарадой, адзін за адным яны кіравалі па вёсцы, прыціскаючыся да платоў, каб ня трапіць у частыя тут лужыны. На вуліцы было цёмна, цемрай навісла захмаранае неба. Толькі ў некаторых хатах цьмяна сьвяціліся вокны. Газа была ў дэфіцыце, людзі яе ашчаджалі, увечары раней клаліся спаць. Хіба школьнікам давалі пасядзець даўжэй, падрыхтаваць урокі – на чытаньне кніжак ужо не ставала часу. Праз гэты недахоп газы ў Анішчыка калісьці засталася недачытанай цікавая кніжка «Айвенга». Колькі пасьля ні шукаў, нідзе ня мог знайсьці – ні ў палкавой бібліятэцы, ні ў Доме сацкультуры. Так і засталося быццам бы няскончанае дзяцінства. Зрэшты, а ў каго яно добра скончылася?

Жыцьцё ўвесь час закручвалася ў нейкія колы-петлі, пачварна блытала складаныя камбінацыі адносінаў,

часыдей за ўсё нядобрых, варожых. Во і да гэтага Злотніка ён ішоў ня першы раз. У дзяцінстве, калі Злотнікі жылі ў мястэчку, маці прыводзіла яго да швачкі Двойры, якая ў тутэйшых мясьцінах абшывала людзей. Яму тады шылі пінжачок з саматканай ваўнянкі. За працу, памятае, маці аддала швачцы два рублі грашыма і два дзясяткі яек. Той пінжачок ён насіў да апошняга сёмага класа, пасьля якога вучыцца ўжо не давялося. Быццам нядаўна было тое, і во ён зноў ідзе да Злотнікаў, але ўжо зусім па іншай справе. Усё ж, калі падумаць, па агіднай, нялюдскай справе...

Можа, упершыню ў яго затлумленай за дзень галаве быццам праясьнілася нешта, быццам з пахмелкі, ён зразумеў, выразна і пранізьліва, штосьці жахлівае. Але хутка адчуваньне таго і зьнікла – можа, па ўласнай волі, а можа, сагнанае нечаканым вокрыкам брыгадзіра:

– Тут правей, правей трымайцеся – лужына!

Хапаючыся рукамі за калы ў плоце, яны сьледам за брыгадзірам абмінулі ў цемрадзі лужыну; хутка трэба было паварочваць у неабгароджаны падворак бабыля Рудака. Тут Анішчыка дагнаў настаўнік, які, напэўна, пра штосьці дазнаўся ад Петрачкова. Стары бальшавік, вядома, з імі не пайшоў.

– Сакратар, дарма вы гэта, – гукнуў настаўнік.

– Што – дарма?

– Удумалі ўсё гэта. Пашкадуеце.

Ціха прамовіўшы тое, настаўнік адразу адстаў, а яны ўтрох зайшлі ў пусты двор. Два вокны ад вуліцы яшчэ слаба адсьвечвалі чырвоным водсьветам газьнічкі, чуўся прыглушаны пошчак машынкі. Няўпэўнена ўвайшлі ў цёмныя сені. Анішчык не адразу намацаў дзьверы, адчыніўшы якія, сьпярша ня ведаў, куды ступіць, бо амаль нічога ня бачыў у прыцемках хаты. За ім асьцярожна пералезьлі парог ягоныя партыйцы.

– Ой, ой! Хаім! – крыкнула жанчына, устаючы ад

машынкі. Гэта была Двойра, Анішчык яе пазнаў, хаця даўно ўжо ня бачыў. Але Двойра, здаецца, мала зьмянілася за той час, па-ранейшаму застаючыся жвавай і мажнай жанчынай. – Хаім, да нас дарагія госьці!..

Яны стрымана павіталіся, трохі прайшлі наперад. Усе куткі, услоны і лаўкі тут былі заняты пад ложкі. Швачка рухава схавалася ў запеччы, было чуваць – будзіла соннага мужа.

– Хаім, Хаім, уставай!..

Нарэшце з прыцемку вынік гаспадар – з ускалмачанай кудлатай галавой, заспаны Злотнік. Хістаючыся, бы п’яны, ён няўпэўнена паўстаў перад партыйцамі ў расшпіленых на грудзях шматлікіх апратках.

– Выбачайце, што пабудзілі, – ветліва пачаў Анішчык. – Мы да вас па справе.

– Ну ведама ж, па справе. Нашто хадзіць бяз справы, – сонна прамармыттаў Злотнік. – Дык, можа, сядзеце, таварышы? Толькі куды сесьці? А ну, Броха, Голда, кыш адсюль, – таварышы сядуць.

Дзьве дзяўчынкі, што трывожліва ўзіраліся ў іх з паўзмроку, разам ускочылі з палацяў і пабеглі ў запечча, можа, на цёплае бацькава месца. Анішчык з брыгадзірам асьцярожна прыселі на краёк услона. Каваль апусьціўся ля парога і адразу пачаў ладзіць закурку. Лянів шкрэбаючы па грудзях, гаспадар стаяў насупроць – босы на сьцюдзёнай падлозе – і чакаў.

– Дык мы па справе, – паўтарыў сакратар. – Напэўна, вы ведаеце, што нядаўна арыштаваны таварыш Янкоўскі...

– Ай, ай, таварыш Янкоўскі, – зноў прамармытаў Злотнік, і было незразумела, ці ён ведаў пра тое раней, ці дазнаўся толькі цяпер.

– Вы ведаеце, таварыш Янкоўскі нас уратаваў, – з-за плячэй мужа ахвотна паведаміла Двойра. – Мы за яго будзем Бога маліць, дай Бог яму здароўя.

– Ладна, жонка, хай скажуць таварышы, – мякка перапыніў яе муж.

Анішчык тым часам асвойваўся ў паўзмроку жытла, стаў бачыць звыклыя прадметы быту – састарэлае начыньне ў парозе, катлы на чалесьніку, розныя транты, разьвешаныя на шастках ля печы. З кутка, ад печы і з ложка ў парозе – адусюль на гасьцей пазіралі дзіцячыя вочы. Колькі ж іх? – круцілася ў сакратаровай галаве пытаньне, але ён сказаў пра іншае:

– Дык вось, мы цябе хочам прызначыць...

– Куды?

– Ну. туды... Дзе Янкоўскі.

Злотнік з увагай выслухаў сакратара, пераступіў з нагі на нагу.

– Гэта пад арышт?

– Ну.

Відаць па ўсім, прапанова здалася Злотніку надта нечаканай, – зьбянтэжаны, той стаяў пасярод хаты, ня ведаючы, што сказаць. Двойра ззаду таксама маўчала. Чакаючы адказу, напружана сьціхлі тры партыйцы, толькі дзіцячыя вочы з куткоў цікаўна сачылі за тым, што адбываецца ў хаце.

– Часова, канешне, – пасьля паўзы дадаў сакратар. – Органы разьбяруцца і выпусьцяць. Ты ж ня вораг?

– Не, не, я ня вораг! Я, ці ведаеце, бедны яўрэй. Пажар панішчыў усё. Во лгодзі машыну выхапілі, а то б... Машына, ці ведаеце, жалезная...

Ён яўна пазьбягаў адказу. Анішчык адчуў тое. Тое ж, напэўна, зразумела і Двойра, якая выйшла наперад і заступіла мужа.

– Ведаеце, ён зусім пралетарскі чалавек. І бацька яго быў пралетар, на гарбарным заводзе рабіў. Ніколі не

наймалі нікога, усё самі...

– Тым больш няма чаго хваляваецца. Ніхто яго не засудзіць...

– Цяпер такі час, – сказаў брыгадзір. – Усе будзем там. Хто раней, хто пазьней. Такая палітыка.

– І гэта... Раней сядзеш – раней выйдзеш, няма чаго бедаваць, – уставіў каваль. – Горш ня будзе, чым тут.

Відаць было, што Злотнік пакутліва разважаў, як паставіцца да просьбы партыйцаў, тым болей, што іхняя просьба мела адносіны да Янкоўскага. Ахоплены турботай, ён ступіў да парога, затым назад, азірнуўся на Двойру, быццам шукаў у яе адказу. Дымлівы агеньчык газьнічкі трывожна хістаўся, кідаючы на столь ягоны зламаны цень.

– Дык ня ведаю, ня ведаю...

З прыцемак запечча зноў выступіла Двойра ў шырокім сьветлым фартуху наперадзе.

– Я во што табе скажу, Хаім: згаджайся, будзе ня надта горш, чым тут. Бульбы засталося паўтара мяшка, да новага года ня хопіць... Ведаеце, ён згодны, – раптам сказала яна, зьвяртаючыся да партыйцаў.

Злотнік разьвёў рукамі.

– Ну, табе, Двойра, лепей відаць.

Галоўнае было дасягнута, узрадаваны Анішчык ускочыў з услона і загаманіў амаль узрушана:

– Заўтра і паедзем. Я адвязу. На сельсаветаўскай фурманпы. Ну там што-нішто трэба сабраць: кварту, лыжку, вушнік, як у войску. Дзякуй табе, таварыш Злотнік, што нас выручыў. А пра сям’ю не турбуйся – сям’ю мы не пакінем.

З прыўзьнятым настроем ад урэшце скінутага з плячэй клопату ён гаварыў лёгка, шчыра верачы ў тое, што

абяцаў. Хаця ў душы і заставалася рэшта сумненьня, але цяпер ён не зважаў на тое. Ён гатовы быў цалаваць Злотніка і асабліва яго разумную Двойру.

Босы Злотнік усё яшчэ стаяў пасярод хаты, наўрад ці разумеючы да канца, што зараз адбылося.

– Дык ранічкай, – удакладніў сакратар. – Зьбірайся і прыходзь. З сельсавета і паедзем.

Зусім нават ветліва, з цёплым пачуцьцём да гаспадара і гаспадыні партыйцы разьвіталіся і з яўнай палёгкай выбраліся з затхлага жытла на сьвежае восеньскае паветра. Напэўна, было ўжо ня рана, вёска спала. У чорных вокнах не відаць было і чырванаватых водсьветаў газьнічак. Неба па-ранейшаму хуталася ў набрынялыя вільгацьцю хмары, якія амаль не зьнікалі над вёскай у гэтую восень. Каваль з брыгадзірам неўзабаве павярнулі да сваіх падворкаў, сакратар на адзіноце дашлындаў па гразі да сельсаветаўскай хаты. Ён рашыў цераз поле дамоў не ісьці, пераначаваць у сельсавеце, каб заўтра ранкам паехаць у раён. Тым болей, што, мусіць, трэба было яшчэ скласьці нейкую паперыну на Злотніка. Напэўна ж, у такой справе без дакумента не абысьціся.

Здаля ў сельсавеце не сьвяцілася ніводнае акно, але як падышоў да ганка, згледзеў праз шыбіны чырвоныя бліскаўкі на стале, – пэўна, Аўдоцьця яшчэ паліла ў грубцы. Звычайна тое рабіла яна ўранку, а сёньня, глядзі ты, – на ноч. Але гэта будзе дарэчы, бо яму давядзецца тут пераначаваць. Мусіць, Аўдоха сьцяміла правільна.

Анішчык увайшоў у сельсавет. Аўдоцьця, не запальваючы лямпы, сядзела перад зачыненай грубкай, праз шчыліны ля дзьверцаў прасьвечвала няяркая рэшта агню.

– Што гэта ты... паліш? – сказаў, бы папракнуў, ён. Жанчына не адказала, толькі ўстала і нетаропка засьвяціла пад нізкаю стольлю лямпу.

– Газы – на донцы...

– Я доўга сядзець ня буду, – сказаў ён, маючы ў думках свой намер пра паперу на Злотніка, расшпіліў аплікі шыняля і ўлез за стол.

– І ён пагадзіўся? Па сваёй волі? – спытала жанчына, расчыніўшы грубку, каб перамяшаць вугольле.

- Хто?

– Ну Злотнік, хто? Угаварылі?

– А ня надта і ўгаворвалі. Сазнацельны чалавек.

– Дурны ён, а не сазнацельны, – памаўчаўшы зазначыла Аўдоцьця.

– Гэта чаму?

– Хе! – мовіла яна. – На такое дзела... Добраахвотна?..

З вучнёўскага сшытка ў лінейку ён выдраў старонку, узяў ручку. Чарніла ў шыкоўнай мармуровай чарніліцы з панскага палаца, мусіць, яшчэ ня ўсё высахла, і ён абмакнуў пяро. «Злотнік Хаім» – вывеў зьверху старонкі, а во як па бацьку таго ня памятаў і папытаўся:

– Як Злотнікавага бацьку звалі, ня памятаеш?

– Янкелем звалі, – адразу падказала Аўдоцьця. – Недурны местачковец быў. Ня тое, што сын...

– А што, сын дурны? – гатовы быў зазлаваць з Аўдоцьцінай нязгоды сакратар. – Нармальны чалавек.

– Калі ён нармальны, тады вы ненармальныя. З глузду зьехалі.

Анішчык адклаў на стол ручку. Мала таго, што гэтая жанчына перашкаджала яму пісаць, дык яшчэ і гаварыла штосьці непатрэбнае.

– Ты, цётка, лепш памаўчала б. Калі не разумееш.

Яна і праўда памаўчала крыху, але нядоўга. Відаць, штосьці расьпірала яе знутры – можа, крыўда ці свая сялянская праўда, якой цяпер не хацеў чуць партыйны сакратар.

– Што тут разумець, – сказала Аўдоцьця. – Самаеды! Свае – сваіх. Ну што ён зрабіў вам? Не кулак жа. Пагарэлец...

– А гэта цяпер няважна – класавае паходжаньне. Шкоднікі могуць быць з розных класаў, так гаворыць партыя.

Аўдоцьця, відаць было ў прыцемку, павярнула да грубкі свой зьдзіўлены твар, асьветлены яркай чырваньню ад вугольля.

– Злотнік – шкоднік?

– Ну ня ён, дык іншы. Але каго б ты парэкамендавала замест? Бо трэба ж кагосьці. Усе выкрываюць, а мы будзем сядзець? Склаўшы рукі, ага? – загаварыў сакратар, амаль злуючыся. Але ягоны запал здаўся падобным да апраўданьня. Анішчык адчуў тое і падумаў, што гэтак нельга. Ён не мае права апраўдваць палітыку партыі перад гэтай малапісьменнай сялянкай.

– Бога на вас няма, – сказала Аўдоцьця.

– А Бога і нідзе ішма, – ня вытрымаў ён. – То зламысная папоўская выдумка.

– Глядзі, пакарае...

– Каго?

– Вас, бальшавікоў.

– Аўдоцьця, ты разумееш, што кажаш?

– Ды ўжо ж... Можа, і мяне пасодзіце. Дык садзіце, мне ўжо адзін чорт... - гаварыла яна, аднак, нягучным і роўным голасам.

Трохі зьдзіўлены яе нечаканым выпадам, Анішчык падумаў, што вельмі нават магчыма, што пасадзяць і яе. Асабліва за такія словы! Калі б тут быў хто трэці, дык бы ён, сакратар, быў абавязаны скласьці дакумент за гэткія яе словы.

– Дагаворышся, – скупа прыгразіў ён і ўспомніў пра іншую жанчыну. – А вунь Двойра зусім іншае думкі, бо газнацелыюя. Сказала Хаіму ісьці. Калі трэба, дык трэба!

Аўдоцьця акуратна прычыніла чорпыя дзьверцы грубкі.

- Двойра... Двойра яго даўно збыць хацела. Пасьля пажару ўсё парола, каб у Харкаў ехаў. Да пляменьніка, казалі...

– Во як! – зьдзівіўся Анішчык.

– А ты думаў... А то – сазнацельная.

«Чорт іх ведае, – думаў Анішчык, – чужая душа – пацёмак. Можа, і так. Але ці мая справа разьбірацца ў сямейных звадах беспартыйных грамадзянаў? Хопіць і звадаў партыйных».

– Гэта ж і мой такі быў – сазнацельны, – нібы сама з сабой ціха гаварыла ля грубкі Аўдоцьця. – Прыйшоў з той вайны, – не, каб у хаце сядзець, гаспадарку ладзіць... Хоць бы дзяцей радзіць. Дык не! Шашку ў рукі і – паноў рубаць. Пакуль самому галаву ня сьсеклі. А цяпер во – сядзі адна...

– Ну а што табе, блага – адной? – трохі крануты яе аповедам, мякчэй сказаў Анішчык.

– Ляпей з добрым чалавекам у зямлі ляжаць, чым з якім злыднем зьверху, – нечакана мовіла Аўдоцьця.

Анішчык змоўчаў, змоўкла і Аўдоцьця. Пасядзеўшы трохі, устала.

– Дык я засаўку не засоўваю, вугольле яшчэ... Каб не ўгарэў.

– Ладна, сам засуну, – сказаў сакратар, каторы раз макаючы ў чарніліцу пяро, каб пачаць пісаць.

Але што пісаць далей, было невядома, і ён задуменна сядзеў над папераю. Думкі яго блыталіся, мкнулі кудысьці далёка. Намаганьнем санлівай волі ён вяртаў іх да рэчаіснасьці, але ўсё роўна нічога здатнага на розум не прыходзіла. Ну што пісаць– пра пралетарскае паходжаньне Злотніка? Пра ягоных гарбароў-продкаў? Ці пра цяперашняе гаротнае становішча? Пра тое, што ў Злотніка шмат дзяцей і мала бульбы? Але ж ён не заяву піша ў сабес на дапамогу бедаку. Напэўна, трэба наадварот – зганьбіць чалавека, каб там мелі падставу яго рэпрэсаваць. Хоць бы і часова, пакуль разьбяруцца. Праўда, разабраўшыся, могуць не пагладзіць па галоўцы і яго, сакратара. Але тады як-небудзь. Галоўнае – каб выкруціцца цяпер... Але і ў такім выпадку што ён мог напісаць? Палітыкай Злотнік не займаўся, шкодзіць нікому ня мог. Агітацыя? Каго і за што ён мог агітаваць, калі амаль не рабіў у калгасе. Ні чарта ў Анішчыка сёньня не атрымлівалася, а спаць хацелася ўсё больш. Галава хілілася ўсё ніжэй, і во асадка выпала з пальцаў, пасадзіла на паперу крывую пляму. Толькі сапсаваў паперу...

І ён падумаў, што лепей адкласьці ўсё да заўтра.

Спаць лёг на шырокую бакавую лаву, паклаўшы пад галаву тры цяжкія тамы «Рэзалюцый зьездаў ВКП (б)», якія з вясны валяліся ў шафе. Накрыўся шынялём, акуратна разраўняўшы яго на сабе, – каб не скамячыць, захаваць добры выгляд. Шынэлак каторы год служыў яму верную службу, – атуляў па сьцюжы, захінаў ад ветру і дажджоў, грэў пры начлегах – на падлозе, па кутках, на лаўках. Чырвоныя пятліцы на каўняры ён зьбярог пасьля дэмабілізацыі, і тыя цяпер былі на зайздрасьць ня толькі для вясковых падлеткаў. Ён прыкмячаў, як прыветна ўсьміхаліся яму сакратаркі ў райвыканкаме, калі ён прыязджаў на частыя там нарады; некаторыя бачылі ў ім міліцыянера або чырвонага камандзіра, і тое прыемна грэла яго маладую душу. Камандзірам ён, вядома, ня быў, служыў простым

чырвонаармейцам у далёкаўсходнім гарнізоне Градэкава каля самай японскай мяжы, дзе, казалі, нарадзілася славутая «Далёкаўсходняя», якую сьпявала ўся Чырвоная Армія. «Дальневосточная, опора прочпая – даешь отпор!» Нядаўні чырвонаармеец Анішчык заўжды быў гатовы даць адпор – хоць японскім самураям, хоць польскім панам. Хай толькі наркам Варашылаў дасьць каманду і павядзе ў бой... напэўна, з ворагамі народа таксама. Хаця з ворагамі народа горш, бо ворагі Янкоўскі, Злотнік... Тут ягоныя думкі блыталіся ў тумане, сплывалі кудысьці, і ён заснуў...

Прачнуўся раптоўна, як заўжды ў апошні час, ахоплены трывогай за справы новага дня. У вокнах зачынаўся ранак, пара была ўставаць. У двары, чутна было, ужо гаспадарыла Аўдоха – паша ля студні каня. Клопат пра сельсаветаўскага каня быў яе абавязкам, які яна няблага выконвала, ня тое што калі куды зьбягаць, каго паклікаць. Выконвала тое яна неахвотна. Абы як паліла і грубку, тут у яе заўжды была адчэпка: «Дроў нетуці». Дроў сапраўды не хапала, але дзе ён мог узяць дроў? Іх не хапала ўсюды – ад калгаснай канторы да райвыканкама. Трэба эканоміць, гаварылі начальнікі. Во Аўдоцьця і эканоміла, час ад часу напамінаючы: зарплата малая. І тос было праўда, зарплата сапраўды была мізэрная нават для сельсаветаўскай прыбіральшчыцы. Мабыць, у тым і палягала сапраўдная прычына таго, што грубка ня грэла. Але тут Анішчык памагчы ёй ня мог – зарплату прызначалі ў райфа.

Ранкам было б няблага пасьнедаць, але ня бегчы ж дзеля таго за два кіламетры дадому, думаў Анішчык. Ён не хацеў губляць час, тым болей, што чакаў Злотніка. Той і заявіўся, як дамаўляліся, на сьвітаньні і, не завітаўшы ў сельсавет, апусьціўся на ніжнюю прыступку ганка, паклаў побач хатуль. Згледзеўшы яго з акна, сакратар пастукаў у шыбіну:

– Зараз паедзем.

Мыўся ў сенцах сьцюдзёнай вадой з кварты. Пасьля таропка запрагаў каня. Каля хлява паявілася Аўдоцьця, як заўжды, незадаволена паківала галавой.

– Зноў ехаць? Ня еўшы. Глядзі, даезьдзішся...

– Што? – недачуў Анішчык.

– А нічога...

Апанураны Злотнік сядзеў на ганку, з выгляду выказваючы поўную пакорнасьць лёсу. Твар яго густа аброс чорнаю шчэцьцю, і Анішчык з прыкрасьцю падумаў: хаця б пагаліўся. Яму хацелася, каб Злотнік меў болей прыстойны выгляд і сваёй неахайнасьцю не адштурхнуў Дзьвярнога.

Пасьля яны ехалі на фурманцы, зьвесіўшы абапал ногі. Знаёмая дарога ні трохі ня высахла за ноч, месцамі наадварот – стала яшчэ болып гразкай, хаця дажджу быццам бы не было. Вецер яшчэ не падняўся, восеньскі дзень абяцаў быць не сьцюдзёным. З парослай хвойнікам горкі зьехалі ў лугавую нізінку, тут каню стала цяжэй, і Анішчык з лейцамі ў руках скочыў з воза. Злотнік таксама хацеў зьлезьці, але сакратар буркнуў: «Сядзі!», і той адразу сьціхамірыўся, паныла пазіраючы наўзбоч дарогі.

– Не гаруй, Злотнік, – падбадзёрыў яго Анішчык. – Янкоўскаму горш.

– І Янкоўскаму горш, і Злотніку горш, – глыбакадумна адказаў кандыдат на арышт і дадаў: – Злотнік паехаў, дочкі засталіся.

– Дык яны ж з маткай засталіся.

– З маткай засталіся, а хацелі паехаць.

– Куды?

– Калі б я ведаў, куды...

– Ну, а што матка?

– Двойра іх любіць. Ого!

– А цябе?

– А мяне за што ёй любіць? Трохі шкадуе і ўсё.

Анішчык змоўчаў. Чагосьці ён не разумеў у, мабыць, няпростых сямейных стасунках Злотніка, толькі падумаў, што клапаціліся яны цяпер пра розныя рэчы. Анішчык турбаваўся, як там атрымаецца ў НКВД, а Злотнік – пра пакінутых дома дачок.

– А сына ў цябе няма, Злотнік?

Злотнік нсўпрыкмет уздыхнуў на возе.

– Ня даў Бог...

І таксама было не зусім зразумела – ну навошта цяпер яму сын? Чым бы ён дапамог арыштанту-бацьку? Сын-спадчыньнік? Але што б ён мог узяць у спадчыну ад гэткіх бацькоў-беднякоў? Хіба жыцьцё?.. І раптам падумалася: а што жыцьцё – малая спадчына? Напэўна, большай і не бывае. Для беднякоў тым болей.

І ў Анішчыка пакуль няма спадчыньнікаў – ні сына, ні дачкі. Можа, калі-небудзь і будуць, а можа, і не. Усё ж час нялёгкі, living рознае можа здарыцца. Як здарылася з бацькам, забітым у шаснаццатым на імперыялістычнай вайне. Калі б забілі на грамадзянскай, як Аўдоцьцінага мужа, стаў бы гонарам для сына, а так чым ганарыцца? Загінуў за інтарэсы капіталістаў і памешчыкаў. Свой гонар і годнасьць сыну трэба было здабываць уласнымі рукамі. Во ў чым справа.

Дарога пайшла ранейшай мясьцінай, паабапал стыла на ветры голае поле. Яго трэба было даўно араць на зябліва, і ў іхнім калгасе таксама. Але ўсе сілы былі кінутыя на апрацоўку лёну – такая была стратэгічная задача калгасаў ды і партыі таксама. І яшчэ класавая барацьба, якой не было відно канца. Да зябліва не даходзілі рукі. Пасьля, вядома, спахопяцца, ды будзе позна. Зноў у некага адбяруць партбілет, некага пасадзяць, сашлюць... Зрэшты, ад гэтага лёсу цяпер не застрахаваны ніхто – ні старшыні калгасаў, ні сакратары сельсаветаў, паныла думаў Анішчык, брыдучы побач з фурманкай.

– Ладна, Злотнік, і там людзі жывуць, – ня дужа ўпэўнена суцешыў ён змрочнага седака ў возе ды і сябе таксама. Бо не павінны таго засудзіць дужа строга – усё ж ён не злачынца.

Аднак жа і Янкоўскі таксама не злачынца, ня вораг народа, а во ўзялі і кудысьці зьвезлі. Можа, і расстраляюць нават, – скажуць, шпіён, дыверсант, шкоднік... А раптам тое ж чакае і Злотніка? – падумаў Анішчык, і яму зрабілася млосна. Што ж ён тады нарабіў? Ён не хацеў так нават думаць, бо так не павінна быць. Усё павінна скончыцца добра. Анішчык хацеў быць аптымістам.

Ён лёгка ўскочыў на кінуты Аўдоцьцяй ахапак сена ў возе, паехаў хутчэй. Праклятае ўсё ж жыцьцё, якое змушае выбіраць з двух няшчасьцяў адно. Але тое, што засталося, можа стацца, яшчэ горшае – во і выбірай. Ламай галаву, як да таго паставіцца НКВД, ці зразумее яго? Можа, што-кольвечы ён зрабіў і не так, але ж ён стараўся. Для палітыкі партыі, для савецкай улады. Ці ягоная віна, што ў той палітыцы было столькі наблытана? Не, Дзьвярной павінен яго зразумець...

А раптам не зразумее? І ня возьме Злотніка? Ці абвінаваціць самога Анішчыка? Халера іх ведае, тых чэкістых, з іх мудрагелістымі правіламі, засакрэчаным планам. Калі ўзялі Янкоўскага, Анішчык кінуўся ў райкам партыі да таварыша Князева. Але той толькі разьвёў рукамі – моўчкі і выразна, – маўляў, нічым не магу памагчы, усё там, у НКВД.

Палітыку партыі Анішчык увогуле прымаў усёй душой, асабліва калі чытаў выступы таварыша Сталіна ці рэзалюцыі зьездаў і пленумаў. Але нярэдка трапляў у тупік, калі з тою палітыкай сустракаўся на практыцы, на месцах, у сваім раёне, дзе ўсё рабілася кепска і ня так. Старэйшыя таварышы (той жа Янкоўскі) казалі, што тое – прошукі ворагаў, шкоднікаў, якія пралезьлі ў партыю і скрыўляюць яе палітыку. Вядома, з ворагамі належала змагацца, толькі дзе яны канкрэтна, тыя ворагі? Як падазрона Анішчык ні ўзіраўся навокал, ворагаў ня бачыў нідзе. А НКВД бачыла крозь. Ён аж

злаваўся калі на сябе, думаў, што, можа, надта слаба яшчэ падкаваны на марксізм, яшчэ не спасьцігнуў усяе ягонай мудрасьці. Але ён хацеў спасьцігнуць.

Не зважаючы на раньні час, на падворку НКВД была процьма народу – бы на кірмашы. Сноўдалі людзі ў вайсковай форме і ў цывільным, некаторыя сядзелі ў фурманках, што стаялі поруч з брычкамі начальства. Ці ня здарылася што? – трывожна падумаў Анішчык. На падворак немагчыма было заехаць, і ён спыніў фурманку ўзбоч вуліцы, накінуў лейцы па слупок агароджы. Усё ж яму трэба было туды, у доўгую, барачнага кшталту будыніну, і ён між вазоў пачаў прабірацца да ганка. Злотнік з хатулькам у руках нясьмела валокся ззаду і сваёй нерашучасыдю аж злаваў Анішчыка. На ганку іх спыніў незнаёмы маладжавы міліцыянер, але Анішчык цьвёрда назваў начальніка, сказаў, што па выкліку. Міліцыянер гукнуў камусьці ў канцы калідора: «Да таварыша Дзьвярнога!» Анішчык унутрана пасьміхнуўся, – падобна, яго палічылі за канваіра. Што ж, неблагі пачатак, падумаў ён, які будзе канец? Сказаўшы Злотніку, каб пачакаў, зважліва пастукаў у знаёмыя дзьверы.

Начальнік Дзьвярной, стоячы за сталом, размаўляў па тэлефопе. Ён быў у новай вайсковай гімнасьцёрцы, з партупеяй цераз плячо і наганам на баку. Побач на сьцяне вісеў ягоны шынель з двума кубікамі ў шырокіх сініх пятліцах, – значыцца, чэкістам выдалі форму, падумаў Анішчык. Ён нядоўга пастаяў ля дзьвярэй, услухоўваючыся ў тэлефонную размову, але зразумець нічога ня мог. Дзьвярной толькі скупа паўтараў «Да, да... Іменна так. Сёньня ж адпраўляю. Будзеісполнена». Нарэшце, паклаўшы трубку, угледзеўся ў Анішчыка адразу пасуровелым позіркам.

– Што?

– Ды вось, таварыш началыйк, вы гаварылі на нарадзе, дык я прывёў...

– Каго? Сябе?

– Не. Злотніка.

– Дзе ён?

– Тут. Паклікаць?

Стоячы за сталом у хцівай, драпежнай паставе, Дзьвярной маўчаў, і Анішчык расчыніў дзьверы, у якія няўклюдна ўлез са сваім хатулём спакутаваны, апрануты ў стары лапсярдак Злотнік.

– Фамілія? – гаркнуў Дзьвярной.

– Злотнік, я ж кажу, – мякка адказаў за яго Анішчык.

– Яўрэй?

– Так. Але... – пачаў Анішчык і адразу сумеўся, згледзеўшы, як набрынялы твар начальніка пачаў наліваццa бурачнаю чырваньню.

– І гэта ўсё? Ты што, нас дурачыш? Ці хочаш адкупіцца? Пакрыць шпіёнаў? Дыверсантаў? Шкоднікаў? Ня выйдзе...

Дзьвярной гучна і мацерна вылаяўся.

– Кулькоў! – крыкнуў ён у суседні кабінет, дзе сядзеў нябачны адсюль Кулькоў. – Выклікай канвой і рэгіструй!..

– Каторага? – прагучала з-за прыадчыненых дзьвярэй.

– Абодвух!

– Па якой стацьці?

Начальнік нядоўга падумаў.

– Аднаго як трацкіста...

– А другога?

– Другі – нацдэм! І антысеміт. Усё! – рашуча аб’явіў начальнік зьнямеламу Анішчыку, які гэтак нечакана

сам стаў арыштантам і разгублена вымавіў:

– Як?..

– Не паняў? Там поймеш. Час будзе...

У суседнім кабінеце іх запісалі ў тоўстуўю бухгалтарскую кнігу. Той жа Кулькоў і яшчэ адзін – доўгі худы чэкіст, які за ўвесь час ня вымавіў ніводнага слова, – змусілі іх выкласьці ўсё з кішэняў. У Злотніка ў кішэнях нічога, апроч дзірак, не знайшлося. Анішчык жа паклаў на стол свій новенькі, ашчадна абгорнуты ў газетку партыйны білет, блакнот з алавіком, паўпачкі махоркі. У карабку заставаліся дзьве запалкі, і тыя адабралі. Ён ужо мала разумеў з таго, што з імі адбывалася, усё навакол бачыў расплывіста, у тумане. Быццам тое адбывалася ня з ім. Увесь час круцілася думка, што трэба да кагосьці зьвярнуцца, нешта сказаць, але ён ня мог даўмецца, да каго. Ім усё болей авалодвала пачуцьцё чагосьці незразумелага, нейкай душэўнай прамашкі, зробленай незнарок, па дурноце, якая вось-вось будзе зразумета і папраўлена. Пасьля таго, як... Але тое «як» заставалася невыразным, няўлоўным у яго сьвядомасьці. Анішчык усё глыбей падаў у страхавіты правал і, быццам аглушаны, не чуў і ня бачыў нічога навокал. Злотнік жа наадварот – нічым не зьмяніўся ў паводзінах, здаваўся нават спакойны і амаль не рэагаваў на тое, што з імі рабілі. Мабыць, сн ужо рэагаваў раней – учора ці ранкам, і цяпер ставіўся да таго, як да звычайнага, непазьбежнага, што іх напаткала і павінна было напаткаць.

Пасьля таго, як працэдура рэгістрацыі была скончана, высокі худы чэкіст выняў з шуфляды стала кароткі нож і узяўся зразаць чырвоныя пятліцы з Анішчыкавага шыняля. Але нож быў тупы, а суровыя ніткі, якімі Анішчык калісь прышыў дятліцы, трымалі моцна, і чэкіст нарэшце з трэскам паадрываў іх ад каўняра. Анішчык ледзьве стрываў, каб не заплакаць, выразпа адчуваючы, што з пятліцамі пазаўжды адразаецца і яго мінулае. Ён не сакратар болей. Не бальшавік. А можа, і не чалавек нават.

Чакаючы канвою, які чамусыді доўга не ішоў, яны сядзелі адзін ля аднаго ў канцы калідора. Злотнікаў хатулёк з харчамі яму пакінулі і, пасядзеўшы, ён разьвязаў яго, дастаў абкрышаны акрайчык хлеба, вялікую цыбуліну. Анішчык зьдзіўлена паглядзеў на сябра па няшчасьці, нечакана ўбачыўшы ў ім жывога трацкіста.

– Што гараваць, таварыш сакратар? Паямо трохі...

– Еш, я не хачу, – буркнуў Анішчык.

Ён сапраўды нічога не хацеў. Здаецца, не хацеў і жыць.

– Во хлеб. Двойра апошні аддала. Яна добрая...

– Праўда? – думаючы пра іншае, перапытаў Анішчык.

– Добрая, ага. Заплакала, як пайшоў... Кепска, дроў няма.

– Што – дроў?

Анішчык упершыню за гэты дзень успомніў пра маці, якая на мінулым тыдні таксама скардзілася, што няма дроў, і яму зрабілася дужа панылa. А ён нават не забег перад ад’ездам. Каб жа ведаў...

Але што чалавек можа ведаць?

Яны доўга яшчэ сядзелі ў канцы калідора – адзін у шэрым, без пятліц шынялі, другі ў чорным, паедзеным мольлю лапсярдаку, і іх пагорбленыя постаці ў восеньскім сутоньні рабіліся ўсё болей падобныя адна да адной...

Як і заўсёды ўвечары, Аўдоцьця выйшла ў хлявок па дровы і, вяртаючыся, убачыла ў варотах каня з фурманкай. Пярэдняе кола фурманкі зачапілася на павароце за слупок агароджы, і фурманка спынілася. Аўдоцьці здалося дзіўным, што у ёй нікога не было. Аднёсшы дровы, яна вярнулася на двор – конь нецярпліва затупаў нагамі, і жанчына пра ўсё здагадалася.

– Ну во – ад’езьдзіўся, – прабурчэла яна і, завёўшы фурманку ў двор, узялася распрагаць каня.

## Дваццаць марак

Зранку на пасадачнай пляцоўцы за аўтавакзалам было ціха і пуста. Негарачае травеньскае сонца выкацілася з-за недалскіх дахаў пяціпавярховак, але даўно ня мецены, пашчэрблены ад старасьці асфальт ляжаў яшчэ ў касабокім цені ад прыземістага сілікатнага будынка вакзала ды дзьвюх сукаватых таполяў на ягоным рагу. Заглыблены ў зямлю «бліндаж» вакзальнай прыбіральні на тым баку пляцоўкі яшчэ быў зачынены з начы – першы аўтобусны рэйс значыўся ў раскладзе а восьмай гадзіне раніцы. То быў аўтобус з абластюга цэнтру, тут ён спыняўся на дваццаць хвілінаў перад тым, як рушыць далей, і тое прычыняла першы на дні клопат Лявону Гаворку. За чвэрць гадзіны да восьмай Гаворка спускаўся па бетонных прыступках да зялёных дзьвярэй з вялікімі чорнымі літарамі, М і Ж, здымаў з прабоя стары, паіржавелы замок. Унутр Гаворка не заходзіў, то быў не яго абавязак – бункер па сумяшчальніцтве прыбірала тоўстая Валя, прыбіральшчыца аўтавакзалу. Гаворка ж ад новага года зьбіраў плату «за карыстаньне», як гэта рабілі цяпер у гарадах. Тое, што тутэйшы аўтавакзал абслугоўваў ня горад, а пасёлак гарадскога тыпу, справы не мяняла. Грошы патрэбны былі ўсім – гарадам і пасёлкам, вялікім і малым, і нават прыстаўленаму для таго «зборшчыку за карыстаньне», ветэрану ВАВ Лявону Гаворку.

Гадзіньніка Гаворка ня меў – хтось скраў на Вялікадня, як ён, трохі перабраўшы, задрамаў ля тутэйшай піўной з дзіўнаватай ыазвай «Эксклюзіў», прыватызаванай прыезджым гандляром Ашотам. Цяпер час ён вызначаў па тым, як запальвалася лямпачка у падсобцы буфета – буфетчыца Валя-малая заўсягды прыходзіла перад рэйсам абласнога і адчыняла сваю ўстанову. Неўзабаве і Ганорка меўся заняць сваю пазіцыю перад прыступкамі ў туалет. Пакуль што ў закратаваным

акенцы падсобкі было змрочна, значыць, Гаворка меў час. Каб марна не тырчэць пры бліндажы, ён адышоўся воддаль і сеў на лаўку пад прахалоднай з начы сьцяной аўтавакзалу. Як заўжды ўранку, хацелася курыць, але закурыць не было чаго – учора дакурыў апошнюю «прыму» і выкінуў пачак. Нядблага было б таксама паправіць галоўку, у якой штосьці хістка віхляла з боку ў бок, хоць учора і выпіў, здаецца, няшмат – шмат выпіць Гаворка ўжо асьцерагаўся. Грамаў сто пяцьдзесят з Дземідзёнкам, якому быў вінаваты за пачастунак на тым тыдні. Пасьля, праўда, яшчэ дадалі пару бутэлек піва. Але пачуваўся ўчора няблага, нават пастаяў у чарзе па білет для старой Мачуліхі з Падбярэзьзя. Тая ўжо так састарэла, што не магла доўга стаяць.

Валі-малой усё не было ў падсобцы – заспала ці што? Але калі і прыйдзе, ці дасьць бяз грошай пачак «Прымы», – купіць цыгарэтаў Гаворка ня меў за што. Учора ўвесь ягоны «збор за карыстаньне» выграб старэйшы Вакулёнак, нахабны дэсантнік, афганец і рэкецір, як яго клікалі ў мястэчку гарадскога тыпу. Надвячоркам Гаворка сядзеў з мужыкамі на гэтай во лаўцы, як падышоў Вакулёнак з сваёй кампаніяй ды прычапіўся: аддавай доўг! Быццам у нядзелю пазычыў у яго ў «Эксклюзіве» чатырыста тысяч. Гаворка напружыў памяць: так, быў у піўной, пілі піва, ды каб у каго што пазычаць – таго не памятаў. Можа, памяць стала ня тая, што была некалі. Каб адчапіцца ад нахабніка, аддаў, што было ў кішэні, што назьбіраў з трох аўтобусаў, і застаўся без капейчыны. Але з Вакулёнкам лепей было ня зьвязвацца. Апроч Афгану, той пасьпеў наведаць калонію і мог пырануць нажом, асабліва калі залье вочы гарэлкай. Гаворка памацаў дзіравыя кішэні зашмальцаванага вайсковага кіцеля, у картовых штанах была пакамячаная кніжачка квітанцыяў – і ўсё. Тады зьняў з лысаватай галавы вайсковую з цьвёрдым казырком шапку, ды й там пад дранай падкладкаю не знайшлося нічога – ні «зайца», ні абкурка. Што ж, прыйдзецца пачакаць, думаў Гаворка, тым болей, што ўвогуле чакаць засталося няшмат. Калі толькі абласны ня спозьніцца, як учора – аж на сорак

хвілін. Казалі, не было бензіну. Цяпер у гэтых аўтобусьнікаў часьцяком не хапае то бензіну, то саляркі, то яшчэ якое халеры. Усе праблемы ад недахопу. Зрэшты, як і ўсюды.

Гаворка азіраў пляцоўку, чакаў, можа, хто прыйдзе ці хоць бы пройдзе паблізу. Ды як на злосьць, нідзе не было нікога. Адно зводдаль на падворку за вакзалам, відаць было, сядзела пад плотам бабуля з унучкай, мабыць, таксама чакала аўтобус. Але да жанчынаў з якімі патрэбамі Гаворка ня меў звычаю зьвяргацца, хіба каб папіць вады, калі сасьмягне. І калі дадуць. А могуць і ня даць, не зважаючы на яго заслужаны ветэранскі выгляд – у вайсковым кіцелі, з ордэнскімі планкамі на грудзях. Менавіта дзеля людской павагі Гаворка нядаўна начапіў яшчэ і два свае ордэны – Чырвонай Зоркі на правы бок грудзей і ордэн Славы трэцяй ступені – на левы. Так было прыгажэй. Некаторыя казалі, што планкі з ордэнамі ня носяць, але хай, думаў Гаворка. Чужыя ці што? Ці скрадзеныя? На вайне заробленыя потам ды крывёю, запісаныя ў дакументах – чаму не насіць?

Ён усё пазіраў з лаўкі на той бок пляцу і на рог аўтавакзалу, як побач паявілася Валька – дачасу растаўсьцелая жанчына ў сінім халаце, з вядром у руках. Гэтую, у адрозьненьне ад Валькі-малой, клікалі Валька-тоўстая. Яна кіравала да бункера, і Гаворка зразумеў, што раней не прыбрала, будзе прыбіраць зараз, перад прыходам аўтобуса.

– Не магла ўчора! – стрымана папракнуў ён.

– Не магла, – са сьцішанай злосьцю адказала тоўстая Валя, не паварочваючы да яго галавы. Зімой яна прасілася на гэтае яго месца зборшчыка за карыстаньне, але начальнік райкамунгасу тую справу даверыў яму. Усё ж ён ветэран і ардэнаносец, а не які прыбіральшчык, як Валька-таўстая.

– Аўтобус жа во...

– Ну й хер з ім, – з абыякавым выглядам буркнула тая.

Якраз у той момант з вулічнай павароткі на пляцоўку ўкаціўся вялізны жоўта-чырвоны «Ікарус», трохі збочыў да будыніны аўтавакзалу, чыхнуў і стаў. Гаворка ўскочыў з лаўкі і ціха вылаяўся – Валька-тоўстая пляжыла яму ўсю справу збору і карыстаньня. Але рабіць не было чаго – з пярэдніх дзьвярэй аўтобуса ўжо вылазілі пасажыры, цягнучы з сабой свае клумкі. Адны паволі ішлі за вугал да дзьвярэй у вакзал іншыя пачыналі засяроджана азірацца па баках. Гаворка разумеў іхні клопат і пасьпяшаўся да бункера. Валя-тоўстая, вядома, яшчэ поркалася там, ды людзям не цярпелася са сваёй справай – як было змушаць іх чакаць?

Заняўшы зручную пазіцыю ля самых прыступкаў, Гаворка дастаў з кішэні квітанцыйную кніжачку і трымаў яе ў руках, каб кожнаму было бачна, што ён тут стаіць не выпадкова, а выконвае абавязкі. Алоўка у яго не было, ды ён і ня меў у ім патрэбы. Зрэшты, і квітанцыяў у яго звычайна ня бралі, а калі якая цётка і возьме, дык наводдаль кіне пад колы аўтобуса. Пасьля гэтыя квіткі разам са сьмецьцем зьдзімае з пляцу вецер. Таму Гаворка ня надта іх і навязваў.

Першым да бункера рашуча скіраваў плячысты дзяцюк з высока падстрыжанай патыліцай і скураной валізкай на адным плячы. Гаворка заступіў яму шлях.

– Пяць з вас.

– Чаго – пяць? – вылупіў вочы дзяцюк.

– Пяць тысячаў за карыстаньне.

– Пайшоў ты!..

Крута павярнуўшыся, дзяцюк скіраваў па той бок бункеру, дзе, амаль не хаваючыся, зрабіў сваю справу і вярнуўся ўжо іншым шляхам, нават не зірнуўшы ў яго бок. Канешне, то быў непарадак, але Гаворка нічога ня мог зрабіць, а міліцыянера ў такіх выпадках ніколі не бывае блізка. Ад аўтобусу тым часам ужо клыбаў высокі стары ў пінжаку і з кульбай, ўна кіруючы да бункеру.

Гаворка трохі ступіў наперад, каб загадзя спаткаць яго, ды сустрэў нейкі нямогла-спакутваны погляд старога і адступіўся. Спаганяць з гэтага грошы ў зборшчыка чамусьці не хапіла адвагі, і той, няспынены, паклыпаў па прыступках уніз.

Нарэшце, управіўшыся прыбіраць, адтуль выйшла тоўстая Валя, якая з затоенай пагрозай мовіла:

– Па блату пушчаеш? Ну-ну...

– Не тваё дзела, – буркнуў ён.

Сапраўды, то было ягонае, а не яе дзела, тут Гаворка быў пэўны. Кепска хіба тое, што Тоўстая магла накапаць на яго я камхоз, як накапала на тым тыдні, калі ён праварожіў транзіт з Менску. Тады ён атрымаў вымову і апошняе папярэджаньне. Як бы цяпер не атрымаць самае апошняе..

Стары з кульбай яшчэ ння выйшаў з бункера, як з-за аўтобусу выбегла кабеціна з дзьвюма дзяўчынкамі-дашкольніцамі. Першая з іх, белавалосенькая і порсткая, згледзеўшы бункер, адразу пабегла да яго цераз пляц, і кабеціна яшчэ здалёк запрасілася:

– Вы ўжо пусьціце яе, малую, бясплатна, а то грошай няма, во на бялет сабрала, каб у горад да маці адвезьці з дзярэўні...

– Ладна, – з прыхаванай прыкрасыцо ціха кінуў Гаворка, падумаўшы, што сёньня яму не шанцуе. Малая паскакала па прыступках уніз, але за ёй сунулася і кабета разам са старэйшаю, што ўжо выклікала абурэньне Гаворкі.

Было, аднак, позна – ужо яны там, унізе, расчынялі скрыпучыя, на спружыне дзьверы. Во і паслухай гэтых баб, думаў Гаворка, – пусьціш адну, а ўлезе тры запар. І ўсё бясплатна. Як яны неўзабаве выйшлі, кабета здалёку дзякавала, але ён не хацеў яе і слухаць. Аўтобус меўся хутка пайсьці, а ў ягонай кішэні не зьявілася ніводнага «зайца». Усе – на халяву.

Сапраўды ля расчыненых дзьвярэй «Ікаруса» пачалі тоўпіцца новыя пасажыры з білетамі, а таксама тыя, што тут выходзілі пакурыць – усе рыхтаваліся заняць месцы. Ужо з другога боку ў высокую кабіну караскаўся шафёр. І тады з-за рогу вакзалу шпаркай хадой выскачылі два салдаты, мабыць, пасьпяшаўшыся з буфету. Але замест аўтобусу яны скіравалі ў гэты бок – ведама ж, па якой патрэбе. Гаворка ступіў напярэймы, але тут жа адступіўся – маладыя, бялявыя, бы рахманыя парсючкі, са счырванелымі тварамі хлопцы дужа сьпяшаліся – як было патрабаваць з іх плату? Сам калісь быў салдатам і ведаў, якія ў салдата грошы. Тыя, аднак, не зважаючы на яго, з надта заклапочаным выглядам скаціліся па крутаватых прыступках і неўзабаве выскачылі, сігаючы адразу цераз дзьве прыступкі. Ужо мінаючы яго, адзін кінуў другому:

– Жабруе дзядок...

– Халяўшчык, – дадаў зводдаль другі.

Пачутае крыху абразіла Гаворку – усё ж ён не халяўшчык, яму тую працу даручыла ўлада. А калі ён гэткі вахлак, што пушчае бяз грошай, дык гэтак яму і трэба. Пусьціў па дабрыні сваёй, за што во і атрымаў...

Аўтобус пакаціў на вуліцу, аўтавакзальны пляц апусьцеў. Наступны меўся быць няхутка, але зборшчыку за карыстаньне не было куды ісьці. Ды і не было якое патрэбы, апроч як закурыць. Ды дзе закурыш? З усяго аўтобусу ня ўзяў ніводнага «зайчыка», і хто б паверыў? Не, так не гадзіцца. Мабыць, трэба мяняць падыходы, як кажа ягоны прыяцель Пухлякоў.

Ён абышоў аўтавакзал і з другога боку зайшоў у буфет. Якраз у гэтую пару тут было пуста, буфетчыца Валя-малая перабірала якіясь паперы на падаконьніку, і ён паўзіраўся ў вітрыну. Там у куце за бутэрбродамі з скрылёчкамі ссохлага сыру стаяла некалькі пачак «Мальбара» з ашалелымі цэнамі, і Гаворка спытаў:

– А «Прымы» няма?

– Няма, – буркнула Валя-малая, прыгожымі, у пярсьцёнках пальцамі перабіраючы накладныя.

– Гора! – выдыхнуў Гаворка.

– Бяры во загранічныя, – не паварочваючыся ад папераў, сказала буфетчыца. – Ці грошай няма?

– А няма, – сказаў ён.

– Так ужо і няма? Толькі ж аўтобус быў.

– А грошай няма, – сказаў ён і ціха папытаўся: – Можа, пачачак напавер?

– Не. Напавер не, – адрэзала Валя. Перапрошваць Гаворка ня стаў, ведаў – у гэтай ня выпрасіш. Гэтая, бы сталь, – калі сказала, дык ужо хоць разьбіся. Хоць на пуза ляж. Але дзе ж закурыць?

У цесным вакзальным пакойчыку сядзела над клумкам кабета, ляніва жавала выняты адтуль батон. За акном, бачна было, спыніліся, сустрэўшыся, дзьве жанчыны – удава міліцэйскага начальніка Казлова і настаўніца тутэйшай школы. Гэтыя таксама былі яму без карысьці, і Гаворка вярнуўся на пустую пляцоўку. Крыху счакаўшы, сышоў да дзьвярэй туалета і замкнуў іх, каб хто ня ўздумаў пакарыстацца ім без яго. А сам паваloкся на вуліцу да гастраному – ужо там ён знойдзе, у каго закурыць.

Далёка, аднак, не адышоўся, як згледзеў Пухлякова. Гэты высокі і мажны ветэран якраз кіраваў у бок аўтавакзалу.

– Ты куды? – спаткаўшыся, спытаў Пухлякоў.

– Ды во – закурыць.

– Абязгрошаў, ці што?

Пухлякоў нетаропка дастаў з кішэні свайго заўжды ладнага шэрага пінжака пачак «Беламору», яны закурылі. Гаворка з палёгкай зацягнуўся знаёмым

дымам.

– Дык пойдзем, – сказаў ён. – Калі да мяне.

– Што ж ісьці да цябе? Ты ж бяз грошай...

– Ды знаеш, з тым абласным не павязло.

– Што, нікому не прысьпічыла? – пагардліва ўсьміхнуўся Пухлякоў. – Значыць, кепска працуеш...

Можа, і кепска, падумаў Гаворка. Гэты Пухлякоў, не зважаючы на тое, што быў маладзейшы за Гаворку, заўжды трымаў сябе з ім, нібы начальнік ці чалавек разумнейшы. Хаця ён і быў начальнік, а можа, і разумнейшы, бо шмат гадоў працаваў у райкаме. Колісь ваяваў партызанам, але таксама ў райкаме камсамолу, – сядзеў у лясной глушы і кіраваў антыфашыстоўскай агітацыяй сярод моладзі. Цяпер ордэнаў не насіў, а планак – шырокіх, роўненькіх і стракатых – было ў яго аж да пуза. Сабраў усе юбілейныя, над якімі вісеў на чырвонай калодачцы самы галоўны юбілейны медаль з выявай Леніна, што здалёк выдаваў бы Залатая Зорка Героя.

– А колькі часу? – папытаўся Гаворка.

Пухлякоў, памарудзіўшы, загарнуў рукаў пінжака.

– Без малога дзесяць.

– У адзінаццаць – транзітны з Гомлі. Ужо тады... Гаворка не даказаў думку, але Пухлякоў яго зразумеў і неяк з унутранай рашучасьцю выпрастаў сваю даўгаватую, перахлябістую постаць.

– Дык пайшлі!

Моўчкі і нетаропка яны шкандыбалі да аўтавакзалу, зайшлі па той яго бок – на пляцоўку. Гаворка ведаў, што трэба Пухлякову (тое ж, што і заўжды), і трохі злаваўся. Як ён, Гаворка, два гады шлындаўся бяз працы, жывучы адно на мізэрную пенсію, тады яго Пухлякоў і ня бачыў. А як прыдбаў сталы заробак, тады стаў патрэбны ўсім.

Не мінала дня, каб да яго на аўтавакзал, да бункера, не завіталі дватры былыя дружбакі, – то закурыць, то пагаманіць, а то і пазычыць сотню. Ну і, само сабой – выпіць, бо ўсе сядзелі бяз грошай, а ў Гаворкі часам зьбіралася трохі. Каб жа, аднак, то былі ягоныя грошы, ня трэба было іх здаваць у камунгас, ну, канешне, не без таго, каб троху і скрасьці. Але ж ён краў не ў каго канкрэтна, а як бы ў самога сябе, і таму вялікага сораму не адчуваў.

Тым болей, што так рабілі ўсе. Кралі і не па сотні, – па тысячах і мільёнах – і не «зайцоў», а даляраў.

Пухлякоў моўчкі сеў пад сьцяну на лаўку, а Гаворка пашкандыбаў да бункера адамкнуць дзьверы. Ён яшчэ не дайшоў да іх, як на пляцоўку неяк паволі, бы асьцерагаючыся, укаціў чорны, блішчасты мікрааўтобусік накшталт колішняга «рафіка» з жоўтымі, яўна не тутэйшымі нумарамі. Зьдзіўлены Гаворка спыніўся. Тут жа з аўтобусу выбраліся адзін, другі, трэці пасажыры – усе лёгка, па-летняму апранутыя ў сьветлыя камізэлькі з кішэнькамі ды «маланкамі», стрымана штось пагукалі адзін да аднаго. Пагукалі, аднак, па-нямецку, тое адразу зразумеў Гаворка, падумаўшы, што трэба як найхутчэй адчыніць туалет. І ўсё ж ён спазьніўся. Пярэдні – высокі і худы немец з падкасанымі рукавамі сарочкі – зрабіў яму жэст спыніцца, і ён спыніўся.

– Морген, – быццам картавячы, сказаў немец. – Во іст петроль?

– Што?

– Бэнзын, бэнзын, – паправіў яго другі, чорны, з таксама голымі да локцяў, дужа валасатымі рукамі. – Аўто нужэн бэнзын.

– Дык няма тут бензіну...

– Нэма?

Немцы нібы разгублена зірнулі адзін на аднаго, пасьля

ўсе ўтаропіліся ў яго.

– Тут аўтастанцыя! – сказаў Гаворка.

Той пажылы, што першым вылез з аўтобусу, падышоў да яго бліжэй.

– Рус партызан? – спытаў ён, азіраючы ягоныя грудзі.

– Не. Салдат.

– О, зольдатэн! – нібы ўзрадаваўся немец. – Іх ест зольдатэн...

Што ж, вельмі магчыма, падумаў Гаворка. Хоць з выгляду немец быў маладзейшы за змэнчанага жыцьцём Гаворку, але, мабыць, калісь ваяваў таксама. Гаворка ўсё чакаў, што яны папытаюцца пра туалет, але другі, чорны, а таксама малады таўстун моўчкі стаялі перад ім.. Пасьля малады кінуўся ў аўтобус і выцяг адтуль вялікі чорны апарат – фота ці кіназдымачны – нацэліўся праз яго на Гаворку. Старэйшы немец зважліва пакратаў на ягоных грудзях ордэн Славы.

– Берлін?

– Не, за Варшаву, – здагадаўшыся, адказаў Гаворка.

– Я, я – Варшава, – панятліва паўтарыў немец.

Тым часам таўстун ужо здымаў яго, цікуючы праз апарат, які то ціхенька стракатаў, то спаважна сьціхаў. Мабыць, каб выйшла зручней, немец адскочыў на два крокі ўбок, прысеў на адно калена, беручы зьнізу. Гаворка міжволі разгарнуў плечы, прыўзьняў няголенае падбароддзе. Употай зірнуў на лаўку, дзе сядзеў Пухлякоў, і трошкі сумеўся, згледзеўшы змрочны, быццам незадаволены выгляд прыяцеля. Можа, Гаворка рабіў што ня так?

Можа, і ня так і ня тое. Пакуль здымаўся, кінуў некалькі позіркаў на аўтобус, праз цемнаватыя вокны якога заўважыў некалькі жаночых твараў, што пільна, нават з прыкметным спалохам сачылі за ім. Ці, можа,

яму здалося...

Стрымана, напаўголаса мовячы між сабой, немцы зьнялі яго з аднаго боку і з другога, а таксама зусім зблізку ягоныя грудзі з ордэнамі і замусоленымі ордэнскімі плапкамі. За планкі яму стала трохі ніякавата, бо тыя тырчэлі дужа няроўна, ня тое што ў Пухлякова, які зрабіў іх у майстэрні Ваенгандлю – роўненькія, шырокія, дужа спрытныя. Але, мабыць, папраўляць цяпер было позна, немцы зьнялі ўсё, як было. Гаворка хацеў параіць ім зьняць яшчэ і прыяцеля, ды ня ведаў, як было пра тое сказаць, а гэты сыч Пухлякоў са змрочным выглядам працягваў нязрушна сядзець воддаль на лаўцы.

– Во пэтроль? Бэнзын? – зноў папытаўся чорны.

– Бензін? Дык на запраўцы. Гэта як выедзеце на вуліцу, пасьля налева, і ля царквы направа паваротка будзе, – ахвотна патлумачыў Гаворка. Здаецца, яго зразумелі, бо не пыталіся болей.

Як малады ўладкаваў у скураны куфар свой апарат, чорны падаў Гаворку руку, па-прыяцельску моцна сьцяўшы ягоную. Дужы, сабака, – паморшчыў зашчаціпены твар Гаворка. «Аўфідэрзэе, аўфідэрзэе, до сьвіданя», – прагергеталі немцы, ківаючы галовамі. А той першы, што назваўся салдатам, раптам выцяг з задняй кішэні свой кашалёк і, пакорпаўшыся ў ім, працягнуў яму паперку.

– Што гэта?

– Цванцык дойчмарк, – важна мовіў немец. – Прэзэнт!

Гаворка нерашуча ўзяў. Мабыць, сапраўды то было аж дваццаць нямецкіх марак. Але завошта? Ці трэба было даваць? Ды і браць таксама?..

Ён аж захваляваўся і нейкі час стаяў так, з паперкаю ў руках, пазіраючы, як немцы залазяць у аўтобус. Нехта адтуль яшчэ памахаў яму, ды Гаворка не адказаў – пачуваўся амаль ашаломленым. Гэткім ён і падышоў да

Пухлякова, як аўтобусік выкаціў на вуліцу.

– Ну што – зьняўся, артыст? – няласкава сустрэў яго прыяцель. І за колькі прадаўся?

– Ды во, – разгублена сказаў Гаворка, паказваючы паперку, якую ўсё трымаў у руках. Сьпярша думаў схаваць яе, але зразумеў, што ня ўдасца – гэты ўсё бачыў.

– Дваццаць марак... Ладна, – падабрэў з паголенага твару Пухлякоў. – Пайшлі.

– Але ж – туалет...

– Ды плюнь ты на туалет, – абарваў яго прыяцель. – Замкнуў і ладна...

Яны пайшлі з пляцоўкі да вуліцы. Гаворку ўсё даймала хваляваньне – мусіць жа, дваццаць марак – ня дваццаць «зайцоў». То немалыя грошы. Немалых грошай Гаворка ня меў пікол́і, дзённы збор «за карыстаньне» рэдка калі перавышаў сотшо тысячаў – на пару бутэлек гарэлкі. Ды і тыя трэба было здаць у райкамгас, ну там трохі скраўшы для свае патрэбы. А тут дваццаць марак! Колькі гэта будзе «зайцоў», Гаворка пя ведаў. Кошты валюты кожны тыдзень расьлі, але зборшчык за карыстаньне мала цікавіўся валютай, якой яму яшчэ не плацілі. Можа, цяпер пачнуць...

– А дзе мяняць будзеш? – спытаў Пухлякоў. – Ня ў банк жа ісьці.

– Ня ведаго...

– Можна б да Ашота. Але там народу...

Вядома, Ашот мог усё, гэта быў прызнаны ў пасёлку дзялок. Але сапраўды ў Ашота цяпер, як, зрэшты, і заўжды, тоўпіліся півасосы. На іхніх вачах рабіць такую справу, мабыць, было б нягожа, пагадзіўся ў думках Гаворка.

– А зойдзем у буфет, – прапанаваў Пухлякоў.

Яны вярнуліся да аўтавакзалу, ад якога недалёка адышліся, і завіталі ў буфет. Тут дзьве жанчыны чакалі каля прылаўку, пакуль Валя-малая з дужа напарфумленым і надта суровым тварам нешта важыла ім у рудым кульку; доўгая стрэлка вагаў усс не хацела спыняцца на патрэбнай лічбе. Ветэраны чакалі. Мяняць валюту належала таемна, каб ніхто ня бачыў, інакш давялося б цягнуцца ў міліцыю ці – у лепшым выпадку – у банк, прад'яўляць пашпарт, запісваць адрас і прозьвішча. Мабыць, таго не падабаў Пухлякоў, Гаворку ж было ўсё роўна. Ён дагэтуль ня мог стрымаць нечаканага ўзрушэньня.

Як кабеты выйшлі з буфета, Пухлякоў лёгка піхнуў прыяцеля – ну, давай! Той падаў трохі пакамечаную ў кішэні паперку буфетчыцы. Тая, перш чым яе ўзяць, акінула строгім поглядам аднаго, затым другога кліента, зірнула ў акно на падворак.

– Што?

– Ды каб памяняць, – нясьмела патлумачыў Гаворка. Валя-малая тады ўзяла паперку і зьнікла ў завешанай няновым прасьцірадлам падсобцы. Гаворка зірнуў на прыяцеля, які стаяў крыху зводдаль, але пільна сачыў за ім. Буфетчыца, аднак, задоўжылася ў падсобцы, яны абодва чакалі, і Гаворка ўжо пачаў непакоіцца: ці не выклікае яна міліцыю? Тым болей, што ў буфет ускочыў знаёмы шафёр з сельгастэхнікі, штось гукнуў, ня згледзеўшы гаспадыні, і Пухлякоў яму адказаў:

– Няма, няма цыгарэт. Самі чакаем.

Хлопец мацюкнуўся і выскачыў на падворак, і тады з падсобкі паявілася Валя-малая. Яе строгі, дагледжаны тварык стаўся і яшчэ болей строгім. Нічога ня кажучы, яна ціха пасунула па прылаўку ладны пакунак з рудой паперы, які дрыготкімі рукамі прыняў Гаворка.

– Па якім курсе? – строга папытаў Пухлякоў.

– Як у банку. Адзін к ста пяцідзесяці, – насьцярожылася буфетчыца.

– Чаму гэта к ста пяцідзесяці? Мы ж ня ў банку. Давай к ста шасьцідзесяці, – сказаў Пухлякоў.

Валя-малая трохі разважыла, не мяняючы выразу свайго твару, і зноў моўчкі схавалася ў падсобцы. На гэты раз, аднак, хутка вярнулася і паклала на прылавак яшчэ некалькі паперак «зайцоў».

– Бяры, – кіўнуў Пухлякоў і сярдзіта дадаў, адвярнуўшыся: – А то к ста пяцідзесяці...

Яны выйшлі з буфета і прьтпыніліся. У вакзале і паблізу не было ні гарэлкі, ні піва, пад вокнамі стаялі толькі пустыя скрынкі ад кока-колы; па гарэлку трэба было ісьці ў цэнтр да гастраному. Не згаворваючыся, яны і скіравалі туды – наперадзе нетаропкі, акуратна апрануты ў шэры гарнітур Пухлякоў, за ім па шчарбатым ходніку шкандыбаў у кірзавых ботах Гаворка. На ягоных грудзях у такт з крокамі целяпалася белая зорка ордэна Славы трэцяй ступені, якая сёньня гэтак нечакана паслужыла яму. Ён думаў, што цяпер, мабыць, купіць сабе новыя штаны, бо ў старых хутка вылезуць голыя калені. Кіцель, падораны пляменьнікам, яшчэ нічога, а штаны... І можа, яшчэ застанецца заплаціць за электрычнасьць, якую даўно пагражалі адключыць за няўплату. Хаця цьвёрдае пэўнасьці ў сваёй плацежаздольнасьці Гаворка ня меў. Толькі спадзяваўся...

У вялікай барачнага тыпу стадоле са старадаўнім пад дахам надпісам «Товары повседневного спроса» харчу, як і заўжды, было дужа няшмат. Масла ды малака не было зусім, затое паперкі цэнаў стракацелі шматлікімі нулямі, якіх усё прыбаўлялася. У пярэднім ад увахода кутку тоўпілася гаманкая мужчынская грамада – у вінным аддзеле выкінулі гарэлку. Якраз у той дзень на торфабрыкетным заводзе за рэчкай выдалі зарплату – за тры месяцы адразу, – і мужыкі зранку ад заводскай касы рынуліся ў гастраном.

Гаворка з нечаканай прыкрасьцю спыніўся каля дзьвярэй, Пухлякоў жа рашуча прапіхнуўся бліжэй да прылаўка.

– Парадак трэба саблюдаць, таварышы! – прагучэў адтуль яго памяркоўны начальніцкі голас. – Ветэранам ВАВ – без чаргі. Тут ёсьць ветэраны? – паўзіраўся ён праз мужчынскія галовы і нібы незнарок згледзеў за ўсімі адзінокага ветэрана.

– Праходзьце без чаргі, таварыш Гаворка!

Натоўп стрымана глуха загуў, гатовы абурыцца. Але, мусідь, з тае нагоды, што ветэранаў набралася няшмат, трохі расступіўся і прапусьціў зьніякавелага Гаворку. Пухлякоў спаважна адступіўся ўбок. Пажылая прадаўшчыца паслужліва насгавіла перад ім бутэльку гарэлкі.

– Дзьве бяры, – ціха гукнуў збоч Пухлякоў.

– Мне – дзьве, – таропка сказаў Гаворка, вымаючы з кішэні туга загорнуты пакунак з грашмі.

Пакуль ён адлічваў «зайцоў», лаючы ў душы Вальку-малую за яе драбязу, побач і ззаду нецярпліва наракалі:

– Во, грошай колькі!

– Багата жыве Гаворка.

– Што значыць – ветэран!

– Дык ён жа там… У бункеры зарабляе.

Гаворка ўсё стрываў моўчкі, зграб ў адну руку абедзьве бутэлькі і вылез з натоўпу на вальнейшае месца. Пухлякоў, які тым часам разглядваў харчовыя вітрыны, кіўнуў яму зводдаль.

– Вазьмі во селядца ў бапцы. Праны пасол. І во кілбаса – сервілат…

Гаворка хацеў запярэчыць, што сервілат надта дарагі, ён ня спытваў яго ад часоў савецкай улады, ды змоўчаў. Тое яго маўчаньне Пухлякоў зразумеў як згоду і працягваў выбіраць закусь. Яны купілі яшчэ слоік марынаванага перцу, белы бохан і нейкую рыбіну

гарачага вэнджаньня. Як Гаворка заплаціў за ўсё, ягоны пакунак патанеў напалову, і ён выкінуў пад ногі непатрэбную рудую паперыну.

– Ну, а куды пойдзем? – спытаў ён, як яны выйшлі з гастранома. На дварэ зачынаўся дожджык, пакуль яшчэ драбнаваты, але хто ведае, ці не пабольшае хутка. На небе цераз вуліцу сунуліся хмары.

– А во – у садок! – зразумеў іхні клопат хтось ззаду.

Гаворка з непрыемнасьцю азірнуўся – то быў Скакун, тутэйшы хлопец-афганец, які тыдні два таму наліваў Гаворку ў Ашота. Як было цяпер яго не паклікаць з сабой? Хаця і клікаць не давялося – Скакун ужо ішоў побач і паказваў шлях у дзіцячы садок, – цераз штыкетнік да альтанкі.

Яны па чарзе пералезьлі цераз нізкі штакетнік і таропка ўбеглі пад дах дзіцячай альтанкі, што месьцілася побач з пясочніцай. Дожджык ужо сыпаў як мае быць, хаця гэта быў не сьцюдзёны, вясновы дожджык, які мілагучна шапацеў у набрынялай лістоце каштанаў. Мужыкі паклалі на лаўкі закусь. У Валодзі Скакуна якраз апынуўся ў кішэні здатны ножык, якім ён адразу ўзяўся кроіць каўбасу. Але не пасьпеў Гаворка адкаркаваць бутэльку, як з дзьвярэй садка выскачыла гняўлівая загадчыца Масальская.

– Знайшлі месца, ага? Дзеткам прыклад паказваеце, яшчэ ветэраны называюцца... Я ў міліцыю пазваню!

Скакун зьніякавеў з каўбасой у руках, на ягоным смуглявым твары з чорнымі вусікамі адбілася пакута. Гаворка хацеў быў адказаць сварлівай жанчыне, але Пухлякоў нетаропка падняўся.

– Ладна. Ну яе к дранай матары. Пайшлі адсюль...

– Куды? – не зразумеў Гаворка.

– А во да яго, – Пухлякоў кіўнуў на Скакуна. – Ён жа побач.

Скакун, відаць было, ня надта ўзрадаваўся, але і не запярэчыў прапанове старэйшага, тым болей што былая райкамаўская пяціпавярхоўка сапраўды блізка вытыркалася дахам з-за вулічных тапаляў. Як воін-афганец тры гады таму Скакун атрымаў там кватэру з усімі выгодамі – на зайздрасьць тутэйшым ветэранам усіх войнаў.

Яны таропка расьпіхалі ўжо раскладзеную на лаўках закусь. Гаворка запіхаў у кішэні штаноў абедзьве бутэлькі, якія ён ня мог даверыдь нікому. Тыя здорава целяпаліся ў штанах, цягнучы іх уніз, але пра штаны Гаворка ўжо не турбаваўся. Напсрадзе з заціснутым пад пахай слоікам перцу дыбаў Пухлякоў. Скакун жа чамусь без ранейшага энтузіязму валокся апошні. Хоць дарога была і не даўгая, але ўсе трохі намоклі, асабліва прыкметна – Пухлякоў у яго сьветлым гарнітуры. Падняліся на чацьвёрты паверх, прапусьцілі наперад Скакуна, які ня надта хутка адамкнуў дзьверы. Мабыць, ён штось прадчуваў, бо, адчыніўшы іх, не сьпяшаўся запрашаць гасьцей, а сьпярша пачаў нейкія перамовы з жонкай. Неўзабаве ў дзьвярах зьявіўся яе надта ж счырвапелы, яўпа раззлаваны твар. Зглевдзеўшы на пляцоўцы мужчынаў з пакулкамі, яна залілася лямантам.

– Зноў, зпоў! Калі гэта скончыцца? Ходзюць, ходзюць і ўдзень, і ўначы, ніколі ад іх спакою няма, п’янчугі праклятыя. Не пушчу, не пушчу, прэч адсюль з мае кватэры! – крычала яна, пульхнымі грудзямі выпіхваючы з кватэры мізэрнага мужа-афганца. Той, відаць было, ня надта і супраціўляўся, усё болей падаючыся задам цераз парог. Неўзабаве дзьверы перад яго посам з лязгам зашчоўкнуліся, і Скакун з віпаватым выглядам апынуўся на пляцоўцы.

– Не пушчае...

– Панятна, – мовіў Пухлякоў. – І ня пусьціць. Калі прасіцца будзеш.

Грохі разгубленыя і заклапочаныя, яны нядоўга пастаялі каля дзьвярэй, ня ведаючы, куды падацца.

Асабліва вінаватым, відаць было, пачуваўся Скакун, які, зірнуўшы праз акно на падворак, раптам сказаў:

– Гайда ў гараж. Тут недалёка...

Зноў адзін за адным яны ішлі па зарослым дзядоўнікам завулку ў бок моста цераз рэчку, дзе быў гаражны кааператыў з двух дзясяткаў пахілых сілікатных боксаў. Гэты раз наперадзе порстка крочыў Скакун, за ім, усё прытрымліваючы ў штапах цяжкаватыя бутэлькі, дыбаў Гаворка. Апанураны Пухлякоў ўвачавідкі губляў нядаўні імпэт і ў мокрым на плячах пінжаку брыў апошнім. Тое блуканьне ў пошуках здатнага прытулку ўжо агоркла яму, і толькі спадзяваньне на ўдалы канец не давала вярнуцца.

Гаворка таксама думаў, што, чым цягнуцца на канец мястэчка, лепш было б дзе прыткнуцца ды выпіць. Тым болей, што дожджык быў невялікі. Але ўсё гэты Пухлякоў. Начальства! Хаця, гледзячы якое начальства. Некалі з партыйна-савецкім дык Гаворка і няблага ладзіў, асабліва ў тыя гады, як працаваў у райкамаўскай лазьні-парыльні пры возеры. Бывала, сыдуцца калі ў суботу раённыя начальнікі, сакратары і яшчэ хто, часам і госьці з вобласьці ці з Менску. Ён добра напаліць каменку, пары нагоніць што трэба, хвошчуцца крамяныя мужыкі, аж крэкчуць. Часам хто папросіць яго, Гаворку, пахвастаць хрыбціну. Хвастаць ён умеў, венічкі меў заўжды сьвежыя, сам вязаў з маладога бярозавага вецьця. Ну, а пасьля лазьні тут жа, ва ўтульным прылазьыіку, пачыналася самае цікавае – выпівончык: каньячок грузінскі, армянскі ці, як у апошнія гады, болей падабалі малдаўскі – з бацяном. Яму таксама калі паднясуць паўшклянкі, а то і цэлую. І размовы – вясёлыя, пра баб, а то й сакрэтныя, пра партыйныя справы. Калі сакрэтныя, ён выйдзе на паветра перакурыць, навошта яму, беспартыйнаму, слухаць партыйныя сакрэты. І ўсё добра, усе задаволеныя...

Ды во ўсё паляцела ў тар-тарары. Цяпер ні лазьні, ні таго начальства. Ні каньяку. Рады, калі выдарыцца якая чарчына. Аж выдараецца, аднак! Як во і сёньня.

У прасьмярдзелым бензінам ды аўтолам Скакуновым гаражы было суха, цёмна і цесна. Бальшыню месца тут займаў новенькі вішнёвага колеру «Масквіч-412». Бяз жаднай, аднак, увагі да яго мужчыны расклалі на блішчастым багажніку свой харчовы набытак, пакуль гаспадар таропка падсьцілаў там зрудзелую газеціну. Затым аднекуль з цёмнага кутка той вынес шклянку, узяўшы якую, Пухлякоў незадаволена паморшчыўся.

– А вады няма?

– Нашто вада? – не зразумеў Скакун. – То ж ня сьпірт, запіваць ня трэба.

– Бруд адмыць, – сказаў ветэран.

Сесьці тут таксама не было дзе, яны пасталі абапал багажніка, і Гаворка рашуча скалупнуў блішчасты каўпачок з першай бутэлькі.

Моўчкі і таропка выпілі – першы Пухлякоў, за ім Скакун; апошняму сабе наліў Гаворка. Наліваў эканомна, кожнаму роўна паўшклянкі, ну, можа, сабе трохі болей, але ніхто таго не заўважыў. Як закусілі, патроху ўсе ажывелі, заружавеліся іх даволі змэнчаныя жыцьцём твары. Асабліва ў маладзейшага за ўсіх Скакуна.

– Ну і добра, – сказаў ён, – У гаражы ня горш, чым у кватэры.

– Абы грошы, – сказаў Гаворка.

– У тым і справа, – пасьля маўклівае паўзы сказаў Пухлякоў і павярнуўся да Скакуна. – А ты ведаеш, за чые то грошы?

– А за чые? Гаворкавы?

– Нямецкія, во за чые.

– Што – зарабіў? У нужніку?

– Дваццаць марак. Ледзьве ня трыццаць срэбранікаў. Як

у таго Юды, – сказаў Пухлякоў.

Гаворка насьцярожыўся, аж перастаў каўтаць каўбасу. Тое яму не спадабалася. Гэты Пухлякоў заўжды, як вып’е, меў звычай плесьці якую палітыку. Ці нават рэлігію.

– Якога Юды? Што ты вярзеш?

– А такога. Думаеш, яны табе – за заслугі?

– А хоць бы і так? Ці я ня маю заслугаў?

– Чхаць ім на твае заслугі. Ім трэба правакацыя. Яны тваё фота прыставяць да якой блядзі з бардака і надрукуюць. Пры ардзянах. Во будзе пацехі!..

Пацеха – хай сабе, а вось правакацыяў Гаворка не любіў, з маладосьці асьцерагаўся правакацыяў. Асабліва як рабіў у парыльні ды і раней – у сельгастэхніцы, бо адразу можна было выляцець з працы. З свае цяперашняй працы ён таксама не хацеў вылятаць. Але і Пухлякоў – чаму ён пра тое гаворыць, як выпіў? Чаму ён не сказаў гэта там, на аўтобуснай?

– Пайшоў ты, знаеш куды? – раззлавана адказаў Гаворка.

– Не ўжо. Дап’ём, а пасьля і пойдзем... Хто куды, – нязлосна, аднак, сказаў Пухлякоў, беручы шклянку.

Мусіць, іхпяя гамана была ўчута знадворку, і ў прычыненых дзьвярах мільгануў нейчы цень, у шчыліну нясьмела зазірнуў усьмешысты, сьвежапаголены твар.

– А, во дзе яны схаваліся. Ай, падпольшчыкі, ай сакрэтчыкі!..

Пухлякоў апусьціў шклянку і ціха вылаяўся.

– Яшчэ адзін... Бэнээфавец!

У гараж зважліва ўвайшоў Яшкоўскі, былы партызан і настаўнік – таксама былы, бо ўжо другі год як быў

звольнены з працы за ўдзел у местачковай дэманстрацыі БНФ.

– Дык за што п’ём? – адразу папытаўся ён, сарамліва ўсьміхаючыся.

– За немцаў, – буркнуў Пухлякоў.

– Што ж, можна і за немцаў. Цяпер можна. Вунь гуманітарку гоняць. Учора ў бальніцы сканеры згружалі.

– Бо віну адчуваюць. За вайну, – сказаў Пухлякоў. – Трэба ж пакаяцца.

– Гэта як каторыя. Каторым трэба, а каторым і не. Як камуністам, напрыклад. Гэтыя ніколі ня каюцца.

– І ня будуць. Бо камуністам няма за што каяцца, – упарціўся Пухлякоў.

– Ня будуць, гэта факт, – уставіў Скакун.

– Канешне, ня будуць, – пагадзіўся Яшкоўскі. – Ня тая парода.

– А мне чорт з ёй, якая парода. Абы плацілі грошы, – амаль крычаў збоку Скакун.

– Але ж і грошай няма. Па ўсім сьвеце жабруюць, дык жа не даюць. Бо ня маюць даверу.

– Бо развалілі дзяржаву! – нядобра набычыўся за аўтамабілем Пухлякоў. – Дзе Бярлінская сьцяна? Чаму і яе развалілі?

Скакун ад дзьвярэй аж закрычаў:

– Ды ну вас к д’яблу з вашай сьцяной. Я гэтую сьцяну пад Сандагарам з «граду» – аж дым пад неба!.. Ордэн далі.

Скакун п’янеў хутчэй за ўсіх, Гаворка гэта бачыў ужо ня першы раз. Мабыць, яму ня трэба было больш наліваць. Але ж ён сам узяў бутэльку і, нахабыа

парушаючы парадак, зноў наліў сабе амаль поўную шклянку.

– Пайшлі яны ўсе ў жопу! І духі, і немцы з амерыканцамі. За пабеду! – выкрыкнуў Скакун і выжлукціў шклянку.

– Во, так і атрымліваецца, – сказаў пагадзя Пухлякоў, вымаючы пачак «Беламору». – Поўная беспрынцыпнасьць. За чые грошы, за чыю пабеду?

Тут ужо зазлаваў і Гаворка, можа, таму, што таксама пачаў п’янець. Цьвярозы ён, можа б, і прамаўчаў, а тут карцела сказаць. Тым болей, што ён даўно меў на Пухлякова крыўду.

– Але ж ты во – прынцыповы, а п’еш?

– Ну і што? – зьдзівіўся Пухлякоў. – Але ж не за твае.

– Не за мае. Дык не плявузгай. Пра прынцыповасьць.

– Мяпе ня купяць, я ідэйма загартаваны. Я вып’ю, але ўсё роўна застаюся камуністам. А ты – чачэн!

– Чаму я – чачэн? – зьдзівіўся Гаворка.

– Бо зло гадамі таіш, у сабе ыосіш. Чачэны носяць сто пяцьдзесят год, а ты з вайны. Чаму ж ты ў партыю не ўступіў? Бо за жопку крыўдуеш, ага?

Гаворка быў ашаломлсны ад такой паваროткі ў размове. Гэта ён чачэнец? Тоіць за жоыку крыўду? Таму не ўступіў у партыю? А хто яго туды клікаў? Калі хацеў уступіць, тады ад яго адвярнуліся. А пасьля ён і не імкнуўся, прапала хэнць. Бо, сапраўды, таіў крыўду. А хто б на ягоным месцы не затаіў?

– Парцізаны! – крыкнуў ён у вочы Пухлякову. – Курашчупы! З кім вы да сорак чацьвёртага ваявалі? З паліцаямі? Ды са старастамі...

– Ну ты цішай, – гукнуў да яго Яшкоўскі. – Ваявалі ня толькі са старастамі. Але і з акоўцамі, з літоўскімі

паліцаямі. А пасьля прыйшлі і нямецкія палявыя часьці...

– Во, як прыйшлі палявыя нямецкія, дык і далі вам у хвост і грыву. Прарыў устроілі...

– Ну ўстроілі. Але прарваліся...

– Куды прарваліся?

– Як – куды? – ня мог зразумець Пухлякоў.

– Ага – куды? Некуды вам было прарывацца, во і перастралялі, як зайцоў. Ляжаць цяпер на пагорку... Гяроі!

Яшкоўскі паморшчыўся, ён быў тут цьверазейшы за ўсіх. Можа, таму, што менш выпіў, а можа, характару быў болей стрыманага.

– Знаеш, Гаворка, хапіла і партызанам. Канешне, не гэтак, як франтавікам...

– Няправільна! – рэзка запярэчыў Пухлякоў. – Хоць ты і партызан, а разважаеш пяправільна. Фронт усім снабжалі, а партызаны дзе павінны былі ўзяць? І аружжа, і прадавольсцьвія? Адбіць у врага. Правільна?

– Каб жа ў врага, – захваляваўся і Гаворка. – А то ў сялян забіралі. Вы ж і маю кароўку зьелі.

– Хопіць табе ўжо, Гаворка, пра кароўку плакаць. Людзі жыцьці аддавалі...

– А заадно і жонку збаёдалі! Завошта?

– А нашто кінуў без прыгляду? Маладую і прыгожую, – спрабаваў усё зьвесьці на жарт Пухлякоў. Відаць, ён адчуў, што сп’янелы Гаворка можа нарабіць сваркі, якое цяпер Пухлякоў не хацеў.

Але, сказаўшы тое, Гаворка таксама асеў. Некалі ўсё тое было яму надта балюча, але з гадамі мінулася, заслоненае новымі бедамі ды новымі клопатамі, якіх у

яго не бракавала ніколі. Бракавала хіба аднаго – грошай.

– Ды кіньце вы! – каторы раз крычаў ім Скакун. – Лепей наліць. Ці ёсьць што наліць?

Але наліць, мабыць, ужо не было чаго, абедзьве бутэлькі ляжалі каля ног парожнія, і Пухлякоў, як заўжды ў гэткіх выпадках, закамандаваў:

– Гаворка, Гаворка, ня жміся. У цябе там засталося. Давай яшчэ на бутэлечку. Косьця, а ну жыва – туды і назад!

Той камандзірскі тон ня надта падабаўся Гаворку, але і яму раптам закарцела дадаць яшчэ. Здалося – недабор! Ён ужо забыўся на свой намер пра штаны ды ўсё іншае, засунуў руку ў кішэню і выцягнуў астатшою жменю «зайцоў». Ня лічачы, аддаў Скакуну – на, бяжы. Гаворка – ня жмінда...

Скакун пабег па гарэлку, а яны ўтрох прадаўжалі спрачацца. Усе пачуваліся нядобрыя і раззлаваныя, і ўжо не зразумець было, што таму стала прычынай. Гаворка адчуваў неспатольную глухую крыўду, якая накоплівалася ў яго на Пухлякова, а той, нібы страціўшы да яго цікавасьць, зьвяртаўся да аднаго Яшкоўскага.

– Ну як – адсудзіў працу?

Яшкоўскі толькі махнуў рукой.

– Ня трэба было ў БНФ уступаць.

– Уступаць ці не ўступаць – то маё канстытуцыйпае права, – ваўкавата даводзіў Яшкоўскі, прысланіўшыся да сьцяны побач.

– Во тады і радуйся з свайго права. Канстытуцыйнага. А з чаго есьці хлеб будзеш? Раней бы ў райкам зьбегаў, а цяпер?..

– Ды ўжо як-небудзь...

Гаворка слухаў іхнюю зласнаватую гутарку, і яму захацелася прысесьці. Як стаяў, плячмі пасунуўся ўніз па сьцяне і зьнерухомеў на цэментным доле, ня маючы як выпрастаць ногі. Нейкі час чуў, як Пухлякоў даказваў штосьці пра беларускі нацыяналізм, а Яшкоўскі цьвердзіў, што кампартыя ўжо страціла крэдыт даверу. Пасьля ў іхнюю лянівую гаману ўмяшаўся рэзкі Скакуноў голас, – мабыць, афганец вярнуўся з гастранома. У мутнаватай Гаворкавай сьвядомасьці мільганула пытаньне: «Ці прынёс?». Але адказу на яго ён не дачакаўся і заснуў...

А як адчуў сябс зноў, зразумеў, што сядзіць каля новага «масквічовага» кола, ад якога патыхае сьвежаю гумай. Хтось побач спрачаўся ці, можа, сварыўся, але хто – таго Гаворка зразумець ня мог. Ды й не стараўся. Ён памкнуўся авалодаць сабой, каб устаць, бо сядзець, скурчыўшыся пад сьцяной, было дужа нязручна, ламала ў крыжы. Аднак, здаецца, ня ўстаў і паваліўся зноў...

А як зноў прачнуўся, было зусім цёмна і ціха. Памацаў вакол рукамі і сьцяміў, што па-ранейшаму быў у гаражы – сьцюдзёная цагляная сьцяна з аднаго боку і гладкая бакавіна аўтамабіля з другога. Гаворкавы ногі няўклюдна выпрасталіся пад «масквічовае» днішча. Спакваля Гаворка прыслухаўся. Дзесь паблізу чулася соннае дыханьне чалавека, ды каго – было невядома. Тады ён з натугай, не адразу, пачаў уставаць на ногі. Неяк ускараскаўся і, хапаючыся за сыдяну і аўтамабіль, стаў прабірацца да выхаду. Але металічныя дзьверы былі шчыльна зачыненыя, ён моцна пахістаў іх абеируч, ды марна – падобна, знадворку вісеў замок.

Пачуваўся Гаворка кепска, як заўжды з пахмельля, – слабым і разьбітым. Нават цягнула на ваніты. Каб ня надта дакучаць сабе, сеў пад дзьвярыма, дзс ня так сьмярдзела гаражом, прыпёрся плячмі да дошкі-папярэчыны. Мабыць, знадворку была яшчэ ноч, ніводная шчыліна ў дзьвярах не сьвяцілася. Значыць, належала чакаць. Можа, да самай раніцы. Найперш, як часта бывала, станам авалодала пахмельная перажыванка – што нарабілі? Пакрысе пачаў

прыпамінаць, як пілі, што гаварылі. Адчуваў, гаварылі штось брыдкае. Ды гэтыя дваццаць марак, з якіх усё пачалося. Чорт іх ведае, можа, ня трэба было іх браць, як бы яны не вылезьлі яму бокам. Захацеўшы, можна і з драбязы зрабіць няшчасьце. Гаворка ўжо меў на той конт сякі-такі вопыт. Асабліва па ранейшым часе.

Але ж і сябры – глядзі ты – замкнулі, і сядзі. З якім гэта намерам? Каб уберагчы ад бяды ці здаць у выцьвярэзьнік? У выцьвярэзьніку ён ужо быў двойчы, адзін раз яго туды здала жонка. І ўсё праз згрызоты. А можа, і добра, што здала, усё ж ноч праспаў, як чалавек. А дома што – заўжды пілавала яго дзень пры дні. Калі сама была цьвярозая. А калі выпівала, таксама пілавала, а то калі і білася. Нядобрая яму выдалася трэцяя яго жонка. І ўжо, канешне, апошняя, што зробіш...

А калісь была першая. Маладая, прыгожая і ласкавая. Ды Бог ці людзі не далі разам пажыць. Бедная Аўгінка, хто ж мог меркаваць, што ўсё так абыдзецца... Тады ён думаў, што ягонае шчасьце – навек. Аказалася, на колькі кароткіх месяцаў...

Ён добра адслужыў свае два вайсковыя гады, стаў выдатнікам баявой і палітычнай падрыхтоўкі, здаў нормы на значкі «Варашылаўскі стралок», «ГТО» ды «ПВХО». Восеньскай парой у новых юфтавых ботах і даўгім чырвонаармейскім шынялі вярнуўся дамоў – у суседняе з мястэчкам Падбярэзьзе. Тыдняў колькі фарсіў у вайсковым, вадзіўся з местачковымі сябрамі-камсамольцамі – ладзілі сьпектаклі ў Доме сацкультуры, дзе і пазнаёміўся з Аўгінкай, настаўніцай мясцовай школы. Тая толькі ўлетку скончыла педтэхнікум і прыехала з Полацку. Дужа падабалася яму Аўгінка, але як сн сказаў ёй пра жапіцьбу, не адразу на тое пагадзілася. Сказала, што мала яшчэ знаёмыя, трэба пачакаць, прывыкнуць адно да аднаго. Ён не настойваў. Тым болей, што і так дзень пры дні, асабліва ўвечары, прападаў у яе каморцы, дзе яна кватаравала ў старых Коганаў. І сталася так, што ажапіцца стала неабходна – Аўгінка зацяжарыла. На сьвята Чырвонай Арміі яны

запісаліся, і ён перавёз маладую жонку да маці ў Падбярэзьзе. Але, пэўна, не ў пару яны пажаніліся, а можа, не ў пару і нарадзіліся нават, – такі крыважэрны наставаў час, Увесну яго зноўку прызвалі ў войска, – за які месяц да пачатку вайны. Зборы, казалі, будуць тры месяцы, аказалася – чатыры крывавыя гады. Увосень Аўгінка нарадзіла сынка – пад нямецкай акупацыяй ужо, пахавала ягоную маці, у той час, як ён масьціў бярвеньнем «ляжнёўкі» пад Волхавам. Ваяваў ён па сваёй вайсковай сытецыяльнасьці – сапёрам, болей рыдлёўкай і сякерай, чымсі вінтоўкай. Але і ў сапёрах хапіла вайны пад завязку – трапіў у акружэньне, з якога ледзьве выкараскаўся пад восень. У часе бамбоўкі быў паранены асколкам пад правую лапатку, ляжаў аж у трох шпіталях, пакуль ачуняў. А як ачуняў, зноў трапіў на фронт, гэтым разам на Трэці Беларускі, дачакаўся аперацыі «Баграціён» і адразу ж напісаў ліст у вёску. Адказу, аднак, не атрымаў, хоць ужо амаль усю Беларусь вызвалілі ад акупацыі, і Гаворкаў сапёрны батальён ладкаваў мост цераз раку Нараў у Польшчы. Тады ён напісаў у сельсавет, каб хто адказаў, што сталася з салдацкаю жонкай Гаворкай Аўгіньняй. І праўда, неўзабаве атрымаў адказ – на паперцы са школьнага сшытка, але з сінім штэмпслем угары. Пасьля ня раз думаў: лепш бы ён яго не атрымліваў, той доўгачаканы ліст, які ён праклінаў усё жыцьцё. Але хіба згадаеш, дзе што напаткаеш…

Сакратарка сельсавета Нямчынава паведамляла, што грамадзянка Гаворка Аўгіньня Мікалаеўна ў часе Вялікай Айчыннай вайны супрацоўнічала з нямецка-фашысцкімі захопнікамі.

Для Гаворкі тое паведамленьне сталася як выбух снарада ў бліндажы, ён быў ашаломлены, панішчаны і дзён колькі не прыкмячаў навокал нічога, не зважаў ні на абстрэлы, ні на бамбоўкі, а камандзіры толькі дзівіліся ягонай адвазе і вытрымцы. Праз колькі дзён, зьнямогшыся ў самотных перажываньнях, паказаў ліст земляку Пракопчыку, які шчыра паспачуваў яму, бо ў самога сям’я загінула ў партызанскай блакадзе. Цяпер у спагадзе і спачуваньні займеў патрэбу Гаворка.

А тут, як на ліха, надышла пара афармляцца ў партыю, кандыдацкі стаж у Гаворкі ўжо скончыўся. Неяк сьцюдзёным восеньскім адвячоркам пасьля дажджу камуністы батальёна сабраліся за пагоркам на краі бярэзьнічку. Часу мелі небагата, камандзіры выступалі коратка. Трох кандыдатаў – сяржанта і двух радавых – прынялі хутка і без пытаньняў, Гаворка быў апошні. Пра яго добра сказаў на сходзе ягоны ўзводны, лейтэнант Трахман: і працавіты, і руплівы, і справе партыі Леніна-Сталіна аддганы. Ніхто не пярэчыў супраць таго, каб Гаворку прыняць у шэрагі ВКП(б). І тады побач падняў руку ягоны зямляк Пракопчык і сказаў, што ў яго ёсьць заўвага: Гаворкава жонка супрацоўнічала з нямецка-фашысцкімі акупантамі.

Уся невялічкая партыйная грамада на бярозавым узьлеску на момант зьнерухомела ад тых словаў. Нават сакратар партячэйкі капітан Казлоў хвіліну ня ведаў, што сказаць, толькі спытаў Гаворку: ці праўда тое? Гаворка ўстаў і сказаў, што так напісана ў лісьце з сельсавета. На тым сход і скончылі, кандыдатуру Гаворкі нават не паставілі на галасаваньне. І ён, не перакурыўшы з усімі, на адзіноце паплёўся да ракі, дзе з раніцы зьбіваў жалезнымі скобамі вялізныя бярвеньні-рамы.

Дзён колькі затым ён ні з кім не размаўляў ва ўзводзе, ды салдаты і ня надта набіваліся размаўляць з ім. Камандзіры, праўда, як заўжды, крыкліва камандавалі, ён усіх слухаўся і ўсё выконваў – куды пайсьці, што рабіць. Рабіў усё моўчкі. З земляком Пракопчыкам стараўся не спатыкацца нават позіркам, хоць яны рабілі адну справу і працавалі заўсёды поруч. Увогуле крыўды на яго ў Гаворкі не было, але не было і ранейшай шчырасьці. Канешне, Гаворка разумеў, што пра ліст трэба было калісьці сказаць начальству, але ён ня мог выбраць для таго момант і ўсё адкладваў. Во і даадкладваўся...

Пэўна, ён прыдрамаў трохі, седзячы пад дзьвярыма, і раптам прахапіўся, адчуўшы, як дзьверы за ягонай сьпіной скалануліся, затрэсьліся, бы ад землятрусу. І

ён, не пасьпеўшы што зразумець, паваліўся сьпіной з парога. На дварэ ўжо разьвіднела, побач з замком у руках стаяла злосная Скакунова жонка.

– Дапіліся, чэрці паласатыя...

Мабыць жа, і напраўду дапіліся, Гаворка адчуваў тое выразна і пакутна. Скакуніха з лаянкай і праклёнамі ўзялася тузаць у «Масквічы» свайго соннага афганца, а Гаворка падняўся і паныла паплёўся ў канец завулка. Ён усё яшчэ пакутна адчуваў гэты недарэчны пераход ад учарашняе п’янасьці да ранішняй цьвярозасьці і ішоў, пэўна ня ведаючы, куды. Абы далей ад таго злоснага бабскага крыку, які ўсё гучаў ззаду. Хай яго слухае Скакун – ён маладзейшы.

Было раньне, мястэчка ляніва прачыналася. Дзе-нідзе ў дварах адчуваўся рух – то найперш рупіліся пра жывёлу, у каго яна яшчэ нс зьвялася; старыя мужчыны стаялі каля сваіх брамак. Пасьля начной бессані, дачакаўшыся раньня, курылі, некаторыя, мабыць, мяркуючы, як і Гаворка, дзе паправіць галоўку. Усе цікавалі за пустой яшчэ вуліцай. З Гаворкам ніхто не вітаўся, ды і ён не вітаўся ні з кім – проста ішоў вуліцай да цэнтра. Як заўжды, ногі самі несьлі туды, дзе быў паратунак ад радасьцяў і пакутаў п’янай начы. Шкада толькі, што ў кішэні зноў было пуста.

Так ён апынуўся ля сьвежапафарбаванага ў блакітны колер павільёна з блішчастымі ўгары літарамі «Эксклюзіў» і сеў на мармуровых прыступках. Памятаў гэтыя прыступкі Драўлянымі, затым з бетону, запляванымі і густа закіданымі акуркамі. Цяпер яны былі гладкія, аж сьлізкія – зусім культурныя, бы ў горадзе. Што значыць – прыватызацыя!..

Гаворка ня ведаў, колькі было часу, адчуваў толькі, што рана. Алеісьці яму не было куды ды і не было мочы, і ён сядзеў. Пазіраў на пустую, гразкую пасьля ўчарашняга дажджу вуліцу, думаў. І тады прыпамятаў, што колісь, можа, у гэткае раньне таксама сядзеў недзе тут на лаўцы пад тынам і слухаў гаркотны аповед аднаго старога... Можа, каб пачуць той аповед, ён і дабіраўся

за паўтысячу вёрст з вайны, дзе на машынах, дзе пехатой. Аднойчы трохі пад’ехаў чыгункай....

Тыдзень перад тым на Нараве, неяк уранку пасьля сьнеданьня наважыўся падысьці да нампаліта і, стрымліваючы хваляваньне, сказаў: «Дазвольце зьвярпуцца, каб далі водпуск зьезьдзіць дадому... Ну, наконт жонкі». Нампаліт сьпярша трохі зьдзівіўся, падумаў і раптам сказаў: «Пішы дакладную». Гаворка тут жа напісаў тое, што сказаў нампаліту, і яшчэ праз дзён пару атрымаў у штабе камандзіроўку – на пяць сутак «па асабістых абставінах». Калі ён зьбіраў увечары свой прадуктовы хатуль, нехта ў змроку зласьліва мовіў: «Едзе жонку застрэліць. Во пашэнціла...» Увесь час, як дабіраўся праз Польшчу і Заходнюю Беяарусь, у ягоных вушах гучэў той нядобры голас, і Гаворка думаў: табе б так пашэнціла! За дарогу ён, падобна, счарнеў ад таго шанцаваньня...

На бліжняй да мястэчка ўшчэнт разьбітай станцыі цягнік не спыняўся, і Гаворку давялося скакаць на хаду, ледзь не разьбіўся аб слуп. Абапал яшчэ валяліся рэшткі паўзрываных, скінутых з рэек вагонаў, у балоце ляжаў на баку ржавы нямецкі цеплавоз. Ад чыгункі ішоў пехатой – прасёлкамі праз пустыя восеньскія палі, колісь знаёмыя спаленыя ў вайыу вёскі. За паруйнаванымі Ласкутамі яго дагнала парожняя фурмапка з хлопцам, які паганяў дубцом здыхлаватага рыжага коніка. Гаворка падбег і на хаду ўскочыў у калёсы. «Куды едзеш?» – папытаўся хлопца. «Куды трэба», – адказаў падлетак, не азірнуўшыся. Гаворка памаўчаў трохі, разумеючы, што зямляк злуецца на яго самаўпраўства. «Партызан, мабыць?» – «Партызан, ну», – адказаў той і тады азірнуўся. «І шмат немцаў забіў?» – «Ня меней, чым ты. Падрыўнік я». – «Ого! – зьдзівіўся Гаворка. – Я во тожа падрыўнік. Сапёр – па-вайсковаму». – «Калі па-вайсковаму, дык мінёр», – паправіў суровы падлетак, і Гаворка зноў падзівіўся: ведае! Ня кожны вайсковец разумеў розьніцу паміж мінёрам ды сапёрам, а гэты малакасос цяміць. І ён папытаўся: «Слухай, а ты не з мястэчка?» – «З Глуздоў я». Глузды былі па той бок мястэчка, колісь Гаворка

хадзіў туды на танцы. «А Падбярэзьзе ведаеш?» – запытаўся ён. «А то як жа? Там у лесе наш лагер быў». – «Гэта калі – вясной?» – «Не, залетась. Як падбярэзскага старасту застрэлілі». – «Старасту застрэлілі? А завошта?» – «Завошта, завошта... Каб немцаў не навёў».

Тыя зласнаватыя падлеткавы словы адгукнуліся ў Гаворкавай душы новай трывогай, ён нібы адчуў недзе блізка ад іх і сваю балючую таямніцу.

«А болей нікога там не застрэлілі?» – «Не, болей нікога. Казалі, хацелі настаўніцу адну расстраляць, што да каменданта бегала. Але пусыдзілі». – «Якую настаўніцу?»– «Ай, ня ведаю. Я тады на чыгунку пайшоў...»

Гаворка болей ні пра што не пытаўся. Ён ужо стаў баяцца праўды, якая, па сутпасьці, яго і вяла сюды. Цяпер ён нібы хацеў абміпуць яе. Ды як абмінеш, калі яна стала ўпоперак ягонага лёсу, бы костка ўпоперак горла.

Ужо на зьмярканьні, перайшоўшы ладны прасьцяг пустога поля, ён выйшаў на падбярэзскі выган. Вёскі не было. Сям-там горбіліся зарослыя пырнікам ды крапівой куп’істыя пагоркі пажарышчаў, сярод якіх бялелі абсмыленыя бакі печаў. Толькі Яшкаў клён ля мастка раскашаваў у сваёй адзіноце, надзіва не крануты ні вайной, ні пажарамі. У зямлянцы на краі вёскі тулілася нейкая сям’я прыезджых, на лаўцы паміраў стары. Тыя людзі былі незнаёмыя, нікога тут ня ведалі. Гаворка прылёг зводдаль у закіданым паламаным садку і крыху паспаў пад воглым шынялём. Як пачало днець, павалокся цераз поле ў мястэчка. Мястэчка было далей ад лесу, па пачатку вайны там стаяў нямецкі гарнізон, пакуль яго ня выкурылі партызаны. Хоць і яно было моцна разбурана, асабліва ў цэнтры, але там маглі надарыцца знаёмыя людзі, ужо япы што-колечы ведалі.

Там ён і спаткаў на вуліцы старога Тумаша, з сынам якога Рыгорам калісь разам прызываўся на службу, а да таго нават сябраваў трохі. Тумаш нёс на плячах ладную, мабыць, цяжкаватую ношку ў мяшку. Гаворка спыніў

яго і радасна павітаўся. Стары скінуў з пляча свой мех, выпрастаўся, высмаркаўся, папытаўся, ці ня мае салдат закурыць? Закурыць у Гаворкі было, ён адмераў старому добрую шчапоць «маршанкі», абодва яны закурылі. «Во, нясу тавар на продаж, – сказаў Тумаш. – Грушы. Можа, хто купіць...» Гаворка сьпярша папытаўся пра Рыгора – дзе ён, ці жывы хаця? «Каб жа ведаць, дзе? Няма. З прошлага лета няма», – дрыготкім ад жалю голасам сказаў стары. «Але ж хіба ён ня ў арміі быў?» – пытаўся Гаворка. «Быў і ў арміі, пасьля ў палоне, пасьля і ў партызанах быў. Але ж ты ведаеш, што тут у блакаду тварылася. І во дагэтуль няма». – «І я жонку шукаю», – сказаў Гаворка і аж заццяў дых, чакаючы пачуць нешта важнае. Ды стары змоўчаў, бы прыпамінаючы ўжо забытае. «Казалі, яна нешта з немцамі... З камендантам быццам», – працягваў нясьмела дапытвацца Гаворка. «Нічога яна і з немцамі, і з камендантам, дарма людзі брэшуць... Гэта ж як яно атрымалася, на маіх жа вачах усё...»

Перш чым прадоўжыць размову, Тумаш азірнуўся, пашукаў позіркам здатнае месца і, убачыўшы непадалёк чыюсь лаўку пад тынам, скіраваў туды. Там яны селі поруч. Гаворка быў поўны хвалюючай, амаль балючай увагі.

Стары пачаў распавядаць, як у тое лета прыйшлі ў раён немцы, устанавілі ў мястэчку гарнізон. Савецкія начальнікі пазьнікалі, некаторыя ўцяклі на ўсход, а некаторыя перайшлі да немцаў. Добраахвотна ці па заданьні – хто ведае. Іх бралі, асабліва ў паліцыю, – начальнікаў і найбольш акружэнцаў; лавілі камуністаў, пастралялі некаторых. Увосень пастралялі ўсіх яўрэяў, закапалі ля могілак у вялікай яме. Невядома, ці паліцаі стралялі, але закопвалі – факт, шмат хто бачыў. Калгасы не распускалі, сказалі, каб калгасы былі, як і да вайны. Але ж сялянам ужо апрыкралі тыя калгасы, і яны, як засталіся без савецкай улады, адразу паразьбіралі сабе ўсё – і коней, і інвентар, і зямлю. Памяталі ж яшчэ, дзе чые былі ніўкі, дзе ішлі межы. Вясной, як толькі надышла пара, кінуліся ўсе ў поле. Так улеглі ў працу, як не працавалі даўно. Немцы не

пярэчылі, хаця і не падахвочвалі на аднаасобніцтва, вядома ж, лепей браць з агульнага, чым спаганяць з кожнага. Партызанаў тады яшчэ не было, у лясах было ціха.

«Усю тую вясну ў палях кіпела праца – сеялі ярыну, саджалі бульбачку, нашу карміцельку. Але – у каго было чым араць і сеяць. У каго дома сядзелі мужчыны. А ў каго адны бабы? Ці не было коней? Як у некаторых местачкоўцаў ці цастаўнікаў. Во і твая Аўгіньня. Матку ж тваю пахавала зімой, на руках малое, ты – на вайне, у Чырвонай Арміі, паліцаі ды стараста пакуль не прыдзіраюцца, але глядзяць коса – настаўпіца ж ды чырвонаармейская жонка. І каня тожа няма. Адкуль жа конь? Твой жа бацька каня ў калгас не здаваў, бо ня меў, сам парабкаваў па фальварках. Ну што было Аўгіньні рабіць? Можа, і ня трэба было ісьці да таго каменданта, яшчэ як-небудзь ратавацца ад голаду. Але ж у яе быў свой, жаночы розум. Ну, малога на рукі і – у мястэчка. А камендамтам, скажу табе, быў пажылы аднарукі немец. Замест другой рукі меў чорны пратэз – казалі, быццам у Францыі страціў руку. Ну, дзеўка – да яго, можа, заплакала пават, ня ведаю. Той з неракладчыкам пытаецца: дзе муж? Можа б, Аўгіньні прыдумаць што іншае, а яна шчыра прызнаецца: на фронце. А гарод запахаць няма як. Дзіцё малое, сама ня ўмее. І што думаеш? Назаўтра прыязджаюць два немцы з плугам, быстра ўзаралі гарод, пасадзіла жанчына бульбачку. Займела надзею. Добра?

Але ж ці ўсё добра? Злыя вочы ўсюды згледзяць, што хочуць. Пачалі мянціць языкамі, дзівіцца: як гэта немец каня даў? Завошта? Чым яму настаўніца спадабалася? А вядома, што можпа падумаць на маладую жанчыну. Ды яшчэ прыгожую...

Ну, і во як улетку загрымела на дарогах ды ў пушчы, прыйшлі і ў Падбярэзьзе. Найперш застрэлілі старасту – ці было за што, ці не – хто знае. Маслакоўцы тыя, як стаялі, мала каго чапалі, а як прыйшлі варашылаўцы, тыя ўсіх пераварашылі, усё ворагаў шукалі. Быццам ня ўсіх яшчэ перад вайной выкаранілі. Ну і пастралялі

нямала – і ворагаў і няворагаў. Ня надта разьбіраліся. Нехта на Аўгіньню даказаў – карову забралі. Другім разам і самуто арыштавалі, павялі ў лес. Праўда, неўзабаве вярнулася. Алс затым зьнікла разам з малым. Ці зьехала куды, ці яшчэ што – хто ведае».

Седзячы побач на лаўцы, Гаворка слухаў тое і бы плыў у тлумным тумане. Што тут рабілася, на ягонай пакутнай радзіме, а ён і ня ведаў. Ён думаў-уяўляў зусім нават іншае. Тое, што чытаў у газетах, што чуў ад камандзіраў ды палітрукоў на занятках. А тут во што!.. Бедная, няшчасная Аўгінка. Нашто пакінуў яе ў гэтай клятай старане, дзе ўсе для яе былі ворагі. Адзін добры чалавек і той немец. Во што яе і згубіла.

Між тым Тумаш тлумачыў:

«Усе тады гаварылі: дзіўны немец! Нібы нават добры, А я табе скажу – і нічога дзіўнага. Бо салдат. Усё ж, як ні кажы, салдат да салдата спагаду мае. Хоць і з варожых арміяў. Памягаю, на той вайне, на мікалаеўскай, як нас у палон у Прусіі ўзялі...»

Гаворка болей ня слухаў – не мог ужо слухаць старога. У ягонай душы разгараўся пакутны пажар – боль, сорам і гнеў. І адчуваньне ўласнай віны, што гэтак лёгка паверыў у праўду таго жахлівага ліста з сельсавета. У той ранак ён хацеў дачакацца сакратарку, каб хоць зірнуць у яе паганыя вочы.

Але што ён ёй скажа? Мабыць жа, за яе плячыма – старшыня, а там партызанскія камандзіры, яе начальнікі, якія забралі ў Аўгіньні карову. Калі паверылі пра таго каменданта.

Каб ён спарахнеў, той каменаант з яго салдацкай спагадай, думаў Гаворка. З яго недарэчнай дабрынёй. Знайшоў час яе выяўляць, тую нямецкую дабрыню. Тое, што для немцаў – дабрыня, для Аўгіньні стала пагібельлю.

Спазьніўшыся на двое сутак, Гаворка вярнуўся ў батальён, які ледзьве дагнаў за Наравам, бо пачалося

наступленьне. Думаў, будзе яму трыбунал за спазненьне, але абышлося. Сказаў, што жонка загінула, як, мабыць, яно і было папраўдзе. Нампаліт папытаўся пра дакумент з райкаму, ды Гаворка сказаў, што ня ўзяў, ня меў часу, дужа сьпяшаўся на фронт. Мабыць, нампаліту тое спадабалася. Пра партыю яму болей ня згадвалі, і ён ня згадваў нікому. Быў салдат, радавы, беспартыйны ды яшчэ жывы – хіба таго мала? Пра партыю дужа дбаў зямляк Пракопчык, дык і загінуў за Нарaнам. А Гаворка ў тым баі выжыў і нават праз паўгоду атрымаў Славу трэцяй ступсні. Але нашто яму ордэн, калі прапала жонка і з ёй – яго малы сынок, якога ён і не пабачыў ніколі.

А ён во ўсё жыў і нават адчуваў пільную патрэбу папpавіць галоўку...

– Кажу: паправіць галоўку чакаеш? – раптам пачуў над сабой Гаворка і не адразу сьцяміў, што гэта – Ашот. Збоч пад сьцяной ужо стаяў яго чорненькі, бы жук, блішчасты «БМВ», а сам Ашот, таксама чорны, камлюкаваты, з вусамі і тоўстай бычьшай шыяй, адчыняў жалезныя палавіны свайго «Эксклюзіву». – Панятна, дарагой! Зараз мы паправім тваю галоўку.

Амаль ня верачы яшчэ, што яму гэтак пашэнціла ўраньні, Гаворка падняўся на прыступку вышэй, і Ашот падаў яму з дзьвярэй адкаркаваную бутэльку «Жыгулёўскага», з якой патыхала пырскатай пенай. Гаворка прагна выпіў дарэшты.

– Ну як? Лягчэй?

– Ага, палягчэла...

– А ты думаў! Ашот всягда выручыць. Цяпер паможаш мне перакласьці тару.

Ашот зайшоў у цёмную яшчэ піўную, і яны ўдвух пачалі пераносіць тару ў адгароджаны на двары закутак. Тары – сініх пластмасавых скрынак з пустымі бутэлькамі – было шмат, і Гаворка хутка ўходаўся.

– Што? Устал? Давай, дарагой, мне тут плошчадь нужна... І Гаворка даваў. Сьпярша яны насілі ўдвух, пасьля Гаворка – адзін, Ашот усчаў званіць па тэлефоне. Пасьля зноў далучыўся да яго. Малады Ашот працаваў лёгка, бы забаўляючыся. спрактыкавана стауляу адну на адну скрынкі і галок іх цераз парог. Гаворка стараўся не адставаць, ды ўсё ж адставаў. І дужа зышмогся.

– Ашот! А чачэны – харошыя людзі? – спытаў ён раптам, сам ня ведаючы, чаму.

– Харошыя, дарагой! – адказаў Ашот. – Прымерна, як беларусы.

Гаворка трохі памеркаваў, згадваючы, добра гэта ці не. Пра беларусаў увогуле ён ня думаў ніколі, ніяк іх не ацэньваў. Іншая справа – чачэны.

Як яны ўпарадкавалі штабель, Гаворка зьняможана апусьціўся ля хісткага дзюралевага століка, думаў: можа, Ашот дасьць бутэльку яшчэ, – адна дапамагала слаба. Ды ў піўную ў той час увайшлі аж тры мужыкі з аўтабазы, пачалі нейкую спрэчку з Ашотам, і Гаворка ня стаў іх перапыняць.

Трохі счакаўшы, устаў і выйшаў на мармуровы ганак. Думаў, Ашот гукне да яго, каб вярнуўся, але той не гукнуў, і Гаворка павалокся на аўтавакзал. Хутка меўся прыйсьці абласны аўтобус, належала быць там – зьбіраць «зайцы» «за карыстаньне».

Служба ёсьць служба.

## Велікоднае яйка

Ягонае прозьвішча было Выпаўзкоў, але ў гэтай вялікай прыдарожнай вёсцы, дзе ён атабарыўся па вайне, ці ня ўсе клікалі яго Выпаўзкам. Тым больш, што ён адгукаўся і на гэта, хоць і рабіў тое незадаволена, рэзка, з крыкам, нярэдка нрыпраўленым злым мацюком. Ды

людзям было ўсё роўна – людзі трывалі. Прызвычаеныя за вайну да мацюкоў і крыкаў – ад сваіх, паліцаяў, немцаў ды і партызанаў таксама. Прывыклі людзі, старыя і малыя, прывыкла жывёла, асабліва коні. Іншы ня зрушыць і з месца, калі яго не абкладуць злым матам, які аднолькава быў уласьцівы старым і малым, мужыкам і жанкам. Ня кажучы ўжо пра начальства.

Выпаўзак тым ранкам таксама сам сабе сьцішана вылаяўся, сьцяміўшы, што заспаў. Учора, як клаўся, меўся прачнуцца раней, але во не ўдалося, у хаце разьвіднела. Скінуў з сябе замызганую ватоўку і сеў на лаве. Ганка за шкапам яшчэ спала з малымі дзяўчынкамі, а ён спрытна, аднаруч, пакінуў на сябе ватоўку і, не мыючыся, выскачыў на зарослы дзядоўнікам ды крапівой падворак. Ранак ранкам, але то было Вялікадне, і ўчора на партбюро яны пастанавілі падтрымаць рашэньне бюро райкаму працаваць па-ўдарнаму. Па-першае налсжала ўдарыць па «опіюму народу», а па-другое, з вывазкай угнаеньня калгас заваліў усе тэрміны, сяўба апыналася пад пагрозай зрыву, за што райкам па галоўцы яго не пагладзіць. Учора ён атрымаў персанальнае заданьне: пракантраляваць і дакласьці. Дакласьці – гэта зразумела, а но пракантраляваць было горш, бо не было чаго кантраляваць. Дужа няўдалага паставілі брыгадзіра. Танкіст ён, можа, быў і някепскі, тры ордэны зарабіў, мабыць, няблага камандаваў сваімі танкістамі, а бабамі камандаваць не навучыўся, трэба было памагаць і кантраляваць. Усё ж у Выпаўзка вопыту наконт баб было болей – яшчэ з даваеннага часу, як арганізоўваў калгасы, а пасьля і ў партызанах, дзе ён нейкі час быў начасобаддзелу. Усякае здаралася з бабамі і мужыкамі, не сказаць нават, з кім лягчэй было ладзіць.

Во і цяпер – дачакаліся Вялікадня і сьпяць, бы пасьля ўсяночнай. Хаця ні імшы, ні ўсяночнай тут даўно не было – ад царквы ў мястэчку застаўся хіба аброслы крапівой падмурак; як у трыццаць трэцім сьцягнулі крыжы, так і разваліласе царква. А во «опіюм» упарта застаецца. Выпаўзак увечары паціху прайшоў па вёсцы,

дзе-нідзе гарэлі капцілкі і, пачуў яго нюх, – штосьці смажылі. Пэўне ж, і яйкі варылі, фарбавалі, канешне. Хаця што там было варыць-смажыць, калі і мукі на хлеб не было ні ў кога, а курэй у вёсцы можна было пералічыць па пальцах. Але гэтак хіба толькі тут? У іншых яшчэ горш – ня стала і вёсак, папалілі спрэс у партызанку і пасьля, як рухаўся на захад фронт. А гэтая ацалела. Лічы, шчасьлівая вёска, таму і патрабаваньне да яе асаблівае – трэба карміць краіну. Каб толькі людзі болей сазнацельныя, думаў Выпаўзак, даўно адчуваючы, што з сазнацельнасыдю вяскоўцы наўзьдзіў падкачалі. Як во і цяпер з гноем. Якіх дзясятак кароў засталося, а гной на калгаснае поле ня возяць. Не даюць, сварацца, каб самім засталося, для сваіх сотак. Усё трэба выбіваць з прымусам ды гвалтам. А брыгадзір гэты паблажлівы...

Угары над вёскай усё болей віднела, хоць неба спрэс было завалочана хмарамі, дзьмуў халаднаваты вятрыска. А на вуліцы па-ранейшаму не было ні душы. Пад клецьцю, дзе звычайна брыгадзір ладзіў нарад, таксама было пуста, не відаць было і брыгадзіра. Няўжо і яго, парторга, ніхто не бачыць, працягваючы злавацца, думаў Выпаўзак. Бачаць, ды хаваюцца, бо баяцца ўсё ж. Тая думка, як ні дзіўна, трохі сагрэла душу парторга, бо, як ён ужо ведаў: баяцца – значыць, паважаюць. А паважаюць адно толькі людзей вартых, з аўтарытэтам перад партыяй, моцных духам і целам. Наконт цела Выпаўзку ня надта пашэнціла: пасьля раненьня левую руку спаралізавала, і яна ледзьве рухалася. Затое дух ягоны, як быў бальшавіцкі, так і заставаўся нязломны. Дух сапраўдттага бальшавіка-чэкіста, якім сябе не пераставаў уважаць цяпсрашні парторг калгаса.

Абышоўшы сажалку, Выпаўзак перайшоў дзіравы масток і ўзышоў па прыступкі брыгадзіравага ганка. Падобна, брыгадзір сапраўды спаў. Гэта ўжо было чорт ведае што, – брыгадзір у такуто пару павінен быць даўно на нагах. Выпаўзак яшчэ зімой ставіў перад бюро пытаньне аб замене брыгадзіра, ды члены бюро не пагадзіліся: малады камуніст, энергічны, узнагароджаны, браў Берлін. А што надта любіць таго –

заліць за каўнер, у разьлік ня бралі. Казалі: а хто не любіць! Хіба хто хворы ці каму не наліваюць. Брыгадзіру ж налівалі спраўна.

Выпаўзак ня піў, хоць ня быў хворы, ды заўжды меў пачуцьцё адказнасьці за даручаную справу. А справы яму даручаліся цяжкія, ды ён ня скардзіўся. Ён іх выконваў. І цяпер рашуча тузануў клямку брыгадзіравых дзьвярэй, якія, аднак, не адчыніліся. Тады ён загрукаў – моцна і патрабавальна – ужо такі грукат немагчыма было не пачуць.

І праўда, пачулі. Не адразу, але дзьверы расчыніліся, з прыцемку сенцаў на яго злосна зірнуў голы, у адных падштаніках брыгадзір Козіч.

– Ну што?

– Як што? – адразу закрычаў парторг. – Ужо разьвіднела, а дзе народ? Сыіяць, сьвяткуюць, маць іх растак. А хто гной вазіць будзе?

– Вывезуць...

– Як вывезуць? Калі вывезуць? Учора ж на бюро пастанавілі...

– Пайшоў ты на х...! – крыкнуў брыгадзір і, грукнуўшы, зачыніў дзьверы.

Нейкі час Выпаўзак стаяў зьбянтэжаны, – такога ён не чакаў. Каб гэты хлапец, удвая маладзейшы за яго, толькі зімой прыняты з кандыдатаў у партыю, пасылаў яго, парторга і чэкіста, па тры літары! Даўно яго гэтак не пасылалі ні ў раёне, ні ў вёсцы, ні ў партызанцы нават. Калі не паважалі, дык усё ж баяліся, не яго, дык партыю... Танкіст! Чэкіст не ніжэй за танкіста, а гэты, мабыць, яшчэ ня ведае таго. Дык уведае...

Як заўжды, у хвіліны злосьці, ён напаўняўся нутраной энергіяй, мкнуўся неадкладна нешта зрабіць. Ён адчуваў сілу і ўпэўненасьць. Як у тым Пугачоўскім лесе ў час блакады. Немцы ды паліцаі секлі па хвоях разрыўнымі, аж трэск разьлятаўся па лесе. Партызаны

кінуліся ад прасекі ўбок – канешне ж, не туды, куды было трэба, а дзе здаваўся паратунак. На прасецы хтось кінуў скрынку з патронамі, і нікому не было клопату пра іх боезапас. Тады ён спыніў ці не апошняга з уцекачоў, акружэнца-прымака Лышчыка, наставіў ва ўпор наган: бяры скрынку! Праўда, той ужо быў нагружаны нейкім майном, хацеў увільнуць, ды ён стрэліў паўз галаву, і Лышчык мусіў спыніцца. Далей Лышчыку не пашэнціла – яго падстрэлілі паліцаі. Прапала скрынка. На Выпаўзка ніхто не наракаў, бо ў той сітуацыі ён зрабіў правільна – нельга было пакідаць патроны ворагу. Сам жа ён узяць ня мог, бо ўжо каторы дзень насіў на перавязі параненую руку. Зноў жа, ён тады быў не радавы, а начальнік асобага аддзела, значыцца, камандзір. А камандзіру валачыць на сабе груз не паложана. На тое ёсьць шараговыя байцы і партызаны.

Цяпер ягонае нутро гатовае было выбухнуць гневам, але зьнешне ён нічым нс паказваў таго. Хіба што ў такія хвіліны мацней сашчапляў зубы і высоўваў наперад свой падбародак-капыл. Ён кіраваў да свае хаты і ведаў, што трэба рабіць.

Мабыць, ад сьвітаньня мінулася багата часу, а людзі ўсё не паяўляліся нават на падворках. Ля Еўсюковага сьвірна па-ранейшаму нікога не было, ды і хто туды прыйдзе, калі брыгадзір сьпіць? Ну я вас пабуджу, зласьліва думаў Выпаўзак, я вам пасьвяткую, маць вашу растак...

Ён рашуча ўскочыў у хату, дзе ўжо ня спала, кешкалася з малымі ягоная маладая жонка Ганка – апранала, ці што. Ужо таксама ці не сьвяткаваць сабралася? Яе недарэчна ўсьмешысты твар новаю злосьцю адгукнуўся ў ягоным нутры, Выпаўзак падбег да скрыні і выхапіў з прыскрынка наган. З часам усё радзей ён хапаўся за яго – ня тое, што ў нядаўнія гады – да вайны. Ды і ў вайну. Але ведаў: наган паможа. Як памагаў яму ў калектывізацыю, у барацьбе з ворагамі савецкай улады, у партызанку. Наган – верны і надзейны памочнік чэкіста і парторга таксама.

– Што гэта ты? – сумелася Ганка, адразу сагнаўшы з твару лагодную ўсьмешку. Ён не адказаў і, засунуўшы наган у кішэню галіфэ, выскачыў з хаты.

Першы падворак, куды ён завітаў з вуліцы, належаў Паланеі Дворчысе, не маладой ужо, але цягавітай, у сіле ўдаве, соткі якой за плотам былі добра ўробленыя. І калі справілася толькі? – нядобра падумаў парторг. Увакурат было выкурыць яе на калгасную працу, на гной. Свайго гною ў яе не было, бо даўно ня мела каровы. Выпаўзак рашуча ўскочыў у чыста, яўна пасьвяточнаму прыбраную хату з бялюткім настольнікам на стале. Але тут не было нікога, і ён выйшаў праз сенцы на той яе бок. За парканам, сагнуўшыся, поркалася Паланея – саджала на градках нейкую расаду.

– Кідай саджаць! – рэзка скамандаваў Выпаўзак. – На нарад. Хутка! Гной вазіць...

Паланея выпрасталася, няўцямна ўгледзелася ў яго.

– Што?

– На нарад, ня ведаеш, што! Ну! Жыва! Чакаю...

– Дык як жа на нарад, сьвятое ж Вялікадне сягоньня, – хуценька і вінавата загаманіла Паланея. – Ужо грэх жа гэта, каб на Вялікадне...

– А свае грады ўрабляць ня грэх?

– Дык то ж свае... На тым тыдні не было як, усё на полі. Толькі і засталося на сьвята...

Ён не даслухаў.

– Хутка! Раз, два – я чакаю...

– Ай, дык гэта ж брыгадзір сказаў, што да абеду можна...

– Я вас з вашым брыгадзірам!.. – закрычаў Выпаўзак і дастаў наган. Але перш чым ён скіраваў яго на

жанчыну, тая жвава шаснула ўбок і так прыпусьціла між лёхаў, што ён аж зьдзівіўся яе маладому спрыту і падумаў: во, выдрэсіравалі акупанты! У блакаду, мабыць, пабегала...

– Каб мне зараз была на нарадзе. Другі раз гаварыць ня буду.

Наступны падворак, дзе жыў стары Корж з дзьвюма нявесткамі, быў цераз вуліцу. Каржовы сыны пасьля партызанкі трапілі на фронт і абодва засталіся на Пулаўскім плацдарме. Цяпер нявесткі гаспадарацьз дзецьмі і старым Аўхімам Каржом, які на той час якраз і спаткаў яго ў дзьвярах.

– Сьвяткуеш? – не вітаючыся, строга запытаў Выпаўзак.

– Са сьвятым Вялікаднем вас, – бы ня чуючы настрою госьця, лісьліва павітаўся сівабароды Корж, апрануты ў чыстую кужэльную сарочку.

– Мяне няма з чым, я атэіст. А ты марш на нарад! І з нявесткамі.

Стары ўтрапёна стаяў на ганку, няўцямна пазіраючы на чалавека, бы ўпершыню бачачы яго са зброяй. На яго Выпаўзак нагана не паднімаў, і Корж моўчкі разьвёў рукамі.

– Ды ўчора толькі прыйшлі. Казалі, брыгадзір дазволіў. Да абеду...

– А я адмяняю, – змрочна абвясьціў Выпаўзак.

Корж моўчкі павярнуўся і пайшоў у хату, дзе іхнюю размову, мабыць жа, чулі нявесткі. Ужо прыйдуць, падумаў Выпаўзак, гэты іх прыгоніць. Выпаўзак ведаў, што з вайны за Каржом значылася адна, але ёмістая правінка: паказаў акупантам шлях праз Церахава балота, дзе пасьля блакады атабарыліся партызаны. Казаў, што прымусілі. Але гэта яшчэ як паглядзець: колькі было там прымусу, страху, а колькі ўласнае волі. Тады яго партызаны не чапалі, ды пасьля органы тую правінку ўзялі на ўлік – пра запас. Таму гэтага Каржа

ўжо ён уходуе.

Горш было з Касачовай Галяй, маладой яшчэ і бязьдзетнай, якая калі ўжо рабіла, дык рабіла як мае быць, – ці ў полі, ці на таку. Але да пары. Пакуль на яе ня нойдзе бабскі нораў, пакуль не заўпарціцца па-дурному. Калі заўпарціцца, тады ніхто ёй ня можа даць рады – ні мужык, ні баба, ні які начальнік. Хіба калі ён наганам, дык стане лагаднейшай. У хату да яе ён не пайшоў – пастукаў у акно.

– Касачова, на нарад! Хутка!

Але тое, што ён учуў, узьвілося ў ім новым выбухам гневу.

– А ху ня хо? – ціхмана, але выразна прагучала з хаты.

– Што?

– Што чуў. Сяньні Вялікадне.

– Ну што, што Вялікадне? Гной вазіць трэба. Ты што, маленькая, ня ведаеш?

– Не малепькая. Два гады была замужам, – чулася з хаты, але да акна ніхто не падыходзіў.

– Ану выхадзі, сказаў! Страляць буду! – пастукаў ён ручкай нагана ў раму.

Касачова раптам бы ўзрадавалася і з жарам загаманіла дзесь, зусім побач за шыбай:

– Ой, напалохаў! Застрэліць. Страляй, на... Цаляй во ў гэтую цыцку, на...

Тут жа за акном паявілася яна – зусім голая, бессаромна трасянула перад ім набрынялымі грудзямі, пнуўшыся ў самае шкло. Выпаўзак міжволі адхіснуўся.

– Стрэлю!

– Страляй!

І ён стрэліў – угору, у падстрэшша, раз і другі ва ўзрушэньні, пе пашкадаваўшы аж двух патронаў. Касачова, аднак жа, мабыць, спалохалася і зьнікла. Дзесьці на вуліцы ўжо закрычалі бабы – трывожліва і палахліва – як у вайну. Але той іх крык не настрашыў Выпаўзка, які ўжо адчуў свій верх над гэтымі вернікамі, што зрывалі яму вывазку гною. Ён ужо асядлаў звыклую хвалю ўзрушанай рызыкі і пабег па вуліцы далей.

У вёсцы, мабыць, ужо прачпуліся, браліся велікоднічаць. Яму налсжала адпо – сагнаць усіх да сьвірна, і ён адчуў, што наможацца на тое. Волі ў яго хапала. Азірнуўшыся, убачыў, як з падворка выйшлі абедзьве Каржовы нявесткі, сталі абапал брамкі; да сьвірна, аднак, не ішлі. Наперадзе за Тарасавым парканам мільганула і зьнікла абвязаная цёплай хусткай галава ўдавы Пятрухі – мабыць, кінулася куды хавацца. Выпаўзак не пабег за ёй, толькі прыпыніўся і крыкнуў цераз паркап:

– Пятруха, я цябе бачу. Зараз жа на нарад!

Жанчыпа не адазвалася, але ён ведаў, што пачула. А калі чула. дык прыйдзе, нідзе нядзенецца. На тым тыдні прыходзіла ў праўленьне прасіць дапамогі – трое малых дзяцей, карміць няма чым. У тым ліку адно малое, нагулянае ад партызанаў. Каб далі малака з фермы. Але на ферме ў суседняй вёсцы ўсяго восем кароў, ды і тыя ня ўсе ацяліліся, малака не хапае для здачы дзяржаве. Сказалі тады Пятрусе прыйсьці праз тыдзень, праўленьне разгледзіць заяву, прыме калектыўнае рашэньне. Каб абгрунтавана, ня з бухты барахты. Малака шмат хто просіць, шмат у каго малыя дзеці. А цяпер гэтая Пятруха хаваецца. Я ж табе прыпомню гэтыя схованкі, як прыйдзеш па малако, помсьліва думаў Выпаўзак.

Тым часам над вёскай у веснавой прасторы плыў па-сьвяточнаму сьцішаны велікодны ранак, у які Выпаўзак унёс гэтую мінтрэгу. Але ўжо ён ім сьвяткаваць ня дасьць. Не глядзі, што інвалід, сухарукі, ды ягоны дух загартаваны ў класавай барацьбе, ён пераможа. Гной будзе вывезены, увесь да астаньня.

Усё ж не дарма ён драў горла – у вёсцы яго ўчулі і пакрысе пачалі выглядваць на вуліцу. Недзе мільганулі і стаіліся на падворках. Выйшла і стала каля брамкі Лузгіна Вольга – чакала. Ён спыняцца ня яе ня стаў, толькі крыкнуў, каб ішла на нарад, а сам пашыбаваў да клёна, пад якім ужо сышліся і, пэўна ж, чакалі яго тры бабы – дзьве тутэйшыя ўдовы і з імі маладая, вострая на язык Хадоска, колішняя сяброўка Ганкі, як тая яшчэ не была ягонаю жонкай. А як стала, ён тое сяброўства хутка спыніў – была прычына. Бабы там неяк зацята маўчалі, хмура пазіраючы, як ён таропка крочыў да іх. Нібы баяліся. Але тое і добра, што баяліся, – ужо ён іх зараз пагоніць да сьвірна.

– Ну што стаіце? Асобнае запрашэньне трэба? Марш на гной!

– А Вялікадне сёньня, – спаважна мовіла Хадоска. – Дык брыгадзір сказаў...

– Пляваць, што брыгадзір сказаў. Вялікадне адмяняецца...

– Як гэта? – мовілі ўсе разам.

– Партыя адмяняе рэлігійны опіюм. Ці вы не давяраеце партыі?

На той надта рашучы аргумент у баб, відаць, не знайшлося, чым адказаць, і яны хвіліну разгублена маўчалі. Потым першая загаманіла Хадоска.

– Але чаму толькі нам адмяняецца? Чаму іншыя сьвяткаваць будуць? Сваю Ганку нябось на гной не пашлеш? Гэта мы, праклятыя чорнарабочыя...

– Пойдзе і Ганка! – рашуча перапыніў ён жанчыну. – Усе пойдуць. Марш!

– Дык мы што? З голымі рукамі? Ці вы там здурнелі з сваёй партыяй? – нярвова крычала Хадоска.

– Ну, ты цішай наконт партыі! Цішай! – загадаў ён з націскам. – Паняла?

І Выпаўзак прыўзьняў наган, паказваючы, што ў ягонай руцэ. Хадоска бы папярхнулася і змоўкла. Бабы па адной падаліся па вуліцы – абы далей ад гэтага ўзброенага парторга. Яны ішлі памалу, патроху прыбаўляючы кроку. Ён мог бы іх і падагнаць, але хай. Вілаў ні ў адной не было, ды ён ня мог іх вяртаць па вілы, пэўна ж, уцякуць, пахаваюцца. Хадоска ззаду ўсё нешта сакатала злоснае, але ён ня слухаў – ён сачыў, абы ня зьнікла куды, ішла за ўсімі. Пэўна ж, ідучы плявузгала – на яго, а можа, і на партыю, і парторг зласьліва думаў: ня ўсіх, далёка ня ўсіх выкаранілі ў трыццатыя, яшчэ засталося антысавецкага ахвосьця, будзе чым Заняцца. Пакуль во не даходзяць рукі – гной куды болей важны. Але ці не памылка тое? З тэорыі і практыкі бальшавізму Выпаўзак ведаў, што класавая барацьба важней за ўсё.

А бабы? Бабы яго не любілі ніколі, і ён даўно ведаў тое. Шмат якія выказвалі сваю непрыязь да яго, каханьня ж ніводная. Ды ён і не дамагаўся ад іх каханьня, з маладых год зразумеўшы, што каханьне – рызыковая справа. Колькі ягоных сяброў (асабліва ў даваенныя гады) пагарэлі менавіта праз сваё неабачлівае каханьне. Ён не хацеў за тое гарэць, ён намагаўся быць спраўным бальшавіком, адданым справе чэкістам. А ўсё астатняе – глупства. І калі ён у сорак гадоў ажаніўся, дык хіба прымеркаваўшы, што так будзе лепш – найперш для калгаснага парторга, на пасаду якога быў прызначаны партыяй. Тады ён спыніў свой выбар на Ганцы, бо, па сутнасьці, у яго ўжо не было жаднага выбару. Яна прымеркавалася парторгу, бо была класава блізкай, не запярэчыла. І ён зразумеў: і не запярэчыць, бо ў яе таксама не было выбару. Гэта найлепш, калі няма выбару, бо няма і спакусы.

Яны яшчэ не дайшлі да сажалкі і сызірна, як Хадоска азірнулася на яго і пачала тыцкаць на ягоны падворак, дзе якраз выйшла з хаты неапранутая зранку Ганка. Там жа былі і абедзьве дзяўчынкі – малая ўсё тузала маці за спадніцу, штосьці лепятала. Дзяўчо толькі пачынала гаварыць, і маці дужа любіла слухаць яе незразумелую балбатню. Але знайшла час...

Згледзеўшы жонку, Выпаўзак апрыкла перасмыкнуў тварам і тут жа надаў сабе ранейшы рашучы выгляд.

– Во, во! – паказвала пальцам на былую сяброўку Хадоска. – Во яна дзетак забаўляе, а нас у сьвята – на гной... Калі нас, дык і яе...

– Ганка – на нарад! – уладарна крыкнуў ён, як дагэтуль крычаў на іншых.

Ганка на момант зьнерухомела, мабыць, не разумеючы чагось, і марудзіла. Тады ён прыкрыкнуў яшчэ болей загадным голасам:

– Хутка, ну!

Цяпер ягоная жонка зрабілася для яго нароўні з усімі – ут ужо ён, каб і хацеў, дык нічога з сабой зрабіць ня мог. Ды і не імкнуўся. Ён нібы піў асалоду а свае прылюднай ахвярнасьці, якую не маглі ыя бачыць і не ацаніць людзі.

Ганка, аднак, бы знарок замаруджана накінула на сябе чорную кофту, узяла аднекуль вілы і, паволі ступаючы, выйшла на вуліцу. Абедзьве дзяўчынкі кінуліся за ёю, малая адразу залілася сьлязьмі, і яна, ідучы, штосьці гаварыла ім – супакойвала. Ды тыя не супыняліся. Малая ўсё бегла за маткай, аж покуль Выпаўзак ня крыкнуў з рашучай строгасьцю:

– Ану – марш у хату!

Старэйшая, Волька, спынілася, бы ў нерашучасьці, а меншая ўсё бегла і плакала.

– Да бабы Насты ідзіце, да бабы Насты, – азіраючыся, лагодна казала ім маці, і дзяўчынкі і праўда спыніліся, далей не пабеглі.

Ганка дагнала баб і пайшла ззаду, ні разу не азірнуўшыся на дзяцей. І на яго таксама. Тое, што не азірнулася па яго, Выпаўзак заўважыў, нядобра падумаўшы: хай! Наконт таго ён яшчэ пагамоніць з ёй. Увечары. Ён ёй растлумачыць, як належыць паводзіць

сябе жонцы калгаснага парторга.

Ганка не азіралася, слыхам ловячы кожны гук ззаду, старалася зразумець: дзеці паслухаліся яе ці не. Падобна, аднак, паслухаліся, болей за ёй ня беглі, і яна патроху спакайнела.

Тым ранкам яна прачнулася рана, і як Выпаўзак, прахапіўшыся на ўслоне, зьнік з хаты, яна ўжо не заснула. Дзяўчынкі соладка спалі побач на ложку, яна прыкрыла крысам кажушка старэйшую, Вольку, што заўсёды ў сьне скідвала яго з сябе, сядзела, думала. Думала найперш пра тое, чым сёньня накарміць малых, – апроч бульбы, у яе не было нічога. Сёньня сьвята – Вялікадне, але не для іх. Учора Волька прыбегла ад суседкі бабы Насты, поўная наіўнага дзіцячага захапленьня: баба Наста фарбуе яйкі. У іх яек ня будзе, ні фарбаваных, ні белых, бо не было курэй. Добра яшчэ, што на сьвята будзе зацірка. Днямі Выпаўзак прынёс трохі ржаной мукі, і тое – на месяц. На зацірку малым. Перад тым баба Наста дала шматок сала – для засkваркі тае калатухі-заціркі. Але тое таемна, каб ня ўбачыў, ня ўведаў Выпаўзак, бо баба Наста – маці паліцая, а яны з Выпаўзкам партызаны, да таго ж Выпаўзак – камуніст, парторг. Хіба можна было дапусьціць сувязь з маткай ворага народа, нямецкім паслугачом?

Ганка выйшла на пусты падворак. Пад плотам і сьцяной даўно пустога хлява бралася ладная ўжо крапіва, трэба нарваць у чыгун, абдаць кіпенем ды нешта зварыць на полудзень. Бо прыйдзе ж яе парторг, захоча есьці. Кармі, жонка. А чым яна накорміць? Што сама нічога ня ела, тое не ў залік, што малыя просяць хлебца, якога няма, тое яго не клапоціць. Яго бясконца клапоцяць пастановы райкама ды няўпраўкі ў калгасе, ад якіх ён проста шалее.

Выпаўзак быў другім мужам у Ганкі, і дзеткі яе былі не ягоныя, ня родныя. Дзетак яна нажыла ў партызанах, як сышлася з камандзірам падрыўнікоў Аляксеем Гайновым. Хоць не расьпісаныя, ня венчаныя, а ў шчырым каханьні нарадзілі яны дзьвюх дзяўчынак – апошнюю якраз перад вызваленьнем, за дзень да якога

і забілі Гайнова. Немцы вырываліся з акружэньня, ішлі напралом, натоўпам, а Гайноў з сваёй групай якраз апынуўся на іхнім шляху, ну і... Трэба было б збочыць, адысьці за балота, казалі пасьля партызаны, можа б, і ацалелі. А так... Усе і пaляглі на ўзьлеску – дванаццаць маладых, дужых, прыгожых. Во і засталася Ганка з дзецьмі – партызанская мадонна бяз мужа, бяз хаты і якога жытла. Дзякуй партызанам – ня кінулі, ня выракліся, чым маглі, памаглі ўсім атрадам. А як вызвалілі раён, пасялілі ў гэтай во хаце, кінутай гаспадаром – паліцаем, сынам тае ж бабы Насты. Тут яе і знайшоў партызанскі начальнік Выпаўзкоў. Родам ён быў не тутэйшы, з таго боку Дзьвіны, пасьля партызанкі пакінуты на ўмацаваньне калгаса. Жыць яму ў вёсцы не было дзе, сам быў адзінокі, сям’ю страціў на пачатку вайны. Дык аднойчы прыйшоў і сказаў: буду жыць у цябе. Што ж, яна не пярэчыла, хоць зусім ня ведала яго, хіба што бачыла пару разоў у лесе, як разьязджаў на чорным кані разам з іншымі начальнікамі. І яна падумала: жыві. Хата не яе – чужая, болей тут мужыка няма. Двое малых чапляюцца за спадніцу, як іх адной гадаваць? Думала, можа, весялей будзе, усё ж мужчына ў хаце. Мужчына, праўда, выдаўся не сказаць каб відны – даволі састарэлы з выгляду, дашчэнту зьнерваваны і заўсёды агідна лаяўся – ці была нагода, ці не. Але ж партыйны, заўжды пры ўладзе. У партызанах, людзі казалі, быў асабістам, хоць сам не сказаў ёй пра гэта. Яго тут баяліся ці паважалі – яна так і не зразумела. А можа, тое ды іншае адначасна, як гэта павялося ў партызанах ды і засталося пасьля партызанаў. Горш за ўсё, што Выпаўзак быў сухарукі, леваю рукой толькі кратаў, а рабіць нічога ня мог; ня мог нават расьсекчы палена на дровы, якія заўжды секла яна. І зусім кепска, што быў куды меншы ростам за даволі высакаватую Ганку, ад чаго тая нямала журылася. Асабліва напачатку. Жывучы з ім, яна ўсё думала пра Гайнова, які ў яе вачах рабіўся ўсё лепшы і лепшы. І яна ўжо пэўна ведала, што з ім знайшла шчасьце, з ім і згубіла, – іншага ня будзе. Дзіўна, што ён жыў з ёй, – урыўкамі, калі быў паблізу і аднойчы паранены, але ніколі не казаў ёй пра каханьне, і ўсё роўна яна ведала, што кахае яе, можа, таму, што кахала яго. А гэты... Зрэшты,

гэты таксама не сказаў ёй, што кахае, а калі яна неяк ціха лапыталася пра тое, толькі накрычаў на яе. Што, маўляў, удумала! Тут днямі ў райкаме абмеркаваньне стану палітмасавай работы ў калгасе, а яна – пра каханьне. Можа, і так, падумала Ганка, і ніколі больш не напамінала пра тое.

Крыху пасьля журыцца давялося з іншай прычыны – Выпаўзак неўзьлюбіў малых. Калі часам малое плакала ўначы, ён злосна крычаў на Ганку: «Нарэшце ці ты супакоіш ме?» Ганка супакойвала, як магла, можа, не заўссды ўдала, малое доўга плакала, асабліва калі хварэла, і тое выклікала злоснае раздражненьне Выпаўзка. Старэйшая, Волька, яго проста баялася, і калі ён быў дома, дзяўчынка сядзела на печы ці поркалася ўзапеччы – абы далоў з яго вачэй. Дарэчы па малых ён сварыўся рэдка, болей за іхнія правінкі спаганяў з маці. Яна рэдка калі чула ад яго добрае слова, болей – мат-перамат ці лаадварот – ён тыднямі зацята маўчаў. Вельмі хутка пасьля замужжа Ганка гатовая была ўзьнедавідзець яго, але неяк трывала, не даючы таму пачуцьцю надта разрасыдіся ў сабе. Усё ж ён быў ня просты калгасьнік, а парторг, – сельская сіла і ўлада, і яна маўчала. Яна змоўчала, калі ён прагнаў адпойчы яе сяброўку яшчэ ад часу сямейнага лагеру ў лесе, – Хадоску, за што тая неўзьлюбіла і яе. У вёсцы ў Ганкі ня стала ніводнай блізкай душы. Іншыя жанкі невядома чаго стараніліся яе, бывала, ніводная ніколі не завітае, не пацікавіцца малымі. Да вясны яна кожнага дня хадзіла ў калгасны сьвіран, веяла, абрабляла насеньне, а дзяўчынкі сядзелі адны ў замкнёнай хаце, і яе сэрца разрывалася ад страху за іх. Не ісьці на працу яна не магла – заўжды гнаў брыгадзір, ды і муж пільна сачыў, каб яна ўвішна працавала і выконвала норму, тым паказваючы прыклад астатнім. І яна рабіла штодня нароўні з усімі – маладымі і старымі, бабамі і мужыкамі. Сёньня, як ён гаркнуў ісьці на парад, яма не зьдзівілася, як заўжды паслухалася і пайшла. Толькі вось малыя… Замкнуць іх яна не наважылася, ды й стала ўжо цёпла, малым ня дужа сядзелася ў хаце. І яна падманула іх бабай Настай, да якой яны часам хадзілі, – можа, пабудуць там.

Ідучы да сьвірна вуліцай, Ганка думала, што на працу іх разьмяркуе брыгадзір, прызначыць, куды каго. Каму выкідваць гной, каму вазіць, каму растрасаць на полі. Клопату з гэтым гноем хапала, тут патрэбна была мужчынская сіла. Але дзе яе ўзяць, мужчынскую, калі ў калгасе ўжо не застаецца і жаночай. Здалёку Ганка згледзела сярод баб двух мужыкоў – старога Аўхіма і кульгавага Сеньку, астатнія там былі бабы – усяго чалавек з дзесяць. Але брыгадзіра не было відаць, і Ганка адчула штось кепскае. Напэўна, як заўжды, гэты яе Выпаўзак наробіць вэрхалу, крыку, не абыдзецца без мацюкоў. Хоць бы не страляў болей з нагана.

Сьпярша бабы ад сьвірна моўчкі, з-пад ілба пазіралі, як яны, бы гнаны пастухом статак, набліжаліся да іх па вуліцы. Пасьля, як загаманіла Хадоска, загаманілі ўсе разам – што і Вялікадне сёньня, і галодныя яны, і вілаў няма, і коні чорт ведае дзе на пашы. А галоўнае – дзе той гной? У каго яго ўзяць? Тыя, што мелі каровы, пастараліся ўжо свой гной упарадкаваць – вынесьці на гароды ды растрэсьці па градках, а то ўжо і ўскапаць рыдлёўкамі соткі. А хто таго не пасьпеў, ці дасьць цяпер для калгаснага поля? Усё ж найперш трэба самім – на бульбачку.

– Дадуць! – запэўніў распараны Выпаўзак. – Вазьму і не запытаюся...

Тут жа ён і разьмеркаваў усіх на працу – мужчын адправіў запрагаць коней, трох баб з імі растрасаць гной на палетку. Астатніх, у тым ліку і Ганку, прызначыў выкідваць гной з хлява. Выкідваць – самая цяжкая праца, і галодная Ганка толькі каўтнула сьліну. Іншыя бабы абурана крычалі, а яна не магла дазволіць сабе нават пакрыўдзіцца. Тым болей паскардзіцца. Ужо скардзіцца Выпаўзку яна ня мела намеру.

Чатырох баб Выпаўзак павёў да бліжняй ад сьвірна сядзібы Панкрата, які меў кароўку і нават карміў сьвінчо, – пэўна ж, гной у таго меўся. Самога Панкрата, спраўнага, сярэдняга веку мужыка, дома не было, жонка сказала: паехаў, а куды невядома. Выпаўзак вылаяўся, пайшоў у хлеў, дзе вылаяўся яшчэ болей

злосна – гною таксама не было. Чысты дол быў зацярушаны сьвежай саломай.

– Дзе гной? – вызьверыўся Выпаўзак. Бабы злосна маўчалі, маўчала нагталоханая Панкраціха, і Выпаўзак здагадаўся: прадаў! Ноччу вывез у мястэчка, мацъ яго перамаць! А цяпер хаваецца ў кустох. Ну я ж яго падпільную, гада! Я яго застрэлю!

Папкраціха не абараняла мужа, бабы маўчалі, мабыць, думаючы: пэўна ж, застрэліць. У вёсцы хадзіла пагалоска, што Выпаўзак за свае асаблівыя заслугі мае права застрэліць кожпага. Такая ягоная ўзнагарода. Іншым за подзьвігі давалі ордэны ці медалі, а гэтаму далі такое страшнае права – забіць кожпага – на свой суд. Мабыць, сапраўды вялікія былі яго заслугі, сьведчаньнем якіх ён насіў з сабой гэты страхавіты для вяскоўцаў наган.

Можа, і сапраўды ён меў права застрэліць чалавека, але найперш трэба было яго знайсьці. Таксама, як і гной, якога тут не было.

Відаць, часу на тыя пошукі Выпаўзак меў не багата і павёў бабскую каманду цераз вуліцу да сясьцёр-багамолак Барашкавых. Ужо тыя ў такі дзень былі дома і, не зважаючы на крыкі і стрэлы на вуліцы, увішна маліліся ў прыбранай рушнікамі покуці перад дужа шаноўным абразом сьвятой Марыі – страчалі Вялікадне.

– Я вам дам Вялікадне! Бярыце вілы і ў хлеў!

Набожпыя і ўвішныя Барашкавы, бы чорныя рухавыя мурашкі, перахрысьціліся напасьледак і паслухмяна падаліся ў хлеў, дзе ў куце стаяла іх маладая кароўка. Аднак вілаў яны ня мелі, а гною было тут на адзін добры воз, і Хадоска зьсдліва пасьмяялася:

– Во ўгноім калгасны прасьцяг! Па-ўдарнаму. Давай па-стаханаўску, дзеўкі! Ганка, ну пакажы прымер як парторгава жонка!

Ганка з віламі залезла за загародку ў кут, дзе было

болей гною, і пачала кідаць яго да дзьвярэй.

Увесь час, пакуль яны хадзілі па дварах і слухалі Выпаўзкаву лаянку, ёй было дужа ніякавата за мужа, здавалася: хоць бы ён памаўчаў, калі ня можа гаварыць па-добраму, хоць бы ня чуць яго брыдкаслоўя. А ён, бы на зло, аж упіваўся сваёй брыдкай лаянкай, поўнаю ўладай над гэтаю ня надта пакорнаю бабскай групай, бы помсьціў ім за сваю мужчынскую нягегласьць, начальніцкую няўрымсьлівасьць, гаркату ад якіх, пэўна, і намагаўся заглушыць лаянкай. Цяпер, як яны ўрэшце забрылі да гною, Ганка аж узрадавалася: будзе рабіць. Працаваць яна ўмела – хоць жаночую працу, хоць мужчынскую, ёй было ўсё роўна – яна прывыкла рабіць усё.

Яна лёгка ўпорвала вострыя пруты вілаў у зьляжалыя пласты і натужліва выварочвала іх угору. Гной звыкла сьмярдзеў, але яна не зважала на той здаўна знаёмы смурод, толькі схамянулася ў душы, прыгадаўшы, як тры гады таму, у блакаду, хавалася амаль у гэткім самым гнаі. Іхні атрад разьбілі, і карнікі ўсчалі паляваньне на партызан, шукалі з сабакамі ў пушчы, лясах і пералесках, у пакінутых жыхарамі вёсках, адрынах, на таках. Яе, цяжарную ўжо малодшай, аднаногі дзед з Алексюкоў закапаў у пустым хляве пры сьцяне ссохлым гноем, і яна ляжала так два дні, дыхаючы праз шчыліну ў бярвеньні. Немцы бегалі па вёсцы, стралялі па гарышчах, кідалі гранаты ў пустыя бяз бульбы ямы. Дзед казаў, двойчы зазіралі ў той хляўчук, але пароць гной не здагадаліся, і яна ацалела. З таго часу ў яе не было агіды да гною, тым болей, што ніколі не было каровы.

Выпаўзак пабег кудысь, мабыць, шукаючы яшчэ па хлявах, а бабы павыходзілі на падворак і пасталі, гамонячы. Бяз вілаў у хляве ўсё роўна рабіць не было чаго. Яны ўсё не маглі скончыць узрушанае гаманы наконт спляжанага сьвята і лаялі нялюдскага парторга.

«І глядзі ж ты, выжыў і ў блакаду, – сказала Лузгіна Вольга і пашкадавала. – Не было яго ў нашым атрадзе, а то б...». – «А што б ты яму зрабіла ў вашым атрадзе? –

усумнілася старэйшая Каржова нявестка. – Солі на хвост насыпала б? Ён і там быў граза». – «Каму граза, немцам?» – «Не, ня так немцам, сваім ды шпіёнам гэтым».

Ганка слухала ды пасьміхалася ў хляве – як асабісты ўпраўляліся са шпіёнамі, яна збольшага ведала, памятала выпадак у сваім атрадзе. Якраз тады з дзеўкамі была ў Пляшні, дзе кватараваў і брыгадны штаб, – мылі начальнікам бялізну і трохі чулі, што там рабілася. Неяк пяцёра палонных чырвонаармейцаў уцяклі з лагера і прыбылі ў атрад. Ну, вядома, найперш праверка: ці хто завербаваны, засланы, хто з іх шпіён? Усіх дапытваюць у хаце асобага аддзелу, ніхто не прызнаецца. Але ж камандзіры ведаюць пэўна: хтосьці засланы. Тады прымаюць рашэньне: калі ніхто не прызнаецца, усіх у расход. Ды ноччу перад расстрэлам адзін з перабежчыкаў, Акунёў, патрабуе асабіста камандзіра, якому кажа, што ўсе яны завербаваныя, апроч яго, Акунёва. Пра тое яму па сакрэту прызнаўся ягоны зямляк з тае групы, які таксама завербаваны. Раззлаваныя камандзіры праз дзень расстралялі ўсіх, апроч Акунёва. Разважалі так: калі Акунёў выдаў земляка, значыць, ён свой, незавербаваны. Паслалі Акунёва ў групу падрыўнікоў, дзе Акунёў падарваў тры цягнікі, а пасьля на станцыі Параф’янава перабег да немцаў. Аказалася, што менавіта Акунёў і быў засланы, іншыя ні пры чым. Але начальніку асобага аддзелу за тых выкрытых і расстраляных ужо далі ордэн – не адбіраць жа баявую ўзнагароду назад. Тым болей, у заслужанага кадравага чэкіста. А каб ня дужа дзівіліся з таго ў атрадзе, яго перавялі ў суседнюю брыгаду, казалі, на павышэньне нават.

Праз якую гадзіну Ганка выкінула за парог усё, што было ў доле. На чыстае, воглае яшчэ месца перайшла маладая кароўка сясьцёр Барашкавых. Але возчыкі з калёсамі ўсё ня ехалі. У хляве рабіць болей не было чаго, і Ганка выйшла на падворак. Бабы купкай стаялі воддаль пры плоце, падобна, рабіць сёньня яны ня мелі намеру.

– Перакур, Ганка, – падабрэлым голасам сказала Хадоска і нібы ўсьміхнулася ёй.

Тое спадабалася Ганцы, падумалася: можа, яшчэ яны і паміраццa. Хаця і так крыўдаваць сяброўцы не было за што, на Выпаўзка яны крыўдавалі абедзьве.

Яна ўваткнула вілы ў зямлю і таксама прытулілася да плота поруч з Хадоскай. Бабы чамусьці ўсе разам змоўклі, калі яна да іх падышла, Ганка з нядобрасьцю адзначыла тое, і ёй зрабілася ніякавата. Каля іх яна папранейшаму пачувалася чужаніцай. Неяк нядобраапанурана з ганка назіралі за імі сёстры Барашкавы.

Нечакапа з-за вугла хаты паявіўся брыгадзір, – малады хлопец у зграбна падперазанай гімнасьцёрцы і пасьвяточнаму наваксаваных ботах – быццам гатовы да сьвята ці да царквы. Грабаючы рукой растрэсеную ветрам густую чупрыну, з расслабленай усьмешкай мовіў да жанчын:

– Укалваеце?

– Укалваем! – кпліва адказала Хадоска. – Але ж ты ўчора абяцаў...

– Ну, абяцаў. Хай бы не ішлі. Я ж вас ня гнаў.

– Глядзіце на яго – ён ня гнаў! – зусім зазлавала Хадоска. – Дык Выпаўзак выгааў.

– А нашто слухалі?

– Як жа не паслухаеш, калі з наганам? Вунь Касачову застрэліць хацеў.

– Гэны можа, – сьціпла пагадзіўся брыгадзір. Відаць па ўсім, пачуваўся ён ня надта – мабыць, выдыхаў учарашняе ці з начы. – Калі авечкамі будзеце.

– Будзеш авечкамі. Вы ж – сіла, партыя. Як з такімі абыходзіцца? – гарачылася Хадоска.

– Мы з такімі абыходзіліся... – шматзначна выціснуў

праз зубы брыгадзір. – На фронце.

– Дык то на фронце. А мы тут у тыле. Як у турме.

– Ну, як хочаце, – кінуў на разьвітаньне брыгадзір і, бы схамянуўшыся, пайшоў з падворка.

– Такі хлопец! – разважліва мовіла Хадоска, як ён схаваўся за хатай. – Сап’ецца тут.

І засмуцілася чамусьці. Ганка таксама засмуцілася – яшчэ болей, чым калі была адна ў хляве, выкідвала гной. Не, шчасьця ў яе болей ня будзе, думала яна, лёс яе абышоў стараной, цяпер адно – гараваць у гаркаце да скону дзён.

– Доўга ён тут жыць будзе? – сказала баба ад плота. – Пацяплее і зьедзе ў горад.

– Я б таксама зьехала, – гаротна мовіла Хадоска. – Завербавалася б у Карэлію, хоць на лесапавал. Калі б ня мама. Хворую ня кінеш.

– Ты яшчэ можаш. Пакуль дзяцей не нараджала... Стоячы поруч, Ганка пачала думаць, дзе там яе дзяўчаткі, ці, можа, плачуць на вуліцы. І тады, бы ў адказ на свой клопат, якраз убачыла малых – на падворку ішла Волька, вяла за ручку малую, – босую, у даўгой, незашпіленай кофце, ужо заплаканую. Тая, як убачыла маці, вытузнула з сестрыной ручку і подбегам прыпусьціла да плота. Ганка прысела насустрач, каб пераняць дачушку, выпрастала рукі, у якія з неадольнаю дзіцячай радасьцю бухнулася дачушка. Яе заплаканы тварык адразу праясьнеў дабрынёй і спакоем.

– Ну што ты плакала? Ну чаго?

– Яна сабакі спужалася. Што ў дзядзькі Панкрата, – сказала Волька.

– Спушчанага?

– Ну. Спушчаыы быў.

– Вот жа чалавек, – сказала Хадоска. – Сам недзе туляецца, а сабаку спускае, каб малых травіць.

Ды малая ўжо ўсьміхалася ў матчыных руках, гатовая адразу забыцца на свае нядаўнія страхі. Ды й злосная ўвогуле Хадоска падабрэла з абсіверанага вастраносага твару, заўсьміхалася Вольцы, якая прыхільна падалася да яе. Тады старэйшая з сясьцёр Барашкавых адышлася ад ганка.

– Хадзі са мной. Нешта дам...

Волька, бы і чакала таго, адразу патэпала за чорненькай жвавай жанчынкай, якая павяла яе ў хату. Ганка напружана чакала, адчуваючы, як на яе руках у напружаным чаканьні замерла і малая. І праўда, неўзабаве абедзьве яны выйшлі з дзьвярэй – Волька наперадзе, а Барашкава ззаду. У абедзьвюх ручках Волька зважліва, з асьцярогай несла два чырвоныя яечкі; тварык яе зьзяў урачыстаю радасьцю. Падышоўшы да маці, адну ручку працягнула сястрыцы.

– На табе – Хрыстос уваскрос...

– Ай, малайчына! – сказала Хадоска. – Малая, а ведае, як трэба. Ну, што трэба сказаць? Што? – ласкава пыталася яна ў меншай.

Сьціснуўшы ў ручцы яечка, меншая маўчала, ня ведаючы яшчэ, як трэба адказаць.

– Дзякуй скажы, – падказала маці.

Не, усё ж яна не такая няшчасная – у яе ёсьць дзеці, яе адзіны набытак у жыцьці, адзінае шчасьце. Ужо гэтым шчасьцем яна не паступіцца, бо яе дзяўчынкі і ёсьць яна сама з яе лёсам. Не такім і горкім, калі падумаць. Калі побач заўсёды будуць дзяўчаткі.

Чалавек можа трывожыцца, можа жыць у лагодзе, а бяда пільнуе яго заўжды. Бяда ніколі ня сьпіць, часам дрэмле толькі, выбірае момант, каб уджаліць моцна і ў самае балгочае месца. Аб якім і ня думае чалавек.

Ганка, можа, першы раз за тое сьвяточнае раньне расслабілася, вольна ўздыхнула, ужо гатовая паверыць, што яна амаль шчасьлівая, як у двор уляцеў задыханы Выпаўзак. Наган свой ёп ужо схаваў, і той, відаць было, важка целяпаўся ў адтапыранай кішэні апоўзлага на боты галіфэ. Згледзеўшы, што бабы стаяць бяз працы, парторг адразу перасмыкнуў тварам, ягоная капыл-сківаца адвалілася для чарговага мату.

– Маць вашу – стаіце?

– Дык вазоў няма, – сказала Хадоска. – Мы што – у падолах панясём?

– Панесяце ў падолах! – зароў калгасны парторг. – Калі трэба будзе. А гэта – што? – раптам згледзеў ён у дзяўчынак нечаканыя падарункі. – Сьвяткаваць! Вазоў няма, а яйкі знайшліся? Каб падкупіць? Савецкую ўласьць не падкупіш! Дай сгоды! – крыкнуў ён да Волькі, і тая спалохана працягнула яму сваё чырвонае яечка. Схапіўшы яго, Выпаўзак з усяе сілы выцяў ім аб растрэсканую сьцяну хлеўчука. Затым бяз словаў вырваў яйка і ў меншай – таксама шпурлянуў аб сьцяну. Малое адразу залілося горкім, несуцешным плачам.

– Зьвер! – пруцянеючы, крыкнула Ганка. – Зьвер!

І пакуль ён намогся што сказаць жонцы ці, можа, вылаяцца, тая ўхапіла вілы і, не адчуваючы сябе, што было сілы ўдарыла Выпаўзка ў грудзі. Брудныя ад гною вілы надзіва лёгка ўтыркнуліся ў яго хударлявае цела, і парторг, адразу абвяўшы, моўчкі апоўз долу.

– Ой, ой, бабы! Яна ж забіла яго. Ой, божачка, што ж нам рабіць?.. – закрычала нейкая з баб, ды Ганка ня слухала яе. Падхапіўшы малодшую, яна ўзяла за руку старэйшую і пайшла прэч з падворку.

16-я брыгада 142-га лагпункту сістэмы Галоўпячорлага вярталася з тайгі ў лагер. Пастроеныя ў калону па тры жанчыны ледзьве брылі па ня надта ўтаптанай, добра прысыпанай сьнегам дарозе. Над бязьмежнай сьнегавой прасторай, ахінутай шэрым сутоньнем, вісела сьветлая

палярная ноч. За кароткі дзень брыгада ня ўправілася з заданьнем на лесапавале, таму начальства дало каманду прыхапіць частку ночы. Зэчкі выматаліся як мае быць. Нават канваіры, што дзьвюма групамі ішлі наперадзе і ззаду калоны, ня надта пакрыквалі – зьнемагліся ад крыку за дзень. Жанчыны брылі, бы прывідныя цені – моўчкі, бяз сіл, ішлі, каб толькі не спыніцца, ня ўпасьці. На што іншае сілы ў іх ужо не было. Канваіры ведалі тое і не дапякалі строгасьцю.

Шляху да баракаў заставалася няшмат, ужо самае цяжкое – і праца, і сьнег, і сьцюжа – на сёньня засталіся ззаду, наперадзе іх чакалі запаветныя пайкі і – сон. На падыходзе да лагера ўсе міжволі ажылі, канваіры звыкла прыкрыкнулі:

– Падцягніся! Не адставаць...

І тады аднекуль з задніх радоў выбрыла на абочыну перахлябістая жаночая постаць, збочыла з дарогі на сьнегавы прасьцяг. Капваір, што ішоў ззаду і назіраў за тым бокам калоны, амаль спалохана крыкнуў: «Стой, страляць буду!» і клацнуў затворам доўгай, са штыхом вінтоўкі. Ды зэчка бы ня чула яго. Правальваючыся па калена ў цаліку, яна кудысьці брыла і брыла, бы сонная, усё далей ад дарогі. Канваір таропка прыклаўся да вінтоўкі і стрэліў.

Стрэліў толькі адзін раз, і зэчка ўпала.

Калона ўраз спынілася, усе павярнуліся тварамі ў той бок, пазіралі, чакалі – зварухнецца ці не. Не, не зварухнулася, ня ўстала. Тады канваір пабег па цаліку да нерухомае постаці, спыніўся над ёй і штосьці крыкнуў да афіцэра, начальніка канвою. Той зласьліва, бы на вінаватага, пракрычаў свой загад.

Трохі счакаўшы, канваір узьняў віптоўку, павярнуў яе штыхом уніз і ўдарыў жанчыну – штыхом у грудзі. Пасьля ўдарыў яшчэ. Тая ня крыкнула, мусіць, ёй было ўсё роўна.

Даўно ўсё роўна.

## Труп

*Медыцынскае апавяданьне*

*Забойства чыняць усе - ад прыватных асобаў да дзяржаўных секурытатэ.*
*Але для ўсіх застаецца праблема трупа.*
*Адным удаецца яе вырашыць, іншым - не.*
*Во гэта і зьяўляецца прычынай такой цяжкавылечнай хваробы, як мазаічная псіхапатыя.*
***К.Юнг "Briefen", ст.247.***

Забойца ня быў прафесіяналам, ня быў і найманым кілерам. То быў звычайны, затурканы жыцьцём чалавек. Тое ж самае можна сказаць і пра забітага - нічога незвычайнага. Зрэшты, і адносіны між імі двума зьнешне былі амаль нармальныя, калі не лічыць даўняй, зацятай, чорнай нянавісьці. Нянавісьці забойцы да ягонай ахвяры. Што стала прычынай таго брутальнага пачуцьця, цяжка сказаць. Пэўна, на тое не адказаў бы і сам забойца. Можа, якія службовыя адносіны, можа, рознасьць характараў, а можа, і жанчына. Тое зусім верагодна - абыдва былі халасьцякі і жылі адзінока. Але, можа, таксама праклятыя баксы, якія ў тую пару шмат для каго сталі мэтай жыцьця. Тым ня менш нянавісьць забойцы была лютая, хоць і старанна схаваная. Нават і ад самога забойцы. Але вядома, што ад самога сябе гэткага пачуцьця нікому схаваць не ўдалося.

Сваю справу забойца зрабіў ціха і хутка - забіты нават не западозрыў таго, што яго могуць забіць. Тым болей здаўна знаёмы чалавек, амаль сябра. Усё ж разам вучыліся, разам працавалі. Раней нават былі ў сяброўстве. Тады пра забойства і ня думаў. Але во - давялося.

Усё адбылося на лецішчы. Забойца запрасіў сябра на чарку, яны выпілі, закусілі, чым Бог паслаў. І забойца стрэліў ахвяры ў патыліцу. Час быў асеньні, блізка на лецішчы нікога не было, ягонага стрэлу з старога

невялічкага браўнінга ніхто не пачуў. Як сьцямнелася, забойца вывез труп на тачцы ў канец пасёлка, куды скідвалі розны друз, і закідаў яго сьмецьцем. Забіты блізкіх родзічаў у горадзе ня меў, ніхто яго хутка шукаць ня будзе.

Таго вечару крыху пазьней, чым звычайна, забойца пайшоў на электрычку і паехаў у горад. Якраз пачаў церушыць дробны сьняжок, і забойца думаў: во і добра, ён зацярушыць сьляды забойства.

Тае начы ён спаў, можа, лепш за ўсе ранейшыя часы, калі яму дапякала нянавісьць. Цяпер нянавісьць зьнікла, і ён з палёгкай адчуў, што вызваліўся ад шматгадовага гнёту. Дзякаваць Богу. Сны яму тае начы сьніліся сьветлыя і лёгкія - луг, кветкі, сонца...

Ранкам, аднак, як ён зьбіраўся ў краму па кефір і цыгарэты, у кішані плашча намацаў пісталет. Добра ж памятаў, што кінуў яго ў сьметнік, да трупа. Аказалася - не. То быў ягоны браўнінг, ад якога яшчэ сьмярдзела порахам стрэлу.

Счакаўшы яшчэ гадзіну, забойца пайшоў на электрычку. Трэба было паглядзець дакладна, што ён там зрабіў учора. Можа, засталіся сьляды. Вядома ж, сьляды належала старанна прыбраць.

Найперш ён скіраваў збоч пасёлка да сьметніку. Куча разнастайнага сьмецьця там выглядала гэтаксама, як і ўчора, ніхто быццам яе не кратаў. Цяпер ён кінуў туды і пісталет. Трохі супакоены пайшоў да свайго лецішча. Але ўжо адчыняючы дзьверы, адчуў трывожлівы неспакой, бы тут хтось быў. А як увайшоў у пакой, ледзь не самлеў - на тым самым крэсьле, што і ўчора, сядзеў забіты. Не, ён ня быў жывы - ён пэўна ж быў мёртвы, з запечанай на патыліцы крывёй ад кулі. Як забойца дакрануўся да яго, дык ён з ціхім стукам бокам зваліўся на падлогу. Зь ім разам ад страху ледзьве не зваліўся забойца.

Што было рабіць далей, забойца ня ведаў. Колькі часу ён, скуты жахам, сядзеў на канапе. Добра, што блізка

нікога не было, ніхто да яго не пастукаў. Як у пасёлку сьцямнелася, ён пагрузіў труп у тачку і бакавымі сьцежкамі павёз да возера - утапіць. Ужо з вады ня выберацца. Каб ямчэй утапіўся, забойца паклаў труп у мех, наклаў яшчэ камянёў з недалёкай будоўлі, мех завязаў алюмініевым дротам. Ужо так не павінны ўсплысьці.

Зноў ніхто яму не спаткаўся. У шэрых прыцемках раньняга вечару ён укінуў у ваду свой цяжкаваты мех, а разам і тачку. Хай прападае... На лецішча ўжо не пайшоў - пайшоў напрасткі да электрычкі і паехаў у горад.

У кватэры было ціха і спакойна, але на душы - дужа кепска. Усё ж, мусіць, нячаста здараецца, каб труп ажывеў і прыйшоў на месца забойства. Іншая справа - забойца, якога, кажуць, заўсягды цягне на тое самае мейсца. Ці ён меў справу зь незвычайным чалавекам? Зь якім ваўкалакам, чарадзеем, цмокам?

Гэтае начы сны ў забойцы былі цяжкія, трывожныя. Ён ня мог выбрацца зь нейкага балота і да ранку цялёпаўся ў соннае багне. Задоўга да сьвітаньня, з палёгкай прачнуўся, сьцяміўшы, што усё тое - сон. Але і ява ня стала лягчэйшаю. Труп яго прыгнятаў, трывожыў, маркоціў і пагражаў. Трохі супакойвала возера, глыбокая вада. Зранку браўся марозік, трава на падворку ляжала ў шэрані. Возера, пэўна, замерзла. Ужо з-пад лёду наўрад ці магчыма выбрацца. Нават жывы, а ня толькі зь дзіркай у патыліцы, сумна цешыў сябе забойца.

Два дні ён ня езьдзіў на лецішча, ня мог нават думаць пра яго. Увечары спрабаваў уключыць тэлевізар, але хутка выключыў. Паказвалі вайну ў Чачэніі і там гэткія самыя трупы. Шмат трупаў. Мабыць, як і кожны забойца, трупаў ён проста ня мог бачыць. Ды ўсё бачылася, як ён ляжыць там пад вадой у мутнай вадзе, а побач плаваюць рыбкі... На трэці дзень не стрываў, паехаў да возера.

Возера зь берагоў узялося маладым лядком, праз які

нічога не было бачна. Бераг скрозь быў пусты. І тое крыху супакоіла забойцу. Што ж, думаў ён, мабыць, справа ўрэшце зроблена. Можна было і расслабіцца.

І праўда, трохі супакоены ён заехаў на лецішча, зазірнуў у пакой - ля стала нікога не было. Пуста было і на кухні. Яшчэ болей супакоены, амаль узрадаваны вярнуўся ў горад. Той вечар упершыню за колькі дзён добра павячэраў і нават кульнуў чарачку каньяку. Мабыць, ён неяк выкручваўся з свае нечаканай нявыкруткі. Забіў - і канцы ў ваду, як сьведчыць прымаўка. Усё ж трапная яна - народная мудрасьць.

Уначы яму нічога ня сьнілася, значыць, спаў добра. А назаўтра вырашыў, што трэба зьездзіць у замежжа, трохі праветрыцца на дэмакратычным ветры. А то надта ўжо сьмярдзела ў гэтай краіне таталітарызмам. Баксаў у яго трохі назьбіралася - намяняў з часу дэфолту. Зноў жа за гэтыя дні ён дужа натузаўся з свайго клопату, і цяпер з задавальненьнем займаўся іншым: набываў білет, доўга стаяў у чарзе ў кансулаце, запаўняў анкеты. Нават адчуў прыемнасьць, што сярод мноства пытаньняў у выязной анкеце не было пытаньня пра забойства, а то б давялося адмовіцца ад паездкі. А так усё - а-кей! Ужо ў прыцемку амаль шчасьлівы і супакоены прыцягнуўся дадому, падняўся на свой шосты паверх. І аслупянеў. Ногі яго падамлелі, і ён, каб ня ўпасьці, ухапіўся за сьцяну. Пад ababітымі дэрманцінам дзьвярыма стаяў знаёмы, завязаны белым дротам мех.

Сьпярша забойца хацеў уцячы, але куды ўцячэш ад уласнай кватэры? Зноў жа, можа, мех ужо бачылі суседзі? Якраз у той час з суседняй кватэры выглянуў стары пэнсіянэр, і забойца папытаўся: хто прынёс той мех? Ды пэнсіянэр ня бачыў нічога. Але сказаў, што калі стаіць пад ягонымі дзьвярыма, дык, мабыць жа, належыць яму, так зразумеў пэнсіянэр. Што ж, зразумеў правільна, падумаў забойца. Каб ты прапаў са сваёй кемлівасьцю...

Што было рабіць, апроч як уцягнуць мех у кватэру. Там ён нават не спрабаваў яго разьвязаць - ён ужо ўяўляў,

што там можна было ўбачыць. Пасьля забойства мінула дзён дзесяць часу. Праўда, у возеры, мабыць, як у лядоўні, але ж... Добра, што яшчэ не сьмярдзела.

Ледзьве дачакаўшыся наступнага дня, ён выскачыў з кватэры, як сьлед нават не сабраўшыся ў дарогу (забыўся ўзяць брытву, зубную шчотку). Паехаў на вакзал. Ён ужо наважыўся не вяртацца ў гэты горад і нават у гэтую краіну - прасіць палітычнага прытулку на Захадзе. Бо ўрэшце ж, мусіць, ягоны труп знойдуць, што тады будзе? Пракурорская справа, следчыя па асабліва важных злачынствах, патрабаваньне экстрадыцыі... Жах, што яго можа чакаць наперадзе. Але іншага паратунку цяпер ён ня бачыў.

Абы толькі выбавіцца з краіны.

У вагоне з новымі трохпавярховымі купэ было даволі свабодна - бо не сезон ды і накірунак гэты ня дужа папулярны для паездак з усходу. Забойца як заняў сваё мейсца, так і сядзеў пры століку, пакуль не заламіла ў паясьніцы. Але во мяжа - і пачалося: то дэкларацыі, то пашпарты. У купэ прыйшоў пажылы мытнік: ці ўся валюта ўказаная ў дэкларацыі? Уся, сказаў забойца, падумаўшы, так я вам і скажу праўду. За ім расчыніў дзьверы задзірысты малады прапаршчык: прашу пашпарт і выйдзіце ў калідор. Ён выйшаў, стаў ля вакна, і тут жа з купэ прагучала пытаньне: чый труп? - Які труп? - Хто яшчэ з вамі едзе? - Ніхто быццам. - Значыць, труп ваш? - Не, ня мой, - схлусіў белы, бы палатніна забойца.

Памежнік выклікаў па радыётэлефоне падмогу, зьявілася аж чалавек пяць. І сярод іх адзін таўсты і, мабыць, як усе таўстыя, дабрадушны дзядзька ў пагонах. Забойца падумаў, што зараз на яго надзенуць кайданкі, а яны ўладкаваліся ў купэ запаўняць нейкія бланкі. А як запоўнілі ў трох экзэмплярах, таўсты сказаў: з вас семнаццаць баксаў у эквіваленце. Забойца ня стаў ні пытацца, ні аспрэчваць - аддаў ім семнаццаць даляраў, і яны вымеліся. Пасьля зазірнуў у паперку - то аказаўся сертыфікат трупа пад нумарам 000653. Забойца ня ведаў, што рабіць далей. На стале ляжаў

сертыфікат, а ў багажнай скрыні пад ім - ягоны мех з трупам. Ці гэты мех належала цяпер прад'явіць пры ўездзе (як, скажам, залаты гадзіньнік), ці чакаць арышту? І ён падумаў, што лепей за ўсё труп выкінуць ноччу. Ужо тут, мабыць, яго ня знойдуць. Тут замежжа, і мяжа на замку.

Так ён і зрабіў. Недзе пад самы глухі час начы, як усе ў вагоне паснулі, забойца вывалак труп у тамбур і, адчыніўшы вагонныя дзьверы, даў таму злоснага высьпятку. Мясьціна якраз аказалася пустэльнай - хвойкі, лясок, і ягоны труп зьнік у цемрыве ночы.

Астатні адрэзак шляху мінуў без прыгодаў. Забойца нават трохі заснуў пад ранак. А ранкам прачнуўся ўжо на іншай зямлі зь яе прывабнымі для душы капкантрастамі. Але забойца нядоўга хадзіў па вуліцах, шыкоўныя вітрыны і людзі пачалі яго раздражняць, і ён пайшоў у гатэль - першы, які трапіўся яму на вочы. Атрымаўшы ключ, адразу зашыўся ў цесным нумарку, выцяг з сумкі бутэльку "Сталічнай" і з насалодай аддаўся адзіноце. Найперш прыняў душ, разабраў пасьцелю і ўключыў тэлевізар. Ды яшчэ ня выбраў, на якім канале спыніцца, як зазваніў тэлефон. Парцье штось яму гаманіў на незразумелай мове тубыльцаў, але ён сьцяміў, што хтосьці да яго мае справу.

Забойца таропка пачаў нацягваць на сябе нагавіцы, і якраз у той час у дзьверы пастукалі. Як ён адчыніў, найперш убачыў перад сабой двух служыцеляў у форменных фуражках, якія ўкацілі ў нумар лёгкую цялежку, - на цялежцы ляжала невялікая плястыкавая труна прыгожага вішнёвага колеру. Забойца, як быў у нагавіцах, так і апусьціўся на мяккі ворс долу. Тое, аднак, не зрабіла ніякага ўражаньня на мулатаў-служыцеляў, якія тыцкалі яму пад нос стос папераў і штосьці талдычылі. На верхняй паперчыне у самым нізе значыўся нейкі таталь - 1875 даляраў. У абсалютным узрушэньні ён выцяг з сумкі дваццаць соценных асігнацыяў, і радасныя служыцелі зьніклі. А ён застаўся адзін на адзін з шыкоўнаю плястыкавай дамавінай і няўцямна сядзеў на ложку. Ён не адважваўся нават

адшчапіць яе блішчастых зашчэпак, ужо ня меў сілы. Апроч іншага пачала палохаць праблема грошай, столькі адваліць баксаў - за што? Ды забіты і жыўцом столькі ня быў варты - гэты хворы, бяззубы пэнсіянэр. А тут амаль дзьве тысячы баксаў, па беларускім курсе - больш за мільён рублёў. Ён палічыў тое, што засталося ў кашальку, - ці хопіць хоць на білет дадому. Заставацца ў гэтай краіне абдзіралаў яму ўжо расхацелася, і ён з замілаваньнем прыпамятаў айчынных памежнікаў, якія ўзялі за труп па-боску. І нават выдалі сертыфікат. А гэтыя што - мерсі, данке, цэнк'ю...

Не, трэба ўцякаць дадому. Тым болей, калі гэтую надаеду-труп пакінуць у гатэлі. Разьлічыцца за нумар у яго ўжо не было чым. З улікам тых, што прывёз у нагавіцах, добра калі наберацца на чыгуначны білет. Пакінуўшы ў гатэлі сумку, ён леным крокам, быццам на шпацырак, утуліўшы галаву ў каўнер, прайшоў паўз парцье і адразу скіраваў на вакзал.

З мейсцамі ў цягніку праблемаў ня было. Хоць на той раз дамоў ехала болей і купэ было цесна застаўлена хатулямі. І ён парадаваўся, што для трупа тут проста не было мейсца. Калі што - хай падкладваюць куды ў іншае купэ ці нават у другі цягнік - ён у прэтэнзіі ня будзе. Добра, што ў гатэлі, запісваючы сваё імя, ён прадбачліва ўтаіў грамадзянства, напісаў - харват. Так, на ўсякі выпадак. Усё ж ён быў патрыёт, і калі што якое - не хацеў ганьбіць дзяржаву. Хай цяпер шукаюць забойцу ў Харватыі, мабыць, там іх хапае.

На межах таксама асаблівых праблемаў ня сталася. Сертыфікату ён не паказваў і таго ніхто не патрабаваў. Можа, пра труп памежнікі забыліся, ці ня ўнесьлі ў кампутар, або ўнесьлі ды ня ў той кампутар. А той, можа, скралі апазыцыянеры ці прапілі ўпёртыя прапаршчыкі. Забойца павесялеў. Ён нават перастаў адчуваць сябе забойцам - адчуваў нароўні з усімі. У канцы дарогі нават паспрачаўся з маладым суседам, хто горшы - Гарбачоў, што разваліў партыю, ці Ельцын, што разваліў Саюз. Сышліся на тым, што Лука - самы адпаведны. Тут забойца змоўчаў - то была слізкая для

яго тэма.

З вакзалу ішоў улегцы і пехатой - грошай не было нават на метро. Але во і яго дом, трэці пад'езд. З хваляваньнем, поўным мілага пачуцьця, прыехаў на ліфце на свой шосты паверх.

Нейкая дзіўная нечаканка сталася з замкамі - ня мог адчыніць. Спрабаваў і адным ключом, і другім, калі сьцяміў, што дзьверы зачынены знутры. Тады ж спалохаўся і пазваніў. І зноў, як у гатэлі, ледзьве не ўпаў на падлогу - перад ім у паўзмроку расчыненых дзьвярэй стаяў яго труп. Цёмны, скурчаны, бы ссохлы і зьменшаны ў памерах, але пэўна знаёмы яго забіты.

- Ты што? - толькі і здолеў выціснуць з сябе забойца.

- Ды нішто. Цяпер будзем удвох, - нейкім скрыпучым, бы грамафонным голасам вымавіў труп. - Назаўжды.

- Дык жа нязручна! - крыўдліва прасіпеў забойца.

- Што зробіш! - адказаў труп. - Затое разам...

Што ж, падумаў забойца. Мабыць, нічога ўжо ня зробіш. Прыйдзецца жыць з трупам. Калі не схацеў з жывым...

## Бутэльчына, альбо прэзідэнт на дрэве

Яхім Памазок – ветэран ВАВ і калгасны качагар па сумяшчальніцтве. Ягоная жонка Кацярына доўга рабіла ў калгасе даяркай, зарабіла паўкілё металёвых узнагародаў на грудзі і звалася майстрам машыннага даеньня. Яхім, што прынёс з вайны ўсяго адзін ордэн, вядома ж, зайздросьціў жонцы і хацеў, каб яго звалі майстрам цэнтральнага ацяпленьня. Званьне тое, аднак, не прышчапілася да Памазка, можа, з тае прычыны, што быў ён сьпец іншае справы, пра якую не любіў казаць. Але ён стараўся. У партыі браў удзел амаль пяцьдзесят год, часам актыўнічаў, аднойчы нават абіраўся ў раённы савет, ды няўдала. Сябры суцяшалі:

яшчэ ня вечар. З тваімі заслугамі напэўна можна дачакацца лепшага – вунь колькі старых бздуноў сядзяць дэпутатамі, чым ты за іх горшы?

Той дзень яны трохі прыкладаліся да чарговай бутэльчыны – там жа, у качагарцы на сконе дня. Замурзаную бутэльчыну прынёс маладзейшы Яхімаў напарнік Юрка Дзядзенка, нядаўні механізатар, якому трактар вясной пераехаў нагу, і ён рабіў у качагарцы. Зрэшты, як заўжды, галоўны Юркаў клопат палягаў наконт выпіўкі. Гэтую бутэльчыну ён перахапіў у знаёмага хлапца з «Сельгастэхнікі», які ў сваю чаргу прывёз яе ад адной бабкі з хутару, дзе тая гнала адмысловае па тым часе пітво. Усе, каму давялося паспытаць яго, казалі: бярэ, бы зьвер. У качагарцы тае прадукцыі яшчэ не каштавалі.

Не пасьпелі дружбакі выцягнуць з бутэльчыны куртаты, нібы абгрызены, папяровы корак, як у кацельнае сутарэньне ўвапхнуўся трэці сабутэльнік – былы аграном Ладуцька. Гэты меў даўно адпрацаваны ў такіх выпадках нюх і не пудлаваў ніколі. Часам сябры былі ня супраць ягонага ўдзелу (калі выпівону хапала), часам наракалі – калі таго было мала, але заўсёды дзяліліся па-справядлівасьці. Той раз бутэльчына выдалася нішто сабе – большая за паўлітра, а што да яе зьмесьціва, дык спрактыкаваныя пітакі вызначылі адразу. Ладуцька аж скалануўся ад задавальненьня: ай, халера, бярэ! Бярэ, пацьвердзіў і Памазок, глыкнуўшы з заскарузлай ад бруду шклянкі. Па чарзе выпілі ўтрох, закусілі цыбулінай з салам ды абкрышаным кавалкам хлеба. Большага ім і ня трэба было – галоўнае выпіць ды закурыць. Натуральна, не марудзячы, выпілі і яшчэ, а затым дадалі. Менавіта тады ў зачыненыя на крук дзьверы качагаркі пастукалі – моцна, патрабавальна, як гэта звычайна рабіла хіба Памазкова жонка або хто з начальства. Кампанія сьпярша прыціхла, а пасьля Памазок падняўся. Паводле нейкіх толькі яму вядомых прыкметаў ён сьцяміў, што то ня жонка і ўжо не старшыня – хтось іншы.

І праўда, то была паштарка Рыбакова Анюта, якая з

парогу сунула Яхіму пакамечаны, са сьнежнай крупкай блакнот – тэлеграма вам, расьпішыцеся.

Дрыготкай рукой Памазок крамзануў сваё прозьвішча і разгарнуў аркушык тэлеграмы. Міжнародная, аднак, значылася буйна ўгары, а ўнізе быў нейкі тэкст, які Яхім ня мог прачытаць без акуляраў і аддаў маладзейшаму Юрку. Той моўчкі прачытаў і, дзіўна якочучы, бокам паваліўся з табурэткі на падлогу. Памазок няўцямна пазіраў на яго. Паперыну ўзяў Ладуцька. Маё віншаваньне, маё віншаваньне, замармытаў ён і аж крыкнуў: «Юрка, кроў з носу бутэльку!» – «Але што?» – няўцямна ўтаропіўся ў яго Яхім. «Што? А во што, чытаю: «Містэру Памазку Яхіму Найвышэйшы дзяржаўны савет дэмакратычнай рэспублікі Памазоніі віншуе вашую вялікасьць з абраньнем на высокую пасаду прэзідэнта рэспублікі Памазоніі якую належыць заняць 22 лістапада білет авіякампаніі Люфтганза да шчасьлівага спатканьня подпіс найвышэйшы савет».

Памазок зьняможана апусьціўся на абабітую цыратай табурэтку, ён не разумеў нічога: «Каго? Мяне? Якім прэзідэнтам? Якой Памазоніі?» «Цябе, цябе, ось жа напісана», – тыцкаў яму тэлеграмай у твар Ладуцька. Юрка Дзядзенка, ад’енчыўшы сваё, сеў роўна на лаўцы і высалапіў ад зьдзіўленьня вочы, бы ўпершыню ўбачыў напарніка, які ўсё паўтараў няўцямна: «Я – прэзідэнт?» – «Ты, ты, ось жа напісана. Юрка, бягом за бутэльчынай», – камандаваў былы аграном.

І праўда, Дзядзенка паслухмяна падыбаў на сваёй кульбе да дзьвярэй, а Памазок усё ня мог чагосьці зразумець. Найперш ці не правакацыя тое, арганізаваная міжнародным імперыялізмам або сусьветным сіянізмам? І дзе тая Памазонія, якой ён ніколі ня чуў нават, што за краіна? Добра, калі сацыялістычная, а калі... І чаму яго ў прэзідэнты, ці ён прасіўся? Найперш карцела паслаць усіх на тры літары ды вярнуцца да таго, што было. А было няблага, яны спакойна выпівалі... Але ж Юрка пайшоў па гарэлку, мабыць, нягожа падводзіць сяброў, гарачыцца, лепей узважыць усё як мае быць. «Во і добра, што тады цябе ў

райсавет пракацілі», – сказаў Ладуцька. «Чаму гэта – добра? – зьдзівіўся Памазок. – Няварты ці што?» – «Варты, варты, але тады б прэзідэнтам ня стаў. А так – прэзідэнт, віншую», – амаль лісьліва мовіў Ладуцька. А й напраўду, падумаў Яхім, нашто адмаўляцца? Калі што, качагарка ад яго не ўцячэ. А там, можа, хоць дзяшовую іншамарку прыдбаць, а то заяц ужо воўкам глядзіць, яшчэ дачку кіне. Але ж – жонка, раптам задумаўся Яхім, як яна да таго паставіцца? Прэзідэнтша ж...

Яго клопатны роздум перапыніў Дзядзенка, які, канешне ж, прынёс і бутэльчыну. А з ім у качагарку напхнулася і яшчэ выпівохаў розных узростаў – ужо ўсе ведалі Памазкову навіну і прагнулі яе абмыць. У кацельні стала цесна ад людзей, якія абступілі Яхіма. Кожны стараўся павіншаваць ці хоць пахваліць, а то і даць параду: «Ну, пашэньціла чалавеку! Памазок там навядзе парадак! Слухай, ты там адразу – дэмакрацію к ногцю! Калі што – мы на падмогу. Але ўжо там пап’еш гарэлачкі...»

Памазок усьмешыста маўчаў, яму ўжо не цікава стала размаўляць з гэтымі людзьмі і адказваць на іхнія досьціпы. Галоўнае – ён паверыў у сваю ўдачу і амаль пераканаў сябе, што ўсё правільна. Іначай і не магло быць. Ён – прэзідэнт рэспублікі Памазоніі, пэўна ж, высакаразьвітай, не якой-небудзь адсталай краіны. Адсталая краіна яго прэзідэнтам не выбірала б. Канешне, ён там ня быў, але не сказаць, што зусім незнаёмы з «капстранамі» – калісь у вайну браў Берлін і нават адзін раз пераспаў у мокрым шынялі на іхняй пярыне. Нічога асаблівага. Праўда, тады ён быў радавы, не сяржант нават, а тут – адразу ў прэзідэнты. Граматы меў няшмат – сем класаў, але павінна хапіць. Расьпісацца ўмеў прыстойна, асабліва калі пакласьці локці на стол, а для прэзідэнта тое, мабыць, галоўнае.

І тут ён здагадаўся, чаму ў прэзідэнты Памазоніі абралі менавіта яго. Уся справа ў прозьвішчы. Ці не паходзяць ягоныя продкі Памазкі з тае Памазоніі? Добра ж вядома, што заўсёды і ўсюды цягнуць сваіх людзей – хоць з калгаса ў раён ці з раёну ў сталіцу. Гэтак і ў

іншую краіну. Калі так, дык ўсё зразумела і, мабыць, законна. Няма пра што турбавацца.У той дзень надвячоркам ён ужо не пайшоў у качагарку, на ягонай зьмене яго падмяніў напарнік. Рана ўстаўшы назаўтра, пачаў рыхтавацца ў дарогу. Найперш аднёс у майстэрню боты. Боты, канешне, ня новыя, але калі падбіць падмёткі, дык яшчэ паслужаць і ў той Памазоніі. Па дарозе зайшоў у цырульню. Увогуле падстрыгаць не было чаго – даўно ўжо ад ілба да патыліцы пралягала шырокая лысіна, ды ўсё ж... Калі стаў прэзідэнтам, дык хацеў выглядаць адпаведна. Мабыць, у дарогу трэба было б мець які чамаданчык, ды ў местачковых «Таварах паўсядзённага попыту» чамаданаў не было. Давялося пазычыць невялічкі куфэрак у Сьцяпаніхі, які застаўся ад зяця, што калісь зьбег ад дачкі на БАМ. Спрытны куртаценькі гальштук пазычыў у агранома – казалі, бяз гальштука там будзе нягожа. Можа, і праўда. З жонкай сталася горш – два дні сварыўся. Сьпярша ягоная Кацярына была катэгарычна супраць, каб ён куды ехаў, а пасьля, заплакаўшы, заявіла: і я з табой. Яхім стаяў на сваім: паеду адзін. А як абжывуся, тады паклічу цябе. «Чорта ты паклічаш, там сабе маладзейшую знойдзеш...» Ледзьве адчапіўся ад жонкі.

Праводзілі прэзідэнта Памазоніі сьціпла і непрыкметна. Купка дружбакоў прыйшла на засьнежаны аўтобусны прыпынак, куды ён прыпёрся за паўгадзіны раней часу. Ззаду ішла сплаканая жонка, усё бубніла сваё: «Ну паглядзіце, здурнеў стары. Ну куды ён прэцца?» – «Ладна, ня плач, прэзідэнтшай будзеш», – суцяшаў яе Ладуцька, які трымаўся ля сябра неяк дужа блізка і сардэчна, быццам што хацеў сказаць асаблівае. Ён і сказаў, як Кацярына адвярнулася: «Можа, там, гэта, і мяне куды... Каб па аграрнай часьці. А то тут, ведаеш... Памазгуй, Яхімка». Яго перапыніў Юрка Дзядзенка, які прыстыргікаў на прыпынак, канешне, не з пустымі рукамі. «Трэба аглаблёвую!» – прапанаваў ён, адкаркоўваючы бутэльку, якую спаважна перадаў напарніку-прэзідэнту. Той трохі выпіў, затым выпілі Дзядзенка, Ладуцька, абодва браты Целяпенчыкі і напасьледак да бутэлькі прыклалася заплаканая

Кацярына. Тады і перастала плакаць. Тут якраз падкаціў аўтобус. «Ну – пакеда, чакайце на госьці», – махнуў з аўтобусных дзьвярэй Памазок. Невялічкая грамадка засмучаных землякоў засталася на аўтобусным прыпынку.

Як ён ехаў аўтобусам да станцыі, пасьля цягніком да Масквы і там праходзіў доўгую шаталомную працэдуру ў міжнародным аэрапорце – мала што запомніў, усё нібы плыў у разрэжаным алкагольным тумане, хаця і быў цьвярозы, бы шкельца. Ды так сталася, што ўсё было ня ў знак, – ішоў не туды, рабіў ня так і ня тое. Яго раз за разам асаджалі і тузалі, нават лаяліся – усе гэтыя міліцыянеры, жанчыны з пагонамі і нават дзяўчаткі, зусім лагодныя з выгляду, але што да яго, дык з яўна металічнымі позіркамі. Яму так і карцела абурыцца, сказаць ім, хто ён і куды едзе. Ды ўсё ж чалавек ён быў сьціплы, асабліва сярод незнаёмых людзей, і трываў. Трохі ачомаўся толькі ў самалёце, як мілае дзяўчо ласкава папыталася, што ён будзе піць? Ён зірнуў на стос бутэлек у калясцы і ткнуў заскарузлым ад торфабрыкету пальцам у самую знаёмую – во гэта. Дзяўчо наліла з напарстак «Сталічнай», і тады Памазок, можа, упершыню схамянуўся – а ці туды ён едзе. Калі выпіць даюць – курам на сьмех!

У самалёце ён хутка заснуў лёгкім сном праўдзіўца, ня грэшніка, ведама ж нямала натузаўшыся ў дарозе. Прачнуўся, як падкацілі каляску з харчам, ды столькі, што ледзьве зьмясьцілася ўсё на маленькім адкідным століку. Тады зноў далі выпіць – паўшклянкі кіслага віна, якое ён не ўзлюбіў з часоў дружбы з братушкамі. А во ягонаму суседу – выгалястаму буржую ў стракатым пінжаку, налілі чагось, пэўна, мацнейшага, а пасьля і яшчэ дабавілі. Памазку таксама захацелася такога, але ён ня ведаў, як папытацца, і трываў. Хай, думаў, дацягну да Памазоніі, а ўжо там...

Самалёт ішоў над аблокамі, унізе, мяркуючы па ўсім, быў акіян, глядзець там не было на што, і ён зноў заснуў. А як прачнуўся, дык аж спалохаўся, што спозьніцца – усе паўскоквалі з месцаў, пачалі цягнуць

свае валізкі, апратку, – мабыць, прыехалі. Па гучнай сувязі ў самалёце пра штось аб’яўлялі, але хіба зразумееш, пра што? І тады Памазок падумаў: ці знойдзецца хто ў Памазоніі, каб разумеў па-нашаму? Але наўрад. Калі ўжо ў Менску мала хто разумее, дык чаго чакаць у заморскай краіне. Гэта яго пачало турбаваць.

Дарма, аднак, тое яго турбавала – ужо на першай паліцэйскай загародцы, нават не запытаўшыся, яго пазналі, і два маладыя, дбайна апранутыя чалавекі кудысь павялі праз агромністы гаманкі аэрапорт. Як толькі выйшлі на сьпякотную вуліцу пад шэрагам высачэнных пальмаў, падкаціў даўгі аўтамабіль, і тыя паслужліва расчынілі дзьверы – сядай, пан прэзідэнт. Ён і сеў. Пасьля селі яны – адзін наперадзе, другі, што нёс ягоны перавязаны дзяжкай куфэрак, побач. Як яны ехалі, Памазок ва ўсе бакі круціў галавой, дужа яму тут было цікава. Людзей на вуліцах сноўдала процьма – белых, чорных і нейкіх невялічкіх жаўтлявых, міма праносіліся статкі аўтамабіляў, і тут, і там стаялі купкі плячыстых «гарылаў» у камуфляжнай форме жабінага колеру. Што шмат паліцэйскіх, Памазку спадабалася: значыць, будзе парадак у ягонай Памазоніі, такі ж, як і ў Беларусі. Хіба палкі ў гэтых былі надта кароценькія, ня тое, што ў беларускіх – трэ будзе падоўжыць, пачаў уваходзіць у дзяржаўны клопат новы прэзідэнт. Ён спрабаваў загаварыць з канваірамі, але абодва маўчалі, бы нямкі. Тады і ён змоўк, падумаўшы: можа, яны саромеюцца яго, бо ўсё ж маладзейшыя, а ён стары, ды не абы-хто – прэзідэнт!

Яны доўга ехалі па зіхоткіх ад шыльдаў вуліцах невядомага гораду, затым праз нейкі дзівосны лес з велізарнымі, проста гіганцкімі дрэвамі. Гэткіх сукаватых дрэваў не расло на Памазковай радзіме, у густое суччa ўгары не прабівала нават яркае сьвятло фараў. А як аўтамабіль спыніўся, зьдзіўленьню Памазка не было мяжы. Сярод лесу ярка асьветлены электрычнасьцю раскашаваў палац. Чырвоная жвіровая дарожка, шырокія прыступкі і над імі калоны. Бог ты мой, якія гэта калоны – белыя і таўшчэзныя, з

пакручастымі загагулінамі на вяршках, якія нібы ўкручваліся ў прыцьмелае неба. Задраўшы ад захапленьня голаў, Памазок аж спыніўся, але да яго штось гукнуў той, што ішоў ззаду, і ён подбегам дагнаў пярэдняга, які ўжо расчыняў высачэзныя дзьверы ў палац.

Усё тут наскрозь было заліта электрычнасьцю, чырванела дыванамі ў доле. На ягоным шляху маўклівымі слупамі стаялі нейкія людзі, у чорным і камуфляжы, па безьлічы новых прыступак яго павялі ўгору. Сьпярша ён пачаў лічыць тыя прыступкі, налічыў пяцьдзесят і кінуў. Затым яны кудысь шпарка ішлі праз пакоі і па калідорах, цемнаватых і сьвятлейшых, і ўрэшце, як ён зразумеў, прыйшлі. То быў вялізны, бы вакзальны, пакой з бліскучастым і сьлізкім паркетам, на сярэдзіне якога блішчэў бакамі нейкі агромністы шкляны каўпак. У прыцемках прыгледзеўшыся да яго, Памазок зразумеў, што пад каўпаком ложак. Вялізны шырокі ложак з бялізнай, на якім ці не яму сёньня спаць? Абодва ягоныя канваіры дзесь зьніклі, замест іх зьявілася чорненькая жанчынка з дужа белымі зубкамі і ў белым фартушку. Яна паставіла на столік пры каўпаку блішчасты падносік і, усьміхнуўшыся, выйшла. Памазок адразу пацікавіўся, што на падносе, – але нічога здатнага ня ўбачыў. Пара нейкіх зялёных фруктаў, шклянка жоўтага соку, малако ў кубку і ўсё. Ні чарчыны, ні бутэльчыны. Скупыя, аднак, людзі ў гэтай Памазоніі, падумаў прэзідэнт. Хаця не сказаць, каб бедныя.

Трохі патупаў з кутка ў куток гэтай стадолы, паслухаў цішыню. Абышоў вакол каўпака, пастукаў пальцам па ягоным шкле – тоўстае халера. І навошта? Ніхто болей да яго не заходзіў, і прэзідэнт, памарудзіўшы, сьцягнуў з ног боты. Спаць – ведаў з часоў даўняй салдатчыны – было заўсёды найлепшым выйсьцем. Як у вайну, так і ў міры.

Прачнуўся, мусіць, зарана, вылез з-пад каўпака, сеў у крэсла і сядзеў. Чакаў. Скрозь было ціха, чуваць толькі, як за акном у гольлі дрэваў шугалі птушкі, акурат як у

садку за качагаркай – сініцы. Тады ён пайшоў шукаць месца, дзе можна б справіць сваю патрэбу. Тыцнуўся ў адны дзьверы – зачыненыя, у другія – таксама. Тады знайшоў трэція, адразу, як адчыніў іх, навакол пыхнула сьвятлом, ярка высьвеціла ўсё, і Бог ты мой, што ён згледзеў! Думаў – туалет, а тут аказалася адмысловая туалетная зала, усе сьцены і столь – бялюткія і люстраныя, як і ванны ды розныя ракавіны і ўнітазы. Шмат што навакол аздоблена золатам, невядомага начыньня – бы ў кабінеце зубнога доктара. Ён дакрануўся да аднае кнопкі, ды аднізу як плясьне ў твар – аж вылаяўся, падумаўшы, аднак, што, мабыць, гэтак нягожа. Напалохаўшыся, адразу падаўся да выхаду. Падумаў, можа, дзе знойдзецца болей звыклае месца, тут пэцкаць што ў яго не хапіла адвагі.

Як ён вярнуўся да свайго каўпака, зноў расчыніліся нейкія дзьверы і ў пакой увайшла мажная белая жанчына – зноў з маленькім падносікам у руках. Штосьбуркнуўшы, яна паставіла падносік на месца ўчарашняга, які ўзяла з сабой. Наважыўшыся, Памазок пастукаў па баку каўпака –навошта гэта? Думаў, не зразумее, аж зразумела і сказала: пук-пук ноу. І ўсьміхнулася. Надзіва і Памазок зразумеў: то ад куляў, а ён думаў... Але што з таго вынікае?

Трохі азадачаны, падышоў да свайго сняданку – зноў высокая шклянка соку, нешта цёплае ў малюпасенькім чайнічку, скрылёчкі сыру і маленькая булачка. Выпіць жа зноў не было ні кроплі.

Не пасьпеў ён падумаць, што зьесьці, як расчыніліся дзьверы і ў пакой шпарка ўвайшлі яго ўчарашнія маладыя канваіры. Адзін з іх моўчкі, але выразна кіўнуў на дзьверы. «З куфрам?» – папытаўся Памазок, паказваючы на свой пакінуты пры ложку багаж. Той крутнуў галавой – значыць, без багажу, зразумеў Памазок і падняўся.

На гэты раз яны нікуды не паехалі, толькі ішлі доўгімі калідорамі – быццам у другі канец палацу, дзе зноў апынуліся нібыта ў больніцы – усё тут было гэткае белае і сьветлае. Наўкола зьзялі нейкія прыборы, крэслы,

люстэркі. Людзі, пераважна жанчыны, былі апранутыя ў белыя зграбныя халацікі. Заўважыўшы ягоны зьбянтэжаны выгляд, адна, дужа белазубая, мовіла: імідж, імідж, ды ён не зразумеў – які імідж? Але яго прымусілі распрануцца ў дужа шыкоўным і вялікім прылазьніку, і як толькі ён, голы, пераступіў парожак, яго тут жа абдало сьцюдзёным струменем зьверху. Скалануўшыся ад нечаканасьці, ён не адразу знайшоў што пакруціць, каб пацэпліць ваду. Неяк абмыўся збольшага, праклінаючы, аднак, гэты залішні шык. Але разумеў, канешне, што, мабыць, так трэба, што гэта – ня дома. Ды і ён не качагар. Усё ж – прэзідэнт.

Як памыўся, распараны, надзеў на сябе белы тоўсты халат, што вісеў на залачонай вешалцы побач, і выйшаў. Тут яго зноў абступілі жанчыны, усе ў чысьценькім белым, нібы даяркі. І, адвёўшы ў надзвычай сьветлы кабінет, пасадзілі ў крэсла. З усіх бакоў зьзялі люстэркі, і з іх ашаломлена пазірала ягоная аздаба. Жанчыны пачалі штось абмяркоўваць, як ён здагадаўся, – ягоны выгляд. Ён і сам з цікавасьцю паглядзеў на сябе. Канешне, не маладзён, зашмат зморшчын на цёмным, нібы апечаным твары дый выгляд надта заклапочаны, бы вінаваты. Але што зробіш? Найперш узяліся за яго парэпаныя ў качагарцы рукі, паклалі іх на бялюткія сурвэткі, дзе мазалі, мачылі і церлі. Мабыць, кепска, аднак, адціраліся ўедлівыя сьляды торфабрыкету з яго замазалелых рук. Ды майстрыцы стараліся. Асабліва наконт вялікага пальца з крывым заскарузлым кіпцем, які яны і пілавалі, і шліфавалі, – усё роўна той заставаўся крывы і непрыгожы. Далей, ужо ў другім крэсьле яго далікатна стрыглі, галілі шчокі, парфумілі і макіяжылі – наводзілі незвычайны шык на яго прэзідэнцкі твар. Пасьля ўсяго наклеілі на лысіну ладны кучаравы хамлак і пад нос – зухавата-бухматую паску вусоў. Усё тое было відаць у люстэрках, і Памазок толькі зьдзіўляўся, як з нядаўняга качагара выходзіць зухаваты фарсісты замежнік. «Імідж, імідж», – усё шчабяталі майстрыхі, і ён спакваля зьмірыўся з сваёй нялёгкаю доляй. Але што ж, мусіць, доля таго вымагала.

І праўда, з аграмаднага крэсла ён устаў зусім іншым, чым нядаўна садзіўся туды, і пачувацца стаў адпаведна. Найперш – прыбыло сілы і нават гонару. А як у наступным пакоі пачалі мераць яму гарнітуры, дык ён аж спадабаўся сабе – такіх файных апратак ён ня толькі ніколі ня меў, але і ня бачыў. Хіба ў тэлевізары. Чорны, бы смоль, пінжак з бялюткаю хустачкай у кішэньцы, такая ж белая сарочка і гальштук. Чаравікі замянялі двойчы, пакуль не прынесьлі дужа блішчастыя на высачэзных абцасах, ад чаго ён куды як падвысіўся ростам. З насалодай пратупаў па люстраным паркеце – лясь, лясь... Добра стаць прэзідэнтам!

Настрой яго трошкі пагоршаў, калі ў іншым пакоі, куды яго затым прывялі, вялізны паліцай ці вайсковец падаў яму штось няўклюднае і цежаленнае. «Што гэта?» – зьдзівіўся Памазок, і здаравяк адказаў: «Панцірблёк!» Бесцырымонна зьняўшы з яго пінжак, той навесіў на ягоныя плечы дзьве засланкі – сьпераду і ззаду. Памазок аж прысеў. «Але ж цяжкі», – мовіў ён, ды здаравяк толькі выскаліў свае конскія зубы. Як надзеў зьверху пінжак, дык стаў сам ня свой – нейкі камлюкаваты, здаравенны і таўсты. Ад нядаўняе Памазковай шчуплыні не засталося і сьледу.

Затым далі трошкі спачыць у прахалодзе з пальмай над высокай зашклёнай стольлю. На нізенькі, таксама шкляны столік прынесьлі дзьве шклянкі – з сокам і лёдам, да якіх Памазок і не дакрануўся нават. Што яму сок, калі карцела чагось зьесьці і, канешне, глыкнуць з такой ператомы. Дома гэткай парой ужо быў пасьнедаўшы, а то і паправіўшы галоўку, – калі было трэба. Але тут у яго не пыталіся, і ён ня ведаў, што і як сказаць. Ды во прыйшлі ажно тры вайскоўцы, сапраўды, быццам гарылы – усе ў камуфляжы і малінавых бярэтах, з вялізнымі рэвальверамі на баку. Зноў яго павялі. Адзін ішоў наперадзе, два ззаду – зноў нібы канваіры. Але Памазок ужо не баяўся, яго нядаўняя няёмкасьць збольшага мінулася, у новай аздабе ён пачуваўся амаль упэўнена, нават зьявіўся гонар. Ішоў, шырока сігаючы на высокіх абцасах і няўзнак пазіраў на сябе ў люстэркі, якіх багата траплялася па баках, зусім не пазнаючы ў

гэтым вусатым таўстуну сябе – колішняга калгаснага качагара. Доўгі стракаты гальштук целяпаўся каля матні.

Урэшце невялічкі канвой спыніўся каля нейкіх зачыненых дзьвярэй, трошкі счакаў, і дзьверы шырока, на абедзьве палавіны расчыніліся. Тут яго прапусьцілі наперад, Памазок увайшоў у вялізную залу, ад парогу якой адзін супраць другога стаялі два шчыльныя шэрагі вайскоўцаў. Усе былі ў аднолькавым камуфляжы, толькі адзін шэраг быў у бярэтах малінавага колеру, а другі – маркоўнага. Шэрагі штось гаркнулі, падобна – вітаньне, на што Памазок пацiху кінуў сваё – дабрыдзень, іншага ён ня ведаў. Наводдаль у канцы залы месьціўся аздоблены золатам стол з адным крэслам, у якое, як зразумеў Памазок, яму належала сесьці. Што ён і зрабіў без замінкі. Тады з шэрагу малінавых бярэтаў выйшаў самы тоўсты вайсковец і пачаў прамаўляць. Прамаўляў гучна і доўга, аж гуло ў высокім падстольлі, малінавыя прытым зьзялі вачыма, а твары маркоўных наадварот – корчыліся ад злосных грымасаў. Але ўсе стрымана маўчалі. Пасьля таўстуна малінавых таксама грымотным голасам пачаў мовіць яшчэ болей тоўсты і аграмадны маркоўны. Памазок зьніякавела сядзеў на краі крэсла. Ягоная душа ўпершыню адчула, што гэтае прэзідэнцтва можа дабром ня скончыцца.

Як тыя два бугаі адкрычэлі свае прамовы, аднекуль збоку вынік непрыкметны малады чалавек з папкай і паклаў перад прэзідэнтам дзьве старонкі нейкага кароценькага тэксту. Тут жа зьявілася прыгожая асадка з залатым шлячком. Памазок сьцяміў, што трэба падпісаць. Што там надрукавана, было невядома, тэксты былі аднолькавага памеру, а вярш-кі – з прыгожа намаляванымі пеўнямі. Але пеўні былі неаднолькавыя. Памазок ад нараджэньня быў хлопец прыкметлівы, і цяпер згледзеў, што адзін певень быў нібы ў пер’і, а другі – нібы абскубаны. Які з іх належала падпісаць першым, было невядома.

Між тым, абодва шэрагі зацята чакалі, скіраваўшы на яго нейкія дужа непрыемныя ваўкаватыя позіркі.

Памазок пасунуў да сябе тую паперчыну, дзе быў певень з пер’ем, і адразу адчуў, што памыляецца – левы шэраг малінавых заварушыўся, зласьліва загуў. Тады ён адсунуў паперчыну і пацягнуў руку да іншае – з абскубаным пеўнем, і тут жа настырчыўся шэраг маркоўных. Д’ябал іх ведае, як было зрабіць, каб дагадзіць абодвум? Трохі счакаўшы, бы ў роздуме, Памазок зноў падсунуў ранейшы аркуш і нават пасьпеў вывесьці першую літару П…

Падпісваючы, ён адным вокам працягваў сачыць за шэрагамі і адразу згледзеў, як аднекуль ад дзьвярэй паявіўся падобны на д’ябалёнка, невялічкі прыгнуты чалавечак з даўжэзным кулямётам у руках. Кінуўшы асадку, Памазок, бы на фронце, кульнуўся пад стол, як залу аглушыла грымотная кулямётная чарга. Ад стала паляцела ўгару ашмоцьце папераў, трэскі; Памазка, бы кувалдай, выцяла ў грудзі, і ён дагары нагамі сьлізгануў ад стала па паркеце. Адчуваў, што жывы, але ўскочыць ня мог, да яго падбеглі нейкія людзі, паднялі і хуценька павялі праз бакавыя дзьверы з праклятай залы. Дзіўна, але людзі навокал былі нават спакойныя, нібы нічога асаблівага і ня здарылася. Дый ніхто болей не пацярпеў, можа, не спалохаўся нават. Дрыжучы ад страху, Памазок даў садраць з сябе ператвораны ў ашмоцьце шыкоўны пінжак і з удзячнасьцю падумаў пра свой ыратоўчы панцыр.

У гэтых пакоях, куды прывялі Памазка, вайскоўцаў не было ніводнага, вакол тоўпіліся цывільныя – добра апранутыя, усе скрозь вусатыя мужчыны розных узростаў. Памазок пакратаў свой вус – той аказаўся на месцы. А во хамлак з лысіны дарэшты зьмяло чаргой, і прэзідэнт падзівіўся, як блізка яго мінула пагібель. Ён усё яшчэ ня мог акрыяць ад прыкрага здарэньня, каб усьміхнуцца, тады як усе навокал аж расплываліся ў лагодзе добразычлівасьці. У Памазковай душы другі раз мільганула сумненьне наконт слушнасьці сваёй паездкі. Як тут з ім абышліся! Але, падобна, тое нікога, апроч яго, не клапаціла.

Неўзабаве яму прынесьлі новы, яшчэ болей шыкоўны

гарнітур – чорны, з малюсенькімі бліскаўкамі па тканіне і новы даўжэзны гальштук – малпы сярод пальмаў. Гальштук асабліва спадабаўся Памазку, і ён папрасіў служку, каб той завязаў яго яшчэ даўжэй, чым ранейшы. Такія даўгія гальштукі тут былі ва ўсіх. Як яго апранулі, тады зноў кудысь павялі разам з грамадою гаваркіх мужчынаў. Памазок паныла і моўчкі ішоў. Ажыў толькі апынуўшыся ў прасторнай асьветленай зале з багата накрытым сталом, на якім выразна тырчэлі рыльцы бутэлек. І тады ён падумаў, што ўсё ж гэта краіна, мабыць, не такая і кепская, як ён сьпярша меркаваў.

Як пачалі рассаджвацца за сталом, нейкі сівавусы мажны мужчына, можа, туташні тамада, пацягнуў яго ў канец стала да крэсла, адметнага сярод іншых дужа выкрутасьлівым падплечнікам. Памазок, можа б, і сеў на яго, калі б насупраць на стале было штось болей прывабнае, чым жоўтае пітво ў графіне. Крэсла выразна не здалося Памазку выгодным, ён ужо нагледзеў для сябе лепшае – каля невялічкай, але прывабнай купкі бутэлек. Там ён і сеў. На адмысловае ж крэсла змушаны быў сесьці той белавусы; лакей зважліва памяняў іхнія карткі, што былі расстаўленыя перад кожным месцам.

Упершыню за ранак Памазок перавёў дух і ўжо стаў забывацца на прыкрае здарэньне. Пакуль побач гаманілі, ён засяродзіў увагу на дзьвюх бутэльках, адна з якіх здалася яму знаёмай. Як лакеі з-за плячэй пачалі наліваць бакалы, Памазок паказаў свайму – во гэту, і той зважліва наліў яму, – праўда, ня ў самы вялікі фужэр. Памазок на тое паморшчыўся, але змоўчаў – хай! Можа, не апошняя, мабыць жа прэзідэнцкі тэрмін не на адзін год. А калі што, дык можна і падоўжыць...

З таго адмысловага крэсла з фужэрам жоўтага соку ў руцэ ўстаў сівавусы – мабыць, каб мовіць тост. Памазок з гатоўнасьцю працягнуў руку да свае чаркі, як перуновы выбух абрушыў усё – і стол, і гасьцей, і ўсю гэтую залу. Засыпаны друзам Памазок апынуўся далёка ў куце, побач цяжка пляцнулася долу ўзьнятае выбухам грузнае цела сівавусага тамады. Адусюль сыпалася

тынкоўка, трэскі ды кавалкі мэблі, бітае шкло бутэлек, енчылі людзі. Памазок на кукішках падаўся між акрываўленых целаў у той бок, дзе, памятаў, былі дзьверы.

Зрэшты, ён мог бы і не турбавацца пра дзьверы, – як трохі асеў пыл, дык убачыў, што канца палацу як не было – скрозь грувасьціліся кавалкі сьценаў, каменьня, знадворку тырчэў абломак калоны. Уцалелі хіба нейкія прыступкі з парэнчынамі, да якіх і падаўся Памазок. Абы прэч з гэтага жахлівага палацу...

Ён мкнуў прэч, а прыступкі вялі, куды самі хацелі – унутр і ўгару. І ён бег па іх, пасьля задыхана плёўся, бо блізка ўнізе ўсчалася страляніна і чуліся крыкі. У нейкім сьцішаным закутку скінуў з сябе свой цяжкі панцыр, які ўжо не было сілы трываць на плячах. Ён прагнуў выбавіцца з гэтага муру, кідаўся па ягоных заблытаных пераходах, пакуль незнарок не апынуўся на даху. Але, можа, і добра, што на даху, тут нікога не было і можна было аддыхацца. Дах быў вялізны і плоскі, з рознымі папярэчынамі і надбудоўкамі ў доле. Зьнізу Памазок ня быў бачны, і тое абнадзейвала. Можа, яму пашэньціць перахавацца да ночы, а ноччу ён бы як-небудзь уцёк. Памазок ужо набыўся ў гэтай краіне, болей яму не хацелася. Ён ужо амаль пераканаўся, што зрабіў памылку, калі паквапіўся на тое прэзідэнцтва.

Унізе між тым усчалося штосьці неверагоднае – падобна, ішоў бой, як на вайне. Чуліся выбухі, стрэлы і гучныя каманды вайскоўцаў. Але хто – на каго, хто – за каго, зразумець было немагчыма. Трохі ачомаўшыся, Памазок памкнуўся зірнуць з даху, падкраўся да карнізу, ды зараз жа кулямётная чарга ледзьве ня зьнесла яму галаву. Памазок порстка пляснуўся долу – значыць, за ім сачылі. Ляжаў, думаў, што, пэўна, гэта маркоўныя, якім ён не дагадзіў. Тады ён на кукішках падаўся да іншага боку даху, дзе, можа, былі малінавыя, – ужо гэтым ён пасьпрыяў, падпісаўшы іхняга пеўня. Можа, яны яго ўратуюць? Але толькі ён глянуў з-за нейкага коміну ўніз, як адтуль зноў грымнула пара чэргаў, якія дашчэнту зьнесьлі цагляны верх коміну.

Здаецца, ягоны шлях уніз быў адрэзаны з абодвух бакоў. Што было рабіць прэзідэнту гэтай дурной краіны?

Унізе тым часам доўжылася гамана, крыкі, час ад часу гахалі выбухі гранатаў. Па карнізах паддашша лапаталі кулі – яго намагаліся выбіць адсюль. Але ён не такі дурны, каб пакідаць сваё месца, сваю Брэсцкую крэпасьць. Ён будзе сядзець тут да апошняга і загіне героем. Хай ведаюць, якія прэзідэнты растуць у партызанскай рэспубліцы.

Але пакуль ён быў жывы, і, нямала стаміўшыся, прысеў каля нейкае бетоннай папярэчыны. Горш за ўсё, што на гэтым даху не было засені, а з паўдзённага неба неверагодна горача паліла сонца. Памазок даўно быў мокры ад поту і незнарок прыгадаў, колькі на тым стале было настаўлена рознага пітва. Ды нікому нічога не дасталося, – во чортава краіна! Каб жа хоць не было, як на ягонай радзіме, а то... То не даюць, то страляюць, а ты бегай з раніцы галодны і дашчэнту цьвярозы. У такі момант тужлівай скрухі побач штось шлёпнулася долу – ён азірнуўся: то была гронка бананаў. Але адкуль? Памазок паўзіраўся ў недалёкае гольле дрэваў, што месцамі былі вышэй даху, і ўбачыў там малпу. Тая сядзела на тоўстым суку і сьмешна крывіла свой рухавы зморшчаны тварык, – бы насьміхалася над чалавекам. «Во, дзіва, – падумаў Памазок, – тут яшчэ і малпы. Трэ будзе не забыцца расказаць пра тое дома...»

Але да дому, мабыць, было далёка, – нешта дужа застралялі ў дальнім, разбураным канцы палацу. З бананам у руцэ Памазок падаўся туды і хутка сьцяміў – з таго боку лезьлі. Пераскокваючы папярэчыны, ён кінуўся ў другі канец даху, ды й там не было спакою. Там таксама спрабавалі ўскараскацца да яго – да сьцяны падагналі вялізны аўтамабільны кран. Адзіны бясьпечны бок быў пад дрэвамі, дзе разьлягаў парк. Не марудзячы, Памазок разьбегся, як колісь у маладосьці, і скокнуў на бліжні сук. Ён удала ўчапіўся, напружыўся і апынуўся на суку зьверху. Тут была прыемная засень, зводдаль на суках расьсеўся з паўтузін малпаў, якія адразу ж усчалі абураны вэрхал. «Ну, чаго злуецеся? –

падумаў Памазок. – Самі ўладкаваліся, а мне не даюць...»

Не зважаючы на іхняе якатаньне, ён падаўся па суку далей ад даху, захінуўся за тоўсты шурпаты ствол. Але што рабіць далей, як ратавацца? Во ўлез, дык улез, пакваліўся на прэзідэнцтва, дурань... І яму нясьцерпна захацелася тады ў сваю дымную, сьмярдзючую ад торфу качагарку...

Аднак доўга сумаваць па качагарцы не давялося, – падобна, яго заўважылі, і першая чарга зьнізу прашыла кулямі лістоту дрэва. Малпы спуджана загаласілі, заверашчэлі на ўсе свае дзікунскія галасы і сыпанулі па гольлі на суседняе дрэва. Намагаючыся з усіх сваіх ня надта багатых сіл, Памазок таксама падаўся за малпамі. З сука на сук, з дрэва на дрэва. Аднаго разу ледзь не зваліўся, няспрытна ўхапіўшыся за крывы сук, але ўтрымаўся. Абы прэч ад тае прэзідэнцкае згубы, дзе яго хацелі забіць.

Але на яго няшчасьце, дрэвы гэтага парку скончыліся, далей разьлеглася пустая лугавіна, дзе звычайна гулялі ў гольф. Зьнізу ўсё стралялі, у лістоце шчоўкалі разрыўныя – гэткія, як у тую вайну пад Познаньню, дзе яго параніла дробным асколкам у зад. Цяпер пакуль што Бог сьцяроог, куля не зачапіла. Але ж як ратавацца? Хіба што вышэй? І Памазок палез па суках угару, прадраўся амаль да вяршыні. Далей ужо не было куды. Мабыць, з долу яго ўжо было нялёгка згледзець, хоць адтуль усё стралялі – ці не па ўсіх дрэвах. Дзесь прарэзьліва верашчэлі малпы, а ён прытуліўся да таўставатай крывулякі дрэва і ня дыхаў. Думаў: можа, пабягуць за малпамі, а яго ня ўбачаць?

Ды дзе там – згледзелі. Праз гольле бачна было, як два вайскоўцы, утаропіўшыся ў яго, ужо паднімалі ўгару свае аўтаматы. Адчуваючы, як яны вось-вось джагнуць чаргой, Памазок роспачна закрычаў, бы малпа на дрэве...

– Ну, якога д’ябла ўзьлез і крычыш? – пачуў ён на роднай мове. – Катлы халодныя, ці хочаш сістэму

размарозіць? Чаго сядзіш там? Зусім здурнеў ці што?

Памазок недаўменна зацепаў вачыма – унізе ля топкі стаяў раззлаваны старшыня і мацюкаўся на качагара, які немаведама чаго сядзеў пад стольлю, учапіўшыся за трубы. У доле ляніва варушыліся-уставалі Юрка Дзядзенка і Ладуцька – церлі заспаныя вочы. Але як яны трапілі ў Памазонію, – таго Памазок ня ведаў.

Усё яшчэ нічога не разумеючы з таго, што адбывалася, Памазок асьцярожна зьлез з трубаў.

– Ці што засталося ў бутэльцы? – прамармытаў ён, ні да кога не зьвяртаючыся. І зразумеў, што марна: парожняя бутэлька валялася ў доле акурат каля старшынёвых ботаў.

# Прыпавесьці

## Вуціны статак

Невялічкі вуціны статак рыхтаваўся ў вырай.

На азёрах ужо ўсталявалася восень, стала сьцюдзёным паветра, дзьмулі напорыстыя паўночныя вятры. Колькі дзён запар зь няласкавага хмарнага неба чуліся разьвітальныя крыкі журавоў – тыя ўжо ляцелі туды, дзе грэла сонца, была цеплыня і шмат корму. Вуціны статак яшчэ там ня быў; вутачкі вывеліся апошняй вясной у тутэйшым возеры, за лета падрасьлі сярод трысьнягу ды асакі і дбалі толькі пра адно – як наесьціся. Сёлета з кормам стала кепска, ад няспынных дажджоў вада ў азёрах стаяла высокая, падтапіла берагі сенажацяў; буза, якую заўжды падабалі вуткі, апынулася глыбока пад вадой, даставаць зь яе корм было нязручна і цяжка. Ды й корму там чамусь усё менела, бо здатныя мясьціны пазамывала пяском з раскапаных экскаватарамі берагоў. Вуткі да восені пачуваліся

слабымі, кепска расьлі і заўсёды былі галодныя.

Стары вуцяк ужо колькі дзён адчуваў пэўны трывожлівы неспакой – трэ было ляцець. Вадзяное птаства падпарадкоўвалася інстынкту, спрадвечнай птушынай волі, якая пэўнаю восеньскаю парой гнала птушак на поўдзень, дзе быў паратунак ад голаду й сьцюжы. Але гэты малады статак ня ведаў таго і, мусіць, мала што адчуваў. Змучаныя летнім недаяданьнем вуткі не пераставалі куляцца ў вадзе куцымі задкамі і шныпарыць па дне нястомнымі дзюбамі.

Неяк ураньні, як трохі пасьвятлела неба, нізка над хмарамі, лапочучы крыльлем, праляцеў вуціны шнурок, – гэта выправіўся ў вырай суседні статак з бліжняй затокі. Адчуўшы чарговы прыступ неспакою, вуцяк трохі прыўзьняўся ў вадзе і трывожліва заляскатаў крыльлем, даючы тым знак увагі свайму невялічкаму статку. Але ніводнай зь ягоных вуцятаў не было побач. Тады ён хуценька паплыў уздоўж трысьнягу гэтага даўжэзнага, на колькі вёрстаў возера і хутка ўбачыў усіх. Ягоныя вуткі зь нейкай неранейшай жвавасьцю куляліся ў мутнай вадзе, і вуцяк зразумеў: яны патрапілі на спажыву.

Тутэйшы бераг быў голы, без травы і кустоў. Наводдаль за гарбатым пагоркам высіліся два закапцелыя коміны, у неба зь якіх няспынна плыў дым. Увогуле тут было зацішна, пагорак затуляў невялічкую затоку ад сьцюдзёнага паўночнага ветру. Але неверагодна, каб тут выдалася кормнае месца, ды, мусіць, так. Інакш бы вуткі не мітусіліся з такой жвавасьцю, нібы ў апошні раз прагнучы наесьціся. Вуцяк таксама нырнуў паблізу, звыкла працерабіў дзюбкай па мяккім дне і адразу адчуў і сьцяміў, адкуль корм. У вадзе, схаваны пад крутым берагам, тырчэў канец бэтоннай трубы, зь якой штосьці плыло ў возера – мутнае, але прыемнае на смак. У той дзень вуткі добра напіхалі свае тугія вальлі, пад вечар ледзьве варушыліся на вадзе і заначавалі купкай у недалёкім рэдзенькім трысьнягу. Вуцяк, які таксама з поўным вальлём прыплыў туды апошні, стомлена задрамаў, закалыханы на дробных хвалях, маючы пэўны

намер заўтра ляцець.

Але назаўтра, як толькі ў небе над возерам стала віднець, вуціны статак навыперадкі памкнуў з трысьнягу ў затоку. Вутачкі адразу пачалі апантана куляцца, нырацю – сілкавацца. Мусіць, перад адлётам нягожа было надта набіваць свае вальлі, але вуцяк ня мог перапыніць іхную прагнасьць. Ды і сам ахвотна падсілкоўваўся разам, думаючы: хай наядуцца, а ўжо затым ён іх падыме ў палёт. Мусіць, такой жа думкі была і старая вуціха-маці, якая напачатку падплыла да вуцяка, коратка крэкнула і адразу падалася да статку. Яна і падрослых вутачак не пакідала без нагляду, хоць порсткія дочкі ўжо ня надта і слухалі яе. Ня тое што некалі малыя…

Гэтаксама ва ўвішняй мітусьні прамінуў і другі дзень. Вуткі ўволю наеліся, і ледзьве прыплылі ўвечары ў зацішны трысьнёг. За імі прыплыў вуцяк, і ўвесь невялічкі статак супакоена зазыбаўся на ціхай вадзе.

Назаўтра ранкам вуцяк выплыў з трысьнягу першым і гучным ляскатам крылаў падаў знак сабрацца да яго бліжэй. Вуціны статак адразу ажывеў, абудзіўся, але да вуцяка падплылі толькі тры вутачкі, астатнія порстка пашыбавалі пад кормны абрыў. То ўжо было непаслушэнства, вуцяк гатовы быў моцна абурыцца. Але ня ўмеў як – вуціная мова была памяркоўная і скупая. Свой новы сыгнал крыламі ён адрасаваў да вуціхі, якая была таксама скіравала за вуткамі. Тая змушаная была вярнуцца, нешта пракрэкала, што на вуцінай мове магло значыць: дай вуткам паесьці! Вуцяк даў папасьвіцца, але да паўдня, ня болей. У паўдзён ён там жа, пад абрывам, крыламі і гукам даў зразумець статку, што трэба канчаць сілкавацца, пара ў вырай. Яны на возеры апынуліся ці не апошнія. Як бы не спазьніліся.

Яго, аднак, кепска слухаліся, некаторыя ўсё спрабавалі нырацю, нібы баючыся страціць апошнія, здатныя да таго хвіліны. І вуцяк сьцяміў, што марныя яго захады, тым болей што і вуціха неўзабаве далучылася да неслухаў. Адна толькі меншанькая вутачка Шарэчка гайдалася каля вуцяка-бацькі, здаецца, маўкліва

падзяляючы ягоны клопат.

Вуткі яўна ня мелі ахвоты нікуды ляцець, ім няблага стала і тут.

Вуцяк ня ведаў, што зь імі рабіць, як растлумачыць, што то – небясьпечна. Калі яны спозьняцца, у паднябесьсі іх можа захапіць непагадзь, а то й сьнег, яны загінуць, не даляцеўшы да цёплага выраю. А то яшчэ ўдараць маразы, і возера замерзьне. Тады яны застануцца бяз корму і прападуць таксама. Свой клопат ён з абурэньнем, гучна крэкаючы і хлопаючы па вадзе крыльлем, давёў статку, як той урэшце наеўся, і вуткі перасталі ныраць. Ды яму ня надта паверылі. Сапраўды, дагэтуль жа было не сьцюдзёна, даволі зацішна ў гэтай прыхаванай за пагоркам затоцы. А галоўнае – нагрэтая за лета вазёрная вада здавалася цяплейшаю за паветра, зь яе не хацелася вылазіць. Ды вуцяк ведаў, што так будзе нядоўга, што возера ўрэшце замерзьне. А лёд – пагібель для вуцінага племя. Ды на ўсе ягоныя захады вуткі не адгукаліся, ня верачы яму. Вуціха-маці коратка і выразна павяла крылом – у адзін бок, затым у другі, што значыла: можа, замерзьне, а можа, і не. Затое тут корм.

Так, тут быў корм, які ўжо праклінаў вуцяк, бо той корм зьявіўся дужа не ўпару, – ня там і не тады, калі быў патрэбны. Цяпер тая нечаканая сытасьць пагражала згубіць вутак. Як і іхная згаладнелая сквапнасьць. Вуткі за некалькі дзён прыкметна пацяжэлі і з заўжды туга набітым вальлём выглядалі няўклюдамі. З такім вальлём вельмі проста было нават не ўзьляцець у паветра, а ня толькі адолець даўгі і турботны шлях у цёплыя краі. Але што мог вуцяк?

Ён мог бы ляцець адзін або з Шарэчкай, якая пакуль што слухалася яго. Але ён не хацеў кінуць астатніх, гэтых пражэрлівых, сквапных дурніц, якія не хацелі разумець, што іх чакае. Вуцяк так затрывожыўся, што сам перастаў ныраць у мутную ваду, адно кружыў у затоцы ды ляскаў па вадзе крыльлем, тым выказваючы свой клопат і гнеў. Ды, здаецца, на вуцяка ўжо перасталі зьвяртаць увагу.

Аднойчы ўранку ён згледзеў, як стравянелы пагорак зводдаль нібыта пакрыўся плесьняю – то браўся першы перадзімовы іней; у паветры надта марозіла. Але вада ў затоцы па-ранейшаму была цёплая, спрэс над ёю курэла лёгкая, празрыстая пара, у якой асабліва жвава пачуваліся вуткі. Вуцяк тады зрабіў ці не апошнюю спробу вывесьці іх на возера і ўзьняць на паветра. Але неўзабаве сьцяміў, што ніводная зь іх ужо не паднімецца – так усе ацяжэлі ад празьмернай сытасьці. І ўсё ня кідаюць ныраць – наядацца. Кожнага дня пад вечар туга набівалі абвіслыя вальлі. Корму ля трубы ня менела.

Вуцяк быў ужо не малады векам, аж тры восені запар лётаў у вырай і кожную вясну вяртаўся на сваё возера. І ён ня мог не разумець, чым скончыцца вуцінае непаслушэнства. Ён толькі ня ведаў, як сам павінны паставіцца да таго. Але і ратавацца самому таксама ўжо рабілася позна. Тады ён меў апошнюю размову з вуціхай-маці, якая адна магла яму паспрыяць. Ды не схацела. Мабыць, як заўжды, не хапіла яе вуцінага розуму.

Між тым на берагі лёг першы лёгкі зазімак. Пагорак забялеўся пад сьнегам, нават стаў прыгажэйшы, чым быў дагэтуль. А затока ўсё дымелася пад цёплай духмянай парай. У ёй надзвычай порстка і ўвішна пачуваліся вуткі. Аднойчы ўранку вуціха-маці так і сказала вуцяку: дарма турбуесься: тут будзе ня горш, чым у выраі. Тут – цывілізацыя, труба пракорміць. А мароз? – запярэчыў вуцяк. А марозу, можа, і ня будзе, адказала вутка. Не было ж яго ўлетку…

Вуцяк разумеў, што яна памыляецца, але ня ўмеў як пераканаць яе ў тым. Асабліва, калі яе падтрымалі астатнія вуткі. Нават яго ўлюбёная Шарэчка і тая апошнім часам надта ацяжэла і болей трымалася на вадзе каля маці. Вуцяк усё болей заставаўся ў адзіноце і парой пачынаў сумнявацца ў сваёй праўдзе. А можа і насамрэч марозу ня будзе? Не бывае ж яго на поўдні, куды лятуць птушкі ў вырай.

Але то – на поўдні. Тут жа была калі й ня поўнач, дык

нешта блізкае да яе. Чакаць чагось ладнага, мабыць, тут было марна. Ды вуткі, як і людзі, мелі патрэбу заўжды спадзявацца на лепшае. А што лепшае – падманная рэч, вуткі таго не разумелі.

Неяк уначы стала дужа сьцюдзёна, азяблыя вуткі ледзьве дачакаліся раньня. І тады ўбачылі, што бераг у трысьнягу ўзяўся прыгожым тонкім лядком. Некаторыя нават паспрабавалі яго дзюбкамі, на смак ён падабаўся і хутка таяў. Каб выплыць у затоку, яго лёгка праламвалі вальлямі і лапкамі і так дапяліся да кормнай трубы. Але назад статак ужо не пасьпеў – трысьнёг за дзень спрэс паўмярзаў у лёд. Вуціха-маці тады ўскараскалася на ледзяны закраек і валюхаста пашкандыбала пешшу. За ёй гэтаксама няўклюдна пабрылі вуткі, – ім карцела начаваць там, дзе прывыклі. Вуцяк туды не пайшоў і застаўся на вольнай вадзе ў затоцы.

Але і затока вузела. Мароз паволі і настойліва пашыраў на возеры свае ледзяныя абшары. Праз колькі дзён у затоцы застаўся невялічкі лапічак чыстай вады ўздоўж берагу. Там увесь дзень і сноўдалі вуткі. Праўда, ня ўсе. Іншыя вылязалі на лёд і паныла сядзелі, нібы чагось чакаючы. Сярод іх быў вуцяк. Ён ужо нікуды іх ня клікаў – не было куды клікаць. Ён толькі маўкліва дакараў сябе, што не намогся ў свой час змусіць іх падняцца ў вырай. Але як было адарваць згаладнелы статак ад багатага корму? Цяпер навошта корм?

Начавалі цяпер у цеснай палонцы, і неяк уранку згледзелі, што коміны, якія вытыркаліся ўдалечы з-за засьнежанага пагорку, перасталі дыміць. Тое вутак ня надта спалохала. Спалохаліся яны, калі адчулі ў вадзе, што з бэтоннай трубы не цячэ нічога. Вуткі ня ведалі, што гэта збанкрутаваў завод, і труба перастала дзеяць. Як і ўсё астатняе на заводзе. А вузкая палонка тым часам усё вузела. Пакуль лёд аканчальна не самкнуўся зь берагамі.

…Як зноў настала вясна і стомленыя статкі гусей, жураўоў ды вутак пачалі вяртацца з далёкга выраю, яны ў азёрнай затоцы не знайшлі нікога.

Толькі рэшта мокрых стракатых пёрак дзе-нідзе гайдалася ў трысьнягу і ля берагу. То было усё, што засталося ад сытага бясьпечнага вуцінага статку.

## Кошка і мышка

Мышка ў той дзень увогуле была сытая, але яна была маладая, цікаўная і доўга не магла сядзець на адным месцы. Тым болей у яе цёмнай норцы, дзе нічога не было відаць, нічога не чуваць. А поруч, на падворку – яна ўжо ведала – была процьма цікавага, асабліва пад лапухамі, дзе бегалі порсткія кузуркі, сядзелі, варушачы вусамі, чорныя жукі, а на травяных галінках круцілі рожкамі дзівосныя сьлімакі ў цьвярдых, скурчаных ракавінах. Увогуле мышка была далікатная, добразычлівая да малых насельнікаў падворку. Яе таксама ніхто асабліва ня крыўдзіў, і яна думала, што дужа баяцца там не было чаго. Яна імкнулася быць аптымісткай.

Праўда, яна ўжо чула, што недзе там час ад часу паяўляецца страшны мышыны вораг – кот. Але мышцы яшчэ не даводзілася спатыкаць яго, і яна думала, што і не давядзецца. Навошта кату цікаваць малую палахлівую мышку – мабыць, яму лепей мець справу зь вялікімі пацукамі. З мышкі які наедак?

Той раз яна магла б і не вылазіць з норкі, але ўзяла ды вылезла.

На падворку пад лапухамі было цёпла, аж горача, і ціха, – мабыць, жывёлу яшчэ не прыгналі з поля. Побач шорхалася ў пяску квактуха – старая, рабая курыца, якая квохнула разы два, заўважыўшы мышку. Мышка шмыргнула ля яе далей да прызбы і раптам толькі роспачна піскнула. Аднекуль зьверху на яе пляцнуліся дзьве кіпцюрыстыя лапы – бегчы ўжо не было як. Канечне, то была кошка – маладая, юрлівая, зь белымі прыгожым лапкамі. Мышка сьпярша спалохалася, але тыя лапкі абыходзіліся зь ёй далікатна, і тое

супакойвала. І мышка падумала, што ўвогуле ёй пашэнціла – было б куды горш апынуцца ў страшных кіпцюрох ката. А там, можа, і нічога яшчэ ня здарыцца, – мышка хацела быць аптымісткай.

І праўда, не ўчыніўшы ёй вялікага болю, кошка падхапіла мышку зубамі і вынесла на чысты, падмецены падворак. Мышка напружана думала, і ўсё так выходзіла, што кошка палуднаваць ёй не зьбіраецца. Інакш бы яна пад'ела ў зацішку, ля лапухоў. На падворку нікога не было, кошка паклала мышку ў доле. Мабыць, можна было б паспрабаваць уцячы, але мышка не хацела выказваць непаслушэнства і тым злаваць кошку. Яна ўсё спадзявалася на лепшае. Тады кошка далікатна штурхнула яе лапкай пад бок, нібы патураючы бегчы. І праўда – мышка пабегла.

Зусім ужо блізка было да норкі, як кошка ўсё ж дагнала яе і дужа ўпілася кіпцюрамі ў хрыбціну. Мышцы стала дужа балюча, і яна аж перастала дыхаць. Але неўзабаве і супакоілася, бо кошка ўсё не сьпяшалася яе хрумстаць. Пэўна, то была добрая кошачка, яна толькі хацела пагуляць з мышкай. Тады мышка зьнерухомела і, бы нежывая, перавярнулася лапкамі ўгору. Тое, відаць па ўсім, спадабалася кошцы, якая абедзьвюма лапкамі пачала кідаць з боку на бок маленькую сымулянтку, бы запрашаючы яе да гульні. Гуляць мышка ўвогуле любіла, і, хоць цяпер і баялася трохі, але ўсё не магла паверыць у кепскае. Ужо надта лагодна, бяз злосьці ставілася да яе ладная кошачка, няўжо гэткая можа зьесьці рахманую мышку?

Мусіць, мышка магла б яшчэ ўцячы, асабліва калі ў гэтай гульні апыналася бліз лапухоў, ды ў яе ўсё не ставала рашучасьці. Зноў жа, яна была аптымістка, дагэтуль жа нічога кепскага зь ёй не здарылася. Але во кошка ці, можа, таму што нагулялася, ці зь якой іншай прычыны, дужа цяўкнула мышку ля шыі – ад болю ў той аж памутнела ўваччу. Кошка тым часам паклала мышку ля ног, азірнулася па баках, – падобна, яна адпачывала. Ці можа, разважала, каб пусьціць мышку? Павінна была б пусьціць, бо мышцы было блага, наўрад ці яна цяпер

магла б уцячы. Але яна спадзявалася.

Яна верыла ў дабрыню, тым болей ад такой ладнай маладой кошкі, якой яна не зрабіла нічога кепскага. Нават не раззлавалася на яе. Мышка разумела, што ўвогуле кошкі – ворагі мышак, але ж, мусіць, і кошкі бываюць розныя: злыя і добрыя. Таксама, як і мышы. Яна во, напрыклад, зусім добрая мышка, нікому ніякага зла не ўчыніла. Не пакрыўдзіла ніводнае кошкі. Навошта ж кошцы забіваць яе? Каб папалуднаваць? Але ж тое можна зрабіць зь якой іншай мышкай, не абавязкова зь ёю.

Кошка ўсё азіралася па баках, нібы чакаючы чаго, а мышка нерухома ляжала ў доле і разважала. Разважала пра справядлівасьць. Усё ж несправядліва ўладкаваны сьвет, калі адныя істоты дужыя і нахабныя, а іншыя слабыя і палахлівыя. Слабым і палахлівым жывецца кепска, і мусіць, таму яны дбаюць пра справядлівасьць, дабрыню і спагаду. Ды дужыя не зважаюць на тое. А і праўда, нашто дужым спагада? Дужым патрэбна яшчэ болей сілы, бо сілу сіла дае. А што во рабіць беднай мышцы, у якой ці не зусім перакушаны карак?

Але ж кошка зусім ня страшная, нават прыгожая – і пыска, і вусікі, хаця навошта яна аблізваецца? Што тое значыць?

І раптам кошка страпянулася, зыркнула касымі вочкамі ў бок недалёкага ганку. Мышка сьцялася ўсім сваім маленькім цельцам – на ганку, пагрозьліва выгнуўшы хвост, стаяў страшны мардаты кот; мабыць, ён ужо згледзеў наводдаль кошку зь небаракай-мышкай. Кошка, пэўна ж, спалохаўшыся, дужа хапнула зубамі мышку і кінулася пад лапухі.

Там яна разам прыкончыла бедную мышку, апошняй думкай якой было: добра, што яны ўратаваліся ад ката.

Мышка да канца заставалася аптымісткай.

## Пагібель зайца

Усю ноч напярэдадні сьмяротнага пакараньня заяц ня спаў – сядзеў апанурыўшыся пад роснай хваіной, думаў. Думаў, аднак, не пра заўтрашнюю пагібель, а пра свой няўдалы, пагібельны лёс.

Пачалося ўсё год таму, напрадвесьні, як па лесе пракацілася пагалоска, што на прырэчнай баравінцы зьбіраюцца лесавыя зьвяры, каб вырашыць штось важнае і абавязковае. Заяц хацеў ня йсьці. Што ён – дурны? Хай ідуць і вырашаюць сьмелыя і дужыя – ваўкі, мядзьведзі, лісы.

Ён жа толькі заяц – самы слабы, палахлівы, прыгнечаны. Але зайчыха тады сказала: ідзі, бо яны там бяз нас могуць вырашыць зьвесьці ўвесь заечы род. Хто абароніць?

І ён пайшоў. Прыскакаў і сеў зводдаль на куп’істай імшарыне, пачаў слухаць. Першым выступіў, канешне ж, самы дужы і сьмелы – мядзьведзь. Абцёр кіпцюрыстаю лапай сытую пысу і пачаў даводзіць, што жыць у безуладдзі нягожа, што ўсе ў навакольных лясох інтэгруюцца, ладзяць моцную ўладу – цывілізуюцца. Як і ў людзей. Трэба і ім так. Для таго сёньня неабходна абраць галоўнага Ўпраўцу. Тут жа раздаліся глухаватыя воплескі ўхвалы, і ліска Дзям’янаўна адразу запрапанавала Ўпраўцам абраць мядзьведзя. Мядзьведзь падзякаваў за давер ды адмовіўся. Сказаў, што стары, хворы, сілы стала зусім мала. Учора на ўзьлеску ня здолеў задраць калгаснага быка – гэтак занядужаў мядзьведзь. Тады запрапанавалі шэрага ваўка. Ужо гэты ў самай сіле і задзярэ, каго схоча. За тое лета перадраў ці ня ўвесь калгасны авечы статак. Зьвяры памеркавалі ды адкінулі прапанову наконт шэрага – разважылі так: гэты можа перадраць і ўсё зьвяр’ё ў лесе. Толькі дай яму ўладу. Тады хтось запрапанаваў зайца.

З нечаканкі заяц аж падскочыў на купіне – такога ён не прадбачыў. Ад зьдзіўленьня і хваляваньня ў яго зацяла

дых, і ён нічога ня мог сказаць – ні пагадзіцца, ні адмовіцца. Ягоная маўчанка была зразуметая як згода, і зайца прызначылі галоўным Упраўцам ляснога зьвяр’я.

Сьпярша заяц ня надта і разумеў свае правы ды абавязкі, думаў: будуць усе кланяцца пры сустрэчы, а ён абавязкова ветліва адказваць. Ён быў натуры няпомсьлівай і нікому зла не хацеў. Зайчыха ж дужа парадавалася, казала: ну цяпер ужо пярэйдзем на жытло ў сухі хвойнік, хопіць гібець ля сырога балота. Аж крыху паеьля наваліліся турботы, ды не абыякія. Уладарны мядзьведжы клан запатрабаваў права перабрацца ў суседшою пушчу – бліжэй да борцяў з пчоламі, а пушчу наогул падзяліць з суседнім зьвяр’ём, каб мядзьведзям было дзе паляваць. Дарма Ўпраўца спасылаўся на міжлесавыя пагадненьні, на забарону мяняць лесавыя межы. Мядзьведзі сказалі, што ён няўмека і бездар, калі ня здрайца. Тым часам ваўкі рубам паставілі пытаньне пра зімовы харч. Улетку яны харчаваліся з уласнай ініцыятывы – кожны паасобку з калгасных статкаў. Але ўзімку статкі заганяліся ў хлявы пад ахову вартаўнікоў з вострымі віламі – як было да іх падступіцца? І ваўкі сталі насядаць на лесавога Ўпраўцу – давай харч! Лісы ў сваю чаргу схацелі па курачцы кожнага дня, а выдрам, бач, ня стала хапаць рыбы ў рацэ – пагінула ўзімку ад задухі. Горш за ўсё стала Ўпраўцу, калі зьвяры, бы змовіўшыся, запатрабавалі ад яго даляраў. Маўляў, усё зьвяр’ё навакол займела даляры, на якія можна здабыць усё, што хочаш. Чым зьвяры гэтага лесу горшыя за іншых? Ім таксама патрэбныя даляры, а не якія паперкі з партрэтамі галоўнага зайца. Калі Ўпраўца пачаў аднеквацца і даводзіць свае прычыны, усе хорам сказалі, што так справа ня пойдзе. Абралі – дык кіруй, забясьпечвай, а не – дык пятля на шыю. Тыя самыя, што агітавалі за зайца, цяпер запатрабавалі ягонае сьмерці. Бо не апраўдаў, і каб была навука для наступных. Але што ён мог зрабіць? Каб здабыць пушчу з борцямі, трэба было йсьці вайной на суседніх мядзьведзяў. Ці як забясьпечыць сьвежыной ненажэрны ваўчыны статак? Зноў жа гэтыя даляры, каб ім пуста. Заяц у сваім жыцьці нават адною лапай не памацаў тыя зялёныя

паперкі з барадатымі істотамі, ён адно цешыўся на ўласны партрэт лесавой валюты. Увогуле неблагі быў партрэт, каб толькі ён што каштаваў. Ды не каштаваў нічога, і ў тым была яго, зайцава, бяда і няшчасьце.

Да пары, аднак, усё неяк трывала, зьвяры віта ліся з ім, і ён усім ветліва адказваў. Хіба апроч вавёркі, якая аднаго разу надта ж надакучыла яму просьбай даць лепшае дупло, бо старое прагніло і зацякае. Упраўца так віскнуў на бедную вавёрку, што тая мігам узьляцела на самую верхавіну дрэва. Хоць адна ды спалохалася, бяз радасьці, аднак, падумаў заяц.

І во цяпер трэба ісьці на баравінку, дзе летась яго абралі, а сёньня будуць караць. Як галоўны Упраўца ён павінен быў клапаціцца і пра ўласную кару. Учора нагледзеў там ладную асінку, адзін сук якой тырчэў акурат крыху ўбок – будзе зручна прыладзіць пятлю. Горш за ўсё было тое, што і карай ад пачатку да канца павінен быў кіраваць ён. Паводле лесавога кодэксу, улада новага Ўпраўцы распачыналася толькі пасьля таго, як ранейшы апошні раз здрыганецца на тым суку. Можа, толькі тая норма кодэксу трохі і цешыла зайца.

Як ні дзіўна, зьвяр'я на пакараньне сабралося шмат – ніколі раней столькі не зьбіралася. На выбарах летась было ў два разы меней. Заяц ня ведаў, як зразумець тое – добра ці ня надта. Але спакваля вырашыў – добра. Значыцца, паважаюць, а можа і спачуваюць. Бо раней ня надта слухаліся, болей сварыліся.

Як усё было гатова, ён скамандаваў, каб перакінулі цераз сук вяроўку з пятлёй. Самы моцны з ваўкоў спрытна і згодна зрабіў тое, ухапіўся лапамі за вольны яе канец. Заяц падзякаваў зьвяр'ю за давер і папрасіў прабачэньня, што ня мог усім дагадзіць. Зьвяры зараўлі, загалёкалі ў знак згоды, а можа і нязгоды – ён ужо не зразумеў і накінуў на сябе пятлю. З жалем прыцяў да сьпіны вушы і незнарок пусьціў скупую сьлязу, якую ніхто, бадай, і ня згледзеў. Хіба адна вавёрчына на хваіне зводдаль жаласна кігікнула, і ён, перш чым аддаць каманду ваўку, падумаў: ці ня тая, што прасіла дупло, а ён адмовіў?

То быў адзіны знак прыязьні за яго няўдалае гадавое ўпраўства, і заяц імкліва ўзьляцеў угару.

Зьвяр’ё ад радасьці пачало высока падскокваць, махаць лапамі і хвастамі. Пасьля, як трохі супакоілася, галоўным Упраўцам абралі ваўка – таго, што трымаў вяроўчыну...

## Хвастаты

*Сучасная казка для дарослых*

Калі на складзе пачало цямнець і над уваходам загарэлася электрычная лямпачка, Хвастаты вылез з нары.

Бегчы ў складскія памяшканьні было яшчэ рана. Хвастаты ведаў, што вусаты чалавек у сінім халаце яшчэ сядзіць у сваёй цеснай канторцы і курыць, – дымам ад ягоных цыгарэт прасьмярдзелі ўсе складскія закуткі. Трэба было пачакаць. Хвастаты быў пацук разважлівы і ніколі не кіраваўся ўласным апетытам, нават калі быў галодны. Цяпер ён быў дужа галодны, бо ня еў колькі дзён, – з той пары, як за шкляной загародкай паявіўся гэты Вусаты і зачыніў жалезныя дзьверы ў тую палавіну складу, дзе было ўсё. Праўда, усе тутэйшыя горы мяхоў, штабялі каробак і скрынак з бутэлькамі Хвастатага мала цікавілі. Колькі ночаў таму ён натыкнуўся там на каробкі ў куце, ад якіх ішоў адмысловы, надта ж прываблівы пах, і пацук не ўтрымаўся. Прагрызьці ў кардоннай каробцы патрэбную дзірку было няцяжка, і ён добра паласаваўся сырам, – так, што ледзьве прашчаміўся ў сваю цеснаватую пад падлогай нару. Але во – прыйшоў Вусаты і зранку зачыніў абабітыя жалезам дзьверы. Гэтыя дзьверы цяпер не адчыняліся ні ўдзень, ні нават уначы, калі Вусатага не было на складзе. І Хвастаты зьдзіўляўся – што той надумаў?

Цяпер ён не саступіў выхад з нары, бо адтуль маглі паявіцца суродзічы, – гэтыя дурныя, галодныя пацукі

розпых узростаў, якіх цяпер нямала распладзілася ў падпольлі. Каб не выклікаць нейкіх захадаў Вусатага ды ягоыай кампаыіі, пацукоў належала затрымаць ці вярнуць назад. Аднойчы ўжо здарылася такое, што ў адказ на пацучыныя свавольствы сюды прыйшлі людзі ў гумовых фартухах і ў масках, з нейкімі прыладамі ў руках, яны напусьцілі ў норы сьмяротнай атруты. Тады шмат якія з пацукоў загінулі, але Хвастаты і яшчэ колькі самых разумных засталіся і адказалі інтэнсіўным размнажэньнем; пад весну іхняя калонія павялічылася больш чым удвая. Ён чуў, як людзі казалі, што засталіся з носам. Вельмі магчыма, думаў пацук, – іхнія насы пакуль пацукоў не цікавілі.

Хвастаты ўжо ведаў, што трэба пільна сачыць за людзьмі, ня даць ім захапіць пацукоў зьнянацку. І без патрэбы не высоўвацца з нары, не паддавацца на правакацыі. І нікому ня верыць. Нават калі які-небудзь першагодак прывалачэцца са складу і скажа, што пад’еў сыру. Гэта можа быць хлусьня, а можа і правакацыя. Хвастаты быў пацук разумны, хітры і спрактыкаваны.

Той ночы яму нічога, аднак, не абламілася. Пасьля таго, як Вусаты пайшоў, ён старанна абнюхаў усе закуткі пярэдняй секцыі складу. Але жалезныя дзьверы ў галоўнае памяшканьне заставаліся зачыненыя, а ў пярэднім нічым прыстойным нават ня пахла. З новых рэчываў там паявілася нейкая жалезная бочка ў куце, ад якой сьмярдзела жалезам. Жалеза пацука таксама не цікавіла.

Пад ранак ёп вярнуўся ў сваю нару. Сядзеў там, аднак жа, нядоўга – ягоны спакой парушыла мітусьня, якую ўсчалі ягоныя суродзічы, – ён кінуўся да выхаду з нары і хутка зразумеў, што здарьтлася звонку. Гэтыя дурні-пацукі, мабыць, не стрывалі голаду і, як толькі адчыніўся склад, спрабавалі праскочыць у галоўную секцыго. Але хіба гэта можна было рабіць удзень, пры людзях? Людзі, канешне, узьнялі трывогу, застукалі, забегалі, кагосьці з пацукоў прыбілі, астатнія разьбегліся па кутках і пахаваліся ў норах. Зрэшты, так

ім, дурпям, і трэба, – ня лезьце раней часу, думаў Хвастаты. Стаіўшыся ў нары за паўметры ад выхаду, ён ня мог бачыць, што адбывалася наверсе, затое добра чуў тупат ног, скрыгат чагосьці цяжкога, што цягнулі побач, лаянку рабочых. Але гэта былі ня хімікі з санстанцыі – тыя працавалі моўчкі, іхнюю хітрасьць цяжка было адгадаць, і толькі Хвастаты быў здольны на тое. Гэтыя ж размаўлялі гучна, мабыць, лаяліся і няспынна курылі. Сярод іншых ён пазнаў малады голас грузчыка Белабрысага, які аднойчы ледзьве не наступіў яму на хвост і надта спалохаўся. З таго часу Хвастаты Белабрысага баяўся. Вусатага ж там не было чуваць, але пацук адчуваў, што той дзесь паблізу. Ён ужо ведаў, што маўклівыя заўжды самыя небясьпечныя, – сваім крыкам, як і сваёй злосьцю, яны ўпіваюцца самі, мала што пакідаючы іншым. Вусаты ж, адчуваў пацук, быў, можа, і ня надта злосны, але надзвычай небясьпечны.

Але Хвастаты быў пацук цярплівы і ўмеў чакаць. Ён ня еў ужо пяць ночаў запар. Увечары на кароткі час вылязаў з нары, уздоўж плінтуса прабіраўся да запаветных дзьвярэй і, пераканаўшыся, што тыя запёртыя, вяртаўся назад. На шляху яму сустракаліся некаторыя з ягоных суродзічаў, якія, як заўжды, мітусіліся, шукалі ўсюды, куды толькі можна было пралезьці, але, мабыць, дарэмна. Іхнія дурныя спробы заканчваліся ранішнім крыкам ды лаянкай людзей. Аднойчы там брахаў сабака, магчыма, прыведзены ыа склад для таго, каб напалохаць пацукоў. Але пацукі сабакаў не баяліся, як не баяліся і катоў. Каты даўно былі напалоханыя пацукамі і не маглі ім прычыніць ніякае шкоды. Найбольшы пацуковы вораг быў чалавек.

Нарэшце Хвастаты свайго дачакаўся.

Як толькі ў канторцы патухла сьвятло і сьціхлі цяжкія крокі Вусатага, ён выбраўся з нары. Шлях уздоўж плінтуса быў яму добра знаёмы, жалезныя дзьверы былі поруч. Яшчэ ў нары ён адчуў, што сёньня штосьці павінна здарыцца – штось доўгачаканае і радаснае. Так яно і атрымалася: жалезныя дзьверы былі не зачыненыя. Мабыць, сьпяшаючыся, Вусаты толькі

прычыніў іх, пакінуўшы нешырокую шчыліну, у якую лёгка прашчаміўся Хвастаты.

У прасторнай секцыі складу стала і яшчэ болей прасторна, шмат якія скрынкі і штабялі адсюль вывезьлі. Хвастаты хутка праскочыў па вузкім праходзе ў дальні куток, дзе яго, аднак, чакала вялікае расчараваыьне – кардонных каробак на ранейшым месцы не аказалася. На іх месцы стаяў шэраг шкляных бутляў, ад якіх ішоў агідны ядавіты смурод. Хвастаты кінуўся сюды-туды па праходах, і ў адным месцы, бліжэй да выхаду, адчуў, як запахла знаёмым. Слабы пах сьвежага сыру ішоў аднекуль зьверху. У секцыі панаваў паўзмрок, слаба сьвяціла цьмяная лямпачка, што-кольвечы згледзець было нельга. Але Хвастаты быў разумны пацук і хутка зразумеў, што гэта пахла з вялізнай, пастаўленай на папа, мэталічнай бочкі. Але як узьлезьці туды? Па металу пацукі лезьці пе маглі, ня мог лазіць па ім і Хвастаты. Але ён быў таксама пацук вынаходлівы і хутка сьцяміў, што залезьці можма па скрынках, якія бязладна грувасьціліся ля самай бочкі. Драўляныя гэтыя скрынкі былі пустыя, некаторыя паламаныя, і пацук хутка ўзьлез па іх на самы іх верх. Побач была бочка, і з яе ішоў яшчэ больш, чым унізе, павабны пах сыру. Ну ведама, вялікі кавалак сыру бялеў у змроку на канцы педаўгой дошчачкі, якая ляжала над бочкай. Другі яе кансц апынуўся якраз пад пацучынымі лапамі. Дошчачка была здатнай шырыні, каб з яе не зваліцца, і Хвастаты ня надта таропка, але і не марудзячы, падаўся да сыру.

І тут здарылася штось незразумелае – дошчачка раптам перакулілася, і Хвастаты ўніз галавой паляцеў у бочку. Дошчачка адразу ж вярнулася ў ранейшы стан, забраўшы з сабою сыр.

Нейкі час Хвастаты быў у шоку – такога сн не чакаў. Заўжды ён умеў абмінаць самыя хітрыя пасткі, ніколі не дакранаўся да самых апетытных прынадаў, засьцярогся ад хіміі мінулай восеыьню. А тут так па-дурному папаўся, нібы самы апошні першагодак. Ён ужо зразумеў, што гэтую пастку збудаваў усё той жа

Вусаты.

Дрыжучы ад страху і злосьці, Хвастаты нават не спрабаваў выбрацца з жалезнай пасткі. Пачуцьцё голаду, якое дапякала яму некалькі дзён, раптам прапала; замест яго зьявілася пачуцьцё гневу – ён гатовы быў грызьці жалезныя сьцены бочкі, калі б тое было магчыма. Ён ужо ведаў, што да рапіцы адсюль ня выбрацца, а раніцай сюды прыйдзе Вусаты і панішчыць яго. Яго – самага дужага, самага сьмелага пацука па складзе. Зрэшты, яно і зразумела: у барацьбе за існаваньне ў пацучыным грамадстве першымі гінуць самыя вартыя і самыя годныя. У той жа час астатнія, дурныя і баязьлівыя, будуць жыць і сьмяяцца з яго. Але, мабыць, такая ўжо іх, пацучыная, прырода.

Хвастаты яшчэ не адышоў ад шоку, як наверсе пачуўся асьцярожны стук пацучыных лапак па дошчачцы, і тут жа ў бочку зваліўся новы пацук. Канец дошчачкі разам з сырам зноў задраўся ўгору. Новы пацук спалохана замітусіўся на дне бочкі. Хвастаты на тое ніяк не адрэагаваў, ён меркаваў, што рабіць? Адчуўшы прысутнасьць Хвастатага, малады пацук, дробна калоцячыся, сьцяўся насупроць пад сьцяной бочкі. Хвастаты яму ня стаў спачуваць, толькі падумаў: сам вінаваты, ня лезь, куды ня трэба. Ён нерухома сядзеў, марудна адыходзячы ад шоку.

Пацукі падалі ў бочку амаль праз роўныя прамежкі часу, – усіх моцна вабіў дужа смачны пах сыру. Пад раніцу ў бочцы іх аказалася восем штук, у тым ліку два буйныя самцы з восеньскага памёту пацукоў. Амаль у поўнай цемры ён нюхам пазнаў бы іх, бо ўжо ня раз з імі біўся і цяпер падумаў, што іхняя сустрэча дабром ня скончыцца. У падпольлі дагэтуль яны стараліся пазьбягаць адзін аднаго, але тут такая магчымасьць мінулася. Зараз тут прыйдзецца вырашыць, каму з іх жыць. Мабыць, аднак, разумным сябе лічыў не адзін Хвастаты, а і яшчэ некаторыя з тых, што трапілі ў гэтую пастку. Сьпярша ўсе яны нерухома сядзелі, павольна ачуньвалі ад шоку падзеньня. Затым у цемры раздаўся быццам бы беспрычынны прарэзьлівы піск, і пачалася

бойка. Пачуцьцё жаху ахапіла пацукоў, хтось, не стрымаўшыся, першы кінуўся на суседа. Магчыма, гэта быў адзін з двух братоў, – ягоны кліч стаў сігналам да пачатку сьмяротнай схваткі ўсіх з усімі. Хвастаты ведаў і памятаў яшчэ з часу ўласнай маладосьці, што марудзіць у такіх выпадках не выпадае – тое можа каштаваць жыцьця. Перамагае самы рашучы і самы спрытны. Хвастаты ў адказ таксама прарэзьліва праверашчэў і накінуўся ў цемры на суседа, – можа, таго самага, што сьледам за ім трапіў у бочку. Ён даволі лёгка забіў яго, разарваўшы таму горла. Але тут і сам ледзьве пасьпеў выкруціцца з-пад нейчых вострых зубоў, перавярнуўся цераз галаву і ўпіўся зубамі ў чыйсьці цёплы і мяккі жывот. У цеснай бочцы ўтварыўся вірлівы клубок з цэлаў ахопленых жахам пацукоў, якія рвалі, грызьлі, тапталі адзін аднаго, – нападалі і абараняліся адначасна. У бочцы надта патыхала пацучынай крывёй, і ў яе паху зусім патануў нядаўна яшчэ жаданы пах сыру.

Гэта быў жорсткі і даўгі бой не на жыцьдё – на сьмерць, з якога да ранку ўцалела двое – Хвастаты і малады пацук восеньскага памёту. Усе астатнія, сьцякаточы крывёю, валяліся на дпе бочкі; некаторыя ўжо страцілі ўсе адзнакі жыцьця. Самец быў моцна паранены нейчымі зубамі, але, пачуўшы ўцалелага Хвастатага, намогся на слабы баявы кліч і аскаліў зубы. Зьнясілены ў бойцы Хвастаты, зрабіўшы спрытны кароткі выпад, без усялякага сігналу ўхапіў зубамі за ўжо скрываўленае горла і дабіў самца.

Крывавая бойка скончылася – у бочцы Хвастаты застаўся адзін. Адзінота гарантавала яму нейкую магчымасьць жыцьця – хоць бы да раніцы. Вядома, гэтага было мала, але інстынкт падказваў пацуку, што часам з самых малых магчымасьцяў складваецца даўгое жыцьдё. Асабліва калі мець волю змагацца за яго да канца і надта не сьцерагчыся прынцыпаў. Хвастаты са страхам чакаў ранку, калі прыйдзе Вусаты і прыкончыць яго ў бочцы. Гінуць ён па-ранейшаму не хацеў. Праўда, ягонае самалюбства падагравала ўсьведамленьне таго, што ўсё ж ён перамог усіх

уласных суродзічаў. Што ж да чалавека, дык вядома, што яго перамагчы немагчыма.

І ён прыйшоў, той страшны Вусаты. Сьпярша загрукалі ягоныя боты каля канторкі, пасьля ўспыхнула элсктрычнае сьвятло, якое адразу разагнала паўзмрок у секцыі. Здаецца, Вусаты быў не адзін. Хвіліну Хвастаты слухаў, як яны там размаўлялі, пасьля прагучэў чыйсьці бесклапотны сьмех – здаецца, гэта быў малады грузчык Белабрысы. І вось ярка пыхнула лямпачка пад стольлю ў секцыі – у бочцы стала амаль відна. Хвастаты акінуў задаволеным позіркам нерухомыя целы сваіх ахвяр і нарыхтаваўся да сустрэчы з Вусатым. Калі той працягне руку, пацук адразу ўчэпіцца ў яе і загіне – як і належыць пацуку-пераможцу, пацуку-лідэру. Ён быў пацук ганарысты і не хацеў хавацца сярод трупаў іншых, што кучкай ляжалі на дне бочкі, не хацеў прыкідвацца мёртвым. Калі над бочкай паявіўся ненавісны твар Вусатага, ад якога дужа сьмярдзела цыгарэтамі «Мальбара», што штабялём ляжалі пад вакном секцыі, ён ашчэрыў зубы і пагрозьліва засіпеў. На болей гучны кліч у яго ўжо не хапіла сілы.

– Ну як там? – пачуўся голас здаля. Гэта пытаўся Белабрысы.

– Парадак! – задаволена адказаў Вусаты. – Твая праўда.

– Хто-небудзь застаўся?

– А вунь сядзіць Хвастаты...

– Во і добра. Выпускаем.

Бочка раптам нахілілася, Хвастатага ледзьве не заваліла мёртвымі целамі пацукоў, але ён адскочыў і апынуўся на самым краі бочкі. Зусім побач быў ненавісны твар Вусатага, але ён ня меў на сабе ні пагрозы, ні злосьці. Бочка нахілілася і яшчэ ніжэй.

– Ну, матай адсюль! – зусім незласьліва сказаў Вусаты.

Здаецца, той яго выпускаў. Хвастаты нарэшце сьцяміў гэта і хуценька нырнуў з бочкі пад скрынкі. Ягоныя

адносіны да Вусатага разам зьмяніліся – ён перастаў ненавідзець чалавека. Аказваецца, той зусім ня кепскі – той добры. Той яго паратуе. Гэта ягоныя суродзічы-пацукі спрабавалі яго забіць, а чалавек яму дорыць жыцьцё. Які ж ён быў дасюль дурань, што ненавідзеў людзей!

З-пад скрынак ён удала перабраўся да сваёй нары і схаваўся ў яе выратоўчай цемры. Ён толькі пасьпеў пачуць, як ззаду ў чымсьці засумняваўся Вусаты, і Белабрысы яму адказаў:

– Нічога, усё будзе о’кей! Трэніроўку меў, што трэба. Праз месяцніводнага не застанецца...

Затаіўшыся ў нары, Хвастаты марудна ачуньваў ад начных перажыванак і думаў, што цяпер яго галоўныя ворагі – яго ж суродзічы. Ён будзе іх бязьлітасна нішчыць ужо хоць бы таму, што ён самы дужы. А ў каго сіла, у таго і праўда. Хаця ніякая праўда яму не была патрэбная. Няхай праўду шукаюць слабакі. А над ім ёсьць Вусаты. Ён яго бог і праўда.

Вусаты ж, мабыць адчуўшы перамену ў настроі пацука, а можа з свае дабрыні, паклаў каля ягонай нары той самы кавалак духмянага сыру, які ноччу пацуку не дастаўся. Але Хвастаты на яго не рэагаваў – цяпер яго хваляваў толькі пах крыві.

Праз месяц на складзе сапраўды не засталося ніводнага пацука. Апроч Хвастатага, зразумела...

## Аб’яднаньне

У старажытным замку з магутнымі, таўшчэзнымі сьценамі, змураванымі з гранітных камянёў, было шмат камераў, сярод якіх самыя вялікія былі Кутняя і Даўгая. Кутняя займала вугал будыніны, ля вежы; Даўгая была паверхам ніжэй і трохі ўбаку ад вежы. І там, і там сядзела па некалькі дзясяткаў вязьняў, збольшага, аднак, аднае нацыяналыюсьці. Мусіць, таму, што туды

саджалі мясцовых, тубыльцаў. Тое было ўвогуле зручна – і для вязьняў, і ддя наглядчыкаў. Асабліва калі ўлічыць, што большасьць сядзела за ўдзел у няўдалым паўстаньні, якое было жорстка здушанае рэжымам. Усе разумелі адзін аднаго.

У іншых жа камерах сядзелі розныя людзі – розных злачынстваў і нацыяў. Тым было значна горш – ні пагутарыць, ні паразумецца. Адно маўчалі дзень пры ночы.

Але, як вядома, чалавек уладкаваны гэткім чынам, што калі добра, дык хочацца, каб і яшчэ лепш. Тое, мабыць, зразумелі і вязьні абедзьвгох камераў, у якіх пачаўся спантанны рух за аб’яднаньне. Яно і сапраўды: навошта пасаджаных па адной справе трымаюць у розных месцах, калі можна сабраць у адным. Зручнасьці відавочныя – і для зьняволеных, і для начальства. І пагаманіць, агулам зразумець памылкі і хібы барацьбы, дамагчыся выкрыцьця здрайцаў. Зноў жа, калі ўсе разам, дык можа ўсіх не пакараюць сьмерцю, можа агулам дамогуцца волі?

Найперш сваю думку вязьні ўвялі ў вушы наглядчыкаў, затым у выглядзе скаргі напісалі адміністрацыі: што і меншыя будуць затраты на ахову, і на ацяпленьне зімой, і стане лацьвей наглядчыкам. Быў і яшчэ адзін момант таго аб’яднаньня, хоць і трохі рызыкоўны для вязьняў. Рэч у тым, што наглядчыкам у Кутняй камеры быў увогуле неблагі чалавек, нават сімпатычны з выгляду, прыгожы і ўсьмешысты, які ніколі нікога ня біў. Затое наглядчыкам Даўгой быў сапраўдны зьвяруга – і ў паводзінах, і ў паставе, трапіць пад яго ўладу было б жахліва. Праўда, у адносінах да вязьняў тыя іх якасьці ня надта выяўляліся – усім у турме кіравалі зацьверджаныя наверсе правілы турэмнага рэжыму, якія строга выконваліся. І ўсё ж вязьні дужа спадзяваліся, што аб’яднаюцца яны ў Кутнюю, так прынамсі хацелася. А дзе хаценьне, там і спадзяваньне.

Большасьць прыхільнікаў таго была ў абедзьвюх камерах, хоць і там і там знаходзіліся і песімісты. Ныцікі і недавяркі. Ныцікаў і недавяркаў, канешне, не

любілі на волі, пагарджалі імі і ў турме.

Такім недавяркам у Кутняй быў стары авечы стрыгаль. На ўсе гарачыя захады энтузіястаў аб’яднаньня ён толькі скептычна чмыхаў і кідаў скупое «Усё ядна». Іншыя даказвалі, што Стрыгаль глыбока памыляецца, бо зусім відавочна, як гэта здорава сабрацца ў адно ўсім небаракам, згуртавацца, каб хоць раз памаліцца разам свайму Богу. Ці ж гэта добра, гібець разьяднанымі ў розных кутках, нават на розных паверхах, пад розным начальствам, адзін з якіх зьвер, а другі быццам і нічога. Ці справядліва тое? Стрыгаль, усё моўчкі выслухаўшы, нязьменна кідаў сваё: «Усё ядна» і спыняў размову.

У Даўгой скептык быў іншага складу – той вёў працяглую спрэчку, у тым сэнсе, што турэмнае начальства ніколі ня пойдзе на саступку вязьням, ніколі не дазволіць ніякага аб’яднаньня, бо аб’яднаньне яму нявыгаднае, а то і небясьпечнае, што трэба з тым прымірыцца, па-дурному ня траціць сілы. Можа так здарыцца – астатнія сілы перад канцом. Але чым болей ён гарачыўся ў спрэчках, тым зласьлівей насядалі на яго апаненты. Некаторыя ўжо пачалі называць яго здраднікам. Тым болей, што на волі ён быў паліцыянтам і меў прозьвішча Гусак.

Апантаным энтузіястам аб’яднаньня дзьвюх камераў быў Паляноўскі, высокі схуднелы вязень, што хварэў на сухоты. На волі ён шчыраваў партыйным функцыянерам, меў адмысловы прапагандны досьвед і дужа ўмеў гаварыць – агітаваць і пераконваць. Звычайна тое і рабіў да абеду, а пасьля абеду сядзеў, прыпёршыся да сьцяны – абдумваў новыя аргументы. Вязьні ўвогуле слухалі яго з цікавасьцю. Галоўнае з тае прычыны, што ён умеў бачыць надзею. Бальшыня з ім пагаджалася. Адзін толькі Стрыгаль дэманстратыўна маўчаў, і калі ў яго пыталіся, адказваў нроста: «Усё ядна. Сьмерць».

Людзі пацспвалі плячыма і адварочваліся – каму тут хацелася разважаць пра сьмерць? Асабліва, калі яна і напраўду стаіць у кожнага за плячыма. Але ж чалавек, пакуль жыве, схільны разважаць пра жывое. І

спадзявацца.

А Стрыгаль толькі маліўся.

Тым часам на волі штось адбылося – новае паўстаньне, ці што? Нсяк поччу ў замку пачуўся гоман, шмат галасоў і тупат шматлікіх ног – то прывялі вялікую партыю вязытяў. І тады, можа з тае прычыны, што спатрэбіліся вольныя камеры, ці з якой іншай, даўняя мара вязьняў была зьдзейсьненая: зьняволеных з дзьвюх камераў сагналі ў адну. Якраз у Кутнюю. Тут стала цесна і тлумна, але і радасна. Паляноўскі адразу наладзіў штось падобнае на мітынг, на якім дужа горача мовіў пра адзінства, сілу і згуртаванасыдь. Вязьні з дзьвюх камераў аж выціралі сьлёзы радасьці, абдымаліся і цалаваліся. Нават ныцік Гусак прасьвятлеў з твару і абняў некалькі чалавек з Кутняй. Толькі Стрыгаль па-ранейшаму сядзеў у кутку самотны, і калі ў яго запыталіся, чаму ён ня радуецца, паныла махпуў рукой.

Мабыць, яго тады мала хто зразумеў, шмат хто падумаў: дурны стары. Усе бачылі несумненную выгоду нечаканага аб’яднаньня – ужо хоць бы тое, што пазбыліся зьвераватага наглядчыка і апынуліся ўсе разам. А гэты, наглядчык Кутняй, нават прыемна ўсьміхаўся і нікога ня выцяў за час пярэбараў. Ужо тое давала надзею.

Спалі ноччу ў цеснаце, покатам на бетоннай падлозе, але амаль шчасьлівыя. Нагаварыўшыся, наабдымаўшыся. І нават забыўшыся на песімістаў Стрыгаля і Гусака. Дый на наглядчыкаў таксама. Аднак тыя, мабыць, пе забыліся на іх. Яшчэ не разьвіднела, як цяжкія дзьверы-вароты камеры расчыніліся, і сонныя вязьні ўбачылі ў іх жаўнераў – шмат жаўнераў – і ўсьмешыстага наглядчыка, які з той самай лагоднай усьмешкай грымотна скамандаваў:

– Па адным – на выхад! Ліквідацыя...

Некалькі дзясяткаў вязьняў сьпярша зьбянтэжана маўчалі, бы не разумеючы, чаго ад іх дамагаюцца. Але

хутка ўсё стала надта зразумела і жахліва, і яны па адным пачалі выходзіць у дзьверы.

Апошнім нясьпешна выйшаў Стрыгаль. Цяпер ужо ніхто не папракнуў яго, і той напасьледак злосна плюнуў на парог камеры Кутняй: пад ранак ён таксама паверыў, што ўсё неяк абыдзецца...

## Абязбожаны люд

Народ дужа верыў у свайго Бога і спрадвеку маліўся яму. Нават калі жылося няблага, не было войнаў, голаду ды іншых пошасьцяў, людзі хадзілі ў цэрквы і шчыра маліліся. Цэрквы былі старыя, ня надта шыкоўныя, збудаваныя з каменю ці дрэва. Але заўжды ў іх тоўпіўся люд, гарэлі сьвечкі і чуліся пранікнёныя словы вернікаў. Асабліва ў нядобры час, у пару войнаў ды ўсялякай бяды і нягоды, якіх на гэтай зямлі хапала.

Але во насталі іншыя часы. Невядома адкуль насунулася панявсрка, людзі засумняваліся і загаварылі пра тое, што Бог не ўсемагутны. Колькі было бяды і няшчасьця, а ці памог ён хоць каму-пебудзь? Казалі, што не. Таму ці варта марна маліцца, шмат часу аддаваць Богу, царкве і сьвятарам, у якіх бязбожная ўлада згледзела ворагаў, ашуканцаў, а пасьля і шпіёнаў. У газетах былі выдрукаваныя адпаведныя факты і сьведчаньні, знойдзеныя падставы, паводле якіх сьвятароў належала зынішчыць, і тады, казалі, жыцьцё адразу палепшае. Так было і вырашана. Сьвятароў пасадзілі ў турмы, ішлых саслалі ў сьцюдзёны край, а то і расстралялі. Царкоўнае майно, што назапашвалася цягам стагоддзяў, расьцягалі па ўстановах, прадалі за мяжу. Грошы, казалі, патрэбныя, каб галоднаму люду купіць хлеба. Купілі ж зброю і рыштунак для войска і паліцыі. Паліцыя была болей патрэбная ўладзе, чым згаладнелыя, нямоглыя людзі. З купалоў пакінутых цэркваў пазьдзіралі паржавелыя крыжы, паразьбівалі каляровыя вітражы і вокны. Дождж ды сьнег давяршылі непазьбежную справу заняпаду. Рэлігія сканала.

Ня стала ні сьвятароў, ні іерархаў, ні цэркваў. Зарослыя крапівой ды быльнягом руіны горбіліся ў паселішчах ля апусыделых гандлёвых плошчаў.

Але мінаў час, а жыць лепей ня стала. Людзі не хадзілі ў цэрквы, затое тоўпіліся ў шынках ды корчмах. Пілі, як ніколі. Ніхто, апроч сварлівых жонак, не забараняў таго, але хто слухае жонак? Улады ж самі падахвочвалі народ піць, бо мелі хранічную няўпраўку з бюджэтам. Распуста, гвалт і забойствы дасягнулі небывалых памераў, ад п’яных канфліктаў народ траціў ці ня больш, чым ад войнаў. Войны ж між тым выбухалі, як і раней – на жыцьці кожнага пакаленьня. Як толькі сыны ў бацькоў дасягалі дваццаці гадоў, дык распачыналася новая вайна. Ваяваць маладыя ішлі з вялікім імпэтам, а вярталіся з заўсёднай нягегласьцю. Не зважаючы на тое, перамагалі ці апыналіся пераможаныя. Перамога нікому не прыносіла выгодаў, а толькі новыя клопаты.

Тады праз нейкі працяглы час успомнілі пра Бога. Недзе наверсе ўлады вырашылі, што зрабілі памылку, выракшыся Бога. Народу патрэбны Бог – гэтаксама, як і хлеб і гарэлка, зразумелі кіраўнікі і дазволілі мець Бога.

У краіне пачалі аднаўляць Царкву, выладкоўваць яе складаную іерархію. Іерархаў набралі хутка, асабліва вышэйшых. Частка перайшла з расчараваных у палітыцы інтэлігентаў, частка рэкрутавалася са сьпецслужбаў. Кадры сьпецслужбаў наогул паважаліся ў краіне, бо не падманвалі ўладу ніколі. Якое заданьне атрымвалі, тое і выконвалі – хутка і бяз роздуму.

У гарадох і вёсках кінулі будаваць клубы ды сьвінарнікі – дружна ўсчалі мураваць храмы. То былі выдатныя будоўлі, на іх скарыстоўвалі замежную тэхніку і лепшыя матэрыялы. Праектаваньнем займаліся настворaныя праектныя арганізацыі, найлепшыя мастакі расьпісвалі сьцены і купалы на эвангельскія тэмы. Купалы скрозь зьзялі сьвежым сусальным золатам. Званы адлівалі ў старых індустрыйных цэнтрах, а таксама на прадпрыемствах ВПК, гучалі яны, бы арганы. Мантаж рабілі з дапамогай магутных кранаў пераважна нямецкай вытворчасьці – хутка і бездакорна. План

будаўніцтва храмаў выконваўся пасьпяхова.

Але тут падышла праблема, якую вырашыць стала няпроста: зьнік Бог. Колькі таго ні клікалі – не адгукаўся. Запусьцілі ў неба касманаўтаў, ды тыя толькі лёталі, трацілі грошы, а Бога ня бачылі. Мяркуючы па ўсім, Бог сыйшоў, адцураўся грэшных людзей. Але як жа было бяз Бога? Не перарабляць жа шыкоўныя цэрквы на збожжасховішчы ды сьвінарні.

Тады вырашылі стварыць уласнага, Зямнога Бога, які, канешне ж, будзе нават лепшы за Бога Нябеснага. Усё ж свой, ведае патрэбы людзей, сам – з народу. Правялі рэферэндум, і 99,99 адсоткаў выказаліся за Зямнога Бога. Выбары яго адбыліся адмыслова дэмакратычна – тайна і ўсеагульна, кожны выбаршчык меў адзін голас; сусьветная супольнасьць іх ухваліла. Выбралі, вядома ж, самага вартага для тае высокае пасады. Паколькі самыя вартыя знаходзіліся ў сьпсцслужбах, адтуль і ўзялі Зямнога Бога. Ім аказаўся самы для таго здатны – дужа адукаваны (скончыў аж тры ВНУ: партшколу, АГН і ВІП КГБ), доктар і прафесар, меў цудоўную мянушку «Крышталь», гуляў у футбол, тэніс, валейбол, хакей, таксама як у прэферанс і ў дурня. У якасьці Зямнога Бога ўсім абяцаў тое, што ад яго хацелі: мужчынам – танную гарэлку, жанчынам – прыгожых мужчын, вайскоўцам – шмат зорак на пагоны і грудзі, пенсіянерам – кучу «зайцоў». Краіна была ў захапленьні ад уласнага Зямнога Бога.

Паводле адмысловай пастановы аднойчы ўвосень у адзіны для краіны дзень усчаліся арганізаваныя набажэнствы. То было дужа ўрачыстае й прыгожае мерапрыемства. Прываліла безьліч згаладнелага па веры народу, усе глядзелі, слухалі, захапляліся царкоўным антуражам – можа, болей, чым па рок-канцэртах. Некаторыя нават хрысьціліся – справа налева ці наадварот, бо ўжо забыліся, як трэба. Іншыя, трохі пастаяўшы на імшы, выбіраліся на вальнейшае месца і пыталіся: дзе буфет? Буфету чамусь не было – ня тое, што на звыклых дэпутацкіх выбарах. Што гаварылі сьвятары – ня дужа слухалі, бо і не разумелі.

Кіраўнікі, што нядаўна яшчэ змагаліся з рэлігійным дурманам, стаялі наперадзе са сьвечкамі ў руках, хоць таксама мала што разумелі. Хіба рабілі выгляд. Бачна было – чакалі, калі тая нудота скончыцца і можна будзе пайсьці традыцыйна адзначыць пачатак важнае справы.

Спакваля, аднак, сталі прывыкаць да царкоўных службаў, стаяць і нават маліцца. Маліцца – гэта значыць прасіць у Зямнога Бога. Адныя прасілі здароўя, другія шчасьця ці хлеба. Начальства маліла асігнаваньняў на гаспадарку, якая за бязбожныя гады зазнала вялікі заняпад. Прадпрымальнікі прасілі крэдытаў. Ды Зямны Бог пасьля выбараў бы аглух – нічога не даваў нікому. Толькі браў. Хлапцоў – у салдаты, грошы – на падаткі, здароўе – у старых, свабоду – у маладых. З цягам часу народу ў цэрквах стала ўсё менець. Хадзілі ўжо толькі па вялікіх сьвятах, і то болей старыя. У моладзі здаўна было іншае захапленьне – дыскатэкі і канцэрты поп-музыкі.

А пасьля цэрквы і зусім абязьлюдзелі, ніхто туды не хадзіў. Выдатнае царкоўнае ўбранства – абразы ды пазалоту – усе ўжо бачылі, слухаць жа там не было чаго – па тэлевізары прамаўлялі цікавей.

Кіраўніцтва таксама ня дужа шчыравала, рэдка паяўляючыся на службах. Іерархі і сьвятары скардзіліся на несьвядомасьць вернікаў і хадайнічалі, каб сьпецслужбы паспрыялі. Тыя згаджаліся, што справа дрэнь, і ўспаміналі нядаўняе старое. Што старое – ня ёсьць усё кепскае, што і ў старым было шмат добрага. Напрыклад, прымус па формуле: добраахвотна, але абавязкова. Як некалі падпіска на пазыку або выбары дэпутатаў. Калі дзе што не атрымвалася, выручаў прымус. Прасілі ў Зямнога Бога санкцыю на прышус, які ён ахвотна даў у неабмежаванай колькасьці. Бо, як казалі, браў прымус з Космасу, дзе яго было процьма. Кіраўніцтва за тое дужа палюбіла ўласнага Зямнога Бога і пачало дружна маліцца за яго.

А просты люд зноў упаў у нэндзу і паняверку. Як ні круці, зноў павярнуўся да звыклага, ці не з паганскіх

часоў ідалу – яе сьвятасьці Бутэльчыны. На самадзейна-дэмакратычнай падставе ў краіне пачалася кампанія за будаўніцтва адпаведнага сімвалу – меркавалася цыклапічнае збудаваньне са шкла, бетону і сталі на самай цэнтральнай плошчы сталіцы ў форме аграмаднай Бутэлькі. Быў прыняты адмысловы праект, але стрымвала адна нечаканая і цяжкавырашальная праблема – з коркам ці без. Калі з коркам, казалі, будзе недэмакратычна, калі без... Вядома, што бывае з бутэлькай бяз корка. Чакаюць блаславеньня Зямнога Бога, як ён вырашыць – так і будзе.

Пэўна ж, дачакаюцца. Але што тады будзе?

## Тры словы нямых

Народ быў нямы.

Жыў на шырокай вялікай высьпе сярод акіяну, ніякіх сувязяў зь іншымі выспамі ня меў і думаў, што ўсе астатнія народы, якія недзе жывуць, таксама нямыя. Зрэшты, мова ня дужа была і патрэбная нямым, – усё, чаго вымагалі гаспадарчыя, людзкія ды сямейныя дачыненьні, яны разумелі бяз мовы, па вачах, жэстах, рухах. Ніякай балбатні ў вольны час не было, бо не было вольнага часу – усе працавалі ад начы да начы. Жылі небагата, але й не галадавалі, і калі не здаралася мору, эпідэміі ці ўрагану, дык пачуваліся амаль шчасьлівымі. На высьпе, воддаль ад цывілізацыі, валадарылі мір і спакой. Войнаў людзі спрадвеку ня ведалі.

Праўда, здараліся выпадкі, якія часам прымушалі людзей хвалявацца. Гэта калі на марскім даляглядзе паказваўся вялізны белы карабель, і зь яго на выспу ў затоцы высаджваліся людзі. Тыя людзі былі незвычайныя. Усё ў іх было прыгожае ды разумнае – і твары, і вопратка, і начыньне. А галоўнае – яны ўмелі мовіць. Словы зь іхных вуснаў сыпаліся, бы соевыя бабы зь мяшка, і азначалі таемную сілу, бо сьледам ішлі пэўныя дзеі і ўчынкі. Гэта было племя ГАВАРКІХ,

вырашылі нямыя, бо ў іх нават прылады вымаўлялі словы – такія маленькія чорныя скрыначкі. Нямыя баяліся гэтых людзей, ды й паважалі таксама. Чужынцы ж, у сваю чаргу, не злаваліся на маўклівых нямых - наадварот, усяляк давалі зразумець, што іхная немата ім падабаецца. Настолькі падабаецца, што аднойчы яны высадзіліся на бераг і пачалі будаваць палац. Нямыя не пярэчылі – спакойнае, панылае жыцьцё на высьпе, лічы, ім абрыдла.

Палац быў збудаваны з каменю, шкла і мэталу, якія прывезьлі на белым караблі. А разам прывезьлі і ўладу. Улада, сказалі гаваркія, патрэбная для нямых, бо такім чынам яны будуць далучаныя да найлепшых дабротаў цывілізацыі. Нямыя паставіліся да таго з энтузіязмам – ім хацелася далучыцца да цывілізацыі. Некаторыя зь ліку самых разумных ці дужых пайшлі працаваць у палац, а таксама ў паліцыю і самакіраўніцтва. Усё тое было патрэбна выключна дзеля інтарэсаў нямых.

Праўда, нямыя павінны былі за тое плаціць. Была прывезена дамова пад назвай "Канстытуцыя", якая вызначала памер даніны і парадак яе спагнаньня. А таксама прадугледжвала іншыя абавязкі для нямых і прывілеі для ўлады. Нямыя павінны былі падпарадкоўвацца ўладзе, за што ім пакідалася родная для іх немата. Увогуле яны былі задаволеныя, бо цалкам захоўваліся традыцыі продкаў. Праўда, тыя, што былі пры ўладзе або ў паліцыі, хутка вывучыліся размаўляць з гаваркімі – вядома ж, на іхнай, гаваркой мове. Іншыя былі вольныя ад тае вучобы. З часам, аднак, колькасьць прыўладных павялічвалася, яны ўжо займелі і ўласны назоў – ГАРЫЗАНТАЛЬНІКІ. Адпаведна павялічваліся памеры падаткаў, бо трэба ж было плаціць ім заробак.

Нямыя пачалі вохкаць і вахкаць, але маўчалі і нейк сплочвалі тыя падаткі. На бяду, у хуткім часе стаўся недарод; як нямыя сплацілі падаткі, самім мала чаго засталося. Пад восень у паселішчах нямых пачаўся голад. Вялікія групы іх прыходзілі да брамы палацу і позіркамі ды гукамі прасілі есьці. Але есьці ім не давалі. іхныя ж суродзічы, што сталі прыслужнікамі, адганялі

іх ад брамы, некаторых нават пабілі палкамі. Гэта былі першыя пабітыя на высьпе людзі, і тое выклікала гнеў. У паселішчах на плошчах перад каменнымі ідаламі стаў зьбірацца народ; узьнімаючы ўгару рукі, людзі прасілі заступіцца. Падобна, аднак, ідалы перасталі разумець нямых.

А голад між тым рабіўся невыносны. Соя і кукурудза зусім пагінулі на палёх ад сьпёкі, дажджу не было зь вясны. Пад восень наляцеў ураган, які бушаваў тры дні запар і заліў выспу так, што не засталося ні каліва. Пагінула шмат жывёлы і людзей. А жывыя зноў пайшлі да палаца.

У той час да гаваркіх прыехаў з-за акіяну іх галоўны правіцель – Вялікі Дэмагог. Гэта быў дужы, высокі мужчына з пагрозьлівым позіркам і вялікім ротам, які не зачыняўся ніколі. У першай жа сваёй прамове, сказанай у палацы, ён абвясьціў, што ад сёньня краіна называецца Народная Дэмагогія, пагражаў усім непаслушэнцам карай, шчыроўцам абяцаў узнагароды, галоўнай зь якіх была прывілея жыць. Прыкарытнікі зьзялі ад шчасьця, вядома ж, у спадзеўцы зарабіць найбольшую з прывілеяў.

Жыць на высьпе рабілася ўсё горш. Пасьля неўраджаю, голаду і ўрагану настаў мор. Нейкая злая пошасьць касіла нямых у іхных пальмавых паселішчах, нават не было каму хаваць мерцьвякоў. Жывыя пачалі рабаваць мёртвых. Насьпяваў вялікі маўклівы бунт, – супраць палаца, паліцыі, гарызантальнікаў і нават супраць ідалаў, якія адвярнуліся ад нямых. Улады з дапамогай вялізнае зграі прыкарытнікаў, што ўжо збольшага навучыліся мове гаваркіх, стараліся не дапусьціць гвалту. Дзясяткі іхных агітатараў пешшу і на мулах хадзілі й езьдзілі па паселішчах, угаворваючы нямых спадзявацца, трываць і маўчаць. Апошняе было самае важнае. Яшчэ нямым загадалі кожны дзень тры разы кланяцца ў бок палацу, паліцыянты сачылі, каб тое рабілі па-шчырасьці, а не прытворна. Тыя й стараліся рабіць па-шчырасьці, але па-шчырасьці кепска атрымлівалася. Некаторыя з самых кемлівых пачалі ўжо

заўважаць сілу, якая тоіцца ў слове прыгнятальнікаў, і бясьсільле ўласнае нематы. Адзін зь іх, сапраўдны глуханямы, у часе ранішніх паклонаў на плошчы перастаў кланяцца і нешта бязладна загаманіў-залемантаваў да паліцыянтаў. Паліцыянты, вядома, такога непаслушэнства не маглі дапусьціць і накінуліся на яго з палкамі. Білі доўга й люта, глуханямы вырываўся й крычаў, ды марна. Пасьля раптам сьціх, здалося, сканаў.

Ля мерцьвяка сабраліся нямыя, хацелі несьці яго ў халупу, ды паліцыянты стаялі абапал і не пушчалі людзей. Атмасфэра на плошчы стала напружанай, чуўся лямант і гвалт, плакалі жанкі. І тады раптам нябожчык ускочыў, мусіць, каб бегчы. Але паліцыянты яго ўхапілі й зноў пачалі біць. І менавіта ў такі момант, мабыць, канаючы, глуханямы выразна й гучна крыкнуў:

- Каб вы здохлі!..

Усе на плошчы зьнямелі, здранцьвелі, гул і лямант разам спыніўся. Жах узьвіўся ў паветры і ўразіў паліцыянтаў. Сьпярша тыя два, што трымалі глуханямога, а пасьля й яшчэ два побач, бы драўляныя чурбаны, упалі патыліцай аб зямлю й не крануліся болей.

Тады людзі, гнаныя зьдзіўленьнем і жахам, кінуліся да глуханямога, ды ён і сапраўды быў мёртвы. Яго аднесьлі ў халупу, і ён доўга ляжаў там непахаваны. Яго баяліся хаваць, бо адчулі ў ім вялікую, непазнаную сілу. Ад таго часу глуханямы стаўся першым апосталам нямога народу.

Трагедыя ў паселішчы стала такой ашаламляльнай, што нямыя на нейкі час забыліся пра ўсе няшчасьці – голад, хваробы і ўраганы. І нават на белы палац. Усе думалі пра словы, якія глуханямы панёс з сабой у магілу. На нейкі час улады таксама прыціхлі. Вялікі Дэмагог, які кожны дзень чытаў свае пагрозьлівыя літаньні, тры дні маўчаў. Пасьля зьявіўся ягоны ўказ, якім навек забаранялася быццам бы паскудная мова нямых, а ягоныя гарызантальнікі ў мэтах бясьпекі

пераймяноўваліся на ВЭРТЫКАЛЬНІКАЎ.

Ды, відаць, было позна. Старыя зь ліку нямых пачалі ўспамінаць забытыя паданьні яшчэ болей старых, якія быццам бы сьведчылі, што й на высьпе некалі была мова. І нават прыпаміналі некаторыя словы, як напрыклад, СВАБОДА і ВОЛЯ. Некаторыя з выгнаных з палаца прыкарытнікаў, што навучыліся там чытаць і пісаць па-дэмагогаўску, займеўшы шмат вольнага часу, пачалі распрацоўваць мову нямых. Асабліва ахвочай да таго стала моладзь. Мінула паўгода, і ў паселішчах ноччу, у полі ці ў моры на рыбным лове стала чуваць галасы. Нямыя пераставалі быць нямымі. Пад вялікім сакрэтам ад паліцыянтаў і вэртыкальнікаў берагглі ў памяць тры словы глуханямога. Тых словаў баяліся, бы зараджанай зброі, ведаючы, што зараджаная зброя некалі страляе. Тое разумелі нямыя, прыкарытнікі і ўсе гаваркія. І апошнія не драмалі. Побач з палацам была тэрмінова збудавана турма, бы пчаліныя соты, разьдзеленая на цесныя каморкі, куды саджалі нямых, каб тыя не размаўлялі. Была створаная разгалінаваная Служба Бясьпекі (СБ), што вэрбавала стукачоў. Стукачам плацілі гарнец маісу за кожны данос, – пры голадзе тое была немалая плата, і недахопу ў стукачах не адчувалася. Тым болей, што іхная праца мела зусім легальны характар, і ўсе яны былі аб'яднаныя ў прафэсійны Саюз Стукачоў (СС). Для далейшага дасканаленьня працы вэртыкальнікаў апошнія атрымалі новую геамэтрычную назву – ДЫЯГАНАЛЬНІКАЎ і пажыцьцёвы службовы статус. Паліцыянтам на 30 см. падаўжаліся баявыя бамбукавыя палкі і на 5 см. падымаліся тульлі фуражак, каб самыя недамеркі выглядалі ня горш за гігантаў. На крэдыты міжнародных банкаў была закуплена зброя масавага паражэньня і кампутарная тэхніка. Для яе абслугоўваньня прыехалі кадры з былых сацкраін, адкуль з прычыны тамтэйшае крызы пачалася няспынная выцечка навуковых мазгоў. Зухаватыя спэцыялісты заняліся дасьледаваньнем апошняй у сьвеце недасьледаванай праблемы – узаемазалежнасьці дэмагагічнай улады і дзікунскае мовы. На дзясятках эўрапейскіх, азіяцкіх, гішпанскіх ды палінезійскіх мовах

аналізаваліся тры магічныя словы, якія забілі чатырох паліцыянтаў. У той матэматычнай непрапарцыйнасьці і палягала навуковая загадка веку.

Аднак мінаў час, а выніку тае працы не было ніякага. І тады Служба Бясьпекі Вялікага Дэмагога (СБВД) дазналася, што тыя вучоныя розных навук ёсьць спрэс спэцыялісты ў кантынэнтальных ракетах (СС-20) ды комлексах "Тапаля". Разумеючы шмат чаго ва ўладзе і ракетах, яны амаль нічога не разумелі ў мовах, тым болей, у мовах нямых. Раззлаваны Вялікі Дэмагог прагнаў іх усіх з выспы, пакінуўшы аднаго – самага шчырага маладога ракетчыка (які ў тым і прызнаўся), каб ён служыў у якасьці звычайнага шафёра – абы мець зарплату ў далярах. Праз год, аднак, высьветлілася, што той ракетчык-шафёр зусім не ракетчык і не шафёр, а кадравы палкоўнік савецкага КГБ. Вялікі Дэмагог уласнаручна адсек яму галаву.

Сярод нямых таксама знайшліся разумныя людзі, да іх спакваля далучыліся некаторыя са звольненых за розныя правінкі з палацу. Была складзена таемная да ўлады апазыцыя. Яна нарадзіла падпольны навукова-моўны гурток, які заняўся вывучэньнем магчымасьцяў знакамітага праклёну, – вядома ж, у мэтах зьнішчэньня дэмагагічнага рэжыму на высьпе. Было ўстаноўлена, што той, хто здольны з гібельным для ўладаў наступствам выкрыкнуць тыя словы, сам абавязкова гінуў. Ці, можа, тыя словы прыходзілі да яго ў прадчуваньні пагібелі? У тым палягала галоўная для гуртка праблема. Ахвяраваць сабою гатовы быў шмат хто, але ніхто не хацеў ахвяраваць марна. Справа была дужа складаная, і гурткоўцы вырашылі ўдасканаліцца структурна. Найперш яны перайменавалі гурток у Калегіюм. Былі абраныя Генэральны Лідэр (ГЛ), пяць Віцэлідэраў (ВЛ) і адзінаццаць галоўных спэцыялістаў (гс). Астатнія сталі проста спэцыялістамі (пс). Праўда, усе працавалі на заморскай мове, уласная знаходзілася ў стане распрацоўкі. Справа ўскладнялася тым, што распрацоўшчыкі належалі да розных дыялектна-нямых групаў, і кожная зь іх настойвала на ўласным нямым дыялекце ў выглядзе пэўнага набору гукаў і жэстаў.

Доўга спрачаліся. Была нават прапанова замест віртуальнай праблемы мовы заняцца рэальнай распрацоўкай новага гатунку сорга. У выніку Калегіюм раскалоўся на соргаўцаў і моўшчыкаў. Моўшчыкі, дзякаваць Богу, на той час заставаліся ў бальшыні.

Менавіта з прапановы апошніх на трэці год было вырашана дзеля хутчэйшага посьпеху трохі зьмяніць парадак словаў у знакамітым праклёне, бо вымаўленае глуханямым ня надта пасавала нацыянальнай традыцыі маўчаньня. Наадварот, яно разбурала тую традыцыю, што было надта непатрыятычна. Пасьля доўгага абмеркаваньня фраза загучала так: "Можа б, вы надумаліся крыху здохнуць?" Знайшоўся й ахвярнік, які, не марудзячы, выгукнуў яе перад палацам у твар самага лютага й ненавіснага афіцэра-паліцыянта. Але чамусьці афіцэр ня ўпаў долу, а дастаў найноўшай мадыфікацыі пісталет і застрэліў ахвярніка. У Калегіюме ледзьве перажылі расчараваньне і зноў вырашылі зьмяніць парадак словаў. Важна было калі не панішчыць паліцыянта, дык хоць бы зьберагчы жыцьцё чалавека – усё ж у Калегіюме былі гуманісты. Магічны праклён пабудавалі такім чынам: "Будзьце ласкавы калі-небудзь памерці". Натуральна, форма праклёну зьмянілася, але сэнс застаўся ранейшы – гэта было важна. На фразу ўскладалася вялікая надзея, і яна была хутка вымаўлена самым разумным і адукаваным чальцом Калегіюму. Але зноў сталася неспадзеўка – ніводзін з прыгнятальнікаў ня ўпаў і ахвярнік ня быў забіты. Нават не атрымаў палкі. Увогуле ў Калегіюме тое спадабалася, бо чалавек уцалеў. Першы раз апэрацыя абышлася бяз стратаў і давала надзею. Яна была абвешчаная першай перамогай Калегіюму.

Як ні дзіўна, у палацы на тое ніяк не адрэагавалі. Паводле чутак, што рэдчас вынікалі адтуль, з прычыны нямогласьці Вялікага Дэмагога, у якога ад перанапругі спаралізавала язык, чакаўся прыезд Новага, Самага Вялікага Дэмагога (НСВД), палітыка яго ў моўнай праблеме пакуль заставалася невядомай. Як ён у хуткім часе прыехаў, дык найперш зьмяніў статус Калегіюму – той набыў легітымнасьць і перайменоўваўся ў

Акадэміюм пры Новым Самым Вялікім Дэмагогу (АНСВД) з новай задачай: стварыць сапраўды народную мову – нямую па форме і дэмагагічную па зьмесьце. Узрушаныя нечаканым клопатам чальцы Акадэміюму паслалі НСВД пашыраны факс і пакляліся не шкадаваць сілы для стварэньня мовы нямых. У хуткім часе быў выдадзены канчатковы варыянт праклёну глуханямога, які гучаў так: "Няхай здохне той, хто выступае супраць мовы народу". Права вызначыць злыдня, якому наканавана здохнуць, карэктна дэлегавалася Новаму Самаму Вялікаму Дэмагогу.

З нагоды гістарычнай даты ўвечары над палацам, паліцэйскай казармай і турмой нямога рэжыму быў наладжаны сьвяточны фэервэрк.

Зьбяднелы, апанураны, зьняверaны народ на высьпе памалу забыўся пра свайго глуханямога апостала і тры ягоныя словы. І зноў стаў нямы.

Той раз – назаўжды.

## Сонца ў ваконцы?

У краіне заўжды шмат чаго не хапала – ад ботаў да хлеба, але разумных галоваў не бракавала ніколі. Хутчэй наадварот: кожны быў разумнейшы за іншага і тым ганарыўся. Дык вось самыя разумныя з іх даўмеліся, што, каб зажыць багата, трэба справядліва падзяліць тое, што мелі. Дасюль падзел існаваў дужа няправільны – дзе густа, а дзе пуста. Адны елі ад пуза і хадзілі ў золаце, а другія ня мелі чым павячэраць і абувалі лапці. Самыя разумныя, што студыявалі навукі ў багатым замежжы, вычыталі ў тамтэйшых кніжках, што калі бядняцкі набытак абагульніць і падзяліць пароўну, дык жыцьцё неверагодна зьменіцца. Стане багатым і шчасьлівым. Тым была запачаткаваная галоўная ідэя веку – роўны і справядлівы падзел.

Так і зрабілі.

Праўда, вялікая дзяльба, як, зрэшты, і кожная дзяльба – хоць бы і малая – выдалася дужа складанай. Пакуль дамагліся вынікаў, пралілі нямала крыві, былі панішчаны цэлыя класы і нямала саслоўяў. Ды ўрэшце ўсё падзялілі, а галоўнае – адабралі ў тых, хто меў. Набытак атрымаўся трохі не такі, як меркавалася, знайшліся пакрыўджаныя. Ды і як не знайсьціся? Хіба можыа было прыраўняць «сазнацельнага» барацьбіта за ідэю да таго, хто за гэтую ідэю змагаўся «несазнацельна»? Прыярытэт быў аддадзены тым, хто меў маленькую чырвоную кніжачку. Хутка ці ня ўсё грамадства пастала ў чаргу за тымі магічнымі кніжачкамі, ад якіх моцна залежаў дабрабыт. (Некаторыя ня надта адукаваныя звалі іх хлебпымі карткамі, але тое было няправільна, бо «карткі» забясьпечвалі ня толькі хлебам, але і пасадамі, кватэрамі, адукацыяй). Каб як стрымаць той жывы напор, была вылучана новая ідэя – працоўпых дынастый. Сутнасьць яе палягала ў тым, каб дзеці вуглякопа, падросшы, ішлі ў вуглякопы, а дзеці калгасьніка – у калгас. Адпаведна дзеці дыпламата ня йшлі рабіць на палеткі, а паступалі ў МПМО і ехалі працаваць у варожае кола – Гішпанію, Швейцарыю або Францыю. Таксама належала дзеяць дзецюкам ды дзеўкам вучоных, чэкістых, адказных партыйцаў. Дужа дыферэнцыяванымі сталі і заробкі, што было абсалютна правільна. Бо нельга ж было прыраўняць працу на калгасных палетках пад сьпеў жаўрука з небясьпечнай аперацыяй зьнешняга выведніка дзе-небудзь у лонданскім гатэлі з мэтаю вярбоўкі тамтэйшага транссэксуала. Стомленага выведніка магла застукаць бязьлітасная MI5 ды засадзіць у камеру, – хоць з тэлевізарам і кандыцыянерам, але ж наводдаль ад роднай Лубянкі і падмаскоўнага беразьнячку. Або ўзяць пісакаў – паэтаў-празаікаў! Як параўнаць іхнюю блытаную пісаніну з напружанай працай вучоных-атамнікаў? Першыя толькі і ўмелі пісаць пра няўдалае каханьне ды няўклюдны камсамольскі сэкс, у той час як другія ўдзень і ўпачы мацавалі атамны шчыт радзімы і ад ператомы маглі ў чымсь памыліцца. А чаго вартая адна іх драбніца-памылачка – засьведчыў пракляты Чарнобыль, на які і дасюль не набярэшся грошай. А калі

б тых памылак здарылася болей, пра вынікі нават страшна падумаць. Таму ніякай роўнасьці тут шукаць не выпадае. Усё астатняе, здаецца, было правільна. Тым больш у тэорыі.

На практыцы ж сталася трохі інакш – дабротаў зноў стала не хапаць. Сьпярша прывілеяў, грошай, валюты, пасьля – усяго астатняга, аж да хлеба, сыру і яек уключна. Першымі трывожна загаласілі тыя, што мелі болей за астатніх. Мусіць, гэтак заўсёды: хто болей мае, таму і больш хочацца.

Галоўная ідэя вску апынулася перад пагрозай банкруцтва. Стала відавочна, што яна ня можа пракарміць людзей, хаця па-ранейшаму гарантавала ўладу тых, хто ёй валодаў. Мабыць, у тым была яе неперааацэнная каштоўнасьць, якою неразумна было б не пакарыстацца. Нават царква пасьля працяглага і жорсткага вышкаленьня ў КДБ зразумела нарэшце галоўную ісьціну веку і верай ды праўдай пачала верную службу ўладам. Запаветы Хрыста былі пакладзеныя па верхнюю паліцу, а для карыстаньня на кожны дзень узятыя сакрэтныя дэкрэты аб супрацоўніцтве і прывілеях. Агулам было вырашана ня даць загінуць вартай старадаўняй ідэі з тае прычыны, што дасюль яна ажыцьцяўлялася няправільна. Належала тую ідэю мадэрнізаваць, адаптаваць да новага часу. Роўнасьць – так! Але роўнасьць не ў багацьці, да якога пнецца гнілое грамадства Захаду, а лепей роўнасьць у беднасьці, як найноўшая дактрына новазнойдзенага рынкавага сацыялізму. Ужо гэтую ажыцьцявіць будзе куды лягчэй, электарат ад беднасьці не адвыкаў ніколі. Ніхто ня будзе пакрыўджаны, усе адразу ўціхамірацца і ахвотна прагаласуюць на выбарах за роўных сабе – дэпутата ці нават прэзідэнта – п'янога або цьвярозага, разумнага ці дурнога, што ў новых умовах па-сутнасьці ня будзе мець ніякага значэньня. Зьліквідоўвалася падстава для зайздрасьці, усе разам рабіліся бедныя, няшчасныя і дурныя. Або багатыя, шчасьлівыя і разумныя – гэта як патлумачыць. Быў тэрмінова вынайдзены эфектыўны сродак, як тую парадыгму зрабіць цалкам бясьпечнай для ўлады –

перакруціць сэнс спрадвечных людскіх паняцьцяў: зло пераназваць дабром, хлусьню – праўдай, паразу – перамогай, сацыялізм – шчасьцем. Беднасьць палічыць багацьцем! Дарма што старажытныя казалі: калі шматкроць мовіць «халва, халва», у роце саладзей ня стане. Стане! Калі пра тое штодзень чуць з дзяржаўнае скрынкі, званаю тэлевізарам, дык сапраўды тое пачне быццам бы існаваць. Хоць бы ў новазнойдзенай на Захадзе так званай віртуальнай рэальнасьці, якая дужа прыдалася і на Усходзе. Спатрэбілася ня дужа шмат часу, каб людзі шчыра паверылі, што мяса ёсьць, нават калі яго не было ні ў хлявах, ні ў крамах, што вайна – зусім справядлівая рэч, нават калі з Поўдня самалёты замест фруктаў-персікаў везьлі славуты груз-200, што эканоміка краіны на ўздыме, калі кошт даляра па Камароўцы ўзьляцеў да мільёну «зайцоў». А кожны самы вар'яцкі кіраўнік зьяўляецца і самым геніяльным адначасна. Розьніца між тым ды гэтым зьнікала.

Пры тым важна, што ўвесь той несумненны эфект дасягаўся не затратай матэрыяльных сродкаў, не выдаткаваньнем замежных крэдытаў ці дэфіцытных энерганосьбітаў, а выключна дармовымі сродкамі мовы, пэўным чынам удасканаленай і адаптаванай. Гэтаю мовай сталася зусім не старадаўняя родная мова, а мова старэйшага брата; свая ж трасянка змушана была заткнуцца. (Некаторыя ня надта адукаваныя і разумныя казалі, што і слава Богу.) Стала відавочна, што толькі тая адзіная мае здольнасьць прарвацца праз заслону апрыклай рэчаіснасьці ў ружовую прастору віртуальнасьці з яе нечувана прывіднымі магчымасьцямі, стаць рухавіком прагрэсу, зачынальніцай новай цывілізацыі наадварот. Для людзей зьявілася магчымасьць ня дужа пачувацца галоднымі, нават ня маючы хлеба, шчасьліва жыць пры бандыцкай дыктатуры, адцурацца нацыянальнай культуры, лічыцца багатымі пры нечуванай галечы. Для тых, хто выказваў нязгоду з гэткаю адаптацыяй – апантанай радасьцю са сьлязьмі на вачох, у дзяржавы былі прыгатаваны даўгія гумовыя дручкі і сухотныя камеры з кратамі.

Прарваўшыся ў галодную прастору прывіднасьці, грамадства займела апошні клопат (іншыя аўтаматычна адпалі) – апантана яе пашырыць. Аказалася, што гэта – такая фантастычная прастора, якая няздольная існаваць у стане спакою і, бы касьмічны пульсар, можа або пашырацца, або звужацца (вядома, найлепш пашырацца). Ды тут сталася нечаканка – яе апалагеты непапраўна спазьніліся: усе вольныя куткі там былі ўжо занятыя іншымі, болей увішнымі прыхільнікамі дзяліць і валодаць – імперыялістамі-рыначнікамі, чырвонымі ды карычневымі, фундаменталістамі розных адценьняў. Заставаўся апошні, ыікім не заняты, бо здаўна лічыўся для таго непрыдатным – панславянскі. Менавіта гэты ня надта духмяны закутак мацней за хмель, за алкаголь ці ЛСД закруціў адну віртуальную галаву ў краіне і выклікаў апантаную прагу да дзеяньня ў форме стварэньня манілаўскіх структураў, фантастычных інтэграцый галечы з жабрацтвам, безьлічы пустапарожніх заяў, дамоў і дэкларацыяў. Вынікаў жа не было ніякіх. Карнавальна-мітусьлівая віртуальнасьць жорстка сутыкнулася з няўдзячнай рэальнасьцю і дагэтуль ня можа тую адолець. Рэальнасьць стаіць, бы скала, і шмат хто ў краіне пачынае думаць, што яна мацнейшая за самую хітравумную віртуальнасьць. Можа, яно і так. Усё ж, як ні кажы, хлеб – спрадвечная рэальнасьць, кроў людская – таксама. А за імі калі-небудзь стане рэальнасьцю наша шматпакутная незалежнасыдь і воля, а ня толькі рэальная турма ды галеча.

Загляне сонца і ў наша ваконца! Калі шчыра таго жадаць, дык япо можа і зьдзейсьніцца. Вядома ж, паводле законаў рэальнасьці.

## Новая цывілізацыя

У адной далёкай ад нас, хоць і ня надта разьвітай краіне ўзьніклі праблемы з бюджэтам. Не хапала грошай. Зрэшты, тое не было вялікай навіной, грошай не хапала і раней, і тады ўрад рабіў проста – падвышаў падаткі.

Зрабілі так і гэтым разам: абклалі насельнікаў 40-адсоткавым падаткам. Трохі счакалі, падлічылі, але выявілася, што прыбытак зноў мізэрны. Тады ўрадоўцы ўвялі 60-адсоткавы падатак, але прыбытак замест таго, каб адпаведна павялічыцца, значна зьнізіўся. То было нешта дзіўнае, што супярэчыла нават правілам арыфметыкі. У эканамічна-фінансавых колах пачалося энергічнае абмеркаваньне феномену. Пасыпаліся прапановы – як ад прафесіяналаў, так і ад найболей актыўных з ліку сьвядомых працоўных. Некаторыя заяўлялі, што ўся справа ў слабасьці выканаўчай улады, што трэба ўдвая павялічыць паліцыю, стварыць адмысловыя фармаваньні, як сьлед настрапаліць сакрэтныя і фіскальныя службы. Так і зрабілі. У дадатак павялічылі колькасьць мытняў – на мяжы і ўнутры краіны, перавялі працу судоў і пракуратуры на кругласутачны рэжым, разагналі калегію адвакатаў, гэтых прафесійных абаронцаў злачыннасьці. І зноў без жаданага выніку. Бюджэт трашчэў, грошай рабілася ўсё меней, а выдаткі на ўсе пералічаныя меры толькі расьлі.

У час чарговага пасяджэньня ўраду новы старшыня высунуў абсалютна новы бюджэтны прынцып: калі дзе цяжка папоўніць, дык трэба скараціць. Адразу было зразумела, што скарачаць асігнаваньні на войска нельга, бо пад самы дзяржаўны плот лезла крыважэрнае НАТА – глядзі, ня сёньня, дык заўтра пачне бамбаваць нашы ўлюбёныя гарачыя ці халодныя кропкі. Пакідаць бяз грошай КГБ таксама нельга ва ўмовах, калі краіна кішыць шпіёнамі ды апазіцыянерамі. Паліцыю – тым болей, інакш хто тады тых шпіёнаў ды апазіцыянераў будзе цягаць у пастарункі? Калі ж скараціць выдаткі на пракурораў ды суддзяў, дык каму судзіць вышэйпамянёных? Вяртацца да нядаўняй практыкі троек ды несудовых расправаў было быццам бы рана. Кіраўнічы апарат скарачаць наогул бескарысна і нават шкодна – ягоны арганізм ад скарачэньня толькі павялічваецца. Культура, настаўніцтва і медыцына? Культуру тут жа на паседжаньні без усялякай шкоды для яе выкрасьлілі ўсім радком пасьля таго, як міністар сказаў, што культура пракорміць сама сябе – ансамбляў у яе хапае.

Медыцыну вырашылі пакуль не чапаць – медыцына можа набыць важныя функцыі ў адказным дзяржаўным праекце. Заставалася вялізная армія пенсіянераў, якая з прычыны злачыннага недагляду ранейшага папулісцкага ўраду распладзілася ў аморфную, непад’ёмную для дзяржавы масу. У друку даўно ўжо паяўляліся тэарэтычныя артыкулы наконт таго, якая гэта шкодная і наскрозь буржуазная завядзёнка – плаціць тым, хто не працуе, што інстытут пенсіянераў – ня што іншае, як узаконеная эксплуатацыя адной класы другою, што, ня вырашыўшы праблемы пенсіяў, дзяржава не пабудуе разьвітага сацыялізму, а будзе век гібець у няразьвітым капіталізьме.

Урад засядаў тры дні і тры ночы і выпрацаваў комплексны дакумент пенсійнага забесьпячэньня. А менавіта:

– Выхад на пенсію дазваляўся па дасягненьні 100-гадовага ўзросту. (Для кіраўніча-адміністрацыйнага складу тая планка зьніжалася напалову – тым захоўваўся адрасны прынцып пенсійнага забесьпячэныш).

– Памер пенсіяў устанаўліваўся ў 1,5 адсоткі ад сярэдняй зарплаты гтенсіянера. (Нельга было дапусьціць, каб грамадзянін-пенсіянер карыстаўся большым наборам даброт, чым той, хто працуе).

– Захоўваўся ў недатыкальнасьці прынцып роўнасьці мужчынаў і жанчынаў, як таго заўжды і дамагаліся жаночыя і фемінісцкія арганізацыі.

– Бацькам, якія выхавалі двух і болей дзяцей, пенсіі адпаведна зьмяншаліся – для забесьпячэньня пенсіяў дзецям у будучым. (Тым самым умацоўвалася сувязь пакаленьняў і адказнасьць бацькоў за лёс дзяцей).

Гэтыя вельмі разумныя і ў пэўным дачыненьні прагрэсіўныя меры, аднак, датычылі больш-менш аддаленай будучыні, а вось што рабіць з «дзеючымі» пенсіянерамі – было незразумела. Тым больш, што, як чулі ўрадоўцы, адпаведна старажытпаму рымскаму

праву закон, на жаль, зваротнае сілы ня мае. Пасьля доўгага і дэталёвага абмеркаваньня тае праблемы з удзелам СМІ, прафсаюзаў, кіраўніцтвам палітычных партыяў было вырашана для дзеючых пенсіянераў прымяніць радыкальныя меры заахвочваньня і дазволіць:

– піць сырую ваду вадаправодную і з калодзежаў у неабмежаванай колькасьці. Матывацыя: сырая вада – самая танная.

– харчавацца прадуктамі з радыёнуклідамі. Матывацыя: сьвядомаму грамадзяніну атам нястрашны.

– пры купаньні ў рэках і ў моры заплываць як заўгодна далёка за чырвоны буёк. Матывацыя: шырокае гарантаваньне грамадзянам іхніх правоў і свабодаў.

– на будоўлях колькі заўгодна доўга стаяць на краі неабгароджаных пляцовак і пад стралой грузавога крану. Матывацыя: выхаваньне ў грамадзянаў сьмеласьці і адвагі.

– пераходзіць вуліцу дзе заўгодна, у тым ліку і на чырвонае сьвятло сьветлафору. Матывацыя: без матывацыі.

Міністэрству аховы здароўя ўзмацніць кантроль за пагаршэньнем здароўя пенсіянераў асабліва з групаў рызыкі, якія стварыць на кожным прадпрыемстве. СМІ і незалежніцкім сацыялагічным інстытутам праводзіць рэгулярны маніторынг эфектыўнасьці дадзеных мераў сярод пенсіянераў.

Ужо праз некалькі дзён пасьля выхаду ў сьвет гэтай пастановы ўрадавыя СМІ паведамілі краіне аб велізарным уздыме, з якім сустрэлі пенсіянеры чарговы клопат ураду пра іхнія дабрабыт і здароўе. Газеты ыадрукавалі паведамленьні аб радасьці, якая ахапіла 80-гадовага грамадзяніна К., што нават памкнуўся заплыць за буёк. Праўда, не даплыў і да паловы адлегласьці, але ня ў тым справа, пісала газета. Справа ў прававой магчымасьці зьдзейсьніць тое, чаго ён раней

зьдзейсьніць ня мог. Другі грамадзянін дзяліўся ўздымам, які ахапіў яго, калі ён удала перабег вуліцу па самым носам нахабнага «мэрса» і нават ня быў аштрафаваны даішнікам. Апазіцыйная газета пасьля спрабавала падаць той несумненны факт як фальшыўку, надрукаваўшы рэпліку, быццам той грамадзянін зусім не пенсіянер, а юнак-спартсмен. Але зноў жа тое зусім пе засланіла сутнасьці справы, якая, вядома ж, палягала ў новых магчымасыдях для пенсіянераў. Магчымасьці ж ды персьпектывы складваліся выдатныя. Самы незалежніцкі сацыялагічны інстытут правёў апытаньне нскалькіх тысячаў пенсіянераў і атрымаў гэткія вынікі. На пытаньне, ці падтрымліваеце вы ўсе пункты пастановы, 99,9 адсоткаў сказалі, што безумоўна падтрымліваюць. І толькі 0,01 адсотку ня мелі ўласнае думкі, але гэта тыя, што знаходзіліся ў рэанімацыі або былі прызнаныя нядзеяздольнымі паводле розуму. Прэзідэнт краіны ўзнагародзіў дзьвс найболей актыўныя ў справе прапаганды пастановы газеты, а таксама сацыялагічны інстытут і ітацыянальнае тэлебачаньне. У канцы кварталу мінфін з вялікім аптымізмам узяўся падводзіць вынікі эканоміі пенсійнага фонду і на некалькі дзён зьнямеў. Вынікі апынуліся нечаканыя – замест эканоміі выдаткі на пенсіі значна павялічыліся і перасягнулі адпаведны перыяд мінулага году. Каб неяк захаваць урадавы твар, было вырашана дапусыдіць невялічкую руцінную папраўку – зьмяніць мінус на плюс, як гэта пярэдка рабілася ў мінулым. Але ў чым сапраўдная пры чына краху дзяржаўнага праекту – належала высьветліць. Для высьвятленьня ўрад зьвярнуўся да ўласнага КГБ. І праўда, той неўзабаве даказаў, што не дарма есыдь хлеб, а ягоныя эканамісты ў штацкім разумеюць у эканоміцы болей, чым куча сьвежасьпечаных прафесараў з Акадэміі кіраваныш. У адмысловым і дужа сакрэтным данясеньні яны па пунктах псралічылі прычыны неэфектыўнасьці пастановы. Бо:

– сырая вада з вадаправоду, дачных калодзежаў, а таксама з прыдарожных канаваў не зрабіла ніякага шкоднага ўплыву на загартаваныя за даўгое жыцьцё арганізмы пенсіянераў, якія прывыклі піць такую ваду і

без дазволу ўраду;

– атрутныя, з радыёнуклідамі прадукты харчаваньня дастаюцца пенсіянерам у гомеапатычных дозах, бо асноўная прадуктовая маса іх раскрадаецца пасярэднікамі і скіроўваецца на вываз у суседнія братнія рэгіёпы;

– за буйкі сёлета пенсіянеры не заплывалі, бо амаль нідзе не купаліся з прычыны сьцюдзёнага, дажджлівага лета;

– краны на будоўлях каторы год стаялі закансерваваныя, як і самі будоўлі – з прычыны адсутнасьці фінансаваньня;

– што ж датычыць вуліц, дык кіроўцы хуткасных іншамарак за ўсе папярэднія гады так вышкалілі айчынных пенсіянераў, што тыя, бы зайцы, з адмысловым спрытам навучыліся перабягаць вуліцы без аніякай шкоды для ўласнага здароўя. Наадварот, здароўе некаторых ад тае практыкі нават палепшала, і яны зьмянілі рутынныя ранішнія прабежкі ў парку на серыю прабежак упоперак прасьпекту, асабліва па той яго частцы, дзе езьдзіць прэзідэнт.

Урад на некалькі дзён упаў у прастрацыю – шырока разрэклямаваныя і ня меней шырока падтрыманыя народам меры аказаліся на справе мыльнай бурбалкай, якая да таго ж лопнула. З прычыны відавочнай неэфектыўнасьці радыкальных мераў было вырашана зьвярнуцца да мераў традыцыйных, прыпамятаўшы, што ня ўсё старое ёсьць кепскае. Тым болей, што ўсё новае – даўно забытае старое.

І тут прыпамяталі добрую, старую практыку ўзнагародаў. Варта было яе скарыстаць, хіба што змадэрнізаваўшы ў новых варунках, адкінуўшы яе заганныя метады, калі ўзнагароджвалася кіраўніцтва за адданасьць пэўнай ідэі ці сакратаркі – за прыгожыя сьцёгны і вочы. Вырашылі ўзнагароджваць толькі пенсіянераў і толькі за канкрэтныя справы, якія даюць пэўны грашовы прыбытак дзяржаве. То было адрасыае

стымуляваньне і пенсіянераў, і дзяржавы. Былі тэрмінова распрацаваныя дызайн высокіх ордэнаў, муаравых стужак да іх і правілы ўзнагароджваньня. Той з пенсіянераў, хто абавязваўся скараціць тэрмін уласнага пенсіянерства да 3 гадоў, узнагароджваўся самым высокім ордэнам – «Мусульманскай еднасьці», да 10 гадоў – «Юдэйскага кагалу». Усе ордэны, апроч таго, мелі па тры ступені – залатую, срэбную і бронзавую. Такім чынам забясьпечваўся дыферэнцыяваны падыход, што ў поліэтнічным, шматканфесійным грамадстве было вельмі важна. Акадэмія кампутарнай інфарматыкі падлічыла ўжо віртуальны прыбытак, які склаў астранамічную лічбу, і была адной з першых узнагароджаная самым галоўным ордэнам залатой ступені. На прадпрыемствах, калгасах і ва ўстановах былі праведзеныя сходы і мітынгі, на якіх пенсіянеры ва ўрачыста-сяброўскай абстаноўцы бралі на сябе адпаведныя абавязацельствы пад незабыўпым лозунгам «Добровольно, но обязательно» і бяз лішпяй цяганшы, тут жа атрымлівалі высокія ўзнагароды. Некаторыя ўносілі ўласныя прапановы, вядома ж, на ўдасканаленьне пастановы. Так грамадзянін К., былы партызанскі камандзір, прапанаваў павялічыць тэрмін найбольшага скарачэньня з дзесяці да васямнаццаці гадоў, каб адразу атрымаць тры ордэны, як гэта практыкавалася на мінулай партызанскай вайне. Але тая яго прапанова не знайшла разуменьня – можа, таму, што ініцыятару споўнілася 99 гадоў і было падазрэньне ў жаданьні атрымаць узнагароды «на халяву». Але тое не было масавай зьявай – бальшыня пенсіянераў сьціпла брала абавязаньні, атрымлівала ўзнагароды і шпацыравала па вуліцах – па адным ці гаваркімі кампаніямі. Папулярнасьць узнагародаў была такая высокая, што некаторыя прышпільвалі на грудзі ўсё, што можна было прышпіліць, і з тым бадзяліся па вуліцах, не прамінаючы, аднак, крамкі, дзе імкнуліся бсз чаргі пралезьці да прылаўку і атрымаць каўбасы. Часам ля тых прылаўкаў узьнікалі эксцэсы, якія, аднак, пасьпяхова вырашаліся з дапамогай міліцыі, АМАПу, іншых сьпецсілфармаваньняў.

Яшчэ да выяўленьня фінансавага эфекту пастановы, які

гэтым разам сапраўды чакаўся вельмі высокі, выкрылася яшчэ адна прыкрая загана – дэфіцыт каштоўных і каляровых металаў. Дызайнеры, што распрацоўвалі праекты ўзнагародаў, карыстаючыся бескантрольнасьцю кантрольных ворганаў, завысілі вагу ўзнагародаў, і краіна нечакана апынулася без залатога і срэбнага запасу, бяз цынку, сьвінцу, бронзы, медзі, малібдэну. І нават чыгуну стала не хапаць – гэтулькі пайшло на ўзнагароды. Попыт на іх, аднак, усё павялічваўся, усё новыя групы пенсіянераў бралі і бралі на сябе новыя абавязаньні. Адпаведна павялічваліся і выдаткі на пенсіі – і тое было незразумела. Сацыялагічныя інстытуты, якія цяпер сталі спрэс незалежніцкімі і рэгулярна фінансаваліся з дзяржаўнага бюджэту, ня мелі на тое адказу. Не маглі на той раз нічога высьветліць і выпрабаваныя сьпецорганы, магчымасьці якіх з прычыны разарваных сувязяў з заходнімі калегамі значна звузіліся. Затое адказ неўзабаве далі пранырлівыя чаўночнікі, рух якіх за апошнія гады набыў фантастычныя памеры. Яны сьведчылі, што тымі ўзнагародамі забітыя ўсе базары суседніх краінаў, кампрадорскія дзялкі каторых скупляюць іх партыямі для патрэбаў уласнай высокатэхналагічнай вытворчасьці.

Між тым выплата пенсіяў у краіне з прычыны абсалютнага банкруцтва пенсійнай сістэмы зусім спынілася. Урад, адміністрацыя ўсіх узроўняў, канструктыўная апазіцыя, прафсаюзы – усе маўчалі, ня маючы што прапанаваць народу. Адно – мацавалі сілавыя структуры. Дэпутаты, спалоханыя за свае наседжаныя ў парламенце месцы, патрабавалі ўвесьці надзвычайнае становішча.

Неяк надвячоркам перад палацам прэзідэнта немаведама адкуль вынікнуў невялічкі, з шасьці чалавекаў, пікет. На грудзях у пікетчыкаў віселі самаробныя, ня дужа зграбна напісаныя плакаты. Высьветлілася, што гэта быў самадзейны несанкцыяыаваны пікет незарэгістраванай партыі «Аматары алкаголю», і ён патрабаваў ад дзяржавы, калі тая ня можа выплаціць пенсіі грашыма, дык хай плоціць

натурай. Нарад паліцыі, які аператыўна зьявіўся па выкліку таптуноў у штацкім, тут жа накінуўся на сьвядомых алкашоў і пачаў круціць ім рукі. Звычайна за такой важнай аперацыяй сілаў правапарадку любіў назіраць з вакна сам прэзідэнт краіны, якім на той час быў шаноўны Тумба-Лумба, у мінулым сам адмысловы алкаголік, а цяпер ганаровы старшыня Акадэміі цьвярозасыді. Назіраючы захапляльную сцэну расправы, ён, аднак, сьціпла ўсьміхнуўся і сам сабе ціха мовіў: «А чаму б і не!» Тыя самыя словы, вядома ж, былі адразу запісаныя высокаадчувальнай тэхнікай суседняй дзяржавы, апрацаваныя ў яе адпаведных колах і нечакана адобраныя. Таго стала дастаткова, каб праз тыдзень урад выдаў чарговую пастанову пад нумарам «000999» – аб выплаце абмежаванай колькасьці пенсіянераў іхніх пенсіяў у алкагольным эквіваленце. Навучаны былымі няўдачамі ўрад пакуль што асьцерагаўся плаціць гарэлкай усім, хацеў паглядзець, як яно екладзецца на практыцы. Пакуль складвалася выдатна. У цэнтры сталіцы на плошчы Недатыкальнасьці да Прэзідэнта адбыўся грандыёзны, нікім не санкцыянаваны, але і нікім не разганяны мітынг падтрымкі і захапленьня, у якім удзельнічала каля 2 мільёнаў пенсіянераў (паводле зьвестак дзяржаўных СМІ і 2 тысячаў – паводле падлікаў скупога на арыфметыку агенцтва Ройтэрз). Гэтай адмысловай кансалідацыі народу ніхто ня памятаў нават з самых састарэлых людзей. Усе горача падтрымалі пастанову «Трох дзявятак», як яе называлі ў прастамоўі, або пастанову «Паратунку і разьвіцьця», як назваў яе ў нядзельнай перадачы любімы тэлекаментатар нацыі спадар Лятнеўскі. Усе пласты грамадства без адрозьненьняў класаў, прафесіяў, узростаў, полаў, нацыяў і веравызнаньняў былі захопленыя ўрадавай мудрасьцю. Стары паэта, што ўсе апошнія гады наракаў у вершах на медахват грошай на хлеб, за адну ноч гекзаметрам напісаў паэму. Ён каяўся, што нядаўна яшчэ разам з народам і партыяй (не ўдакладніў, якой) доўгі час лічыў другім хлсбам бульбу, аж выявілася, што другі народна-партыйны хлеб – гарэлка. І гэта выдатна, бо, як паказвае досьвед, грошай на гарэлку ніколі не бракавала.

То былі вешчыя словы паэта-прарока.

Мінфін у тэрміновым парадку распрацаваў механізм гарэлкавай выплаты. Улічваючы небывалую папулярнасьць новага метаду, было вырашана для разьліку з прадпрыемствамі і ўстановамі таксама перайсьці на гарэлку, а таксама і на ўсе іншыя аплаты, у тым ліку і ў дзяржаўным гандлі. Канешне, не ўдалося пазьбегнуць некаторых няўвязак, але якая ж слушная справа абыходзіцца без няўвязак. Няўвязкі неўзабаве былі адрэгуляваныя – быў выпрацаваны эквівалент: 1 тысяча рублёў прыроўнівалася да 1 літру гарэлкі, 500 рублёў – да паўлітры, 250 – да чацьвярцінкі, «чакушкі» ў прастамоўі. Усё звыкла і проста, як і ўсё геніяльнае. Праўда, трохі павалэндаліся з распрацоўкай методыкі аплаты плацяжоў дзяржаве, якая, вядома ж, гарэлкі не спажывала, хоць мела яе мора. Тады ўжылі прынцып зваротнага эквіваленту. На прыгожа аддрукаванай у Фінляндыі паперцы, што служыла таксама бутэлькавай этыкеткай, азначалася лічба эквіваленту – адпаведна 1000, 500 і 250 рублёў – у залежнасьці ад аб’ёму бутэлькі. Тое было вельмі зручна – сумясьціць у адно функцыі бутэлькі, гарэлкі ды асігнацыі. Знайшліся, вядома, скептыкі, якія пачалі даводзіць, што бутэлька і этыкетка – далёка ня тое самае, што першую можна спажыць, а другую хіба што выкінуць. Але тады вучоныя патрыёты з ліку гісторыкаў распавялі слушны гістарычны факт, як у сярэднявеччы еўрапейскія падарожнікі прывезьлі з Кітаю всстку пра тамтэйшыя папяровыя грошы, дык у Еўропе ім не паверылі. Ды з часам так прывыклі да паперы, што цяпер нават друкуюць з яе даляры. Тое было прызнана навукова абгрунтаваным і болей пярэчаньняў не выклікала. Гарэлкавыя этыкеткі заканамерна набылі пашыранае значэньне і выдатна ішлі на плацяжы, у той час, як гарэлка – выклгочна на ўжытак. Адносіны дзяржавы і грамадзянаў выдатна гарманізаваліся. Сьцьвердзіўся небывалы эканамічны феномен – чым болей людзі спажывалі гарэлкі, тым больш багацелі. Запачаткавалася новая беспрэцэдэнтная цывілізацыя – з ініцыятывы ня надта вялікай і нават мала разьвітай краіны.

А галоўнае – сышло ў нябыт неўміручае саслоўе пенсіянераў. Напрыканцы XX стагоддзя ў краіне іх засталося ўсяго 9 (магічная лічба), затое гэта былі самыя фізічна і духоўна загартаваныя людзі.

На пачатку XXI стагоддзя, як прэзідэнтам краіны быў аднадушна абраны шаноўны Хусаін Асман, краіна была ў каторы раз перайменаваная і атрымала назоў: Рэспубліка Бутэлькавая. Скарочана РБ.

## Пахаджане

Уздоўж сухога, бясконцага, парослага калючым кустоўем плато марудна цягнулася гэткая ж бясконцая чарада зьнямоглых людзей – старых, малых, жанок і мужчын. Тут жа ішлі нагружаныя жабрацкім майном схуднелыя мулы, некалькі кароваў, поруч, высалапіўшы языкі, брылі прысталыя сабакі. Сабакі даўно не брахалі, каровы не мычэлі, людзі амаль не размаўлялі паміж сабой – гэтак усіх дапякала зьнямога, сьпёка і стома ад бясконцай гэтай хады. Племя ішло каторы дзень, месяц, а можа, і год. Яго вёў правадыр – сухі, сівабароды стары, што з даўгім посахам у жылаватай руцэ мерна брыў і брыў наперадзе. Вочы яго амаль увесь час былі заплюшчаныя, шлях ён нашчупваў босымі скарэлымі нагамі. Ён ніколі не азіраўся назад на жывую чараду свайго племя, ведаў: пакуль ідзе ён, будуць ісьці і астатнія. Ён жа ішоў толькі проста, зрэдчасу абмінаючы калючае кустоўе, гіганцкія і меншыя кактусы, раскіданыя там-сям па гэтым сухім, абсыпаным каменнымі аскялёпкамі плато. Шлях-напрамак правадыр вызначаў уначы па зорцы Сырыюсу, ад якой браў на шэсьць пядзяў управа і туды кіраваў. Так яму было запавешчана ад ранейшага правадыра, які нядаўна сканаў на гэтым шляху і перад сьмерцю прызначыў кіраваць яго. Рэч у тым, што племя шукала страчаную немаведама калі радзіму. Без радзімы жыць было неяк.

Шлях быў цяжкі – сухі, камяністы і бязводны. Але тая

мясьціна, адкуль племя выйшла колькі месяцаў таму, была яшчэ горшая. То было бясконцае багністае балота, што кішэла агіднымі істотамі, кузуркамі, жабамі і п'яўкамі, і не давала ніякога харчу. Да таго ж той край меў дужа нездаровы клімат, ад якога пачалася між людзей ліхаманка, што панішчыла палову племя. Асабліва паміралі дзеці. А безь дзяцей – якая ж будучыня ў племя? Зразумеўшы, што так яны неўзабаве вымруць, людзі рушылі далей ад таго праклятага месца.

Балотны край застаўся далёка ззаду, некаторыя зь людзей ужо і забыліся пра яго. Але й тое, што племя дагэтуль напаткала на сваім шляху, было ня лепшае. Ні травы, ні вады, адныя калючкі ды камяні. І невыносная сьпёка. Часам між людзей чуліся скаргі і нараканьні – маўляў, трэба спачыць, ня йсьці далей, можа нават вярнуцца назад. Некаторыя пачалі гаварыць, што ззаду было лепш, прынамсі была вада, хоць і балотная, але даволі. Аднойчы ўвечары, як спыніліся на начлег і стала трохі вальней у паветры, так сказаў правадыру аднавокі Кірх, старшыня невялікага роду грубых, што з даўняга часу ўваходзіў у племя. Правадыр, які ўжо ледзьве бачыў удзень, бо з часам усё болей сьлепнуў, сказаў, што як сьцямнее, прарэжуцца зоркі ў небе, ён паглядзіць на іх мільгаценьне і аб'явіць сваё рашэньне. У поўнач ён абвясьціў, што Кірх трапіў пад уплыў злых духаў і калі хоча пагубіць свой род, дык можа вяртацца. Кірх не хацеў губіць род і далей моўчкі пайшоў за ўсімі.

Племя зноў ішло-валаклося наперад вызначаным маршрутам – на шэсьць пядзяў ад Сырыюса, як і завяшчалі продкі.

Няхутка яшчэ камяністае плато з калючкамі пачало саступаць месца раўнейшай зямлі – без калючак і кактусаў. Ісьці быццам бы рабілася лягчэй. Але неўзабаве пад нагамі і вакол пачало большаць пяску. Сьпярша ў ім загрузалі ступні, а затым дзе-нідзе наўкола пачаліся пясчаныя гурбы, дзюны-барханы – голыя, без травінкі, без калючак нават. Племя трапіла ў зону пустыні. Вады не было нідзе, сонца паліла ўвесь дзень да захаду. Людзі і жывёла змушаныя былі то

караскацца на крутабокія барханы, то каціцца зь іх, што зьнясільвала дарэшты. Напэўна, можна было б ісьці між барханаў, але тады была небясьпека згубіць вызначаны ноччу напрамак, і правадыр дужа не хацеў таго. Тут, у пустыні, ён асабліва строга трымаўся вызначанага продкамі маршруту. Некалькі мулаў палі ў дарозе, іх хутка засыпаў пясок. Памерла таксама нямала людзей, асабліва старых і малых; жывыя нічога ня елі і пакутавалі без вады. Племя чулася асабліва незадаволеным, пачаліся размовы наконт таго, што правадыр зусім асьлеп і вядзе не туды. Калі пра тое з абурэньнем выказаўся Кірх, набліжаныя да правадыра задушылі яго. Цела Кірха пакінулі ў пяску пад барханам. Ягоны род, застрашаны і прыціхлы, абраў новага старшыню, пакорлівага і маўклівага. Пра ранейшага казалі без абурэньня: ну нашто было гаварыць! Хто ня ведаў, што не туды ідзем, але ж іншыя маўчалі. А гэты вылез... Род злачыннага старшыні паставілі самым апошнім у шляху, і гэта быў першы род-ізгой, са статусам ніжэйшага за іншых.

Шлях, між тым, рабіўся ўсё горшы. Пачаліся пясчаныя буры; вецер і пясок заціналі дыханьне людзям, мулы не хацелі ісьці на барханы, і іх цягнулі некалькі чалавек на вяроўках. Людзі ўвогуле маўчалі, але набліжаныя да правадыра таксама ўжо адчувалі незадаволенасьць. Некаторыя выказваліся адкрыта, што іх шлях памылковы, што гэткім кірункам нікуды яны ня прыйдуць. Тады правадыр і ягоныя памагатыя пакаралі сьмерцю яшчэ шасьцярых чалавек зь ліку незадаволеных. Племя працягвала ўпарта лезьці наперад. Рознага роду сумневы і нараканьні ўважаліся як здрадніцкія і караліся адпаведна. Большасьць племя лічыла, што так і трэба: здраду трэба караць. Правадыр часам да паўночы мерыў па зіхаценьні зорак накірунак шляху, і кожны раз выходзіла, што ідуць правільна.

І сапраўды, неяк быццам стала вальней, сьпякотны вецер уняўся. Барханы сталі ніжэйшыя, ужо не струменілі ручаямі пяску. Але неўпрыцям падкацілася новая бяда – рабілася надта сьцюдзёна. Сьцюжа пачалася з начы, а ўдзень ужо не было ад яе куды

дзецца. Насустрач падзьмуў ледзяны вецер, студзіў твары і грудзі. Людзі пачалі хварэць на прастуду, асабліва малыя. Цёплай апраткі ў іх не было – яны ішлі з поўдня. Старэйшыя меркавалі, што гэта часова, што неўзабаве зноў пацяплее. Але мінаў час, а не цяплела – наадварот, халаднела ўсё больш. Зь любасьцю людзі пачалі ўспамінаць той час, як было цёпла і нават горача. Гарачыня цяпер здавалася куды лепшай за сьцюжу. Людзі поўдня, яны ня ведалі, што гэта надыходзіла зіма. Ня ведаў таго і правадыр, які за тое паплаціўся жыцьцём.

Задушаны самым блізкім целаахоўнікам, стары правадыр застаўся ў стэпу, а целаахоўнік, якога звалі Хірт, назваўся правадыром. Назаўтра ён аб'явіў узрушанаму племю, што кірунак мяняецца на адваротны. Племя вяртаецца назад.

Тая вестка была ўспрынятая племем зь вялікім энтузіязмам, шмат хто зь людзей сталі ўспамінаць, як было добра там, адкуль яны прыйшлі. Хірта, ушаноўваючы за розум і адвагу, вырашылі ўсю дарогу несьці на руках, абы толькі ён правільна паказваў шлях. Накірунак на кожны дзень ён вызначаў не па Сырыюсу, як гэта рабіў яго папярэднік, а паводле новай, рэвалюцыйна-народнай мэтадалёгіі – па накірунку ветру. Выбіраць шлях такім чынам, каб ледзяны вецер на тую пару дзьмуў людзям ззаду. Тое дужа спадабалася спакутаваным ад сьцюжы людзям. Тым болей, што, паколькі сьцюдзёны вецер дзьмуў на той час з поўначы, яны ішлі знаёмым шляхам на поўдзень. Іхнай радасьці не было межаў...

Праўда, хутка высьветлілася, што мясцовасьць трохі адрозьнівалася ад ранейшай, значыцца, племя трохі ўхілілася ўбок. Пачалася тая ж пустыня, пясок, і пакуль што не канала сьцюжа. Хаця людзі ведалі, што дзесьці павінна пачацца цяпло, нават сьпёка. Ды сьпёка не пачыналася.Ісьці рабілася ўсё горш, людзі і жывёла зьнемагалі. Асабліва, як пачаліся барханы. Знайшліся такія, што пачалі наракаць: ня трэ было вяртацца. Лепш бы неяк прыстасавацца да сьцюжы, хоць бы выкапаць

норы, як бурундукі. Новы правадыр Хірт, мабыць, быў разумнейшы за папярэдняга, ён увёў строгую адказнасьць за недазволеныя размовы. Таму, хто выказваўся няправільна і тым дэстабілізаваў грамаду, адразалі язык. Безьязыкіх выганялі з чарады племя ў барханы, дзе яны хутка гінулі ў поўным маўчаньні. Іхных родных Хірт ставіў у канец чарады, дзе набраўся ладны лік ізгояў. Ніякіх правоў у параўнаньні зь іншымі ізгоі ня мелі. А тых, хто ўхваляў палітыку Хірта, ставілі бліжэй да правадыра, яны склалі яго атачэньне, названае элітай. На зайздрасьць астатнім эліта мела нямала розных правоў і прывілеяў.

Племя ішло марудна і доўга. Людзі ў тым шляху нараджаліся і паміралі. А таксама змагаліся за жабрацкую ежу, глыток вады і за ўладу – унутры родаў, у шчыльных шэрагах эліты і нават сярод ізгояў. На кожным часе зьяўляліся свае героі, якія звычайна рабіліся начальнікамі. Іх, як і правадыра, узялі за звычай несьці ў шляху на насілках – каго дзень, каго тыдзень, каго ад поўні да поўні. Хірт наогул ніколі не зьлязаў з аздобленых гірляндамі насілак, зь якіх ён аддаваў каманды, рабіў заўвагі, хваліў лепшых са свае шматлікае эліты. Але ніхто яго не асуджаў за тое – усе ведалі, што ўгары асабліва дзьме вецер, кожны подых якога ловіць слаўны правадыр Хірт. Дзеля справядлівасьці варта зазначыць, што Хірт удасканаліў сыстэму вызначэньня маршруту і рабіў тое ў залежнасьці ад напрамку і сілы ветру, колеру неба і нават мяркуючы па характары ўласных сноў. Спасьцігнуць такую складаную сыстэму не было дадзена нікому, і племя было шчасьлівае, што трапіўся такі разумны правадыр.

З гэтым ягоным розумам, аднак, сталася штось непрадбачанае – племя зайшло не туды.

Пасьля доўгага шляху, як яно нарэшце дасягнула зыходнага балота, таго не пазнала, так усё тут зьмянілася. Або гэта было іншае балота, калі палічыць, што Хірт памыліўся. Хаця сьпярша пра тое ніхто нават ня мог падумаць – іхны правадыр не памыляўся ніколі.

Тым ня менш цёплая бузяная вада ў балоце была непрыдатнай для пітва – некалькі сасьмяглых дзяцей, што напіліся з дарогі, адразу ж памерлі. А галоўнае – тут была процьма агідных вадзяных пацукоў, вужакаў і страшных крыважэрных пачвараў накшталт кракадзілаў. У першую ж ноч на начлезе ля берагу тыя схапілі і зжэрлі шасьцёх чалавек зь ліку пагарджаных ізгояў, якіх правадыр разьмясьціў ля самага берагу. Уранку тыя паднялі бунт з крыкамі: куды нас завялі? Надзіва, іх падтрымалі астатнія роды. Мудрага, растлусьцелага на насілках Хірта, зьвязаўшы, кінулі ў балота, дзе яго адразу ж разьдзерла зграя хвастатых кракадзілаў. Тут жа племя абрала новага кіраўніка, якім стаў, можа і ня самы разумны (нават трохі дурнаваты), затое самы дужы дзяцюк па прозьвішчы Слон. Слон аб'явіў, што паколькі шляху наперад няма, трэба вяртацца назад. Ідэя, запавешчаная продкамі, правільная, толькі ў племя не хапіла волі яе зьдзейсьніць, – ягоныя правадыры былі скрозь злыдні, дурні і здраднікі. Ад сёньняшняга дня ўсё будзе іначай, племя даможацца сваёй мэты. Дружныя крыкі ўхвалы ўзбадзёрылі правадыра Слана, і ён пачаў ладзіць паход. Ягоны, сланоў, род паставілі на чале калёны, ранейшы авангард, што складаўся з роду Хірта, запхнулі ў самы зад. Тады ж пасьмяротна рэабілітавалі першага, сьляпога, правадыра, але ягоны род застаўся на ранейшым месцы, недалёка ад заду. Племя выцягнулася ў даўгую няроўную чараду – зь дзецьмі і старымі, муламі, козамі і сабакамі. Начальніцкія насілкі ўсе патапілі ў балоце, вырашылі трымацца прынцыпу братэрства і роўнасьці – усім ісьці пехатой. Слон ішоў наперадзе і вызначаў кірунак, які пазнаваў па месцы сонца на краявідзе. Дзе яно было, туды і трэба было кіраваць. Слон сказаў, што сонца не ашукае. Тое было проста і справядліва, кожны і ў любы час мог пракантраляваць напрамак руху. Усе дужа спадзяваліся на ўдачу.

Яны доўга і ўпарта ішлі наперад і празь нейкі час натрапілі на знаёмае камяністае плато з калючым кустоўем, кактусамі і жарствой пад нагамі. Але тое месца пазналі ня ўсе, а толькі самыя старыя. Бо тыя,

што нарадзіліся пасьля, тут не былі і нічога не пазнавалі. Яны толькі радаваліся новым уражаньням. Старыя ж адно круцілі галавамі ды маўчалі. Выказваць свае меркаваньні яны даўно ўжо былі адвучаныя.

Пасьля пачаліся пяскі. А за імі барханы. Ісьці рабілася ўсё цяжэй. Сьпёка рабілася невыноснай, але ўсе маўчалі. Адно ведалі – ісьці.

Затым сьпёку памалу зьмяніла сьцюжа, а за ёй усчаўся мароз. Спакутаваныя людзі ўсё часьцей успаміналі, як цёпла было каля роднага багністага балота. Хоць і з кракадзіламі. Кракадзілы, мусіць, усіх бы ня зьелі...

Тады неяк уранку, як зьмерзла некалькі немаўлят, натоўп разьюшаных жанок забіў правадыра Слана і абраў на яго месца самую галасістую жанчыну, якую клікалі Ах. Яна і павяла племя – вядома ж, назад. Праз тыя ж барханы, пясок, камяністае плато. Да балота, кракадзілаў і пацукоў, якіх стала яшчэ болей. Новыя пакаленьні каторы раз пераканаліся, што тут жыць нельга, трэба некуды йсьці. За правадыра абралі маладога хлопца, які мала што ведаў і яшчэ менш памятаў. Ён павёў племя ранейшым маршрутам, праз плато і пустыню – да сьцюжы. Усё паўтаралася, як і раней. Мяняліся толькі правадыры.

З таго часу племя і ходзіць – з канца ў канец. Пайсьці іншым шляхам яно ня можа, бо ня ведае куды. А гэты замацаваўся ў геннай памяці пакаленьняў. Досьвед няўдач ды пакутаў нічога ня значыць, бо кожнае пакаленьне ўсё пачынае спачатку.

## Насарогі ідуць

Племя даўно страціла незалежнасьць, плаціла вялікую даніну і пачувалася дужа ыяшчасным.

Прыгняталі племя агідныя і магутныя людзі-насарогі, якія ня ведалі ні Бога, ні маралі і бязьлітасна ставіліся да ўсіх, хто ня быў насарогам. Зрэшты, калі і быў –

таксама, абы толькі ў чымсь пайшоў насуперак ці вылучыўся з грамады насарогаў.

Правадыром няшчаснага племя быў малады чалавек, гучна і слаўна званы Ко, што азначала Адважны. Ён і быў адважны, вадзіў племя ў баі за незалежнасьць, хоць і не здабыў перамогі. Мабыць, здабыць перамогу над насарогамі было немагчыма. Але і капітуляваць канчаткова Ко таксама ня мог. Ён з імі ўсчаў перамовы. Казаў: шмат што можа аддаць, абы толькі насарогі пакінулі племя ў спакюі. Вядома, апроч незалежнасьці. Людзі племя сабралі ледзьве ня ўсю кукурузу, сою, бабы і проса, усе спадчынныя каштоўнасьці – колцы, завушніцы, пярсьцёнкі, вельмі прыгожы керамічны посуд, вытворчасьцю якога два стагоддзі славілася племя. Як прыехалі пасланцы насарогаў, усё тое было акуратна расстаўлена і раскладзена ыа палянцы пад векавым дубам. Прыезджыя абгледзелі і абмацалі кожную рэч ды паехалі. А як праз дзень вярнуліся, сказалі: мала. Мы прыедзем, пераб’ём племя і возьмем усё задарма. Правадыр Ко засмуціўся, бо ў племя нічога болей не заставалася, чым можна было б задобрыць насарогаў. Тады прыехаў новы пасланец ад насарогаў, які прывёз загад свайго валадара: аддаць яму Аўю, сястру правадыра, самую прыгожую дзяўчыну племя.

Правадыр Ко яшчэ болей засмуціўся. Вядома, яму шкада было ахвяраваць юную Аўю, але што ён мусіў рабіць? Ён пачаў раіцца з радай старэйшынаў, якія падзяліліся на два лагеры. Адны казалі, што трэба згаджацца, інакш усім будзе пагібель. Іншыя даводзілі: ні ў якім разе – насарогі ашукаюць. Возьмуць Аўю і не пакінуць племя ў спакоі. Правадыр Ко пакутна паразважаў ноч і пагадзіўся з патрабаваньнем насарогаў. Мсркаваў, калі ён аддасьць сястру, дык можа насарогі і пойдуць адсюль у свой край балотаў і багны і тым дадуць племю нейкі спадзяванак. Інакш сапраўды пагібель бяз рэшты падзеі. Назаўтра раніцой ён паклікаў сястру Аўю, якая ўжо ведала пра свой незайздросны лёс. Але яна была дзяўчына разумная і мужна прыняла свой прысуд. Яна любіла племя, зямлю, на якой вырасла, і гатовая была ахвяраваць сабой. Абы

зьберагчы іншых.

Але тады разьятрылася тая частка старэйшын, якая была супраць саступак насарогам. Асабліва верхавод аднаго клану Джо, які ледзьве не падняў бунт супраць правадыра племя. Правадыру спатрэбілася зазнаць нямала турботаў, каб суняць нецярплівўца... Дапамагло хіба тое, што насарогі быццам сапраўды пацішэлі і пачалі зьбірацца кудысыді сысьці. Тое дужа паспрыяла міру ў племі, дало ўсім спадзяванак. Джо таксама прыціх, змоўчаў, мабыць, адчуў, што памыляўся ён, а не правадыр племя. Правадыр хоць і перажываў за сястру, але пачуваўся задаволеным – усё ж найбольшая небясьпека мінулася.

Племя з падвойным стараньнем узялося за гаспадарку – трэба было нарабіць тое, што аддалі насарогам. Сьпярша і галадалі, і халадалі, але неяк выкараскаліся з нэндзы. Ураджай маісу ў тым годзе абяцаў быць неблагі, паявілася надзея ня згінуць з галаду. Галоўнае – быў мір, насарогі пакуль не назалялі. Падобна на тое – кудысь сышлі. Правадыр Ко пачаў ганарыцца мудрасьцю сваёй палітыкі, хоць і не пераставаў шкадаваць бедную сястрычку. Іншыя людзі з рады старэйшынаў неахвотна, але патроху прызнавалі, што памыліліся, калі выступалі супраць гнуткай палітыкі Ко.

І менавіта ў такі момант, на сконе лета, як у полі дасьпяваў ураджай маісу, прыйшла вестка, што насарогі вяртаюцца. Праз дзень-два племя дачулася, што ўжо вярнуліся. Іх насарожыя фалангі ўжо бачылі па той бок абмялелай за лета ракі, перайсьці якую было дужа лёгка. І праўда – яшчэ праз дзень цераз яе пераехалі пасланцы насарогаў, якія сказалі, што ідуць. І болей нічога.

Правадыр Ко тэрмінова сабраў раду, але што ён мог ёй сказаць? Над племем зноў навісла сьмяротная пагроза. Усё племя складала, можа, трэцюю частку ад войска насарогаў. Адкупіцца гэтым разам не было чым. Каштоўнасьцяў яшчэ не напрацавалі, ураджай быў на полі. Калі што, насарогі яго спрэс панішчаць, перш чым панішчаць племя. Адчуўшы бяду, у хібарах-халупах

залямантавалі жанкі. Тады хтось з рады ўспомніў, якім чынам адкупіліся тым разам. Трэба было прапанаваць прыгажуню.

Канешне, прыгожых дзяўчат у гэтым годным племі было шмат. Але ўсе ведалі, што самаю здатнай прыгажуняй была жонка правадыра, якую клікалі Чуя. На яе і паказалі старэйшыны племя.

Правадыр Ко сьпярша адчуў ярасьць да ўсіх адразу – сваіх і чужых. Ён кахаў Чую і нікому не хацеў яе саступаць. Але і як было яму быць? Насарогі набліжаліся, жыць племю заставалася некалькі дзён. Рада старэйшынаў патрабавала сьпяшацца. Толькі Джо быў супраць таго, каб саступаць насарогам. Ён казаў, што ня хоча належаць да племя, якое ратуе сябе коштам жыцьця сваіх самых годных жанчынаў. Але Джо быў гэткі адзін сярод рады старэйшынаў. А на сумленьні правадыра Ко былі сотні жанчынаў, старых і дзяцей ягонага племя. І ён надумаў аддаць жонку. Тая паслухалася мужа-правадыра, але, ад’язджаючы за раку, пракляла яго і ўсё племя разам, якое ня здолела яе абараніць.

Усё адбылося так, як і меркаваў Ко – прывабны падарунак падзейнічаў. Раць насарогаў пару дзён пастаяла за ракой і зноў кудысь выправілася. Правадыр перажываў, сумаваў, часам праклінаючы правадырскую долю, але ўвогуле быў задаволены. Аўтарытэт ягоны ў племі падвысіўся – усе зважалі на ягоную ахвярнасьць і разумелі, каму абавязаныя паратункам. Усе, апроч Джо, які ў першую ж ноч сабраў свій невялічкі клан і кудысьці сышоў.

Зноў племя патроху сьцішылася, пачало абжывацца. Сабралі неблагі ўраджай, сталі лепей карміць дзяцей дый самі наеліся ўволю. Людзі, асабліва старыя, дужа хвалілі правадыра, які забясьпечыў ім мірнае жыцьцё, зьбярог племя. Сам Ко, аднак, жыў халастым, марнеў, худнсў, стаў маўклівы і злосны. На сьвятах, калі ўсе весяліліся, ён маўчаў, уваччу чарнеючы ад гора. Ён штось прадчуваў. І прадчувапьне яго не ашукала.

Праз паўгода, пасьля сезоыу дажджоў, як сышла вялікая вада ў рацэ, зноў паявіліся пасланцы насарогаў. На гэты раз яны сказалі толькі адно: ідуць па жанчынаў. Насарогам спадабаліся тутэйшыя жанчыны, і яны хочуць іх – усіх і разам.

Племя ахапіў адчай, а правадыр Ко раптам узрадаваўся, бо штось зразумеў. Ранейшы клопат, што прычыніў яму столькі пакутаў і адабраў любую жонку, зьнік. Ко стаўся бесклапотным – ня трэба было выбіраць. Ня стала надзеі. Усё зрабілася проста – ісьці і гінуць. На перамогу не было разьліку. Перамагчы насарогаў яшчэ нікому ня шэнціла, ад іх можна было хіба адкупіцца. Калі было чым. У племі ж нічога не засталося.

Раненькім ранкам на пачатку лета племя паўстала на беразе ракі. Маладой траўкай шчодра зелянелі рачпыя берагі, вялікія жоўтыя кветкі ўпрыгожвалі прырэчнае кустоўе. Племя выстраілася ў тры шэрагі – наперадзе мужчыны і юнакі, у другім шэрагу – жанкі, ззаду за ўсімі – дзеці і старыя. Усс ўзброіліся хто чым – ад мячоў да кухонных вілачнікаў. Чакалі. Да правадыра часам падыходзілі сябры і дарадцы, шмат якія казалі: ну што мы ім зробім? Колькі нас і колькі іх? Лепш, можа б, аддаць жанок ды ўратаваць дзяцей... Правадыр слухаў усіх, не пярэчыў і быў дужа спакойны. Рашэньня свайго не мяняў. Толькі чакаў. Толькі і чакаў...

Насарожная раць, не спыняючы баявой хады, сунулася ў раку і бродам рушыла на гэты бераг. Злы вагонь гарэў у вачох разьятрапых людзей-насарогаў, басавіты насарожы рык мкнуў з іх разінутых зяпаў, як яны згледзелі пекных жанок. Але, каб імі авалодаць, трэба было забіць іхніх мужчынаў. Тое, адпак, выглядала сумніўна, бо ніхто з мужчынаў і ня думаў бегчы. Баяцца баяліся, але ўсе стаялі ў шэрагах – плячо да пляча, нарыхтаваўшы зброю – сякеры, пікі, мячы і нажы. Яны і сустрэлі першую навалу насарогаў. Апоўдні шанцы насарогаў на перамогу пахіснуліся, людзі ж племя ніякіх шанцаў ня мелі і ні на што не спадзяваліся. Адыо біліся на зьнішчэньне – сваё і насарогаў.

Праз увесь дзень доўжылася бітва. Стаптаная на беразе

трава стала чырвонаю ад крыві, чырвонаю цякла скаламучаная вада ў рацэ. І тады надвячоркам зьняможаныя, скрываўленыя людзі племя адчулі, быццам засталіся жывыя. Быццам перамаглі нават. Горы насарогавых целаў ляжалі на беразе, іншыя плылі па вадзе тоўстымі брухамі ўгару. Шмат людзей палегла – жанок і мужчынаў, але з берагу не саступілі. Правадыр Ко таксама загінуў. Пад вечар племем камандаваў, немаведама скуль прыйшоўшы, апазіцыянер Джо.

Як сьцямнелася, ён сабраў у нізкарослым кустоўі рэшту племя, дазволіў усім адпачыць. А сам устаў і, як у небе запаліліся першыя зоркі, сказаў, павярнуўшыся да самай нізкай:

– Дзякуй, Зорка Вайны! За дапамогу тым, хто страціў надзею...

Яго ніхто не абіраў, не прызначаў правадыром. Ды ён і не пытаўся ні ў кога. Ён ужо ведаў, як трэба ставіцца да насарогаў...

## Вежа

Здаўна жыцьцё склалася так, што ў краіне не было ладу. Падзеленыя паводле капфесійных, нацыянальных ды класавых прыналежнасьцяў людзі тузаліся, варагавалі адзін з адным, клан з кланам, нацыя з нацыяй. Што толькі яны ні рабілі – і ваявалі, і мірыліся, саступалі ўласныя землі ды захоплівалі чужыя – і ўсё без карысьці. Жыцьцё рабілася ўсё горшым, варажнеча расла – усіх да ўсіх. Шмат год у краіне не было парадку, зьнікала нават надзея, што ён калі-небудзь будзе.

Тады неяк па вясьне ў ратушы зьявіўся Даўгавусы. Ніхто ня ведаў, як ён трапіў туды, скуль узяўся наогул. Дый ён не тлумачыў нічога – проста ўвайшоў у даўгаватую залю паседжаньняў і застрэліў галоўнага ўпраўцу. І ніхто таго не абараніў, не запратэставаў нават. Па-першае, згледзеўшы забойства, усе

спалохаліся, а па-другое, ранейшы ўпраўца вельмі ўжо надакучыў усім – і кіраўнікам, і народу, бо дбаў толькі пра сябе і ўласны дабрабыт. Народ на другі дзень сабраўся на ратушным пляцы і бурай воплескаў вітаў новага, адважнага Ўпраўцу. Упраўца выступіў з бліндаванага грузавіка і сказаў толькі адно: ён навядзе парадак. І ніякіх аргументаў. Мабыць, таго было дастаткова, каб яму паверылі; ягоная рашучая пастава падзейнічала на ўсіх магічна. Хаця, што такое парадак, тады наўрад ці хто ўяўляў.

І праўда, для пачатку Ўпраўца арыштаваў і расстраляў ноччу вялікую групу гандляроў фісташкамі. Чаму менавіта фісташкамі – таго ня мог зразумець ніхто, але людзі казалі, што, мабыць, на тое ёсьць прычыны. Бо, напрыклад, гандляроў семкамі не арыштавалі і не расстрэльвалі. Затым былі пасаджаныя ў турмы ўсе тамтэйшыя цырульнікі. Пра гэтых казалі, быццам яны не дызэнфікавалі свае брытвы і тым распаўсюджвалі СНІД. То было падобна на праўду. Эпідэмія СНІДу пагражала ператварыцца ў пандэмію, і людзі дужа баяліся. Праўда, паўночныя баяліся больш, бо мелі звычай галіцца, у той час, як паўднёвыя хадзілі з барадамі. Пасьля арышту цырульнікаў галіцца перасталі ўсе. Наступным актам Упраўцы была моўная рэформа, паводле якой з мовы выключаліся ўсе супраціўныя злучнікі (кшталту аднак, ды, але) і генералізаваліся выразы тыпу: добра, безумоўпа, ёсьць, яволь, слухаю. Мала хто разумеў, навошта тая моўная калатнеча, ды людзі думалі: калі Ўпраўца гэтак зрабіў, значыць, так трэба. Неўзабаве зьявіліся і першыя навуковыя працы лінгвістаў, якія даводзілі глыбокі метафізічны сэнс тых зьменаў граматыкі. Такім чынам, у мове справы значна палепшыліся, мова стала болей выразная і меней затратная, чаго нельга было сказаць пра эканоміку. Эканоміка катастрафічна пагаршалася. Асабліва кепска стала пасьля апошняга недароду, што змусіла Ўпраўцу ўвесьці новыя правілы рацыянаваньня прадуктаў. Тое не абышлося без сур’ёзных праблемаў, бо нормы прадуктаў былі розныя для розных катэгорый насельніцтва, што выклікала скаргі і незадавальненьне. Тады Ўпраўца выдаў вельмі слушны ўказ: для тых, хто

працуе, нормы павялічыў удвая, а хто не працуе – тым удвая зьменшыў. Тое было вельмі дарэчы, бо якраз быў прыняты Генеральны план будаўніцтва Генеральнай Вежы.

На самай высокай пляцоўцы за горадам пачалі капаць шырокі, на цэлы квартал, катлаван. Працавалі тысячы людзей, якія тое рабілі ахвотна, з радасьцю, бо атрымлівалі падвойны паёк. Іншыя ім зайздросьцілі, але ж ня ўсіх туды бралі. Толькі самых увішных, самых правераных – з характарыстыкамі, даведкамі, беззаганнымі анкетамі. Паўночныя былі ўраўняныя з паўднёвымі, і даўняя варажнеча між імі паволі зьнікала. Афармленьнем працоўных дакументаў займаліся ўлады, чэргі да кантораў якіх дасягалі мілі – такі быў высокі працоўны ўздым. У шырокім глыбачэзным катлаване ўжо заклалі падмурак, дзе завіхаліся паўтары тысячы муляраў. Каб усе працавалі старанна, збоку стаялі наглядчыкі. Час адпачынку і харчаваньня вызначаўся паводле сігналу сірэны і доўжыўся лічаныя хвіліны. Апроч таго, была разьвітая практыка працоўнага суперніцтва: хто раней пакладзе чарговы шэраг цаглін ці камянёў, прозьвішча таго запісвалі на вялікую прыгожую дошку, умураваную ў Вежу. На сьпіну сьпяцоўкі таго бронзавай хварбай ставіўся адмысловы знак, якім надта ж ганарыліся, і нават не здымалі сьпяцоўкі і пасьля працы. Гэтых, калі яны былі маладыя, асабліва падабалі дзяўчаты – іншыя якасьці і нават заганы ня мелі значэньня.

Навошта была тая Вежа, які з яе сэнс і якая мэта – ня ведаў ніхто. І ніхто не пытаўся пра тое, ніхто не тлумачыў нічога. Існавала нявыказанае меркаваньне, што пра ўсё ведае толькі Ўпраўца, – будоўля дужа сакрэтная. Для захаваньня сакрэтнасьці была створаная адмысловая служба, якая, аднак, таксама мала што ведала. Менавіта тое лічылася вышэйшай класай сакрэтнасьці, бо чаго няма, тое немагчыма і выведаць. А Вежа тым часам расла, і ўсе клапаціліся пра тэмпы яе будовы. Тэмпы вырашаюць усё – быў лозунг эпохі, які стымуляваў на ўдарную працу. На той лозунг працавалі ўсе: работнікі, сяляне, навукоўцы, творцы. Палітыка,

эканоміка і нават псіхалогія народу былі скіраваныя для адной мэты – будаўніцтва Вежы. Колькасьць літаратурных твораў узрастала штогод на пяцьдзясят адсоткаў, і гэта былі творы адно пра Вежу. З недагляду рэдактараў у адным творы прасьлізнула маргінальная тэма скептыцызму наконт генералышй будоўлі, і тая загана была неадкладна заўважаная згуртаваньнем пільных крытыкаў. Аўтара неадкладна рэпрэсавалі, таксама, як выдаўца і рэдактараў. Дакладна не вядома, але ці ня той твор запачаткаваў у краіне повую і вельмі небясьпечную зьяву – сумненьне; праз кароткі час усюды пайшлі сходы і мітынгі з выкрыцьцём скептыкаў і недаверкаў. Удзельнікі мітынгаў адзінадушна галасавалі за сьмяротную кару для тых, хто сее недавер да вялікай будоўлі. Упраўца з тае нагоды выказаў глыбокае шкадаваньне да грэшнікаў, але мусіў падпарадкавацца волі народу, які ён ва ўсім і заўжды паважаў. Выкрытыя павініліся, пасьля чаго былі расстраляныя. Народ яшчэ болей палюбіў мудрага і добрага Ўпраўцу ды ім усталяваны парадак.

І праўда, бязладдзе зьменшылася, болей ніхто і ні ў чым не сумняваўся. І паўднёвыя і паўночныя працавалі аднолькава ўвішна, таксама, як і каталікі з пратэстантамі ці іўдзеі з артадоксамі. Шмат якія жанчыны малілі Бога, каб ён доўжыў век Галоўнага Ўпраўцы, бярог яго ад суроку, хваробы і сьмерці. Бо калі б, няўрокам кажучы, той памёр, хто б тады скончыў будаўніцтва Вежы?

Канешне, у вялікай будоўлі было шмат цяжкасыдяў і турботаў, але народ верыў і трываў – такі быў парадак. Газеты рэгулярна друкавалі зводкі падвышэньня Вежы – за дзень, тыдзень, месяц і год. Вялікая Вежа рабілася штораз большай. Яе круглыя каменныя бакі бяз вокнаў і байніц выглядалі цыклапічна і ў добрае надвор’е былі відаць з усяго абсягу краіны. На іх вывешвалі партрэты перадавікоў будаўніцтва, а вышэй за ўсіх – самы вялікі партрэт галоўнага Ўпраўцы ў генеральскім мундзіры з узнагародамі на грудзях, плячах і жываце.

Надышоў час, калі вяршыня Вежы схавалася ў аблоках,

а будоўля ўсё доўжылася. Газеты і адмысловыя агітатары тлумачылі, што Вежа пераўзыходзіць вышынёю самыя высокія збудаваньні сьвету. На плакатах малявалі вялікую Вежу і куды меншыя іншыя збудаваньні – Эйфэлеву вежу, амерыканскую статую Свабоды, ньью-ёркскія хмарачосы. І тое поўніла людзей гонарам – за краіну, любага Ўпраўцу. Казалі, што Вежа – гэта прарыў у космас за межы зямной стратасферы, пранікненьне ў таямніцы сусьвету, каб паглядзець, што там. Ці ёсьць Бог?

Штогод людзі ўсё з большым нецярпеньнем чакалі пары канчатковага выніку, бо іхняе трываньне ня сталася бязьмежным. Галоўнай праблемай рабіўся звычайны чалавечы страўнік, якому, відаць, не было справы да Вежы, бо патрабавалася ежа. Вытворчасьць жа прадуктаў між тым скарачалася. Будоўля спажывала ўсё болей зямлі, палі скрозь былі раскапаныя на кар’еры, дзе здабывалі пясок, камяні, гліну – усё для будоўлі. І ўвесь транспарт працаваў на Вежу, бензіну заўжды не хапала. Упраўца ўжо расстраляў групу сабатажнікаў, што парушыла моўны ўказ і ўжыла супраціўныя злучнікі. Людзі тады зразумелі, як мудра ў свой час Упраўца правёў моўную рэформу, і тыя злучнікі былі забароненыя. Інакш бы не пазьбегнуць бяды.

Ды бяда ўсё ж сталася – ад землятрусу ці яшчэ ад якой халеры Вежа аднойчы абрынулася.

Гэта было вялікае няшчасьце. Зазванілі ратушныя ды касьцёльныя званы, у паніцы бегалі людзі, галасілі жанчыны. Але ж здаўна вядома: бяда ня ходзіць адна, за той здарылася другая: раптоўна памёр Вялікі, Геніяльны, Галоўны Ўпраўца. Народ ахапіў жах, затым утрапеньне і адчай. На няхуткія, грандыёзналадкаваныя паховіны зышліся тысячы людзей, і ўсе лезьлі зірнуць апошні раз на нябожчыка. У трохдзённай штурханіне адна палова людзей затаптала другую. Але ўсё тое было малаважна – важнейшаю сталася праблема Вежы. Як яе аднавіць? На ўсенародным сходзе, скліканым пасьля катастрофы,

выступіў адзін хударлявы, сухотнага выгляду клерк, які сказаў: а навошта яе аднаўляць? Навошта тая Вежа наогул? Той выступ сухотнага стаўся нечуванай дуратой і нахабствам – як гэта навошта? Як жа бяз Вежы? Клерка хацелі забіць, ды хтосьці за яго заступіўся. Тады супраць заступніка выступіў кіраўнік Вольнага саюзу прыхільнікаў Вежы, а супраць таго кіраўніка – кіраўнік яшчэ болей вольнай Карпарацыі разбуральнікаў Вежы. Пачалася зацятая барацьба. У некаторых газетах былі выдрукаваныя артыкулы супраць тых ды іншых, і тады стала зразумела, што грамадства зноў раскалолася, усчалася барацьба ўсіх з усімі. Нядаўняга парадку як не было. Пакуль па краіне ішлі мітынгі, палі яе зарасталі пустазельлем, Вежа стаяла закінутай, аброслай крапівой ды дзядоўнікам.

Неяк тады на чарговым гарадскім мітынгу зьявіўся асабліва палымявы прамоўца, які даводзіў, што парадку ў краіне ня будзе, пакуль людзі не паруйнуюць Вежу. Ён пракляў тую вар’яцкую Вежу, праз якую ўсе няшчасьці людзей, і заклікаў усіх зараз жа ісьці бурыць. Увогуле з ім пагаджаліся, толькі да Вежы ніхто не сьпяшаўся бегчы, ранейшы запал кудысь зьнік. Людзі ці то падурнелі, ці наадварот – паразумнелі. А можа, засталіся ранейшыя, але рабіць не хацелі нічога.

Праз дзён колькі ініцыятары разбурэньня ўсё ж намагліся мабілізаваць нейкую колькасьць добраахвотнікаў і прывесьці да Вежы. Але тады аказалася, што бурыць не нашмат лягчэй, чым будаваць. Бетон быў такі моцны, што яго ня бралі адбойныя малаткі, кампрэсары штораз псаваліся. Камянёў нельга было выдраць з муру. Спрабавалі ўзарваць, ды не знайшлося такой выбухоўкі, каб парушыла мур. Ад аднае спробы дарэшты пазносіла дахі з навакольных хатаў ды павыбіла вокны.

На чарговым мітынгу ў горадзе прамоўца з чорнымі вусікамі сказаў, што бурыць Вежу няправільна, што тое ёсьць вандалізм. Трэба прадоўжыць справу вялікага Ўпраўцы – дабудаваць Вежу і зажыць, як людзі. Канешне, зажыць, як людзі, хацелася ўсім, але

дабудоўваць... У людзей ужо зьнікла ахвота што-небудзь будаваць наогул – так набудаваліся за гады. Зноў жа – а раптам рухне? Не, ня рухне, сьцьвярджалі філосафы з Вольнага саюзу прыхільнікаў Вежы, калі толькі ў падмурак закласьці правільную ідэю. Але народ не хацеў ніякай ідэі – ад кожнай ідэі надта бурчала ў жываце. Ды што ўсё ж рабіць? – думалі людзі і не маглі нічога надумаць. Тады праз год ці болей зьявілася новая думка: калі Вежу немагчыма ні разбурыць, ні аднавіць, дык трэба прадаць. Знайсьці за мяжой пакупніка і прадаць к чортавай матары, каб пазбыцца клопату. Але тут падняліся патрыёты і сказалі, што прадаваць Вежу, збудаваную народнымі рукамі на роднай зямлі, яны не дазволяць нікому. Няхай яна лепш праваліцца скрозь зямлю.

Так людзі нічога і ня вырашылі. Зломак-вежа стаіць дагэтуль як сьведка даўніх, камусь мілых часоў, калі быў уздым і парадак.

## Байкі жыцьця

### 1. Страх

Самай шаноўнай сьвятыняй у гэтай краіне з часоў векапомнай даўніны быў невялічкі, упрыгожаны маляўнічым росьпісам ды інкрустацыяй керамічны гаршчэчак, у якім захоўваўся Страх.

Страху таго з простых сьмяротных ня бачыў ніхто. Дзень і ноч яго ахоўвалі пяць чалавек сьвятароў і пяць ваяроў, і ўсе ведалі пра яго незвычайную страхавітую сілу. Менавіта з тае прычыны людзі тамтэйшага краю і зваліся страхавітамі. Некалі за керамічны гаршчэчак біліся ў двубоі галоўны сьвятар племя і ягоны супернік – ваяр. Ведама ж, перамог сьвятар, бо ён ужо валодаў Страхам, а ягоны супернік – толькі мячом. Але меч – слабы сродак перад магутным Страхам.

Імя галоўнага сьвятара, які ўзяў на сябе ўсю ўладу ў

краіне, было Галабурдахам. Пасьля сваёй перамогі ён яшчэ больш, чым раней, усталяваў культ Страху. Зь ягонага загаду ў самым цэнтры сталічнага паселішча збудавалі мармуровы палац – для яго самога і для Страху. Была створана адмысловая сотня з ваяроў, сьвятароў і таемнікаў, якія дбалі пра бясьпеку Страху і Валадара заадно. Сярод улады і падуладных на той час запанавалі мір і згода, ніхто не адважваўся выступіць супраць Галабурдахама. Ніхто ня мог пра тое нават падумаць – такая вялікая была пераканаўчая сіла Страху. Калі здараліся якія непарадкі ў правінцыях, напрыклад, недабіралі падаткі, туды скіроўвалі ўзброеную каманду, вядома ж, у суправаджэньні магутнага Страху, і падаткаў зьбіралі нават больш, чым было патрэбна. Аднойчы ўзьнік памежны канфлікт з суседняй дзяржавай і пачаліся перамовы, якія трывалі чатырнаццаць тыдняў запар. І ўсё бяз выніку. Тады Валадар Галабурдахам скіраваў туды свайго сілавога міністра са Страхам у вазку. Перамовы хутка скончыліся з посьпехам для страхавітаў.

Правіцелі краіны на чале з мудрым Галабурдахамам вырашылі збудаваць для Страху яшчэ лепшы, надзвычайны архітэктурны ансамбаль побач з ранейшым, які цалкам заняў Валадар. У дзень пераносу Страху ў новую шыкоўную будыніну далі салют з 101 гарматы. Той дзень быў названы Днём Дзяржаўнага Страху – галоўным сьвятам дзяржавы.

Зь цягам часу сама сабою склалася адмысловая нацыянальная ідэалёгія, заснаваная на дактрыне Страху. Усе зьявы і ўчынкі ўспрымаліся і расцэньваліся цяпер паводле старажытных законаў Страху. У філязофіі запанаваў накірунак страхалёгіі, які неўзабаве саступіў месца страхафіліі. Ідэальным грамадзянінам стаў страхавіты грамадзянін, які ўсяго баяўся. Менавіта такі вобраз запанаваў у тэалягічнай літаратуры і мастацтве графіці. Рэлігія страхалюдзтва стала надзвычай папулярнай сярод вернікаў і займалася адкармленьнем іх у духу бязьмежнага, богададзенага Страху. Пабудавалі безьліч храмаў, малельняў і нават даволі добраўпарадкаваных на

маляўнічай прыродзе летнішчаў-скітаў з саўнамі. Гэтыя апошнія былі вельмі папулярныя сярод вернікаў усіх саслоўяў ды асабліва – іерархаў. Казалі, з тае прычыны, што ў найбольшай меры адпавядалі патрабаваньням ідэі Страху.

Між тым, дзяржаўнае бытаваньне доўжылася; адзін за адным мільгалі гады ўладараньня дынастыі Галабурдахама. Прамільгнулі таксама дынастыі Парастурфуджына 1, 2 і 3. Парастурфуджын 4 перайменаваў сябе ў Страхалюда Першага, так было болей звыкла, а краіну – у Страхалюдыю. І слушна зрабіў, бо за шмат гадоў уладараньня пад эгідай страху людзі амаль страцілі ўсе ранейшыя антрапалягічныя рысы і набылі зусім новыя. Найперш у краіне даўно ўжо ніхто не сьмяяўся, нават перасталі ўсьміхацца; весялосьць успрымалася як блюзьнерства. Самым мілым выразам дзявочага твару стаў выраз спалоху. Старыя ж людзі за сваё доўгае жыцьцё выхавалі на тварах такі жахлівы выраз, які выклікаў дрыжыкі. Менавіта тое і патрабавалася. Самых лепшых у гэтым сэнсе ўзнагароджвалі і шанавалі. Узьнікла і пасьпяхова разьвівалася музычнае і пясьнярскае мастацтва ў стылі страх-мадэрн, – калі ад музыкі са сьпевамі ў слухачоў валасы на галаве станавіліся дыбарам. Гэта вельмі падабалася ўладам і вэтэранам-доўгажыхарам.

Навука таксама не стаяла на месцы, плённа разьвівалася пад узьдзеяньнем жыватворных страхавітых ідэяў. Пісаліся манаграфіі пра сакральную структуру Страху, ягоную мэтафізычную сутнасьць. Вучоныя ўпарта дасьледавалі таямнічы ўплыў славутага гаршчэчка на стан атмасфэры і стратасфэры, сувязь яго нябачных выпраменьваньняў з пэрыядычнасьцю плямаў на сонцы. Аграрыі вельмі дакладна ўстанавілі, як дабратворна ўзьдзейнічае Страх на вэгетацыю расьлінаў, асабліва такіх як кукуруза і бульба. Палітолягі вывелі залежнасьць палітыкі Валадара ад сакральнага ўплыву Страху. Было пераканаўча даказана, што ўсе пераможныя акцыі ва ўнутранай і зьнешняй палітыцы цесна ўвязваліся ім зь інфэрнальным выпраменьваньнем Страху. Аднак жа

сакрэт палягаў у тым, што сэнс тае інфэрнальнасьці быў даступны толькі Валадару, у якога меўся на тое маленькі чорны саквояжык. У краіне знайшлі шырокае разьвіцьцё рознага кшталту навукі – парапсыхалёгія, кабалістыка і асабліва – астралёгія. Гэтая апошняя першай вывучыла астральную прыроду Страху і пачала рабіць самыя падрабязныя прагнозы ва ўсіх галінах жыцьця. Прагнозы былі заўжды спрыяльныя для краіны і асабліва для яе Валадара, якому наканавана было валадарыць сорак саракоў гадоў. Валадар быў задаволены і прызначыў Астроляга прэзыдэнтам Акадэміі паранавук, якая ў той год была адчынена. Першым актам Акадэміі стала распрацоўка новай канстытуцыі – Канстытуцыі Вялікага Страху, якую прынялі ў 996 годзе.

Але каб пачуцьцё страху перамагло ў масах канчаткова, трэба было выкараніць антыномнае пачуцьцё. І ў краіне быў прыняты новы крымінальны кодэкс аб адказнасьці грамадзянаў за ненарматыўныя паводзіны – сьмех, усьмешку, беспадстаўныя жарты. А таксама за ганебныя праявы адвагі. За адвагу ў абароне таварыша ад зьвяроў давалі тры гады турмы, ад жонкі – пяць гадоў. Але асаблівая кара прызначалася тым, хто адважваўся бараніць каго б там ні было ад замаху ўлады. Такія падлягалі пажыцьцёваму зьняволеньню. За абразу Яго Вялікасьці Страху, вядома ж, належала сьмяротная кара.

Натуральна, ня ўсё ішло гладка, часам у вялікай краіне ўзьнікалі непаслушэнствы і нават ерасі. У сярэдзіне стагодзьдзя ледзьве ня стаўся раскол. Гэта калі пэўная частка сьвятароў запрапанавала пашырыць ідэю страху і на адносіны да свойскай жывёлы. Каб шчанюкоў, ягнят, жарабят выхоўваць, жорстка караючы, у атмасфэры жывёльнага страху. Але тады аказалася, што ў гэткай атмасфэры козы, аслы ды сабакі або здыхаюць, або ўцякаюць у цёмны лес, дзе іх цяжка знайсьці. Мусіць, і праўда, жывёла – не чалавек, яе не перавыхаваеш страхам. Гаспадары і цэлыя гаспадаркі трывалі страты, некаторыя правінцыі нават спазналі голад. Гэта патрабавала ад вярхоўнай улады

радыкальных мераў. У правінцыю Страх-Пут выехаў валадар Страхалюд XII зь вялікім аддзелам войска. Ён жа павёз з сабою і Страх. Страх везьлі на багата ўбранай калясьніцы, у якую было запрэжана 12 чорных коней пад залатымі накідкамі. І пасьля таго як бунтаўнікі былі абкружаныя войскам і перад імі вынесьлі Страх, тыя капітулявалі. Страхалюд XII вярнуўся ў сталіцу пераможцам і быў урачыста сустрэты ўдзячным народам. Канечне, грамадзяне шанавалі Валадара, яго розум і сілу, але ж разумелі, што сваёй перамогай ён найперш абавязаны Страху.

Яшчэ адну вялікую перамогу здабыла дзяржава ў яе застарэлым канфлікце з суседзямі – дурнымі сьмехавітамі, рэлігіяй якіх была весялосьць. Страхавіты хутка заваявалі гэтую невялікую, кепска арганізаваную краіну. Але неўзабаве было заўважана, што пераможаныя ня надта з таго турбуюцца, бо жывуць нашмат лепш за пераможцаў. І грошай у іх больш, і хлеба, і жывёлы. Яны нават п’юць віно, што было зусім незразумела. І ніхто ў іх нікога не прымушае набываць зь дзяцінства спалоханы выраз твару, кожны сьмяецца, колькі захоча. Нават мае права голасна рагатаць.

Не заўсёды ў жыцьці ўсё адбываецца, як хочацца, нават Валадару. Каб Страхалюд XII ведаў гэта, ён бы не заваёўваў тую бязладную краіну. Сталася так, што амаральныя ідэі пераможаных сьмехавітаў сталі пранікаць у краіну страхавітаў – сьпярша праз войска, а затым – праз гандлёвыя сувязі. Іх падхапіла найперш няўстойлівая частка грамадзтва, – недастаткова выхаваная ў страху моладзь. Раптам некаторыя зь яе ўпадабалі вясёлыя песьні суседзяў і нават пачалі іх сьпяваць. А тады ва ўжытак пайшло віно і тытунь, што ўвогуле было жахліва. І хоць на барацьбу з заганамі змабілізавалі ўсе сілы дзяржавы – ад войска да грамадзкіх памагатых – сексотаў, стукачоў, таптуноў – карысьці было мала. Нягледзячы на суды, затрыманьні, арышты і суровыя выракі, жахлівыя парушэньні прававерней маралі і этыкі не спыняліся. Патрабавалася яшчэ вышэй падняць ролю Страху, ягоных жыватворных ідэяў. Наблізіць іх да народу.

Тады Валадар краіны за кароткі тэрмін пабудаваў у сталіцы вялізны 50-сажневы ансамбаль, які завяршаўся ўгары мармуровым порцікам са зьмешчаным у ім пазалочаным гаршчэчкам Страху. У сонечны пагодны дзень ягоныя выпраменьваньні можна было бачыць далёка за межамі Страхалюдыі. Былі ўстаноўленыя сто прэміяў музыкам, мастакам і пісьменьнікам, якія з найбольшай сілаю ўвасобяць у творах залаты воблік Страху. Ужо праз паўгоду роўна сто творцаў былі ганараваныя прэміямі, іх мармуровыя бюсты выставілі ўздоўж алеі гарадзкога парку культуры і страхалюдзтва. Мяжу зь сьмехавітамі абсталявалі дванаццацімэтровай жалезнай заслонай. Перасякаць яе мелі права толькі асабліва ўстойлівыя да сьмеху людзі, якім перад паездкай рабілі ін’екцыю сыроваткі суму. І тым ня менш, падрыўная ідэалёгія і яе матэрыяльная культура шырока пранікалі ў краіну суму і страху. Празь недагляд цэнзараў у друку зьявілася публікацыя аднаго эканаміста, нібыта вясёлы працаўнік болей прадукцыйны за сумнага, – гэткай ерасі ў краіне не было ўжо амаль два стагодзьдзі. Аўтара публікацыі, натуральна, выслалі за мяжу, дзе яго хутка забілі ягоныя ж аднадумцы. Некаторыя, праўда, казалі, што забойства было справай рук страхавітых спэцслужбаў. Але то быў варожы паклёп.

Валадар краіны Страхалюдыі вельмі ўстрывожыўся і ўсе страхавіцкія сілы кінуў на барацьбу з падрыўной ідэалёгіяй. Каб ідэя страху дзейнічала больш эфэктыўна, ён увёў сьмяротную кару нават за самы дробны амаральны ўчынак, калі той выклікаў сьмех. Злачынцаў стала звыш усялякай меры. Асабліва калі ў краіне пачаўся эканамічны спад, а затым крыза, і ня стала чаго есьці. Дайшло да таго, што аднойчы ў сьвяточны дзень на галоўнай плошчы сталіцы сабралася дэманстрацыя за права есьці. (Гэтыя нечуваныя раней прэтэнзіі на нейкія там правы таксама былі кантрабандай увезеныя з краіны сьмехавітаў). Валадар абкружыў войскам плошчу і перад сьвятыняй Страху наладзіў дэманстрантам крывавую лазьню. Былі сотні забітых і яшчэ болей параненых. Улады той лік перабольшылі ў дзясяткі разоў – у адпаведнасьці зь

сьвятой і непарушнай ідэяй Страху. І падзейнічала. Усе ўбачылі, што Страх па-ранейшаму мае сілу і не абы–якую. Пачаліся размовы, што ня варта супраць яго выступаць, што перамогі ўсё роўна ня будзе, што трэба шукаць кансэнсус з Валадаром. Страх неперaможны, бо ў ім ёсьць нейкая неспазнаная сатанінская сіла. Гэта ўвогуле было падобна на праўду. І ўсё адно людзі хацелі есьці, а есьці не было чаго. Даведзеныя да адчаю, яны ўжо нікога ў краіне не баяліся – ні спэцфармаваньняў, ні тайнай паліцыі, ні Валадара, – яны толькі не маглі перамагчы ў сабе прыроджанае, геннае пачуцьцё Страху. Гэта, між іншым, выдатна разумеў і Валадар, які старанна ўдасканальваў сьвятыню. Група ляўрэатаў-інжынэраў спраектавала на плошчы цэлы інжынэрна-тэхнічны комплекс вакол п’едэсталу Страху. Порцік наверсе пакрылі бранявым каўпаком, наладзілі лазэрнае забесьпячэньне зь нябачным, але дужа эфэктыўным выпраменьваньнем – у інтарэсах бясьпекі. У космас запусьцілі адмысловы спадарожнік Страху, які дзень і ноч круціўся над плошчай, адганяючы ад яе нават вераб’ёў; тыя зь іх, што перасякалі па-дурному мяжу, адразу ж мёртвымі падалі на брук. У сутарэньнях на глыбіні ста і больш мэтраў сядзелі дзяжурныя апэратары, – утыкнуўшыся ў свае экраны, яны пільнавалі комплекс ад магчымай дывэрсіі.

І тады ў горадзе паявіўся Мірон.

Гэта быў малады хлапец родам з самай галоднай правінцыі, ён валодаў неверагоднымі здольнасьцямі. Вырасшы ў лесе, мог узьлезьці на самае высокае дрэва, нават на голы ствол пальмы. Як ён тое рабіў, ніхто ніколі ня бачыў. Звычайна яго заўважалі, калі ён ужо быў наверсе і шпурляў адтуль какосавыя гарэхі, якія вясёла падбірала дзятва. Характарам ён быў свавольнік.

І вось аднойчы па горадзе панесьліся чуткі, што на плошчы ў паўдзён адбудзецца штосьць неверагоднае. Людзі зранку пачалі зьбірацца да плошчы; блізка да ансамблю Страху не пушчала ахова. Здаля людзі назіралі, любаваліся зіхаценьнем залатога порціку, у якім зьзяў непераможны, сьвятарны Страх. Улады,

вядома ж, не гублялі пільнасьці, узмацнілі ахову. Сотня закамуфляваных у жабскі колер "гарылаў" сачыла за публікай. Перад экранамі ў сутарэньнях гарбаціліся дзяжурныя. У дывэрсію ці сабатаж мала хто верыў – гісторыя краіны яшчэ ня мела выпадку, каб нехта пераадолеў вялікі татальны Страх або самохаць наблізіўся да яго.

Але во ў паўдзён, як гадзіньнік на крэпасьці адзваніў 12 разоў, усе зь перавулкаў, вуліц, дахаў і вокнаў згледзелі, што ля залатога порціку паявіўся чалавек. У сьветлай сарочцы, бяз шапкі, стаіць і штосьці махае ўсім унізе. І нават крычыць штось – зусім, аднак, ня сумнае.

Людзі не разумелі, што адбываецца. Не разумела ахова, якая замітусілася ў паніцы. З завулкаў, ад сквэру і палацу Валадара на злыдня нацэлілі рулі дывізіёны "Градаў", "Тунгузак", сотні руляў АК. Але ніхто не адважваўся пульнуць, бо там жа была сьвятыня – Страх. А хлопец тым часам штосьці там пакалупаўся, нахіліўся, і ўсе ўбачылі, як зьверху, куляючыся, бы какосавы арэх, ляціць уніз знаёмы кожнаму са школьных падручнікаў гаршчэчак Страху. Дапяўшы бруку, той з грамавым ляскатам разьбіўся на дробныя аскялёпкі.

Пасьля сэкундавага палярушу ўсе, хто быў блізка, кінуліся да тых аскялёпкаў – ці ацалеў хоць Страх? Ды дзе там – не аказалася ніякага Страху. Сярод груды аскепкаў ляжала на камянях жменька нейкай рудой зямлі – і ўсё. Калі, можа, гэта і быў некалі Страх, дык яго даўно стачылі мурашкі. А можа, ніколі й не было ніякага страху. Першы, умомант звар’яцеўшы, гучна зарагатаў, бы стары мул, начальнік валадарскай аховы, гарылападобны палкоўнік. За ім зьдзічэла, па-вар’яцку заіржалі яго падначаленыя – падпалкоўнікі, маёры, капітаны, лейтэнанты і прапаршчыкі, тайныя і яўныя сексоты, стукачы і таптуны, ахоўнікі. У дзікім істэрычным рогаце зайшоўся ўвесь зблытаны, перамяшаны, шматслоўны галодны люд. Людзі сьмяяліся, абдымаліся, рагаталі, сьцяміўшы, што доўгае валадарства страху скончылася.

Да пачатку новага валадарства – Сьмеху – заставалася небагата часу. Ды людзі ня ведалі пра тое.

## 2. Сьмех

На трэці дзень, калі грамадзяне больш-менш угаманіліся ад радасьці вялікай перамогі, было абвешчана, што кіраўніком дзяржавы робіцца той самы тоўсты палкоўнік, які першым засьмяяўся над паразай страху. Газэты пісалі пра "подзьвіг самага адважнага вайскоўца, грамадзяніна краіны". Першым дэкрэтам новага кіраўніка стала асуджэньне страху і запачаткаваньне барацьбы зь ягонымі наступствамі. У гарадах і вёсках выяўлялі плаксівых і напалоханых і бязьлітасна асуджалі іх. Упартых саджалі ў турмы – асабліва тых, хто не хацеў сьмяяцца, а тым болей, плакаў ад жалю па звыклым і любым страху. Мірона таксама пасадзілі, бо выявілася, што ён ня ўмеў сьмяяцца і нават адмовіўся вучыцца тое рабіць. Патомныя страхавіты ў масавым парадку пераходзілі ў стан сьмехавітаў. Самыя спрытныя зь іх сьцьвярджалі, што нават і ў змрочныя часы страху часьцяком сьмяяліся. Хто – зачыніўшыся ў прыбіральні, хто – на ўласнай кухні, хто – у сьне. І тое была праўда.

Сьмех паступова, але няўхільна рабіўся нацыянальнай ідэалёгіяй, урэшце абвешчанай у адмысловым дэкрэце кіраўніка дзяржавы. З нагоды абвяшчэньня на цэнтральнай плошчы адбыўся грандыёзны мітынг. Там жа на былым п’едэстале страху была ўстаноўленая постаць Сьмеху – мармуровая скульптура прывабнай дзяўчыны, якая аж кладзецца ад неспатольнага сьмеху-рогату. У горадзе адчыніўся ўнівэрсытэт сьмеху, дзе вывучаліся ягоныя аспэкты – псыхалягічны, фальклёрны, паліталягічны. У школах былі ўведзеныя ўрокі сьмеху (замест літаратуры і матэматыкі), якія вельмі падабаліся вучням. Зьявіліся першыя вучоныя – важныя профі ў галіне новай стваральнай навукі – сьмеху. Спакваля ў краіне распладзілася мноства ансамбляў сьмеху і весялосьці , якія, добра зарабляючы,

езьдзілі па гарадах і электрамузыкай сьмяшылі публіку, асабліва моладзь. У іншых мясьцінах выступалі вучоныя-лектары, што распавядалі, як хутка добра будуць жыць людзі, што выклікала няспынны рогат у залі, і вучонаму добра плацілі. Усё тое надта падабалася, асабліва моладзі: канцэрты і лекцыі сьмеху часам доўжыліся да ранку. Вядомы пісьменьнік, патрыярх айчыннай літаратуры, нядаўні апалягет страху, стаў ня меншым апалягетам сьмеху і і напісаў новы раман, трохі гульліва названы "Хі-хі". Праўда, жаданы аптымізм аўтара ня спраўдзіўся: адмысловыя літаратуразнаўцы (вядома ж, у штацкім) знайшлі між радкоў замаскаваныя прыкметы страху, і аўтар быў падвергнуты грамадзкаму астракізму. Ён перастаў змушана ўсьміхацца і неўзабаве памёр. Па-людзку пахаваць яго не было за што.

Увогуле ж справа сьмеху ў дзяржаве разьвівалася добра. Арганізацыямі ды гурткамі была ахопленая ўся краіна – уся краіна заўзята сьмяялася.

Усё было б добра, калі б не адна неспадзяванка – стала не хапаць ежы. Сьпярша паасобныя грамадзяне, а затым гаспадаркі і цэлыя калектывы, захапіўшыся сьмехам і весялосьцю як асноўным спосабам існаваньня, амаль перасталі працаваць і адно – сьмяяліся. Але праваахоўныя органы супраць іх не маглі ўжыць аніякіх мераў, бо ўсё было законна. Незаконным быў страх і сум, супраць якіх міліцыянты, судзьдзі і пракуроры прымалі самыя жорсткія меры. Аднак парушэньняў закону ня менела, ад нялёгкага жыцьця нават стала большаць. З падачы органаў правапарадку кіраўнік дзяржавы ўгледзеў у гэтым небясьпеку для існаваньня дзяржавы і вырашыў узмацніць барацьбу зь перажыткамі страху. Але якім чынам? Было вызначана, што ў гэтай справе больш прыдатныя мэтады страху. Філёзафы пачалі казаць пра дыялектычнае разьвіцьцё папулярнай ідэі – дзеля аб’яднаньня нацыі, натхненьня яе на барацьбу за лепшае жыцьцё, калі нікога ня трэба будзе прымушаць сьмяяцца, а ўсе стануць сьмяяцца самахоць, ад душы. А пакуль што, сьцьвярджалася ў законе, трэба прымушаць

сьмяяцца, не зважаючы ні на што, адно – у інтарэсах дзяржавы.

Тым ня менш, сьмяяцца людзям хацелася ўсё меней, часьцяком хацелася плакаць.

Уся рэч у тым, што жыцьцё сьмехавітаў катастрафічна пагаршалася – да недахопу харчу прыбавіўся недахоп адзеньня, абутку, паліва і гарэлкі. Зімой у кватэрах было надта халодна, купіць паліва ня мелі за што. З-за недахопу лекаў дактары пачалі шырока лячыць мэтадамі сьмехатэрапіі, але той мэтад чамусьці мала памагаў хворым, якія паміралі плачучы, што было недапушчальна. Ды й дактары перасталі сьмяяцца. Тады ўрад пайшоў на паслабку рэжыму сьмеху. Для некаторых катэгорыяў насельніцтва ўводзіліся прывілеі. Было дазволена плакаць тым з намэнклятуры, каго зьнімалі з пасады (адзін плач у месяц); жанчыны-вэтэраны органаў мелі права на 2-3 плачы ў квартал. Плач і нават публічны сум катэгарычна забараняўся працаўнікам праваахоўных органаў, міліцыі і вайскоўцам. Выключэньне рабілася толькі для бацькоў вайскоўцаў, якія атрымлівалі "груз-2000", і то на працягу аднаго дня з часу атрыманьня грузу.

Але харчу ўсё ня большала. Абставіны ўскладніліся яшчэ й тым, што заходнія высокаразьвітыя краіны перасталі даваць крэдыты. Замест крэдытаў яны разгарнулі ў сваіх СМІ паклёпніцкую кампанію, галоўным накірункам якой стала сьцьверджаньне, што ў краіне сьмехавітаў усе зьехалі з глузду. Гэта, вядома, было нечуванай абразай нацыі, кіраўніцтва, дыскрэдытацыяй вялікай сьмехатворнай ідэі. Урад угледзеў у тым непрыкрытую варожую вылазку і прыняў рашэньне ўзмацніць узброеныя сілы. Першай і галоўнай мерай стала прысваеньне вялікай групе афіцэраў званьня палкоўніка, а палкоўнікам – генэрал-палкоўніка. Усе іншыя, прамежкавыя званьні, былі зьліквідаваныя як непатрэбныя. Тое дужа спадабалася вайскоўцам. Па колькасьці генэрал-палкоўнікаў войска краіны пераўзышло арміі самых разьвітых краінаў Захаду. Гэта быў несумнеўны і вялікі посьпех!

Есьці яшчэ ўбавілася; ня стала хапаць жыльля – нават для генэрал-палкоўнікаў. А калі ў каго й было жытло, дык не ставала добраўпарадкаваных летнішчаў, што выклікала вялікае напружаньне ў грамадзтве, якое часам аж перараставала сьмяяцца. Не хапала таксама грошай, бэнзыну, транспарту. Ды сьмехавіты ня скардзіліся, адно сьмяяліся, разумеючы, што калі не задаволіць вайскоўцаў, дык тыя не абароняць ад ворагаў, якія ўсіх сьцяруць у парашок і панішчаць іхную самую жыватворную ідэю сьмеху.

Але так думалі, мабыць, ня ўсе. У сталічным горадзе пачалі ўтварацца падпольныя групы, названыя дысыдэнцкімі, якія выпрацоўвалі альтэрнатыўныя ідэі – таго ж сьмехатворнага кшталту, але не з вар’яцкім – з чалавечым тварам. Твар у некаторых падпольных выявах ужо не нагадваў ні чалавека спалоханага, ні чалавека-вар’ята, а меў нешта сярэдняе і па-навуковаму называўся гома-сапіенс. Гэта быў ідэал. А ідэал належала ўвасобіць, для чаго дысыдэнты сабраліся аднойчы ў сьвяточны адвячорак на прыватнай кухні і стварылі падпольны (ценевы) урад. Як кожную важную справу, тое належала абмыць, што і было неадкладна зроблена. У добрым настроі ўрадоўцы вярталіся дадому, але адзін зь іх (старшыня ценевага ўраду), што вёз сьпіс у кейсе, задрамаў у тралейбусе і згубіў кейс. На другі дзень урад у поўным складзе быў арыштаваны.

Падзеі ў краіне сьмехавітаў не на жарт затрывожылі суседзяў, якія ўсялякімі сродкамі пачалі падахвочваць сьмехавітаў да барацьбы за свае грамадзянскія правы. Сьпярша сьмехавіты надта зьдзівіліся, але паступова ўсьвядомілі сваё першае права – на сум. Натуральна, дамаганьне такога права ў краіне законнага канстытуцыйнага сьмеху было расцэненае ўрадоўцамі як крамола і прыроўнівалася да дзяржаўнага злачынства – замаху на галоўнага кіраўніка краіны ці да абрабаваньня банку. Шмат маласьвядомых грамадзянаў з праваабарончых арганізацыяў, творчых саюзаў і моладзі пацярпела за сваю крымінальную схільнасьць да суму. (Дарэчы, той сум яны здабылі ў часе галадоўкі ў карцары, дзе сум не прысякаўся – сумуй, колькі

хочаш. Карцар быў адзіным дазволеным месцам суму ў дзяржаве, чым арыштаваныя ахвотна карысталіся.) Дзіўна, што нават сьмяшлівая моладзь часам стамлялася ад казённай весялосьці і час ад часу адчувала патрэбу пасумаваць. Але такіх хутка выключалі з унівэрсытэтаў, датэрмінова заганялі ў войска, дзе славуты "інстытут дзядоўства" хутка мяняў сьмех на сьлёзы. Пры адсутнасьці паліторганаў "дзяды" вельмі дапамагалі камандзірам выхоўваць падначаленых у атмасфэры аптымістычнага патрыятызму.

А тым часам есьці ў краіне зусім ня стала чаго. Было зразумела, што галоўная нацыянальная ідэя не працуе, што прыйдзецца шукаць новую. І тады вынайшлі ідэю часовую, якая мела выдатную пэрспэктыву стаць фундамэнтальнай. Яна ня толькі не адмяняла ранейшую, але ўзьнімала яе на новую вышыню – што было надта важна. І ўрад кінуў увесь дзяржаўны бюджэт на вытворчасьць гарэлкі.

Гэта сапраўды выклікала небывалы народны ўздым. Народ усё зразумеў і прыняў бяз словаў – што значыць навуковая беззаганнасьць ідэі. На мітынгах у гарадах і вёсках прамоўцы гаварылі пра новую культурна-псыхалягічную рэвалюцыю ў краіне, пра яе лёсавызначальны сэнс. Гарэлкай бясплатна забясьпечвалася кіраўніцтва, пасьля вэтэраны-пэнсіянэры (пры норме 1 бутэлька на 1 дзень), пасьля ўсе астатнія, уключаючы немаўлят. Сем’і, у якіх было шмат дзетак, раскашавалі як мае быць – і дарослыя, і дзеці ўвесь дзень пілі і рагаталі, астатні час спалі і пахмяляліся. І дзякавалі ўладзе, галоўнаму кіраўніку і мясцовым вэртыкальшчыкам, якія займелі адзіны пільны клопат – забясьпечыць самыя глухія куткі краіны сьвежай гарэлкай. Гэта належала рабіць без пасярэднікаў-злыдняў, якія нахабна заніжалі градус. Сацыялягічны інстытут, які правёў апытаньне (было ахоплена 100% насельніцтва) выявіў небывалы паказчык тых, хто ўхваляў новую палітыку ўраду, – 100%. Папулярнасьць кіраўніка-палкоўніка стала такая, што ўрад надаў яму чын Вялікага Каудыльё.

Але заставалася нявырашанай адна застарэлая праблема, якая вынікала з тае аксіёмы, што, выпіваючы, трэба закусваць. Закусваць не было чым; праўда, вучоныя пачалі прапагандаваць новы спосаб ужываньня алькаголю. Спасылаючыся на перадавыя заходнія краіны, яны даказвалі магчымасьць выпіваючы не закусваць; некаторыя даводзілі, што есьці наогул шкодна для здароўя. Але тыя рэкамэндацыі кепска ўспрымаліся насельніцтвам. Дайшло да таго, што некаторыя зь несьвядомых грамадзян (пераважна жанчыны) пакрысе пачалі адмаўляцца піць. Пачуліся нават размовы, нібыта малако было болей карыснае, асабліва для дзетак. Але калі б малако было болей карыснае, дык бы яно было і даражэй. А так з усіх харчовых тавараў гарэлка мела самы вялікі кошт. Вядома, то былі правакацыйныя размовы з мэтай дэстабілізацыі грамадзтва, і праваахоўныя органы, якія даўно і справядліва зрабіліся карнымі, сурова каралі адступнікаў ідэі. Як і тых вучоных, якія ўзяліся (вядома, беспадстаўна) прапагандаваць цьвярозасьць. Наперакор ім у прыклад ставілася сьвятое жыцьцё Вялікага Каудыльё, які піў з дня нараджэньня і давёў дзённую норму да аднаго літра чыстага алькаголю. Менавіта дзякуючы гэтаму, пісалі прыдворныя акадэмікі мэдыцыны, палітолягі, сацыёлягі ды іншыя, любы народам Каудыльё падарыў ім такую дасканалую ідэю. І калі яна ня ўсюды і не ва ўсім дае плён, дык у тым не ягоная віна – віна тых, хто недасканала авалодаў ёю. Значыць, трэба больш піць і лепш працаваць.

Супраць таго, каб больш працаваць, не пярэчыў ніхто – ні адна ўрадавая ці апазыцыйная партыя – з тым сапраўды былі згодныя ўсе. Але ніхто ў гэтай краіне ўжо даўно не працаваў, нашмат больш прыемна было піць. Паколькі гарэлкі на кожны дзень не хапала, пілі ўсё, што лілося: самагон, сусла, піва, воцат, клапамор, тармазную і мазольную вадкасьці, тасол, бэнзын, газу. Ніхто ў краіне не баяўся нікога, нікога ня слухаў – ні дактароў, ні міліцыянтаў, якія таксама пілі ня менш за астатніх.

Калі жыцьць зусім стала неяк, зрабіўся вялікі пераварот,

які назвалі па-заходняму – дэмакратычны. Да ўлады прыйшлі тыя самыя людзі, што валадарылі раней. Толькі цяпер яны апранулі двухбартовыя гарнітуры і пачалі салодка ўсьміхацца перад народам. Калі ж ніхто ня бачыў, зубамі ірвалі адзін аднаму горла, дамагаючыся поўнай улады. Для таго патрэбныя былі асаблівыя здольнасьці, якімі з ранейшых ніхто не валодаў. Тады немаведама адкуль зьявіўся незвычайны чалавек, што перагрыз усіх і авалодаў уладай.

Пачалася новая эра – эра Вялікага Жаху.

Але тое – асобная гісторыя, пра якую летапісец раскажа наступным разам.

## 3. Жах

Пачалося ўсё нават прыстойна – здатна, па-людзку й дэмакратычна.

Сабраны ў залі бязладны, гаманкі, дужа амбітны парлямэнт тры дні біўся над велізарнай праблемай будучага кіраўніка дзяржавы. Сам парлямэнт кіраваць ня ўмеў, а галоўнае – не хацеў, бо хацеў толькі выступаць у тэлевізары ды езьдзіць па замежжы – прэзэнтаваць краіну, якую апроч мытнікаў ніхто болей ня ведаў. Вельмі складана было вызначыць назву кіраўніка, які б пад наглядам парлямэнту кіраваў краінай, – хто гэта будзе: цар, сакратар, загадчык, гаўляйтар? Дэпутаты зьнемагліся ў спрэчках. Дайшло да таго, што пачуліся прапановы: ня трэба ніякага кіраўніка, хай будзе анархія. Тое, вядома, было небясьпечна, і небясьпека недзе была ўчутая й перададзеная куды належыць. І вось позна ўвечары, калі парлямэнтары дарэшты стаміліся і ўжо кепска разумелі, у авальнай залі паседжаньняў згасла сьвятло, загрымеў нечуваны гром, будынак затросься, аднекуль з-пад купалу шуганула шэрым сьмярдзючым дымам, зь якога выскачыў ЁН. Ад яго сыпаліся іскры (такая зыходзіла энэргія), праменіла фіялетавае зьзяньне;

постаць яго цьмяна нагадвала чалавечую і вібравала так, што нельга было сфакусаваць зрок і зразумець, што ж гэта – здань, цмок ці няўжо – чалавек? Сьпікер парлямэнту дрыготкім голасам запытаўся: "Хто вы?", ды, замест таго, каб атрымаць адказ, кулём паляцеў з застольля аж у славуты "задні праход". Грымотным голасам здань абвесьціла:

– Я – Жах!

Парлямэнтароў бы памялом вымела з залі, засталася адно жменька тых, каго жах спаралізаваў. Але й тыя да канца жыцьця не маглі вымавіць нічога, апроч "так-так", "не-не". Зрэшты, іншага ад іх і не патрабавалася. Да канца жыцьця.

Першым указам Жах абʼявіў, што нічога ранейшага не застанецца, усё ад сёньня ліквідоўваецца, бо нічога й не было ніколі: ні сьмехавітаў, ні дзяржавы, ні мовы. Ёсьць толькі – Жах, ягоныя людзі – жахліўцы. З тым і трэба лічыцца.

Народу было ўсё роўна, ёсьць ён, народ, ці няма й як ён называецца. Да рэгулярнага перайменаваньня людзі прывыклі даўно – заўжды перайменоўвалі гарады, паселішчы, вуліцы, імёны. Шмат хто ўжо заблытаўся, як яго называць – Уладлен, Вілен, Матарызацыя, Эмансыпацыя. Іншыя маці ня ведалі, як клікаць каторага дзіцёнка, бо ўсе рэсурсы іхнай памяці са школьнай пары выдаткоўваліся на тое, каб запомніць імя чарговага сакратара – першага, другога, трэцяга – ЦК, абкаму, гаркаму, райкаму, сельсавету, саўгасу, калгасу… А было, што шэфа й гаўляйтара. Усё тое было добра знаёма народу. Сьпярша, праўда, цяжкавата было прывыкнуць да думкі, што яго, народу, няма й наагул не было ніколі. Тут трэ было мець асаблівую навуку, каб сьцяміць тое. Але й гэта ня надта важна, і да таго можна з часам прывыкнуць, калі сыстэматычна й па-навуковаму трэніраваць памяць. Вось толькі паўставала праблема: як трэніраваць яе, калі, як абʼявіў таварыш Жах, у людзей няма (і не было) мовы? Тая, на якой людзі восем стагодзьдзяў мовілі, была абʼяўлена трасянкай, нявартай чалавечага роту, і ліквідоўвалася,

бы крамола. Усю літаратуру на ёй перапрацавалі на макулатуру, за тутэйшае слова, вымаўленае на вуліцы, паліцыянты білі даўжэзнымі гумавымі палкамі (дэмакратызатарамі) і цягнулі ў пастарунак. Людзі зьненавідзелі тыя "дэмакратызатары", а заадно – і дэмакратыю з дэмакратамі, якіх на загад Жаха перайменавалі ў "дзермакратаў". Таварыша Жаха, аднак, падабалі, бо ён, хоць і быў строгі, але справядлівы – саджаў у турму шмат, але ж ня ўсіх. Толькі тых, хто высоўваўся, засьвечваўся, не згаджаўся. А што забраў гісторыю – такой бяды! З гісторыі штаноў не пашыеш. Мову? Можна пражыць і бяз мовы. Вунь зьвяры ў лесе зусім не размаўляюць, а жывуць лепш за людзей. А тое, што людзей няма (не было й ня будзе), дык тое, можа, і лепей – будзе болей парадку.

Горш было тое, што не было чаго есьці, на краіну насоўваўся голад.

Сьпярша ня стала яек, пасьля малака, масла, сьмятаны. На тое Жах аб’явіў, што вінаватая пражэрлівая апазыцыя, якая ўсё зжарае сама, ні каліва не пакідаючы народу. Каб не зжарала, трэба яе зьліквідаваць, для чаго наёмнымі профі былі распрацаваныя адпаведныя праекты. Плянавалася гэта зрабіць у часе мітынгу, быццам бы рукамі сваіх жа абдзеленых на ежу функцыянэраў. Але дасканалы плян дачасу раскрылі, і галоўныя таўстапузыя аб’ядалы ўцяклі за мяжу. І тым ня менш, прадукты прападалі: зьнікла каўбаса, мяса, сыр і твораг. Мудры таварыш Жах і тут даў геніяльны адказ: прадукты вывозяць з краіны на паветраных балёнах, адзін зь іх ужо зьбіты, герояў-зьнішчальнікаў вітала краіна. Каб яна канчаткова адчула сябе ў бясьпецы, выкінулі з пасольстваў заходніх паслоў, – хай ня сочаць за інтымнымі сакрэтамі любага Жаха. Усё тое дужа падабалася жахліўцам і, мабыць, падабалася б яшчэ болей, калі б з продажу пакрысе ня зьнік і хлеб. Тады любы народам Жах абвясьціў новую стратэгічную дактрыну: ня трэба есьці. Бо гэтая старасьвецкая завядзёнка вельмі абыходзіцца дзяржаве, зьнясільвае бюджэт і скарачае асыгнаваньні на зброю, безь якой

дзяржава абысьціся ня можа. На жаль, у адрозьненьне ад ранейшых кіраўнічых заклікаў, гэты ўспрымаўся слаба. Нягледзячы на вялікія растлумачальна-агітацыйна-прапагандовыя высілкі, жахліўцы працягвалі хацець есьці й дзе толькі можна шукалі ежу.

Выйсьця не было інакшага, як толькі ажаніцца з прынцэсай суседняй дзяржавы, якая (дзяржава) звалася Дзяржавай-Раем і ў якой паводле дакладаў сакрэтных агентаў было ўсё: і народ, і электарат, і культура, і мова. Паводле ня надта правераных зьвестак быў нават хлеб. Тая вестка надта абнадзеіла Жаха, які тут жа ўспомніў пра дзедаўскую практыку дынастычных шлюбаў, што зрабілі магутнымі валадарамі не аднаго захудалага князька дохлага княства. Жаніцца, жаніцца! Жах не любіў вагацца й на другі ж дзень паслаў сватоў.

У краіне Раю жахавітых сватоў спаткалі дужа прыветна, прынцэса адразу пагадзілася на шлюб, а яе бацька Валадар Гмах паслаў жаніху багатыя падарункі. У дзяржаве жахліўцаў усё закружылася ў радасным карагодзе шлюбных падрыхтаваньняў: тры тыдні мылі, шкрэблі й чысьцілі – фасады й падлогу, мараль і ідэалёгію. Жах, бы шалёны, насіўся па краіне, кантраляваў, спаганяў і снаваў пляны, як стане дужым і багатым, валадаром дзьвюх краінаў, галоўнакамандуючым дзьвюх арміяў (не, лепш іх аб’яднаць у адну, а ён стане й начальнікам генэральнага штабу – цяжкія пасады ён не любіў перадавяраць іншым). Ён стане генэрал-палкоўнікам (не, можа, лепш маршалам? Ці нават генэралісымусам?), прымусіць калаціцца "дзермакратычныя" краіны й першы абмые салдацкія кірзачы ў цёплай вадзе Паўднёвага мора. А якую магутную і ўсепраніклівую асабістую сэкурытату створыць ён – толькі пад уласным кантролем, не давяраючы нікому. Ён меў дасканалы аналітычны розум і ведаў, як той шлюб адаб’ецца на эканамічным стане краіны. Ужо гэты пражэрлівы электарат наесца.

Па краіне жахліўцаў пайшоў шырокі рух у падтрымку выдатнага пляну таварыша Жаха. На ўсіх гарадзкіх і

вясковых скрыжаваньнях былі разьвешаныя партрэты Жаха й ягонай мілай нявесты – цудоўнай, вельмі сэксапільнай маладзіцы ў анфас і профіль, у строгіх вечаровых строях і ў гульлівым бікіні. Людзі з зацікаўленьнем абмяркоўвалі вартасьці таго ды другога, але да згоды не маглі прыйсьці. Звычайна мужчынам падабалася прынцэса, жанчыны ж гарой стаялі за звыклага Жаха, чый жахавіты арліны позірк быў увасабленьнем сапраўднага мужчыны, якія даўно ужо вывеліся ў краіне, і жанчыны дужа сумавалі па ім.

У мастацтве, якое яшчэ трошкі ліпела, запанавалі два стылёвыя напрамкі – стыль згаладнелай фантасмагорыі – гэта калі бясконца апісваліся ці маляваліся шыкоўныя стравы, якія мала хто памятаў у краіне жахліўцаў і якія быццам бы не пераводзіліся ў суседняй дзяржаве, і стыль бясхлебнага рэалізму, па сутнасьці, беспадстаўнага выяўленьня "чарнухі" жыцьця, ягонай бядоты. Першы стыль лічыўся афіцыйным і карыстаўся бязьмернай падтрымкай таварыша Жаха, няблага аплочваўся й даваў магчымасьць творцам кожны дзень есьці з хлебам. За другі ж часам саджалі ў пастарункі, дзе творцы падпісвалі пратаколы й каяліся. Але, выйшаўшы на волю, браліся за ранейшае, бо казалі, што хочуць заставацца вернымі праўдзе жыцьця. Толькі дзе тая праўда й дзе жыцьцё, ніхто зь іх ня ведаў. Прынамсі ў краіне Жаху іх не было. Казалі, шмат было ў краіне-Раі, і таму пісьменьнікі з мастакамі таксама з прагнасьцю чакалі доўгачаканага дзяржаўнага шлюбу. Між тым, у паўсядзённым жыцьці справа дайшла да апошняй мяжы галечы. Жахліўцы зьелі ўсю жывёлу, нават кароваў. Узімку тых не было чым карміць, бо вынішчылі на корм увесь хвойнік, засталося адно голае альховае суччо, якога жывёла чамусьці не хацела есьці. Лепш здыхала, – мабыць, з неспазнанага каровінага прынцыпу. Людзі былі меней упартыя, елі траву, шчаўе і крапіву й надта суцяшаліся хуткім вясельлем, калі будзе хлеб і да хлеба. Ужо жаніх патурбуецца. Народ цяпер спрэс называўся электаратам, што дужа падабалася старым бабкам у вёсцы. Ведама ж, народ быў нікому не патрэбны, а да электарату калі-нікалі прыяжджалі начальнікі на чорных "Волгах", прывозілі

невялікія скрыначкі й ласкава прасілі кінуць туды невялікія аркушыкі з прозьвішчам чарговага начальніка. Бабкі часам дзівіліся, чаму такую справу нельга зрабіць у райцэнтры, але ахвотна кідалі тыя аркушыкі, бо толькі тады начальнікі гаварылі зь імі ласкава й нават казалі дзякуй. Ну й само сабою распавядалі, як добра зажывецца пасьля доўгачаканага шлюбу. Праўда, тыя расповеды часам выклікалі сьлёзы – гэта калі бабкі думалі, што могуць не дажыць да шчасьлівага дня.

І вось, нарэшце, жаданы, шмат разоў адкладзены дзень настаў. На дванаццаці зьнішчальніках-усепагодніках шлюбны картэж узьвіўся ў неба. Праз пэўны час апусьціўся на нейкім ня надта сучасным, амаль захалусным лётнішчы, што стала першым, але ня самым вялікім засмучэньнем жаніха. Наступнымі былі: абдрапаныя фасады сталіцы Дзяржавы-Раю, калдобістыя вуліцы, спрэс злосныя твары людзей у даўжэзных чэргах, – рыхтык, як у ягонай краіне жахліўцаў. Але найбольшы гром-пярун грымнуў у палацы, калі жаніх сам-насам спаткаўся з прынцэсай. Аказалася, што то была зусім не прынцэса, а брыдкога выгляду прынц, яўна вычварнай сэксуальнай арыентаванасьці. З наступнай размовы высьветлілася, што на шлюб ён пагадзіўся з прычыны вялікай крызы, у якой апынулася краіна-Рай, і тым шлюбам меркавалася паправіць становішча ў эканоміцы, геапалітыцы, фінансах, войску, ідэалёгіі, культуры, мэдыцыне, адукацыі, міжнацыянальных і міжканфэсійных дачыненьнях і г.д. Даць жахліўцам ён нічога ня мог, мог толькі ўзяць і цынічна іржаў у напарфумлены твар Жаха, аскаляючы вялікія, пракураныя наркотай зубы.

Нешта сьцяміўшы, Жах тузануўся ўсім целам, ляпнуў аб паркет недапіты келіх з шампанскім і на тым жа усепагодніку-зьнішчальніку паімчаў дадому. Такога расчараваньня стрываць ён ня мог і над аблокамі прыняў рашэньне: вайна! Толькі пераможная вайна магла змыць ганьбу й пакараць краіну-зманшчыцу. Жах аддаў загад аб усеагульнай мабілізацыі.

Хутка, аднак, выявілася некаторая ў тым недарэчнасьць: мабілізоўваць не было каго. Зьнікла насельніцтва. Частка – з голаду й хваробаў, частка таму, што наіўна паверыла, быццам яго няма й не было ніколі. Тыя ж, што засталіся, лічылі сябе электаратам для галасаваньняў і плебысцытаў, але не для вайны й не разумелі Жаха, бо даўно адвучыліся ад якой-небудзь мовы. Урадоўцы ж і адміністратары, учуўшы пра мабілізацыю, адразу паўцякалі на ўсход, бо даўно таемна служылі ня Жаху, а валадару Райскай дзяржавы – таварышу Гмаху.

Тое было нечувана й нясьцерпна. Зараджаны велізарнай касьмічнай энэргіяй (1000 кілавольт), Жах стрываць такога ня мог і задрыжэў, закалаціўся, загуў, закруціўся (звыш 1000 абаротаў у хвіліну), – падобна, як і тады, калі першы раз абʼявіўся у парлямэнце. Сьледам раздаўся выбух, накшталт чарнобыльскага, якога яшчэ ня чула плянэта. У неба ўзьняўся віхор чорнага дыму, пылу й смуроду, у якім зьнікла ўсё разам з Жахам.

Калі праз стагодзьдзе той пыл-дым патроху разьвеяўся, дык людзі з Усходу й Захаду ўбачылі гіганцкае правальле ў сярэдзіне кантынэнту. Глыбіня правальля была такая, што да дна не дасягаў зрок, шырыня таксама хавалася за краявідам. Між берагоў заўжды курэў шызы сьмярдзючы дым, зь якога часам выскокваў бязногі хвастаты Цмок. Ён куляўся, крыўляўся й рабіў нейкія знакі цікаўным вандроўнікам, што заўсёды тоўпіліся на краёх правальля, затым на тыдні й месяцы зьнікаў у прадоньні.

Людзі казалі, што гэта – урок чалавецтву за ягоную зьнявагу чалавечых і боскіх законаў быцьця...

## Галоўны крыгсман

Вялікі Курфюрст Богададзенай Сьветлазарнай зямлі быў чалавек упарты. Палову гадоў свайго курфюрства ён вёў крывавыя войны: спачатку з паўночнымі

суседзямі, пасьля – з паўдзённымі, а затым з усімі адразу. Той год ён пяты месяц трымаў у аблозе адмыслова ўмацаваны замак на Лесавым мысе. Посьпеху аднак ня меў, хоць і паклаў там палову войска, выдаткаваў ці ня ўсе фінансы курфюрства. Зрэшты, фармальна войскам камандаваў ня ён – для таго прызначаліся галоўныя крыгсманы, якіх за два гады Вялікі Курфюрст перабраў з тузін. Але ўсе яны ня спраўджвалі ягоных надзеяў, дарма губілі любімае курфюрстава войска, а замак з абпаленымі ды пашчэрбленымі сьценамі працягваў высіцца на мысе пад ненавіснымі варожымі сьцягамі на вежах. Вядома, такога нельга было стрываць, і Вялікі Курфюрст прымаў адпаведныя захады. Пасьля кожнага няўдалага штурму ён кідаў у склеп няўдачлівага крыгсмана і прызначаў новага.

На пачатку восені таго году сталася так, што колькі-небудзь вядомых вайсковых начальнікаў у Курфюрста не засталося – частка іх пагінула пад сьценамі замка, а частка апынулася ў сутарэньнях сталічнага гораду курфюрства. Лёс іх быў незайздросны, і яны ведалі тое. Як толькі замак будзе ўзяты, у гонар вялікай перамогі над паўночнымі, паўдзённымі ці разам узятымі землямі яны будуць страўленыя галодным ваўкам, што, загадзя налоўленыя, вылі побач у сутарэньні. Чакалі спажывы. Звычайна ў той час, як наверсе праводзілася цырымонія раздачы ўзнагародаў пераможцам, у сутарэньнях адбывалася пакараньне ворагаў – здрайцаў, няўмекаў, баягузаў, недарэкаў з ліку падданых Курфюрста. Можа, добра, аднак, што ў тое лета перамог не было, і хоць лік зьняволеных праз тое значна павялічыўся, але ўсе яны былі жывыя і спадзяваліся. Вядома ж, чалавеку ўласьціва заўжды спадзявацца. Нават калі падстаў для таго – ніякіх.

Пасьля таго, як апошняга крыгсмана без мяча і бяз латаў кінулі ў сутарэньне да астатніх, Курфюрст загадаў прыслаць да яго бібліятэкара Готліба.

Готліб той дзень, як і заўжды, сядзеў на версе доўгай драбіны і мяккім вароніным крылом зьмятаў пыл з

таўшчэзных учарнелых фаліянтаў, якімі пад самыя скляпеньні быў напакаваны гэты пакой. Бібліятэкар звыкла клапаціўся пра іх – зьберагаў ад пылу і вільгаці, ад пацукоў і пажараў. Праз гэты свой клопат ён шэраг гадоў ня бачыў Божага сьвету і наўрад ці мог бы сказаць, якая пара на дварах – вясна або восень. Ён ведаў шмат моваў, але над усімі аддаваў перавагу мудрай лаціне, на якой чытаў лёгка і зразумела. Праўда, ад недахопу сьятла і ад кніжнага пылу ў яго сталі слабець грудзі і тупіўся зрок. Але ён не наракаў на лёс і не жадаў сабе іншае долі, чым тая, што меў з міласьцівае ласкі Курфюрста. Атрымаўшы высокі загад, ён борзьдзенька зьлез з драбіны, асядлаў старога мула і паехаў у войска, якое пяты месяц тузалася з непакорлівым замкам.

Надвячоркам ён дасягнуў Лесавога мысу і прадстаў перад сваім суверэнам.

Тая памятная падзея адбылася пад векавым дубам, у вялізным шатры, аздобленым сьцягамі ды асабістымі штандарамі Вялікага Курфюрста. Бібліятэкар пакланіўся валадару ў ягоныя ногі, закутыя ў металічныя латы, і пачаў чакаць. Грозны Вялікі Курфюрст хвіліну працінаў яго драпежным позіркам, нібы гіпнатызаваў, а пасьля штось буркнуў аднаму з чаляднікаў, што нерухома тоўпіліся за ягонай сьпінай. І той голасна абвясьціў высокую волю. Аказалася, што палацавы бібліятэкар Готліб прызначаецца Галоўным крыгсманам войска Вялікага Курфюрста – валадара зямлі Богададзенай і Сьветлазарнай. Назаўтра зранку пачынаецца чарговы штурм замка, і крыгсману належыць камандаваць войскам.

Учуўшы тое, стомлены дарогай бібліятэкар ледзьве ўтрымаўся, каб ня ўпасьці, але пра што-небудзь пытацца не адважыўся. Як і належала паслухмянаму паддадзенаму, ён зноў паклапіўся ў ногі і пайшоў з шатра, куды яго павялі два бамбізы-латнікі.

Усё ж ён быў чалавек разумны, намогся авалодаць сабой і пачаў думаць пра сваё прызначэньне. Ён ніколі не служыў у войску і не прымаў удзелу ні ў малых, ні ў

вялікіх аблогах – тое рабілі салдаты, свае ды найміты-авантурысты, таксама, як і іхныя крыгсманы ўсіх рангаў. Найбольшы і самы кваліфікаваны крыгсман, вядома ж, быў сам Вялікі Курфюрст, без якога ніводная перамога не была б магчымая. Зрэшты, ня толькі перамога. У гэтай зямлі шмат хто лічыў, што нават сонца ўзыходзіць і заходзіць толькі з дазволу Курфюрста. Але чаму ж ягоны адмысловы выбар упаў на зусім пе адмысловага бібліятэкара – таго Готліб зразумець ня мог. Можа, Курфюрст ушанаваў яго за ўласьцівы яму кніжны розум, набыты ў бібліятэцы, за адмысловыя веды лаціны? А можа, за тое, што ён быў нетутэйшы паходжаньнем – ягоныя продкі калісыді ўцяклі ў гэтую зямлю з Андалузіі. Як бы там ні было, Галоўнаму крыгсману стала надта страхотна, але і трошкі ганарова – усё ж Курфюрстаў выбар сьведчыў пра пэўны давер да ягонай асобы і яе чалавечых якасьцяў. А хто ў краіне не хацеў спраўдзіць высокі давер суверэна? Хацеў таго і Готліб, палацавы бібліятэкар, які нечакапа стаў найвышэйшым вайсковым начальнікам.

Апранацца ў бразготкія металічныя латы яму ня надта спадабалася – тыя былі нязвыкла цяжкія і сьцюдзёныя. Добра яшчэ, што гэта быў няпоўны камплект – толькі шлём з прылбіцай ды каляная кальчужная сьвітка, якую ён страхотка насунуў на сваё хударлявае цела. У такім убраньні пачуваўся ня надта, але мусіў трываць. Ён меркаваў, што ўвечары яго пакліча Вялікі Курфюрст, але той не паклікаў. Замест пышнага шатра Готліба адвялі ў старую палатку каптэнармуса, дзе на нейкай радзюжцы ён спрабаваў заснуць. Ды марна. Усё ж, ён меў перад сабой сумны досьвед сваіх папярэднікаў, які ня мог яго не трывожыць. Але ён спадзяваўся. Чалавеку, пават калі ён і Галоўны крыгсман, уласьціва трохі спадзявацца.

Першы баявы дзень для яго пачаўся на золку, калі баявыя легіёны панцырнікаў, латнікаў, лучнікаў і асаднікаў пачалі рух у напрамку да замка. Некаторыя калоны ішлі проста, іншыя – у абыход ці займалі месца ў рэзерве. Вялікі Курфюрст быў добра спрактыкаваны ў

вайсковай навуцы і ведаў, як і што належыць рабіць. Іншая справа, што ў войску не заўжды былі вартыя выканаўцы ягоных геніяльных загадаў. Хоць і надта стараліся. Яшчэ ў цемры выкацілі на пазіцыі груваcткія катапульты, даўжэзныя, плеценыя з лазы вінеі – для прыкрыцьця войска. На сьвітаньні цягалі да іх цяжкія камяні, бо ня ўправіліся нацягаць ноччу. За тую няўпраўку Вялікі Курфюрст загадаў адсячы галаву Галоўнаму катапультмайстру, што і было зроблена ў ягонай, Курфюрставай прысутнасьці. Тую галаву магутная катапульта стрэльнула цераз сьцены замка, падаўшы тым апошні сігнал да штурму.

Бібліятэкар-крыгсман Готліб стаў ззаду за Курфюрставай сьвітай на зручным пагорачку воддаль замка. Усе пазіралі на цудоўнае відовішча, што разгарталася наперадзе. Асабліва ўражваў замак, які крыгсман бачыў упершыню. Магутныя, пахілыя да сярэдзіны сьцены з шэрага граніту, умацаваныя на рагах шырокімі круглымі вежамі з мноствам дзірак-байніц; байніцы былі і ў сьценах. Наверсе між зубамі-амбразурамі відаць былі галовы абаронцаў замка, праклятых ворагаў Вялікага Курфюрста. Зьверху ўніз па сьценах пралягалі шырокія чорныя пацёкі ад смалы і дзёгцю, якімі тыя палівалі салдатаў Курфюрста. У доле чарнеліся плямы ад жахлівага «грэцкага вагню», у якіх валяліся каменныя ядры, што паадскоквалі ад сьценаў, і недагарэлыя трупы тых, што лезьлі ды ня ўзьлезьлі на сьцены, хоць і пераадолелі шырокі роў, некалі наліты вадой, а цяпер надта абмялелы, – відаць, у замку бракавала вады. Нягледзячы на гераізм войска і асабістую прысутнасьць паблізу самога Вялікага Курфюрста, над усімі сямю вежамі замка па-ранейшаму матляліся на ветры сінія з касым крыжам сьцягі нескароных харугваў.

Як пачаўся штурм, да Галоўнага крыгсмана падскочыў хтось са сьвіты валадара і нярвова крыкнуў «На штурм!». Крыгсман трохі падзівіўся гэткаму лаканічнаму загаду і з даўжэзным мячом у руцэ паплёўся ў бок калатыечы. Адышоўшыся ад пагорку, нясьмела азірнуўся назад і пачаў трохі паварочваць

убок, быццам у абыход замка, бо ісьці ў самае пекла страшна. А там, пад сьценамі замка, сапраўды ваўсю грымела і трашчэла, гуло і смылела – дымам завалакло сьцены, вежы і неба, – ужо там няшмат можна было згледзець. Крыгсман усё збочваў і збочваў па лугавіне, яго ніхто не спыняў і не вяртаў, хоць Курфюрст са свайго пагорачку, ведама ж, бачыў усё. Значыцца, ён дзейнічаў правільна, падбадзёрыў сябе крыгсман. Урэшце ён знайшоў, мабыць, найлепшую мясьціну, дзе было ня надта каб страшна і ня так далёка ад замка, дзе ягоныя сьцены былі відаць збоку аж да самай затокі. І тут ён згледзеў, што флангова шэраг латнікаў залёг зусім блізка да рову – шчыльныя рады іх роўненька прыпалі да травянога долу, а з замкавых сьцен на іх несьліся хмары арбалетных стрэлаў ды ядры з мартыраў-катапультаў. Ад кутняй вежы скаціліся некалькі дзівосных, палаючых (мабыць, «грэцкім вагнём») колаў, якія, набіраючы па лугавіне хуткасьць, пагражалі здратаваць там увесь фланг латнікаў. Пэўна, тым трэба было ўцякаць, падумаў крыгсман, але тут жа схамянуўся ад не зусім, мабыць, вайсковае думкі. І тады ён згледзеў у сьцяне за кустом цярноўніку штосьці падобнае на невялічкую арку з дзьвярыма і падумаў, што там было б схоўней. Там стрэлы і ядры ці нават кіпень з вежы не маглі дастаць. І ён пачаў рукой паказваць латнікам на тую нябачную ім арку, усяляк даючы тым знак, дзе ратавацца. Мабыць, для таго манеўру існавала адмысловая вайсковая каманда, ды Галоўны крыгсман яшчэ ня ведаў ніякіх вайсковых камандаў і рабіў так, як калісь у дзяцінстве паказваў на пашы на адсталую авечку. І дзіва – яго зразумелі, хоць, вядома, калі захочацца жыць, дык зразумееш незразумелае. А латнікі ўсё ж хацелі жыць.

Сьпярша крайнія з іх, а затым і астатнія кінуліся ў роў, выкараскаліся з яго па той бок і, прадраўшыся праз калючы цярноўнік, стаіліся ў нішы. Ніша была невялічкая, але зьмясьціла ўсіх, і яны стаялі цесьненька адзін ля аднаго, мабыць, чакаючы новай каманды. Тады і ён падняўся і, ледзьве адольваючы ў сабе жах, паклыпаў туды, да ўсіх. Якую тады мог падаць ім каманду, ня ведаў, у яго не было ніякіх камандаў. Але

ён ужо стаў баяцца, што, можа, на лугавіне скамандаваў ня так, і яго можа паклікаць хуткі на расправу Курфюрст. Ведама ж, Курфюрста ён баяўся болей, чым тых на сыдяне. Тыя былі высока, а Курфюрст на паўмілі ззаду і мог дастаць яго ў кожны момант.

Ён удала дасягнуў рова і непадалёк ад кутняе вежы скаціўся з яго крутаватага берагу. Каб было лягчэй выбрацца, скінуў з галавы груваскі шлём, які да таго ж замінаў яму бачыць па баках, і хацеў кінуць даўгі і няўклюдны меч. Але падумаў, што ўсё ж, мабыць, Галоўнаму крыгсману належала быць пры зброі. Збоч, ззаду і навакол грымела і палала асада – дымелі сьцены, пад сьценамі штосьці гарэла, – невядома, хто каго паліў – штурмавікі асаджаныя ці асаджаныя штурмавікоў. Выбрацца з рова яму памаглі латнікі, якія спусьцілі дзеля таго дзьве пікі, і ён шчасьліва апынуўся ўсё пад той жа выратоўчай нішай. Тут, аднак, ужо ўсчалася нейкая тузаніна, якая сьпярша выклікала ў яго міжвольны пратэст: нашто тузацца, хай бы сядзелі ціха, пакуль саміх не чапаюць. Але, пэўна, то былі прафесійныя салдаты і не хацелі сядзець ціха – ім патрэбная была перамога як узнагарода за страх і пакуты. Не зважаючы на пагрозу сьмерці, яны ламіліся да яе, пакуль дзьверы той нішы ня рухнулі на каменны падворак. Па тых дзьвярах латнікі ўварваліся на неабароненыя зады замка.

Што і як адбывалася далей, Готліб разумеў кепска, бо адчуваў сябе бы ў сьне. Яны некуды беглі, некага секлі мячамі. Неўзабаве насустрач ім выскачылі абароыцы замка ў пунсовых накідках, і яго ледзь не засеклі крывымі мячамі – дзякуй латнікам, якія закалолі дзідамі тых, што мкнуліся засячы яго. Далей ён караскаўся за ўсімі па стромкіх каменных прыступках вежы. Упаў і ледзьве не скаціўся долу. Але і тут яго выручылі салдаты Курфюрста, падьнялі, і неўзабаве ён апынуўся на самым версе кутняе вежы, якую нядаўна азіраў з лугавіны. Тут латнікі ўжо ламалі шэст з сінім сьцягам. Праз дым ён зірнуў на лугавіну і аж зьдзівіўся, як добра было відаць на ёй усё Курфюрстава войска – шэрагі

латнікаў і мечнікаў, купкі лёгкіх і цяжкіх катапультаў, драўляныя шчыты на колах і даўгія самбукі, з якімі беглі салдаты. Цяпер усе япы там заварушыліся, мабыць, згледзеўшы іх на вежы, у шэрагах штось закрычалі – абурана ці ад захапленьня, таго адсюль было не зразумець. Але іхні галоўны цяжкі таран «Матыльда» ўжо паволі каціўся да галоўнае брамы, каб зрабіць тое, чаго яны не маглі зрабіць раней. Праз колькі хвілінаў дзесьці ў сьценах цяжка і грозна вухнула – гэта рухпула галоўная брама, і ў замак ірваыуліся першыя сотні Вялікага і Слаўнага Кгорфюрста, валадара Богададзенай Сьвстазарнай зямлі. А яшчэ праз нядоўгі час ён, Галоўны крыгсман таго войска ў ліку закапцелых, спатнелых, скрываўлепых салдатаў сустракаў у браме замка свайго Курфюрста і толькі баяўся, каб той не пакараў яго за пакінуты шлём. Вярнуцца па яго ў роў крыгсман дагэтуль ня меў магчымасьці.

Вялікі Курфюрст уехаў у зваяваны замак на цяжкім белым кані, да хваста накрытым белым у залатым шытве прасьцірадлам. Ягопая лейб-ахова таксама была на белых канях, у белых бліскучых латах. Латнікі і мечнікі крыкамі захаплепьпя і адданасьці віталі валадара, і ягоны Галоўны крыгсман таксама разам з усімі крычаў «Гох!». Але менавіта тады Готліб адчуў, што салдаты з першых радоў зьвярталі позіркі і на яго лысаватую галаву бяз шлёма, за імі тое ж рабілі іншыя шэрагі, і ўжо не зразумець было, каму ляскалі ў шчыты і ладкі – Вялікаму Курфюрсту ці ягонаму крыгсману. Мабыць, і крыгсману таксама. Нядаўняму бібліятэкару стала ніякавата ад тас ўвагі, а затым і страхавіта, – але што ён мог зрабіць? Ёп быў чалавек адукаваны і да таго ж трохі па-рыцарску выхаваны, і накланіўся грамадзе. Можа, таго якраз і ня трэба было рабіць – выхаваньне не заўжды ідзе на карысьць чалавеку. Часам і на шкоду.

Рэшту таго дня і ўсю наступную ноч слаўнае войска пераможцы, як яму і належала, рабавала педагарэлы замак, – цягала з пакояў майно, зброю, посуд; гаспадарыла ў шматлікіх замкавых сутарэньнях, дзе было даволі віна. Крыгсман, які ня падта шанаваў віно,

цяпер быў змушаны выпіць, і, здаецца, болей, чым было трэба, – так падахвочвалі салдаты. Некаторыя п’янавата даводзілі, што менавіта ён падказаў ім правільны шлях, інакш бы яны тузаліся тут да зімы, як тузаліся ўсё лета. Неяк адарваўшыся ад п’янай салдатні, ён запоўз пад сьцяной у цярноўнік, пакутна званітаваў там і заснуў. Пабудзілі яго ўранку, як пачалося пастраеньне войска. Латнік згледзеў ягоныя ногі, што вытыркаліся на сьцежку з кустоўя, і ткнуў у іх дзідай, каб дазнацца, жывы ці не. Аказалася, што жывы, і крыгсман падняўся. Яго павялі да сьвіты Вялікага Курфюрста, які па-ранейшаму не сказаў ніводнага слова, бы і не заўважаў яго.

Такім чынам, апошні бастыён усходніх быў зваяваны, доўгая цяжкая вайна скончылася. Падпаліўшы рэшткі разгромленага замка, войска вярталася ў свой горад – сталіцу Богададзенай Сьветазарнай зямлі. Наперадзе войска, калоны якога расьцягнуліся на пяць міляў, ехаў Вялікі непераможны Курфюрст, за ім асабістая ахова і ззаду – Галоўны крыгсман, нядаўні бібліятэкар Готліб. За шлём яго не дакаралі, і ён думаў, дзе яму цяпер адшукаць свайго мула, на якім ён сюды прыехаў, бо белую кабылу, мабыць жа, адбяруць у горадзе. Канешне, на кабыле ён выглядаў прыгажэй, чым на старым муле. У ягоным сэрцы неўпрыкмет ужо пасяліўся гонар, здавалася, усё ж ён заслужыў на тое нейкае права. Тыя з салдатаў, што былі бліжэй да яго, час ад часу адорвалі крыгсмана цёплымі позіркамі, а то нават віталі прыўзьнятай рукой з мячом. Гэта надта грэла ня надта славалюбнае сэрца бібліятэкара, і ён думаў: а што яшчэ будзе ў горадзе, як яны прыедуць туды з перамогай! Можа, сапраўды Вялікі Курфюрст прызначыць яго камандаваць войскам – увогуле, ён быў ня супраць. Вайсковая справа нечакана пачала падабацца яму, і ён ужо з прыкрасьцю падумаў пра сваю бібліятэку з яе пацукамі і пылам. Сапраўды, зусім іншая справа вайна! Колькі страху, але колькі і радасьці! Вострых перажываньняў, і галоўнае – удзячнасьці войска. Народнай любові і, можа, нават прыхільнасьці самога валадара зямлі Богададзенай.

Праўда, трохі трывожыла зацятае маўчаньне Вялікага Курфюрста, які нібыта ня бачыў, не разумеў, якую ролю ў апошняй асадзе адыграў ягоны Галоўны крыгсман. Але ўжо ён, крыгсман, пра тое валадару напамінаць ня будзе, усё ж ён толькі падданы, Курфюрст сам павінен усё зразумець і ацаніць. І калі ён дагэтуль таго не зрабіў, дык, мабыць, таму, што заняты. Што ў яго, адзін клопат – крыгсман? Вунь колькі клопату з войскам, палоннымі, што вялізнай калонай пляліся за пераможцамі. І яшчэ, уздыхнуўшы, ён падумаў, як не пашанцавала ягоным папярэднікам, што нудзіліся цяпер у гарадскім сутарэньні. Ну, але што ж – кожнаму сваё, як пісаў калісьці старажытны паэт, а яшчэ да яго сьцвярджала Біблія. Відаць, ня сёньня, дык заўтра гэтыя няўдакі будуць разарваныя ваўкамі. Нешчасьлівы лёс тых вайскоўцаў ледзьве ня выціснуў сьлязу з вачэй іх шчасьлівейшага наступніка.

Толькі ён прагнаў ад сябе благую думку, як Вялікі Курфюрст наперадзе спыніўся. За ім прыпынілася ўся калёна конных і пешых, лучнікаў і панцырнікаў і ўсіх астатніх – аж да палонных. Курфюрстава сьвіта збочыла з пыльнага шляху пад дубы на прыдарожным пагорку. Ці не на адпачынак? – падумаў Галоўны крыгсман. У засені дубоў-гігантаў тое было б надта дарэчы. Але, мусіць, не. Тут жа яму далі знак пад’ехаць наперад, што ён і зрабіў, ня надта ўпраўна кіруючы цяжкой на хадзе кабылай. Перад Курфюрстам, які па-ранейшаму сядзеў на кані, належала сьпешыцца, і ён скочыў долу, ледзьве ўтрымаўшыся на замлелых нагах. Ён ня ведаў, што зараз будзе, але быў гатовы выканаць кожную каманду валадара.

Толькі Курфюрст нічога не камандаваў, з каменным тварам працягваў сядзець на белым біцюгу. Замест яго пачаў гаварыць вяшчун, што меў адмысловае горла і ў час аблогі і на паходзе перадаваў Курфюрставы каманды. Уважліва слухаючы яго, крыгсман не адразу, аднак, зразумеў, што гэта ён? Пра каго ён? Аказваецца, пра яго, Галоўнага крыгсмана. Быццам ён нядбайна камандаваў асадай, ад чаго войска мела неапраўданыя страты, цэлы дзень не магло дамагчыся посьпеху, і таму

за ўсё тое зладзейства Вялікі Курфюрст карае Галоўнага крыгсмана адсячэньнем галавы. «Слава вялікаму войску Богададзенай Сьветазарнай зямлі!» – скончыў вяшчун, і ўсе салдаты дружна раўнулі «Гох!», што азначала згоду, адабрэньне і захапленьне.

Калені ў нядаўняга бібліятэкара падламіліся, ён паваліўся на мяккую траўку дубровы, але дужыя рукі падхапілі яго і кінулі пад ногі валадара. Штатны вайсковы кат у шырокім скураным фартуху выцягнуў са скураных похваў шырокі меч з выгравіраваным на лязе дэвізам. «Bibe sanguinem!» – пасьпеў прачытаць небарака на мілай лаціне, перш чым кат адным спрактыкаваным ударам аддзяліў лысаватую галаву Галоўнага крыгсмана ад яго сутулаватага цела. Войска пры тым зноў грымнула «Гох!». Вялікі Курфюрст прыўстаў у страмёнах, каб яго бачна было здалёк, і каб усе, да апошняга лучніка, зразумелі, хто здабыў для іх перамогу. Каб не было памылкі, Курфюрст яшчэ павярнуўся сюды-туды ўбакі, – крыкамі адабрэньня і ляскам мячоў аб шчыты легіёны віталі яго боскае права на праўду і справядлівасьць. Словы пра справядлівасьць былі вычаканеныя на ягоным упрыгожаным гербам шчыце. Крыкі пра славу пераможцы суправаджалі яго ўсю дарогу да самага гораду.

Пад тыя крыкі ўслаўленьня і гопару ён, шчасьлівы і стомлены, уехаў надвячоркам пад гарадскую браму. У горадзе вітаньне паўтарылася з яшчэ большым імпэтам і доўжылася да паўночы.

Народ заўжды любіць вітаць пераможцаў.

## Маленькая чырвоная кветачка

Ён вельмі любіў народ, і народ вельмі любіў яго.

Асабліва з таго часу, як успыхнула народнае паўстаньне, якое ён песьціў, рыхтаваў, камандаваў паўстанцамі, здабыў першыя перамогі. Паўстаньне было нялёгкае, перамогі чаргаваліся з паразамі, але

народ верыў яму і ішоў за ім. Ён і праўда не шкадаваў ні часу, ні сілы, ні працы свайго глыбокага розуму дзеля сьвятое справы – перамогі народнага паўстаньня.

Сьпярша, як іх было мала, а сілаў злыдняў было ў дзесяць разоў болей, толькі ягоная воля і фанатычная ўпэўненасьць далі моцы паўстанцам не загінуць дарэшты. Паўстанцы вытрымалі ўсё: паразу пад сьценамі крэпасьці, перасьлед, катаваньні ў вязьніцах, кару сьмерцю, палон, эміграцыю. Ён не скарыўся, ён заўсёды казаў: будзе воля, будзе пермога! Загляне сонца і ў наша ваконца. І заклікаў змагацца, не шкадуючы нічога – ні людзей, ні жыцьця, ні жанок, ні саміх сябе. Ён не шкадаваў сябе і нават жонку зь дзецьмі, якіх закатавалі ў палоне.

Як была здабыта вялікая перамога і захоплена непрыступная крэпасьць, народнай любові да яго ня стала межаў. У крэпасьць, якую ён штурмаваў дваццаць дзён, яго ўнесьлі на скрыжаваных дзідах, ахінутых двухкалёрам патрыётаў. Там жа, на падворку крапаснога муру, яму прысягнула новастворaная гвардыя – сотня адборных маладых паўстанцаў. Старшыны гораду паднесьлі яму талерку, поўную залатых манэтаў. Дзесяць гарадзкіх прыгажунь зьнялі з ног ягоныя батфорты і абмылі яго стамлёныя ногі. Яны прысягнулі яму на вечнае жаночае слугаваньне – у вайну і ў міры. У народных вачох ён стаўся самым разумным і сумленным; у жаночых вачох, апроч таго, – самым прыгожым і высакародным. І яшчэ ён быў бескарысьлівы – нічога свайго ня меў, абыходзіўся тым, што давалі. Як ён прамаўляў зь цьвінтару гарадзкой катэдры, тысячны натоўп, ня дыхаючы, слухаў яго. Заўжды ён гаварыў, як Бог, не даючы ні малюсенькае нагоды ўсумніцца хоць бы ў адным прамоўленым слове.

Ён заслужона апынуўся на вяршыні ўсеагульнае народнае славы і прызнаньня, якіх, здавалася, у яго ня мог адабраць ніхто – ні д’ябал, ні Бог. У вачох народу ён быў ня меней шанаваны за абодвух.

Кепска, аднак, што на крэпасьці барацьба ня скончылася. Прыгнятальнікі не ўціхаміp..ыліся. Тыя, што

ацалелі пры штурме, уцяклі за мяжу, дзе знайшлі падтрымку. Невялікая перадышка ў змаганьні доўжылася колькі месяцаў. Той час ён марна ня траціў. Ён мацаваў гаспадарку і абарону. Дзень і ноч людзі ладзілі крэпасьць, адбудоўвалі пашкоджаныя вежы, вароты і сьцены. Апроч таго, ён дасканаліў войска, прызначаў камандзіраў, стаўляў на пасады самых здольных і храбрых. Але і тыя, за мяжой, ня спалі – стваралі альянсы, вэрбавалі наймітаў, узбройвалі і распалялі нянавісьць да паўстанцаў. Грошай у іх было шмат, войска набралі вялікае. У адзін пагодны дзень тое войска апынулася перад сьценамі крэпасьці.

Ён заклікаў народ да абароны, і народ дружна выступіў. Пачалася аблога, якая доўжылася да позьняй восені. Сьпярша неяк адбіваліся, а затым адбівацца стала цяжэй. Зьнікалі запасы, не ставала вады. Зь недахопам харчу людзі неяк мірыліся, а без вады было зусім нельга. Пачаліся нараканьні, быццам некаторыя зашмат ужываюць вады. Што ваду ў крыніцах труцяць шпіёны. Што наагул зашмат разьвялося шпіёнаў, а ён іх не выкрывае. А тут усчаліся штурмы – дзень пры дні. Асаджаныя біліся гераічна, адбіваліся зь вежаў, са сьценаў – білі ядрамі з гакаўніц і мартыраў, лілі кіпень на галовы ворагаў, распаленую смалу, ужывалі «грэцкі агонь». Ды ворагі не адступаліся, да таго ж іх было безьліч. На чацьверты месяц асады яны абвесьцілі ўльтыматум – здача без усялякіх умоваў. Ён склікаў вялікі сынкліт, які аднагалосна прыняў ухвалу змагацца да перамогі. Ён запэўніў народ у перамозе, і народ, як заўжды, паверыў яму.

Змаганьне доўжылася, але сілы былі няроўныя. Перавага ўсё болей схілялася на бок ворагаў. У крэпасьці скончыўся харч, а пасьля і порах. Палова абаронцаў была параненая. На крапасных сьценах біліся жанчыны, старыя і нават дзеці-падлеткі. Усе верылі, што пераможуць. Ніхто не хацеў здавацца.

Аднак сталася так, што сілаў не хапіла, і аднойчы ворагі ўварваліся ў крэпасьць. Ён асабіста ўзначаліў контрудар, і прарыў быў зьліквідаваны. У тым жа баі ён

быў дужа паранены куляю ў абедзьве нагі, але прадаўжаў камандаваць супрацівам. І ён усё цьвердзіў, што перамога будзе. Людзі крычалі «гура». Але ўжо ня ўсе...

Ды во каб адбіць чацьвертае ўварваньне, сілаў ужо не было. Ворагі захапілі кутнюю вежу, і там каля паўстанцкага двукалёру забілі яго. Аддзелу верных яму жанчынаў удалося вынесьці яго цела і ўначы пахаваць пры катэдры. Адна з жанчынаў спрабавала забіць сябе на ягонай магіле, ды ёй не далі. Неўзбаве крэпасьць занялі ворагі.

Народ спазнаў жахлівую паразу. Бальшыню паўстанцаў перабілі, рэшту ўзялі ў палон. Палонных закавалі ў кайданы і адправілі ў каменяломню. Жанчынаў-прыгажунь, што мылі яму ногі, прадалі ў турэцкія гарэмы. Простыя люді мёрлі з голаду і ад хваробаў. Вясной у краіне ўсчалася эпідэмія чумы.

Пераможцы казалі людзям, што ўсё тое – вынік злачынства іхнага куміра. Што ён авантурыст і антыхрыст. Інакш бы ён не паклаў столькі народу за тое, чаго нельга здабыць. Пераможцаў перамагчы немагчыма. Цяпер за ягоныя авантуры павінен заплаціць народ, і кошт тае платы будзе аграмадны. Народ баяўся і верыў – пераможцам нельга ня верыць. Зь цягам часу людзі ўзьненавідзелі свайго нядаўняга правадыра і дзівіліся, як маглі слухацца яго.

Казалі, што некаторыя з тых, што калісь прысягалі яму, раскапалі ўначы ягоную магілу і выкінулі зь яе ягонае цела. Тое цела, разадраўшы на часткі, валачылі па бруку згаладнелыя сабакі...

Толькі праз шмат гадоў па вясьне, як зазелянела трава, хтосьці паклаў на месца колішняй яго магілы маленькую чырвоную кветачку. Яна там доўга ляжала, ня вянучы...

## На поўню

Надвячоркам апошняга дня перад поўняй пад гарадской брамай зьбіраўся натоўп. Як толькі ў сьвятлявым небе над закапцелай кутпяй вежай выкочвалася блішчастае кола месяца, грамагалосьнік абвяшчаў, каго будуць караць.

Тым разам кары падлягалі аж тры тутэйшыя жанчыны – усе за чужалюбства, якое ў тым горадзе здаўна лічылася цяжкім грэхам. Высокая, ня надта маладая швачка Кушэль каралася за тое, што была злоўленая з чужьш мужыком у вшаградпіку. Мужык неяк апраўдаўся перад высокім сінклітам суддзяў, а Кушэль апраўдацца ня выпала – выпала адказваць. Нізкая, шырокая ў плячох і ў крыжы Пава пакахала чалавека хоць і пе жанатага – халастога, але паходжаньнем з чужога, варожага гораду. Трэцяй грахаводніцай была прызнаная маладзенькая Ульрыка, якая паходзіла з дужа нізкага роду: яе дзед і бацька штотыдзень вывозілі з гораду нечыстоты. Не зважаючы на тое паходжаньне, Ульрыка навяла любоўныя чары па рыцара даволі слыннага роду маладога Любэка. Як тое магло стацца – было незразумела нават суддзям, але той Любэк прызнаўся, што сапраўды кахае Ульрыку. Стамлёны вынясеньнем папярэдніх прысудаў судовы сінкліт вырашыў, што трэба пакараць і Ульрыку, і прызначыў ёй дваццаць удараў рэмнем з валовай скуры па голым дзявочым задку.

Злодзеяў, махляроў, забойцаў і грахаводнікаў каралі ў горадзе рэгулярна пры кожнай поўні. Для тае працэдуры пад брамай была ўсталяваная каменная лава, на якую, добраахвотна пакланіўшыся народу, па чарзе клаліся асуджаныя. Народ, стоўпіўшыся крыху зводдаль, пільна назіраў за цікавым працэсам, цікаваў усе ўдары ката, ацэньваў паводзіны пакараных, сачыў, каб усё йшло паводле строгай старой завядзёнкі. Тым разам натоўп быў асабліва вялікі – жаночае пакараньне ладзілася ў горадзе нячаста, можа па адным разе ў сухі сезон і сезон дажджоў.

Першая на лаву пад брамай легла кашчавая Кушэль. Загарнула вышай спадніцу, і кат, рослы, рукасты

мужчына ў даўгім скураным фартуху, паволі, бы з таемнаю насалодай, адмераў ёй належную колькасьць удараў. Біў не сказаць каб з усяе сілы, але й ня жартам – пасьля кожнага з удараў у жанчыны на кашчавым задку заставаўся ладны пісяг. Атрымаўшы сваё, Кушэль трохі замаруджана паднялася, як-колечы апраўіла свае апраткі і старанна пакланілася тром суддзям, якія ў чорных камзолах моўчкі стаялі пад брамай, пільна цікуючы за выкананьнем уласнага прысуду. Апошнім з працэдуры быў абавязак падсуднага тройчы пацалаваць руку ката, тым як бы дзякуючы яму за працу і навуку. Кашчавая Кушэль усё тое зрабіла ладна, спрактыкавана і збоч пад сьцяной пайшла ў натоўп.

Наступная на чарзе была Пава, якая сваю лупцоўку стрывала меней мужна, тузалася пасьля кожнага ўдару рэмнем; хутка яе пульхны зад счырванеў, бы гарачы вугаль. Перш чым пакланіцца суддзям і пацалаваць руку кату, яна моўчкі выцерла пальцамі сьлёзы, выцірала іх і ідучы ў натоўп. Людзі з незадавальненьнем згледзелі тое, заўважылі тое і суддзі. Ведама, апошнія зразумелі, што ў тым быў ня дужа высокі кшталт іх судовае працы – пры высокім кшталце абвінавачаныя пасьля пакараньня адно ўсьміхаліся з удзячнасьці.

А з дзяўчом Ульрыкай сталася і зусім штось неверагоднае. Перш чым легчы на каменную лаву, яна тоненькім галаском крыкнула «Не вінаватая!», і суддзі пераглянуліся. Такога яны не чакалі, бо ніколі ня чулі за ўсе даўгія гады свайго суддзёўства. Пасьля прысуду звычайна прызнаваліся і дзякавалі суддзям за ганараваную справядлівасьць. Усё ж суддзі заўсёды стараліся і ўсё рабілі ў строгай адпаведнасьці з Законам. На суровасьць прысуду ніхто ніколі ня скардзіўся – такое было непарушнае правіла грамадзянаў гэтага гораду.

Аслушэнства Ульрыкі, канешне, заўважыў і маўклівы кат, які, відаць было, зразумеў яго як мае быць. Ягоная рука адразу пачала ўзьлятаць вышэй, і ляскат рэмняў аб маладое цела быў чуцён нават ззаду натоўпу. Адмераўшы ёй пятнаццаць удараў, кат, як і належала,

адступіў убок. Абліваючыся сьлязьмі, дзяўчына ўстала, аправіла свае спаднічкі і не пакланілася суддзям. Нават не пацалавала працягнутай для таго жылаватай рукі ката. Даўка хліпаючы ў кулачкі, борзда скіравалася ў натоўп.

Натоўп абурана загуў, пачуліся нягучныя выгукі незадаволенасьці, злосна віскнула некалькі жанок. За шмат гадоў тутэйшага пакараньня людзі ўпершыню ўбачылі гэткі непарадак. Ад паклонаў суддзям і пацалункаў рук ката вызваляліся толькі тыя, каму на гэтай лаве адсякалі галовы. Але ж у Ульрыкі галава засталася на плячох, дык чаму ж яна ня кланяецца мажным, заслужоным, сівагаловым суддзям? І нават не цалуе спрацаваную руку ката, якая толькі за сёньня адмерала блізу паўсотні ўдараў. Завошта ж такая непавага да начальнікаў? Народ не любіў непавагі і паважаў парадак.

Вартаўнікі затрымалі Ульрыку, вярнулі яе пад браму.

Суддзі былі ўзрушаныя і зьбянтэжаныя. І нават не адразу сьцямілі, як трэба рэагаваць на гэткае непаслушэнства. Не падзякаваць і нават голасна плакаць, быццам суддзі яе пакрыўдзілі. Адзін суддзя сказаў, што гэткая Ульрыка праз сваю нявыхаванасьць можа дашчэнту збэсьціць увесь прэстыж судовай сістэмы. Другі заўважыў, што ад істоты жаночага полу нельга чакаць ніякае выхаванасьці. Трэці скрушна прызнаўся, што, мяркуючы па ўсім, суд дапусьціў памылку: навесьці любоўныя чары на слыннага рыцара магла толькі вядзьмарка. Таму Ульрыку і належала караць як вядзьмарку. Гэта значыць, спаліць. Паводле кодэксу, спаленыя на вогнішчы ад падзякаў і пацалункаў вызваляюцца. Новы прысуд дзяўчыне вынесьлі і ўхвалілі аднагалосна.

Спаленьне Ульрыкі адклалі на адны суткі – да наступленьня новага вечара з вялізнаю поўняй. Відовішча на гарадской плошчы было захапляльнае і сабрала безьліч народу. Вогнішча распалілі вялізнае, полымя гуло і шугала пад самае неба. Гэтым разам Ульрыка не прамовіла ніводнага слова, што канчаткова

засьведчыла справядлівасьць высокага прысуду.

## Камень

Зранку таго дня ў карчме гуло; гуло і ў поўдзень, і ўвечары гуло таксама. Зрэшты, для таго былі прычыны: скончыўся палявы сезон, людзі сабралі ўраджай, частку якога з выгадай прадалі на кірмашы, а частку захавалі на зіму. Шмат хто займеў грошы – чаму было і не пагудзець у вольны пасьля нялёгкае працы час? Пасьля плённае працы льга было і зусім расслабіцца, забыцца на руцінныя клопаты, піць маладое віно ды сьпяваць песьні. Але гэтыя людзі не маглі таго дазволіць сабе – заўжды на працы ці дома яны несьлі ў сабе нязбыўны гнятлівы клопат, што перадаваўся ад кожнага пакаленьня наступным. На схіле гары ў канцы вуліцы з незапамятных дзён высіўся агромністы круглы камень. Увогуле ў гэтым горным краі камянёў было шмат, ды ўсе яны неяк самі па сабе ўладкаваліся кожны на прыдатным для таго месцы, апроч аднаго, можа самага з іх вялікага. Гэты на сваім колішнім землятрусным шляху з гары затрымаўся якраз на пачатку вуліцы, нібы зьнерухомеўшы ў роздуме – каціцца далей ці пачакаць? Пакуль камень вырашаў тую праблему, ніхто ў дамоўках ніжэй ня мог спаць спакойна, дапяты пытаньнем: ляжыць ці коціцца? Ні ў кога з тых, што жылі пад пагрозай каменя, не было сілы з ім справіцца, і камень ляжаў так можа сотні гадоў, тоячы ў сабе маўклівую пагрозу людзям.

Людзі паасобку ня ведалі, як пазбыцца каменнай пагрозы. Але тое было да часу, пакуль імі не авалодала калектывісцкая ідэя, якая, як вядома, часам набывае матэрыяльную сілу. Асабліва калі тая сіла натхніцца ў пэўны час бочкаю добрага маладога віна.

– Мужчыны мы ці гаўнюкі? – рашуча пытаўся ў грамады гаспадар-карчмар, паўстаўшы за даўгім драўляным сталом. – Няўжо мы пе зьбяром сілы, каб закаціць таго бугая? Мы – асілкі, што дапіваем другую бочку...

Вядома ж, тутэйшыя асілкі не лічылі сябе слабакамі і дружна загулі ў згодзе – прамова карчмара натхняла. Тракціршчык наогул лічыўся ў іх самым разумным, інакш ён бы і ня быў карчмаром. Яго адразу падтрымаў каваль, чыя кузьня мясьцілася над таполяй – бліжэй за ўсе хаты да каменя. Ну, а дзе каваль, там і яго малаткар – дужы плячысты хлопец-сірата, праўда, ня надта здаровы на галаву. Звычайна пры грамадзе малаткар упарта маўчаў, а цяпер толькі гучна прамычэў нешта. Ды ўсе зразумелі, што малаткар на баку каваля – на баку каго іншага ён не апынаўся ніколі. Мабыць, адчуўшы, што пачынаецца нешта цікавае, ад парогу з меднаю квартаю ў руцэ рушыў да кута тутэйшы пастух у даўгім плашчы. Яго пастухоўскі сезон ужо скончыўся, і пастух займсў клопат аб працы ўзімку.

– Дык згода, мужчыны? – з суровым выглядам чорнабародага твару пытаўся карчмар, азіраючы ў вечаровых прыцемках барадатых і безбародых, маладых і ня надта, хто ў што апранутых землякоў.

– Заўтра, як разьвіднее, усім – да бугая! Ужо мы яго пашчакочым, такой яго матары! Згода?

– Згода! – тгя надта зладжана адказаў карчомны хор галасоў.

Адзін толькі вучыцель ля вакна спрабаваў штось зазначыць ня ў лад – удакладніць ці запярэчыць, але яго слухаць ня сталі. Вучыцель быў нетутэйшы, да таго ж малады, піў мала, відаць, ашчаджаў грошы, што ня надта каму падабалася. Усе ў карчме загаманілі гучней, заматлялі над сталом квартамі, – за такую адважную справу ня грэх было выпіць. Тая іх гамана доўжылася да паўночы.

Назаўтра, як над гарамі праясьнілася неба і ў даліне пачало віднець, да каменя першы прыйшоў вучыцель. Ён абышоў камень, памацаў яго замшэлыя бакі, пакратаў гамашам жарству ўнізе. Затым прыкінуў памеры гранітнага гіганта, а таксама вугал нахілу гары і зрабіў нейкія разьлікі ў пататніку, які заўсёды насіў з сабой. Атрымлівалася надта сумнеўна, каб яны хоць бы і

грамадой здолелі ўскаціць камень на схіл і па той бок скінуць яго ў прорву. Паводле законаў матэматыкі тое было немагчыма. Але як было вучыцелю на яе аснове пераканаць малапісьменных сяльчан? Ці паслухаюць яго?

Неўзабаве да каменя пачаў зьбірацца народ – з каламі, лагамі, рыдлёўкамі. Усімі весела і шумна распараджаўся карчмар. Вучыцель спрабаваў штось растлумачыць яму, але ня надта цьвярозы пасьля вясёлай ночы карчмар не хацеў і слухаць, – пры першым слове пра законы механікі грэбліва махнуў рукой. Ён заўзята камандаваў грамадой, якая толькі і чакала ягоных рашучых камандаў.

Людзі густа абляпілі камень. Узяліся дружна, хоць часам і бязладна, перашкаджаючы адзін аднаму. Усім карцела прымяніць сілу і, можа, паказаць стараньне, – так за гады ўсе зьненавідзелі гэты пракляты камень. Тыя, што былі з рыдлёўкамі, пачалі падкопваць яго зьнізу, каб падсунуць рычагі-лагі, іншыя падроўнівалі камяністы грунт вышай, каб можна было каціць камень угору. Вучыцель, прадаўжаючы сумнявацца, убачыў такую актыўнасьць і таксама міжволі прыняў удзел у агульным клопаце. Напачатку ён разам з іншымі наваліўся на жардзіну-лагу, якой чалавек пяць высьвервалі камень. Пасьля ўпёрся рукамі ў яго жорсткі бок і намагаўся каціць. Тракціршчык то памагаў яму, то адбягаўся і камандаваў, то рабіў тое і гэта адначасна. Ён колісь служыў у войску, меў зычны камандзірскі голас, якога ўсе слухаліся.

І вось здарыўся першы цуд – па камандзе карчмара ўсе разам уперліся, націснулі, напружыліся, і камень, хоць і з вялізным нежаданьнем, зрушыўся з свайго належанага за сотні год месца. Тады яны напружыліся яшчэ і перавярнулі яго на другі круглы бок. Першы посьпех быццам надаў новай сілы. Грамада загула, бы ўчора ў карчме, яшчэ паўпіралася нагамі ў жвірысты грунт і перакаціла камень вышэй. Тыя, што мелі рычагі-палкі, высока задзіралі іх даўгія канцы, затым насядалі на іх, падважваючы камень; іншыя, упершыся

дзясяткамі рук у шурпатыя каменныя бакі, зрушвалі яго з месца і паварочвалі-кацілі цаляў на дзесяць – ня болей.

– Так, так, так! – разносіўся па схіле бадзёра-задаволены голас карчмара. Яшчэ трошкі! Яшчэ...

У вучыцсля не было ніякага інструменту, і ён разам з усімі, са скрыгатам упіраючыся ў зямлю башмакамі, піхаў рукамі камень. Побач таксама з усяе сілы жыліўся іхні пастух. Яго абсівераны твар з хілай русявай бародкай аж наліваўся чырваньню, так ён старанна напружваўся. Каваль поруч з малаткаром спрытна і рашуча ўпраўляўся з даўгой жардзінай-лагай, ім памагалі іншыя. Пакуль што ўсё ішло пасьпяхова, і вучыцель пачаў сумнявацца ва ўласных сумпевах: магло стацца так, што і ён памыляўся. Ён ужо ведаў, што павука – нават матэматыка! – часам давала збой. Праўда, меркаваньні здаровага сэнсу таксама былі не на іхнім баку, але, можа, бракавала і здаровага сэнсу?

Хоць і памалу, але даволі настойліва яны кацілі камень угору; улежанае месца таго засталося далекавата ўнізе. Яшчэ ніжэй у канцы вуліцы ля кузьні – відаць стала зьверху – сабраліся жапкі ды дзеці, усе не адрывалі позіркаў ад схілу гары, дзе адбывалася дзіва. Старыя там маліліся Богу, каб той памог мужчынам зьдзейсьніць іх сьвяты подзьвіг на шчасьце людзям.

Але на схілс бы ўпершыню штось не заладзілася. Як яны высіліліся на чарговую каманду карчмара, камень ня зрушыўся. Тракціршчык тады закрычаў гучней, нават вылаяўся. Япы зыоў уперліся нагамі ў камяні, да скрыпу напялі мускулы, але камень толькі падняўся на пяць цаляў і аблёг на ранейшае месца. Вучыцель недаўменна зірнуў на схіл і ўсё зразумеў: схіл гары тут стаў і яшчэ болей круты. Схіл стаў круцейшы, а іхняя сіла паменела – во ў чым справа. Тое было відаць і без матэматыкі. І мабыць, тое зразумелі іншыя.

– Адпачыць каб, – перашуча-жальліва сказаў хтось ля каменя.

– А то ўжо кішкі... – пачаў нешта мовіць пастух.

Тракціршчык аж зьнерухомеў ад тых скаргаў-просьбаў, але толькі на момант. Падобна, у ягонай галаве адбыўся нейкі маланкавы, зусім не матэматычны разьлік, і ён зьверскім голасам заглушыў нерашучыя скаргі.

– Ніякіх адпачынкаў! Спынімся – не скранем, а ну – узялі! Узялі!

Яны і яшчэ дружна і ўраз узялі, сапраўды трохі павярнуўшы на схіле гэты кругляк, пасьля яшчэ. Але во ён быццам хіснуўся назад, бы хтось не ўтрымаў яго. Вучыцель зірнуў з-пад рукава і схамянуўся: пад каменем тварам уніз ляжаў малаткар; з ягонага рота цёк струменьчык крыві. Тое было дзіўна, хіба, аднак, на першы пагляд: не стрываў самы з іх дужы. Але, можа, таму і надарваўся, што быў самы дужы. Мабыць, апроч сілы, трэба яшчэ мець галаву, а з галавой у малаткара яўна былі праблемы.

Малаткара адцягнулі з-пад ног, каб не замінаў. Пакуль там два мужыкі давалі яму вады, іншыя з усяе сілы трымалі камень, які ўпарта імкнуўся ўніз – да свайго належанага месца. Чаму гэта ён так імкнуўся туды? – думаў вучыцель. Хіба тое месца было вызначана яму Богам? Але тут ягоная матэматыка ўступала ў супярэчнасьць з непазнана-містычным, у якім вучыцель быў поўны прафан і разумеў тое. Прасьцей, хоць і не лягчэй, было піхаць разам з усімі па камандах карчмара, што і рабіў вучыцель.

Урэшце гадзінаў праз пяць яны адолелі самае, як здалося, крутое на схіле месца, ускацілі камень яшчэ вышэй. Праўда, ззаду засталося аж трое – тых, што надарваліся на гэтым д’ябальскім каменным шляху. Два з іх папаўзьлі назад, а трэці застаўся там, дзе і зьлёг. Бы прадчуваючы благое, карчмар і зусім разыюшыўся, крычучы сарваў голас і нікому не дазволіў пакідаць камень, каб памагчы бедакам. Горш за ўсё было тое, што яны сапраўды не маглі прыпыніцца, бо ў такім выпадку камень трэба было б трымаць, што здаваліся ненашмат лягчэй, чым штурхаць. Тракціршчык тым

часам не змаўкаў – то камандаваў сарваным голасам, то ўгаворваў амаль ласкава. А то гразіўся перастраляць усіх на гары, калі здрэйфяць. Увогуле на гэты конт ён меў рацыю, яго разумелі і стараліся з астатніх сіл. Толькі сілы іх катастрафічна меншалі, а жахлівы шлях рабіўся і яшчэ больш круты.

– Ну, яшчэ трошкі! – дамагаўся карчмар. – Вунь да таго кусьціка. Ну, узялі! Ускоцім – бочка віна на ўсіх! Ну, узялі!

Як ні дзіўна, тое амаль падзейнічала на, здавалася б, ушчэнт зьнясіленых людзей. Клопат іх нібы разумеў і камень, які варухнуўся на той раз жвавсй, – бы самахоць пераваліўся на другі, болей пляскаты бок. Але затым зноў было яго не скрануць, і карчмар зноў вярнуўся да свайго лютага крыку.

– Дужэй! Я кажу – дужэй, ядры вашу матары! Пастух, болей сілы! Болей сілы, кажу, гультай!..

– Не магу болей, – ціха сказаў пастух і ўпаў на калені.

– Можаш!! – вызьверыўся карчмар. – Заб’ю!..

– Забівай...

– Застрэлю. Сёньня ж...

– Страляй!

Пастух зьнясілена адкаціўся з-пад людскіх ног і апанурана сеў убаку. На ягонае месца ля каменя заступіў каваль, чорнабароды твар якога быў мокры ад поту, а можа і ад сьлёз – ягоны малаткар унізе, здаецца, сканаў. Каваль зацята маўчаў, але ля камсня адразу адчулася яго напятая сіла, і той быццам жвавей заварушыўся пад рукамі людзей. Затое іншыя даходзілі, і неўзабаве ад кавалёвага напору мала што засталося. Яны ўсё піхалі і піхалі, выжыльваліся і штурхалі. Тракціршчык ужо толькі безгалоса сіпеў, а выніку не было ніякога. Усе іхнія сілы выдаткоўваліся толькі на тое, каб утрымаць камень, ня даць яму зрушыцца ўніз.

– Не, мабыць, нічога ня выйдзе, – сказаў нехта з папіхачоў. З ім пагадзіўся другі: – Ня трэба было і пачынаць не падумаўшы...

Тыя разьятраныя няўдачай галасы зусім раззлавалі карчмара, які падскочыў да людзей ззаду.

– Панікёры! Слабакі! Прэч адсюль! Я перастраляю ўвесь ваш род! – аслабелым голасам сіпеў ён. Але яго аслабелы голас чамусьці перастаў палохаць,

– Не перастраляеш, – нерашуча запярэчылі яму.

Пасьля і яшчэ натужваліся, піхалі і штурхалі рукамі і нават падпіралі камень плячамі, як гэта рабіў каваль. Але зноў вынік стаўся мізэрны. Між тым да мэты заставалася амаль нічога – можа, якіх дваццаць стопаў. Толькі гэтыя футы і былі самыя цяжкія, як было іх адолець? Тым болей, што і ў яшчэ аднаго пайшла носам кроў, ды здаецца, і з рота таксама. Адзін застаўся ззаду – скурчаны, на каленях, трымаючыся за жывот...

– Падмогі! Падмогі трэба...

– Няма як падмогі, браточкі. Ну яшчэ трошкі, яшчэ, – сіпата ўгаворваў карчмар.

Яны і самі разумелі, што інакш ім нельга, як толькі каціць з апошніх сілаў. Ні спыніцца, ні пакінуць камень яны не маглі – тое было б для іх гібельным. На тое, каб паклікаць падмогу, не было часу – калі б яны дачакаліся тае падмогі? Мабыць, тое зразумеў і пастух, трохі спачыўшы ўнізе, вярнуўся да каменя і аслабела далучыўся да астатніх.

Каваль са зьвераватым выразам чорнабародага твару і адарваным на плячы рукавом моўчкі стараўся, можа, болей за ўсіх. Лагамі з даўгімі канцамі цяпер упраўляліся браты Кажамякі, чыя новая дамоўка была дужа блізка ад гэтага боку вуліцы. Малодшы з іх толькі ў канцы лета ажаніўся і таму дужа дбаў пра ўласнае жытло. І трэба ж было так здарыцца, што гэты ўвогуле здаровы хлапец упаў у самы рашучы момант, не

стрымаўшы лагі, – камень неспадзявана сьлізгануў бокам аб дрэва. Хтось па той бок здушана крыкнуў, але было позна. Грузна пераваліўшыся ніжай, камень паволі пасунуўся, ужо нікім не стрыманы, перавярнуўся зноў і штораз шпарчэй пакаціўся па схіле. На крутым месцы ён наляцеў на каменны выступ, лёгка зьбіў яго, сам падскочыўшы ўгору, зноў ударыўся аб дол ніжэй, падскочыў яшчэ вышэй. За ім апантана памкнулі зьбітыя ім камяні, якія ў сваю чаргу зьбівалі на схіле новыя, і ўсе разам з друзам суцэльным каменным патокам несьліся да вуліцы. Неўзабаве каменная лавіна магутна абрынулася на крайнія забудовы паселішча, кузьню, зламала палову таполі і праз момант накрыла ўсю вуліцу чорна-пыльнаю хмарай.

Ачомаўшыся ад хвіліннага ўтрапеньня, людзі на схіле пакідалі сваё начыньне і сьшанулі ўніз – хто бег, хто каціўся, кожны гнаны прадчуваньнем асабістай бяды. На месцы, аднак, засталося некалькі постацяў. Тракціршчык упаў на камяні, учапіўся ў свае скудлачаныя валасы, недарэчна прамаўляючы: «Што ж мы нарабілі... Што нарабілі...». Вучыцель побач няўцямна мармытаў сабе пад нос: «Я ж казаў, я ж казаў...». Зьбялелы з твару пастух нічога не казаў, толькі роспачна апусьціўся на друз. Ён узіраўся ў пыльную марву якая усе вышай паднімалася над паселішчам, і думаў: «Хай бы ён там ляжаў. Каму ён шкодзіў?».

Трохі ачуняўшы ад першага жаху, вучыцель падумаў, што, мабыць, цудаў у наш век не бывае. «Здараецца тое, што і павінна здарыцца - паводле законаў жыцьця. Калі толькі з імі лічыцца. Ды во пэўна ж не палічыліся».

А ўнізе тым часам разносіўся ветрам глухі невыразны лямант бяды, які на адлегласьці зьліваўся ў суцэльны працяглы стогн...

## Чарапы

Сьпярша ўсе яны былі канібалы, елі адзін аднаго. І, вядома, таўсьцелі, – у простай залежнасьці ад таго, хто колькіх зьеў. На свае сезонныя спатканьні, якія ў розны час зваліся па-рознаму – зьезды, соймы, пленумы, саміты, – такія і зьязджаліся: самыя тоўстыя, добра тоўстыя, трохі худзейшыя. Надта худых не было зусім. Пры іхніх апетытах худым быць не выпадала.

Пасьля, аднак, было прызнана, што такі спосаб самаідэнтыфікацыі ня надта пераканаўчы, бо тоўстым можна зрабіцца і на поснай страве. У моду ўвайшоў дзесь вынайдзены арыфметычны прынцып – хто колькіх зьеў, столькі чарапоў і меў у сваім багажы. Таму за кожным з канібальскіх валадароў звычайна ехаў мул, ці ішак, ці асёл, нагружаны скуранымі мяхамі чарапоў. Ладных, добра вывараных і адшліфаваных людскіх чарапоў лікам у каго колькі. У каго 10, у каго 20, а то і 50. Чым іх было болей, тым большы гонар выпадаў уладару-канібалу на зьездах-соймах-пленумах-самітах. Там яны выхваляліся адзін перад адным сваімі трафеямі – памерам, колерам косьці, цеменнай і на патыліцы. А таксама колькасьцю ды якасьцю зубоў, здаровых, вядома. Гнілыя і старэчыя ня браліся ў залік.

Але з цягам часу гульня ў чарапы, мусіць, надакучыла вяльможным канібалам. Ды й чыніла нямала клопату на транспартыроўцы, асабліва для тых, што ехалі з правінцыі ці нават з далёкага замежжа. Вядома ж, багаж у дарозе – не вялікая радасьць. Ды і з кормам-бензінам для транспартных сродкаў здараліся праблемы. Тады пераняслі ў кітайцаў (або японцаў, ці таіландцаў) новы болей прагрэсіўны спосаб. Сапраўды, нашто везьці чарапы, калі дзеля прэстыжу хапала іншых адмысловых сімвалаў. Ня возяць жа купцы кавалкі золата – абыходзяцца папяровымі грашыма, што паводле сусьветнай завядзёнкі адно і тое ж. Таму замест чарапоў пачалі прышчапляць на грудзі невялікія часткі з лобнае долі чарапоў. Тых частак-сімвалаў у некаторых набралася таксама нямала – ад пляча да пахавіны, што стала не зусім зручна. Асабліва на акадэміях (канібалы ўжо атрымалі адукацыю) ды на пачостках – ціснула на страўнік і не давала шмат

зьесьці. А малаежны канібал – ужо не канібал. Тады мудрыя дарадчыкі параілі кожны касьцяны дзясятак замяніць адгюй срэбнай брандзэлкай. Калі ж у каго набярэцца два дзясяткі – прышпіліць на грудзі залатую брандзэлку. Каб дыферэпцыяваць брандзэлкі, увялі іхнія ступені – ад адной да дзесяці. Тое было дужа прагрэсіўна і ўсіх улагоджвала. А галоўнае – пра канібальскую першапрычыну быццам ужо і забыліся. Пра ўзнагароды казалі проста – за заслугі перад дзяржавай. Ці перад народам. Яно і праўда: нішчачы дзясяткі ці нават сотні тубыльцаў, рабілі паслугу тым, што заставаліся – эканоміўся харч, вызваляліся месцы паслугачоў. Ды й з кватэрным пытаньнем была палёгка. Мусіць, таму па ініцыятыве зьнізу найболей адметных канібалаў узнагародзілі новымі імёнамі. Да ранейшых страшнаватых назоваў накшталт Тоўсты, Бязьлітасны, Жахлівы дадалі амаль ласкавыя – Вялікі, Прыгожы, Першы. Хутка аднак тая завядзёнка і яшчэ ўдасканалілася – ранейшая частка назоваў сама неяк адпала, а другая затрымалася моцна, бо не выклікала ні страху, ні агіды, адно – пашану. Сутнасьць, праўда, засталася, але хто зважае на непрыемную ці страхавітую сутнасьць, калі ёсьць яе узьнёслае увасабленьне.

Новая сістэма давала магчымасьць узнагароджваць усіх, і ня толькі канібалаў. Тое было ўважана за адмысловы лібералізм – народны па форме і сацыялістычны па сутнасыді. Неяк спрабавалі пайсьці і далей – з прыкладу адной далёкай краіны замяніць срэбныя і залатыя брандзэлкі на яшчэ болей адмысловыя сімвалы з парэстай тканіны, кожную памерам з муху. Але тае прапановы канібальскі сінкліт не прыпяў, справядліва ўважыўшы яе за прафанацыю сьвятой канібальскай традыцыі.

Так у краіне сталася рэфармацыя і рэвалюцыя адначасна – з захаваньнем спакою і стабільнасьці ў грамадстве. Галоўнае – усе былі задаволеныя – і пражэрлівыя канібалы, і іхнія падданыя, якія нікога ня елі. А калі елі іх, дык такой бяды – думалі: усіх не зьядуць. А тыя, што застануцца, атрымаюць свае

брандзэлкі і будуць шчасьлівыя.

## Герой

Племя тэрарызаваў Дракон.

Дзе ён жыў-пасяляўся, ніхто ня ведаў, — можа, дзе блізка, а можа далёка, можа не на зямлі нават. Але ён дапякаў племю штогод. То хапаў у полі маладых дзяўчатаў, а то і хлопцаў, то дашчэнту вытоптваў пасевы, то бурыў халупы. А то насылаў на племя свой драконаўскі мор, калі ў полі не вырастала нічога, і племя трывала люты голад. Як было бараніцца ад таго зьверыядаўца, ніхто ня ведаў. Праўда, здавён часу было заведзена ахвяраваць. У пэўны вясновы дзень, як пачыналі сачыцца маладым сокам бярозы, старэйшыны родаў зьбіраліся ля трох камянёў на Дубовым капішчы і выбіралі Героя. Ахвярай яго не называлі, тое не было прынята, называлі ласкава і спаважліва Героем. Героя пасылалі ў ахвяру Дракону, які затым і праўда, прыціхаў на колькі часу, пераставаў назаляць племю. На палёх сьпеў ураджай маісу і кукурузы, сыцеў статак. Ды й хваробы быццам адкарасквалася ад людзей племя. Але толькі на пэўны нядоўгі час. Між тым племя шанавала чарговага Героя-ахвяру. На капішчы яму ладзілі помнік — высока пілавалі самы тоўсты дуб і з таго мажнага пня высякалі чалавечую выяву. То была складаная праца і давяралі яе самым майстравітым людзям, самым шчырым і адданым вернікам. Такіх пнёў-ідалаў на капішчы за гады набралася ўжо некалькі тузінаў, усе сьсечаныя дубы, груба, але выразна аздобленыя людскімі абліччамі. Яны ўважаліся за сьвятых, дужа шанаваліся. У іхні гонар спраўлялі імшу — напачатку лета, па заканчэньні палявога сезону, пасярод зімы. Ім таксама ахвяравалі, але не мужчынаў, якіх у племені ўсё ж шанавалі за іх рабочыя рукі, а найбольш з дзяцей — хлопчыкаў ці дзяўчынак. Тых, што самім карцела ахвяравацца, бо тое было прыгожа — з вянкамі на галоўках, пад радасныя сьпевы наўкола. Ахвотнікаў і ахвотніц было нямала, выбіралі самых

прыгожых і беззаганных у паводзінах. А таксама ад лепшых бацькоў, ад горшых таго не заслугоўвалі. Горшыя гаравалі пад драконаўскім прыгнётам — рабілі ў полі, пасьвілі жывёлу, няньчылі малодшых. Абраныя разам з дымам узносіліся пад аблачыны, дзе было іншае, райскае жыцьцё. Разам з Героем іх таксама шанавалі шэраг наступных гадоў. Аж пакуль не зьяўляўся наступны Герой. Тады ўсё племя пераключалася на шанаваньне таго, новага.

Хлопец Кім сапраўды быў самы дужы і, можа, самы сьмелы сярод немалой юначай грамады племя. І яшчэ ён дужа добра сьпяваў. Мабыць, менавіта таму, як зьявілася чарговая патрэба ахвяраваньня, выбар старэйшынаў патрапіў на яго. А патрэба сталася дужа пільная — ужо з вясны Дракон тройчы абрынаў свой гнеў супраць племя — найперш ушчэнт засушыў палеткі, пасьля наслаў на іх град і напасьледак задушыў у ваколіцах трох маладых дзяўчатак. Старэйшыны меркавалі, што тое – не астатняе ў той год драконава злачынства, неўзабаве трэ чакаць новых. Бо ўжо другі год не ахвяравалі, не пасылалі да Дракона Героя.

Як сказалі Кіму, што сёлета ягоная чарга, хлопец узрадваўся гэткаму памяркоўнаму выбару. Тым болей, што ён ужо ведаў, з якога дуба будзе змайстраваны помнік яму — той самы высокі дуб ля скрыжаваньняў дзьвюх сьцежак на капішчы быў бачны здалёк.

Праводзілі Героя ціхмяным летнім адвячоркам, як людзі папрыходзілі з поля. На капішчы расклалі вялікае вогнішча, наўкола якога сабралася ўсё племя. Галоўны і самы стары сьвятар зычна пракрычаў закляцьці на чатыры бакі сьвету. Усе радаваліся, будучы ўпэўненыя, што ўжо цяпер Дракон надоўга ўціхаміріцца, а Кім шчасьліва ўвасобіцца ў пашаноўнага дубовага Ідала. Радаваліся бацькі Кіма, яго два малодшыя браты, якім стала наканавана зрабіцца роднымі братамі Героя; яны таксама гатовыя былі ў свой час пераняць ягоны прыклад. Радавалася каханая дзяўчына Кіма. Хоць, вядома, росстань — справа нялёгкая, але ж то расстаньне абы з кім — з Героем! Толькі Кімава маці не

адчула вялікай радасьці, дык то ж — маці. Ня надта сьвядомая, абцяжараная матчынымі забабонамі, яна была бясьсільная перад самотай разлукі. Маці сама ад таго пакутвала, ды не магла перамагчы сябе.

Як зьмеркласся, Кім узяў свой востры меч і, адышоўшы ад вогнішча, зьнік у цемрыве ночы.

Племя занялося спрадвечнымі, звыклымі для сябе справамі. Праз колькі дзён узялося ладзіць дуб-помнік. Тры майстры за тры дні сьсеклі той самы высокі дуб, абсеклі гольле і з вяршыні высокага камля пачалі высякаць знаёмыя рысы Героя. Атрымалася ўвогуле падобна да яго аздобы, хоць тое было і не абавязкова. Галоўнае, каб было мужна, гераічна і прыгожа. Але што да Кіма, дык тут нічога прыўкрашваць і не было патрэбы. Ідал-помнік атрымаўся выдатны. Ці ня самы лепшы сярод ўсіх іншых — старых і нядаўніх, якія цеснаю купкай высіліся на капішчы. Найстарэйшыя з іх, праўда, паволі страчвалі сваё былое хараство, чарнелі, трэскаліся, некаторыя нават трухлелі. Але тое зразумела — да іх даўно ўжо не ахвяравалі маладых і патроху забываліся на іх. Уся ўвага і любоў племя засяроджвалася на апошніх.

Апошняя ахвяра, здаецца, была прынятая Драконам (значыцца, Кім дагадзіў, выбар старэйшынаў быў правільны), напады на племя спыніліся. За паўгода не было ніводнага ўварваньня, ніхто на полі ня быў схоплены. Ураджай высьпеў зусім неблагі. Увосень, як сабралі маіс і кукурузу, племя наладзіла ўрачысты фэст у гонар апошняй, гэткай здатнай ахвяры.

І раптам аднойчы на сконе дня ў паселішчы паявіўся Кім.

Быў ён схуднелы, абдзёрты, босы, але ўсё з тым жа мячом у похвах, які яму ўручылі старэйшыны, і паведаміў, што забіў Дракона.

Тое было нечакана, нечувана і зьбянтэжыла ўсіх. Племя ня ведала, як да таго аднесьціся — ніколі раней нічога падобнага ў іх не здаралася. Ніхто не шкадаваў

Дракона, людзі гатовыя былі парадавацца з нечуванай нагоды. Але гэтая навіна бурыла ўсю іерархію, блытала гісторыю, пляжыла ўсю веру, складзеную на пэўным суіснаваньні са злой варожаю сілай. Забойства Дракона будзіла ў душах людзей нестрываны страх — як бы цяпер ня стала горш. Калі і праўда Дракон апынуўся забітым, ці не наваляцца на племя новыя, жахлівыя выпрабаваньні якой іншай злой сілы?

Зноў жа — што рабіць цяпер з выдатна зладжаным і ўжо ўшанаваным чурбаном-помнікам?

Нечаканае вяртаньне Кіма выклікала вялікую ўзрушанасьць усяго племя, але найбольшую — сярод родзічаў і крэўных Героя. Маці сьпярша ўзрадвалася, а затым аж спалохалася тае свае радасьці. Бацька схапіўся за галаву. Два браты Кіма адразу яго ўзьненавідзелі — гэтак спляжыць усё сваё ды іхняе, вынашанае за год геройства! Каханая спахмурнела — яна адчула сябе ашуканай: каханак быў героем, а стаў немаведама кім. Дні і ночы ён задуменна сядзеў у халупе, ні з кім не спатыкаўся, ранейшыя сябры пакінулі яго. Усе яго адцураліся. І нават ідал-помнік без належнай ласкі і пашаны пачаў чарнець, трэскацца, яўна бурыцца. Таго, вядома, дапусьціць было нельга.

Старэйшыны племя сабраліся ля трох камянёў на капішчы, вырашалі, як быць? Справа была сур’ёзная, трэба было прыняць неардынарнае вырашэньне. Належала выбраць адно з двух — ці Герой, ці ягоны помнік. Пасьля нядоўгай дыскусіі вырашылі, што помнік усё ж даражэй. Ягонае захаваньне не запатрабуе пераробкі іерархіі, не пабурыць традыцыяў. А Герой Кім? Героі яшчэ знойдуцца, калі будзе ў тым патрэба.

Герой Кім зьнік. Казалі, пайшоў у лес і не вярнуўся. Можа, утапіўся ў дрыгве, а можа яго задралі зьвяры. Дракон жа таксама зьнік, падобна, сапраўды быў забіты, і пра яго паступова забыліся.

Гэтаксама, як і пра Героя Кіма.

Дубы-ідалы не зьнікалі доўга, аднак шанавалі іх усё з

меншым імпэтам. Мабыць, не было ў тым патрэбы.

А пасьля перасталі і зусім.

## Чорная сіла

*Фантастычная прыпавесьць*

Тады ў краіне панаваў тэрор. Шмат каго вешалі, ссылалі, расстрэльвалі. Бальшыню саджалі ў вязьніцы. Каго на восем гадоў, каго на дзесяць ці дваццаць пяць. Тых, хто скардзіўся, плакаў ці ад болю крычаў на допытах, саджалі назаўжды. Іх плач-енк уважаўся за пратэст ці зьнявагу працавітых кармых органаў. Карныя органы дужа пільнаваліся адмысловага гонару і не трывалі зьнявагі.

Усе арыштаваныя прызнаваліся ў чым хочаш. У чым іх змушалі прызнацца. Быццам хацелі зьыішчыць дыктатара, атруціць суседзяў, утапіць жонку і дзяцей. Тое выклікала зьдзіўленьне на волі, дзе не маглі даўмецца, чаму яны так робяць. Але во тых, што нядаўна яшчэ прызнаваліся ў самым жахлівым, пачалі выпушчаць на волю. Тое таксама было загадкава і таямніча. Адзін толькі Упарты Маўклівец з паддашша ведаў, што то скончыўся чорны касьмічны цыкл, калі магчыма было ўсё. Усё, што захоча чорная сіла, якая панавала ў космасе. А чорпая сіла заўсёды хацела шмат – часам дзівоснага і неверагоднага.

Так і тады. Настала пара выпушчаць тых, што ацалелі ад тэрору. І яньт вярталіся – састарэлыя і хворыя – да сваіх ня менш састарэлых ды хворых жанок і дзяцей. А то й да бацькоў, калі бацькі дажылі да таго нечаканага вяртаньня. Цяпер яны ціха апавядалі паначы, што невінаватыя, што прызнацца іх змусілі. Бо білі, катавалі, казалі, быццам родзічы ад іх адмовіліся, а жонкі здрадзілі. Яны сапраўды тады гэтак думалі. Толькі Упарты Маўклівец ведаў, што пад арыштам яны думалі інакш. Хто раней, хто пазьней – шматлікія з іх паверылі сьледчым, што вінаватыя, і павініліся ў тым. Зрабіць тое

ад іх дамаглася чорная сіла, якая запанавала ў грамадстве, і чалавеку нічога болей не заставалася, як скарыцца і павініцца. Што яны і зрабілі. Пра ўсё тое Упарты Маўклівец занатаваў у свае тоўстыя кнігі.

Але во чорная сіла саступіла, даючы месца новай. Тады пачалі вінаваціць нядаўніх абвінаваўцаў, катаў ды суддзяў. Віна гэтых была ва ўсіх навідавоку, наконт іх ні ў кога не ўзьнікала сумненьня. Ды тыя і ыя ўпарціліся – адразу прызналіся ва ўсім: білі, судзілі, стралялі. Але ж – верылі! Верылі ў ідэю, якая на той час валодала ўсімі – і правымі, і вінаватымі. А вернік, як здаўна вядома, таксама чалавек зацяты і ўжо таму ня можа быць вінаваты.

Новы суд тое апраўдапьне прызнаў слушным. Бо і суддзі таксама верылі ў сваю ідэю і не хацелі памыляцца. Упарты Маўклівец рэагаваў на ўсё з разуменьнем, але і з трывогай. Чарговы касьмічны цыкл сканчаўся, зачынаўся новы, значыць, належала чакаць зьмены. Толькі якой? Таго мудры Упарты Маўклівец яшчэ ня ведаў.

Тым часам прадчуваньне зьмеыаў неслася ў паветры, гудзеў народ на вулках і ў крамах, дзе менела тавараў і расьлі цэны. Дыктатар занепакоіўся і прыняў меры. Паколькі хлеба, масла і бензіну ён даць ня мог, дык даў адмысловы ўказ пасадзіць і падсудных, і суддзяў, і правых, і вінаватых. Каб у адпаведнасьці з папулярнай на Захадзе ідэяй дэмакратыі нікому не было крыўдна. Тысячы людзей селі ў вязьніцы, яшчэ болей калонамі павалакліся на Поўнач, да вечнай мерзлаты, якая дужа спрыяла скарачэньшо арыштанцкага кантынгенту. Адно было кепска, што ў вечнай мерзлаце не было як даць рады штабялям трупаў, і тыя ляжалі там, не гніючы. І закапаць іх не было як. А галоўнае – там побач адзін з адным ляжалі суддзі з падсуднымі, пракуроры з рэцыдывістымі, што, канешне ж, ня лезла ні ў якія вароты. Ні савецкія, ні фашыстоўскія. Належала становішча выпраўляць.

Як памыляліся, так і выправілі – рашуча і хутка. На гэты раз арыштавалі ўсіх пракурораў, катаўнікоў і суддзяў,

дзейнасьцю якіх было дужа абуранае грамадства. Але толькі да той пары, як пачалі іх судзіць. Бо вядома ж, калі не вінаватыя ахвяры, дык, мабыць, вінаватыя іх каты.

Каты, аднак, ніколі не бываюць вінаватыя – таго чамусьці ніколі ня ведалі людзі. Упарты Маўклівец, канешне ж, усё прадчуваў. Калі пачалі судзіць, усе, бы па камандзе, сказалі, што выконвалі загад. Не хацелі, а выконвалі; таму хай судзяць тых, хто аддаваў загады. Але ж тыя, што аддавалі загады, не забілі нікога. Нават не кранулі пальцам – завошта ж было іх судзіць?

Мусіць, усё ж дыктатар ды яго памагатыя былі людзі разумныя. Яны хутка даўмеліся, што так можна дачакацца і якой неспадзёўкі. Таму найлепш, калі адказнасьць за ўсё добрае і кепскае зрабіць калектыўнаю. Як і належыць – надаўшы дэмакратычныя формы Закону. Толькі тады льга будзе не турбавацца і спаць спакойна.

Закападаўчы кангрэс склікалі дужа прадстаўнічы. Тысячы мужчынаў усіх узростаў сабраліся ў вялізнай спартовай залі. Спатрэбіўся прэзідыум, у які прыйшло некалькі сотняў, што шчыльнымі шэрагамі расьселіся на сцэне. Упарты Маўклівец, зірнуўшы на іх, сьціпла ўсьміхнуўся: усё было зразумела. Ужо і ў прэзідыуме ім цесна, а як станецца ля карыта? Гэтым кормным парсюкам з неспатольным маладым апетытам ня ўнікнуць бойкі. Значыць, доўга тое не праіснуе.

Быў прыняты строгі закон, які прадугледжваў усё. Цяпер караць належала адно вінаватых; невінаватых караць забаранялася. Хто вінаваты, а хто не – тое вырашаў суддзя са згоды начальства. Плакаць і енчыць у камерах дазвалялася колькі заўгодна, але не прасіць літасьці. Літасьць уважалася за найбольшае злачынства з боку суддзяў. Пратэставаць супраць мясцовага начальства дазвалялася толькі з яго пісьмовага дазволу і не бліжэй за пяць кіламетраў ад ягоных будынкаў. За дазвол на тое адказвалі ўсе інстанцыі, за забарону – ніхто. У тым палягаў галоўны выразьнік новага, дэмакратычнага часу. Усё тое было новае і даволі

загадкавае.

Увечары Упарты Маўклівец пагартаў на паддашшы свае тоўстыя кнігі і хутка натрапіў на пэўны адказ. Чорная касьмічная сіла пакрысе саступала з неба, за ёй насоўвалася новая. Упарты Маўклівец ужоведаў, што тыя чорныя хмары там не зьнікаюць ніколі. Ён хіба не здагадваўся, што генеруюцца яны зусім ня ў космасе, а на зямлі. Толькі ўплываюць з космасу, куды па чарзе і вяртаюцца.

Такім чынам хмара прыходзіць і хмара зыходзіць, зрабіў няыовую выснову Упарты Маўклівец і загарнуў сваю самую тоўстую кнігу.

## «Букет ружаў»

І гэтая краіна была бедная (шмат тады было бедных краінаў), з адсталай эканомікай і малакультурным насельніцтвам. Вугалю, нафты або алмазаў у яе не было зусім. Мала таксама было навукоўцаў, пісьменьнікаў – хіба што эстрадных сьпевакоў хапала. Спорт таксама быў слаба разьвіты, людзі ўмелі гуляць у нарты ды ў класічную Гульню – дурня. Краіна была нядразьвітая, затое мела гучны і модны тытул, звалася Арлінай Народна-Дэмакратычнай Рэспублікай. Кіраваў ёю, капешне ж, самы мудры арол, ласкава званы ў народзе Грымучы Зьмей.

І ўсё ж народ меў адну адметную вартасьць, якую можна паэтычна назваць – сакалінае вока. Ужо змалку арляты ўмелі трапна страляць. Адзін вясковы арлёнак у часе вайсковае службы ні разу не спудлаваў у страляніне і стаў чэмпіёнам па стральбе ўсіх відаў. Клікалі яго Сокал. Той яго талент адразу трапіў пад увагу дыктатара Грымучага Зьмея.

Рэч у тым, што на той час дзе-нідзе ў сьвеце загаварылі пра кілераў. Мабыць, жыццё выявіла пэўную патрэбу ў той прафесіі. Калі дзс трэба было прыбраць празьмерна шанцоўнага банкіра або папулярнага палітыка, дык

найперш шукалі адмысловага кілера. Адмысловая аперацыя адмысловага сьпсцыяліста патрабавала адмысловага кошту. У Арлінай рэспубліцы таксама ўзьнікла пэўная праблема. Грымучы Зьмей надумаў зьнішчыць аднаго маладога палітыка, які мог некалі прэтэндаваць на ягонае месца. Зрабіць іначай дыктатар ня меў магчымасьці, бо на тос месца ўжо быў прызначаны яго родны сын Шыпучы Зьмяёнак, які пакуль што студыяваў вайсковую навуку ў заморскім Вест-Пойнце. У выніку складанай арганізатарскай аперацыі, праведзенай IX аддзелам аховы дыктатара, малады палітык быў замоўлены маладому кілеру Сокалу, які яго і прыбраў з першага стрэлу. Паховіны адбыліся за дзяржаўны кошт і дужа ўрачыста. Грымучы Зьмей прыслаў прыгожы вянок чырвоных ружаў з цёплым спачувальным надпісам на стужцы чорнага дзяржаўнага колеру.

Кілерскі акт у адпаведнасьці з сусьветнымі стандартамі належала стандартна скончыць: каб не пакідаць сьлядоў – прыбраць і кілера. Так, прынамсі, раілі кваліфікаваныя дарадцы Грымучага Зьмея. Але Грымучы Зьмей быў разумнейшы за ўсіх, разам узятых дарадцаў і ніколі ня слухаў іх. Сам ён паходзіў з сялянскага роду і ведаў, што парсючка сяляне ня б’юць дачасна. Б’юць упару, калі той нагадуе сала і болей ня мае жадных магчымасьцяў. Кілер жа Сокал яшчэ меў магчымасьці. Таму замест кулі міласэрнасьці дыктатар узнагародзіў яго «Ордэнам высакароднасьці» і паслаў на новае заданьне. Належала ціха і неўпрыкмет прыбраць двух банкіраў і трох агалцелых апазіцыянераў, што сумняваліся ў правільнасьці ўнутранай палітыкі дыктатара. Тых апазіцыянераў спрактыкаваны Сокал лёгка застрэліў, а для банкіраў запатрабаваў болей часу. Банкіры мелі моцную ахову.

Банкірскую аперацыю пакуль што адклалі, пачалі рыхтаваць памочнікаў Сокалу. Памочнікаў кілер нумар адзін рыхтаваў асабіста. На закрытым спартовым стадыёне «Дынама-машына» ўвесь божы дзень грымела страляніна – па нерухомых і рухомых мішэнях, вокнах, паверхах, аўтамабілях. Для гарантыі посьпеху давялося

купіць у замежжы добрую зброю, бо, як наракаў Сокал, з бярданкі ўзору 1800/1900 году шмат не настраляеш. На закуп была выдаткаваная ладная сума з дохлага дзяржаўнага бюджэту. Грымучы Зьмей, вядома, быў незадаволены выдаткамі, але як абодва банкіры апынуліся на гарадскіх могілках, падабрэў і выказаў радаснае спачуваньне радні банкіраў і кліентам банку. Кілераў жа ўзнагародзіў яшчэ болей высокімі ардэнамі – «За гонар і сумленьне». Кілеры былі задаволеныя. Адно кепска, што тых узнагародаў нельга было насіць на грудзях – узнагароджаньне лічылася абсалютна сакрэтным.

У Арлінай Народна-Дэмакратычнай Рэспубліцы між тым, як і ўсюды, дзеялі замежныя выведкі. Не зважаючы ма надзвычайпую сакрэтнасьць, тым усё ж шмат што стала вядома з кілерскай справы, якая на той час атрымала кодавы назоў «Букет ружаў». Рэч у тым, што і ў суседніх краінах меліся падобныя праблемы, як з пахабнымі апазіцыянерамі, так і з прагнымі банкірамі. Ды не было кілераў. Адсталыя ў пэўных адносінах грамадствы пя мелі разумных дыктатараў, болей налягалі на славутую абарону правоў чалавека і занядбалі трапнай стральбой. Вядома ж, апроч як да благога, такое становішча ні да чаго іншага прывесьці не магло. Лідэр адной з такіх краінаў у рэшце рэшт змушаны быў зьвярнуцца да Грымучага Зьмея з сяброўскай просьбай – пазычыць каманду кілераў для выкананыш аднаго сьпецзаданьня. Плата гарантавалася – вядома ж, у далярах. Грымучы Зьмей памеркаваў і згадзіўся: даляры яму заўсёды былі патрэбныя. Неўзабаве тры кілеры адправіліся ў далёкія заробкі. Між тым, Сокал застаўся дома. Дзеля сакрэтнасьці яму зьмянілі прозьвішча, аздобу, засакрэцілі мейсца жыхарства і далі дзяржаўнае заданьне – у сыдіслыя тэрміны навучыць пяцьдзесят кілераў.

Справа закіпела. Усё рабілася дужа таемна, з адмыслоным дыпламатычным ды прапагандовым прыкрыцьцём. Стадыён, дзе трэніраваліся кілеры, атрымаў назоў «Прафсаюзны комплекс старога і немаўляці», база іхняга адпачынку звалася «Турбаза

Арлёнак». У прыгожым і прэстыжным прыгарадзе сталіцы кілерам выдзелілі новыя шыкоўныя кватэры. Каму не хапіла новых, у старых зрабілі модны еўрарамонт – з фінскай сантэхнікай і шведскай сталяркай. Былі тэрмінова закупленыя імпартныя снайперскія стрэльбы з найноўшым аптычным прыцэлам. Экзамены ў кілераў прымаў сам дыктатар Грымучы Зьмей, посьпехі навучэнцаў былі надта ўражлівыя. Толькі дзесяць чалавек атрымалі чацьвёркі, астатнія – адны пяцёркі. Пяцёрачнікаў адразу ж выправілі ў камандзіроўкі – далёкія і блізкія, а чацьвёрачнікаў пакінулі дзеля вырашэньня ўнутраных праблемаў. Такія праблемы на той час пільна насыцелі, і Грымучы Зьмей змушаны быў прыняць адэкватныя меры. Некаторыя з урадоўцаў не выказвалі захапленыш ад праекту «Букет ружаў», даводзілі, быццам ён незаконны, малаэфектыўны, нават стратны. Некаторыя намякалі на ягоную амаральнасьць. Неўзабаве ўсім давялося на ўласных галовах пераканацца ў яго эфектыўнасьці. Наконт законнасьці быў зроблены заыт у Канстытуцыйны суд, які на наступны ж дзень апублікаваў юрыдычнае абгрунтаваньне яго абсалютнай законнасьці. На трэці дзень наконт маральнасьці адказаў галоўны іерарх – усё адпаведна канону. Болей у Арлінай рэспубліцы ніякіх пярэчаньняў не было чуваць.

Тым часам сорак пяцёрачнікаў не вярталіся; выканаўшы заданьне ў далёкай краіне, выправіліся ў яшчэ болей далёкую. На замежныя рахункі дыктатара плыла валюта, якою той мог падзяліцца з народам. Увогуле дыктатар быў чалавек не скупы, але вялікі прагматык і ўмеў лічыць лішнюю капейку. На немалую суму ён купіў за мяжой партыю яшчэ болей дасканалае зброі (хуткастрэльныя стрэльбы, кулі з адмысловым сардэчнікам) і разгарнуў сістэмную падрыхтоўку высокакваліфікаваных кілераў. Амбасады і гандлёвыя прадстаўніцтвы ў замежных краінах прымалі замовы на індывідуальныя і групавыя тэракты. Замоваў набіралася шмат, рэпутацыя фірмы была дужа высокай. Ніхто ня мог супернічаць з сокаламі Грымучага Зьмея. І ніколі немагчыма было дазнацца, чыіх рук тое ці іншае

забойства. Такі эфект дасягаўся комплексам мераў, якім займаліся ня толькі кілеры, але і дыпламаты, палітыкі з палітолагамі, а таксама філосафы з барменамі ды горнічнымі гатэляў – усе былі ўцягнутыя ў слаўную індустрыю тэрору. Звычайна забойства паходзіла на самагубства ці на трагічыы вынік сямейных звадак або ўнутраных кланавых разборак. Адміністрацыя Грымучага Зьмея ніколі не спазьнялася паслаць спачуваньне на паховіны. Аднойчы здарыўся трагікамічны выпадак, калі з прычыны чынавенскага недагляду факс спачуваньня быў пасланы да моманту забойства і тым павесяліў жывога нябожчыка ды ягоных сяброў. Але ўжо назаўтра сябры горка плакалі, калі знайшлі калегу з прастрэленай галавой. Грымучы Зьмей з таго выпадку ледзьве не займеў славу новага Настрадамуса, папулярнасьць яго ў сьвеце значна павялічылася. Чыноўнік жа, вінаваты ў недаглядзе, хутка загінуў ва ўласным ложку, як было афіцыйна аб’яўлена, ад стрэлу палюбоўніцы. І ніхто яго не пашкадаваў, нават уласная жонка.

Кілсрскую справу паставілі на дзяржаўны паток. У Арлінай рэспубліцы рыхтаваліся ня толькі ўласныя кілерскія кадры, але і навучаліся людзі з іншых краінаў, пераважна з краінаў трэцяга сьвету. На вуліцах сталічнага горада, асабліва ў выхадны дзень, можна было спаткаць маладых людзей самага рознага колеру скуры, розных формаў вачэй. Калі ў іх пыталіся цікаўныя, дык на ламанай ангельскай мове тыя тлумачылі, што прыехалі вывучаць медыцыну, механіку, будаўніцтва. І то была праўда. Але галоўная праўда палягала ў тым, што толькі трудная навука меткай стральбы займала іхнюю ўвагу. Іхнія ўрады добра плацілі Грымучаму Зьмею, які на тыя сродкі збудаваў сабе новы палац, абсталяваў падземны і ыават падводны ціры. Гадоў праз дзесяць сучасную кілерскую зброю ўжо не куплялі ў замежжы – наладзілі ўласную вытворчасьць. Для таго падрыхтавалі за мяжой неблагія кадры збройнікаў, разьвілі збройную навуку. Толькі за апошні год у мясцовым тэхналагічным універсітэце на кафедрах кулі, затвора і парахавых газаў было абаронена каля сотні доктарскіх дыпломаў, столькі ж

прысвоена прафесарскіх званьняў. Уся краіна жыла надзвычай папулярнымі праблемамі зброі і страляніны. Кілераў шырока выкарыстоўвалі таксама і ў пабытовым жыцьці – пакрыўджапыя жонкі за невялікую плату наймалі кілераў для крыўдзіцеля-мужа; тыя ў сваю чаргу тэлефанавалі ў кілерскую кантору, каб замовіць здрадніцу-жонку. Пра кілераў ды іхнія подзьвігі штодня пісалі газеты, сьпявалі эстрадныя гурты. Кожны тамтэйшы падлетак марыў, падросшы, стаць кілерам і зьехаць у якую-небудзь з заходніх краінаў. Кілеры завіхаліся ўвесь час і ўсюды стралялі. Вясной – лібералаў, улетку – дэмакратаў, пад восень пачалі адстрэл вахабітаў.

Трываючы нечуваны бум, збройная індустрыя краіны прагнула новых інвестыцыяў. Тых немалых сродкаў, што кілеры зараблялі за мяжой, надта не хапала. Мудры Грымучы Зьмей зьвярнуўся ў міжнародныя інстанцыі па дапамогу. Канешне, ня дзеля вытворчасьці зброі, а з прычыны недароду, які быццам бы напаткаў краіну. Дыпламаты за мяжой давялі, што, калі такая дапамога ня будзе аказаная, дык народ вымра, і тое ляжа на далікатнае сумленьне сусьветнай супольнасьці. Дапамога была аказаная. Першы і самы буйны транш у валюце дыктатар, не марудзячы, пусьціў на вытворчасьць навейшае (лазернай) зброі. Гэта была цуд-зброя. Кожны кілер мог весьці хуткастрэльны агонь нават у натоўп на плошчы або на вуліцы. Мушка ў каляровым прыцэле з начпым бачаньнем, пэўным чынам запраграмаваная, аўтаматычна выбірала цэль з улікам ідэйнасьці і палітычнай заангажаванасьці ахвяры. Лабараторыю, якая вынайшла той цуд, дыктатар узнагародзіў у поўным складзе. Усе – ад дырэктара да апошняй прыбіральшчыцы і шафёра сталі Героямі нацыі, або «зьмеевікамі», як іх клікалі па навуковаму.

У той жа прыкладна час была вынайдзеная і яшчэ болей дзівосная зброя – віртуальная куля. Варта было ёй у каго-небудзь трапіць, як ахвяра зьнікала, бы раствяралася ў паветры, не пакідаючы ні сьледу, ні дыму. Менавіта з тае пары ў сьвеце пачалі зьнікаць

людзі, – без знаку і сьледу. Ніводны пракурор, ніводны сьледчы не маглі здабыць жадных улікаў. Сьведак не было таксама. Ніхто нічога ня чуў, нічога ня бачыў. Гэта была вяршыня тэрарыстычнае мары. Багатыя краіны Захаду і Усходу пачалі палявацць на мудрых вынаходцаў краіны Арлоў. Найлепшы сродак у такіх выпадках – класічны: калі нельга зьнішчыць, дык льга перакупіць. Як ні ўзнагароджваў Грымучы Зьмей сваіх збройнікаў, тыя неўзабаве сьцямілі, што не аднымі ўзнагародамі жыве чалавек. На Захадзе жылі і яшчэ шмат чым, мелі куды болей і лепшага. Сьпярша застаўся ў камандзіроўцы на Захадзе, куды паехаў, адзін з лепшых кілераў. Пасьля на Усход зьбег вучоны, ён жа вядомы акадэмік і сакрэтны выведнік. Гэты, апроч уласных мазгоў, прыхапіў з сабой надзвычай важныя зьвесткі. Паводле адной з іх, для таго, каб забіць чалавека, ня трэба ў яго нават цэліць. Даволі за сотню міль ад яго набраць на кампутары пэўны код, і чалавек умомант зьнікаў, растваraўся ў віртуальнай прасторы. Гэтак аднойчы на пачатку вясны зьнік і дыктатар, мудры і вялікі Грымучы Зьмей. Быў, сядзеў за сталом, падпісваў чарговы пук высокіх указаў і – зьнік. На стале засталася адно залатая асадка. Затым загадкава зьнік і ягоны наступнік – малады Шыпучы Зьмяёнак. Можа, таксама стаўся ахвярай, а можа, ірвануў кіпці ў Бермудскую афшорную зону – бліжэй да сваіх банкаўскіх рахункаў. Слаўны праект «Букет ружаў» з таго часу непапраўна завяў.

Арліная Народна-Дэмакратычная Рэспубліка зазнала нечуваны заняпад. Пачаўся голад, міжнацыянальныя ды міжканфесійныя разборкі. Родзічы шматлікіх кілерскіх ахвяраў запатрабавалі суду над выканаўцамі даўніх і сьвежых тэрактаў. Пранырлівыя, журналістыя ды папарацы раскапалі сакрэтныя архівы, дзе накапалі нямала імёнаў славутых у краіне людзей з іх вельмі непрывабнымі справамі. Грамадскасьць запатрабавала суду і пакараньня. Тады ж выявілася і пэўная несправядлівасьць лёсу гэтых людзей. Калі імі ганарылася нацыя, тады яны змушаныя былі заставацца інкогніта, а як справа дайшла да адказнасьці, дык іхнія імёны выдрукавалі ўсе газеты. Без карысьці засталіся і

шматлікія высокія ўзнагароды. Тое было крыўдна і несправядліва, людзі абураліся. Але што ў сьвеце ёсьць справядлівае?

## Абы ціха

*Памфлет*

Кажуць, беларусы – дурныя людзі. Я з гэтым нязгодны. Як і кожны нацыянал-патрыст, я паважаю ўласны народ і лічу яго самым мудрым на сьвеце.

На самой справе – столькі гадоў без уласнай дзяржавы, без нацыянальнай палітыкі праіснаваць на прахадным падворку Еўропы, прайсьці праз столькі войнаў, рэвалюцыяў, паўстаньняў і захавацца. Ня зьнікнуць. Ня страціць свае мовы, пры нагодзе абараніць свой гонар (успомніце ВАВ). Тут мала аднае мудрасьці, тут трэба адмысловы талент ды боскае блаславеньне, спрыяньне сілаў, зямных і нябесных.

Праўда, беларус не такі, як іншыя людзі. Хоць бы і суседзі. Тыя, калі іх б’юць, дык зараз жа даюць здачы. Ня надта разважаючы. Тады іншыя кажуць, што яны сварлівыя і няўступлівыя. Неталерантныя. Беларус жа заўжды талерантны. І ўдумлівы. Калі, бывала, яго вытнуць па карку, дык сьпярша ён папросіць прабачэньня, што даў непрыяцелю клопату павярэдзіць руку. Пасьля, добра падумаўшы, яшчэ і падзякуе за навуку. Ведама ж, перш чым адказаць, трэба падумаць. Хай сабе людзей такога кшталту клічуць тугадумамі, але выгадней туга думаць, чым лёгка паміраць. Беларус хоча жыць. Хоць бы і баючыся, у атачэньні страху. Адчуваньне страху і болю дадзена чалавеку, каб пабольшыць ягоныя шанцы на выжывапьне. Што карысьці з адвагі і сьмеласьці, якія ня ведаюць страху? Прыклад Чачэніі – ва ўсіх перад вачыма. А беларусы хоць і баяцца, ды дагэтуль усе (амаль усе, за выняткам пасаджаных і невядома дзе зьніклых) жывыя, здаровыя. І ўсе іхнія гарады не пабураныя. І ўсе іх шаноўныя

начальнікі-вертыкальшчыкі жывуць у шыкоўных вілах, а не туляюцца ў пячорах пад глыбіннымі бомбамі. Што значыць – мець прыроджаную здольнасьць да страху. Усё ціха.

Даўно вядома, што кожная ыавука – на карысьць, беларус дужа любіць вучыцца. I гэта добра. Інакш бы ў нас не было столькі студэнтаў, столькі навукоўцаў – ад кандыдатаў да акадэмікаў, столькі дыпламаваных началыіікаў усіх рангаў. Стала добрай традыцыяй: як зрабіўся начальнікам, дык і стаў вучоным. Ці наадварот. Асабліва ахвотна вучыцца беларус у яшчэ болей мудрага старэйшага брата. Менавіта ад таго ён засвоіў шмат якія маральна-этычныя каштоўнасьці, што дужа спрыялі ягонай самаідэнтыфікацыі. Праўда, гэта дужа складаная навука, падлеглая ня кожнай логіцы. Па-расейску любіць – значыць, ненавідзець, што ўпершыню адкрыў незабыўны Оруэл. Адпаведна – ненавідзець, значыць, любіць. I тут хітрая залежнасьць: чым большая нянавісьць, тым большая любоў. Нагадаю Івана Жахлівага, Пятра Вялікага, Леніна і Сталіна. Колькі тыя пры жыцьці пралілі крыві і здабылі нянавісьці, столькі пасьля сьмерці маюць усенароднай любові. Мусіць, так і з беларускім усепароднаабраным. Калісь з усіх пяцёх кандыдатаў беларусы найменей за ўсіх любілі гэтага, менавіта таму і абралі. I ён, малайчына, – не спудлаваў, спраўдзіў іхнія чаканкі: надоўга забясьпечыў страхам. На гады. Як можна не шанаваць такога забесьпячэнцу?

Нашы мудрыя інтэлектуалы адкрылі і засвоілі некалькі ісьцінаў, невядомых у ранейшай фундаментальнай навуцы. А менавіта: нічога ня трэба адкрываць-вынаходзіць, ня лезьці папярод бацькі ў пекла. Трэба ўмець адгадваць! Канешне ж – намеры і жаданьні кіраўніка. Мабыць, тое – самая цяжкая ыавука. I найперш з тае прычыны, што намеры кіраўнікоў дужа дыялектычна зьменлівыя. Бывала раней: толькі вучоныя нешта грунтоўна ўдумаюць, абмяркуюць і зацьвердзяць на ўласна акадэмічным узроўні, як думкі начальства мянягоцца на супрацьлеглыя. Часам мяняецца і само начальства: ці то ідзе пад расстрэл (як раней), ці на падвышэньне (як зараз). Паспрабуй угадаць і дагадзіць.

Менавіта таму навукоўцы цьвёрда стаяць за стабільнасьць грамадства, супраць усяе гэтае мітынгоўшчыны, страйкаўшчыны, парламенцкага бязладдзя. Нашто парламентарам языкі, калі яны маюць рукі, каб падымаць па камандзе «за». Навукоўцы гатовыя прызнаць і абгрунтаваць што хочаш: урэзаны бюджэт на ўласную навуку, куртатую гісторыю краіны, нават урэзаную ўласную зарплату. Абы было ціха. Затое навукоўцы засталіся ў сваім шыкоўным будынку, на які тачыў зубы драпежны Іван Ціцянкоў. У іншых інтэлектуалаў тыя будынкі паадбіралі, а навукоўцам пакінулі. Цяпер яны там будуць спакойна і натхнёна дасканаліць ракетна-ядзерную тэхніку – касьмічны шпіянаж для падупалага старэйшага брата. Тым болей, што іншага яны і ня ўмеюць. Ды іншым ніколі і не займаліся.

Як даўно заўважана, маштаб далейшага ўздыму прамысловасьці ды й сельскай гаспадаркі наўпрост залежыць ад ступені іхняга заняпаду. Чым яны глыбей упадуць, тым вышэй паднімуцца (калі толькі сапраўды паднімуцца) і тым болей гонару зробяць кіраўніцтву. Менавіта ў тым, на маю думку, палягае сакрэтны план упартага нежаданьня іхняга рэфармаваньня. Тут уся справа ў статыстыцы, якая за мала спрыяльны савецкі час абагнала ў сваім разьвіцьці ці ня ўсе іншыя навукі. Менавіта статыстыка можа падаць заняпад як росквіт, крызіс як прагрэс і тым натхніць масы. Калі, скажам, хлеба давалі 150 грамаў на пайку, а з першага чысла сталі даваць 300, дык той рост падаецца як 200 адсоткаў. Хлеба мала, затое адсоткаў шмат, што і захапляе. Здаецца, менавіта з тае прычыны наша кіраўніцтва так упарта пазьбягае рэформаў – каб пасьля, як усё дойдзе да нулявога паказчыку, пачаць статыстычныя рэкорды. І ў гэтым сэнсе мы дамагліся цуда, вартага кнігі Гінеса. Як нядаўна паведамілі неафіцыйныя крыніцы (афіцыйныя, вядома, у такіх выпадках маўчаць), кошты на тавары за дзесяць гадоў у Беларусі павялічыліся ў сто тысячаў разоў. Той факт, вядома ж, хаваецца ад міжнароднай супольнасыді. Бо калі б тая супольнасьць пра яго дазналася, яе зьдзіўленьшо не было б мяжы: як гэта магчыма

выжыць? Іншыя, канешне, ня выжывуць, апроч беларусаў. Гэныя могуць. Ну, як не паважаць гэткую нацыю, пэўна, адзіную ў сьвеце!

У гэтых марсіянскіх умовах гэтая нацыя ня толькі ўмее выжыць, алс яшчэ здольная любіць тое жыцьцё, а разам – і галоўнага рэжысёра таго паталагічнага эксьпэрыменту. Тут ужо і старэйшы брат запанікаваў і адправіў у адстаўку свайго цара Барыса. А наш толькі пасьміхаецца ў свае фельдфебельскія вусы, яму хоць бы хны. Мабыць, у ягоных планах ёсыць яшчэ нс такое! Прыпамятаўшы аднаго напалеонаўскага маршала, можпа здагадацца, што ён думае. Нешта накшталт: ты палюбіў бы мяне яшчэ болей, калі б ведаў, куды я цябе павяду заўтра. Але сапраўды – куды? Планы вялікага чалавека заўжды ахутаныя туманам таемнасьці. Можа, у партызанскую Чачэнію на дапамогу старэйшаму брату? Можа, у віртуальную, ды ня меней страшную за рэальнасьць Вялікую Славянскую імперыю? Можа, да ўдзелу ў легкадумна пакінутыя ракетна-ядзерныя гулі з Амерыкай?

Але кудысь павядзе. Ды і чаму не павесьці гэткі талерантны, рахманы народ, які стрывае ўсё. Абы ціха.

## Мурашкі

*Памяці Уладзімера Караткевіча*

Ніколі і нікому зь зямных істотаў ня бачны Пан Бог сядзеў на камяністым пагорку ля здаўна прывабнага для яго Тывэрыядзкага возера і стомленым позіркам азіраў бязьлюднае наваколльле.

Ён апусьціўся на зямлю ў апошнюю суботу ліпеня. Пералёт ад плянэты Сырыюс-7z быў нялёгкі нават і для Пана Бога – магнітныя буры каля Юпітэру, д’ябальская гравітацыя ў раёне Вялікай Чорнай дзіркі, метэарытны дождж з нуклеарным градам па ўсёй паласе Млечнага шляху. Думаў, што ўжо на Зямлі так ня будзе, на Зямлі павінна панаваць ціша ды лагода і стомлены Пан Бог

нарэшце адпачне.

На Зямлі ён даўно ўжо ня быў, заняты тытанічнымі справамі ў іншых сусьветах, меркаваў, што зямляне няблага абжыліся безь яго і Пан Бог ім непатрэбны. Паводле свае натуры ён быў талерантны і дапушчаў часам такое, што і ня трэба было б дапушчаць. Але ж ён пакінуў тут не якіх кузурак – стварыў адмысловых істотаў Гома сапіенс – у асобах дзяўчыны Евы і хлопца Адама, надзяліў іх прыгажосьцю і лагодай. Ужо яны павінны былі палагодзіць зямное жыцьцё ў райскім куточку Сусьвету. Ды, відаць, памыліўся. Не наладзілі нічога ягоныя сапіенсы, а тое прыўкраснае, што ён ім пакінуў, збаёдалі бяз рэшты. Як Пан Бог прачытаў у Нябесных сфэрах, шмат прыкрага адбылося на Зямлі за якіх пару мільёнаў гадоў ягонай адсутнасьці, і тое напаўняла Боскую істоту нязбыўнай скрухай і самотай.

Найперш гэтая пакінутая ім на зямной гаспадарцы парачка адцуралася Боскага запавету, спакусілася на грэх, і людзтва пачало бурна пладзіцца. Што пладзіцца, тое хай сабе, калі б разумна і па добрасьці. Дык жа не! Адамавы дзеці ўдаліся зусім не ў памяркоўнага Адама, а хто ведае ў каго. Яшчэ змалку пачалі дурэць і сварыцца, а падросшы, зусім перасталі слухаць бацькоў, навучыліся лайдачыць і піць – не ваду нават, а нейкае д’ябальскае пітво, названае віном. Пан Бог ніякага віна на зямлі не рабіў, хіба пасеяў дзе-нідзе салодкі вінаград – для малых і жанчынаў; мужчыны ж павінны былі паляваць на дзічыну і харчавацца мясам. Дык не, найперш мужчынам захацелася віна, якое рабіла іх дурнямі і натхняла на бойкі. А дзе бойкі – там кроў і рабаўніцтва, якое стала дужа прыбытковым, хоць і зусім ня Боскім промыслам. Хто болей забіваў, той рабіўся багацейшым, болей падграбаў пад сябе іншых і прагнуў улады. Стварылася няроўнасьць, зайздрасьць да больш удачлівых, зьявілася варажнеча. Зайздрасьці і варажнечы спрыялі жанчыны, якія мудра ўхіляліся ад забойства, але ўмела натхнялі на яго мужчынаў, маючы з таго сваю карысьць.

Жыхарства на Зямлі расло, і разам зь ім распаўзаліся па

абшарах варажнеча і забойства, якія назвалі войнамі.

Сьпярша ваяваў род з родам. Адзін род дашчэнту выбіваў іншы род, мяркуючы, што, перамогшы, адпачне ў міры. Дзе там! На зьмену пераможанаму роду паўставаў іншы, пакрыўджаны, якому даўно не хапала выпасу для козаў, і ён імкнуўся захапіць суседні. Як усе выпасы, пагоркі і даліны аказаліся захопленыя, варажнеча і войны не спыніліся.

Аказалася, што некаторыя з плямёнаў маюць ня чорныя, а сьветлыя валасы, і зараз жа ўсчалася новая барацьба паміж чорна– і сьветлавалосымі. На той раз перамаглі сьветлавалосыя. Кінулі дзікім зьвярам трупы чорнавалосых і пачалі сьвяткаваць перамогу. Сьвяткавалі доўга і ўрачыста: здавалася, ворагаў паблізу не засталося. Але яшчэ ў час сьвяткаваньня самыя пільныя заўважылі, што хрысьцяцца сьветлавалосыя неаднолькава – адны двумя пальцамі, а іншыя нават трыма. Быў скліканы вялікі Сынкліт, які вырашыў, што хрысьціцца двума пальцамі няправільна, што за тое трэба караць. Двухпалыя пачалі ўпарціцца ва ўласным звычаі, і іх пачалі прасьледаваць: лавіць, саджаць у цямніцы, некаторых нават тапілі ў рэчках – на корм рыбам і ракам. Такім чынам амаль панішчылі ўсіх двухпалых, а тыя, каго ўтапіць не пасьпелі, перакваліфікаваліся ў трохпалых. Але тады за двухпалых заступіліся нейкія заморцы – ня так за людзей, як за нейкую выдуманую справядлівасьць. Пачалася вайна з чужынцамі. Сьветлавалосыя біліся ўпарта, некалькі гадоў, перасталі нават араць і сеяць, усчаўся вялікі мор, але спыніць вайну было нельга, бо вайну назвалі Сьвяшчэннай. Тая вайна выдалася самай доўгай, ёй было аддадзена некалькі пакаленьняў. Апошнія зь іх ужо і ня памяталі, з чаго ўсё пачалося, і, калі старыя казалі, што – праз пальцы, не маглі паверыць: такое глупства! Хай бы хрысьціліся як хацелі. Але ўсё роўна ішлі ў бой і гінулі, забіваючы ворагаў: спыніць вайну было нельга. Ведама, што пачаць вайну можа і дурань, а спыніць яе ня дадзена і Пану Богу.

Тая вайна сама скончылася, бо скончыліся сілы з

абодвух бакоў. Сьветлавалосыя палічылі, што перамога на іхнім баку. Заморцы былі іншае думкі. Запанавала няпэўнае перамір’е. Бакі трохі спачылі і тады агледзеліся, што ваявалі ня ўсе аднолькава. Шмат загінула, іншыя зьнемагліся. Але знайшліся і такія, што нават забагацелі з вайны: занялі пасады, збудавалі шыкоўныя халупы пад шырачэзным пальмавым лісьцем, захапілі мяккія гамакі з сынтэтыкі, ад ворагаў навучыліся есьці ня палачкамі, як раней, а глыбокімі лыжкамі. Праз год пасьля той перамогі ў вялікай вайне пачалася ўнутраная вайна, ды такая лютая, што Пан Бог цяпер думаў, лепш бы ўжо гэтыя сьветлавалосыя стрывалі паразу. Кожны ненавідзеў іншага, брат рэзаў брата, дзеці цураліся бацькоў – пачуцьцямі кіравала варажнеча і зайздрасьць. Усе крычалі аб нейкай справядлівасьці, пра якую нічога ня чуў і ня мог зразумець таго слова нават сам Пан Бог. І ён дужа сумняваўся, што тое разумелі людзі, якія пралілі за яе столькі крыві.

Але во і грамадзянская вайна была скончаная. Справядлівасьці не дамагліся, затое парэзалі ці ня большую палову насельнікаў. Жывыя не спраўляліся хаваць мёртвых. А то і не хавалі – такая нянавісьць нават да мёртвых панавала ў народзе. І не хавалі б ніколі, калі б дух ад нежывых целаў ня быў гэткі нясьцерпны. А пахаваўшы, тут жа магілы раўнялі зь зямлёй, каб не засталося і знаку. (Пан Бог, аднак, усё бачыў, для яго ня трэба было адмысловага знаку.)

Былі і яшчэ вялікія, сьвятыя і татальныя войны – за землі, ідэі, нацыянальныя інтарэсы. Былі чатыры вайны за справядлівасьць, тры – за зьняважаную праўду і нават вайна супраць войнаў – можа, самая жорсткая сярод іншых.

У часе кароткага перадыху было выяўлена, што ўвогуле ваявалі дарма: войны ня вырашылі ніводнай праблемы, а толькі спарадзілі нямала новых. Але хто вінаваты? Ну вядома ж, вінаватыя мужчыны. Гэта зь іх ліку былі генэралы і палкоўнікі, якіх узнагароджвалі, шанавалі, якім сьпявалі пранікнёныя гімны. А яны падвялі. Ужо

жанчыны, напэўна б, ваявалі б лепш і хутчэй здабылі б перамогу. Усчаўся новы глябальны рух фэмінізму. Жанчыны падняліся на мужчынаў.

То ўжо, напэўна, была самая жахлівая і даўгая вайна на Зямлі. Змагаліся ня толькі зь людзьмі, але і зь людзкімі пачуцьцямі. Найгоршым лічылася праклятае абодвума бакамі пачуцьцё каханьня, праз якое і пачалася глябальная варажнеча. Закаханых пачалі караць самаю страшнай карай, для чаго давялося выдумаць электрычнасьць і расшчапіць атам. Кахаць было дазволена толькі аднаго чалавека – галоўнага Ката – і ягонае начыньне – шырокую сякеру. Сякеру, заўжды вострую і блішчастую, дык дужа кахалі жанчыны. Казалі, яе дотык да далікатных шыяў быў непараўнальна пяшчотны. Але як Кат пастарэў ад нялёгкае працы, каханьне да яго стала мала папулярным нават сярод жанчынаў. Ды й тое – каму патрэбны нямоглы кат? Быў кінуты лёзунг: каханьне замяніць на нянавісьць! Нянавісьць разумелася шырока і з абодвух бакоў была прызнаная за агульначалавечую маральную каштоўнасьць. Тое ні ў мужчынскім, ні ў жаночым лягеры не выклікала пярэчаньня і нават на пэўны час кансалідавала нацыю ў яе сьвятой барацьбе за вынішчэньне.

І во – вынішчыліся.

Учора Пан Бог паціху абляцеў на аблачыне ўсю зямлю і нідзе ня згледзеў нікога. Толькі сярод джунгляў ля Амазонкі варушыліся ў лістоце нейкія стварэньні, а так усе палі, пагоркі і выпасы былі пустэльныя – ні гарадоў, ні паселішчаў, ні якіх халупаў. Асабліва ўразіў Пана Бога кавалак сушы на поўнач ад рэчкі Прыпяці – такі быў слаўны куточак, не гарачы і не сьцюдзёны, некалі поўны зьверыны, рыбы і птушак, аддадзены неблагому працавітаму племю дрыгавічоў. І што сталася? Засыпаліся нуклеарамі, здурнелі і вымерлі. Во і рабі людзям дабро!

Стала зразумела Пану Богу, што ўсё трэба пачынаць спачатку.

Але каму пачынаць? Ясна, што людзям ня варта давяраць тое. Ужо аднойчы было даверана, і што атрымалася? Сорам адзін.

Порсткая чародка чорных мурашоў сноўдала каля босых, натружаных за даўгое жыцьцё Боскіх ног. Адзін муравейка, мабыць, самы зь іх сьмелы, борзьдзенька ўскараскаўся на Боскі вялікі палец і раздумна зьнерухомеў. Пан Бог сьпярша памкнуўся яго струхнуць прэч, ды падумаў: а можа, гэтым? Будуць сабе мітусіцца, рупіцца, бяз сваркі і варажнечы, грахоў ды эмоцыяў.

Сапраўды, варта было падумаць.

## Помнік ад дэмакратыі

Дзяржава была дэмакратычнай, дэмакратычным было грамадзтва. Культура, безумоўна, таксама будавалася дэмакратычная. Таталітарызм, хоць і нядаўна, але ўвесь сышоў у нябыт, пакінуўшы па сабе благую памяць. Людзтва рупілася пазбыцца яго надта ж нехуцавых наступстваў. Трэба было панішчыць яго нядобрую спадчыну і ўмацаваць дэмакратыю. Найперш было вырашана паставіць помнік Песьняру.

Пясьняр, безумоўна, быў дэмакратам (як і належала песьняру-патрыёту). Антыдэмакратычны рэжым ня раз кідаў яго ў турму, ягоныя творы не друкаваліся, а песьні не выконваліся. Улады абвесьцілі конкурс на найлепшы праект помніка, і ў конкурсе маглі ўдзельнічаць усе майстры, хто толькі хацеў. Абмяркоўваць таксама мог кожны. Праекты помнікаў былі выстаўленыя для агляду ў гарадзкім парку. Выбіралі дзень цэлы, і толькі пад вечар грамада спынілася на адным. То быў самы вялікі гіпсавы пясьняр. Некаторыя, праўда, хацелі сярэдніх памераў, але ім дружна запярэчылі, і тыя ўрэшце пагадзіліся. Усё ж памер — не апошні з крытэрыяў у грамадзтве, дзе іх і так было небагата. Той самы выбар зрабіла і афіцыйная камісія, складзеная з прадстаўнікоў

уладаў і розных слаёў насельніцтва.

Далей ішло абмеркаваньне дэталяў. Амаль усе былі перакананыя, што адна галава добра, а шмат галоў — лепей. Скульптар, праўда, пярэчыў, але яму напомнілі, што той мае толькі адну галаву і дзьве рукі. А тут, калі пачалі галасаваць, паднялося мноства рук — значыцца, праўда была на іхнім баку. Таму прайшла яшчэ адна прапанова (дарэчы, сьвятара), каб Пясьняр быў не ў капелюшы, а зь непакрытай галавой. Да чалавека зь непакрытай галавой усё ж болей павагі, асабліва калі ён хрысьціянін. Але як быць з капелюшом? Ня кідаць жа яго долу, калі ён зроблены. Тады хтось прапанаваў: а хай ён трымае яго ў руцэ. Так і зрабілі. А яшчэ лепш, калі будзе трымаць не капялюш, а кепку. Скульптар лаяўся, але перарабіў. Тым болей што ў ранейшыя часы ён гэтых кепак нарабіў нямала, меў пэўны досьвед. Але тады падняўся адзін прадстаўнік вытворчага калектыву, які давёў, што кургузая куртачка — нeяк непачціва для паважанага працаўніка культуры, якія ў свой час усе насілі паліто. Трохі паспрачаліся і вырашылі апрануць Песьняра ў паліто. Добрае паліто, нібы з драпу, шырокае ў плячох. Тым болей што адкрыцьцё помніка зацягнулася, настала восень. Ну, а калі восень, дык хутка і зіма, не стаяць жа чалавеку ў гамашыках на марозе, трэба яго абуць у... валёнкі! — прапанаваў самы здагадлівы. Скульптар пазелянеў ад злосьці ды роспачы. Але ўсё ж часы былі не таталітарныя, урэшце ўлічылі і думку скульптара, вырашыўшы абуць Песьняра ў боты. Калі на тоўстай падэшве, дык зусім будзе выглядаць няблага. Бы вайсковец! — узрадаваўся прысутны тут адстаўны палкоўнік. Матэрыял (бронза) дазваляе тое зрабіць грунтоўна, пагадзіўся і прафсаюзны прадстаўнік мэталюргічнага заводу. І помніку добра, і заводу рэкляма.

Галоўнае было абмеркавана і вырашана — што значыць калектыўны розум сталых, вопытных людзей, сапраўдных прадстаўнікоў дэмакратычнай грамадзкасьці. Невялікая меншасьць прысутных, праўда, была іншае думкі, але іх хутка пераканалі. Гэта раней такія справы вырашаліся індывідуальна, з

гледзішча скульптара. А ў час разьвітой дэмакратыі ў тым мае права ўдзельнічаць усё грамадзтва. Тым болей калі гаворка ідзе пра ўшанаваньне памяці такога слыннага сына Бацькаўшчыны, як Пясьняр. І скульптар моўчкі пагадзіўся, бо меў патрэбу ў грашах і ня меў кватэры. З грашыма, вядома, сталася напруга, грошай не хапіла. Зьвярнуліся да спонсараў, далі ў друк адмысловы рахунак у банку. Ды марна. Чакалі два месяцы — ніводнай капейкі на той рахунак не паступіла.

Тым часам мінула і зіма, надарылася вясна. Прыгрэла сонца, па канавах пацяклі ручаі. Хтосьці з камісіі прыкмеціў, што Пясьняр будзе недарэчна выглядаць пад сонцам у сваім бронзавым паліто, нібы ў кажуху. Каб як паправіць тое, сказалі скульптару. Той у чарговы раз мацюгнуўся, але тут жа і паправіў — уціснуў “кажух” у таліі, Пясьняр ад таго зрабіўся страйнейшы і вышэйшы, бы памаладзеў, ці што. Тое дужа спадабалася камісіі і нават самому аўтару скульптуры. Праўда, трохі нагадвала шынелак, але тое нікога асабліва не заклапоціла — ці мала постацяў у шынялях стаяла на плошчах і раздарожжах ды нікога не турбавала.

Як дайшла справа да ўсталяваньня помніка, давялося крыху паспрачацца наконт месца. Месца ўвогуле было вядомае — плошча перад былым выканкамам, дзе некалі стаяў пафарбаваны пад бронзу Ільліч. Ільліча гадоў колькі таму зьнялі аўтакранам, а гранітны п’едэстал застаўся — казалі, не хапіла магутнасьці крану. Але разумнейшыя намякалі: на ўсякі выпадак (усе разумелі, які). І праўда, во прыдаўся.

Пры вялікай урачыстасьці, з аркестрам і прамовамі ад уладаў і грамадзкасьці адчынялі помнік слыннаму Песьняру. Народ пляскаў у ладкі, апазыцыя сьпявала “Пагоню”. Ззаду да натоўпу падышлі старыя — дзядок і бабка. Бабка перахрысьцілася і кажа:

— Слава табе, Божа, ня думала, што дажыву...

— Да чаго дажывеш? — папытаўся дзядок.

— Ну, што вернуць... Леніна.

— Які табе Ленін! Хіба Ленін у шынялі стаяў? То — Сталін.

Да іх падышоў трохі маладзейшы, зь сівой чупрынай на галаве. Вайсковую фуражку зь сінім аколышам зважліва трымаў у руцэ.

— Памыляецеся, шаноўныя. То — таварыш Дзяржынскі.

— Во як! — у адзін голас зьдзіўлена мовілі дзед і бабка. — А мы думалі...

Невядома як зблізку, а здалёку і праўда тая бронзавая постаць дужа нагадвала ўсіх трох названых. Калі ня ў цэлым, дык па дэталях пэўна.

Начальства і грамадзкасьць, што стоўпілася паблізу пастамэнту, мабыць, нічога з таго не прыкмячала і не здагадвалася. Затое народ усё бачыў.

Хоць кожны бачыў, што хацеў бачыць.

## Сьвіст

Пра народ у краіне хадзілі дзьве супрацьлеглыя пагалоскі, кожная з якіх увогуле мела рацыю. Нядаўна абраны дыктатар ды ягоныя памагатыя лічылі народ самым разумным, самым правільным і працавітым. Іхнія ж супраціўнікі сьцьвярджалі, што народ дурны і сьляпы, нібы крот. Бо каб быў разумны і працавіты, дык нешта б умеў, а гэты ня ўмеў нічога, як нічога і ня меў. Пэўна, тая акалічнасьць і змусіла дыктатара да пошукаў нейкіх сродкаў стабільнага існаваньня яго і народу. Але новыя сродкі ня так лёгка было знайсьці, а час катастрафічна мінаўся. Неяк дыктатар з прыкрасьці ад чарговай разумовай няўдачы гучна сьвіснуў, як сьвістаў у дзяцінстве, пасьвячы сьвінячы статак. Шсар, што з нейкага часу запісваў за ім кожнае слова (для гісторыі) застыў з пяром у пальцах – ён ня ведаў, як запісаць

сьвіст. Заўважыўшы тое, дыктатар зьверавата ўставіўся ў пляшывага пісца, які, каб неяк улагодзіць пана, проста голасна войкнуў, быццам бы ў захапленьні ад сьвісту: маўляў, як прыгожа! Іншыя, што ў той час былі ў пакоі, таксама дружна падтрымалі пісца: і прыгожа, і зьмястоўна, а галоўнае – даходліва для народу, – кожны зразумее. Ведама ж, кожны быў дзіцёнкам, хоць і ня кожны дзіцёнак пасьвіў калгасных сьвіней.

У той жа адвячорак урад прыняў адмысловы дэкрэт аб значэньні дыктатарскага сьвісту, а газеты ў хуткім часе пачалі друкаваць артыкулы пра тое, як гэта важна наогул – сьвістаць. У краіне пачаў разгортвацца рух за высокаідэйны і высокамастацкі народны сьвіст. Праўда, як бадай і ў кожнае справе, знайшліся тыя, што не пагадзіліся з дзяржаўным значэньнем сьвісту, але яны былі меншынёй, а меньшыню, як вядома, бязьлітасна душаць. Хутка задушылі і праціўнікаў сьвісту.

Праз нейкі нядоўгі час рух нечуванага пашырэньня сьвісту стаўся ўсенародным, яму ўжо ня шкодзіў ніхто. Вучыць прафесійна сьвістаць пачалі ў школках, сьвіст увялі ў якасьці абавязковага прадмету на экзаменах у ВНУ, дзе былі тэрмінова створыны кафедры сьвісту. Адпаведна, бы грыбы пасьля дажджу, зьявіліся высокакваліфікаваныя сьпецыялістыя па сьвісту, актыўна рыхтаваліся і пасьпяхова абараняліся кандыдацкія ды доктарскія дысертацыі на тэмы сьвісту. У краіне рэгулярна праводзіліся конкурсы і спаборніцтвы па сіле, працягласьці і мадуляцыі сьвісту, наладжваліся канцэрты. Неўзабаве зьявіліся і рэкардсмэны – асобна па розных жанрах сьвісту, ствараліся ансамблі, якія езьдзілі па гарадах і вёсках і сьвісталі на ўсю электронную моц свае апаратуры. Тыя няблага зараблялі, сплочвалі казьне немалыя падаткі і карысталіся прыязнасьцю ўлады і народу. Нечуваная папулярнасьць сьвісту зрабіла папулярнай краіну, пра якую яшчэ нядаўна мала хто ведаў у сьвеце. Тады дыктатар ды ягоныя памагатыя сьцямілі, што нягожа было б тым не пакарыстацца і вырашылі распаўсюдзіць ідэю сьвісту як мага далей у сьвеце. Была створана новая праграма заваёвы сьвету праз космас, у які

запускаліся талеркі-спадарожнікі, адбітыя імі хвалі пранікалі ва ўсе куточкі планеты. Людзі на зямлі ўведалі пра незвычайна плённую справу сьвісту і як маглі пераймалі яго. Дзякуючы сіле сьвісту народ, краіна і яе дыктатар зрабіліся самымі славутымі ў сьвеце.

Натуральна, добра было пачувацца славутымі, але яшчэ трэба было і есьці, а во ежы катастрафічна не хапала. Захапіўшыся сьвістам, людзі адвучыліся араць зямлю, пасьвіць коз і нават саджаць бульбу. Эканоміка, спрэс стаўшы касьмічнай, усё болей хірэла, і хутка ў людзей нават на добры маладзецкі сьвіст ня стала ставаць моцы. Дзеля эканоміі людской сілы была адмененая родная мова, пра якую хутка забыліся ўсе – гараджане, сяляне і нават пісьменьнікі. Пісьменьнікі, праўда, забыліся апошнімі, чым увогуле ганарыліся. Болей ім ганарыцца ўжо не было чым.

Краіна неўпрыцям усунулася ў страшэннае правальле татальнае крызы, калі пачала беззваротна хірэць нават сама ідэя дзяржаўнага сьвісту. Дзеля яе паратунку стварылі некалькі дадатковых міністэрстваў, каардынацыйны над імі камітэт, Савет бясьпекі, узмоцнены аддзел секурытаты. Падвысілі ролю адукацыі – усе ПТВ ператварылі ў тэхнікумы, тэхнікумы ва ўніверсітэты, а універсітэты ведама ж у акадэміі. Павялічылі колькасьць дактароў ды акадэмікаў, зарплату якіх таксама падвысілі, прыраўняўшы да сяржанцкае зарплаты амапаўцаў. І ўсёроўна сьвіст марнеў, ягоная ідэя апынулася пад сьмяртэльнай пагрозай. Апазіцыя ж толькі мацнела. Праўда, апазіцыянеры пакуль што выступалі ня супраць самой ідэі, а супраць сродкаў і метадаў яе выкананьня. Ідэя ж, казалі, зусім неблагая, калі яе з розумам ажыцьцяўляць. Дыктатар назваў тую апазіцыю сьмехатворнай і казаў, што варта яму хоць раз добра сьвіснуць, як яе бы ветрам садзьме. І праўда, некалькі самых заўзятых апазіцыянераў ужо зьнікла – бяз знаку і сьледу, бы праз зямлю праваліліся. Але і дыктатар зьнемагаў ад шэрагу няўдач і мог намагчыся хіба на адзін добры посьвіст на тыдзень. У сьвеце пачалі

губляць цікавасьць да краіны – радзімы сьвісту. Рэтрансьлятары-спадарожнікі, бы восеньскія каштаны, адзін за адным сыпаліся долу і згаралі у шчыльных слаях атмасферы. Запушчаць новыя не было за што. У космасе запаноўвала касьмічная ціша.

Затое на зямлі бушавала бура.

За апошнія грошы дыктатар мацаваў сілы секурытаты – паліцыю ва ўніформе і ў штацкім, суды і пракуратуру, якім падвысіў заробкі і падвоіў нагрузку. Арыштоўвалі, судзілі і саджалі найперш праціўнікаў сьвісту. Ды таго аказалася недастаткова. Было заўважана, што некаторыя сьвісталі няправільна, чужым падрыўным сьвістам, – гэтых рэпрэсавалі таксама. Затым зрабілі чыстку вучоных шэрагаў, перагледзелі тэматыку іхніх дысертацый. Выявілася, што некаторыя з вучоных-гісторыкаў няправільна лічылі, быццам гісторыя краіны пачалася не з запачаткаваньня ідэі сьвісту, а значна раней. Секурытата з тым катэгарычна не пагадзілася, а ў краіне яе думка заўжды была аканчальнай, і тую канцэпцыю выкаранілі. Як пэўная рэакцыя на тыя зусім натуральныя захады, у народзе пачала самахоць сьпець новая нечуваная ідэя – ідэя маўчаньня. Вядома, яна пляжыла выдатную, выпрабаваную ў часе ідэю сьвісту, але як было з ёй змагацца? Як было ўведаць, што выношваюць маўчуны? І як прадухіліць усенародную маўчанку, якая пагражала краіне ўсеагульнай нематой?

Тым часам маўчанка шырылася з неверагоднай хуткасьцю. Зьняможаны шматгадовым посьвістам люд маўчаў з задавальненьнем. Рабіць тое было проста і лёгка тым болей, што ўсе даўно адвыклі ад роднае мовы, і гаварыць наогул не было патрэбы.

Яшчэ праз нейкі час краіна аканчальна змоўкла, ніхто ўжо ня мог нават слаба сьвіснуць. Праўда, з тае нагоды ніхто асабліва не перажываў, апроч хіба пенсіянераў. Для гэтых за даўгія гады іхняга жыцьця сьвіст стаў адзінай прафесіяй, бо іншага яны ня ўмелі. Але супраць іх працавала прырода, і гэтых людзей у краіне хутка менела. Як і належыць паводле няўхільных законаў быцьця.

## Рэформа

*Фантастычная прыпавесьць*

У адной краіне (ды ці толькі ў адной) была вялікая армія і шмат генералаў.

Як адбываліся войны, усё было ў звычайным парадку, генералы, як умелі, рабілі сваю звыклую справу і не прычынялі краіне вялікага клопату. Інакш здаралася, калі наставаў мір.

Уся рэч у тым, што на мінулай вайне быў моцны і каварны вораг, перамога над ім таксама была вялікай, і частка гонару ад яе справядліва перапала і генералам. Учуўшы тое з вуснаў дыктатара, генералы адразу паверылі яму, як верылі ва ўсім і ўсё жыцьцё. (Спрабаваў бы хто не паверыць!)

Але мінаў час, тыя генералы па адным перабраліся ў інакшы сьвет, на іх месца пазаступалі маладыя, якія зусім і ня думалі пачувацца гатункам горшым за ранейшых, – генеральскае званьне не дазваляла. Насамрэч, яны былі не меней (безумоўна, лепей) адукавапыя, маглі складна дакладваць абстаноўку і выступаць на партсходах, спрэс былі членамі партбюро а то і дэпутатамі парламенту? Само сабой маглі ня горш за старых выпіць і ўмелі адмыслова мацюгацца – як жа ў войску бяз мату? Але тут узьнікла праблема: ішлі гады, войнаў не пачыналася, і было не зразумела, чым заняць генералаў. Лепей за ўсё было б надзяліць кожнага войскам, але дзе было ўзяць такое войска ў зьбяднелай, зьнясіленай вайной краіне? Тады правялі рэформу, войска скарацілі – раз, затым другі і трэці. На добры розум, трэба было б скараціць і генералаў, але разважыўшы, урадоўцы рашылі: ня трэба. Які ж генерал бяз войска? Што ён будзе рабіць, чым зойме свой дзень, апроч рыбалкі ды паляваньня. Спрабавалі заахвоціць складаць баявыя мемуары пра свае гераічныя подзьвігі ў час вайны (ці пасьля вайны ў барацьбе з

бандэраўскімі, афганскімі ды іншымі бандфармаваньнямі), але тое ім хутка надакучыла. Болей прывучаныя, як яны казалі, да «жывой, баявой працы», яны сваю справу перадаверылі маладым журналістам, у якіх тое апісаньне рабілася нават болей пераканаўчым. Спрабавалі заняць генералаў вучобай, наўчынялі шэраг акадэмій, у якіх адны генералы вучылі другіх. Тое ўвогуле генералам спадабалася, тым больш, што у хуткім часе яны спрэс парабіліся кандыдатамі ды дактарамі розных навук.

Наступным разам правялі чарговую рэформу рыштунку ды абмундзіроўкі – усім генералам справілі двубортныя сурдуты і новыя картузы з шырачэзнымі, бы грузінскія кепкі, вярхамі і высока задранай тульляй, пад якой кожны генерал-педамерак выглядаў на два метры. Лампасы на штанах набылі шырышо ў далонь, далей ужо не было куды пашыраць. Для генеральскага побыту кожнаму ў гожым барку збудавалі прыгожае лецішча з еўрапейскай сантэхнікай і прыбалтыйскай чарапіцай на даху. Чаго яшчэ не хапала людзям? Жыві, адпачывай, дажывай да высокай пенсіі.

Дык не. Генералам не хапала вайны.

Прычына таго – найперш ва ўзнагародах. Слушна было чакаць, што скончылася вайна – скончацца і ўзнагароды, бо завошта ж даваць баявыя арданы, калі няма ніякіх баёў? Але ж не. Што ж тады, сказалі некаторыя генералы, дажывеш да адстаўкі з голымі грудзямі? Не, не генеральскае тое жыцьцё. Урадоўцы прывыклі прыслухоўвацца да генеральскіх патрэбаў, бо і самі пачуваліся генераламі, хіба ў запасе. Было вырашана: хоць вайны і не было, але ўзнагароды генералам даваць, як і на вайне. Завошта? А хоць бы за манеўры, за вучэньні... За службовыя нарады і лічбавыя паказчыкі. Асобна за маладзецкі даклад і нябеднае застольле у гомар начальніцкага візіту. Сьпярша ўзнагароджвалі кіраўнікоў, а пасьля і ўсіх удзельнікаў – аж да буфетчыка і афіцыянтак. Хутка на родных генералаў люба стала глядзець – іхнія грудзі і без вайны зьзялі-праменілі іканастасам узнагародаў. У некаторых

– бы ў Жукава.

Трохі болей складанай выпала праблема з зоркамі на пагоны. Усім хацелася зорак паболей і каб буйныя. Але самая буйная была адна ў войску і належала маршалу-міністру. І той ня надта хацеў, каб побач яшчэ былі маршалы. Іншая справа генерал-палкоўнік, гэтых яшчэ можна было трываць і побач. Тады ўсе генералы рынуліся ў генерал-палкоўнікі. Калі іх набраўся не адзін полк, у сталіцы менавіта для іх збудавалі айчынны Пентагон – трэба ж было ўсіх рассадзіць па ўтульных кабінетах. Але на ўсіх Пентагону ўсё ж не хапіла, нямала засталося ў іншых гарнізонах, і гэтыя, ня маючы кабінетаў, патрабавалі войска. Калі ж войска не давалі, генералы лезьлі ў палітыку, дзе нарабілі нямала тлуму. У краіне стварыўся яўны перакос сілаў – генералаў зашмат, а салдатаў мала. Дзе было браць салдатаў?

Салдатаў у войску традыцыйна не шанавалі (апроч аднаго, невядомага), зорак ім не давалі, кармілі кепска. Больш за сто гадоў войска насіла грубы замызганы шынелак перыяду знакамітай трыяды. Ды яшчэ сталі пасылаць на дзіўную вайну ў курортныя мясьціны, дзе салдатаў жорстка забівалі, а хаваць не было каму.

## Інтэграцыя

*Фантастычны аповед*

Рэшта незалежніцкага беларускага войска засяродзілася на хваёвым узьлеску. Наперадзе ляжала летняя, у красках лугавіна з крывулястаю рэчкай пасярэдзіне. За ёй на палявых схілах стаіліся расейцы.

Беларусы трывалі паразу – не адну, а шэраг паразаў запар, і ня дзіва. Ваяваць з кантрактнікамі, якім плацілі шалёныя грошы ў далярах, было няпроста. Асабліва, калі ў іхняй краіне на вайне толькі і мажліва было зарабіць. У беларусаў жа даляраў не было, – былі адны «зайцы». Зноў жа іхняя вайна падпала пад ранг тэрарыстычнай, і беларусы спадзяваліся хіба на ўласны

патрыятызм і нацыянальную сьвядомасьць, якую горача прапагандаваў вернуты з-за рубяжа Зянон Спазьняк. Вярнуў яго Камандуючы, маршал, які ўзначаліў барацьбу за незалежнасьць гэтак жа апантана, як нядаўна змагаўся з адыёзнай «самасьційнасьцю». Некаторыя зьдзіўляліся, а бальшыня ўбачыла ў той палітычнай зьмене чарговы хітраванскі выверт любімага кіраўніка.

Памятаючы першасную сяржанцкую вывучку ў войсках КДБ, Камандуючы патрабаваў безумоўнага выкананьня ягонага загаду перамагчы праклятых расейцаў, ды тое памагала мала. Мала памагалі і красамоўныя заклікі да таго Зянона Спазьняка, што дзеля незалежнасьці Беларусі адрынуў усе ранейшыя крыўды на маршала і заўзята заклікаў сьледаваць сьвятым запаветам адраджэньня. Нядаўнія калгасьнікі ды рабочыя «паштовых скрынкаў» слухалі, але слаба разумелі ніколі ня чутыя каманды накшталт «зважай!», «шыхт», «вайсковы чын» або нават слова «жаўнеры». Мала што ў гэтым сэнсе мог растлумачыць і былы старшыня беларускага савету Сьцяпан Парэцкі, якому дазволілі вярнуцца з Амерыкі і ўзначаліць адну з вайсковых калонаў. Гэты з-за рубяжа прывёз некалькі кнігаў па беларускай гісторыі, але Камандуючы загадаў выкінуць ягоную гісторыю ў прыбіральню – яму патрэбны былі жаўнеры. Галоўны наконт бясьпекі генерал-пракурор Мэйман густа абклаў яго стукачамі з задачай: высьветліць, ці не зашыфравана ў кніжках старшыні якая адмысловая зьнявага гонару Камандуючага. (Наконт уласнага гонару той стаў надта чуйны). Сам Мэйман, не зважаючы на дзівосныя зігзагі Камандуючага, захоўваў непахісную вернасьць таму, што толькі і давала яму мажлівасьць захаваць жыцьцё. Шматлікія ягоныя таварышы ўжо даўно парылі зямлю і ўсё праз тое, што мелі даўгія языкі. Мэйман жа з кароткім языком за рэкордна кароткі час стаў генерал-пракурорам і гатовы быў змагацца за незалежнасьць Беларусі, як шэраг гадоў змагаўся супраць яе.

Калі з лесу на ўскраек падцягнуліся апошнія з вайскоўцаў, Камандуючы загадаў падпалкоўніку

Старкевічу пастроіць усіх у шарэнгу. Набралася няшмат, – зморaных, кульгавых, абдзёртых, параненых з акрываўленымі бінтамі на руках і галовах. Як «вечны падпалкоўнік» Старкевіч далажыў, Камандуючы выйшаў з шыкоўнага, ушчэнт запэцканага гразёй «Джыпу-Чыроکі» і сказаў праступджаным ці прапітым голасам:

– Ну што? Прасралі Беларусь? Я ж казаў... Цяпер будзем страляцца. Бо когда вазьмуць расейцы, горш будзет. Як вучоны-гісторык я ведаю... Так што – хто першы?

Усё ж гэта былі сьвядомыя людзі, выхаваныя на гераічным досьведзе вялікай вайны ды партызанскай літаратуры, і цяпер увесь шэраг зрабіў крок наперад.

– Ну зачэм жа так многа? – сказаў Камандуючы. – Уначале – аднаму, для прымеру. Дык хто? Ты – Спазьняк?

– За Беларусь заўсёды гатоў! Сьмерць маскалям! – мовіў схуднелы, у абвіслым шынялі былы старшыня БНФ-ХДС і дастаў з-за дзягі крамнёвы пісталет узору 16 стагоддзя. Сучасны АК ён прынцыпова не хацеў браць у рукі і, стрэліўшы сабе ў грудзі, бы жытні сноп, упаў пад ногі сябрам.

– Стойкі быў барэц за незалежнасьць, – пасьля паузы сумна сказаў Камандуючы. – Я ўважаў яго. Ну хто далей? На мяне не глядзіце, я буду апошні. Як капітан з тонучага судна. Ты – Парэцкі?

– Але я – легітымны старшыня...

– Мне напляваць і расьцерці, што ты легітымны. Калі трусіш –паможам. Мэйман!

Мэйман, які з прычыны недахопу кадраў даўно быў пракурорам, судзьдзём і «спалніцелем прыгавораў» у адной асобе, спрытна падскочыў да разгубленага Парэцкага і стрэліў у патыліцу.

– Хто яшчэ надта легітымны? – строга папытаўся

Камандуючы. Мабыць, болей такіх не знайшлося, і Камандуючы холадна патлумачыў: –Наш прынцып ізьвесны: дабравольна, но абязацільна.Усе, хто любіць Беларусь, далжны ахвяраваць для яе. Правільна, беларусы?

– Правільна! – згодна, хоць і ня дужа гучна пранеслася над шэрагам.

– Я бароўся, усе бачылі. Бароўся, як зьвер. Сначала за інтэграцыю, патом за суверэннасьць. Так вынуждалі абстаяцільствы. Але я ня Бог, враг пабядзіў. Так што майце чэсьць, беларусы.

З шэрагу выйшлі два невялічкія вайскоўцы ў запэцканым камуфляжы, з аўтаматамі Калашнікава на грудзях.

– Мы гатовы, – ціха сказаў адзін, і Камандуючы бліснуў хцівым позіркам.

– Даўно ты далжон быць гатовы, грамадзянін Залябедзька. – Я табе гаварыл: плоха кончыш. А ты столька цянул. На дружка раўнялся?

– Мы не раўняліся. Мы са спадаром Ранчоркам належалі да розных партыяў і рухаў.

– Рухаў! – перадражніў Камандуючы. – Во дарухаліся. Удвох асталіся.

Амаль разам бухнулі два стрэлы. Пасьля строй зусім разбурыўся, некаторыя саступілі ўбок, пачулася яшчэ некалькі стрэлаў. На роснай траве паболела нерухомых целаў. Іх ня краталі, нікуды не прыбіралі. Нерашучыя стаялі з разгубленым выглядам. Перад невялічкаю купкай сваіх падначаленых Камандуючы аддаваў апошнія распараджэньні.

– І эта... Пагінем, дык нада, чтоб напісалі рэквіем. Перадайце мой указ Гучанку.

– Гучанок даўно ў Маскве. Другую зорку на тратуары абмывае.

– Прадацель! А так на задніх лапках плясаў...

Вусаты твар Камандуючага зрабіўся зусім суровы і змрочны.

– Ня трэба было яго пушчаць на Віцебскі базар. Хай бы сядзеў у Камаях, маліўся ды згарэў з уніятамі. Як Хадырка з Барадулям.

– А што – згарэлі? – з цікавасьцю папытаўся Камандуючы.

– Да тла.

– Тым лепш. А то – месца на Усходніх могілках, пахараны... Гэтыя пахараны разарылі мне гасударства.

– Рынкавая эканоміка, – змрочна канстатаваў Мэйман. – Ні ў якое сравненіе з сацыялістычнай.

– Сацыялістычная таксама не аптымальная. Я ведаю, – асьцярожна мовіў Старкевіч, апрануты ў шынель з пагонамі падпалкоўніка. – Як я камандваў ротай...

– Ты плоха камандваў, – адрэзаў Камандуючы. – І тады, і цяпер.

– А хто лепш? Я стараўся...

– Пастарайся ў пасьледні раз. Ну! Ці памагчы?

– Сам умею, – сказаў Старкевіч і адвярнуўся. Хутка бабахнуў пісталетны стрэл, і падпалкоўнік, сагнуўшыся, тыцнуўся галавой у траву.

– Во гэта іспалніцельнасьць! І ні слова вапракі. Дажа на беларускай мове. На мове! – грэбліва мовіў Камандуючы. – Кстаці, а гдзе Білевіч? Наўрад ці застрэліўся. Гэты балабон-няўмека за што ні возьмецца, усё праваліць. Столькі змагаўся за мову, і што? Нават трасянкі не дамогся. Гімна ня склаў. Я яму даручыў гімн Камандуючага, чтобы он ваадушаўляў масы. Далжон он был пастарацца. Так нет. Сабатажнік, он, ваш Білевіч!

– Бычкову трэба было, – падказаў хтось .

– Правільна! Трэба было Бычкову – я ягоныя вершы яшчэ ў чацьвёртым класе вучыў. Да не падсказалі. Зеўрук гэны дэзінфармаваў, – са скрухой мовіў Камандуючы. – Сказаў, будта Бычкоў – вораг Беларусі і Расіі. А саўмесна – Літвы, Латвіі, Эстоніі, Украіны і Польшчы. Я і паверыў. Падумаў, што Зеўрук ведае – у ЦК ды ў разьлічных выведках працаваў. Напрасна, знаеце, давeрыўся. Сьледавала давяраць, но правяраць. Паглядзіце там, ці Спазьняк ужэ ня дыхае? Апруцянеў? А то можа, халастым стрэльнуў?

Нехта ад купкі ля «Гранду-Чыpокі» пабег зірнуць на труп Спазьняка і хутка адтуль пачулася:

– Спазьняк ляжыць. А Залябедзькі няма.

– Як няма? Ён жа застрэліўся.

– Мабыць, сапраўды халастым. Імітацыя, – змрочна мовіў Мэйман.

– Гэта прадацельства! Он меня абхітрыў. Хацеў тады разам з Ганчаром, ды... Пажалеў. Вот і расплата за мяккасьць душы. Дзейсцьвіцельна, очань мы рахманыя, беларусы. Ня тое, што ты, Мэйман.

– Тое, што і ты! – З тайным папрокам надзьмуў вусы генерал-пракурор.

Камандуючы дастаў насоўку і старанна выцер змакрэлыя вочы. Падобна, ён гатовы быў заплакаць, хіба ў ягоным позірку раз-пораз бліскала непрыхаваная хцівасьць.

– Я ж цібе прыказаў устраніць Гураўкіна. А он аказваецца ў ААН зноў ваду муціць проці суверэннай дзяржавы... Паэт гэны.

– Праізашла памылка. Устранілі Гуралкіна. Супадзеньне фамілііяў. – Як жа вазможна! Нада ж ведаць нацыянальныя кадры, адлічаць паэта ад мастака. Не страляць абы каво...

– Я счытал, у Беларусі адзін мастак – паважаны акадэмік Цавіцкі...

– Правільна! Очань мной паважаны. Как і явоны сын – маладой, но персьпектівный, – русскій, то есьць беларускій па духу...

Строй тым часам зусім пабурыўся, стрэлы бахалі ўсё часьцей. Страляліся ад любові да Беларусі, ад нянавісьці да маскалёў, ад бязьмежнае адданасьці любаму Камандуючаму. Проста таму, што ўсё надакучыла, у тым ліку і д’ябальскае, крывавае жыцьцё ў краіне з бясконцай барацьбой і заблытанымі ідэямі. Дзе-нідзе чуліся воклічы «Жыве Беларусь!», часам праклёны ці проста злая мужчынская лаянка. У доле на ўзьлеску ўсё большала нерухомых целаў, скрозь на траве валялася зброя, нікому ўжо не патрэбны рыштунак. Найболей таго ляжала каля «Джыпу-Чырокі», дзе ўсё яшчэ тоўкся Камандуючы. Купка чыноў ля яго, аднак, усё менела. Нарэшце застаўся апошні – генерал-пракурор Мэйман.

– Мэйман, ты ўсе мае сакрэты знаеш, да?

– Знаю, да.

– І ты іх сахраніш. Назаўжды!

Генерал-пракурор не пасьпеў адказаць, як Камандуючы махнуў рукой і ў яго, бы з рукава, грымнуў нечаканы стрэл. Як Мэйман упаў, Камандуючы яшчэ два разы стрэліў яму ў галаву і крута адвярнуўся.

Пасьля ён уключыў радыётэлефон і мовіў нейкую фразу – пароль ці што: 548-5211AZ. Сунуўшы ў кішэню HENDI, дастаў з багажніка сьцяг –шырокую чырвоную палатніну з сярпом і молатам ля тэлескапічнага дрэўка – і ўскочыў у машыну.

– Газуй, Садам!

Звыкла абыякавы да ўсяго, што адбывалася навакол, чарнавусы кіроўца рыўком зрушыў машыну, якая палявой дарожкай нязграбна папаўзла па выбоінах у

бок рачулкі. Адной рукой Камандуючы трымаўся за кароткі дзяржак перад сабой, а другой праз вакно высока ўзьнімаў сьцяг, пад якім нарэшце мелася зьдзейсьніцца вялікая мэта ягонага жыцьця – інтэграцыя.

Што рабіць, калі кожная вялікая мэта патрабуе вялікіх намаганьняў і няменшых ахвяраў...






# Васіль Быкаў

Васіль Быкаў (1924-2003) Нарадзіўся 19 чэрвеня 1924 году ў вёсцы Бычкі Ушацкага раёну Віцебскай вобласьці. Навучаўся на скульптурным аддзяленьні Віцебскай мастацкай вучэльні. Скончыў Саратаўскую пяхотную вучэльню. У 1942 годзе будучы пісьменьнік уступіў у шэрагі Чырвонай Арміі. Ваяваў на Другім і Трэцім Украінскіх франтах, прайшоў па тэрыторыі Румыніі, Баўгарыі, Вэнгрыі, Югаславіі, Аўстрыі, двойчы быў паранены.

Упершыню творы Васіля Быкава былі апублікаваныя ў 1947 годзе, аднак творчая біяграфія пісьменьніка пачынаецца з апавяданьняў, напісаных у 1951 годзе. Тэматыка раньніх апавяданьняў, дзеючымі асобамі якіх сталі жаўнеры і афіцэры, вызначыла далёйшы лёс Быкава, многія з твораў якога прысьвечаныя падзеям Вялікай Айчыннай вайны. Бескампраміснасьць прозы Быкава стала прычынай нападаў савецкай крытыкі, якая абвінавачвала пісьменьніка ў ачарненьні савецкага ладу.

У 1974 годзе Васіль Быкаў быў узнагароджаны Дзяржаўнай прэміяй СССР (за аповесьць "Дажыць да світання", 1973), у 1980 годзе атрымаў званьне Народнага пісьменьніка Беларусі, у 1986 годзе - быў уганараваны Ленінскай прэміяй за аповесьць "Знак бяды".

Некаторыя творы пісьменьніка, такія як аповесьці "Трецяя ракета" (1962), "Дажыць да світання", былі экранізаваныя.

З 1972 па 1978 год Васіль Быкаў займаў пасаду сакратара Гарадзенскага аддзяленьня Саюзу пісьменьнікаў БССР.

Вядомасьць Васілю Быкаву прынесла аповесьць "Трэцяя ракета", напісаная ў 1962 годзе. У 1960-е ён публікуе аповесьці "Альпійская балада", "Мёртвым не баліць", у 1970-я - "Сотнікаў", "Абеліск", "Дажыць да світання", "Пайсці і не вярнуцца".

Гэтыя творы паставілі Васіля Быкава ў адзін шэраг з выдатнымі майстрамі ваеннай прозы XX стагодзьдзя.

Сярэдзіна 90-х нібыта вярнула пісьменьніка ў савецкія часы. Шырокая траўля ў дзяржаўнай прэсе, забарона, цэнзура на выхад яго новых твораў, пагаршэньне на гэтай глебе здароўя вымусілі Быкава пакінуць Радзіму. Некалькі гадоў ён жыў за мяжой.

Падрыхтаванае на падставе: Васіль Быкаў, Поўны збор твораў у чатырнаццаці тамах. Том 1, Аповесьці, апавяданьні, прыпавесьці. — Мінск: Саюз беларускіх пісьменнікаў, 2005. — 656 с.

ISBN 5-9691-0073-0

Гэта першы ў гісторыі Поўны збор твораў Народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава (1924-2003). Падчас укладання тамоў найперш улічвалася думка самога аўтара, які пасьпеў спланаваць прасьпект выданьня свайго 8-томнага Збору твораў. У першы том поўнага збору твораў увайшлі аповесьці "Афганец" (1998 г.), "Ваўчыная яма" (1998 г.), а таксама апавяданньні і прыпавесьці, напісаныя ў 90-х і 2000-х гадах.